АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1983

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# НАРОДНЫ ТЭАТР



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1983

ББК 82.3Бел-6
Н28

Рэдакцыйная калегія:

**В. К. Бандарчык, М. Я. Грынблат,**
**К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік**

Укладанне, уступны артыкул і каментарыі

**М. А. Каладзінскага**

Рэдактары тома:

**А. С. Фядосік, А. В. Сабалеўскі**

Рэцэнзенты:

**Г. І. Барышаў, І. К. Цішчанка**

Народны тэатр /[Уклад., уступ. артыкул і камент.
Н28 М. А. Каладзінскага; Рэдкал. В. К. Бандарчык і інш.; Рэд. тома А. С. Фядосік, А. В. Сабалеўскі].— Мн.: Навука і тэхніка, 1983.— (Беларус. нар. творчасць / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).
У пер.: 2 р. 70 к.

У том увайшлі творы беларускага фальклору, якія складаюць аснову рэпертуару нацыянальнага народнага тэатра ад яго вытокаў да нашых дзён: карагоды, іграныя песні і танцы, найбольш характэрныя драматургічныя эпізоды каляндарных і сямейна-бытавых абрадаў. Асобныя раздзелы прысвечаны пазаабрадавым тэатралізаваным гульням, беларускаму лялькаваму тэатру — батлейцы, народнай драме.

Гэты том — першая поўная публікацыя тэкстаў прадстаўленняў народнага тэатра і навуковага каментарыя да іх.

Разлічана на дзеячаў прафесійнага і самадзейнага тэатра, фалькларыстаў, а таксама на ўсіх, хто цікавіцца беларускай народнай творчасцю.

Н $\frac{4702120100—001}{М316—83}$ 106—82

ББК 82.3Бел-6
БелФ

# БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ТЭАТР

Народная тэатральная творчасць — яркая і самабытная з'ява ў сістэме традыцыйнай мастацкай культуры беларусаў. Непасрэдна створаны самім народам, гэты тэатр грунтуецца на шырокай фальклорна-драматургічнай аснове. Ён не ведаў спецыяльных сцэнічных падмосткаў і дэкарацый, прадстаўленні вызначаліся адкрытай умоўнасцю, даходлівасцю, непасрэднасцю кантакту з гледачом, імправізацыйнасцю, падкрэсленасцю знешняй трансфармацыі, пластыкай і г. д. Гэтыя сродкі былі пачэрпнуты не толькі ў спецыфічнай тэатральнай сферы, але і ў песенным і харэаграфічным народным мастацтве.

У самых розных формах народных прадстаўленняў вызначальным з'яўляецца прынцып пераўвасаблення чалавека ў іншую істоту. У дастаткова развітых формах тэатралізацыі (гульнёва-абрадавых калядных прадстаўленнях, пазаабрадавых гульнях) такое пераўвасабленне часта выклікае з'яўленне масак, грыму, пераапрананне і мае выразную эстэтычную функцыю.

Для народнага тэатра характэрныя пераемнасць і ўстойлівасць мастацкіх традыцый, якія складваліся ў працэсе гістарычнага развіцця эстэтычных прынцыпаў, творчых навыкаў і прыёмаў выканання і перадаваліся з пакалення ў пакаленне.

Народны тэатр даваў магчымасць ярка выявіцца таленту шырокіх народных мас, з'яўляўся праваднікам і выразнікам іх сацыяльных інтарэсаў і поглядаў. Ён стаў гістарычным папярэднікам і перадумовай прафесійнага нацыянальнага тэатральнага мастацтва.

Вывучэнне беларускага народнага тэатра пачынаецца ў XIX ст. і непасрэдна звязана з дзейнасцю першых збіральнікаў нацыянальнай вуснапаэтычнай творчасці. Менавіта ў гэты час і асабліва ў другой палавіне стагоддзя, калі збіральніцтва становіцца актыўным і сістэматычным, з'яўляецца найбольшая колькасць запісаў разнастайнага фальклорна-тэатральнага рэпертуару. Аднак усе гэтыя матэрыялы і ў першую чаргу тыя, што адносяцца да элементарных форм народнага тэатральнага мастацтва, у дарэвалюцыйнай фалькларыстыцы і этнаграфіі яшчэ не знаходзяць сур'ёзнага навуковага асэнсавання. Часцей за ўсё яны падаюцца ў апісанні таго ці іншага абраду і ніяк не вылучаюцца і не акцэнтуюцца збіральнікамі.

Найбольш раннія па часу матэрыялы адносяцца да дзейнасці скамарохаў, што з'явіліся на землях усходніх славян яшчэ ў эпоху язычніцтва.

Першае ўпамінанне аб гэтых старажытных акцёрах на тэрыторыі сучаснай Беларусі датуецца XII ст. і належыць Кірылу Тураўскаму, які ў адной са сваіх пропаведзей выступіў не толькі супраць тых, што «басни бают и в гусли гудут», але ў поўнай адпаведнасці з пазіцыяй большасці тагачасных прапаведнікаў хрысціянства ўвогуле асуджаў народныя гульнёвыя звычаі [1]. Пазней , у XVI і XVII стст., з'яўляюцца іншыя матэрыялы аб скамарохах. Усё часцей слова «скамарох» сустракаецца цяпер у розных інвентарных, пісцовых кнігах, статыстычных матэрыялах, гарадскіх магістрацкіх судовых справах і г. д. Пінскі стараста Станіслаў Хвальчэўскі, які ў 1552—1555 гг. рабіў вопіс Пінскага і Клецкага княстваў, занатоўвае разам з іншымі жыхарамі Пінска і Зеньку Скамароха [2]. У дакументах аналагічнага плана падаюцца звесткі аб скамарохах Магілёва [3], Віцебска [4], Смаргоні [5] і іншых гарадоў і мястэчак. Неблагую інфармацыю аб распаўсюджанасці скамароства даюць тапанімічныя матэрыялы, сярод якіх сустракаюцца назвы паселішчаў, асобных вуліц і нават могілак, захаваўшых своеасаблівую памяць аб колішніх акцёрах-пацешніках [6]. Асаблівую цікавасць уяўляе юрыдычна-прававы дакумент «Літоўская метрыка» XVI ст., дзе не толькі называюцца розныя скамарошыя прафесіі, але і вызначаецца даволі высокі ў параўнанні з іншымі групамі гарадскіх жыхароў падатак — «по осми грошей», які спаганяўся з «медведников, дудников, скрипков» [7]. З гэтага часу скамарохі ўсё часцей трапляюць у дакументы падобнага роду. Так, у падатковым рэестры на 1648 г. Слуцка (тады

---

[1] Калайдович К. Памятники российской словесности XII в.— М., 1821, с. 94—95.

[2] Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная пинским старостою Станиславом Хвальчевским в 1552—1555 гг.— Вильно, 1884, с. 611.

[3] Бібліятэка Віленскага універсітэта. Аддзел рукапісаў. Архіў 4914 за 1604 г., с. 277; Акты, издаваемые Виленскою комиссией для разбора древних актов, т. 39. Акты Могилевского магистрата XVI в. (1578—1580).— Вильно, 1915, с. 164; Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, вып. 30.— Витебск, 1903, с. 43—44.

[4] Сапунов А. Витебская старина.—Витебск, 1883, с. 361; Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губернии Витебской и Могилевской, вып. 21. — Витебск, 1891, с. 471.

[5] Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII—XVIII вв.: Владение Сморгонь.— Мн., 1977, с. 36, 65.

[6] Список населенных мест БССР.— Мн., 1924; Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии.— Мн., 1974, с. 346; Археологический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси.— Вильна, 1864, т. 1, с. 244; 1904, т. 14, с. 12; Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX археологического съезда.— Вильна, 1893, с. 192.

[7] Русская историческая библиотека, т. 30: Литовская метрика.— Юрьев, 1914, с. 831—834 .

прыватнаўласніцкага горада) сярод іншых прафесій значыцца і 14 скамарохаў і дудароў [8].

Нашы ўяўленні аб скамарохах дапаўняюць таксама некаторыя археалагічныя і іканаграфічныя матэрыялы. Сярод знаходак археолагаў пэўную цікавасць мае вухачыстка з Навагрудка, на якой ёсць выява музыкі са шчыпковым струнным інструментам, і шахматная фігурка барабаншчыка з бубнам з Ваўкавыска, якія датуюцца XII ст.[9] З графічных старажытных мініяцюр уяўляе цікавасць малюнак у Радзівілаўскім летапісу, дзе, на думку некаторых даследчыкаў, была зроблена спроба своеасаблівай ілюстрацыі сцэны спакушэння Ісакія бесамі, якую паказвалі скамарохі [10].

Сюды ж варта далучыць і асобныя публікацыі, дзе падаваліся звесткі аб дзейнасці школы скамарохаў-фокуснікаў у м. Семяжове былой Мінскай губерні [11], слыннай «Смаргонскай акадэміі» [12], аб выступленні ў г. Кобрыне трупы скамарохаў пад кіраўніцтвам беларускага фокусніка Даўгялы, аб якім упамінаў П. Шпілеўскі [13].

На вялікі жаль, усе ўпамянутыя вышэй матэрыялы паведамляюць галоўным чынам аб факце існавання скамарохаў на Беларусі і нічога не гавораць пра характар іх творчасці, пра рэпертуар папулярных у народзе акцёраў.

Аб разнастайнасці народных абрадаў і свят, у сістэме якіх атрымалі развіццё элементы тэатра і драмы, можна меркаваць, перагортваючы ледзь не кожны зборнік па фальклору. З дарэвалюцыйных прац тут найперш трэба назваць фундаментальныя зборы Е. Раманава, П. Шэйна, М. Федароўскага і іншых даследчыкаў, у якіх змешчаны самы разнастайны па жанрах рэпертуар народнага тэатра. У працах многіх фальклардыстаў знаходзім запісы калядных, валачобных песень, апісанні гульнёвых карагодаў і танцаў, вясельных народных абрадаў і г. д. Што датычыць пазаабрадавай творчасці, то тут неабходна адзначыць цікавую публікацыю У. М. Дабравольскага «Смоленский этнографический сборник» (СПб, 1903, ч. 4), дзе падаюцца апісанні шматлікіх гульняў беларусаў са Смаленшчыны, а таксама запісы дзіцячых гульняў у «Жывой старыне» (СПб, 1899, вып. 3 і 4) П. Дзямідовіча. Наогул жа абрадава-гульнёвы рэпертуар грунтоўна прадстаўлен у такіх тамах выдання «Беларуская народная творчасць», як «Зімовыя песні», «Валачобныя песні», «Вяселле» і інш., і таму агляд літаратуры па гэтай тэме народнай творчасці ўжо дастаткова шырока ўведзены ў навуковы ўжытак і не патрабуе дадатковай сістэматызацыі.

---

[8] Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в 16—18 вв.— Мн., 1975, с. 61.
[9] История Белорусской ССР.— Мн., 1977, с. 38.
[10] Левашева О., Келдыш Ю., Кандинский А. История русской музыки.— М., 1972, т. 1, с. 18.
[11] Живописная Россия.— СПб, 1905, т. 9, с. 530.
[12] Там жа.— СПб, 1882, т. 3, ч. 1—2, с. 172.
[13] Шпилевский П. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю.— Современник, т. 40.— СПб, 1853, с. 11.

З найбольш развітых форм драматургіі народнага тэатра ў дарэвалюцыйны перыяд запісваліся тэксты батлейкавых прадстаўленняў, народнай драмы, інтэрмедый. Самымі багатымі публікацыямі інтэрмедый школьнай драмы з'яўляюцца працы А. Брукнера і Я. Карскага[14], асобныя творы гэтага жанру змясціў В. М. Перац[15]. Найбольш грунтоўнае даследаванне інтэрмедый у наш час належыць А. І. Мальдзісу[16].

Тэксты народнай драмы «Цар Максімільян», якая мела на Беларусі асабліва вялікае пашырэнне, запісалі Е. Раманаў[17] і А. Грузінскі[18]. Варыянт, запісаны Е. Раманавым у Беліцы ля Гомеля, з'яўляецца адным з самых поўных і ў мастацкіх адносінах найбольш дасканалым. Надзвычай цікавы варыянт драмы запісаў у 1889 г. М. К. Васільеў ад беларуса-адыходніка Піліпа Церашкова на Лебядзінскім цукровым заводзе на Кіеўшчыне[19]. Акрамя тэксту збіральнік дае і дастаткова грунтоўнае апісанне самой пастаноўкі. Некалькі варыянтаў гэтага твора занатавалі ў пасляваенны час М. Я. Грынблат і К. П. Кабашнікаў на Магілёўшчыне і Случчыне[20].

Як у плане збіральніцтва, так і гістарычнага асвятлення найбольшая ўвага звернута на батлейкавы тэатр. Самымі багатымі зборамі тэкстаў, запісаных у асноўным на Міншчыне, Магілёўшчыне і Віцебшчыне ў дарэвалюцыйны час, несумненна, з'явіліся публікацыі Е. Р. Раманава[21] і П. В. Шэйна[22]. Сярод іх асаблівай паўнатой вызначаецца тэкст батлейкавага прадстаўлення, запісаны Е. Р. Раманавым у г. Суражы былой Віцебскай губерні. Адметнымі рысамі вызначаюцца тэксты з в. Быч Быхаўскага раёна, а таксама запісаныя М. Федароўскім ля Ваўкавыска і тэкст з Навагрудчыны, які выконваўся ў свой час батлейшчыкам Мацеем Барашкам і яго сынам Іларыёнам. Найбольш цікавым у плане пазнейшага ўплыву прафесійнай літаратуры на батлейку з'яўляецца тэкст, запісаны С. Баркоўскім у г. Слуцку ў 1957 г.

У савецкі час працягваецца вывучэнне народнага тэатра. Асноўныя моманты станаўлення і развіцця разнастайных форм і відаў народнага тэатра асвятляюцца ў працы У. І. Няфёда «Беларускі тэатр» (Мн., 1959). Як асобны від народнага тэатра даследуецца ў манаграфіі Г. І. Барышава

---

14 Brückner A. Polnisch-russische Intermedien des XVII Jahrhunderts. — Archiv für slavische philologie.— Berlin, 1891; Карский Е. Ф. Белорусы, т. 3. — Пг., 1921.

15 Перетц В. Н. К истории польского и русского народного театра.— Известия ОРЯС, т. 10, кн. 1. СПб, 1905.

16 Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый.— Мн., 1980.

17 Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 5.— Витебск, 1891, с. 273—283.

18 Этнографическое обозрение, № 3, кн. 38.— М., 1898, с. 161—168.

19 Там жа, № 1, кн. 36, с. 83—100.

20 Белорусское искусство.— Мн., 1957, с. 102—106; Беларускі фальклор.— Мн., 1977, с. 672—676.

21 Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8.— Вильна, 1912.

22 Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. 3.— СПб, 1902.

і А. К. Саннікава батлейка [23]. Аўтары асвятляюць гісторыю, разглядаюць драматургію і асноўныя прынцыпы батлейкавага тэатра. Неабходна назваць таксама і «Хрэстаматыю па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі» (Мн., 1975), выдадзеную А. В. Сабалеўскім, у першым томе якой падаюцца тэксты батлейкі, народнай драмы, інтэрмедый і рэпертуар больш ранніх форм народнага тэатра.

З літаратуразнаўчых прац вылучаецца манаграфія «Беларуская камедыя» Я. К. Усікава, дзе на матэрыяле драматургіі народнага тэатра праследжваюцца шляхі зараджэння і развіцця нацыянальнай камедыяграфіі.

Сучасныя фалькларысты акрамя публікацый тэкстаў па народнаму тэатру ў розных зборніках і хрэстаматыях распрацоўваюць і асобныя праблемы народнай тэатральнай творчасці. Найбольш значныя навуковыя даследаванні ў гэтым плане належаць А. С. Фядосіку, К. П. Кабашнікаву і М. Я. Грынблату [24].

Аднак неабходна прызнаць, што і сёння народнае тэатральнае мастацтва беларусаў застаецца маладаследаванай з'явай, якая патрабуе далейшага вывучэння яго традыцый, драматургічнай спадчыны і эстэтыкі.

* * *

Вытокі беларускага народнага тэатральнага мастацтва ідуць з глыбокай старажытнасці і генетычна звязаны з першымі спробамі чалавека ўвасобіцца ў іншую істоту. Першаасновай узнікнення пачатковых элементаў тэатра з'явілася працоўная дзейнасць чалавека.

Мастацтва першабытных людзей не толькі захоўвала пэўны час самую цесную сувязь з паўсядзённай працай, але і было зліта з ёю. Вылучэнне і ператварэнне яго ў асобную галіну чалавечай дзейнасці адбылося не адразу. Толькі «ў працэсе гістарычнага развіцця ў абрадавых дзействах на першы план пачынае выступаць ужо не магічная, а эстэтычная функцыя» [25]. Такая змена абрадавай функцыі эстэтычнай у рэшце рэшт прывяла да зараджэння розных форм уласна тэатральнага народнага мастацтва, хоць шлях да яго ляжаў праз многія этапы развіцця чалавечага грамадства і істотныя змены ў светапоглядзе чалавека, яго светаўспрыманні.

На думку вядомага савецкага даледчыка народнага тэатра В. Гусева, «увесь драматычны род генетычна звязаны са старажытным сінкрэтычным дзействам, у якім узнаўляліся працоўныя працэсы (шырока вядомыя паляўнічыя і земляробчыя гульні-танцы)» [26]. Да самога ж драматычнага роду

[23] Барышаў Г. І., Саннікаў А. К. Беларускі народны тэатр батлейка.— Мн., 1962.

[24] Фядосік А. С. Трапным народным словам.— Мн., 1971; яго ж. Праблемы беларускай народнай сатыры.— Мн., 1978; Кабашнікаў К. П. Ад традыцыйнага фальклору да рэвалюцыйнай паэзіі.— Мн., 1969; Беларуская народная вусна-паэтычная творчасць.— Мн., 1967.

[25] Савушкина Н. И. Русский народный театр.— М., 1976, с. 4.

[26] Гусев В. Е. Эстетика фольклора.— Л., 1967, с. 152.

адносяцца абрадавыя ігрышчы, народныя драматычныя гульні і ўласна народная драма, якая складала рэпертуар розных відаў тэатра. Зразумела, што з трох названых драматычных фальклорных жанраў гістарычна найбольш раннім было абрадавае ігрышча, якое з'яўлялася «сімвалічным узнаўленнем у рытмічна арганізаванай форме працэсаў з жыцця прыроды ці вытворчых працэсаў і важных момантаў у жыцці чалавека. Выконваючы магічную функцыю, гэтыя абрадавыя ігрышчы па сваёй прыродзе былі вобразным, аб'ектыўна-мастацкім дзеяннем, патэнцыяльна-эстэтычны змест якога хоць і не ўсведамляўся яго ўдзельнікамі, аднак аб'ектыўна рабіў эстэтычнае ўздзеянне на чалавека. У эпохі, калі абрадавае ігрышча страціла сваё магічнае прызначэнне, але захавалася ў народным побыце па традыцыі, гэты патэнцыяльна-эстэтычны змест выявіўся з усёй відавочнасцю і быў адной з прычын жывучасці абрадаў, першапачатковы сэнс якіх забываўся самім народам» [27].

Гульні і розныя абрадавыя дзействы былі магічнымі па характару і функцыі, што абумоўлівалася ўяўленнямі першабытнага чалавека аб уласным бяссіллі перад сіламі прыроды. З дапамогай своеасаблівых прыёмаў ён імкнуўся ўступіць у больш непасрэдны кантакт з прыродай, каб уздзейнічаць на яе і такім чынам прадухіліць яе стыхійныя праяўленні. Рэлігійныя ўяўленні першабытных людзей прывялі да анімізму (адухаўлення прыроды), на аснове якога пазней узнік «культ вамагільнага жыцця і ўшанавання нябожчыкаў, што выклікала з'яўленне пахавальных абрадаў» [28]. Культ жывёл і звязаныя з ім абрады ўшанавання таго ці іншага звера-татэма ўзніклі ў выніку перанясення на прыроду існаваўшых паміж членамі адной абшчыны або племені кроўных сувязей. Чалавек лічыў такога звера сваім апекуном і нават продкам і стараўся ўсяляк яго шанаваць.

У плямён, што жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі, татэмізм быў шырока распаўсюджаны. Так, «татэмам Елісеевіцкай і Юравіцкай мацярынскіх абшчын была рыба. Гэта пацвярджаюць малюнкі, выгравіраваныя на пласцінках з біўня маманта, фігуркі рыб, выразаныя з косці» [29]. Вялікае значэнне ў выбары татэма, г. зн. бога-звера, іграў фактар яго распаўсюджанасці на тэрыторыі той ці іншай абшчыны і значнасці яго як аб'екта здабычы. Вядома, напрыклад, што сярод плямён, якія пазней утварылі беларускую народнасць, быў шырока распаўсюджаны культ казы, мядзведзя і жорава.

Шматлікія старажытныя абрады, заснаваныя на міфалагічных уяўленнях чалавека, былі звязаны ў асноўным з земляробчым гадавым цыклам і спарадзілі традыцыю пераўвасаблення ў Русалку, Вясну, Мару, Ярылу, Шчодру і інш. І самі фігуры, і дзеянні, і гульні, што іх суправаджалі, мелі абрадава-магічную функцыю. На Беларусі вядомы дзве традыцыі іх увасаблення: мастацка-выяўленчая і тэатралізаваная. Да першай адносіцца

---

[27] Гусев В. Е. Эстетика фольклора, с. 153.
[28] Гісторыя Беларускай ССР.— Мн., 1971, т. 1, с. 24.
[29] Там жа.

звычай рабіць з саломы Купалу, якая ў некаторых месцах называлася Марай. Такую фігуру або кідалі ў купальскае вогнішча, або насаджвалі на вялікі кол, неслі да вады і тапілі. Рабілі таксама Русалку з саламянага куля і ўпрыгожвалі вянком з кветак. Дзяўчаты вадзілі яе ў карагодзе, а як сцямнее, праносілі вуліцай за вёску і кідалі ў жыта. Але часцей Русалкай абіралі дзяўчыну, упрыгожвалі яе стужкамі, на галаву ўскладалі вянок, вялі ў карагодзе за аколіцу і там пачыналі розныя гульні, у якіх іншы раз прымалі ўдзел і хлопцы. Звычай «провадаў русалкі», які адбываўся ў час «гранага» тыдня, асабліва быў пашыраны на Палессі, як, дарэчы, і звычай «вадзіць куста» [30].

На ролю Шчодры выбіралі прыгожую дзяўчыну, ускладвалі вянок з каляровай паперы, багата ўбіралі стужкамі. Шчодра ўзначальвала дзявочы гурт, які хадзіў вечарам пад Новы год па хатах («шчадраваць» — г. зн. спяваць велічальныя песні — «шчадроўкі»).

У беларускім фальклоры ёсць нямала песень, у тым ліку і пазаабрадавых, з выразнымі драматычнымі элементамі. У іх ёсць не толькі дыялог, але і ўсе «героі», пра якіх пяецца ў песнях, малююцца «жывымі». Такім, напрыклад, выступае ў спарышовых песнях, блізкіх па часу выканання да жніўных, Спарыш, якога, нібы чалавека, запрашаюць у хату, саджаюць на куце, частуюць. Асабліва цікавы варыянт такой песні, запісаны на Сенненшчыне і змешчаны ў адным з выпускаў «Беларускага зборніка» Е. Раманава [31]. Характэрна, што заключная частка песні зместам і функцыяй нагадвае адпаведныя мясціны з абходных калядак і валачобных песень.

Жывой істотай падаецца ў большасці беларускіх купальскіх песень Купала, Купалка. Яна або сядзіць на плоце, або ідзе «сялом», ці запрашае Іллю на ўласнае свята:

Хадзі, Іллішча, ка мне на йгрышча.
— Не маю часу, Купалачка,—
Гэту ночку мне не спаці,
Трэба жыта ўсяго пільнаваці,
Каб змяя заломаў не ламала.[32]

Словамі песні звяртаецца беларуская жняя да нівы ў час зажынак, развітваецца з ёй вечарам:

Ай, дабранач,
Шырокае поле,
Жыта ядраное,
Ай, дабранач.[33]

---

[30] «Куст» — гэта дзяўчына, багата ўбраная зеленню, якую вадзілі па вуліцы і спявалі прымеркаваныя да гэтага звычаю «куставыя» песні.
[31] Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8, с. 201.
[32] Гарэцкі М. Выпісы з беларускае літаратуры.— М.—Л., 1925, ч. 1—2, с. 38.
[33] Там жа, с. 41.

Нібыта жывая істота, гамоніць у дажынкавай песні са жняёй ніва, наказваючы заўтра «раненька, як сонца ўзыйдзець» прыходзіць да яе, просіць зжаць «жыта ядраное». У песнях жніўнага цыкла, магчыма, дайшлі да нас адны з найбольш старажытных элементаў драматызацыі, звязаныя з анімістычнымі ўяўленнямі чалавека.

Драматычныя элементы ў песнях выяўляюцца ў форме зваротаў, заклікаў, маналогаў, дыялогаў, большасць з якіх захавала сваё магічна-абрадавае прызначэнне. Беларускі фальклор надзвычай багаты на такія элементы.

Да тэатральных форм трэба аднесці і шырока вядомы ў мінулым звычай «гукаць вясну». Яе клікалі звычайна дзяўчаты з высокіх пагоркаў, разбіваліся на гурты і папераменна спявалі вяснянкі. Паміж гуртамі іншы раз адбываўся своеасаблівы дыялог: пачынаў адзін хор, затым словы той жа песні прадаўжаў гурт з другога канца вёскі і г. д.

— Вясна цёпла, на чэм прышла?
— На сошаццэ, на баронаццэ!
— Можа з зімнам, можа з холадам?
— Ні я з зімнам, ні я з снегам...[34]

У гадавым цыкле беларускіх народных абрадавых свят былі вядомы звычаі, дзе на першы план выступала дзейсная, блізкая да пантамімы форма гульні. Так, у час купалля вечарам да вогнішча падыходзіла самая старая ў вёсцы жанчына, каб украсці агонь. Моладзь пільнавала яе і, як толькі яна падыходзіла зусім блізка, праганяла «ведзьму», сцёбаючы палынам. У гэтым звычаі, несумненна, знайшлі адлюстраванне ўяўленні, звязаныя з нячыстай сілай і яе чарадзействам у купальскую ноч.

Элементы драматызацыі ў абрадах гадавога цыкла ўяўлялі той від драматычнай творчасці народа, які бытаваў у самых шырокіх масах. Тут таксама надзвычай цесна перапляталіся міфалагічныя ўяўленні людзей. Такія элементы драматызацыі з'яўляліся найбольш старажытнымі ў сістэме станаўлення і развіцця беларускага народнага тэатра.

Выключна важную ролю ў станаўленні ранніх форм беларускага народнага тэатра адыгралі карагоды. Як адзін з найбольш распаўсюджаных фальклорна-гульнёвых жанраў карагод у асноўных сваіх рысах сфарміраваўся ўжо ў старажытным народным ігрышчы. Працэс дыферэнцыяцыі сінкрэтычнага ігрышча вёў да вылучэння з адзінага комплексу асобных відаў народнага мастацтва. Характэрная асаблівасць карагода ў захаванні прынцыпу сінкрэтызму: у ім па-ранейшаму трывалай засталася сувязь паэзіі, харэаграфічнай і спеўнай культуры народа.

Пераважная большасць карагодаў дастасавана да вясенніх і летніх народных свят і абрадаў і выконвалася на вуліцы, у полі, ля рэчкі — адным словам, там, дзе адбывалася тое ці іншае свята. Маючы пэўную сувязь з абрадам, карагод тым не менш захаваў і адносную самастойнасць.

---

[34] Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej, t. 5. — Warszawa, 1958, c. 660.

З пункту гледжання кампазіцыі выразна вылучаюцца тры асноўныя тыпы карагода: кругавы (асноватворны элемент — кола), двухлінейны і адналінейны. Апошні не атрымаў пашырэння, што ў вядомай ступені абумоўлівалася яго формай. Адналінейны, ці ланцужковы, карагод, калі дзяўчаты, пабраўшыся за рукі, ішлі ўслед адна за адной, відаць, у асноўным выконваўся ў той час, калі яны выходзілі з вёскі за аколіцу, да месца свята. Такі карагод як бы папярэджваў аб пачатку свята, хоць не выключана, што яго маглі вадзіць і на самым свяце, асабліва ў час русальнага і «гранага» тыдня і на купалле. Адналінейны карагод застаўся цесна звязаным з песнямі апавядальнага характару, аказаўся найменш прыдатным для драматызацыі.

У двухлінейным карагодзе прынцып драматызацыі выявіўся найбольш ярка. Франтальная будова абумовіла характар руху ў гэтым карагодзе, асноўным элементам якога з'яўляўся сустрэчны падыход двух шарэнг яго ўдзельнікаў. Тут маглі быць і варыянты: сустрэчны рух мог лёгка замяняцца наступальным, калі адна шарэнга, выконваючы свой куплет песні, наступала на другую, а потым адыходзіла назад. Двухлінейная форма найлепшым чынам выяўляла канфліктны характар песеннага дыялога. З багатай і разнастайнай творчасці беларускага народа ў такім карагодзе найбольш шырока выкарыстоўваюцца дыялагічныя песні жартоўнага характару.

Песня ў мастацкай структуры двухлінейнага карагода заўсёды выступала як кампанент галоўны, вызначальны, увасабляючы канфлікт двух груп ці партый моладзі. Гэты прынцып паслядоўна вытрымліваўся ва ўсіх разнавіднасцях карагода, уключаючы і найбольш статычны яго варыянт. У ім таксама ўсе ўдзельнікі папярэдне падзяляліся на дзве партыі, і кожная спявала асобна, узяўшыся за рукі, стоячы адна насупраць другой [35]. Канфлікт у ім развіваўся выключна сродкамі спеўнага дыялога, а змест і характар дзеяння выяўляўся тут дзеясловамі, якія часта стаяць у канцы кожнага радка песні, і толькі ў фінале адна з груп завяршае карагод пэўным дзеяннем.

Гэту сваю функцыю песня выконвала і ў кругавым карагодзе, хоць яе роля тут была значна багацейшая і разнастайнейшая, чым у адна- і двухлінейных яго варыянтах. Асноўным кампазіцыйным элементам гэтага карагода было жывое кола яго ўдзельнікаў. Ён найбольш пашыраны і з'явіўся самым прыдатным для развіцця разнастайных элементаў тэатра. Фактычна карагоднае кола ўяўляла своеасаблівую універсальную сцэну народнага тэатра і мела надзвычай вялікі рэпертуар. На ёй на працягу цэлых стагоддзяў, нібы акты бясконца вялікай драмы, разыгрываліся сцэнкі, у якіх адлюстроўваліся розныя грані народнага жыцця: побыт і занятак людзей, іх пачуцці і густы, іх мастацтва.

---

[35] Живая старина, вып. 2.— СПб, 1901, с. 258.

Захоўваючы асноватворныя прынцыпы і форму, кругавы карагод атрымаў вялікае развіццё. І характэрна, што гэты працэс ішоў у напрамку паступовага развіцця сюжэтнай асновы, драматызацыі і пашырэння тэатральных ігравых элементаў. Менавіта ў кругавым карагодзе адбылося вылучэнне асобных выканаўцаў. Калі напачатку карагоднае кола было і калектыўным хорам, і калектыўнай дзеючай асобай, то са з'яўленнем індывідуальных выканаўцаў паміж імі ўзнікае дыялог, спачатку спеўны, а потым і драматычны. Пазней унутры кола пачалі іграць цэлыя сцэнкі. І яны ўласна ўжо нічым не адрозніваліся ад пазаабрадавых тэатралізаваных сцэн.

Калі ўлічваць асноўную тэндэнцыю развіцця кругавога карагода, то адной з першых разнавіднасцей яго трэба лічыць тую, дзе песня яшчэ выконвала галоўную функцыю. Такім карагодам быў шырокавядомы «Лянок». Дзявочая група спявала песню пра лён і адначасова рухамі як бы ўзнаўляла і перадавала ўвесь працэс яго вырошчвання і апрацоўкі. Пластычнае ўзнаўленне працоўных працэсаў, добра вядомых удзельнікам карагода, было ўмоўным. Рухі і жэсты толькі прыблізна перадавалі асобныя этапы працы, таму гэты прынцып узнаўлення рэальнага працэсу можна назваць іграваой імітацыяй. У сістэме мастацкай культуры народа ёй належыць выключная роля. Іграваая імітацыя фактычна з'яўлялася універсальным прыёмам, якім можна было перадаць і павадкі звера, і паводзіны паляўнічага, і характар любога працоўнага працэсу, прафесійнага занятку і г. д. Іншымі словамі, яна стала адным з самых характэрных мастацкаіграваых прыёмаў адлюстравання жыцця.

З'яўленне ў карагодным коле індывідуальнага выканаўцы (ці групы выканаўцаў) і абумоўлены гэтым пераход да дыялагічнай формы выклікалі пэўныя змены ў суадносінах мастацкіх кампанентаў самога карагода. Песня паступова адыходзіць на другі план і становіцца другараднай, службовай.

Сярод дайшоўшых да нас карагодаў ёсць і такія, дзе захаваліся рысы пераходу ад апавядальнай да дыялагічнай формы. У іх у цэнтры кола ўжо з'явіўся асобны выканаўца, але песня, што выконвае хор, яшчэ носіць выразна апавядальны характар. Да ліку такіх карагодаў можна аднесці «Луку», «Лунька», «Каралевіча» і інш.

Галоўнай тэндэнцыяй тэатралізацыі карагода, як ужо адзначалася, было развіццё сюжэта і станаўленне дыялагічнай формы. Тэатральнасць карагода выступала «ў пераўвасабленні асобных удзельнікаў гульні — у перамене голасу, у перайманні рухаў і хады асобы, якую «прадстаўлялі», у пераадзяванні, грыміраванні і г. д.» [36] Асабліва выразна акцёрскія здольнасці выяўляліся ў карагодах, якія «па цэльнасці і разгортванню сюжэта ўяўлялі сабой найпрасцейшую форму народнай драмы» [37]. Прыкладам можна лічыць карагодную гульню «Старыца», запісаную Е. Раманавым у канцы XIX ст. у Навабеліцы. Кампазіцыйна яна дзеліцца на дзве часткі.

[36] Грынблат М. Я. Народны тэатр.— У кн.: Беларуская народная вусна-паэтычная творчасць, с. 159.

[37] Там жа.

У першай Старыца скача ў карагодзе, радуючыся, што муж паехаў у Кіеў і яна зможа ўволю пагуляць і павесяліцца. Хор у песеннай форме ад яе імя перадае настрой гераіні, а сама яна ў канцы кожнага харавога маналога пытаецца ў кумы:

— Кума, кума, ці далёка мой Старац?
— А шчэ ў Кіеві!

Форма перамежавання спеваў, пытанняў Старыцы і адказаў кумы захоўваецца да з'яўлення Старца, пасля чаго гульня набывае ўсе прыкметы драматычнай сцэны. Хор тут ужо не пяе, сюжэт развіваецца далей выключна ў форме дыялога асноўных герояў.

Падобныя карагоды і карагодныя гульні выконваюцца і цяпер. «Напрыклад, жыхарамі вёскі Неглюбка Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці яшчэ нядаўна вясной выконвалася карагоднае шэсце «Старцы», удзельнікі якога апраналіся хто ў што і з песнямі хадзілі па вуліцы. У цэнтры гэтага даволі шматлікага натоўпу ішлі «старцы» з доўгімі барадамі з вяровак, лёну і г. д., з вялікімі кіямі ў руках» [38].

Непасрэдна да карагодаў прымыкаў цэлы шэраг танцаў. Аб іх часткова можна меркаваць па «Праграме-інструкцыі», складзенай і апублікаванай у 1925 г. Песеннай камісіяй Інбелкульта, у якой быў змешчаны даволі доўгі спіс: «Юрка», «Мяцеліца», «Бычок», «Барыня», «Качан», «Мельнік», «Мікіта», «Гусак», «Гневаш», «Таўкачыкі», «Паненка», «Трасуха», «Верабей», «Шавец», «Журавель», «Тацянка», «Шастак», «Кручок», «Цыганка», «Саколіца», «Пыха», «Зязюлька», «Падушачка», «Жучок», «Зайчык», «Чорт», «Пчолачка», «Яшчур», «Чумадра» і інш.[39] На жаль, апісанні пераважнай большасці танцаў гэтага, бясспрэчна, далёка не поўнага спісу да нас не дайшлі. Захаваліся апісанні толькі некаторых карагодных танцаў, сярод якіх можна назваць «Мяцеліцу», «Падушачку», «Халімона» і «Гневаша». Як і большасць танцаў гэтага плана, яны маюць пэўны сюжэт і з'яўляюцца фактычна танцамі-гульнямі, у якіх «удзельнікі карыстаюцца не толькі харэаграфічнымі, але і акцёрскімі сродкамі» [40]. Асабліва цікавыя ў гэтых адносінах гульнёвыя танцы «Халімон» і «Гневаш».

Мяркуючы па апісанню аднаго з карэспандэнтаў П. Шэйна на Мсціслаўшчыне, «Халімон» не столькі ўласна танец, колькі карагодная гульня. У сярэдзіне традыцыйнага для кругавога карагода кола хадзіла дзяўчына, выбраная за Халімона. Хор словамі песні пытаўся ў яго, куды ён ідзе, і прапаноўваў «на выбор» спачатку шапку, пасля каня, шаблю і дзяўчыну. Дзяўчына, што выконвала ролю Халімона, надзявала шапку, садзілася на каня (кій), брала ў рукі шаблю (лучыну), выбірала дзяўчыну (каго-небудзь са сваіх сяброўак) і пачынала з ёй танцаваць [41]. Такім чынам, мы

[38] Чурко Ю. Белорусский народный танец.— Мн., 1972, с. 27.
[39] Наш край (Минск), 1925, № 1, с. 46.
[40] Искусство Советской Белоруссии.— М.— Л., 1940, с. 132.
[41] Шейн П. В. Материалы..., т. 3, с. 116—117.

бачым тут своеасаблівае спалучэнне песні з пантамімай, прычым калі сам сюжэт гульні развіваўся ў даволі традыцыйным для карагода песенным, харавым варыянце, то вобраз Халімона раскрываўся пераважна рухамі, жэстамі, мімікай. Есць у гульні і элементы частковага пераапранання (шапка), а таксама тыповая для народнага тэатра ўмоўная бутафорыя (кій замест каня і лучына — шабля).

Уласцівае ў той ці іншай ступені ўсім карагодным гульням-танцам спалучэнне песні, элементаў танца і акцёрскіх выяўленчых сродкаў у «Гнесвашы» мае сваю асаблівасць. Сюжэтная і тэмпа-рытмічная функцыі песні тут захоўваюцца, але яны ўжо не з'яўляюцца вызначальнымі. Існуе тут і даволі багаты харэаграфічны малюнак, а таксама шматлікія элементы акцёрскай ігры. Так, жанчына пры дапамозе жэстаў і асабліва мімікі перадавала сум («робіць выгляд, што яна нібы аб чымсьці сумуе»), роспач («як быццам плача»), гнеў (яна часта адварочваецца ад мужчыны, махае на яго хусткай, падкрэсліваючы, «што сярдуе»). Затым ролі мяняюцца, і ўжо мужчына становіцца «загневаным», а жанчына ходзіць за ім, нібыта перапрашае.

У надзвычай багатым гадавым абрадава-святочным календары беларусаў ёсць шмат момантаў, у якіх атрымалі развіццё многія элементы драмы і тэатра. Аб некаторых з іх мы ўжо гаварылі ўпачатку. Найбольш яскрава яны выявіліся на купалле і каляды — у святы, звязаныя з летнім і зімовым сонцазваротам.

Купалле — адно з самых старажытных і паэтычных народных беларускіх свят, у якім сама атмасфера яго правядзення мела шмат агульнага з тэатралізацыяй. Гэта і яркі па дэкаратыўнасці натуральны фон па-летняму буйна расквітнеўшай зямлі, і абрадавыя вогнішчы, раскладзеныя часта на беразе ракі ці возера, і кола, уздзетае на доўгі шост і запаленае ў гонар самога сонца, і шмат што іншае. Выбіраўся з маладых хлопцаў і распарадчык абраду, завадатар «купальскіх гульняў і ўсяго купальскага рэпертуару» [42], які меў калісьці паэтычную назву Купаліш.

Красамоўным пацвярджэннем яркай тэатральнасці купалля з'явілася яго святкаванне ў Вільні ў 1912 г., апісанне якога зрабіў Янка Купала [43]. Асноўным яго арганізатарам быў калектыў Беларускага музычна-драматычнага гуртка, які меў ужо пэўны вопыт тэатралізацыі гэтага абраду. На маляўнічай Віліі, якая станавілася своеасаблівай сцэнічнай пляцоўкай, а яе берагі — месцам для шматлікіх гледачоў, купалле ператваралася ва ўрачыстае відовішча для ўсёй Вільні, яркае тэатралізаванае дзейства.

Самае ж тэатралізаванае свята з усяго каляндарнага цыкла — каляды. Фактычна гэта быў сапраўдны карнавал, дзе шырока выяўляліся народная імправізацыя і выдумка. Багацце тэатральнай народнай творчасці тут знай-

---

42 Ліс А. Купальскія песні.— Мн., 1974, с. 68.
43 Наша ніва, 1912, 28 чэрв.

шло адлюстраванне ў разнастайных формах і відах. На каляды даваў свае прадстаўленні беларускі лялькавы тэатр — батлейка, хадзілі «звездары», вадзілі «казу», «мядзведзя», «каня», «жорава», рабілі свае традыцыйныя абходы калядоўшчыкі і г. д. Амаль штодзень на працягу двух тыдняў моладзь збіралася на «ігрышчы», дзе акрамя песень і танцаў наладжвала розныя гульні.

Адкрывалі гэты своеасаблівы тэатралізаваны карнавал звычайна калядоўшчыкі, якія абходзілі вечарам аднавяскоўцаў і спявалі пад вокнамі хат калядкі — велічальна-віншавальныя песні, адрасаваныя гаспадару дома, гаспадыні, сыну, дачцы.

Каляднікі заўсёды імкнуліся тэатралізаваць сваё шэсце. Яны «загадзя дамаўляліся, хто кім будзе, потым збіраліся ў адной хаце і прыбіраліся. Абавязковыя ўдзельнікі шэсця (а іх было каля 15—20 чалавек) прадстаўлялі цара, царыцу, іх служак (4—5 чалавек), каваля, смерць, чорта, шафёра, барабаншчыка, музыку, лісу, мядзведзя. Касцюмы ўдзельнікаў былі традыцыйныя. Цар — з каронай на галаве, у стракатым халаце з шырокім аднатонным поясам, на які прышпільвалася вялікая бліскучая брошка. Побач з ім царыца ў «шубейцы», аздобленай футрай, у квяцістай сукенцы, каляровых рукавіцах і боцікаx. За імі слугі ў доўгіх белых кашулях, падпяразаных яркімі паясамі, неслі вяртэп, а потым рухаліся астатнія: «смерць» у белым адзенні з шырокімі рукавамі, з касой за плячыма, чорнабароды «каваль» у цёмнай куртцы, шырокіх цёмных штанах, цёмнашэрым фартуху, чорнай шапцы, з малатком і сякеркай у руках, шафёр в маленькім чорцікам у руцэ, барабаншчык з барабанам, музыка ў вышыванай кашулі, падпяразанай поясам з мясцовым арнаментам, «мядзведзь» у масцы, белым кажуху навыварат, з кіем і шклянкай у лапах, «ліса» ў масцы, кашулі з палоскамі ў тры рады, таксама з кіем» [44].

Характэрная асаблівасць каляднага пераапранання ў розных жывёл — выкарыстанне асобных дэталей касцюміроўкі і маскіроўкі. Напрыклад, галаву «казы» рабілі, выкарыстоўваючы розныя матэрыялы для яе вушэй, рагоў і г. д. Ужываліся салома, лён, звычайныя кіі і нават сталовыя лыжкі [45], словам, тое, што было заўсёды пад рукамі ў селяніна і з'яўлялася, па яго разуменню, прыдатным для гэтай мэты.

Трэба адзначыць, што ў паўднёвай частцы Беларусі, у прыватнасці на Палессі, дзе пераапрананне на каляды мела асаблівае пашырэнне, касцюміроўка была больш дасканалай. Галаву «казы» тут часта рабілі з дрэва, спецыяльна абклейвалі, прымацоўвалі сапраўдныя рогі, прывешвалі бараду [46]. Драўляную галаву насаджвалі на палку, якую прывязвалі да канца павернутай выгнутым бокам уніз дугі. Звычайна ніжняя чэлюсць такой «казы» была рухомай — пераапрануты ў вывернуты кажух хлопец пры

---

[44] Беларускі фальклор у сучасных запісах.— Мн., 1973, с. 54.
[45] Moszyński K. Polesie Wschodnie. — Warszawa, 1928, c. 239.
[46] Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8, с. 107.

дапамозе шнурка, прапушчанага праз верхнюю частку галавы, нацягваючы і адпускаючы яго, нібыта адкрываў і закрываў ёй рот.

Аналагічным быў прынцып пераапранання ў мядзведзя, жорава, каня. Як і «казу», «мядзведзя» апраналі ў вывернуты кажух ці аж два кажухі, якія замацоўвалі (сшывалі або звязвалі) паміж сабой. На галаву надзявалі касматую шапку, твар маскіравалі — прымацоўвалі маску ці мазалі сажай. Іншы па фактуры і больш лёгкі матэрыял выкарыстоўвалі для пераапранання ў жорава, каня ці кабылу. Да замацаванай на доўгім кіі драўлянай галавы «жорава» прывязвалі якую-небудзь посцілку, сабраную ў складкі, а пад яе саджалі хлопца. Трымаючы рукой за кій, ён варочаў галаву «жорава».

У «жорава» не было свайго рэпертуару, таму яго часта вадзілі разам з «казой» або «мядзведзем». Ходзячы па хаце, ён «кіркаў» і стараўся дзеўбануць каго-небудзь з гледачоў.

У гурце павадыроў і пераапранутых, якія суправаджалі «казу», «каня», «мядзведзя» і «жорава», найбольш вядомымі на Беларусі ў XIX—XX стст. былі «дзед», «цыган», «маладзічка», «немец», «афіцэр», «барыня», у некаторых месцах яшчэ і «яўрэі» [47]. У склад абходнага каляднага тэатралізаванага гурта ўваходзілі таксама музыка, песельнікі і механоша.

Цікавае апісанне ўсіх атрыбутаў пераапранання ў дзеда, яго касцюміроўкі змясціў у свой час Е. Раманаў у адным са сваіх зборнікаў. Вось якім паўстае гэты персанаж па ўспамінах селяніна, які быў сведкай, а можа і ўдзельнікам калядных прадстаўленняў: «Тагды (як зробяць «дзеду» горб, запхнуўшы пад вывернуты кажух якую-небудзь «лайніну».—*М. К.*) возьмуць бярэсціну, прарэжуць вочы і рот, уваткнуць нос із бярэсціны і ніткамі завяжуць за вушамі. Яно і дзержыцца. Намажуць над ротам вусы сажай, над вачамі бровы. Бараду прывесюць с пянькі ці з лёну. Табакерку дадуць у рукі, ён і табаку нюхае ў той у нос, у берасцяный. І кій у руках дзержа» [48].

Даволі экзатычны выгляд мелі і калядныя «цыганы». Неабходна падкрэсліць, што традыцыя пераапранання ў цыганоў атрымала ў Беларусі вялікае пашырэнне. Акрамя калядных былі вясельныя, мікольскія і шчадроўскія «цыганы». Апошніх можна аднесці да разнавіднасці калядных, бо яны хадзілі па хатах вечарам напярэдадні Новага года. Гэты вечар звалі шчодрым, і адной з яго асаблівасцей было тое, што «шчадравалі» і пераапраналіся ў цыганоў звычайна не хлопцы, а дзяўчаты. Такі гурт складаўся з «цыгана», «старой цыганкі», якая часта трымала на руках «Сідорку» — скручаную з розных стужак ляльку, а таксама некалькі «маладых цыганак».

З іншых калядных персанажаў вылучаліся касцюміроўкай і грымам «немец» і «афіцэр». Першы прадстаўляў, відаць, нейкага іншаземца — у чорных штанах і камізэльцы, на галаве брыль, а вочы і рот абведзены са-

[47] Шейн П. В. Белорусские народные песни.— СПб, 1874, с. 451.
[48] Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8, с. 103—104.

жай. «Афіцэра» апраналі ў вайсковы мундзір, з паперы рабілі спецыяльны галаўны ўбор (ківер з султанам), а праз плячо павязвалі блакітную папяровую стужку. Хлопца ж, якога прыбіралі ў «маладзіцу», адзявалі ў адпаведную жаночую вопратку: вышытую сарочку, шнуроўку, андарак, а на шыю вешалі «маністы». Калі ўсё было гатова, гурт на чале з «дзедам» і «казой» пачынаў абход. Падышоўшы пад акно якой-небудзь хаты, прасілі дазволу «пусціць казу пагуляць». І калі атрымлівалі станоўчы адказ, заходзілі ў хату.

Цэнтральным момантам у прадстаўленні «казы» было выкананне песні «пясельнікамі». Разам з «музыкай» або «музыкамі» (звычайна скрыпачом, дударом і бубністам) яны стаялі ў парозе, а «каза» з «дзедам» выходзілі на сярэдзіну хаты. «Каза» танцавала, г. зн. проста пераступала з нагі на нагу ў рытме песні. Па заканчэнні песні «каза» кланялася гаспадарам хаты, клалася на падлогу або ўскоквала на заслон і пачынала выглядаць, дзе б чым пажывіцца. «Дзед» загадваў «маладзіцы» паскакаць, пасля чаго ўвесь гурт развітваўся і ішоў у другую хату.

У некаторых мясцовасцях пасля «казы» выступаў «важачы» з «мядзведзем», прычым апошняга апраналі не ў кажух, а закручвалі ў «гарохвіны» — сухія сцяблы гароху [49].

Аднымі з самых цікавых у час каляд былі прадстаўленні, звязаныя з абходам «кабылы». І галоўнае тут заключалася не ў ёй самой (яна якраз была найбольш пасіўнай), а ў яе павадыру — «цыгану». Вядомы два розныя варыянты сцэны «цыгана» з «канём» ці «кабылай». Калі ў адной мясцовасці «цыган» прадаваў кабылу, то ў другой — мяняў яе. Пасля невялікага танцавальнага ўступу (танца «барыні» і «афіцэра») ён звяртаўся да гаспадара хаты і гледачоў: «Ці няма памяняць на коней?» Пасля браўся расхвальваць кабылу: «Мая сівая як бяжыць, дык дрыжыць, а паваліцца — ляжыць, памажы падняць!.. Ну, дак будам мяняць! Я цыган багаты: у мяне ў адным кармані вош на аркані, а ў другім — блаха на цапе» [50]. «Складна» гаварыць стараўся ў гэтым гурце і механоша, які заканчваў прадстаўленне словамі, звернутымі да гаспадара хаты: «За ету чэсць давай, хазяін, карбаванцаў шэсць і тры кускі сала, штоб наша кабыла не прыстала!»

Элементы маскіроўкі і знешняга пераўвасаблення можна знайсці ледзь не ў кожным беларускім народным абрадзе, але амаль ніводзін не можа параўнацца ў гэтым плане з калядамі. Па ступені насычанасці драматычнымі і тэатральнымі элементамі іх можна параўнаць, бадай, толькі з вяселлем, якое ў сістэме сямейна-бытавых абрадаў беларусаў займае выключна важнае месца.

Беларускае вяселле, якое даследчыкі часта называюць своеасаблівай операй або народнай драмай, сапраўды мае шмат агульнага з драматургіч-

---

[49] Асіповіцкі раён Бабруйскай акругі, вып. 2.— Мн., 1928, с. 24.
[50] Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8, с. 111.

ным творам, прызначаным для сцэнічнага выканання. Вясельны сцэнарый у сваёй аснове меў не толькі аналагічныя драме завязку, кульмінацыю і развязку, але і ролі, выпрацаваныя народным звычаем і замацаваныя ў абрадзе, а таксама кампазіцыйна-структурную будову, дзе можна знайсці блізкі да драматычнага твора прынцып падзелу на асобныя сцэны, эпізоды і г. д. Усё гэта кампазіцыйна збліжае вясельны абрад з драмай, хоць і не робіць іх з'явамі ідэнтычнымі.

Галоўнага свата — кіраўніка-распарадчыка ўсяго абраду — у поўным сэнсе можна лічыць своеасаблівым рэжысёрам вясельнага дзейства. Дасканала, да драбніц ведаючы ўсю партытуру абраду і ўмела кіруючы яго ходам, сват клапаціўся перш за ўсё пра тое, каб захаваць паслядоўнасць і непарушнасць усіх яго частак, як таго патрабавала традыцыя. Разам з тым ён у любым з вясельных эпізодаў па свайму абавязку павінен быў падтрымліваць вясёлы жарт і быць гатовым да любой імправізацыі. Своеасаблівасць вясельнай абраднасці і выяўляецца якраз у двуадзінстве традыцыйнай формы і заўсёды рухомага, імправізацыйна ёмістага зместу.

Тэатралізавана-гульнёвы характар вяселля дастаткова выразна выяўляецца на ўсіх яго этапах, у тым ліку і ў час сватаўства. Характэрнай асаблівасцю гэтага, часта самага першага перыяду вясельнага абраду быў звычай сватоў выдаваць сябе за купцоў, паляўнічых ці выпадковых падарожных. Генетычна ён звязаны з ранейшымі формамі шлюбу і замацаваны народнай традыцыяй. Аднак у новай абрадавай форме, калі ўжо сцерліся сляды ранейшых шлюбных звычаяў, гэтыя эпізоды сталі цалкам іграванымі, тэатралізаванымі.

Сярод разнастайных форм вясельнай драматызацыі вылучаецца шэраг невялікіх сцэн, заснаваных на дыялогу. З'яўляючыся першасным структурным элементам драмы наогул, дыялагічная форма знаходзіць самае шырокае выкарыстанне ў сцэнах вяселля. Найбольш устойлівая сувязь яе з эпізодамі выкупу нявесты, месца за сталом для жаніха і г. д.

Неабходна адзначыць, што ў дайшоўшай да нас развітой форме народнага вяселля сам выкуп маладой, яе касы, месца для маладога і г. д. стаў чыста сімвалічным, што, безумоўна, патэнцыяльна павышала ступень тэатралізацыі гэтага абраду.

Да ліку іграных адносіцца і звычай «абароны варот», вядомы ў некаторых мясцовых вясельных традыцыях. Яго разыгрывалі ўдзельнікі вяселля ля хаты маладой. Дружына жаніха прасіла адчыніць вароты, аднак яе пускалі на двор толькі пасля выкупу. Дзверы таксама былі зачыненыя, а на парозе стаялі сваякі маладой і выдавалі сябе за шаўцоў, вельмі занятых працай. Ім таксама давалі сімвалічны выкуп.

Выразна гульнёвы характар меў таксама эпізод, звязаны з роллю другога (не галоўнага.— *М. К.*) свата з боку жаніха, якога ў некаторых мясцовасцях называлі «кіслым сватам». Як толькі маладых выпраўлялі да шлюбу, ён з'яўляўся ў хаце маладой, клаў на стол хлеб, пірагі, смажанага барана, ставіў гарэлку і, сеўшы за стол, выдаваў сябе за вартаўніка прывезеных ім

прыпасаў. «Кіслага свата» падпойвалі і хавалі яго дабро, якое ён павінен быў знайсці і выкупіць [51].

Цалкам тэатралізаванымі персанажамі на вяселлі былі «цыганы». Вясельныя госці, пераапранутыя цыганамі, хадзілі па хатах блізкіх сваякоў і выпрошвалі які-небудзь падарунак: сала, каўбасы і г. д. Лічылася нават асаблівым гонарам што-небудзь украсці: гусь, парася і інш. [52] Яны не толькі адпаведным чынам былі пераапрануты і загрыміраваны — сажай вымазвалі твар і падмалёўвалі бровы,— але стараліся таксама перадаць звычкі сапраўдных цыганоў, характар іх мовы і г. д. Па сутнасці вясельныя «цыганы» ў большасці выпадкаў завяршалі абрад, іх абходы былі прымеркаваны «пад заслону» вяселля і з'яўляліся, несумненна, адным з найбольш яркіх яго тэатралізаваных момантаў.

«Спачатку «цыганы» збіраюцца ў доме жаніха, каб ісці да бацькоў нявесты. «Цыганы» — гэта цэлае тэатралізаванае прадстаўленне, дзе ясна вызначана роля кожнай дзеючай асобы. Цыган — жанчына, якая апранаецца ў мужчынскае адзенне, прычым выбірае найбольш зношанае, абарванае, часта курыць; цыганка — мужчына ў жаночай спадніцы, хустцы, кофце. Усё на ім сядзіць нязграбна; у рухах, паходцы стараецца паходзіць на жанчыну, што выклікае выбух смеху.

Акрамя «цыганоў» заўсёды ёсць «доктар», які захутваецца ў прасцыню або надзявае белы халат. «Доктар» носіць з сабой сумку з чырвоным крыжам або чамаданчык, дзе захоўваецца звычайна лякарства ад усіх хвароб — гарэлка. Ён лечыць хворых, якіх становіцца падазрона многа, нават выпісвае рэцэпты найбольш настойлівым, дае карысныя парады.

Для аховы парадку ёсць «салдат», абавязкова ў ваеннай форме або хоць у салдацкіх штанах. Часта салдатам апранаецца жанчына, якая малюе сабе вусы. Абавязкова ў ліку цыган павінны быць фальшывыя жаніх і нявеста, прычым нявестай можа быць і мужчына, а жаніхом — жанчына» [53].

Як бачым, беларускі вясельны абрад, сінтэзуючы самыя разнастайныя абрадава-ігравыя элементы, формы і прынцыпы, выяўляў адну з характэрных асаблівасцей народнай ігравой культуры: імкненне да спалучэння генетычна і функцыянальна разнародных элементаў. Гэты ж прынцып у вышэйшай ступені ўласцівы народнаму тэатральнаму мастацтву наогул, дзе часта старажытныя элементы і формы суседнічаюць з гістарычна самымі познімі, элементарныя — з эстэтычна найбольш развітымі.

* * *

Драматычныя формы, узнікшыя ў стыхіі старажытных гульняў і абрадаў,— толькі першы этап развіцця народнага тэатральнага мастацтва беларусаў. Больш высокай ступенню з'яўляецца пазаабрадавая драматычная

---

[51] Гуковский К. Свадьба у литовских белорусов.— Ковно, 1894, с. 14.
[52] Довнар-Запольский М. Белорусское Полесье.—Киев, 1895, вып. 1, с. 139.
[53] Беларускі фальклор у сучасных запісах.— Мн., 1973, с. 134.

творчасць. На яе аснове ўзнікаюць найбольш развітыя формы тэатралізацыі, у якіх завяршаецца працэс станаўлення і фарміравання асноўных эстэтычных прынцыпаў народнага тэатра. Адсутнасць непасрэднай сувязі з каляндарнай і сямейнай абраднасцю і выразная эстэтычная функцыя знайшлі пэўнае адлюстраванне ў змесце і прызначэнні гэтых гульняў, у падкрэслена тэатральным характары іх выканання. Па цэльнасці і завершанасці драматургічнай асновы многія з іх набліжаюцца да малых форм народнай драмы.

Асобнае месца ў пазаабрадавай народнай тэатральнай творчасці належыць гульням, прамежкавым паміж абрадавымі формамі тэатралізацыі і ўласна народнай драмай. Некаторыя з іх захавалі яшчэ пэўную сувязь з карагодамі. У першую чаргу гэта датычыць такіх папулярных і вядомых на Беларусі гульняў, як «Жаніцьба Цярэшкі» і «Яшчур».

Як і большасць неабрадавых гульняў наогул, «Жаніцьба Цярэшкі» і «Яшчур» выконваліся пераважна на калядных народных ігрышчах. Найбольшае распаўсюджанне яны атрымалі ў паўночна-заходняй Беларусі, асабліва ў раёнах Паазер'я. «Жаніцьба Цярэшкі» мела сваіх традыцыйных распарадчыкаў: «бацьку» і «маці». Менавіта яны з'яўляюцца тут асноўнымі дзейнымі асобамі. Пасля таго як усе ўдзельнікі гульні збіраліся ў хаце ці карчме, «бацька» і «маці» абходзілі хлопцаў і дзяўчат і вялі з імі папярэднія перамовы. Мэта іх зводзілася ў асноўным да падбору пар.

«Жаніцьба Цярэшкі» кампазіцыйна не ўзнаўляе вясельны абрад, а з'яўляецца ігравой трансфармацыяй яго асобнага моманту — бацькоўскага благаславення маладых. Хлопца і дзяўчыну падводзілі да стала, і «бацька» віншаваў іх, жадаў шчасця ў сумесным жыцці, пасля чаго яны ішлі на сярэдзіну хаты і станавіліся адзін за другім. Такім жа чынам «жанілі» іншую пару, і тая станавілася поруч з першай. Урэшце ўтвараліся дзве шарэнгі гуляючых. Новы эпізод гэтай гульні таксама паўтараўся шматразова: хлопец з першай пары ўцякаў ад сваёй дзяўчыны, якая павінна была яго злавіць. Пасля тое ж рабілі другая, трэцяя і г. д. дзяўчына. Потым ролі мяняліся, і ўжо дзяўчаты ўцякалі, а хлопцы па чарзе лавілі іх. Заканчвалася гульня агульным пачастункам, танцамі і песнямі. Менавіта гэтыя эпізоды складалі дзейсную сюжэтную аснову «Жаніцьбы Цярэшкі» і прысутнічалі ў кожным яе варыянце. Тут мы знаходзім і сталы песенны рэпертуар, які быў спецыяльна прымеркаваны да таго ці іншага ігравога эпізоду вясельнага абраду.

У народных пазаабрадавых гульнях, у тым ліку і ў «Жаніцьбе Цярэшкі», шырока выкарыстоўваліся самыя разнастайныя мастацкія сродкі, формы, прыёмы. Дыялог, песня, танец тут знаходзіліся ў сінтэтычным адзінстве і былі цесна звязаны непарыўным дзеяннем. Спалучэнне разнастайных выяўленчых мастацкіх сродкаў характэрна для народнай тэатральнай творчасці наогул. Узаемадапаўненнем і ўзаемапранікненнем розных мастацкіх пачаткаў вызначаецца і гульня «Жаніцьба Цярэшкі». Яе сюжэт развіваўся дзейсна і адначасова ўключаў харавыя і сольныя спевы, якія выконваліся

звычайна з падтанцоўкай. Былі і невялікія дыялагічныя сцэнкі, але, мяркуючы па большасці запісаў гульні, яны нараджаліся імправізацыйна. Удзельнікі гульні павінны былі валодаць многімі здольнасцямі — умець танцаваць, спяваць, весці адпаведны дыялог, падтрымліваць жарт і імправізацыю партнёра і г. д. Іншымі словамі, кожны з іх у ходзе гульні станавіўся сінтэтычным народным акцёрам.

Ігрышча мела сваіх распарадчыкаў — «вадароў», г. зн. кіраўнікоў. Звычайна імі былі самыя кемлівыя, здольныя да розных гульняў хлопцы, якім падпарадкоўваліся ўсе ўдзельнікі, у тым ліку і музыка, спецыяльна запрошаны на ігрышча. Вечар пачынаўся танцам «Колавод» [54], удзельнікі якога рухаліся, утвараючы кола, падобнае да карагоднага. Характэрна, што многія танцы насілі падкрэслена іграны характар, суправаджаліся спяваннем адпаведных песень, пантамімай і г. д. Некаторыя з іх надзвычай блізкія да гульнёвых карагодаў: «Жораў», «Горліца», «Вербаванец», «Чурылла», «Чабарашка» і інш.

Мэтай гульняў, танцаў і карагодаў было пэўнае мастацкае задавальненне. Адной з такіх гульняў быў «Яшчур». Граніцы яго пашырэння прыблізна тыя, што і «Цярэшкі», а ў некаторых варыянтах «Яшчур» тэматычна і нават кампазіцыйна набліжаўся да апошняга.

Адначасова асобныя варыянты гэтай гульні блізкія да карагода, фактычна паўтараюць яго асноўныя прынцыпы. Вакол абранага за «яшчура» хлопца (часта на гэту ролю падбіралі жанатага мужчыну) дзяўчаты ўтваралі кола, хадзілі і спявалі песні. Яшчур, што сядзеў пасярод хаты на калодзе, ускокваў і зрываў з іх хусткі. Калі ўсе хусткі былі сабраны, дзявочае кола размыкалася і наступала на «яшчура». Яго пераносілі на лаву і прасілі вярнуць хусткі. Прычым яны часта атаясамліваліся з вянком, які дзяўчына звівала, начэй не спала. Дзеля гэтага яна «па край мора хадзіла, да красачкі збірала, да ў садочку саджала, прыгаршчамі палівала» [55].

Трэба адзначыць, што пераважная колькасць пазаабрадавых гульняў мае шмат агульных рыс, якія даюць падставу аднесці іх да даволі развітых форм народнай драмы і тэатра. Па сутнасці, гэта невялікія сцэны з акрэсленым сюжэтам, а іх ігравое ўвасабленне ўключае многія аспекты тэатралізацыі — спецыяльны касцюм, маску, грым і г. д.

Усе пазаабрадавыя гульні можна падзяліць на дзве групы. Да першай групы адносяцца такія, дзе дыялог пабудаваны ў форме пытанняў і адказаў, адсутнічаюць пераапрананне, грым і іншыя тэатральныя атрыбуты. Гэта большасць дзіцячых гульняў, а таксама тыя, што пэўны час мелі пашырэнне як сярод дарослых, так і дзяцей. Найбольш цікавыя гульні дадзенай групы — «Жораў», «Рэдзька», «Чорт», «Валадар» і інш.

Уласна гульні папярэднічала своеасаблівая працэдура размеркавання

---

[54] Шпилевский П. Белоруссия в характеристических описаниях и фантастических ее сказках.— Пантеон, т. 8, № 3.— СПб, 1853, с. 48—50.

[55] Довнар-Запольский М. Заметки по белорусской этнографии.— Живая старина, вып. 2. СПб, 1893, с. 287.

роляў, у якой прымалі ўдзел усе жадаючыя. Перад гульнёй у «Жорава» выбіралі «жорава» і «маці», а ўсе астатнія ўдзельнікі станавіліся «дзецьмі». Галоўнымі дзейнымі асобамі ў «Рэдзьцы» былі «дзед» і «баба». Менавіта паміж гэтымі персанажамі адбываліся асноўныя дыялогі, якія вялі і накіроўвалі гульню. Таму на гэтыя ролі падбіраліся тыя, хто добра ведаў яе, людзі, здольныя да імправізацыі, з пэўнымі артыстычнымі задаткамі. Немалаважным быў і знешні выгляд выканаўцаў. Напрыклад, за «чорта» заўсёды выбіралі высокага і знешне самага непрывабнага хлопца і імкнуліся паказаць яго як «смешную карыкатуру»[56]. Пэўная тэатралізацыя фігуры чорта дасягалася простымі сродкамі — замест люлькі яму давалі звычайны кій, камечылі капялюш і г. д.

Гульні другой групы, якія складаюць значны пласт у пазаабрадавай іравой творчасці беларусаў, звычайна вытрыманы ў духу вясёлага жарту, дасціпнай народнай выдумкі і гумару. Узнікшыя ў сялянскім асяроддзі, яны блізкія да жыцця, адлюстроўваюць вясковы побыт, заняткі простых людзей. У іх шырока выкарыстоўваюцца ўсе асноўныя прыёмы народнага тэатра, характэрная для яго ўмоўнасць, схільнасць да гратэску. Часта выкарыстоўваюцца грым, маскі, пераапрананні, што стварае пэўны тэатральны каларыт, дапамагае ўдзельнікам прыбягаць да знешняй трансфармацыі. Да такіх гульняў адносяцца «Лось», «Вепер», «Млын», «Рыбаловы», «Злыдні», «Старцы» і многія іншыя.

Шмат тэатралізаваных рытуалаў знаходзім таксама і ў дзіцячым фальклоры. Адной з крыніц папаўнення яго рэпертуару з'яўляліся гульні людзей сталага веку. Як і дарослыя, дзеці многія са сваіх гульняў выконвалі ў час доўгіх зімовых вечароў і ў іншую пару года — вясной ці летам — на полі, лузе, беразе рэчкі. Размяркоўвалі ролі па-рознаму, але часцей былі схільны саму гэту працэдуру ператварыць таксама ў гульню, звяртаючыся да лічылак або жараб'ёўкі. Найбольш папулярнымі сярод ролевых гульняў былі «Свінка», «Крумкач», «Вол», «Ліса ганяць», «Мыш і кот», «Кароль» і шмат якія іншыя.

Гульні — асобны пласт народнай драматычнай творчасці. Функцыянальна яны часцей за ўсё прыстасоўваліся да агульнанародных свят, ігрышч, з'яўляліся іх своеасаблівым мастацкім упрыгожаннем. Выкананне гульняў ішло ў агульным рэчышчы народнага тэатральнага мастацтва з выкарыстаннем яго выяўленчых сродкаў, прынцыпаў, асноўных прыёмаў.

* * *

Значны ўклад у развіццё народнага тэатральнага мастацтва ўнеслі скамарохі — старажытныя выканаўцы песень, танцаў, драматычных сцэнак. Яны былі вядомы яшчэ ў «перыяд дадзяржаўнага існавання» ўсходнесла-

---

[56] Шейн П. В. Материалы..., т. 1, ч. 1, с. 112.

вянскіх плямён[57] як удзельнікі народных свят і ігрышчаў. Беручы свае вытокі з часоў язычніцтва, скамарохі шырока выкарыстоўвалі ў сваёй творчасці здабыткі фальклору і народнай гульнёвай культуры. Аб гэтым сведчаць пісьмовыя крыніцы XI—XIII стст., дзе скамарохі ўпамінаюцца пераважна ў сувязі са святамі і народнымі ігрышчамі. І несумненна, што скамарохі былі, бадай, нязменнымі ўдзельнікамі, а магчыма, і асноўнымі кіраўнікамі і распарадчыкамі іх. Менавіта скамарохі — найбольш здольныя народныя танцоры, спевакі, музыкі — сваім удзелам у абрадах садзейнічалі развіццю іх гульнёвых элементаў. Яны з'явіліся, несумненна, пераймальнікамі і непасрэднымі прадаўжальнікамі ўжо існаваўшай народнай мастацкай традыцыі.

Беларускія скамарохі-музыкі, як і скамарохі іншых прафесій, мелі самую цесную сувязь з народнымі масамі. Таму іх мастацтва лёгка пераймалася сялянствам і працоўным гарадскім і местачковым людам, станавілася неад'емнай часткай іх музычнай культуры.

Па распаўсюджанасці і папулярнасці ў народзе скамарохам-музыкам не ўступалі і важакі дрэсіраваных мядзведзяў — скамарохі-мядзведнікі. Гэта прафесія мела глыбокія карэнні і сталую традыцыю на Беларусі. Жыхары лавілі медзведзяў і вучылі іх не толькі танцам і перадачы пры дапамозе рухаў чалавечых звычак, але і рознай гаспадарчай працы. Па сведчанню Ф. Вундэрэра, якое прыводзіць у кнізе «Скамарохі на Русі» А. С. Фамінцын, у Вялікім княстве Літоўскім вучылі мядзведзяў круціць жорны млыноў, лавіць рыбу і чэрпаць ваду[58].

Мядзведнікі разам з іншымі скамарохамі ўжо ў XVI ст. абкладаліся спецыяльным падаткам, што сведчыць аб іх значным распаўсюджанні. Вялікая папулярнасць прадстаўленняў «вучоных» мядзведзяў прывяла да стварэння спецыяльных школ дрэсіроўкі. На тэрыторыі Беларусі іх было некалькі. Несумненна, галоўнай з іх была школа ля Смаргоні, жартоўна празваная ў народзе «Смаргонскай акадэміяй».

«Вучні» «Смаргонскай акадэміі» пастаўляліся як на ўнутраны, так і на знешні рынак. Са сваімі важакамі яны хадзілі па Расіі, былі «частымі гасцямі на кірмашах Прусіі, Шлезвіга, Баварыі і Эльзаса»[59]. Траплялі яны і ў іншыя краіны Еўропы.

Рэпертуар скамароха-мядзведніка складаўся галоўным чынам з выступленняў самога мядзведзя. Пад кіраўніцтвам важака ён кланяўся публіцы, танцаваў, паказваў, як бабы хлеб месяць, як на паншчыну і з паншчыны ідуць, як мужчыны косяць, як малыя хлопцы гарох крадуць і г. д. Прапаноўваліся, вядома, гледачу і іншыя тэмы мядзведжай імітацыі, дзе высмейваліся чалавечыя заганы і звычкі. Часам скамарох-важак, які выконваў ролю своеасаблівага вядучага прадстаўлення, мог аб'явіць-загадаць: «А ну,

---

[57] Белкин А. Русские скоморохи.— М., 1975, с. 50.
[58] Фаминцын А. С. Скоморохи на Руси.— СПб, 1889, с. 119.
[59] Солодухо Я. Медвежья академия.— Советский цирк, 1959, № 3, с. 32.

Міхал, пакажы чэснай публіцы, як мужык Янка п'яны з кірмаша дамоў вяртаецца. Так, так, Міхал, весялей, весялей — мужык Янка добрых дзве кварты выпіў і таму ног пад сабой не адчувае. А ну яшчэ раз! А ва старане трымай мядовы пернік. Пернікі любіш, любіш? Бачыш, як галавой матае. Ну, калі любіш, то і навуку павінен паважаць» [60].

Іншы раз праграма паказу падавалася ў блізкай да райка вершаванай форме, і ў ёй рабіліся недвухсэнсоўныя выпады супроць служак царквы:

Ну-ка, мішанька,
Паскач харашэнька...
Не слухай-ка пана свяшчэнніка,
Падмара-бяздзельніка,
А слухай нашага брата мядзведніка,
Хто цябе корміць, поіць,
Ад ліхіх сабак абараняець,
Пуць-дарожку паказваець... [61]

Прадстаўленні з мядзведзем вандроўныя скамарохі паказвалі ў карчмах, на вуліцы, на кірмашах і ў іншых месцах, дзе было многа людзей. У ролі важакоў, асабліва пасля адкрыцця ля Смаргоні школы дрэсіроўкі мядзведзяў, часта выступалі цыганы. Іншы раз пры мядзведніку быў скамарох-дудар, які спевамі, танцамі, жартамі, фокусамі, прадстаўленнямі лялек забаўляў гледачоў [62].

Выступленні важакоў з мядзведзем карысталіся вялікай папулярнасцю і знаходзілі ў народных масах сваіх пераймальнікаў. Ледзь не ў кожнай вёсцы былі свае аматары, якія ў час калядных свят вадзілі «мядзведзя» — пераапранутага ў вывернуты кажух хлопца — і разыгрывалі тыя ж, што і сапраўдныя скамарохі, сцэнкі. Падобныя сцэнкі ўваходзілі і ў рэпертуар беларускага народнага лялькавага тэатра — батлейкі.

Акрамя музыкаў і мядзведнікаў на Беларусі былі вядомы і скамарохі — бахары, акрабаты, фокуснікі, лялечнікі і інш.

У вандроўных скамарошых гуртах былі і выканаўцы драматычных сцэнак. Іх рэпертуар адлюстроўваў самыя розныя бакі тагачаснай рэчаіснасці, уключаў часта творы сатырычна вострыя, накіраваныя супраць царкоўнікаў, паноў і іншых прыгнятальнікаў працоўнага люду. Да іх ліку можна аднесці вырашаную ў гратэскавым плане сцэну «Як халопы з багацея тлушч вытрасалі». Характэрным у гэтым плане з'яўляецца і прадстаўленне групы скамарохаў у 1924 г. на кірмашы ў м. Астроўне, дзе яны выступалі з антыцаркоўнай сатырай «Велікодныя яйкі» [63].

---

[60] Я. І. Смаргонская акадэмія.— Беларусь, 1946, № 4, с. 62.
[61] Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник, ч. 4.— СПб, 1903, с. 10.
[62] Gołębiowski L. Gry i zabawy różnych stanów w kraju całym, lub niektórych tylko prowincijach.— Warszawa, 1831, c. 223.
[63] АІМЭФ АН БССР, ф. 1, воп. 1, спр. 6, л. 16—19.

Цікавым прыкладам выкарыстання песеннага фальклору можа быць прадстаўленне скамарохаў у в. Бабінавічы на Віцебшчыне ў сярэдзіне XIX ст. Сцэна, якую ігралі вандроўныя акцёры сярод вясковай вуліцы, расказвала аб невайздросным лёсе дзяўчыны пасля замужжа, а яе выкананне было вытрымана ў стылі традыцыйнай умоўнасці народных прадстаўленняў. У рэпертуары вандроўных скамарохаў былі таксама песні пра «ліхадзімцаў» і сцэнка, дзе паказвалася, як «радзімец» забіраў сына, які крыўдзіў сваіх бацькоў [64].

Традыцыі і творчыя прынцыпы скамарохаў знайшлі сваіх прадаўжальнікаў і паслядоўнікаў. Да іх трэба аднесці ў першую чаргу валачобнікаў. Традыцыі скамароства выяўляліся і ў складзе валачобнага гурта, і ў рэпертуары, і ў выразнай тэндэнцыі да тэатралізацыі. Па жаданню гаспадара хаты валачобнікі апрача свайго традыцыйнага рэпертуару маглі выканаць які-небудзь танец або «што-небудзь іншае пад песню аб тым, як абадранец з абшарпанцам пусціўся ў танцы» [65]. У іх выкананні страчвалася і адыходзіла на другі план магічнае значэнне песень, а выкананне ўспрымалася як вясёлая гульня. Валачобнікі пераўтвараліся ў своеасаблівых веступоў вясны, якія сваімі песнямі «будзілі селяніна пасля доўгай зімы да рупнай працы...» [66]

У дзейнасці валачобнікаў яўна прысутнічалі элементы тэатралізацыі. Так, маладыя хлопцы пераапраналіся ў старых дзядоў, падмацоўваючы знешняе пераўвасабленне адпаведнай мімікай, жэстамі, імітацыяй голасу [67].

Значны ўплыў аказала мастацтва скамарохаў на развіццё драматычна-тэатральных элементаў народных абрадаў. Асабліва яскрава гэта выявілася ў вяселлі. Важкі ўклад у агульны працэс тэатралізацыі беларускай вясельнай абраднасці ўносіў музыка, якога паўсюдна на Беларусі называлі скамарохам. У некаторых мясцінах гэта назва захавалася за ім і па сённяшні дзень [68]. Ігру на дудзе, скрыпцы ці іншым інструменце вясельны музыка суправаджаў прыгаворамі, перасыпаў жартоўнымі прыпеўкамі, а здаралася, што ў перапынку паміж танцамі, узабраўшыся на якое-небудзь узвышэнне, мог расказваць вясёлую гісторыю ці апавяданне, нярэдка ў вершаванай форме [69].

Тэатралізаваны характар насіла і выступленне на вяселлі «стаўбавога». У адрозненне ад каравайнага стаўбавы вясельны абрад быў пашыраны пераважна ў паўночных і паўночна-ўсходніх раёнах Беларусі, аб чым сведчаць запісы многіх фалькларыстаў. Такі аўтарытэтны даследчык народнай творчасці беларусаў, як Я. Карскі, лічыў, што прамова стаўбавога нагадвала выступленні ранейшых скамарохаў, а сама яго вясельная функцыя

[64] АІМЭФ АН БССР, ф. 1, воп. 1, спр. 6, л. 16—19.
[65] Шейн П. Материалы..., т. 1, ч. 1, с. 576.
[66] Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1912 г.— Вільня, 1912, с. 15.
[67] Смоленский вестник, 1892, 19 крас.
[68] Весці АН БССР. Сер. грамад. навук.— Мн., 1978, № 2, с. 132.
[69] Фр. 258. АРКР ФБ АН БССР.

была тоеснай ці, прынамсі, ідэнтычнай «абавязку язычніцкага жраца»[70].

Тэндэнцыя да тэатралізацыі стаўбавога адметна выявілася ў яго знешнім выглядзе, а таксама ў шматлікіх дзейсна-ігравых элементах яго выступлення. Іншы раз ён з'яўляўся перад вясельнымі гасцямі «ў рваных лапцях, зношанай насове-балахоне, у падранай шапцы і з раскудлачанымі валасамі»[71], г. зн. як выразна тэатралізаваны персанаж. Асабліва гэта выяўлена ў адным з варыянтаў выступлення стаўбавога, запісаным на Віцебшчыне М. Нікіфароўскім. Тут сват ці які-небудзь іншы асабліва гаваркі госць апранаў вывернуты кажух, шапку і рукавіцы, узбіраўся на стоўб і пачынаў гаварыць прамову. Яго выступленне заканчвалася звычайна якім-небудзь дасціпным жартам. «Пад смех усяго вяселля «выкрыкальнічак» іншы раз кувыркнецца і падае на падлогу, з якой яго паднімаюць госці, распытваюць пра хваробу, прапаноўваюць розныя лекі і, доўга не трапляючы на сапраўдныя, канчаткова вылечваюць хворага гарэлкай, якая яму падаецца не ў чарцы, а ў вялікай лыжцы»[72].

Усе разгледжаныя вышэй чыны беларускай вясельнай абраднасці, а таксама валачобнікі — найбольш верагодныя прадаўжальнікі мастацкіх традыцый скамарохаў. На ўсім працягу сваёй гісторыі скамароства захоўвала з народнымі масамі самыя цесныя сувязі, шырока выкарыстоўваючы ўсе вядомыя драматычныя формы народнай творчасці.

Мастацтва скамарохаў як па характару, так і па духу было блізкае простаму народу, зразумелае і любімае ім. Таму ў час, калі скамароства як пэўная мастацкая з'ява пачынае паступова сыходзіць з гістарычнай арэны, яго творчыя прынцыпы і сам рэпертуар адносна лёгка засвойваюцца народнымі выканаўцамі. Яны наследуюць, пераймаюць і прадаўжаюць эстэтычныя здабыткі сваіх папярэднікаў. «Мастацтва скамарохаў, выхадцаў з народнага асяроддзя, якія абапіраліся на масавае народнае мастацтва, садзейнічала, несумненна, яго развіццю і фарміраванню, абагаціла жанр новымі тэмамі і вобразамі, зрабіла яго больш глыбокім у сацыяльным плане»[73].

* * *

Народная драматургічная творчасць з'явілася той глебай, з якой прарастала і чэрпала жыватворныя сокі інтэрмедыя школьнай драмы. Адна з функцый інтэрмедый — невялікіх, звычайна не звязаных са зместам асноўнага твора ўставак — даць магчымасць гледачу адпачыць ад цяжкага для ўспрыняцця рытарычнага тэксту школьнай драмы. У процілегласць апошняй яны пісаліся на жывой народнай мове. Падобныя сцэнкі, безумоўна,

---

70 Карский Е. Ф. Белорусы, т. 3.— М., 1916, с. 269.
71 Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8, с. 403.
72 Шейн П. В. Материалы..., т. 1, ч. 2, с. 45.
73 Крупянская В. Ю. Народный театр.— У кн.: Русское народное поэтическое творчество. М., 1954, с. 474.

яшчэ да школьнага тэатра мелі пашырэнне ў народным тэатральным мастацтве, а таксама маглі ўключацца ў рэпертуар скамарохаў. І хоць пазней інтэрмедыі ўзнікалі «на скрыжаванні прафесійнай літаратуры і фальклору, прафесійнай і народнай паэтыкі і стылістыкі»[74], яны ўсё ж захавалі асноўныя прынцыпы народнага мастацтва і з'яўляліся ў школьнай драме яго своеасаблівымі прадстаўнікамі.

У большасці сваёй інтэрмедыі былі ананімнымі, што яшчэ больш збліжала іх з фальклорнымі творамі. У жанрава-стылістычным плане яны цалкам адпавядалі інтэрмедыйным сцэнам батлейкавага тэатра і народнай драмы, а ў іх сцэнічным увасабленні яскрава выяўляліся прынцыпы народнага тэатральнага мастацтва. І калі персанажамі школьнай драмы, сюжэт якой распрацоўваў біблейска-евангельскую тэму, былі святыя, гістарычныя героі і цары, то інтэрмедыя «насялялася» людзьмі ніжэйшага звання і рангу. Цэнтральная фігура інтэрмедыі — просталюдзін. Згодна з эстэтычнымі нормамі класіцызму, інтэрмедыя ў кантэксце драмы якраз і з'яўлялася тым астраўком «ніжэйшага» драматургічнага жанру, якім лічылася камедыя. Падобнае размежаванне строга рэгламентавалася тэорыяй і падтрымлівалася драматургічнай практыкай.

Прадстаўленні школьнага тэатра мелі на мэце перш за ўсё даць магчымасць вучням выявіць свае здольнасці ў красамоўстве.

На тэрыторыі Беларусі было нямала калегій пры кляштарах і манастырах, навучэнцы якіх прымалі ўдзел у тэатральных прадстаўленнях. Апошнія былі самымі разнастайнымі па форме, прынцыпах выканання і ступені тэатралізацыі. Іншы раз у гонар таго ці іншага святога наладжваліся масавыя тэатралізаваныя шэсці, і вучні, падобна сярэдневяковым заходнееўрапейскім братчыкам, выступалі ў касцюмах і масках. Сцэнічнай пляцоўкай тады станавілася вуліца, што вяла да касцёла, а залай — яе абочыны і вокны будынкаў. Формай своеасаблівага экзамену з'яўлялася выкананне ў канцы навучальнага года арацый, калі вучні калегіі ў прысутнасці сваіх бацькоў-гледачоў прадстаўлялі адпаведна інсцэнізаваны твор-дыспут. І нарэшце, самае важнае і значнае — пастаноўка драмы. Прычым спектаклі ставіліся як у калегіі, так і на цвінтары кляштара або на плошчы перад касцёлам. Спецыяльных тэатральных збудаванняў, відаць, не было. Прадстаўленні адбываліся галоўным чынам у прыстасаваных для гэтай мэты памяшканнях калегій і будынках, якія мелі шматфункцыянальнае прызначэнне. Так, узведзены ў 1788 г. у Полацкай духоўнай акадэміі будынак быў адначасова музеем, галерэяй ікон і тэатральнай залай, дзе ў час падрыхтоўкі чарговай пастаноўкі навучэнцы распісвалі дэкарацыі для ўласнага акадэмічнага тэатра[75].

---

[74] Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый, с. 205.
[75] Breżgo B. Sztuki piękne w kolegium oraz w akademii oo. jezuitów w Połocku w XVIII i XIX w.— Prace i materiały sprawozdawcze Sekcji historii sztuki TPN w Wilnie, t. 3 (1938—1989), c. 30, 34.

На тэрыторыі Беларусі школьны тэатр атрымаў шырокае распаўсюджанне. Толькі ў XVII ст. яго выступленні адбыліся ў Брэсце, Гродна, Бабруйску, Драгічыне, Мінску, Магілёве, Нясвіжы, Навагрудку, Оршы, Пінску, Полацку, Віцебску і Смаленску[76]. Найбольш актыўна дзейнічалі школьныя тэатры калегій у Брэсце, Полацку і Нясвіжы.

Аўтарамі дыялогаў, арацый і школьных драм часцей за ўсё былі выкладчыкі рыторыкі і паэтыкі, сярод якіх траплялiся людзі здольныя і вылкаадукаваныя. Так, настаўнік Полацкай акадэміі «літвін» Нікодым Мусніцкі (1765—1805) ведаў пяць еўрапейскіх моў, пісаў вершы, байкі, песні, быў музычна адукаваным чалавекам. Стварыў паэму «Палтава», змест якой быў навеяны перамогай Пятра I над шведамі. Пісаў таксама драматычныя творы (больш 20), сярод якіх пераважалі трагедыі[77].

Прафесарамі рыторыкі і паэтыкі ў Забельскай калегіі, якая існавала пры дамініканскім кляштары, былі Каятан Марашэўскі і Міхал Цяцерскі, чые творы фактычна стаяць ля вытокаў нашай нацыянальнай камедыяграфіі. Марашэўскі «Камедыю» і Цяцерскі свайго «Доктара па прымусу» напісалі ў 1787 г. У гэтым жа годзе творы былі пастаўлены ў калегіі. Акрамя шырокавядомай сёння «Камедыі» Марашэўскі напісаў трагедыю «Свабода ў няволі», у якой на матэрыяле са старажытнарымскай гісторыі змог выказаць прагрэсіўныя для свайго часу думкі аб тым, што «асабістыя пачуцці трэба падпарадкоўваць вышэйшаму, грамадскаму інтарэсу»[78].

Даволі багатую і жанрава разнастайную драматургічную спадчыну пакінуў М. Цяцерскі. Акрамя пераробкі мальераўскага «Доктара па прымусу», асобныя героі якога загаварылі на беларускай мове, яму належаць трагедыі «Сапар», «Фемістокл», а таксама «Камедыя ў 5-і актах», «Шлюб, расстроены штучкамі арлекіна», некалькі дыялогаў. Нарэшце, ён з'яўляецца аўтарам лібрэта аперэты «Апалон-заканадаўца». Як і Марашэўскі, Цяцерскі ў сваіх трагедыях імкнуўся ўзняць надзённыя праблемы, думкі, а ў камедыйных творах намнога апярэдзіў свой час. Пэўную цікавасць у гэтым плане ўяўляе «Камедыя», у якой аўтар выступае супроць пакланення ўсяму іншаземнаму.

У «Шлюбе...» Цяцерскі, наследуючы сярэдневяковую народную італьянскую камедыю дэль артэ, выводзіць у якасці галоўнага героя адзін з традыцыйных яе вобразаў — Палішынеля.

Час захаваў імя яшчэ аднаго драматурга з Забелаў — Ігната Юрэвіча. І хоць ён не ўзняўся да ўзроўню сваіх калег, але яго трагедыя «Крэз» і камедыя «Пышнагольскі» ў значнай ступені расшырылі спадчыну драматургаў Забельскай калегіі. Звярнуўшыся да старажытнай гісторыі (а гэта для тагачасных аўтараў трагедый было ледзь не абавязковым правілам), Юрэвіч ставіць у «Крэзе» і з прагрэсіўных для таго часу асветніцкіх

[76] Okoń J. Dramat i teatr szkolny. — Wrocław — Warszawa — Kraków. 1970, c. 373—379.
[77] Miesięcznik Połocki, t. 1.— Połock, 1818, c. 21—31.
[78] Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў.— Мн., 1974, c. 165.

пазіцый вырашае надзённую бадай што для ўсіх часоў праблему вайны і міру. Што датычыць «Пышнагольскага», то ў гэтым творы, як і ў «Камедыі» М. Цяцерскага, выкарыстаны мясцовы матэрыял. Ён напісаны з выкрывальным пафасам, накіраваным на асмяянне пэўных сацыяльных з'яў тагачаснага жыцця.

Звяртае на сябе ўвагу той факт, што ў творах забельскіх драматургаў адсутнічаюць інтэрмедыі. І тлумачыцца гэта, несумненна, тым, што менавіта ў іх час нараджаліся ўжо камедыйныя творы буйной формы. Яны з'явіліся іх першымі стваральнікамі, залажыўшымі падмурак нацыянальнай камедыяграфіі.

Аўтарамі інтэрмедый, на думку большасці даследчыкаў, былі студэнты семінарый і духоўных акадэмій, якія добра ведалі жыццё таго сацыяльнага асяроддзя, прадстаўнікі якога з'яўляліся асноўнымі героямі гэтых камедыйных сцэнак. А моўная паліфанія інтэрмедый, дзе кожны герой гаварыў на сваёй мове, наводзіць на думку, што яны часта ствараліся калектыўна.

Інтэрмедыя сапраўды «з'яўлялася адлюстраваннем жывой рэчаіснасці; у лёгкай, жартоўнай форме яна паказвала народны побыт з усімі яго асаблівасцямі, часта пранікаючыся разумовымі, рэлігійнымі і палітычнымі інтарэсамі масы. Аддаляючыся ад школы, становячыся на шлях адасобленага, самастойнага развіцця, інтэрмедыя прыстасоўвалася да густаў сваіх гледачоў, прыцягвала іх сваімі чулымі адносінамі да сучаснасці і станавілася ўсё больш падобнай на колішнія сярэдневяковыя фарсы. Народныя тыпы, што выводзіліся ў ёй, захоўвалі ўсе асаблівасці свайго характэрнага аблічча і гаворкі» [79].

У большасці інтэрмедый просты чалавек з'яўляецца не толькі цэнтральным героем, але і надзяляецца станоўчымі якасцямі. Асабліва прывабным падаецца ў інтэрмедыях вобраз беларускага селяніна, чалавека разважлівага і дасціпнага, здольнага знайсці выйсце з любога становішча. Непадробным камізмам напоўнены інтэрмедыі, дзе селянін «купляе» розум у студэнта-семінарыста, а паразумнеўшы, адмаўляецца плаціць ці, падрабляючыся пад інспектара, правучае студэнта, які не хоча вучыцца. Дасціпна і па-сялянску вынаходліва вядзе герой дыспут «на мігі» з вучоным школяром, лечыць, падобна батлейкаваму доктару-шарлатану, чорта Асмалейку. Часта беларускі селянін, асабліва ў беларуска-ўкраінскіх інтэрмедыях, рашуча выступае супроць нацыянальнага прыгнёту, знаходзячы падтрымку і дапамогу з боку прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей.

Былі спробы і зусім іншай драматургічнай трактоўкі вобраза селяніна. У паасобных беларуска-польскіх інтэрмедыях ён падаецца ў карыкатурным выглядзе, паказваецца малакультурным, а іншы раз нават грубым. У падобным тэндэнцыйна негатыўным святле ён паўстае ў інтэрмедыях — наследаваннях вядомай камедыі Пятра Барыкі «З хлопа круль», у інтэрмедыі-антыпралогу да школьнай драмы «Камунія духоўная Барыса і Глеба».

---

[79] Морозов П. О. Очерки из истории русской драмы XVII—XVIII столетий.— СПб, 1888, с. 68.

У апошняй з селяніна, які нечакана трапляе на школьнае прадстаўленне і па-свойму трактуе падзеі на сцэне, насміхаецца гарбар. Праўда, яго кпіны аказваюцца, мякка кажучы, беспадстаўнымі, бо, як вынікае, і сам ён нічога не разумее ў тэатральнай тэрміналогіі, блытаючы «акт» з «гакам», а «сцэну» са «сцяной».

Часта інтэрмедыі выконваліся самастойна. Іх адасабленню ад школьнай драмы садзейнічалі семінарысты, якія ў час канікул вандравалі па вёсках і мястэчках і наладжвалі спектаклі. Да нас дайшлі скупыя звесткі аб падобных выступленнях. Вядома, напрыклад, публічнае прадстаўленне на вялікдзень у Шклове, дзе нейкі Ілья Турчыноўскі з двума іншымі навучэнцамі Кіеўскай акадэміі «выправил диалог с интермедиею, на якой многолюдствие благочестивых собралось, и римлян, и самих езовитов, и доминекан, и евреев» [80]. Магчыма, як лічыць М. Пятроў, пры такіх жа акалічнасцях былі арыштаваны ў 1753 г. у Мазыры палкоўнікам татарскай харугві Бараноўскім шэсць беларускіх студэнтаў Кіеўскай акадэміі [81]. У падобных, блізкіх да народных тэатральных традыцый прадстаўленнях бралі ўдзел і семінарысты з Жыровіц. У вольны ад вучобы час «адзін з вучняў пераапранаўся ў сялянскае адзенне, другі — у касцюм беларускага яўрэя, трэці ў вопратку вандроўнага цыгана. Пераапранутыя выходзілі на сярэдзіну зборні і пачыналі мірную размову ці ўсчувалі сварку, кожны абараняючы свае нацыянальныя інтарэсы. Зразумела, што такога роду перайманне мовы, характару і дзеянняў яўрэя ці цыгана выклікала дружны смех акружаючых» [82].

Такім чынам, парываючы фармальную сувязь са школьнай драмай, інтэрмедыя ў абноўленым выглядзе вярталася ў асяроддзе простага люду, трапляла на прыдатную для свайго бытавання і развіцця глебу. І вяла яе сюды не толькі «памяць» аб уласных вытоках, але і яе мастацкая адпаведнасць народным традыцыям і прынцыпам тэатральнага мастацтва.

* * *

Адну з самых яркіх старонак у гісторыі беларускага народнага тэатральнага мастацтва складае дзейнасць старажытнага тэатра лялек — батлейкі. Яго творчасць адыграла вялікую ролю ў станаўленні і фарміраванні нацыянальных тэатральных традыцый.

Батлейка з'явілася на Беларусі ў XVI ст. як тэатр рэлігійна-містэрыяльны. Гэта тлумачыцца тым, што першапачатковы яе рэпертуар складаўся пераважна з паасобных біблейскіх сюжэтаў, інсцэнізацыя якіх была падрыхтавана ў значнай ступені містэрыяльнымі спектаклямі жывых акцёраў.

---

[80] Перетц В. Н. К истории польского и русского народного театра.— Известия ОРЯС, т. 10, кн. 1, с. 67.

[81] Петров Н. И. Очерки из истории украинской литературы XVII—XVIII веков.— Киев, 1911, с. 109.

[82] Литовские епархиальные ведомости (Вильно), 1866, № 15, с. 613—614.

Такі ж тып тэатра быў вядомы таксама на Украіне і ў Польшчы і меў агульныя з батлейкай вытокі. Фактычна і польская шопка і ўкраінскі вяртэп — нацыянальныя варыянты аднаго і таго ж тэатра лялек, які спачатку ўзнік у Заходняй Еўропе, а пазней трапіў на тэрыторыю Польшчы, Беларусі і Украіны. Прапагандай перанятага ад езуітаў тэатра займаліся ў асноўным школяры-семінарысты, студэнты духоўных школ, дзякуючы ім ён атрымаў даволі шырокае распаўсюджанне.

У канцы XVII — пачатку XVIII ст. батлейка ад школяроў і семінарыстаў трапляе ў рукі местачковых рамеснікаў, а пазней і працоўных сялян. З гэтага часу пачынаецца абміршчэнне яе рэпертуару, які актыўна папаўняецца народна-камедыйнымі, свецкімі па свайму характару, сцэнамі. Менавіта гэты перыяд Е. Раманаў ахарактарызаваў як «бліскучую пару ўжывання вяртэпаў».

Тэатр батлейкавага тыпу, які ў большасці выпадкаў меў выгляд хаткі ці царквы, сваімі вытокамі ўзыходзіць да глыбокай старажытнасці. Ідэнтычны па сваёй будове тэатр апісвае Герадот. У час рэлігійнага свята такі тэатр-цэркаўку пераносілі (альбо первозілі на возе) з аднаго храма ў другі. Унутры яго знаходзілася выразаная з дрэва і пазалочаная выява Геліоса [83].

На Беларусі было вядома некалькі тыпаў батлеек. Аднапавярховая, двухпавярховая і трохпавярховая батлейка своеасабліва адлюстравала архітэктурную эвалюцыю тэатра і істотныя змены ў яго рэпертуары. Прынцыпова адметным тыпам батлейкавага тэатра з'яўляўся так званы жлоб, які атрымаў найбольшае пашырэнне на Віцебшчыне. Па знешняму выгляду ён нагадваў архітэктурны вобраз трохкупальнай царквы. На яго гарызантальна размешчаных сцэнах-экранах узнікалі (па прынцыпу тэатра ценяў) выявы асобных эпізодаў містэрыяльнай драмы «Цар Ірад». «Жлоб» быў найбольш кансерватыўным тэатрам з кананізаваным рэпертуарам і абмежаванай, чыста службовай функцыяй батлейшчыка. Ёсць звесткі таксама і пра існаванне батлейкі з лялькамі-марыянеткамі [84].

Розныя тыпы батлейкавага тэатра мелі свае сістэмы лялек. Акрамя плоскіх, выразаных з бляхі ці кардону ценевых фігурак, марыянетак, пальчатачных лялек, шырока выкарыстоўваліся і лялькі так званага шпянёвага тыпу. Асаджаныя на драўляным альбо металічным шпяні, яны ўяўлялі сабой найбольш распаўсюджаны варыянт лялек народнай батлейкі, якіх лялечнік вадзіў па шчылінах у падлозе верхняй і ніжняй сцэны.

Асноўныя тэкставыя варыянты батлейкавых прадстаўленняў былі запісаны ў другой палове XIX ст. Па паходжанню і тэматычна-стылявых асаблівасцях драматургія батлейкі дзеліцца на тры часткі: сцэны і песні рэлігійнага зместу, містэрыяльную драму «Цар Ірад» і народныя інтэр-

---

83 Гл.: Фрейденберг В. М. Семантика архитектуры вертепного театра.— Декоративное искусство СССР, 1978, № 2, с. 41.
84 АІМЭФ АН БССР, ф. 1, воп. 1, спр. 6, л. 16—17.

3. Зак. 948

медыйныя сцэны. Прычым у адрозненне ад школьнай драмы, якая была густа «пераплецена» інтэрмедыямі, батлейка паслядоўна прытрымліваецца прынцыпу размежавання «высокага» і «нізкага». Літаратурныя па паходжанню, рэлігійныя па зместу і духу пралогавыя сцэны батлейкавых прадстаўленняў (нараджэнне Хрыста, пакланенні вешчуноў, а таксама духоўныя песні і канты і г. д.) склаліся на самым раннім этапе існавання батлейка вага тэатра. Пазней, у сувязі з агульнай тэндэнцыяй абміршчэння рэпертуару, біблейскія сюжэты ў пралогах былі істотна скарочаны. Драма «Цар Ірад», як і сцэны пралога, мае выразную біблейскую аснову, аднак тут ужо адсутнічае непасрэдная сувязь з калядамі, а яе героі ў больш позні час у пэўнай ступені пераасэнсоўваюцца ў духу народнай мастацкай традыцыі.

За час свайго доўгага развіцця драма «Цар Ірад», як і яе цэнтральны герой, зазналі нямала змен. З'явіўшыся ў XI ст. у містэрыі як эпізадычны персанаж, Ірад характарызаваўся выключна як жорсткі цар. Згодна з традыцыяй, ён заўсёды караўся смерцю, але не праз смерць. Напрыклад, у містэрыях XIV ст. яго з'ядалі чэрві, пазней смерць насылаў на яго анёл ці сам Ірад канчаў жыццё самагубствам. Дарэчы, апошні матыў сустракаецца як у польскай шопцы і ўкраінскім вяртэпе, так і ў нашай батлейцы, у прыватнасці ў слуцкім яе варыянце.

Аднак галоўнае, што збліжала славянскія тэатры і адрознівала іх ад заходнееўрапейскіх,— гэта аднолькавы прынцып апрацоўкі драмы, калі цэнтральным стаў менавіта матыў пакарання Ірада смерцю на вачах у гледачоў. У гэтай асаблівасці тэатраў лялек славянскіх народаў заходнееўрапейскія даследчыкі бачылі ўвасабленне народнага пачуцця справядлівасці.

Асабліва цікавы раздзел драматургіі батлейкі складаюць фальклорныя па паходжанню і камедыйныя па характару сцэны. У іх знайшлі выразны адбітак народны светапогляд і густ, народныя прынцыпы асэнсавання жыццёвых з'яў. Заснаваныя на бытавых жартах, анекдотах, камічных здарэннях і апавяданнях, гэтыя творы вызначаюцца асаблівай свежасцю, іскрыстасцю народнага гумару. На першы погляд гэта частка батлейкавай драматургіі здаецца выпадковым наборам розных жанравых сцэн, якому не стае пэўнага кампазіцыйнага цэнтра. Кожная сцэна — тут маленькая самастойная п'еса, нічым з іншымі не звязаная. Але гэта толькі першае ўражанне, так сказаць, погляд зблізку, знешні бок з'явы. Калі ж прыглядзецца больш пільна, то перад намі адкрываецца яркая, шматфарбная мазаіка, кожная частачка якой мае сваё месца і прызначэнне. Разам з тым батлейцы не ўласціва кампазіцыйнае вылучэнне якога-небудзь аднаго драматургічнага накірунку, канцэнтрацыя сцэн па прынцыпу агульнага выяўленчага сродку: камедыйная сцэна змяняецца песняй, песня — сатырычным маналогам, маналог — танцам і г. д.

Вядомыя нам варыянты тэкстаў даюць падставу сцвярджаць, што ў народнай батлейкавай драматургіі дастаткова поўна выявіліся ўсе асноўныя

рысы камедыі, яскрава праявіўся светапогляд і характар адносін працоўных мас да прадстаўнікоў эксплуататарскіх класаў. Батлейкавая камедыя прынесла цэлы шэраг цікавых вобразаў і характараў, наблізіла гэты тэатр да жыцця.

У камедыйным рэпертуары батлейкі многія сцэны носяць яркі сатырычны характар, у іх востра высмейваюцца такія сацыяльныя тыпы, як доктар-шарлатан, карчмар-яўрэй, фанабэрлівы франт-шляхціц і інш. Рассыпаныя па ўсяму народнаму рэпертуару, «прыпраўленыя» шматлікімі песнямі і танцамі, гэтыя сцэны ў аснове сваёй захавалі агульны для ўсіх іх прынцып мастацкага асэнсавання жыцця і выразны сатырычны характар абагульнення.

Сярод сатырычных сцэн народнага тэатра лялек асобнае месца займаюць сцэны-звязкі. І хоць іх не так ужо многа, усё ж менавіта яны драматургічна звязваюць асобныя часткі рэпертуару батлейкі ў адзінае цэлае. Па сутнасці, ролю своеасаблівага буфера паміж «Царом Ірадам» і камедыйнай часткай спектакля выконвала сцэна «Ірадзіяда, Стары Рыгор і Шчогаль» у адным з варыянтаў віцебскай батлейкі, запісанай у канцы XIX ст.[85] Адразу ж пасля таго, як Сатана цягне труп Ірада ў пекла, на сцэне з'яўляецца Ірадзіяда. Прычым у адпаведнай рэмарцы тлумачыцца, што жонка цара Ірада выходзіць на сцэну, «нібы вярнуўшыся з пахавання мужа».

У невялікай, народнай ад пачатку да канца сцэне «Ірадзіяда, Стары Рыгор і Шчогаль» надзвычай поўна і дакладна выявіўся адзін з характэрных для народнай драматургіі прыёмаў сатырычнай характарыстыкі. Сутнасць яго заключаецца ў тым, што ўсе тры персанажы недвухсэнсоўна выказваюць адносіны народа да пэўнай з'явы. Асуджаюцца і высмейваюцца ўсе без выключэння героі сцэны. Напрыклад, першыя ж словы Шчогаля, якія ён адрасуе Ірадзіядзе, закранаюць рыкашэтам і старога Рыгора. Бо «стыдна» не наогул «красотке вазіцца» з кім-небудзь, а менавіта «з старым этакім». Са з'яўленнем Шчогаля ўзнікае канфліктная сітуацыя, якая вырашаецца тым, што яго праганяюць са сцэны. У батлейкавым рэпертуары ёсць і такія сцэны, дзе сатырычная характарыстыка Франта знаходзіць далейшае развіццё і ўдакладненне. Пераважна гэта парныя сцэны, вядомыя ў некаторых варыянтах батлейкі з Міншчыны[86].

Дастаткова пераканаўча гэта адбілася на драматургічнай інтэрпрэтацыі вобраза Франта, асабліва калі ўлічыць, што і Шчогаль і Элегант — толькі яго разнавіднасці. У кожным з іх знаходзіць мастацкае адлюстраванне адна і тая ж сацыяльная з'ява, таму ўсе разам яны з'яўляюцца своеасаблівым зборным вобразам, у якім сатырычна выкрываецца, высмейваецца пэўны сацыяльны тып. І калі ісці ад жыцця, сувязь з якім у батлейкавай камедыі праявілася надзвычай выразна, то іх трэба разглядаць хутчэй за ўсё як вобразы-сінонімы.

---

[85] Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8, с. 74—91.
[86] Шейн П. В. Материалы..., т. 3, с. 122—139.

Шчогаль, Франт, Элегант — вобразны рад, які не толькі знайшоў непасрэдны выхад у прафесійную драматургію, але і атрымаў там далейшае развіццё. Асабліва выразна сляды батлейкавых герояў праявіліся ў такіх вобразах, як Пранцішак з «Моднага шляхцюка» К. Каганца і Адольф Быкоўскі з Купалавай «Паўлінкі».

У драматургіі батлейкі знаходзіць адлюстраванне не толькі ступень грамадскай значнасці той ці іншай сацыяльнай з'явы, але і яе распаўсюджанасць у жыцці. Гэта адбіваецца на колькасці варыянтаў той або іншай сцэны.

Асабліва часта ў батлейкавых тэкстах сустракаюцца сцэны з доктарам-шарлатанам. Усе яны ў вядомай ступені з'яўляюцца дапаўненнем да шырокавядомай сцэны «Мацей і доктар», у якой знайшлі яркае ўвасабленне характэрныя рысы беларускай народнай мастацкай традыцыі. Дзякуючы непаўторнаму нацыянальнаму каларыту, дакладнасці і дасціпнасці вобразнай характарыстыкі яна па праву заняла ў народным батлейкавым рэпертуары адно з вядучых месц.

У камедыйным рэпертуары беларускай батлейкі асабліва пашыранымі і каларытнымі былі сцэны, у якіх выводзіліся цыган, яўрэй, казак і г. д. Тут, як правіла, шырока выкарыстоўваўся акцэнт як дадатковы сродак характарыстыкі, а героі займаліся сваімі справамі: цыган мяняў коней, цыганкі варажылі, яўрэй гандляваў і г. д. Словам, яны паказаны ў тыповай атмасферы сваіх заняткаў, інтарэсаў, звычак. Большасць такіх сцэн нельга залічыць да разраду цалкам сатырычных, хоць у шмат якіх можна знайсці выразныя элементы сатыры. Пры гэтым трэба асабліва падкрэсліць адну з найбольш характэрных рыс драматургіі батлейкі — паслядоўнасць сатырычнай характарыстыкі пэўнага кола сацыяльных з'яў. Сацыяльны аспект у характарыстыцы героя заўсёды становіцца ў народным тэатры лялек першасным, вызначальным.

Акрамя сцэн з выразным сатырычным накірункам у рэпертуары народнага беларускага тэатра лялек было шмат сцэн, якія можна аднесці да жартоўна-камедыйных. Прыкладам з'яўляецца даволі пашыраная ў батлейцы бытавая жанравая замалёўка «Антон з казой і Антоніха».

У адным з мінскіх варыянтаў пасля невялікай традыцыйнай уступнай песні Антоніха пачынае даіць казу. У гэты ж час Антон загадвае біць масла, і яна адразу бярэцца за гэту справу. Сам гаспадар «ваюе» з упартай казой, якая не хоча ісці, потым сядае на яе вярхом і са словамі «Каб цябе ваўкі з'елі ў Камароўскім балоце» выязджае.

Другая сцэна — сцэна з мядзведзем. Невялікая па аб'ёму, аналагічная ў кампазіцыйна-структурным плане з «Антонам з казой і Антоніхай», яна мае і свае адметнасці. Добрую палавіну часу займае тут выступленне мядзведзя, якога водзіць на ланцугу або вяроўцы важаты. У батлейцы гэта сцэна ўзнікла ў выніку пераймання традыцыйнага прадстаўлення скамароха з мядзведзем.

У пачатку XX ст., калі традыцыйная батлейка перастае існаваць як

масавая мастацкая з'ява, робяцца спробы яе адраджэння на літаратурнай аснове. Гэтыя спробы не былі ў строгім сэнсе ні літаратурнай апрацоўкай вядомых батлейкавых тэкстаў, ні іх літаратурнай стылізацыяй. Даволі значныя па аб'ёму творы можна лічыць цалкам арыгінальнымі, бо ўласна дачыненне да батлейкі тут зводзілася да выбару аднаго або двух ідэйна вузлавых момантаў, якія шырока распрацоўваліся.

Храналагічна першым творам такога тыпу з'явілася пяціактовая п'еса невядомага аўтара «Батлейка», надрукаваная ў адным з нумароў каталіцкага тыднёвіка «Беларусь»[87].

У процілегласць «Батлейцы» «Наша шопка (Яселка для вясковых дзяцей і моладзі ў 3-х дзеях з нотамі)» Гал. Ромар тэматычна больш поўна адпавядае зместу традыцыйнай батлейкі[88]. І хоць яна напісана на польскай мове, тут мы сустракаем не толькі сцэны, запазычаныя з нашага народнага тэатра лялек, але і асобных персанажаў з адметнымі рысамі беларускага нацыянальнага характару. Такім, напрыклад, з'яўляецца стары Антось, а таксама Смаргоньчык з мядзведзем. У цэнтры вобраз дасціпнага героя віленскіх ярмарак і кірмашоў. Прыводзім яе цалкам: «Кланяюся нізка ўсім, і Мішка таксама кланяецца (мядзведзь ківае галавою). Мы з такога хітрага мястэчка Смаргоні, якога няма, але якое было і можа зноў быць. Была там школа для мядзведзяў, але не было для людзей, то і людзі там, як мядзведзі, выраслі, а разумныя мядзведзі ў лес уцяклі, а цяпер лясы высеклі, то і розум уцёк з мядзведзямі! Аднаго злавіў, можа ён нас чамусь навучыць? А калі не, то няхай сабе ідзе туды, дзе грыбы растуць, а я буду абаранкі пячы. Прывязу на «Казюка» і буду крычаць: «Смаргоньскія, Смаргоньскія» — хоць яны ў Свянцянах будуць спечаныя. Але калі вы ад мядзведзя розуму не набрацеся, то й не пазнаеце... Ну, Мішка, вучы розуму! (Мядзведзь пачынае скакаць)»[89].

Спробы штучна прадоўжыць жыццё традыцыйнага тэатра лялек, які ў гэты час перажываў перыяд глыбокага заняпаду, літаратурнай батлейкавай драме не ўдаліся. Не аказала яна і колькі-небудзь адчувальнага ўплыву на лёс лялькавага тэатра, які ў новых сацыяльна-палітычных умовах адрадзіўся як асобны від прафесійнага тэатральнага мастацтва для дзяцей.

Нязменным удзельнікам батлейкавага прадстаўлення быў невялікі інструментальны ансамбль. Звычайна ён складаўся з двух ці трох чалавек, іншы раз іграў адзін музыкант. Найбольш папулярныя інструменты батлейкавага аркестра — скрыпка, цымбалы і бубен, прычым спалучэнне іх магло быць розным. Калі, напрыклад, спектаклі батлейкі Патупчыка ішлі

---

[87] Betlejka.— Białoruś (Wilna), 1915, № 8.

[88] Гэта п'еса надрукавана ў «Teatrzyku Wileńskim», № 9. (На жаль, год не пазначаны.) «Віленскі тэатрык» — гэта і назва самога бюлетэня і серыі п'ес для дзяцей і моладзі, якую выпускала «Выдавецтва кнігарні Юзэфа Завадскага ў Вільні».

[89] Teatrzyk Wileński, № 9 (*пераклад аўтара*).

ў суправаджэнні скрыпкі і бубна[90], то ў прадстаўленнях Тумаша з-пад Мсціжа ігралі скрыпка і цымбалы[91], а мінскі шавец Дэмбіцкі адзін «прадстаўляў сабой аркестр — акампанаваў на гармоніку»[92].

З батлейкай хадзілі часцей за ўсё вечарам, прычым батлейкавы гурт быў іншы раз даволі вялікім. Пасля запрашэння ў хату пачыналася падрыхтоўка да спектакля. Вось як расказваў аб гэтым батлейшчык Мацей Барашка: «Прывёзшы звычайна батлейку ў тую ці іншую хату, гаспадар якой запрашаў нас для паказу батлейкі, мы ставілі яе на лаву, запальвалі васковыя свечкі, якія ўстаўляліся ў падсвечнікі на кранштэйнах, прымацаваных па баках батлейкавай сцэны... Гаспадары гэтым часам рассаджваліся перад батлейкай — хто на лаўцы, хто на крэсле, а хто і на падлозе... Гаспадыня гасіла лучыну ці выносіла ў другі пакой лямпу... Музыканты-батлейшчыкі (скрыпка і бубен) ігралі ўступны марш. Лялькавод-батлейшчык вымаў шуфляду з лялькамі, парадкаваў іх, рыхтуючыся да прадстаўлення... А калі ўсё было гатова, паказ пачынаўся...»[93]

У другой частцы прадстаўлення было шмат сцэн, таму дзеянне часта перапынялася. Невялікія паўзы былі выкліканы чыста тэхнічнымі прычынамі — неабходнасцю памяняць лялькі. Канчаўся спектакль традыцыйнай батлейкі па-рознаму: песняй хору ці «Камароўскім вяселлем», іншы раз — выстралам з самаробнай гарматы. Але часцей за ўсё — выхадам героя, які сабіраў грошы. Тут таксама былі свае варыянты. У батлейцы М. Барашкі ў гэтай ролі выходзіў Пельгжым, у адным з варыянтаў мінскай батлейкі — манах-бернардзінец з невялікім, прывязаным да пояса кошыкам, у адной з магілёўскіх батлеек — стары з торбай. Яны непасрэдна звярталіся да гледачоў, але былі выпадкі, калі збор грошай «тэатралізаваўся» і з'яўляўся своеасаблівым прадаўжэннем прадстаўлення. Так, у батлейцы Васіля Бутомы з Магілёва выходзіў стары з кашальком, следам за ім разбойнік, які заглядваў у кашалёк і біў старога даўбешкай, прыгаворваючы: «Прасі грошай, прасі!» Стары кланяўся гаспадару хаты, а дзеці кідалі ў яго кашалёк грошы[94].

Галоўнай фігурай батлейкавага прадстаўлення быў сам батлейшчык. Ён не толькі іграў усе ролі, у тым ліку і жаночыя, але часта даваў ад сябе характарыстыку героям, «рэкамендаваў» іх гледачу. Як сведчыць А. Дзешавой, Патупчык «з'яўляўся па ходу прадстаўлення свайго роду канферансье», г. зн. станавіўся своеасаблівым пасрэднікам паміж гледачом і сцэнай.

Мацей Барашка, тэатр якога загінуў у час першай сусветнай вайны, вельмі любіў «чытаць батлейку на памяць» сваім суседзям і знаёмым, што ў вольны час прыходзілі адведаць старога лялечніка. «Чытаючы тэкст

[90] АІМЭФ АН БССР, ф. 1, воп. 1, спр. 6, л. 8—15.
[91] Там жа, воп. 1, спр. 6, л. 5—6.
[92] Беларусь, 1958, № 5, с. 25.
[93] АІМЭФ АН БССР, ф. 1, воп. 1, спр. 7, л. 58—62.
[94] Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8, с. 103.

батлейкі, як і трэба было чакаць, батлеечнік мяняў голас, даваў тлумачэнні па ходу прадстаўлення, напяваў наігрышы, спяваў песенькі і ледзь сам не пускаўся ў скокі, паказваючы, як лялькі танцавалі ў батлейкавым прадстаўленні польку-варбунку, «Гарбуза», «Танец Смерці», прыскокі Антона з Антоніхай...»[95] Як бачым, нават без батлейкі народны лялечнік заставаўся цалкам акцёрам прадстаўлення.

Асаблівасцю народнага тэатра лялек была ўласцівая ўсёй вуснапаэтычнай творчасці адсутнасць цвёрдага аўтарскага тэксту. Таму батлейшчык меў шырокую аснову для імправізацыі, што з'яўлялася характэрнай рысай яго творчасці.

Мастацтва батлейкі — мастацтва сінтэтычнае. Гэта было «запраграмавана» ў драматургіі і яскрава выяўлялася ў творчасці батлейшчыка, які сумяшчаў мастацтва акцёра, рэжысёра, мастака, скульптара і драматурга-сцэнарыста. Сінтэтычнасць мастацтва батлейкі выяўлялася і ў выкарыстанні ў адным прадстаўленні розных па жанрава-стылістычных асаблівасцях выяўленчых сродкаў. Батлейкавая камедыя, шырока выкарыстоўваючы такія структурныя формы, як дыялог, маналог, песня, танец, абнімала значны арсенал камедыйных сродкаў. Тут былі і вострая сатыра, і мяккі гумар, і пародыя, і жарт. Дзейснымі мастацкімі сродкамі, пры дапамозе якіх дасягаўся неабходны эфект, былі буфанада, гіпербала, характарыстыка персанажа самім батлейшчыкам. Мова персанажаў народна-камедыйных сцэн стракацела шматлікімі вобразнымі параўнаннямі, метафарычнымі выразамі, у ёй «нямала разгорнутых гратэскава-фарсавых і гіпербалічных малюнкаў»[96].

Драматургія батлейкі, і ў першую чаргу яе камедыя, з'яўлялася канцэнтраваным выяўленнем мастацкага вопыту народа, у ёй знайшла ўвасабленне народная сутнасць эстэтычных прынцыпаў, народны светапогляд.

У канцы XIX і пачатку XX ст. асобныя сцэны з рэпертуару народнага тэатра лялек сталі выконвацца «жывымі» акцёрамі. Такое іх іграваое ўвасабленне атрымала назву «жывой батлейкі» або «Батлеі» (менавіта пад такой назвай ладзіліся прадстаўленні «Цара Ірада» на Нясвіжчыне). Былі вядомы таксама і выпадкі кантамінацыі «Цара Ірада» і «Цара Максіміляна». На думку Е. Раманава, абодва творы ўваходзілі ў рэпертуар батлейкавага тэатра, а выкананне іх жывымі акцёрамі насіла назву «Мушкарад»[97].

Некалькі іншы характар насіла калядное прадстаўленне «Цара Ірада» ў мястэчку Васілішкі каля Ліды[98]. Драматургічная аснова гэтага своеасаблівага тэатральнага відовішча складвалася з трох тэматычна розных частак, якія, па сутнасці, былі актамі аднаго твора. Драма «Цар Ірад» была зведзена выключна да дыялога Ірада і жаўнера, і толькі ў канцы з'яўляліся Анёл і Д'ябал.

---

[95] АІМЭФ АН БССР, ф. 1, воп. 1, спр. 7, л. 58—62.
[96] Фядосік А. С. Трапным народным словам, с. 124.
[97] Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 5.— Витебск, 1891, с. 273.
[98] Wisla. — Warszawa, 1901, t. 15, s. 401—411.

Змест сярэдняй часткі цалкам вычэрпваўся маналогам Пілігрыма. Вытрыманы ў жартаўліва-камедыйным плане, ён выконваў тут функцыю інтэрмедыі са школьнай драмы. Гэта ўстаўка паміж двума містэрыяльнымі па характару і зместу актамі, безумоўна, была ўведзена для таго, каб пасмяшыць гледача.

Увесь маналог і адпаведна выступленне Пілігрыма былі пабудаваны па прынцыпу нарастання камедыйнасці. Заключная частка яго ўжо цалкам вытрымана ў камедыйным духу, у ім выразна адчуваецца ўплыў народнага тэатра. Сам герой цяпер набывае рысы то батлейкавага доктара-шарлатана, то бахара, які расказвае слухачам розныя байкі-небыліцы. У першым выпадку ён заяўляе, што можа лячыць зубы, ды так, што ўсе яны абавязкова выпадуць, прапаноўвае лекі ад завароту касцей і ламання кішак, у другім — апавядае аб малочных рэчках, якія цякуць пасярод рынку, на якім для ўсіх жадаючых падсілкавацца «стаіць смажаны вол, ляжыць нож і луста хлеба».

Нельга не заўважыць, што ў сярэдняй частцы прадстаўлення ў Васілішках дастаткова яскрава выявілася тэндэнцыя наследавання традыцыям народнай драматургіі і тэатра.

Уключэнне ў рэпертуар «жывой батлейкі» адной з самых цікавых сатырычных сцэн — «Мацея і доктара» можна разглядаць як з'яву заканамерную. Ужо ў лялечным тэатры, дзе яна атрымала шырокае распаўсюджанне, сцэна набыла рысы завершанага, па-мастацку цэласнага твора.

Кампазіцыйны цэнтр «Мацея і доктара» — маналог селяніна, дзе ён дае сабе характарыстыку. З гэтага маналога беспамылкова ўгадваецца натура па-сялянску развażлівага героя, пачуццё гумару для якога не столькі своеасаблівая рэакцыя на цяжкае жыццёвае становішча, колькі прыроджаная рыса характару. З іранічнай усмешкай апавядае Мацей аб сваёй прыгодзе, аб прычыне сваёй бяды. Ён залішне пад'еў кущі ў пана Бараноўскага.

Лячэнне героя паказваецца ў большасці выпадкаў прыёмамі буфанады. Звычайна Доктар б'е селяніна, забірае ў яго грошы і знікае. Апошняму нічога не застаецца, як пасылаць наўздагон «доктару» розныя праклёны, пераказваючы яго мудрагелістыя, парадаксальныя рэцэпты.

Запісаныя на рубяжы XIX і XX стст. варыянты сцэны «Мацей і доктар» у жывым акцёрскім выкананні сведчаць аб розных прынцыпах яе сцэнічнай інтэрпрэтацыі. У занатаваным у ваколіцах в. Рудзевічы ля Ваўкавыска варыянце гэтага народнага твора выразна відаць асаблівасці выканання. Па сутнасці, сцэна гэта тут хутчэй расказваецца, а не іграецца. Апавядальнік перадае змест твора ад імя першай асобы — Мацея.

Прынцыпова іншае ўвасабленне сцэна «Мацей і доктар» набыла ў калектыўным выкананні на Барысаўшчыне. Фактычна яна ператварылася ў народную тэатралізаваную гульню [99].

---

[99] Шейн П. В. Материалы..., т. 3, с. 154—155.

У «жывой батлейцы» традыцыйны для батлейкавых варыянтаў маналог Мацея мае своеасаблівы працяг. З'яўляецца Улляна, запрашае мужа ў карчму і спявае жартоўную песню. Пэўныя змены відаць і ў канкрэтызацыі асобных дэталей: доктар атрымаў імя, больш пэўна вызначаецца месца («аптэка Раўськага»), дзе можна дастаць такія «дэфіцытныя» лекі, як камарыныя кішкі, курыная жоўць і г. д., нарэшце, сам Мацей, які ў некаторых батлейкавых варыянтах толькі абяцаў дагнаць шарлатана-доктара, тут кінуўся за Баўтрумеем. Праўда, нечакана «сустрэўся» з вушаком у дзвярах і не выканаў абяцанняў.

Такім чынам, сцэна «Мацей і доктар» прадаўжала плённа развівацца. Яна папоўніла рэпертуар «жывой батлейкі» і разам з тым да самага апошняга часу выконвалася на сцэне народнага тэатра лялек.

* * *

Свае вытокі беларуская народная драма бярэ ў шматлікіх гульнях і карагодах, у багатай абрадавай творчасці. Зарадзіўшыся ў сферы разнастайных форм традыцыйнай гульнёвай культуры, элементы драмы ў працэсе гістарычнага развіцця паступова прывялі да з'яўлення буйных драматургічных твораў.

Паняцце «народная драма» нельга разумець адназначна. У шырокім значэнні, калі разглядаць народную драму як від вуснай творчасці, яно ўбірае ўсё багацце народнага драматургічнага мастацтва. Больш вузкае паняцце народнай драмы грунтуецца на жанравым яе вызначэнні. З усяго вядомага нам рэпертуару народнага тэатра да ўласна драмы можна аднесці, бадай, толькі «Цара Максіміляна». Гэта яшчэ адно сведчанне таго, што магістральнае рэчышча, у якім развівалася вусная драматургічная творчасць беларусаў, складалі малыя драматычныя формы.

Да малых форм народнай драмы можна аднесці з поўным правам інтэрмедыі школьнай драмы і ўвесь народны рэпертуар батлейкі, сцэны «жывой батлейкі», якія мелі выразную імправізацыйную аснову і маглі выконвацца на любых народных святах.

Менавіта ў невялікіх па аб'ёму драматычных сцэнах знаходзіла найбольш поўнае мастацкае адлюстраванне рэчаіснасць, адбывалася нараджэнне цікавых мастацкіх вобразаў і тыпаў, маючых свае адпаведнікі ў рэальным жыцці. Гэты пласт драматургіі быў самым цесным чынам звязаны з жыццём працоўнага люду і адлюстраваў цэлы комплекс сацыяльна-грамадскіх узаемаадносін. Прычым найбольш поўна аказаўся ўвасобленым тут вобраз беларускага селяніна, які становіцца цэнтральным персанажам многіх драматургічных твораў.

Развіваючыся ў рэчышчы агульнафальклорных традыцый, драма паслядоўна прытрымлівалася і ўласцівых фальклору прынцыпаў. Яна засвоіла асаблівасці характарыстыкі героя, спосаб тыпізацыі і нават бытавала ў вуснай форме.

Малыя формы народнай драмы, якія атрымалі шырокае развіццё на Беларусі, падрыхтавалі глебу для паяўлення твораў буйной формы, зрабілі прыкметны ўплыў на працэс іх мастацкай асіміляцыі ў духу нацыянальнай драматургічнай традыцыі.

Да народных драматычных твораў, маючых развітую кампазіцыйна-сюжэтную будову, адносяцца «Цар Ірад», «Лодка» і «Цар Максімілян». Творы гэтага тыпу вызначаюцца больш вострым у параўнанні з невялікімі сцэнамі канфліктам і ў пэўнай ступені ўжо стаяць на грані народнай і прафесійнай драматургіі, акумулюючы ва ўласнай мастацкай структуры самыя розныя элементы, прынцыпы і рысы.

«Цар Ірад», які адносіцца да цыкла так званых калядных драм, быў шырока вядомы ў народным тэатры. У выніку пераасэнсавання вобразаў гэтай містэрыяльнай драмы ў духу народных традыцый яна ў значнай ступені наблізілася да народнай драмы і выконвалася як у батлейкавым тэатры, так і жывымі акцёрамі.

XVII—XVIII стст.— перыяд станаўлення і значнага росквіту вуснай народнай драмы. Менавіта ў гэты час адбываецца працэс драматургічнага фарміравання такіх твораў, як «Лодка» і «Цар Максімілян»[100].

«Лодка» і «Цар Максімілян» вядомы ўсім тром усходнеславянскім народам — рускім, беларусам і ўкраінцам — і з поўным правам могуць быць аднесены да здабыткаў народнай драматычнай творчасці кожнага з іх. Разам з тым тэматыка гэтых твораў, іх мова і іншыя прыкметы сведчаць, што ўзніклі яны ў Расіі, адкуль пасля трапілі на Украіну і Беларусь. У працэсе мастацкай асіміляцыі пад уплывам мясцовай народнай традыцыі драмы насычаюцца камедыйнымі сцэнамі, што ў значнай ступені садзейнічала іх стылістычнаму набліжэнню да мастацкіх прынцыпаў малых драматургічных форм.

Існаваўшая на тэрыторыі Расіі ў шматлікіх варыянтах гераічная драма «Лодка» ўзнікла як мастацкае адлюстраванне сялянскіх паўстанняў. Найбольш верагодным часам узнікнення гэтай драмы з'яўляецца канец XVIII ст.[101] «Усе варыянты ўласна «Лодкі» (а іх налічваецца цяпер больш 50) дзеляцца на тры групы, кожная з якіх уяўляе асобны сюжэтна-кампазіцыйны тып»[102].

«Лодка» не атрымала колькі-небудзь значнага пашырэння ў Беларусі. Тэкст гэтай драмы не захаваўся, ёсць толькі асобныя матывы «Лодкі» ў некаторых варыянтах «Цара Максіміляна». Асаблівасцю спалучэння двух твораў было тое, што ў ролі Атамана выступаў сам Максімілян. Трэба сказаць, такая метамарфоза галоўнага героя «Цара Максіміляна» супярэчыла ідэйна-мастацкаму зместу твора і наогул не характэрна для кантамінацыі «Цара Максіміляна» і «Лодкі».

---

[100] Гл.: Асеев Б. Н. Русский драматический театр XVII—XVIII веков.— М., 1958, с. 17.
[101] Гл.: Савушкина Н. И. Русский народный театр, с. 75.
[102] Там жа, с. 76.

У адрозненне ад «Лодкі» народная драма «Цар Максіміліян» прыжылася на Беларусі, пусціла глыбокія карэнні і атрымала пад уплывам мясцовай мастацкай традыцыі далейшае развіццё. Гэта драма адлюстроўвала адносіны народа да царскай тыраніі і мела пэўную сацыяльна-палітычную накіраванасць. Аснову сюжэта «Цара Максіміляна» складае канфлікт паміж царом і яго сынам і пакаранне апошняга смерцю.

Што датычыць вытокаў драмы і часу яе паходжання, то тут выказваліся самыя розныя думкі. Напрыклад, дарэвалюцыйныя даследчыкі адносілі паходжанне «Цара Максіміляна» да XVIII ст. і ўказвалі на ўплыў перакладной свецкай аповесці, апакрыфічнай літаратуры і школьнай драмы. Адначасова выказвалася думка, што сюжэтную аснову гэтай п'есы складаюць палітычныя падзеі, якія мелі месца ў гісторыі рускага грамадства. Аднак, калі адкінуць напластаванні, што ўзніклі ў больш позні час, генетычна сюжэт «Цара Максіміляна» ўзыходзіць да жыційнай літаратуры XVII — пачатку XVIII ст. Менавіта ў гэты перыяд у літаратуры такога накірунку быў характэрны канфлікт, які аказаўся ў найбольшай колькасці варыянтаў драмы самым устойлівым — канфлікт паміж хрысціянствам і язычніцтвам [103].

Рэлігійныя матывы канфлікту Максіміляна з Адольфам мелі рэальную аснову, і менавіта яны, адсунутыя ў Расіі некалькі на другі план, у Беларусі якраз выступілі на першае месца і знаходзілі самы жывы водгук у народных масах, асацыіраваліся з насаджэннем каталіцызму ў краі, што паклала пачатак шматгадовай барацьбе двух веравызнанняў.

Найбольш поўныя і ў мастацкіх адносінах дасканалыя з усіх вядомых сёння беларускіх варыянтаў «Цара Максіміляна» тэксты драмы, запісаныя ў канцы XIX і пачатку XX ст. «Цар Максіміліян», запісаны ў г. Беліцы ля Гомеля, складаецца з чатырох актаў і найбольш поўна перадае сюжэт драмы. У ёй дзейнічаюць тыповыя для большасці варыянтаў персанажы: Максіміліян, Адольф, Скараход-маршал, Змей-улан, Аніка, Мамай, Каваль, Кат і інш. У першай дзеі цалкам вычэрпваецца канфлікт паміж Максіміліянам і Адольфам. Тройчы выкліканы Скараходам да цара, Адольф адмаўляецца адрачыся ад хрысціянскай веры і пакланіцца «куміроцкім» багам. Разгневаны Максіміліян аддае загад пакараць Адольфа смерцю, і Кат выконвае яго. Тры астатнія дзеі прысвечаны паядынкам Анікі са Змеем-Уланам, Арапам і Рыцарам, байцы самога Максіміляна з Мамаем. Смерць, якая з'яўляецца ў самым фінале п'есы, карае ў сваю чаргу Аніку.

Трэба адзначыць, што сюжэтная аснова драмы, звязаная з цэнтральнай канфліктнай сітуацыяй, ва ўсіх вядомых беларускіх варыянтах засталася нязменнай. У некаторых з іх паявіліся толькі паасобныя матывы, якія, аднак, не мелі істотнага значэння для агульнага гучання твора. Найбольш характэрныя з іх матыў сувязі Адольфа з «разбойнікамі», з якімі ён па

---

[103] Гл.: Савушкина Н. И. Русский народный театр, с. 83.

«Волзе-рэчцы катаўся», увядзенне дадатковых (пяці замест трох) допытаў героя, для чаго ў твор уводзіліся суддзі, якія спрабавалі ўгаварыць Адольфа прыняць веру Максіміляна. У некаторых тэкстах сустракаецца таксама і матыў цудоўнага ўваскрэсення Адольфа Доктарам. Несумненна, такое сюжэтнае завяршэнне драмы супярэчыла логіцы вырашэння асноўнага канфлікту і ўзнікла пад уплывам народнай казачнай традыцыі.

Мясцовая традыцыя, як правіла, найчасцей закранае канфліктную сферу твора, што пацвярджаецца многімі варыянтамі. Гэта выяўляецца не толькі ў наяўнасці значнай колькасці беларускіх слоў і выразаў, але і ва ўвядзенні ў п'есу асобных вобразаў і камедыйных сітуацый, запазычаных з арсенала малых драматургічных форм: батлейкі, інтэрмедый школьнай драмы і наогул народнага драматычнага мастацтва.

Асаблівую ўвагу ў гэтай сувязі звяртае на сябе вобраз Яўрэя, цалкам адпаведны традыцыі беларускага народнага тэатра. У варыянце, запісаным у Беліцы, ён гаворыць па-беларуску з уласцівым яму акцэнтам, а сцэна набывае камедыйнае гучанне. Яўрэй тут выступае ў ролі своеасаблівага коміка-рэзанёра, які дзеля таго, каб пасмяшыць гледачоў, «перакручвае» рэплікі іншых персанажаў. Мяркуючы па тэксту п'есы, ён амаль увесь час знаходзіцца на сцэне, але астатнія героі нібы не бачаць і не чуюць яго, таму большасць рэплік Яўрэя застаецца без адказу. Перад намі, па сутнасці, своеасаблівы вобраз каментатара, рэплікі якога адрасуюцца выключна на гледачу. Такая драматургічная «запраграмаванасць» ролі прыкметна вылучае гэты персанаж з ліку астатніх, робіць яго пасрэднікам паміж сцэнай і гледачом.

Значнай камедыйнай стыхіяй вызначаецца варыянт, запісаны ў 1889 г. на Лебядзінскім цукровым заводзе (Чыгірынскі п., Кіеўская губ.) М. Васільевым ад беларуса-адыходніка Піліпа Царашкова. У «Троне» (такназываўся гэты варыянт драмы «Цар Максіміліян») галоўнымі камедыйнымі персанажамі выступаюць Дзед, Яўрэй, Цыган, Доктар, Фельшар і Кравец. Характэрна, што ў тых жа сцэнах, дзе выступаюць гэтыя героі, бярэ ўдзел і цар Максіміліян, і гэта прыкметна дапаўняе кананічную характарыстыку цара, хоць асноўны канфлікт твора застаецца нязменным, а яго вырашэнне традыцыйным.

Кампазіцыйна п'еса дзеліцца на дзесяць сцэн, большасць з якіх звязана паміж сабой агульным месцам дзеяння і агульным героем. Асноўныя тут сцэны, вытрыманыя ў духу народнай камедыі. У агульнай структуры твора яны выконваюць ролю інтэрмедый, хоць і не страчваюць пэўнай сувязі з яго сюжэтнымі падзеямі. Аднак выразна гэта сувязь выяўляецца толькі ў пачатку драмы дзякуючы традыцыйнаму Дзеду-далакопу, які з'яўляецца затым у трэцяй і сёмай сцэнах, каб выканаць сваю функцыю — пахаваць Адольфа, Брандавула і караля Мамая. Далейшыя ж падзеі развіваюцца незалежна ад асноўных сюжэтных перыпетый драмы і носяць выразны камедыйны характар. Менавіта вобраз Дзеда, гэтага звычайнага селяніна, становіцца камедыйным цэнтрам двух адзначаных сцэн. Ён пры-

кідваецца глухім і знарок «перакручвае» словы Пажа, пасланага за ім, называючы цара «чмаром» і «папірацельствам».

У сёмай сцэне сляды народнай камедыі выступаюць асабліва выразна. Большай паслядоўнасцю вызначаецца тут і канфлікт паміж Дзедам і Яўрэем. Апошні выступае ў ролі карчмара, які абірае старога, а калі той прыходзіць у другі раз, б'е яго і выганяе прэч. Дзед скардзіцца Максіміляну, і той пасля допыту Яўрэя ставіць яго на «калавур».

У камедыйным ключы вырашана і другая палавіна гэтай сцэны, цалкам прысвечаная «лячэнню» Дзеда. Доктар — адзін з варыянтаў тыповага для народнага тэатра доктара-шарлатана, асабліва шырока прадстаўленага ў батлейцы, выступае ў «Троне» «штаб-лекарам, турэцкім аптэкарам». Лячэнне далакопа, як і ў многіх іншых сцэнах з Доктарам, зводзіцца да парад-рэцэптаў.

Абодва разгледжаныя варыянты «Цара Максіміляна» адносяцца да самых ранніх сярод астатніх беларускіх варыянтаў і вызначаюцца больш высокай ступенню канцэнтрацыі камедыйнага элемента. У тэкстах, запісаных пазней, камедыйны пласт значна бяднейшы.

У варыянце драмы, запісаным А. Грузінскім у 1896 г. у былым Рэчыцкім павеце ад аднаго з выканаўцаў, яшчэ прысутнічаюць сцэны камедыйнага характару, хоць яны ўжо і не займаюць такога месца, як у папярэдніх варыянтах. Стары, Доктар і Яўрэй, які тут выступае ў ролі краўца, вядуць паміж сабой дыялогі, поўныя гумару, вытрыманыя ў духу народнай тэатральнай традыцыі, але яны ўжо больш лаканічныя, скупыя. Асаблівасць гэтага варыянта драмы ў больш паслядоўным, у параўнанні з іншымі беларускімі варыянтамі «Цара Максіміляна», прынцыпе непасрэднага кантакту з гледачом. Выразна гэта адчуваецца ў пачатку п'есы, дзе адбываецца працэдура прадстаўлення Адольфа і Максіміляна гледачам.

Акрамя шматактовых варыянтаў «Цара Максіміляна» існавалі і меншыя па аб'ёму творы. Адным з іх можна лічыць драму, запісаную жыхаром в. Межная Слабада Нясвіжскага раёна І. Здрокам, ставіўшым яе тут у 1912 г. У ёй параўнаўча няшмат дзеючых асоб (Цар, Адольф, Лекар, Дзед з Бабай, суддзі, кавалі), зусім адсутнічаюць сцэны камедыйнага характару. Варыянт з Нясвіжчыны мае тым не менш нямала адметнага, што робіць яго цікавым у плане вызначэння характару больш позняй трансфармацыі драмы. Падзеі ў творы канцэнтруюцца вакол асноўнага канфлікту, адсутнічаюць пабочныя сюжэтныя адгалінаванні, не звязаныя з ім. Роля эпізадычных персанажаў (кавалі, суддзі, Дзед і Баба, Лекар) тут строга абмежавана выкананнем функцый, непасрэдна звязаных з паслядоўным развіццём сюжэта п'есы: кавалі майструюць клетку, суддзі судзяць Адольфа, дзед і баба выконваюць ролю далакопаў.

У запісах драмы, зробленых у савецкі час, сустракаюцца матывы, уласцівыя ранейшым варыянтам. Так, тэкст «Цара Максіміляна», запісаны М. Грынблатам у 1955 г. на Магілёўшчыне[104], мае выразныя прыкметы

[104] Белорусское искусство.— Мн., 1957, с. 97—107.

нацыянальнай асіміляцыі. Ён з'яўляецца адным з прыкладаў скарочанага варыянта народнай драмы «Цар Максімілян», пазбаўленага колькі-небудзь разгорнутых камедыйных сцэн, хоць тут і захаваліся традыцыйныя для пераважнай большасці запісаных на Беларусі тэкстаў Доктар, цыган і дзед. Аднак камедыйны патэнцыял гэтых герояў у творы намнога ніжэйшы, чым у папярэдніх варыянтах драмы.

У 1960 г. занатаваны апошні з усіх вядомых сёння беларускіх варыянтаў драмы — «Цар Мамай»[105]. Сама назва яго, відаць, выпадковая, бо ў п'есе няма цара Мамая, а галоўны герой называе сябе Максімам Амяльянавічам. Драма ў значнай ступені адыходзіць ад традыцыйных, замацаваных у большасці варыянтаў «Цара Максіміляна» канонаў, як сюжэтна-кампазіцыйных, так і моўных. Мова тут больш вольная, набліжаная да звычайнай гутарковай, нават у цара і Адольфа.

Твор ажыўляецца за кошт сцэн, не звязаных з асноўным сюжэтам. Адсутнасць традыцыйна-камедыйных персанажаў — Дзеда, Яўрэя і інш.— некампенсавана вобразамі Казака, Гусара, Ванькі і часткова Смерці. У вялікім маналогу Гусар хваліцца сваёй адвагай, паведамляючы, што яго «сабля-ліхадзейка ... многа турэцкіх і французскіх галоў палажыла», і за гэтыя перамогі ён быў узнагароджаны медалём і крыжам. Аднак жаданне Гусара выставіць сябе высакародным рыцарам прафануецца яго паходжаннем. На пытанне Мамая: «Верна, гусар, ты не простага роду?», ён адказвае: «Нет-нет, каменшчык, пастухоў сын».

Па сутнасці, такім жа ўстаўным інтэрмедыйным фрагментам з'яўляецца і маналог Казака, у якім ён падаецца як горкі п'яніца і гуляка. Ролі Казака і Гусара абмежаваны адным маналогам, і ў далейшых падзеях драмы гэтыя персанажы не ўдзельнічаюць. Прычым іх выхадам перапыняецца развіццё асноўнай канфліктнай сітуацыі паміж Мамаем і Адольфам, што ў дачыненні да беларускіх тэкстаў твора з'яўляецца прыкладам адзінкавым.

Існаваў варыянт драмы, дзе асабліва выразна бачна яе пазнейшая трансфармацыя. У якасці прыкладу можна прывесці варыянт «Цара Максіміляна», запісаны К. П. Кабашнікавым па ўспамінах аднаго з удзельнікаў прадстаўлення, тэкст якога да нас не дайшоў. Ён як у сюжэце, так і ў трактоўцы асобных вобразаў меў нямала новых рыс. Канфлікт развіваўся выключна ў сферы барацьбы за ўладу адной дынастычнай лініі, прычым барацьба гэта мела нязменна-паслядоўную форму прыдворных інтрыг, змоў і г. д. Няцяжка ўбачыць у такім істотным пераасэнсаванні сюжэта драмы ўздзеянне прафесійнай драматургіі.

Дайшоўшыя да нас варыянты «Цара Максіміляна» даюць пэўнае ўяўленне аб межах пашырэння драмы і асаблівасцях яе жывога бытавання і ігравога ўвасаблення.

З геаграфічных рэгіёнаў, дзе «Цар Максімілян» ставіўся найбольш

[105] АІМЭФ АН БССР, ф. 8, воп. 1, спр. 57, сш. 3, с. 23—29. Тэкст драмы запісаны К. П. Кабашнікавым у в. Бялевічы Слуцкага раёна.

часта, трэба назваць Случчыну. У пачатку XX ст. паставіў скарочаны варыянт драмы слуцкі шавец Нічыпар Дыла [106], вядомы ў горадзе батлейшчык. Гэты ж варыянт пазней ён паставіў з гуртам слуцкіх шаўцоў, якія давалі да пяці і больш прадстаўленняў за адзін калядны вечар. На жаль, тэкст яе, перакаваны ў 20-я гады дачкой Нічыпара Дылы Наталкай для Дзяржаўнага музея, не захаваўся. У архіве Язэпа Дылы, які ў дзіцячыя гады шмат разоў бачыў гэту драму, ёсць цікавыя ўспаміны аб падрыхтоўцы спектакля. Мяркуючы па яго звестках, спектакль рыхтаваўся вельмі сур'ёзна: у ролі рэжысёра выступаў запрошаны на пастаноўку батлейшчык, а ўсе касцюмы персанажаў шыліся па спецыяльных эскізах вядомага ў горадзе іканапісца Вяроўскага.

Як ужо адзначалася, арыгінальны варыянт «Цара Максіміляна» меў пашырэнне ў асяроддзі беларускіх рабочых-гутнікаў. Паселішчы выдзімальшчыкаў шкла звычайна размяшчаліся ў лесе, побач з гутамі, і з'яўляліся невялікімі, ізаляванымі ад навакольнага свету астраўкамі. Гэта асаблівасць накладвала пэўны адбітак на побыт і духоўны свет рабочых-гутнікаў, якія вымушаны былі ў пошуках працы вандраваць з адной гуты на другую, дзе панаваў аналагічны ўклад жыцця. Менавіта сярод іх сустракалася нямала ўдзельнікаў прадстаўленняў народнай драмы, якія, пераходзячы на новае месца, станавіліся арганізатарамі яе пастановак. Адным з іх быў стары рабочы-шкловыдзімальшчык М. Ганчароў [107]. Упершыню ён пазнаёміўся з драмай прыкладна ў 1904—1905 гг., калі глядзеў прадстаўленне рабочых-гутнікаў у Міхаліне (цяпер Івацэвіцкі раён). У 1912 г. М. Ганчароў ужо як выканаўца ролі Адольфа прымаў удзел у выкананні «Цара Максіміляна», а пераехаўшы ў 1916 г. на Случчыну, ён становіцца адным з ініцыятараў пастаноўкі драмы.

Са Случчынай звязана яшчэ адна цікавая пастаноўка «Цара Максіміляна». Маецца на ўвазе прадстаўленне ў 1962 г. у в. Бялевічы ўжо вядомага «Цара Мамая». Бялевіцкі спектакль у значнай ступені меў характар этнаграфічнага віднвішча, хоць і не быў пазбаўлены многіх рыс жывога народнага прадстаўлення.

«Спектакль ігралі на пляцоўцы ля гумна, на фоне хлява. За ім пачыналіся залітыя вадой палі, на якіх пахаджалі буслы і іншыя прылётныя птушкі. У дзень прадстаўлення было яркае сонца і блакітнае неба з рэдкімі хмаркамі.

Усе выканаўцы былі апрануты ў белыя кашулі з чырвонымі пагонамі, у чорныя штаны і боты, у залатыя папяровыя шапкі. На грудзях ззялі

---

[106] Нічыпар Дыла — стрыечны дзядзька Язэпа Дылы, вядомага дзеяча беларускай культуры. Звесткі аб пастаноўках «Цара Максіміляна» змешчаны ў лісце апошняга, які захоўваецца ў АІМЭФ АН БССР, ф. 1, воп. 1, спр. 6, л. 52.

[107] Ад М. Ганчарова цікавыя звесткі аб пастаноўках «Цара Максіміляна» сабраў у свой час К. П. Кабашнікаў. Гл. яго артыкул у зборніку «Народный театр» (Л., 1974, с. 141—145).

ордэны і медалі: Георгіеўскі крыж і медалі былі ў цара, ордэны з бляхі ў казакоў. Максімілян меў сапраўдную шаблю, плашч у яго гэтак жа, як і ў Ката, быў змайстраваны са шторы, знятай з вакна мясцовага клуба, а барада зроблена з ільняной кудзелі. Долька (Адольф-царэвіч) меў праз плячо блакітную ленту і гаварыў піскьявым голасам. Кат павязаў галаву чырвонай хусткай, як карсар, на грудзях меў намаляваныя на паперы чэрап і косці, а за папругай — вострую сякеру. Смерць была апранута ў шэры халат, хустку, вочы і шчокі падведзены чорным алоўкам для брывоў, у руках — вышчарбленая каса. Лекар — задонскі аптэкар быў апрануты ў белы халат і шапачку, на носе акуляры з дроту. Яго атрыбуты — шпрыц з іглой і ампула з камфарай. Астатнія ўдзельнікі — Аніка, Скаравод-фіцьмаршал і казакі мелі драўляныя шаблі, якім пазайздросцілі б бутафоры нашых прафесійных тэатраў.

Галаву Дольку адсякалі так: казакі абступалі яго і Смерць, закрываючы ад гледачоў. Смерць ляскала касой, усе крычалі «ух!» і схіляліся над ім. Калі расступаліся, гледачы бачылі накрытае прастынёй цела Долькі, у гэты час Скаравод-фіцьмаршал нёс яго шапку цару і казаў: «Вось яго галава!» Максімілян плакаў, выклікаў Лекара — задонскага аптэкара. У гэты час іграўся невялікі ўрывак з народнай драмы «Лодка», а пасля адбывалася «прыжыўленне» галавы. Непасрэдна перад гэтай працэдурай быў шэраг жартоўных пантамімічных дзеянняў: шукалі пульс ... у нагах, а сэрца... у жываце. Галава прыстаўлялася даволі спрытна. Лекар браў шапку Долькі (яна ж цяпер фігуравала як галава) у левую руку, а правай браўся за край прастыні і адным рухам адкідваў яе, адначасова надзяваючы на галаву шапку. Так Долька атрымліваў сваю адсечаную галаву. Пасля ўколу ў жывот ён уставаў, і ўсе пачыналі танцаваць. Ззаду прыстройвалася Смерць з касой. Казакі перапынялі танец і, абступіўшы яе, засякалі шаблямі. Заканчвалася гэта прадстаўленне паказам батлейкі, якая ішла ў суправаджэнні старога музыкі-скрыпача»[108].

Сцэнічная гісторыя народнай драмы захоўвае факты самых розных пастановак «Цара Максіміляна». Адны з іх ладзіліся ў вясковай хаце, другія — на ўлонні прыроды. Але вядомы і спектаклі, якія патрабавалі спецыяльнага памяшкання, вялікай падрыхтоўчай работы і значнай колькасці ўдзельнікаў.

Значнае пашырэнне мела драма і ў Гомельска-Беліцка-Рэчыцкім рэгіёне. Менавіта тут ад былых удзельнікаў яе прадстаўленняў запісалі ў свой час варыянты «Цара Максіміляна» Е. Раманаў і А. Грузінскі. У в. Ровенская Слабада Рэчыцкага раёна існаваў сталы звычай наладжваць «маскарад», у рэпертуар якога ўключалася і гэта драма[109].

---

[108] АІМЭФ АН БССР, ф. 1, воп. 1, спр. 3, л. 127—129.

[109] Звесткі аб пастаноўцы моладдзю ў час каляд «Цара Максіміляна» ў гэтай вёсцы запісаны І. К. Цішчанкам ад 79-гадовай Фядосі Сівухі ў 1956 г. і захоўваюцца ў АІМЭФ АН БССР, ф. 1, воп. 1, спр. 1425, л. 239—240.

Адзначаючы асаблівую «жывучасць» «Цара Максіміляна», Ю. Галомбэк паведамляе аб пастаноўцы драмы ў 1937 г. у в. Лахаўцы Лунінецкага павета. Тэкст прадстаўлення, якое ладзіла моладзь гэтай вёскі на каляды, быў запісаны адным з гледачоў і перададзены Ю. Галомбэку [110].

Мяркуючы па невялікім фрагменце драмы, апісанне якога падае польскі даследчык, яна ўяўляла сабой адзін з беларускіх варыянтаў «Цара Максіміляна», атрымаўшы пад уплывам часу пэўнае пераасэнсаванне. Яно выявілася ў рэзкім асуджэнні тыраніі Максіміляна, з якім адкрыта выступае ў п'есе сябра Адольфа. Ён пагражае цару «адсячы галаву, павесіць на ліхтар, а народу даць волю» [111].

Пастаноўкі «Цара Максіміляна» паказваюць, што вялікае значэнне надавалася перыяду падрыхтоўкі спектакля. З падрабязнага апісання, зробленага М. Васільевым на Лебядзінскім цукровым заводзе, відаць, што падрыхтоўка пачыналася задоўга да каляд. У вольны ад працы час развучваліся ролі, майстраваўся ўвесь неабходны рэквізіт: касцюмы, шапкі, паясы, шаблі і г. д. Калі ўсё было гатова, выканаўцы «Трона» (пад такой назвай ставілі тут «Цара Максіміляна») пачыналі абход дамоў.

На другі дзень каляд гурт часта выпраўляўся на суседнія заводы і ў мястэчкі, дзе даваў прадстаўленні. Існаваўшая на Лебядзінскім заводзе трупа наведвала Каштанаўку, Шполу, Нова-Міргарад і Златаполь і давала прадстаўленні драмы больш дванаццаці год запар.

«Трон» ставіўся таксама на многіх цукраварнях Кіеўскай губерні беларусамі-адыходнікамі. Пад непасрэдным уплывам гэтых гуртоў складваліся мясцовыя трупы, пераймаўшыя вопыт і прынцыпы пастаноўкі драмы.

Гурты выканаўцаў «Цара Максіміляна» былі рознымі як па складу ўдзельнікаў, так і па колькасці. Найбольшыя налічвалі да 30 і нават 40 чалавек, існавалі і зусім невялікія групы. Калі не набіраўся неабходны для пастаноўкі драмы кантынгент удзельнікаў, igралі па дзве ролі. Пры адборы выканаўцы на канкрэтную ролю ўлічваліся не толькі індывідуальныя здольнасці, але і тыпаж.

Абыходзячыся без спецыяльных сцэнічных падмосткаў і дэкарацыйнага афармлення, народны тэатр адначасова заставаўся яркім відовішчам. Гэта дасягалася і за кошт знешняй трансфармацыі, у сістэме якой першаступеннае значэнне належала касцюму, тэатралізаванаму пераапрананню.

Вось чаму адным з асноўных клопатаў пры падрыхтоўцы спектакля быў падбор касцюмаў для галоўных персанажаў п'есы. Нават у вясковых прадстаўленнях іх імкнуліся наблізіць да вайсковай формы адзення, уніфікаваць. Куплялі салдацкія мундзіры, рамяні, эпалеты і г. д. Шапкі і карону Максіміляна рабілі звычайна з паперы — матэрыялу недаўгавечнага, але

[110] Як сведчыць сам даследчык, лунінецкі стараста ў пісьме да вышэйстаячых улад у Брэсце ад 28.01.1937 г. паведамляў аб пастаноўцы і пераслаў тэкст драмы і 3 фотаздымкі. Пазней гэты тэкст перадаў Ю. Галомбэку інжынер Ян Грабоўскі.

[111] Prace komisji etnograficznej. — Kraków, 1938, № 17, с. 35.

таннага. Аб асаблівасцях сцэнічнай экіпіроўкі «Цара Максіміляна» можна меркаваць па пастаноўцы драмы ў 1962 г. у в. Бялевічы. Уся світа цара выступала ў белых, падперазаных салдацкімі рамянямі кашулях, ботах і зробленых з паперы шапках. Падобная уніфікацыя касцюма дазваляла ўспрымаць світу як адзіны, калектыўны персанаж спектакля, своеасаблівы хор. Такое ўражанне падтрымлівалася і характарам дзеяння світы, якое складалася са шматлікіх праходаў і танцавальна-пантамімічных рухаў па замкнутаму кругу, нагадваючых карагоднае кола.

Касцюмы для камедыйных персанажаў — Дзеда, Яўрэя, Цыгана — падбіраліся ў адпаведнасці з існаваўшай тэатральнай традыцыяй і не выклікалі асаблівай цяжкасці.

Бутафорыю для спектакля часткова падбіралі, часткова выраблялі самі ўдзельнікі. Выраблялі тыя рэчы, якіх нельга было знайсці ў паўсядзённым побыце ці падабраць ім адпаведнікі. Гэта атрыбуты царскай улады Максіміляна — скіпетр і «дзяржава», пікі або мячы для яго світы і г. д. Зрэшты, як і ва ўсім іншым, тут імкнуліся захаваць тэатральную ўмоўнасць, уласцівую народнаму тэатру. Яе прынцыпы былі добра вядомы гледачу, таму ён як належнае ўспрымаў і несапраўдную касу, з якой выходзіла Смерць, і звычайны стул, што на час прадстаўлення станавіўся тронам Максіміляна і г. д. Напрыклад, у пастаноўцы на Лебядзінскім цукровым заводзе Дзед, Яўрэй і Цыган выязджалі вярхом на палцы, а дзверы з сяней у хату, пасярод якой адбывалася прадстаўленне, адначасова з'яўляліся і асноўным выхадам для герояў п'есы і ўваходам у карчму. Менавіта Дзед, стукаючы ў дзверы, будзіў Яўрэя, які на працягу ўсяго спектакля ляжаў ля парога.

У прадстаўленнях народнай драмы рэдка выкарыстоўваліся эфекты, здольныя ўзрушыць ці здзівіць гледача. Як на выключэнне можна спаслацца толькі на два выпадкі, калі быў ужыты прыём вывяржэння полымя з роту персанажа. У Беліцкім варыянце Е. Раманава такім чынам падкрэслівалася экзатычнасць Арапа [112], літаральна спраўджвалася яго першая ж рэпліка: «Жарам пылаю». У «Троне» гэты ж прыём ужываецца падчас бойкі Шампана і Буяна, якія, удараючы мячамі па шчытах, «выкідваюць з роту па снапу полымя» [113].

Асабліва інтэнсіўным быў зварот да драмы «Цар Максімілян» у канцы XIX і пачатку XX ст. Дайшоўшыя да нас матэрыялы аб яе пастаноўках у гэты час дазваляюць зрабіць пэўныя высновы. У першую чаргу ў сцэнічным увасабленні народнай драмы ўжо замацаваліся пэўныя мастацкія прынцыпы. Яны былі рознымі ў залежнасці ад месца выканання: у вёсцы ці ў горадзе. Вясковы варыянт меў свае характэрныя рысы: тут, як вынікае з большасці тэкстаў і паведамленняў, іграўся скарочаны варыянт драмы. Часта ён уключаўся ў агульную праграму вечара і станавіўся толькі

---

[112] У гэтай ролі выступаў вымазаны ў сажу хлопец, які пырскаў папярэдне набраным у рот скіпідарам ці газай на свечку, адчаго ўтваралася полымя.

[113] Этнографическое обозрение, 1898, № 1, кн. 36, с. 91.

часткай прадстаўлення. «Цара Максіміляна» на вёсцы іншы раз «вадзілі» падобна да таго, як вадзілі «казу», «жорава», «мядзведзя».

Прадстаўленні «Максіміляна» ў пераважнай большасці выпадкаў ладзіла вясковая моладзь і паказвала ў час каляд у якой-небудзь прасторнай хаце. Гледачы, як і на іншых тэатралізаваных паказах, размяшчаліся побач з выканаўцамі, ніякага прыстасавання ці спецыяльнай пабудовы для выканаўцаў не існавала. Касцюмы і ўсю неабходную атрыбутыку майстравалі самі ўдзельнікі. Іншымі словамі, падрыхтоўка спектакля і сам спектакль адбываліся ў сталых традыцыях народнага тэатральнага мастацтва.

У прадстаўленнях драмы на заводах, гутах, у гарадах акрэсліліся рысы, уласцівыя прафесійнаму спектаклю. Аснову такой пастаноўкі складаў больш разгорнуты тэкставы варыянт п'есы, а прадстаўленні, асабліва на гутах, адбываліся ў даволі вялікіх памяшканнях, якія папярэдне спецыяльна рыхтавалі: будавалі памост-сцэну, рабілі месцы для гледачоў [114].

У гісторыі беларускага сцэнічнага мастацтва вядомы факт звароту да «Цара Максіміляна» прафесійнага тэатра. У 1924 г. ён быў пастаўлены ў Беларускай дзяржаўнай студыі ў Маскве. Асновай спектакля [115] паслужыла драматургічная апрацоўка А. Рэмізава і М. Міцкевіча, якая грунтавалася на адным з беларускіх варыянтаў драмы [116].

Пастаноўку «Цара Максіміляна» ажыццявіў адзін з кіраўнікоў студыі рэжысёр МХАТа-2 В. Смышляеў. Разам з Б. Афоніным ён рэжысіраваў спектакль, над мастацкім афармленнем якога працаваў Л. Нікіцін. А. Аленін зрабіў музычную апрацоўку калектыўна падабраных студыйцамі беларускіх мелодый.

У спектаклі былі заняты ўсе студыйцы, а прэм'ера адбылася 24 мая 1924 г. на Арбаце ў памяшканні студыі.

Восенню гэтага ж года «Цара Максіміляна» ігралі ў Калоннай зале Дома Саюзаў, у Эксперыментальным тэатры (былы тэатр Зіміна), у тэатры «Акварыум» і ў іншых памяшканнях.

У чэрвені 1924 г. Беларуская студыя прыехала ў Мінск і дала сем прадстаўленняў драмы. Паводле сведчання М. Піятуховіча, глядач прыняў пастаноўку даволі стрымана і «яна выклікала шмат спрэчак», у той час як маскоўскі друк адзначаў значныя дасягненні калектыву і прарочыў яму вялікую будучыню.

Прафесійныя пастаноўшчыкі і выканаўцы «Цара Максіміляна», імкнучыся наблізіць твор да жыцця, разглядалі яго як пэўнае мастацкае асэнсаванне нядаўніх рэвалюцыйных падзей. Таму многае ў гэтым спектаклі пераклікалася з барацьбой народа ў час Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая прынесла сацыяльнае раскрэпаванне працоўным масам.

---

[114] Народный театр.— Л., 1974, с. 143—144.
[115] Пастаноўка пазней была ўключана ў рэпертуар БДТ-2, створаны ў 1926 г. у г. Віцебску на аснове студыі.
[116] Гэты варыянт драмы быў запісаны па просьбе М. Міцкевіча ў 1923 г. у Рэчыцы Ф. Дзедзенкам у час прадстаўлення.

* * *

Працэс станаўлення народнай драмы ва ўсходнеславянскіх народаў меў шмат агульнага, хоць у ім знаходзілі выяўленне і некаторыя спецыфічныя рысы, характэрныя для кожнай народна-драматычнай традыцыі. У адрозненне ад Расіі, дзе «фарміраванне народнай драмы ішло ад больш простых форм да больш складаных, «шматактовых» драматычных твораў» [117], у Беларусі народная драма развівалася ў асноўным у малых формах.

Ігравое ўвасабленне драмы абапіралася на традыцыйныя прынцыпы народнага прадстаўлення, убірала папярэдні вопыт і адначасова развівала далей асобныя прыёмы тэатральнага відовішча.

Спецыфічныя асаблівасці драмы, як і ўсёй народнай драматычнай творчасці, вылучалі яе з агульнага фальклорна-этнаграфічнага комплексу. Гэта ў першую чаргу дзеянне, якое тут з'яўляецца «формай адлюстравання рэчаіснасці і сродкам выяўлення адносін да яе чалавека» [118]. Другая спецыфічная прыкмета драмы — «запраграмаваная» ў ёй неабходнасць пераўвасаблення чалавека ў той ці іншы вобраз, якая прадугледжвае выкарыстанне ўсіх вядомых народнай традыцыі сродкаў іграгавога ўвасаблення: грыму, маскі, пераапранання, жэсту, мімікі і інш. «Трэцяй, маючай прынцыповае значэнне прыкметай, якая дазваляе гаварыць аб уласна драматычнай творчасці, з'яўляецца зараджэнне эстэтычнай функцыі дзеяння і пераўвасабленне чалавека (адрознай ад практычнай, рытуальна-магічнай ці культавай функцыі), якая выяўляецца ў элементах мастацкай (часта бессвядома мастацкай) вобразнасці» [119].

Народная драма — вяршыня калектыўнай драматычнай творчасці, у якой найбольш поўна ўвасобіліся характэрныя асаблівасці тэатральна-іграгавой культуры народа. Яна, асабліва ў буйных сваіх формах, выявіла рысы, блізкія да прафесійнай тэатральнай творчасці, аб'ектыўна стала асновай зараджэння новага нацыянальнага тэатра.

* * *

У том уключаны рэпертуар абрадава-фальклорных форм тэатралізацыі, а таксама тэксты інтэрмедый, батлейкі, народнай драмы. Большасць тэкставых матэрыялаў узята з друкаваных першакрыніц, некаторыя знойдзены ў архівах і публікуюцца ўпершыню.

*М. А. Каладзінскі*

---

117 Лазарев Н. И. Народный театр.— У кн.: Русское народное поэтическое творчество.— М., 1978, с. 300.

118 Гусев В. Е. Истоки русского народного театра.— Л., 1977, с. 4.

119 Там жа, с. 5.

# КАЛЯНДАРНЫЯ І СЯМЕЙНА-БЫТАВЫЯ АБРАДЫ І СВЯТЫ

## ГУКАННЕ ВЯСНЫ

З благавешчання амаль на ўсёй Беларусі дзяўчаты пачынаюць гукаць (клікаць) вясну.

Звычайна само гуканне адбываецца ў нас так: гурты дзяўчат збіраюцца на самыя высокія месцы ў вёсцы, ля гумнаў; гэтыя месцы яны высцілаюць саломаю і, пасеўшы там у рад, пяюць да позняй ночы вясновыя песні. Гэтыя песні чуваць тады на ўсіх падобных «зборнях» наваколля. Іншы раз спяваюць па чарзе: у адным месцы пачнуць і спыняцца, у другім прадоўжаць пачатую песню. Хлопцы ж з дудкамі і гармонікамі акампануюць, пераходзячы ад аднаго зборнага месца на другое.

### ВЯСНА КРАСНА, АДКУЛЬ ПРЫШЛА

— Вясна красна, адкуль прышла,
Адкуль прышла, што прынясла?
— Прынясла я цёплае лецейка:
Малым дзеткам — па яечку,
Старым бабкам — па кіёчку,
Красным дзеўкам — па вяночку,
Маладзіцам — па сярпочку.
Старыя бабкі — чапцы шыці,
Красны дзеўкі — вянкі віці,
Маладзіцы — жыта жаці.
Красны дзеўкі — на вулічку,
Маладзіцы — за люлечку,
Красны дзеўкі — гулі, гулі,
Маладзіцы — люлі, люлі.

### КУЗЁМКА, ШАЎКОВАЯ БАРОДКА!

— Кузёмка, шаўковая бародка!
Чаму не жэнішся?
— Рад бы я жаніцца,
Дзевачкі-сястрыцы,—

Па мне дзеўкі нету.
Адна па мне Рожа,
Яна і гожа і прыгожа,
На вулку не ходзіць,
Таночкаў не водзіць,
Вяночка не носіць.

Дзеўкі Кузьму ўчылі:
— Надзень, Кузьма, рубашачку,
І надзень андарачык,
І падпяражы хвартук,
Завяжы платочык,
І надзень вяночык,
Пайдзі к Рожы пад акошка,
Заві Рожу на вулку:
«Ты, Рожа, сястрыца,
Хадзі са мной на вулку!» —
«Вы, дзевачкі, сястрыцы,
Баюся Кузёмкі».—
«Ты, Рожа, сястрыца,
Кузьмы дома нету!»
Вышла Рожа на вулку,
Рожа ў дзевак пытаець:
— Што гэта ў вас за дзеўка?
На ножкі ступаець
І за ручкі сціскаець.
— Ты, Рожа, сястрыца,
Гэта ж Кузьма!
Рожу маці клічаць да дому.
— Не жджы мяне, маці, да дому,
Дажыдай мяне, маці,
На Хрыстоў дзянёк
З маладым Кузёмкаю
З красненькім яечкам.

## ПРОВАДЫ ВЯСНЫ

Вясну праважалі на ўшэсце. Сабіраюцца жанчыны, выбіраем жанчыну, адзяваем яе ў мужчынскую адзежу. Гэта паніч у нас. Потым паненка красівей адзяваецца, атлічаецца. Ідуць яны пасярэдзіне, а людзі ідуць паабапал. Пяём песні. Такія песні харошыя пяём. А да рынку дойдзем, танкі водзім. А тады ўжо ідзём к жыту, дзе жыта пасеяна, і ў жыце закапваем ляльку. Ляльку такую ўжо носім у люляцца, у каробацца — гэта ўжо

лічыцца вясна. Закопваем і ўсе пяём. Хто кажа: «Ты сёлета была нехарошая, сухая, каб ты такая не вярнулася, вясна, болей. Ты нам не нада! Закапайце яе!» Хто што прыказваюць, плачуць, выдумляюць што. А тады кажуць: «Хадзіце, людзі, на абед, ужо пахавалі вясну». Ідзём на абед. А як па вуліцы ідзём, «Стралу» пяём.

Пачынаем хадзіць: ходзім, каб усе вуліцы абыйсці. На той бачок зойдзем, гарманіста возьмем. Пяём усякія песні — «Паня пана не ўзлюбіла»:

Паня пана,
Паня пана не ўзлюбіла
Да й атруты купіла,
Да й атруты,
Да свайго пана й атруціла.
Свайго пана,
Свайго пана й атруціла
Да й ў садочку схараніла.
Я ў садочку,
Я ў садочку схараніла.
Лялеяю й абсадзіла.
Лялеяю,
Лялеяю й абсадзіла.
Ты расці, мая лялея,
Ты расці, мая,
Ты расці, мая лялея,
Пакуль мой мілы сатлее.
Пакуль мой мілы,
Пакуль мой мілы сатлее.
Прыехала,
Прыехала два гасцёчкі,
Майго мілага браточкі,
Майго мілага,
Майго мілага браточкі.
— Братавая маладая,
Братавая,
Братавая маладая,
Дзе нашага брата дзела.
Дзе нашага,
Дзе нашага брата дзела?
— Дзевярочкі-сакалочкі,
Дзевярочкі,
Дзевярочкі-сакалочкі,
Ен на войну паехаў.
Ен на войну,

Ён на войну паехаў.
— Братавая маладая,
Братавая,
Братавая маладая,
Чаго коні на стайні,
Чаго коні,
Чаго коні на стайні?
— Дзеврочкі-сакалочкі,
Дзеврочкі,
Дзеврочкі-сакалочкі,
Ён на воліку паехаў.
Ён на воліку,
Ён на воліку паехаў.
— Братавая маладая,
Братавая,
Братавая маладая,
А што ў садзі за маліна,
А што ў садзі,
А што ў садзі за маліна?
Свайго міла схараніла.
— Дзеврочкі,
Дзеврочкі-сакалочкі,
Я дзяціну схараніла,
Я ж дзяціну,
Я ж дзяціну схараніла,
Ялеяю абсадзіла.

## ВАЛАЧОБНІКІ

Валачобніцтва вядзецца ў нас здаўна і трымаецца ўстойліва. Гаспадары прымаюць дакукі валачобнікаў як неабходнасць, як прыемныя і карысныя віншаванні, і большасць чакае іх як блаславёных гасцей, а часткова як прадвеснікаў лёсу гаспадаркі. Паводле разумення сялян, ёсць нейкая таямнічая сувязь паміж візітам валачобнікаў і станам гаспадарчых работ і прыбыткаў надыходзячай вясной і летам. Калі ў час прыходу валачобнікаў у вёску на двары ціха, няма дажджу, ноч ясная, то гэта верны знак таго, што пагода будзе садзейнічаць ярыне, што ўраджай будзе добры, асабліва ж прыбыльным будзе сенакос. А калі толькі валачобнікі зацягнулі свой «лалын», а тут дождж, то не чакай мужык дабра: будуць дажджы і каля Юр'я, і каля Мікола дня, і каля Пятрова і Ілліна дня.

...Валачобнікі ходзяць групамі чалавек па 8 і больш — да 20 і заўсёды трымаюцца ў межах прыхода той царквы, да якой

належаць па месцу жыхарства. У прыходзе ніколі не бывае менш 2—3 валачобных груп, а калі парафія вялікая і адлегласць паміж вёскамі значная, то іх колькасць даходзіць да 10.

Галоўная асоба ў кожнай групе — так званы «пачынальнік», або запявала, ён пачынае песню і пяе ўсе радкі, у яго рукі выдаецца ўзнагарода. У пачынальнікі амаль заўсёды выбіраецца заможны гаспадар, мужык абавязкова галасісты і прытым бойкі, нават назойлівы, каб умець выпрасіць добрую «ўзнагароду». Пры групе абавязкова ёсць музыка, а іншы раз і два: адзін — са скрыпкай, другі — з дудой. Насіць падарункі таксама выбіраецца асобны мужык, заўсёды дужы, адпаведна свайму прызначэнню яго называюць «механошам». Усе астатнія члены групы складаюць нешта накшталт хору. Яны пяюць прыпеў пасля кожнага радка песні і называюцца «падхватнікамі».

...Двор, які стаіць на канцы вёскі, першы прымае віншаванні валачобнікаў, за ім паступова іншыя ў парадку, у якім стаяць. Выключэнняў з гэтага парадку не робіцца ні для каго. Натоўп валачобнікаў звычайна становіцца пад акном дома паўколам, а ў сярэдзіне — пачынальнік, які пад акампанемент скрыпкі зацягвае першы радок «лалына», падхватнікі пяюць прыпеў. Пасля заканчэння гаворыць хто-небудзь з групы, а іншы раз і хорам, кароткае імправізаванае віншаванне. Пасля гэтага звычайна гаспадар або гаспадыня адчыняе акно, дзякуе валачобнікам за гонар і дарує, што бог даў. Атрыманае аддаецца механошу, аж да падзелу. Атрымаўшы дар, група дзякуе гаспадару словамі або кароткай песняй, жадаючы яму прыбытку і ўсялякіх даброт.

## НА ПЕРВЫ ДЗЕНЬ, НА ВЯЛІКДЗЕНЬ

На первы дзень, на вялікдзень,
    Зялён явар, зялёны.[1]
Валачобнікі сабіраліся,
Сабіраліся, рахаваліся:
«А куды пойдзем, а куды зойдзем?»
— Пойдзем, пойдзем усё дарогаю,
Усё дарогаю, усё шырокаю.
Зайдзем, зайдзем к пану Івану.—
«А ці дома, дома пане Іване?»
Хоць жа ён дома — не акажыцца:
У новай каморы прыбіраецца,
Адзяе майтачкі гарнатовыя,
Адзяе боцікі ўсё казловыя,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Адзяе шубачку сабалёвую,
Адзяе шапачку ўсё бабровую,
Выводзіць каня вараненькага,
А кладзе сядло залаценькае.
Садзіцца, едзе ў роўнае поле,
У роўнае поле ды к свайму жыту.
А яго жыта ядраністае,
Ядраністае, каласістае.
К адной мяжы нахілілася,
Сваму гаспадару пахілілася.
Песенька спета проці лета,
А будзь жа весел, як вясна красна,
А будзь жа ціхі, як ціха лета,
А будзь жа багаты, як багата восень.
А ты, гаспадынька, ўсё дагадайся:
Скавародку — у печ, па яечкі — ў клець,
Кусок сала пакрышыці,
А калбаскаю абгарадзіці,
Кварту гарэлкі і сыр на талеркі,
Зялён явар, зялёны.

## А НА ПЕРШЫ ДЗЕНЬ, НА ВЯЛІКАДНЕ

А на першы дзень, на вялікадне,
Вясна красна на ўвесь свет! [1]
Сабіраліся ўдалыя малойцы.
— А мы братцы ды суборныя,
Мы суборныя, мы народныя,
Нашы шапкі ды няроўныя.
А як пойдзем мы дарогаю,
Мы дарогаю шырокаю,
Каго ўстрэнем, папытаем.
Сустрэнем малойчыка,
Шапкі знялі, пакланіліся,
Пакланіліся, папыталіся.
Папыталіся чэснага мужа.
«Ці ж вы яго не знаеце,
Што вы ў мяне пытаеце?
Каля яго двара крутая гара,
Ёсць прыметка — з вінаграду кветка,
А жалезны тын — медзяны вароты,
Падваротнічка — рыб'я костачка,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

А двор выбіты ды талерамі,
Каля ганачка — ды капейкамі,
У сенях — як жар гарыць,
У яго святліцы прастол стаіць.
За прастолам сам бог сядзіць,
Кніжку дзяржыць, святкі лічыць».
Святкі лічыў, лічыў, улічыўся —
На святога Юр'я пазабыўся.
«Святы Мікола, садзіся на коня
Ды едзь, шукай Юр'я святога».
Мікола яму дый аказвае:
«Я каня не маю, я Юр'я не знаю».
— Бяры ключы, ключы залатыя,
Адкрывай вароты дый медзяныя,
Ідзі ў стайню, выбірай каня
Найсівейшага, найсільнейшага.—
Толькі Мікола і к варотам —
Ажно Юрый у вароцечках.
— Дзе ж ты, Юрый, валачыўся,
Што па пояс умачыўся?
— Па бару хадзіў, пчолкі садзіў,
Ды раістыя, медзяністыя.
— Дзе ж ты, Мікола, валачыўся,
Што па пояс урасіўся?
— Па полю хадзіў, жытцо радзіў,
Жытцо радзіў і пшаніцу,
Чэснаму мужу ўсякую пашніцу.
Вясна красна на ўвесь свет!

## ІШЛІ, ПРАЙШЛІ ВАЛАЧОБНЫЯ

Ішлі, прайшлі валачобныя,
Зялён явар, зялёны.[1]
Іграючы, спяваючы,
Багатага двара шукаючы.
Па чым пазнаць ды багаты двор,
Багаты двор — жалезны тын?
А вароцікі ды чысовыя,
Падваротнічка — рыб'я костачка.
А лясь, пабразь у ваконачка:
Ці не пачуе нас пан гаспадар?
Ці не возьме залатыя ключы?
Ці не адамкне залатыя замкі?

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Ці не пусце гасцей на двор?
На двор іду, лістамі сцялю,
Пад акном іду — чалом даю,
Чалом даю, пане гаспадар.
Ці спіш, ці ляжыш, ці не акажашся?
Ці да цэркаўкі сабіраешся?
А калі спіш, бог з табою,
А калі не спіш, гавары са мною.
Адчыні вакно высокае,
Паглядзі ў гумно далёкае,
Што ў тваім гумне за праява стала,
За праява стала, праявілася:
Там цэркаўка станавілася.
У той цэркаўцы прастол стаіць,
Каля прастола залатое крэсла.
На том крэсле сам бог сядзіць,
Пяро дзяржыць, святкі піша,
Катораму напярод пайсці.
Святое раждзяство напярод пайшло,
Новы гадок — за ім у слядок.
Святы крашчэннік ваду пасвянцае,
Святыя грамніцы свечы сучаць,
Святая масленіца бліны пячэ,
Святое благавешчанне заворвае,
Чысты чацвер ячмень сее.
Святое вялічка — з красным яечкам,
З красным яечкам, з цёплым лецечкам.
На первы дзень пірагі маеш,
А на сярэднім дні пагуляеш.
Святы Юрый — божы пасол,
Божы пасол за мора пайшоў.
Адтуль ідучы, узяў ключы,
Узяў ключы залатыя,
Адмыкнуў зямлю сырэнькую,
Пусціў расу цяпленькую.
Пусціў расу на ўсю вясну,
На ўсю вясну, на ўсё лецечка,
На ўсё лецечка, на ўсё цёплае.
Святы Мікола па межах ходзя,
Па межах ходзя і ўсё родзя,
І траву расціць і скоць пасціць.
Святое-ўшэсце жыта раўнуе,
Святая тройца жыта красуе,
Святая дзевятка — у жыце пятка,

Святы Пятро — у жыце ядро.
Святая Ілья жыта зажынае —
З белым сырам, з малым сынам.
Ільёва жана — добрая жняя:
Што раз разне — то і сноп нажне.
Сноп ад снапа — паўтара ступня,
Капа ад капы — толькі дзве ступні.
Дай жа божа, каб было спорна:
На таку ўмалотам, а ў млыну намолам,
А ў дзяжы падходам, а ў печы ростам,
А на стале сыццю — к добраму жыццю!

Гаспадарочак, мой паночак,
Вазьмі сітца, насып жытца,
Дзяржы роўна, насып поўна.
Не будзем клясьці, што цяжка нясці,
А будзем хваліць, што ўмееш дарыць:
Запявальнічку — капу яечак,
Памагальнічку — дзесятачак,
А механошу — жыта калошу.
А музыкі — горкая доля;
А што даюць — бярэ і тое:
Кварту гарэлкі, сыр на тарэлцы.
А мы госцейкі нехажалыя,
Нехажалыя, небывалыя.
Мы не часта дакучаем,
А ў гадочку па разочку.
Дзякуй табе, пане, за добрыя дары.
Каб дажыць да лета ды лепей за гэта,
Каб вы добра жылі і лепей нас дарылі.
    Зялён явар, зялёны.

## У ГАРОДЗЕ НА ПАГОДЗЕ

У гародзе на пагодзе,
    Віно ды віно ж маё зялёнае! [1]
Там хадзіла курапат стада,
Між тых курапат сіня вутачка.
Скуль жа ўзяўся селязень сівенькі,
Усе курапаткі паразганяў,
Сіню вутачку к сабе ўзяў.
Узяў яе, павёў яе,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Павёў яе ў нову клетачку,
Пасадзіў яе ў новай клетачцы:
— Сядзі, сядзі, сіня вутачка,
Я да цябе прылятаць буду,
Я ды цябе карміць буду,
Я ды цябе паіць буду,—
Карміць буду пшанічанькай,
Паіць буду расіцінкай!
У Валожыне на ганачку
Там стаяла табун дзевак,
Між тых дзевак — красна паненка,
Красна паненка малада Алёнка.
Скуль узяўся красны панічык,
Красны панічык, малады Іванька.
Усім дзеўкам «Добры дзень!» даў,
А перад Алёнкай шапачку зняў,
Шапачку зняў, за ручку ўзяў,
За ручку ўзяў, павёў яе,
Павёў яе ў нову камору,
А пасадзіў яе ў новай каморы:
— Сядзі, сядзі, малада Алёнка,
Я да цябе прыязджаць буду,
Я ды цябе карміць буду,
Я ды цябе паіць буду,—
Карміць буду пірагамі,
Паіць буду мёдам, віном!
Вось табе, Алёнка, песня спета,
Песня спета проці лета,
Проці цёплага і вясёлага,
І вясёлага і здаровага.
Красна Алёнка, не тамі гасцей,
Не тамі гасцей, надары барджэй:
Карэц яец нелічоных.
А мы тыя яйкі самі пералічым,
Красну Алёнку самі падвялічым:
— Каб цябе, Алёнка, камары не елі,
Камары не елі, мошкі не кусалі,
Мошкі не кусалі, хлопцы цалавалі!

## ЛУЖКОМ, ЛУЖКОМ ДЫ ДАЛІНКАЮ

Лужком, лужком ды далінкаю,
Ды віно ж маё зеляное!
Сцежачкамі дратаванымі

Тудой ішлі валачобнічкі,
Спяваючы, іграючы,
Малойчыка шукаючы:
— А ці ўдома, дома слічны панічык,
Слічны панічык, малады Іванька?
Хоць і ўдома не акажацца,
За столікам за цісовенькім
Піша лісты ў тры зямлі:
У першую — у Турэцкую,
У другую — у Шведскую,
У трэцюю — у Валынскую.
У Турэцкую — па коніка,
У Шведскую — па золата,
У Валынскую — па валыначку.
На коніку паязджаць будзе,
А золатам шаваць будзе,
І з валыначкай векаваць будзе!

## ПАСВІЛА ДЗЕЎКА СТАДА КОНЕЙ

Пасвіла дзеўка стада коней,
        Яркае сонца ў ваконца! [1]
Стада коней, стада вараненькіх.
Легла ж яна, задрамала,
Задрамала — коней пацірала.
Пашла ж яна дарогаю,
Дарогаю шырокаю,
Стрэла ж яна трох малойчыкаў,
Трох малойчыкаў-валачобнічкаў.
— Валачобныя, людзі добрыя,
Ці відзелі стада коней?
— Хоць відзелі, дык не скажам.
Адгадай, дзеўка, шэсць загадак.
Адгадаіш, коней скажам:
А хто бяжыць без повада?
А хто іржэць без голаса?
А што расцець без кораня?
А што гарыць без полымя?
А што бела, ды нябелена?
А што чорна, ды нячэрнена?
— Вада бяжыць без повада,
А конь іржэць без голаса.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Камень расцецъ без кораня.
Сажа гарыцъ без полымя.
Белы лебедзь, ды нябелены.
Чорны воран, ды нячэрнены.
— Твае коні ў чыстым полі.
А ядуць яны шаўкову траву,
А п'юць яны ключаву ваду.
Яркае сонца ў ваконца!

## ВАЛАЧОННІКІ ВАЛАЧЫЛІСЯ

Валачоннікі валачыліся,
Вясна красна к нам прыйшла.[1]
Ды па пояс памачыліся,
Прыйшлі к бабцы, абсушыліся.
Дала бабка ўсім па яечку,
Усім па яечку і па піражку.
Аднаму сіраце ды не стала,
Пайшоў сірата за новыя варата.
Вярніся, сірата, дам табе яечка!
Сірата не ўзглянуў, не падзякаваў.
Вярніся, сірата, дам табе дачку,
Дачку-швачку і работнічку.
Сірата ўзглянуў і падзякаваў:
Дзякуй табе, бабка, за дачку-швачку,
Цяпер будзем хадзіць ўдваём ў тваю хатку.
Вясна красна к нам прыйшла.

## ВАЛАЧОБНЫЯ ЛЮДЗІ ДОБРЫЯ

Валачобныя людзі добрыя,
А зялёны явар кудравы.[1]
Валачыліся, памачыліся,
Памачыліся, зайшлі к бабке, прасушыліся.
— А прадай, бабка, да рабога бычку.
— А мне рабы ён самой трэба,
А мне рабы ён скародзе грады.
— Ай, прадай, бабка, да лысага бычку.
— А мне лысы ён самой трэба,
А мне лысы ён жа мые місы.
— А частуй жа, бабка, людзей валачобных.
Стала бабка гасцей частаваці.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Паставіла бабка скараводку ў печку,
Пабяжала бабка па яечкі ў клеці.
Скараводкі з печы, а яечкі з клеці.
Ох, стала бабка яечкі дзяліці,
Адной сіраце да яечка не высталася.
— А я дарую сіраце сыру тарэлку,
Сыру тарэлку і прекрасную дзеўку.
— Ох, спасіба, бабка, за сыру тарэлку,
За сыру тарэлку, за красную дзеўку.
Ох, пашла сірата ды падскакваючы,
Да падскакваючы, да падсмакваючы.
— Ах, спасіба, бабка, за сыру тарэлку,
За сыру тарэлку, за прекрасную дзеўку.

## КУКОЛЬНІКІ

Разам з валачобнікамі раней у Магілёўскай губерні, Аршанскім уездзе, як і ў некаторых мясцінах іншых губерняў Севера-Западнага краю, хадзілі і кукольнікі. Яны спявалі тыя ж песні і на той жа матыў, што і валачобнікі, з той толькі розніцай, што іх песні заўсёды пачыналіся словамі:

Нуця (ці нуце), братцы, кукольнічкі!

Адметнай прыналежнасцю кукольнікаў была даволі шырокая нізкая скрынка з накрыўкай. У яе дно былі ўбіты вострыя колікі, на якіх вольна паварочваліся ў розныя бакі фігуркі конікаў, абшытых рознакаляровым сукном. На самым вялікім коніку белай масці сядзела фігурка чалавека. Гэта быў св. Ягорый, пакравіцель конюхаў і коней і яго стада. У час спеваў гэтая скрынка рухалася ўзад і ўпярод, што прымушала фігуркі круціцца вакол колікаў.

## ЮР'ЕЎСКІ АБРАД ПАСТУХОЎ

Пад вечар, калі жывацїна троху напасецца, пастухі ходзяць па вёсцы і збіраюць яйцы, малако, сала. Вярнуўшыся на поле, кладуць агонь, спякуць яечню, збяруць жывацїну ў кругу. Адзін возьме яечню ў руку (вядома, са скаварадой ці гаршком) і абыйдзе каля жывёлы, а за ім ідуць выбраныя: хто «зайцам», хто «крывым», хто «калодай», а хто «зязюляй». Той, што нясе яечню, пытаецца: «Заяц, заяц, ці горка асінка?» — «Горка!» — «Ніхай жа наша скацінка так будзіць горка воўку [1]». Тады пы-

[1] Вар.: зверу.

тае: «Крывы, крывы! Ці дойдзеш ты?» — «Не, не дайду, ні віжу!» — «Ніхай жа воўк ня відзіць нашай скаціны».— «Калода, калода! Ці павернешся ты?» — «Не, не павярнуся».— «Ніхай жа воўк не павернецца да нашай скаціны». А то яшчэ пытае: «Калода, калода! Ці гніла ты?» — «Гніла».— «Ніхай жа ў воўка зубы будуць гнілы». Тады гаворыць: «Кукушка, кукушка! Прыкукуй нашу скаціну, штоб яна ні разбягалась».— «Прыкукую». Абыйшоўшы кароў, сядуць ля агню, з'ядуць яечню і пачнуць кідаць угору лыжкі і кажуць: «Штоб наша скаціна так угору скакала».

## ПАХАВАННЕ СТРАЛЫ

У сяле Стаўбуне Свяцілавіцкай воласці Гомельскага павета ёсць звычай пахавання стралы. Гэты звычай з'яўляецца заключным актам усяго веснавога цыкла звычаяў і песень.

У гэты дзень (40-ы дзень пасля вялікадня) дзяўчаты апошні раз водзяць карагоды. Павадзіўшы карагоды, яны бяруцца за рукі і доўгім шнурам цягнуцца за сяло ў жыта. Ідучы, пяюць песні.

### 1-я песня

А ідзі, страла, да ўдоўж сяла,
Охі-ой, люлі, ды ўдоўж сяла.[1]
Да ўдоўж сяла — упоперак вуліцы.
Ой, не бі, страла, добрага молайца.
Па том малойцу некаму плакаці:
Матка старэнька, сястра маленька,
Жана малада кала горада.
Дзе мамка плача, там рака цячэ.
Дзе сястрычачка — там крынічачка.
Дзе жана шэльма, там расы няма.

### 2-я песня

У майго татачкі харашо жыці:
Двор пад гарою, сад над ракою.
Пусці, татачка, ў сад пагуляці,
Ні буду тваіх вішань шчыпаці.
Хоць і вышчыпну вінаградачку,
Панясу татку на парадачку.
Парадзь, татачка, парадзь, родненькі,
Як з нялюбым жыць, нéлюбу наравіць?

---

[1] Прыпеў «Охі-ой, люлі» паўтараецца ў другой частцы кожнага радка.

Хоць ні люб табе, заві любенькі,
Хоць ні міл табе, заві міленькі,
Заві міленькі, чарнабрывенькі.

З гэтымі песнямі дзяўчаты прыходзяць у жыта. Там яны рассыпаюцца паасобку, і кожная, хаваючыся, закопвае ў зямлю якую-небудзь рэч: пацерку, пярсцёнак, каснік, тканку і інш. Часам за дзяўчатамі бегаюць хлопцы і шукаюць захаваныя рэчы. Вось гэта і называецца пахаваннем стралы.

## КУПАЛА НА ІВАНА

Купала на Івана.
— Што Іван робіць?
— Косы клепіць.
Купала на Івана.[1]
— Нашто яму сена?
— Кароў карміць.
— Нашто яму каровы?
— Малако збіраць.
— Нашто яму малако?
— Дзяцей карміць.
— Нашто яму дзеці?
— Краскі ірваць.
— Нашто яму краскі?
— Свіней карміць.
— Нашто яму свінні?
— Горы капаць.
— Што ў тых гарах?
— Зялезная ступа.
— Што ў той ступе?
— Палівана міска.
— Што ў той місцы?
— Макава зерне.
— І дзе тое зерне?
— Пятух скляваў.
— І дзе той пятух?
— На мора паляцеў.
— І дзе тое мора?
— Краскамі зарасло.
— А дзе тыя краскі?
— Дзеўкі парвалі.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

— А дзе тыя дзеўкі?
— Замуж пазайшлі.
— Дзе іхныя мужыкі?
— На вайну пашлі.

## РУСАЛКА

На першы дзень пятровага посту, падвечар, дзяўчаты плятуць сабе вянкі і выбіраюць між сябе статную высокую дзяўчыну ў русалкі, якую яны багата ўпрыгожваюць кветкамі і істужкамі. Вечарам, як узыйдзе месяц, дзяўчаты ў белых сарафанах і маністах, з распушчанымі валасамі, пераплеценымі істужкамі, з вянкамі на галовах становяцца ў рад і бяруцца за рукі. Русалка ідзе першай. Спяваючы прыведзеную ніжэй песню, усе ідуць доўгай вераніцай за вёску, на поле. Ідучы, пярэдняя пара ўзнімае ўверх рукі, утвараючы праход, праз які праходзяць усе астатнія.

На гранай нядзелі
Русалкі сядзелі,
Рано, рано! [1]
Правяду русалак
Із бору да бору
У зялёну дуброву,
Русалкі шчоб не ласкаталі,
Узіму не лякалі,
Улетку не пужалі.
Прасілі русалкі
У дзевачак сарочак:
— Дайце нам сарочак.
Хоць яны раўненькі,
Абы былі бяленькі.
На гранай нядзелі
Русалкі сядзелі,
Прасілі русалкі
У маладзічак намётак:
— Маладзічкі цёткі,
Дайце нам намёткі!
Хоць яны раўненькі,
Абы былі бяленькі.
Прывяду русалак
У зялёнае жыта,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожных двух радкоў разам з другім радком.

Там русалкі ў жыці
Зялёным сядзелі.
А мой каласочак,
Як яварочак,
А мае жыцінкі,
Як праскурачкі:
У печы піражком,
На стале калачком.

Прайшоўшы вярсты дзве за вёску, на полі ля кустоў дзяўчаты спыняюцца. У гэты час хлопцы, якія едуць у начное, даганяюць танок. Яны хутка саскокваюць з коней і пускаюць іх пасвіцца, а самі кладуць з кусцеўя вогнішчы і пачынаюць скакаць праз іх (як у некаторых мясцінах на купалле). Дзяўчаты кідаюць у вогнішча вянкі і разбягаюцца. Русалка іх ловіць, і каго спаймае, таго шчыкочуць. Потым заводзяць розныя гульні, у якіх бяруць удзел ужо і хлопцы. Нагуляўшыся і наскакаўшыся, моладзь сядае вакол вогнішча і спявае вяснянкі і граныя песні.

## ВАДЗІЦЬ РУСАЛКУ

На тройцу бярозамі ўбіраюць русалку — адну дзяўчыну ўбіраюць ці хлопца, там як сагласіцца, і другую ўбіраюць — двёх, хлопца і дзяўчыну. І ідзём вуліцай, спяваем, а хлопец і дзяўчына ідуць і ўкланяюцца. Вот людзі стаяць паўз двары, а яны ідуць і ўсім людзям укланяюцца. Потым ужо за сяло вядуць, у жыта. Там з другога сяла вядуць русалку, страчаемся. І разбіраюць ужо тую русалку. І тады ўжо гармонік іграе і пяюць песні. Русалку разбіраюць жанчыны, а бярозавыя галінкі прыносяць на агарод і ўтыкаюць у зямлю, штоб мядзведзька не ела ні капусту, ні буракоў, нішто. Калі водзяць русалку, пяюць «Павяду русалку ад бору да бору» і «На гранай нядзелі». Адну прапяём, другую пачынаем. Тады ўжо «Пташка-канарэйка, падляці ўгору». Гэтыя тры песні спяваем, тады ўжо русалку разбіраем, і моладзь пачынае свае песні пець.

На гранай нядзелі
Русалкі сядзелі.
Ой, рана-рана,
Русалкі сядзелі.[1]
Русалкі сядзелі,
На дзевак глядзелі.

---

[1] Прыпеў «Ой, рана-рана» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

Павяду русалку
Ад бору да бору.
Ад бору да бору,
Ў бацькаву камору.
Ў бацькаву камору,
Ў маткіну святліцу .

Ў маткіну святліцу,
А ў бацькавы сені.
Дзевачкі-сястрыцы,
Дайце мне спадніцы.
Хлопчыкі-браточкі,
Дайце мне сарочку.
Хоч не золянаю,
Дак саколянаю.

## ТРАЕЦКАЯ ГУЛЬНЯ

Дзяўчаты ідуць у лес і, завіваючы на бярозе вянкі, спяваюць пад акампанемент скрыпак:

Русалачкі-зямляначкі
На дуб лезлі, кару грызлі,
Зваліліся, забіліся.
Тройца.

Пасля завівання вянкоў скачуць ля дрэў і, пляскаючы ў далоні, спяваюць:

Мы вяночкі завілі,
Мы гарэлачку папілі
І яечню паелі.

Потым самая старэйшая жанчына сядае на зямлю і робіць выгляд, што спіць. Дзяўчаты, пабраўшыся за рукі, танцуюць вакол яе, спяваючы. Раптам жанчына ўсхопліваецца з зямлі, падскоквае як толькі можна высока, робіць розныя грымасы і б'е па руках дзяўчат шматком прывязанага да кія палатна. Гэта выклікае вясёлы дружны смех у гульцоў і гледачоў.

Усе гэтыя цырымоніі адбываюцца ля дворнага ці сялянскага жыта. Адны з прысутных мужчын іграюць на скрыпках, астатнія з'яўляюцца гледачамі. Гэты вечар заканчваецца танцамі.

## ХАДЗІЦЬ З «КУСТОМ»

...На тройцу дзяўчаты ходзяць з «кустом». Наламаўшы ў бліжнім лесе кляновых галінак, яны звязваюць іх тоўстыя канцы — і куст гатовы. На гэты куст надзяваюць другі, меншага памеру (падкуст), а на галаву абранай па жэрабю дзяўчыны насіць «куст» надзяваюць вянок з розных красак. Затым гэта дзяўчына, рассунуўшы рукамі ў кусце галіны, улазіць у яго, як у мех, так што ён цалкам закрывае яе з ног да галавы. Тоўстыя канцы галін закрываюць галаву дзяўчыны, а тонкія канцы з лісцямі валакуцца па зямлі.

Гэты «куст» ходзіць па вёсцы з вялікай грамадою дзяўчат, і нават малыя дзеці бегаюць за ім. У час гэтай працэсіі дзяўчаты пяюць:

Пойдзем, дзевачкі, у шчыры бор,
Да зрубаемо высокі клён,
Да выкалемо тры дошчачкі,
Да зробімо тры бочачкі:
У адной бочачцы саладок мядок,
У другой бочачцы зеляно віно,
У трэцяй бочачцы горкае піва.
Саладок мядок — то для дзевачак,
Зеляно віно — то для малодачак,
А горкае піва — для малойчыкаў.

## ВАДЗІЦЬ «КУСТА»

У нас на купалле вечарам дзяўчаты адну між сібе ўстрояць у галлё, паяскамі папрывязваюць, так што зусім выдаецца, што куст, і абводзяць яе спяваючы ад хаты да хаты, а хлопцы іх вадой абліваюць. А калі рэчка дзе блізка, то «куста» і ў ваду кідаюць.

Калі ходзяць з «кустом», дзяўчаты спяваюць:

Сягоння Купайло,
А заўтра Ян,
Ой, будзе, хлопцы,
Ліхо вам.
Ой, будзе ліхо ліхое,
Пажанеце свінне ў поле.

Ішла паненка чэраз двор,
Яе сукенка ў дзевяць пол;
Стала сукенка шарэці,
Стала паненка гарэці.

Ідзеце, хлопцы, тушэце,
Рэшатамі воду насеце;
Колькі ў рэшаці вады ест,
Толькі ў хлопцаў праўды ест.

## ЖАНІЦЬБА КОМІНА

Амаль у кожнай хаце 1 верасня жэняць «коміна», г. зн. вялікі пячны комін, а дзе ёсць — і меншы. Калі 1 верасня (дзень св. Сямёна, г. эн. Сімеона Столпніка) прыпадае на посны дзень, то гэта свята адкладваецца да наступнага дня.

Прыгатаваўшы ўсё неабходнае для вячэры, гаспадыня абвязвае комін і лучнік новымі ручнікамі, а моладзь прыбірае іх кветкамі. Стол накрываецца новым абрусам і ставіцца пры самай печы ці пад лучнікам. Як толькі на дварэ сцямнее, у хату збіраецца ўся сям'я.

Гаспадар налівае чарку гарэлкі, некалькі кропель вылівае на адзін і на другі комін і гаворыць прамову — пажаданне накшталт наступнага: «Паздароў, божа, дзедуся, бабуся, дзядзька, дзеткі, чаляднікі, прыяцеляў і дабрадзеяў! Зашчыці худобку: конікі, волікі, кароўкі для дзетак і ўсякую скацінку; зарадзі хлябец, жыта, пшаніцу і ўсякую пашніцу; зашчыці пчолкі, вынесь іх на красну вясну, прыспор мядку і вошчаку. Дай, божа, шчоб нашаму роду не было пераводу, а гэтыя рэкі (паказвае на гарэлку) шчоб цяклі ў нас навекі».

У канцы вечара гаспадыня прапаноўвае моладзі спець жаніху — коміну — вясельную песню. Пры гэтым старэйшая дачка просіць блаславення ў бацькоў ці старэйшых у сям'і і пачынае пець песню, знарок прымеркаваную здаўна да гэтага абраду. За ёй падхопліваюць хорам усе прысутныя:

Ой, прышлі ж ночанькі доўгенькі,
Пасвяці нам, комінку беленькі,
Мы ж цябе кветкамі ўбралі,
Бервяночкам, рутай апеpазалі.
Праца наша — дзеўка гарненька,
Палюбіці коміна радзенька.
Мы ж цябе будзімо жаніці,
Гарэлачку, піво, мёд піці.
Свяці ж, коміночку, ясненько,
Пабуджай чэлядочку раненько:
Шыці, прасці, ткаці маладым,
А падарачкі збіраці старым.
Коміночку, ты нам спагадай,

Кручу, верчу і буры праганяй,
Дым і сажу нясі варагам,
Свет, ахвоту і радасць пашлі нам.
Гаспадыня наша, паглядай,
Гарэлачкі і мёду падлівай.

## ЖАНІЦЬБА КОМІНА

Калі настае час пасядзелак, г. зн. вячэрніх работ пры агні (у адных мясцінах з 1 верасня, у другіх некалькі пазней), жанчыны і дзяўчаты збіраюцца ў прасторную светлую хату, прыносяць з сабою хлеб, мяса, каўбасы і іншую закусь (хто што можа), а таксама гарэлку, запрашаюць музыку і наладжваюць вечарынку (балёк), у час якой спраўляюць «жаніцьбу коміна». Гэты абрад заключаецца ў тым, што дзяўчаты і жанчыны кветкамі, пасвенчанымі ў царкве на Іванаў дзень (святаянскімі), упрыгожваюць комін і пры гэтым спяваюць прымеркаваныя да гэтага выпадку песні.

Паспяваўшы, дзяўчаты разам з запрошанымі хлопцамі пачыналі скакаць пад суправаджэнне скрыпкі розныя танцы, сярод якіх вылучаўся сваёй займальнасцю «Цярэшка». Гэты танец заключаецца ў тым, што дзяўчаты з хлопцамі дзеляцца на пары і становяцца ў два рады: дзяўчаты па адзін бок, а хлопцы па другі. Першая пара, г. зн. хлопец з дзяўчынай, танцуюць «Бычка» і пасля развітваюцца адзін з другім. Дзяўчына адыходзіць ад хлопца, які ўслед за гэтым пачынае яе лавіць і, злавіўшы, зноў становіцца з ёю ў рад. Тое ж самае робяць усе астатнія пары. У час гэтага танца спяваюць наступныя прыпеўкі:

Не ўцякай, бабулечка!
Я твой дзядулечка.
Ці я табе лапцей не сплёў?
Ці я табе абор не звіў?

Або:

На гарэ сучачка брэшэць,
Ка мне мой мілы чэшэць:
Боцікі казловыя,
Падкоўкі сталёвыя.
Боцікі стучаць, стучаць,
Падкоўкі звіняць, звіняць.

Ці так:

А за гарой курта брэшэць,
Ка мне мой мілы чэшэць:
А ці чэшэць, ці не чэшэць,
Не задарма курта брэшэць.

## МІКОЛЬСКІЯ «ЦЫГАНЫ»

...Устройваюць «Салоху». Гэта забава — род маскараду і заключаецца ў наступным. Дзве маладзіцы абкручваюць сабе вакол галавы вялікія чырвоныя хусткі, трэцяя апранаецца ў лахманы і бярэ ў рукі сухія травы. Гэта цыганкі. Да іх далучаецца мужчына з тварам, вымазаным сажай, з люлькай і бізуном у руках: гэта цыган. У суправаджэнні спявачак гэта кампанія ўваходзіць у хату. Дзве маладзіцы ці дзяўчыны ў чырвоных хустках на галаве і мужчына танцуюць, жанчына ў лахманах варожыць, а астатнія спяваюць:

Як у майго бацюшкі золаты вороты,
Золаты вороты, сярэбраны падвароцейкі,
З повороты белы камушек ляжыць,
З-пад белаго камушка быстра рэчачка бяжыць,
А по быстрай па рэчцы судзёнышка плывецъ,
Як па майму счоту ўсяго сем чалавек,
Усяго сем чалавек, а восьмы ваданос,
А восьмы ваданос, а дзевяты кухаварушка,
А дзесяты сам праўдалы маладзец.
Ён па судзёнушку пахаджывае,
Каляну стралу пацягівае,
Сам страле наказывае:
Шчо ляці, ляці, каляная страла,
Шчо ўбі, убі, страла, ясна сакала на вылеце,
Добра моладца на выездзе,
Серу вуціцу ва крутом берагу,
Красну дзевіцу на высокам цераму.
Красна дзевіца — нявеста мая.

## КАЛЯДНЫ ЗВАРОТ ДА МАРОЗА

...Гаспадар, зачэрпнуўшы першую лыжку куцці, трэба каб зваў мароз, пастукаўшы кулаком у сцяну, і сказаў: «Мароз, мароз, хадзі куццю есці! Штоб ты не марозіў ячменю, пшаніцы, гароху, сачавіцы, проса і грэчкі і ўсяго, што мне бог судзіць пасеяць». А гаспадыня, набраўшы ў лыжку куцці, пойдзе да таго вакна, што насупраць печы, пастукае ў вакно і скажа: «Мароз, мароз, хадзі куццю есці! Штоб ты не марозіў расады, гуркоў, гарбузоў, моркві і буракоў і ўсяго таго, што мне бог судзіць пасадзіць і пасеяць».

...А як павячэраюць, то ўсе павінны адыйсці ад стала; гаспадар, тройчы перахрысціўшыся, сядзе на покуці, а жонка на-

супраць яго і папытае: «Чы бачыш ты мяне?» А ён скажа: «Не бачу!» — «Каб жа ты не бачыў за стагамі, за копамі, за вазамі, за снапамі свету». Тады гаспадар папытае ў жонкі: «Бабо! Чы бачыш ты мяне?» — «Не бачу!» — «Каб жа ты не бачыла за гуркамі, за гарбузамі, за капустаю, за буракамі свету». Тады трэба, каб баба ўзяла качаргу і папхнула ёю гаспадара, а ён, хутка паваліўшыся на лаўку, адкажа: «Дай жа божа, штоб твае снапы так хутка падалі на ніве!» Гэта знакам тым, каб снапы былі ядраныя.

## АПІСАННЕ КАЛЯДНЫХ ГУЛЬНЕВЫХ ЗВЫЧАЯЎ У АСІПОВІЦКІМ РАЁНЕ

...Распаўсюджанай забавай узімку з'яўляецца калядная забава — «хадня з казой і мядзведзем».

Збіраецца гурток хлопцаў чалавек 15, прыбіраюць аднаго за «казу», другога за «мядзведзя» і да іх прыстаўляюць павадыроў. Ёсць у гурце пачынальнік спеваў, запрашаецца і музыка з скрыпкай ці дудкай і бубнам, наогул падбіраецца «цёплая кампанія» з вясёлых жартаўлівых і здольных на ўсякія штукі хлопцаў. Ёсць у гуртку і «механоша» з кошыкам і мяшком для збору падарункаў за спевы і скокі: каўбас, сала, пірагоў, а часам і грошай.

Ходзіць гурт з «казою» і «мядзведзем» на першы дзень каляд і ўсю ноч прабавіцца па вёсках. На другі дзень робіцца ўжо сваё ігрышча (вечарынка) з частаваннем на сабраныя сродкі.

«Казу» прыбіраюць так: хлопцу, прызначанаму за «казу», прывязваюць спераду звычайную, але ж больш тонкую і лёгкую дугу так, каб яна ўвагнутасцю прыходзілася да грудзей і жывата і праходзіла паміж ног. Адзін канец дугі павінен вытыркацца трохі ззаду для прывязвання «хваста», а другі — трохі высоўвацца над ілбом для прымацавання «рагоў». Паверх надзяюць два вывернутых поўсцю наверх кажухі, прычым адзін з іх рукавамі на рукі, другі — на ногі. Кажухі завязваюць, прышпільваюць; дуга з'яўляецца жыватом «казы», «рогі» і «хвост» робяць са скруткаў саломы, сплеценых у тры столкі накшталт дзявочай касы.

Прыбор «мядзведзя» гэткі. Робяць доўгі скрутак з гарохвін, вядома, ужо абмалочаных і сухіх; скруткамі гэтымі, спіралевіднымі, блізкімі адзін да другога, абвіваюць па руках, нагах і ўсім тулаве хлопца, на галаву надзяваюць калматую шапку, шыю і твар закрываюць аўчынкамі поўсцю наверх; для вачэй пакідаюць невялікую шчыліну. «Мядзведзь» выходзіць смешны, пры нязначных рухах шамаціць сваёй «поўсцю» — гарохвінамі.

Гэтак падрыхтаваўшыся, хлопцы абходзяць па хатах гаспадароў вёскі.

Перш заходзіць у хату кіраўнік гурта з такім прывітаннем: «Добры вечар, пане гаспадару, дазвольце зайсці ў хату маёй кампаніі з «казою» і «мядзведзем», павіншаваць з святам і развесяліць гаспадарскую сям'ю!» А ў гэты час гурт на дварэ свавесяліць гаспадарскую сям'ю!» А ў гэты час гурт на дварэ свавесяліць...

Гаспадар запрашае. Моладзь шумна і весела з жартамі ўвальваецца са сваім звяр'ём у хату, падрыхтоўваецца да спеваў, а «каза» да скокаў. Гурт пяе, а «каза» скача пад наступную песню:

Добры вечар добрым людзям.
А ці дома сам пан гаспадар?
А хоць ён дома, ды не кажацца!
Го-го-го, каза, го-го, шэрая. [1]
Да ў каморацца прыбіраецца,
У чырвоны боты абуваецца.
Пане гаспадару, адчыні вакно,
Адчыні вакно ды зірні ў гумно —
Што ў тваім гумне шуміць ды гудзе?
Пчаляная матка раёчкі вядзе.
Ой, вядзе, вядзе, дый навучае:
«Садзецеся, дзеткі, па новым вуллям,
А я, стара маць, у старым вуллі
Сыту сыціці — сыны жаніці,
Свечкі сукаці — дочцы даваці».
Гаспадар ідзе, каляду нясе —
Рэшата аўса, наверх каўбаса,
Паўбочкі грэчкі на перапечкі
І кусок сала, каб каза ўстала.

*(«Каза», што ўпала, у гэты момант устае.)*

А ты, козачка, ды не ляніся —
Пану гаспадару ды пакланіся.

*(«Каза» кланяецца.)*

Гаспадынечка — журавіначка,
Вазьмі свечачку, пайдзі ў клетачку,
Вазьмі мачачку на талерачку,
Нашаму казлу на гарэлачку.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Нашаму казлу нямножка трэба:
Паўбочкі грэчкі на перапечкі.
А ты, козачка, ды не ляніся —
Пану гаспадару ды пакланіся,
Пану гаспадару ды з гаспадыняю.

*(«Каза» кланяецца.)*

Пасля «казы» на сцэну выступае павадыр з «мядзведзем». Павадыр кідае мядзведзю ў лапы кій і загадвае спачатку паскакаць. Потым даюцца іншыя загады: напрыклад, паказаць, як бабы на паншчыну ішлі, як з паншчыны; як дзеці ў гарох лазяць, як з гароху ўцякаюць; як хлопец дзяўчыну абдымае і як дзяўчына сароміцца; як ішлі ў карчму і як з карчмы і г. д.

Пасля заканчэння спеваў, скокаў і жартаў ад гаспадара ці гаспадыні ў кошык механошы пападае падарунак салам, каўбасамі ці іншымі рэчамі, а павадыры загадваюць сваім жывёлам пакланіцца гаспадарам, і ўвесь гурт з вясёлым развітаннем выходзіць з гэтай хаты ды ідзе ў другую...

## ВОТ МЫ К ВАМ ІДЗЕМ

Вот мы к вам ідзём
І казу вядзём!
Ну-тка, козанька,
Расхадзіся-тка
І ўсяму двару
Пакланіся-тка:
І гаспадару,
І гаспадарыньцы,
Яшчэ краснай Марыньцы.
А наш гаспадар,
Ён казу жалаў,
Каляду даваў:
Гаспадар ідзець,
Каўбасу нясець,
Тры кускі сала,
Каб каза ўстала,
Паўмеркі аўса,
Каб каза расла,
Чвэртку пшаніцы
На паляніцы,
Каб наша козанька
Да наелася,
Пад механошу

Павалілася.
Ну-тка, механош,—
Дуй казе ў нос:
Надмецца жыла,
Будзе каза жыва.
Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая!
Гдзе ты хадзіла,
Й гдзе ты блудзіла?
— А я хадзіла,
А я блудзіла,
Па цёмных лясах,
Па шырокіх лугах,
А ў ляску, ляску,
На жоўтым пяску
Павалілася,
Аказілася!
На гарэ каза
С казяняткамі;
Пад гарой ваўчок
З ваўчанятамі.
А ваўчок, ваўчок
За козачку чок,
А ваўчаняткі —
За казяняткі!
На палу жыта
Нагамі збіта,
А на печы авёс
Вялікі парос;
А ў том жыцечку
Пірапеліца
Дзяцей вывела.
Большыя, меншыя —
Усе паляцелі,
А меншанькія
Пасірацелі.
Дзе каза рогам,—
Там жыта стогам,
Дзе каза нагой,—
Там жыта капой,
Дзе каза хадзіла —
Там жыта радзіла.
У печы гаршчок
Повен з вадой,—

Не люблю дзеда,
Што з барадой...
На дварэ мядзведзь,
Як хароміна,
А ў дзеўкі вочы,
Як смародзіна.
Дайце лясачку
Папірацціся,
Пайду к дзевачкам
Заліцацціся.
Дзевачка плача —
Замуж не хоча.
А конічак
За варотамі,
Чорт цябе бяры
Із залётамі!
А пайду, пайду
К папову гумну.
Ў паповам гумне
Гарох малоцяць.
Дай нам, бацюшка,
Мерку гароху,
Паўмеркі жыта,
Каб была наша
Козанька сыта.
Не йдзі ты, козанька,
Пад тое сяло,
Пад Журавічы:
А там жа стральцы
Мікалаеўцы
Сабіраліся,
Рахаваліся
Козаньку забіць
І боцікі пашыць,
Боты, халявы
Ззаду дзіравы!
— Не баюся я
Тых стральцоў-байцоў,
Толькі баюся
Старага дзеда.
Стары жа дзед,
Ён не падара,
Ён жа мяне
Кіем удара...

У правае вушка —
Пацячэ юшка,
У правы бачок —
Пацячэ сачок!

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ ТАМУ

Добры дзень таму,
Хто ў етым даму!
Мы самі ідзём
І казу вядзём.
— Го-го-го, каза,
Го-го, серая!
І дзе ты была?
— Каля рэчачкі,
Каля быстрае.
— Што ты парабляла?
— Ягадкі збірала.
— Каму ты давала?
— Сукіным сынам
І разбойнічкам.
— Чым цябе білі?
— Прутамі, прутамі
Бярозавымі,
Палкамі, палкамі
Лазовенькімі.
— Ох, ты козачка!
Узяла б ты сярпок,
Нажала б снапок,
Сваіх дзетачак
Дай пакарміла,
Спаць палажыла.
— Ой, дзеці, дзеці,
Куды ляцеці?
Паляцім жа мы
Дай на Украіну,
Там добры людзі
Харашо ходзяць,
Дзела не робяць.
Хацелі козачку
Дай загубіці,
Шкуру садраці,
Дуду пашыці.
— Не бойся, козачка,

Ні стральцоў-байцоў,
Пабойся, козачка,
Старога дзеда
З сівой барадой.
Ён цябе згубе,
Шкуру аблупе,
Дуду пашые!
Грай, мая дуда!
Жыў калі буду,
На вайну пайду,
Паланянку вазьму.
Паланяначка,
Стара бабачка,
Рыбку варыла,
Перасаліла.
Штоб табе, бабачка,
Перакрышыла.
Ой, сесці, сесці,
Рыбачкі з'есці.
Ой, сяду, сяду
У зялёным саду,
Пад яблынькай,
Пад сахарнаю,
З Іванюшаю.
— Пакланісь, козачка,
Пану хазяіну
І гаспадыні,
Штоб падарылі
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса,
Тры кускі сала,
Каб каза ўстала.
Спасіба таму
За ету дару,
І гаспадыні,
Што падарылі.

## ДОБРЫ ВЕЧАР ТАМУ

Добры вечар таму,
Хто ў етом даму
Ці спіць, ці ляжыць,
Гавары з намі,
З добрымі людзьмі!

Да выйдзі на двор,
Зірні ў шчыры бор,
Што ў шчырым бару
Шуміць да гудзіць,
Шуміць да гудзіць,—
Ройная матка йдзець.
Ройная матка йдзець,
Раёчкі вядзець.
Ой, вядзе-вядзе
Дай наўчае:
«Садзецесь, райкі,
У старыя ўллі,
А я, старая,
У новенькім сяду.
Із вас, маладых,
Салодкі мяда́,
Із мяне, старой,
Жоўтыя васка́.
Салодкі мяда —
Сыту сыціці,
Жоўтыя васка —
Свечы сукаці.
Сыту сыціці —
Сына жаніці,
А свечку сукаць —
Дачку аддаваць!»

## ДОБРЫ ВЕЧАР, ПАНЕ ГАСПАДАРУ!

Добры вечар, пане гаспадару!
А ці ў доме, пане гаспадару?
Няма ў доме, паехаў на поле,
Паехаў на поле палявацi,
Паляваці, жыта аглядаці.
Усіх жыта ядраное,
У нашага гаспадара — найлепшае,
Найлепшае, ядранейшае.
У адзін бачок пахілілася,
А ў даліне ў трубы павілася.
Яго жнейкі маладзенькі,
У іх сярпочкі залаценькі.
Яго конікі вараныя.
Іх падкоўкі залатыя.
Жыта вязуць, коні іржуць.

Дай жа божа, пане гаспадару
На полі капамі,
На гумне тарпамі,
На гумне тарпамі,
У таку ўмалотам,
У таку ўмалотам,
У арудзе спорам,
У арудзе спорам,
У млыне з прымолам,
У млыне з прымолам,
У дзяжы з падходам,
У дзяжы з падходам,
А ў печы з падростам,
А ў печы з падростам,
На стале з прыбыткам,
На стале з прыбыткам,
З добрым ужыткам.
Выйдзі, выйдзі, пане гаспадару,
Выйдзі, выйдзі да й на ганачак,
Вынесь, вынесь нам падарачак:
Тысячу злоты — нам на боты,
Дзве саракоўкі — нам на падкоўкі.
Мы боцікі патапталі,
Пакуль гаспадара дапыталі.
Сыр на талерку,
Чарку гарэлкі.
Ды вазьмі драбінку,
Лезь па сланінку —
Каўбасу крутую,
А наверх другую.

## ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая.
То на рожанькі,
То на ножанькі,
Пакланіся зграбна,
Павярніся складна.
Дзе каза паходзіць,
Там жыта зародзіць,
Дзе каза топ-топ,
Там жыта сем коп.
Паварачайся,

Не забывайся,
На капыцікі
Залаценькія.

Скажы, дзе хадзіла,
Дзе ты што рабіла?
А дзе пагайсае,
Там павылягае,
Дзе каза нагой,—
Там жыта капой.
Дзе каза хвастом,—
Там жыта кустом,
А дзе каза рогам,—
Там жыта стогам.
Дзе каза бывае,
Там шчасце вітае,
А дзе не бывае,
Там яно мінае.
Ну, каза, сагніся,
Нізка пакланіся
Гаспадару-пану,
Як пану гетману.
Хай будзе здароў,
Як рыжык бароў,
Жыве ў раскошы,
Мае торбу грошы,
Збожжа поўны клеці,
Павагу на свеце
І ўсяго даволі,
А бяды ніколі.

Будзь ваша здароў,
Нясі нам дароў,
Пажалей нас крыху,
Не будзе вам ліха,
Йшлі ад ваяводы,
Стрэлі нас прыгоды:
Скочыў з лесу воўк,
Я струхлеў і змоўк.
Выстраліў стралок,
Збіў казе хвасток,
Каза мая ўпала,
Лягла і прапала.
Я лякарства зробіў,

Казе хвост даробіў,
Нацёр бок кійком,
Падняў бізуном.
Ну, каза, усхапіся,
Пані пакланіся
Да саменькіх ножак,
Няхай дасць піражак,
Ды з каморы пляшку,
І цялячу ляшку,
І збаночак мёду
Нам на асалоду.
Каза мая ўчона
Кіем ахрышчона,
Прайшла ўсе навукі,
Знаець розныя штукі.
Ну, закладай рогі,
Ды падбірай ногі,
З хаты выхадзі,
Бяду вынасі,
Хай уцячэць хутчэй
Ад панскіх вачэй,
А ў гэтым доме
Не шкодзіць нікому.

## ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го-го, сера,
Ты расхадзіся,
Развесяліся
Па ўсяму дому
Гаспадарскаму.
Гаспадар сядзіць,
На казу глядзіць,
А гаспадынька —
На журавелька.
Гаспадынька мая,
Будзь ты ласкава,
Вазьмі свечачку,
Пайдзі ў клецечку,
Зазірні ў бачок,
Там стаіць мачок,
Да вазьмі мачку
На талерачку,

Нашай козаньцы
На гарэлачку.
Нашай козаньцы
Няшмат трэба:
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса,
Рэшата грэчкі,
Наверх яечкі.
Павяду казу
Я ў густу лазу,
А ў густой лазе
Стральцы заселі,
А я тых стральцоў
Да не баюся,
Толькі баюся
Старога дзеда —
У старога дзеда
Сіва барада,
Ён мяне наб'е,
Ён мяне ўдарыць,
З левага вуха
Пацячэ юха.
На даліні воўк
З ваўчанятамі,
На гары каза
З казлянятамі.
Як скочыць ваўчок,—
За казу хапчок,
А ваўчанята —
За казлянята.
Мудра козанька
Дагадалася,
У густу лазу
Захавалася,
Як лягла спаці —
Не можа ўстаці.
Проша што даці,
Хоць кілбасіцу,
Хоць кусок сала,
Каб каза ўстала.
У нашага дзеда
Такая жыла,
Такая жыла,
Каб каза жыва.

## ГО-ГО-ГО, КАЗА

— Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэрая!
Дзе каза была?
— На месцы жыла.
— Дзе рогі дзела?
— На соль праела:
Соль дарагая,
Мера скупая.
На печы й авёс
Вялікі парос.
На палу жыта
Рагамі збіта.
А ў тым жыце
Перапяліца
Вывела дзяцей.
«Ідзіце, дзеці,
К сырому дубу».
А там жа стральцы
Білі, стралялі.
Ударылі козаньцы
У левае вуха,
А [illegible] правага вуха
Пацякла юха.
«Устань, козанька,
Ды расхадзіся».
Гаспадар ідзе,
Каўбасу нясе,
Тры кускі сала,
Каб каза ўстала,
І мерку аўса,
Каб каза пайшла.
І мерку жыта,
Каб была сыта.
Паклонімся
Гаспадару і гаспадыні.

## ГО, КАЗА СЕРАЯ

— Го, каза серая,
Дзе рогі дзела?
— На солі праела.
Соль дарагая —

Ніхто не купляе.
Павяла сваіх дзетачак
Дый накарміла.
А потым упала
І рогі пацірала.
— Ці даўно, каза, з Масквы
З доўгімі касьмі?
— Касамі звяжу,
Рагамі скалю.
Скуль узяўся стары дзед, стаў страміць казу:
— Ты, казіца, не гаспадыня,
Чаму дзяцей не накарміла?
Павяла б іх па сунішнічку
Да па брушнішнічку,
І на гэтае сяльцэ,
Дзе хлопцы стральцэ.
Яны мовяцца,
Яны радзяцца
Казу забіці
І шубу пашыці.

## ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го-го, серая,
Го-го-го, каза,
Го-го-го, белая,
Дзе ты хадзіла,
Дзе ты брадзіла?
Хадзіла каза на ніцых лозах,
Па вербалозах.
— Чаму цябе там ваўкі не з'елі?
— Не баюся я ні ў лесі ваўкоў,
Ні ў полі стральцоў,
Толькі баюся старога дзеда,
Нежанатага, барадатага.
Ён мяне сколе, ён мяне спора
Скрозь палаценца ў раціваe сэрца.

## ДЗЕ Ж ТЫ БЫЎ, МОЙ ЧОРНЫ БАРАН?

— Дзе ж ты быў, мой чорны баран?
— На мельніцы, на мельніцы, міласлівы пан.

— Што ж ты там рабіў, мой чорны баран?
— Муку малоў, муку малоў, міласлівы пан.
— Чым жа малоў ты, мой чорны баран?
— Рожкамі, ножкамі, міласлівы пан.
— За што ж цябе прагналі, мой чорны баран?
— Камень пабіў, камень пабіў, міласлівы пан.
— Чым жа цябе білі, мой чорны баран?
— Палкамі, палкамі, мой міласлівы пан.
— А як жа ты плакаў, мой чорны баран?
— Ба-а-а-а! Ба-а-а-а! міласлівы пан.

## НУ-НУ-НУ, КАЗЁЛ

Ну-ну-ну, казёл,
Ну-ну-ну, нябожа,
Не адбрыквайся,
Паварочвайся —
То на сёй бачок,
То на той бачок!
Да расхадзіся,
Развесяліся
Па ўсяму дому,
Па гаспадарскаму!
Дзе казёл ходзіць,
Там жыта родзіць,
Дзе казёл туп-туп,
Там жыта сем коп.
А што ў даліне
Шуміць ды гудзе?
Старая каза
Казлянят вядзе.
Ой, вядзе, вядзе
Да навучае,
Сваіх дзетачак
Да затуляе.
А на гары воўк
З ваўчанятамі,
У даліне каза
З казлянятамі.
Як прыйшоў ваўчок —
За казу чок-чок,
А ваўчаняты —
За казляняты.
Як прыбег заяц,

Стаў казу лаяць:
«Ох ты, казінка,
Не гаспадынька:
Узяла б сярпок,
Нажала б снапок
І сваіх дзетачак
Да накарміла,
У ніцу лозачку
Спаць палажыла».

Гаспадынечка,
Як маліначка,
Не будзь такая,
Як шэльма тая.
Запалі свечачку,
Пайдзі ў клетачку,
Набяры мядку
На талерачку
Нашаму казлу
На гарэлачку.
Нашаму казлу
Многа не трэба:
Сем печ перапеч,
Бочка пшаніцы,
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса.
І яшчэ мала —
Дай кусок сала!

## ПАВАРАЧЫВАЙСЯ, КАЗЕЛ

Паварачывайся, казёл,
На капыцікі
На срэбраныя
На ўсе крутыя.
Дзе казёл ходзіць,
Там жыта родзіць,
Дзе пабягае,
Там вылягае,
Дзе казёл рогам,—
Там жыта стогам,
Дзе казёл хвастом,—
Там жыта кустом,
Дзе казёл нагою,—

Там жыта капою.
Да пайшоў казёл
Па ўсіх старанах,
Ды знайшоў казёл
Караля ў зямлі
З каралíхаю,
З гаспадынькаю.
Да ты, гаспадынька,
Ну не будзь такава,
Як тая была барабаніха,
Барабаніла нашага казла,
Нашага казла не ўдарыла,
Толькі смех учыніла.
Скамароху
Бочку гароху,
А скамарыцы
Бочка пшаніцы.
Запалі свечачку
Пайдзі ў клетачку
Да зірні ў бачок,
Дзе стаіць мачок,
Да зірні ў другі,
Дзе стаяць крупы,
Да зірні ў трэйці,
Дзе вісяць лейцы.

## ПАСЯРОД ДВАРА СТАЯЛА ВЯРБА

Пасярод двара стаяла вярба,
Шумела ў лесе, верабей у стрэсе.[1]
А на той вярбе дзіўная каза.
Прыйшоў да яе баравы воўча.
— Дзіўная каза, лезь ты да мяне.
— Баравы воўча, баюся цябе.
Чаму ў цябе вочы чырвоныя?
— Я ў пана служыў, чырвонцы лічыў.
Дзіўная каза, лезь ты да мяне.
— Баравы воўча, баюся цябе.
Чаму ў цябе, воўча, лапы шырокія?
— Я ў пана служыў, пірагі мясіў.
Дзіўная каза, лезь ты да мяне.
— Баравы воўча, баюся цябе.

---

[1] Паўтараецца пасля кожнага радка.

Чаму ў цябе, воўча, хвост як мяцёлка?
— Я ў пана служыў, пакоі падмятаў,
Пакоі падмятаў, свінкі паганяў.

## АПІСАННЕ НАРОДНЫХ ТЭАТРАЛІЗАВАНЫХ КАЛЯДНЫХ ГУЛЬНЯЎ

### Каза

Для таго каб зрабіць «казу», хлопцы выварочвалі кажух поўсцю наверх, у адзін рукаў прасоўвалі канец дугі і завязвалі русаў у выглядзе галавы і шыі. Да галавы прывязвалі рогі з саломы ці з буйнога сена — асакі. Да другога канца дугі прывязвалі хвост з таго ж матэрыялу. Тады пад кажух залазіць невысокі хлопец і бярэ ў рукі канец дугі з галавой. Полы кажуха спушчаны з бакоў да зямлі і закрываюць ногі хлопца.

У м. Жлобіне і ў Краснабудскай воласці культ казы атрымаў найбольшае развіццё. Галаву для «казы» робяць тут спецыяльна з дрэва і абклейваюць шкуркай. Ніжнюю чэлюсць робяць рухомую і з дапамогай вяровачкі прымушаюць яе паднімацца і апускацца, г. зн. адкрываць і закрываць рот, ляскаць зубамі і г. д. Да галавы прыбіваюцца сапраўдныя казіныя рогі; да ніжняй чэлюсці прымацоўваюць бараду...

...Пры «казе» павінен быць і «дзед». Яго таксама апранаюць у вывернуты кажух, але на спіне робяць горб — «запхнуць якуюнебудзь лайніну і падперажуць». Тагды возьмуць бярэсціну, запрарэжуць вочы і рот, уваткнуць нос із бярэсціны і ніткамі завяжуць за вушамі. Яно (маска) і дзержыцца. Намажуць над ротам вусы сажай, над вачамі бровы. Бараду прывесюць з пяньскі ці з лёну. Табакерку дадуць у рукі: ён і табаку нюхае ў той нос, у берасцяны. І кій у руках дзержа.

Тады дзелаюць і «маладзічку». Бяруць мальца якога патонзшы, навяжуюць на галаву намётку, штоб на жэншчыну быў пахож, надзяваюць і шнуроўку і андарак. Напіхваюць платкоў, штоб і грудзі былі, як у маладзіцы.

Послі дзелаюць шчэ «немца». Возьмуць штаны чорныя ці ў салдата, ці ў жыда да мундзер які, жалетку, прыбяруць хлопца, дадуць шапку чэрную, а калі ёсць — дак броль. І абвядуць сажай вочы і рот — яго й не спазнаюць. Тагды музыку шукаюць. Харошы музыка й не пойдзе, а так абы-які, ліш бы ўмеў рыпаць.

Ну, послі таго ўжэ ідуць пець. Бяруць і механошу. І павядуць «казу». Падойдуць пад вакно і просяцца ў хазяіна: «Казы

нашыя палядзець пазвольце!»—Ну, хто пусце, а інныя кажуць: «Не нада, нашы дзеці баяцца!» Ці так што.

Як пусцяць, дак уперад ідзе дзед, вядзе казу за шыю (за канец дугі), тагды немец, маладзічка, і пеўчыя, і музыка. Як увойдуць, дак каза стане пасярод хаты, а дзед ходзе кала яе і стукае палкай у мост. Кала казы і маладзічка і немец, а пеўчыя і музыка ў парозі. Пеўчыя запяюць, музыка тое ж самае падыгрывае, маладзічка і немец скачуць, каза, стоячы, варочаецца, нагамі тупае... Гуляюць!

У в. Юркавічы Гомельскага ўезда для «казы» проста апранаюць хлопца ў вывернуты кажух, з каўняра робяць галаву. Да яе прымацоўваюць рогі з палак і вушы з травы. «На шыю званок прысіляць».

Пры казе павінен быць «цыган» і «хвіцэр». «Цыгана» ўмажуць у сажу, хвіцэру зробяць з бумагі калпака. Чалавекі са тры пяюць:

Го-го-го, каза,
Го-го, серая,
Го-го, белая!
Буць, каза ўпала,
Буць, каза прапала.
Стань, козухна,
Стань, малодухна,
Развесяліся,
Старшому пану
У ногі пакланісь!
Дасць табе пан
Мерачку аўса,
Наверх каўбаса,
Тры кускі сала;
Шчэ таго мала —
Чацвёрты пірог,
Штоб казы сцярог!

Прадстаўленне заканчваецца танцам цыгана з казой. Звычайна пасля заканчэння песні казе яна або кладзецца на падлогу збоку, або скача на лаўку і выглядае, ці нельга чым-небудзь пажывіцца. Дзед звяртаецца да маладзічкі і немца (цыгана і афіцэра): «Ну, пагуляйце-тка вы!» Музыка іграе казачка, падушачку ці барыню. Яны танцуюць. «Як паскачуць, дак дзед казу за шыю, прывядзе к хадзяіну, к хадзяйцы, сям'я калі ё, і нагне — нібыта кланяецца іна ўжэ! І гавора: «Ну-ка, каза! Стань, рас-

хадзіся, пану-хадзяіну пакланіся!» Послі к хадзяйцы: «Пані-хадзяйцы пакланіся, каб ласкава была, унесла каўбасу і кусок сала, каб каза весялей стала!»

### Кабыла

«Кабыла» бывае малая і вялікая. Малая з адным чалавекам і з ражанай кабылай, вялікая з цыганом, дзедам і мужыкамі. Кабылу робяць так: бяруць шэст і прасоўваюць яго праз два рэшаты, паміж якімі ўсаджваюць маладога хлопца; затым робяць спераду галаву з вушамі і ззаду хвост з лёну і накрываюць якой-небудзь лайніной — старой світкай, саматканкай, посцілкай.

Увайшоўшы ў хату, цыган прапаноўвае дзеду купіць кабылу. Пачынаецца чыста дзелавы торг. Дзед знаходзіць цану, якую запрошвае цыган, занадта высокай, цыган расхвальвае сваю кабылу, дзед знаходзіць у яе розныя заганы. Пачынаецца сварка. Затым цыган б'е дзеда сваім нязменным атрыбутам — бізуном і г. д.

У гэту сцэну ўносіцца шмат гумару. Нарэшце, цыган і дзед мірацца, б'юць па руках і канчаюць торг. Затым гаспадар частуе іх ці дае што-небудзь з яды.

У паўднёвых воласцях Гомельскага ўезда — Папоўскай, Краснабудскай, Юркавіцкай рабілі сапраўднае чучала кабылы. Аснову яе плялі з гнуткіх лазовых пруткоў, якія замацоўвалі да шастоў, галаву шылі з палатна і напіхалі саломай; з лёну рабілі грыву і хвост. Увесь каркас абшываўся белымі абрусамі, адчаго атрымоўвалася «як ёсць белая кабыла». На галаву кабылы надзявалася аброць і прывешваўся званочак. У лазовы каркас улазіў чалавек і накрываўся доўгімі просцінамі — папонамі, так што ногі яго закрываліся; для раўнавагі кабыла замацоўвалася на ім двума паясамі накрыж. Адзін з хлопцаў прыбіраўся афіцэрам: апранаў вайсковы мундзір і штаны, на галаву папяровы ківер з султанам, праз плячо блакітную ленту з паперы. Другога хлопца апраналі ў жаночую рубаху з вышытымі рукавамі і ў андарак; на шыю вешалі маністы, а на галаву завязвалі хустку. Гэта была «барыня». Трэці хлопец апранаўся таксама ў вайсковы мундзір, але без ленты і з галаўным уборам накшталт уланскага. Апошні пераапрануты быў цыган. Яго адзявалі ў сіні армяк, давалі падраную шапку, падпяразвалі вяроўкай. З бізуном у руках ён даглядаў за кабылай. Затым запрашаўся музыка.

Калі ўсё гэта было гатова, збіраліся чалавек 10—12 спевакоў, «гледзячы па таварыству», і кабыла выпраўлялася ў паход. Адзін з хлопцаў бег паперадзе кабылы і пад вокнамі пытаў: «Добры вечар! Пусці, хазяін, з кабылаю!» Калі той адказваў:

«Хадзіце!» — то ўперадзе ішлі пеўчыя, за імі кабыла з цыганом і ззаду афіцэр з барыняй і музыка.

Уваходзячы ў хату, пеўчыя пачыналі пець:

Ой, добры вечар, паня хазяін!
Засцілай сталы, кладзі пірагі:
Да будзе к табе да трое гасцей!
А первая госць — жарка сонейка,
А другая госць — ясен месячка,
А трэцяя госць — дробен дожджычак.
Чым пахваліцца жарка сонейка?
— Як узыйду я рана на зарэ,
Уэрадуецца неба і зямля,
Неба і зямля, і ў лузі трава!
— Чым пахваліцца ясен месячка?
— Як узыйду я позна з вечара,
Узрадуецца купец у дарозі,
Купец у дарозі, а звер у дуброві!
— Чым пахваліцца дробен дожджычак?
— Як узыйду я рана із вясны,
Узрадуецца жыта, пшаніца,
Жыта, пшаніца, ўсяка пашніца!
Мы ж цябе, хазяін, не зневажаем,
З святым васіллем паздраўляем...

Пасля гэтага выступае музыка і на дудцы ці на цымбалах іграе танцы. Афіцэр і барыня танцуюць. Закончыўшы свой танец, яны пад ручку адыходзяць убок. Пачынае танцаваць цыган з уланам. Пасля скокаў цыган пачынае прыставаць да гаспадара і гледачоў: «А ну, хазяін, ці няма памяняць на коней? Мая сівая як бяжыць, дык дрыжыць, а паваліцца—ляжыць, памажы падняць!.. Ну, дак будам мяняць! Я цыган багаты: у мяне ў адным кармані вош на аркані, а ў другім блаха на цапе» і г. д.

Пасля прыгод цыгана выступае пеўчы — механоша: «За ету чэсць давай, хазяін, карбованцаў шэсць і тры кускі сала, шчоб наша кабыла не прыстала!» Гаспадар дае бохан хлеба, кусок сала і 3—5 капеек грашыма, гледзячы па сваёй магчымасці.

Тады кабыла пераходзіць у другую хату. Калі дзе-небудзь не пажадаюць яе пусціць, пяюць:

А ў бару, бару
Стаяла сасна
Вілаватая,
А Кушнярыха (гаспадыня)
Кілаватая!

Ці:

Шчодзер-бодзер
Хазяін-злодзей,
Кабылку украў,
Пад печ схаваў.
Дзеці сказалі,
Яго звязалі.
Дзеці ў смех,
Хазяіна ў мех!

Гаспадары не любяць такіх песень і праганяюць кабылу дубцом са двара.

**Мядзведзь**

«Мядзведзя» прыбіраюць у два чорныя вывернутыя кажухі. Рукавы аднаго адзяваюцца на рукі, другога — на ногі; ніз і полы сшываюцца ці падвязваюцца вяроўкай; на галаву такога мядзведзя надзяваюць чорную авечую шапку, твар вымазваюць сажай. Маецца ланцуг ці вяроўка. На вуліцы мядзведзь ідзе на нагах, але ў хату ўваходзіць на чацвярэньках. Пры мядзведзі — важак з доўгім кіем і музыка з бубнам.

У хаце мядзведзь ■ важаком выконваюць увесь рэпертуар былых важакоў сапраўдных мядзведзяў. Пасля частавання гарэлкай мядзведзь, устаўшы на дыбы, танцуе і пры гэтым, нібы незнарок, б'е кіем гледачоў, якія яму чым-небудзь не спадабаліся.

У вёсках замест вывернутых кажухоў мядзведзя спавіваюць доўгімі гарохавымі сцяблінамі, «гарохвінамі», якія сваім колерам падобны да бурай мядзвежай поўсці.

**Жораў**

«Жораў» звычайна з'яўляецца спадарожнікам «мядзведзя». Для яго на высокай палцы робіцца птушыная галава; да палкі прымацоўваецца шырокая футра ці ўзятая ў зборкі прасціня, пад якімі хаваецца хлопец. Жораў танцуе, доўгай дзюбай б'е гледачоў і ўсяляк смяшыць іх.

## КАЗА

Зрабілі казу: рогі з саломы, барада з аўчынкі са старога кажуха. Стаў казу пасвіць мужычок з параю казлянятак. «Ці пазволіце, гаспада мужыкі, пасвіць на сваём уладанні?» — «Адкудава ж ты такей ёсць, мужычок? Ці ёсць яшчэ ў цябе ўдаста-

вярэнне?» Узялі маладыя хлопцы яго ўдаставярэнне, сталі чытаць. Указалі ўказныя месцы, што можаш са сваёй казой пражываць. Прытаміўшыся ў вялікай дарозе, мужычок заснуў. Адкуль быўшы наскочылі паляўнічыя. Сталі паляваць, паднялі казу з казлянятамі; пачалі ганяць, забілі казу. Усхапіўся мужык спрасоння: «Што за шум, што такое? Не даюць маёй казе спакоя!» — «Здрастуй, гаспадзін мужычок! Адкудава ты такей ёсць?»—пытаюцца паляўнічыя. «Ці ёсць у цябе ўдаставярэнне, што табе пасвіць казу тут?» Прачыталі ўдаставярэнне, сталі патрабляць казу паляўнічыя з мужыком. Разам з паляўнічымі мужык пытаецца: «Гаспада, ці не нужна вашаму маладому народу шыць якую адзёжу з казінай шкуры?» — «Нужна такой дзеўкі шуба». Ёй жгутом засыпаюць разы тры ці пяток. Хлопцам тож так засыпаюць. Пашыюць такім манерам ўсю адзёжу, тады пойдуць танцаваць.

## КАБЫЛА

Чалавек улезе ў дзяругу, на кол галаву конскую насадзіць, дзяругаю яе абцягне, вушы зробіць саламяныя, аброць з пояса, возьме і прывядзе ў хату рознаму народу на дзіва:

— Тпру, мая кабыла, пастой: каля нас народ падзівіцца!

Павёў яе па народзе. Кожны на яе глядзіць. У сярэдзіне ў яе голас іржэ па-конску.

— Тпру, тпру, мая кабыла, не пушчай народ! Кабыла шуткі прытварыла, абмахнулась — упала, сем дней праляжала... Людзі добрыя, ці не ёсць са старых баб урач кабылу вылечыць: ці змяя яе ўкусіла, ці чэмер прыстаў. Прашу я вас, штоб вы мне кабылу вылечылі. Падходзіць баба лет 70, стала маю кабылу лячыць. Вылечыла маю кабылку вочань скора: у адно вуха дунула, у другім вецер дунуў — кабыла ўстала.

— Уяжжай, мужык, на сваёй кабылі, а то ў нас нехарошы народ, зглазіць яе — не ўстанець кабыла...

Ён валакець кабылу, стараецца як хутчэй, з яго смяюцца. Узяў мужык кабылу за зялёны повад, стаў цягнуць з хаты, стукнуўся аб клець галавою. Няма доктара, каб яго палячыць. Кабыла падыйшла, у адно вуха дунула — у другім кроў выскачыла. Маладзец узвіўся на свае ногі і стаў уцякаць з няшчаснай дзярэўні, з урочлівых воч.

## МЯДЗВЕДЗЬ

Зрабілі з мужчыны мядзведзя: вывернулі кажух, укруцілі яго ў сувалку, адзелі на ногі валенкі, устроілі яго, як мае быць, увялі ў хату народу на здзіўленне.

— Ну-ка, Міша, прайдзі па хаці, садзісь-ка за стол водку выпіваць!

Наліваюць яму шклянку гарэлкі, бярэ ён яе ва ўсю лапу. Народ не здзівіўся, як Міша гарэлку п'е.

— Ну-ка, Міша, выйдзі на хату, прайдзі-ка па хаці, харашэнька патанцуй, пакажы-ка нам, як бабы хлеб месюць!

Як стаў мядзведзь задам круціць.

— Ну-ка, Міша, пакажы нам, як бабы на прыгон ходзюць!

Ідуць бабы на прыгон нага цераз нагу — чуць ідуць, стануць да паслухаюць.

— Ну-ка, Міша, як бабы плачуць!

Плачуць — не ўлыбаюцца, фартухом закрываюцца.

— Ну-ка, Міша, як бабы жаць ходзюць!

Карман хлеба набярэць, да цыбулі нарвець, да ў поле жаць ідзець.

— Ну-ка, Міша, як бабы з поля ідуць!

З поля ідуць — на кані не нагоніш.

— Ну-ка, Міша, як бабы за стол садзяцца!

За стол, з поля прыйшоўшы, садзіцца — чуць лезець.

— Ну-ка, Міша, як, вырабатаўшы, бабы кушаюць!

Як-та возмець лыжку.

— Ну-ка, Міша, як бабы капусту ядуць!

Як-та возмець лыжку капусты.

— Ну-ка, Міша, як бабы кашу ядуць!

Кашу ядуць — поўну ложку чэрпаець.

— Ну-ка, Міша, паблагадары хазяіну!

Узвіўся на заднія лапы.

— Як мужчыны на луга ходзюць?

Як-та ідзець.

— Як мужчына касу нясець?

Узяў на правае плячо Міша.

— Міша, прайдзі пакос!

Стаў Міша касіць — ніхто не здзівіўся.

— Харашо Міша косіць! Ну-ка, Міша, павараціcь харашэнька, паслужы хазяіну, паслухай, як у барабан б'юць!

Узвіўся Міша на дыбы: левае вуха прыклаў, правым слышыць, як гаспадар у барабан б'е.

— Ну, Міша, апускайся на ніз! Паблагадары ўсем хазяінам, да пайдзём дальша.

## ПРЫГАВОР МЯДЗВЕДНІКА

— Ну-ка, Мішанька,
Паскач харашэнька —
Ета табе не пчолак драць...

Не слухай-ка папа-свяшчэнніка,
Падмара-бяздзельніка,
А слухай нашага брата мядзведніка,
Хто цябе корміць, поіць,
Ад ліхіх сабак абараняець,
Пуць-дарожку паказываець!
Ну-ка ты, Мішанька,
Прасі ў хазяіна міласцінкі —
Адным вочкам плач,
А другім дару прасі:
«Дай, бацюшка,
Дай, матушка!»
Ну-ка, раскажы-ка,
Як мужыкі на палі выязджалі,
Лукі туга нацягівалі.
«Ціха-та, брат —
Не забі таварыша!»
— Страляў то я ў варону,—
Не папаў у варону,
А папаў у карову.
Стала мне мая бяда
Палтара рубля,
Суд-перасуд —
Стала сорак палцін.
— Ну-ка, Мішанька,
Як дзеці ў гарох ходзяць,
Падпаўзаюць,
Назад паглядваюць,
Ці не ідзець хто,
Ці не гоніцца.

Мішанька адным вокам плача, другім міласцінкі ў гаспадара просіць; расказвае, як мужыкі на поле выязджаюць, лукі туга нацягваюць, як малыя дзеці ў гарох лазяць і паглядваюць, ці няма за імі пагоні і г. д.

## ШЧОДРА

У гэты вечар (напярэдадні Новага года.— *М. К.*) калядныя гульні дасягаюць свайго апагея: узнаўляе хаджэнне батлейка, зноў вандруе каза, водзяць ка́былу, мядзведзя, жорава. Дзяўчаты прыбіраюць «Шчодру». На ролю Шчодрай выбіраецца ладная прыгожая дзяўчына. Сяброўкі апранаюць яе ў лепшыя ўборы, на галаву ўскладаюць вянок з каляровай паперы і прывяз-

ваюць да яго столькі рознакаляровых стужак, што імі пакрываецца дзяўчына да пояса: «Трэба, штоб Шчодра касматая була». Робіцца гэта для таго, каб і новы год быў добры і багаты.

Убраўшы так Шчодру, дзяўчаты на чале з ёй ходзяць па хатах і «шчадруюць», г. зн. спяваюць шчадроўкі. Некаторыя з іх тут прыводзяцца:

А збегла, збегла
С поля старожа,
Святы вечар, с поля старожа! [1]
Да прыбегла
К Іваньку на двор.
— Ці спіш, ці ляжыш,
Малады Іванічка?
— Не сплю, не ляжу —
Лісточкі пішу,
Лісточкі пішу,
Да к паненцы шлю.
— Хоць шлі, хоць не шлі —
Не твая будзець.
Тваю паненку
У палон забралі,
У палон забралі
Туркі з татарамі,
Туркі з татарамі,
Баяр з баярмі.
— А я тых баяр
Мечам парублю,
А я тых турак
Канём патапчу,
Я сваю паненку
За сябе вазьму,
Святы вечар, за сябе вазьму!

## ШЧОДРЫ

У Старым Сяле святкуюць каляды і шчодры вечар.

13 студзеня хадзілі і пелі шчодры. Сабралі трохі грошай, пагулялі, папілі. Назаўтрага сабраліся апяць, пайшлі гуляць. Ну ўжэ ж што здзелаюць. Каб было інцярэсней, узялісь здзеталісь цыганамі, узялі цыгана, здзелалі бальшую куклу і пайшлі па хатах.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

— Ну адчыні нам, хазяін, дай дзіцяці малачка папіць. Там тое-сёе. Ды ўжо і прыдурваемся, і на карты гадаем, і на зеркальца гадаем. Усё адбывалася вельмі весела, цікава, з плясскамі, з танцамі. Узялі з сабой балалайку ці гітару. З музыкай, з песнямі ў нас цікава ўсё палучылася.

## ЦЫГАНЫ

У гэты ж вечар дзяўчаты пераапранаюцца цыганамі. Адну дзяўчыну апранаюць у мужчынскае цыганскае адзенне, прымацоўваюць з абсыпанага сажай ільну бараду, наводзяць вусы, даюць за пояс бізун. Другую апранаюць старой цыганкай: адну вялікую хустку ці посцілку надзяваюць на левае плячо і канцы завязваюць пад правай рукой; другую хустку завязваюць на галаве чалмой такім чынам, што ззаду адзін з вуглоў яе спускаецца да пояса; на левую руку кладуць скручаныя ў выглядзе вялікай лялькі анучы. Гэта Сідорка — дзіця цыганкі. Астатнія дзяўчаты апранаюцца маладымі цыганкамі: у такі ж балахон-хустку, але з непакрытымі галовамі, на якіх у валасы ўплятаюцца чырвоныя ленты. Валасы, бровы і твар мажуцца сажай. Загрыміраваныя такім чынам цыганы смела ідуць у хату і пачынаюць спяваць і танцаваць. Найчасцей спяваюцца пры гэтым наступныя песні:

На гарэ цыганы стаялі.
    Думала, думала, падумала! [1]
Пад гарою шатры распіналі.
Усе цыганы пілі і гулялі,
Адзін цыган не п'е, не гуляе,
На цыганку скоса паглядае:
— Ты цыганка, ты мая каханка!
Ты бяры-ка ключы залатыя,
Адмыкай-ка скрыні цесавыя,
Ты бяры-ка сорак тысяч грошай,
Яшчэ к таму таляр залаты!
    Думала, думала, падумала!

* * *

Як паехаў Халімон
У поле араці,
Да забыўся Халімон
Хлеба-солі ўзяці.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

А-та-і-ла, а-та-лай,
Хлеба-солі ўзяці.
А прыехаў Халімон
Цыганку ганяці:
— Чаму мне не нагадала
Хлеба-солі ўзяці?
А-та-і-ла, а-та-лай і г. д.

* * *

Я цыганка маладая,
Я цыганка не прастая —
Умею варажыць,
Умею варажыць!
Пакажы-ка, барын, ручку,
Палажы-ка грошай кучку —
Усю праўду скажу,
Усю ісцінную! і г. д.

Адскакаўшы «кругавую», цыган са старой цыганкай танцуюць «рускага» (камарынскую) — цыган упрысядкі! І бізуном паганяе старую цыганку: «Во старая! Ты ўжэ лянішся!»

Паскакаўшы, старая цыганка кажа на маладых: «Што ж вы? Ідзіце варажыць!» І тыя варожуць: «Шчаслівая мая, таланлівая! Дай я табе паваражу!» Бяруць за руку і варожуць, брэшуць, якраз як сапраўдныя цыганкі.

Ну, тагды даюць ім па чарцы гарэлкі, хлеба кусок, сала, бульбы і адпраўляюць.

## МАСЛЕНКА

На масленку хадзілі па хатах і пелі песні парам маладых, якія пажаніліся не больш года. Гэта называлася «Маладуху разуваць». За спетую песню маладыя ставілі частаванне.

На вуліцы дзеўкі гулялі, гулялі,
Мяне маладзеньку гукалі, гукалі.
У мяне маладзенькай муж ліхі, муж ліхі,
На вуліцу гуляць не пусціць, не пусціць,
А хоць пусціць — позненька, позненька,
Карагод дзевак розненька, розненька.
А я дзевачак сабяру, сабяру,
Звонкіх музыкаў трох найму, трох найму.
А буду гуляць да свету, да свету
Ды да позняга абеду, абеду.

А дамоў ісці баюся, баюся,
Дзівіратачку кланюся, кланюся.
А ты, дзівіратка, большы брат, большы брат,
Давядзі мяне дадому, дадому,
Дам табе хусту шаўкову, шаўкову,
Пашыю кашулю да долу, да долу.
Я ж табе, шэльма, бок паб'ю, бок паб'ю,
Шаўкову хусту сам сатру, сам сатру,
Да долу кашульку сам знашу, сам знашу.

## СЯМЕЙНАЯ РАДА НАПЯРЭДАДНІ СВАТАННЯ

Бацькі, якія збіраюцца жаніць свайго сына, звычайна робяць сямейную раду. Першым пачынае бацька, зварочваючыся да свае жонкі.

Бацька. Ну што, баба? Урэмя б ужо жаніць сына нам? Дакуль ён будзець валачыцца? І ў двары не работнік і па начам валочыцца. А калі мы яго ажэнім, тады ён будзець двара пільнаваць.

Маці. Я аб етым сама даўно думала, ды ўсё гляджу на вас.

Бацька. Калі так, дык каго ж мы яму будзем сватаць, штоб была падхадзяча? Табе нявестка, а яму жонка была, ды нас не лаяла, а паважала.

Пасля гэтага бацькі пачынаюць пералічваць амаль што ўсіх знаёмых дзяўчат.

Бацька. У Барыса дзеўка падхадзячая.

Маці. А йдзі ты! Няўжо ж ты не ведаеш, што яе матка ласкатуха?

Бацька. Ну дык Змітракову дзеўку?

Маці. Ну што й та ты кажыш? Тая йдзець — не дайдзець і гаворыць — не дагаворыць; пахожа і на работу так.

Бацька. Ну дык у Ягора дзеўка, здаецца, нічога?

Маці. Ета-такі харошая, толькі яе матка троху пышная. Досыць табе! Абы мы былі харошы, а людзі ўсе харошы. Сабірайся ды йдзі папытай у сына, што ён скажыць пра Ягораву Параску.

Пасля гэтага бацька ідзе па сына і прыводзіць яго ў хату.

Бацька. Ну што, мой сын! Цябе жаніць пара. Ці думаеш ты аб етым?

Сын (*саромеючыся*). Я воўсе жаніцца не думаю. Вазьмі дый жанісь сам, калі табе нада.

Бацька. Ды ты ніколі жаніцца не думаеш? Ці баішся чаго, ці так што, дык ты мне скажы, Змітрок?

Маці. Што ты пытаеш? Ці ён табе скажыць? Збірайся ды йдзі!

Бацька. Дык што ж «збірайся»? Нада схадзіць за яго хросным бацькам.

Праз некаторы час з'яўляецца і хросны бацька жаніха.

Бацькі. Садзісь, кум!

Жаніх ставіць хроснаму бацьку касюдку пад ногі.

Хросны. Спасіба! Нічога. *(Садзіцца.)*

Бацька. Ну што, кум? Задумалі абурыць твайго хросніка.

Хросны. Ну дык што ж? Калі задумалі, дык няхай бог памагаець. Што нада, то трэба.

Бацька. Ну дык во што, кум! Мы родныя, ты хросны. Парай, можа ты ведаеш падхадзячую нявесту? Мы тутыцкі з бабаю гаварылі, каб Ягораву дачку пасватаць.

Хросны. А дык што ж? Дзеўка харошая. Няхай бог даець. А як жа на ета жаніх глядзіць?

Бацька. Дык ён жа во ён! Няхай скажыць. Мы пыталі, пыталі, дык ён ні тоя, ні сёя.

Хросны. Ну дык што ж ты, мой белька, маўчыш?

Маці. Чаго вы вяжыцісь к яму? Ён несмысель. Калі ён нам не казаў, а пры хросным бацьку ён сароміцца, нічога не скажыць.

Хросны. Ну калі так, палі, кум, свечку!

## СВАТАННЕ

...Запрагаюць у калёсы самага лепшага каня і выпраўляюцца ў сваты не спяшаючыся — з такім разлікам, каб да заходу сонца праехаць да хаты гаспадара, дзе жыве нявеста. На двор уязджаюць важна,— калі конь лядашчы, то яго падганяюць пугай, каб бег як мага шпарчэй. Прывязаўшы каня, сват і жаніх ідуць у хату. Вядома, у большасці выпадкаў яны бываюць знаёмыя з гаспадарамі, але прымаюць выгляд незнаёмых людзей, якія прыехалі адкульсьці з далёкіх краёў. Гаспадары здагадваюцца, у чым справа, і са свайго боку прынімаюць гасцей нібы ўпершыню: распытваюць, адкуль і куды яны едуць, што чуваць на белым свеце і г. д. Вось тут якраз і спатрэбіцца гаваркі і дасціпны сват. Ён пачынае расказваць, стараючыся гаварыць паруску, што яны прыехалі «з вотченна» далёкіх краёў, што ім загадаў цар пералічыць, колькі ў кожнай хаце жыве народу. Гаспадар частуе іх яблыкамі, грушамі, а калі справа адбываецца зімою, то падносіць іншыя пачастункі. Убачыўшы яблыкі, грушы і г. д., госці робяць зусім разгублены выгляд і кажуць, што ім «отродясь» не даводзілася бачыць такіх «пруктов» і што ў іх

краіне зусім не такія «прукты» растуць. Нарэшце, сват, спахапіўшыся, кажа, што час ужо ехаць далей; тут жаніх нагадвае яму, што яны прыехалі ў канец дарогі і ўперліся ў «плот», а таму далей ехаць няма як і да таго ж ноч ужо надыйшла. Сват звяртаецца да гаспадара з просьбай дазволіць ім пераначаваць у яго хаце. Гаспадар згаджаецца, але толькі пры ўмове, што госці «ніякага ліха не здзелаюць». Сват ідзе да ваза і прыносіць падарункі.

Вядома, дзяўчына, да якой сватаюцца, у большасці выпадкаў хаваецца ці выходзіць куды-небудзь. Госці пачынаюць падазрона глядзець на гаспадара і кажуць, што іх ашукваюць і не ўсю сям'ю пасадзілі за стол, пагражаюць нават паскардзіцца на гаспадара хаты свайму цару за тое, што «хазяін не даў пірышчытаць усей сям'і».

## СВАТАННЕ

Пад'ехаўшы да дому нявесты, Анані Рыгоравіч («волхвіст»), не злазячы са сваёй шэрай кабылы, выкрыквае:

Гэй ты, стар цямнічнік,
Адчыняй вароты,
Прынімай заботы
Строіць нам дзявічнік.
А ты, стара маці,
Досыць табе спаці,—
Надзявай кажух —
Скакаць ва весь дух.

Следам за волхвістам у сені ўваходзяць жаніх са сваім бацькам, сваты і спыняюцца перад дзвярыма ў хату. У гэты час з хаты выходзіць маці нявесты, апранутая ў вывернуты кажух, і пытаецца ў іх: «Што вам надыць, добрыя людзі?»

Бацька жаніха. Перша-наперша — здрастуй табе, добрая бабуся. А втарое — няхай табе і дому твайму бог пасылаець на сто год здароўя, прыбытку з зямлі і скацінкі на тышчу рублёў, а з прочага ўсяго на цэлую цьму. А ў трэці — просім тваёй міласці, не з губы, а з сэрца,— схіліся, бабуся, да нашага ўпрашэння і зроб нам ад чыстага сэрца вечны падарунак.

Маці нявесты. Які такі падарунак?

Бацька жаніха. Чы ты не ведаеш, чы ты не знаеш, што вот гэты Пётра, добры младзенец, задумаў чы воляй узяць, чы сіллю адняць у цябе сахар-маліну — Машку-дзяўчыну?

Маці нявесты. Іш ты якей зацейнік! Ласы спраўляеш на чужое дабро, а таму дабру і цаны няма...

Бацька жаніха. Не аддасі дабром на жыццё ўдваём — сіллю возьмем і табе ў каршэнь накладзём!

Маці нявесты. Ту! Якей пырткі да сярчавы, малады да курчавы! Нягаж не ведаеш, не знаеш — я яе ўспаіла, я яе ўскарміла, дабром надзяліла, ці ж дарам аддам?!

Бацька жаніха. Дам я табе сто рублёў і бочку пшаніцы, аддавай жа, не цаніся — прыбаўлю спадніцы!..

Маці нявесты. Калі гэдак, калі так, дык вы госці дарагія, купцы тараватыя, прамыя, не гарбатыя!.. *(Дастае з-пад кажуха пляшку гарэлкі, налівае, але не п'е, а вылівае церав пляччо, гэтаксама і бацька маладога.)* Калі ж так, хадзіце, купцы тараватыя і вы праважатыя, у маю хатку карпатую, хлебам-соллю багатую.

Адчыняе дзверы і запрашае гасцей у дом.

## СВАТАННЕ

### Сват жаніха

Вось прышлі мы к вам па дзелу не звычайнаму, а па дзелу вялікаму: ёсць у вас тавар, а ў нас ёсць купец; калі лад, дык і клад. Тавар у купца, купец у тавар і будуць жыць — не лыкам шыць!

### Бацька нявесты

Есь тавар, ёсь, тавар свежы, не гнілы. У хаце красным сонцам свеціць, а ў полі работай цешыць. Гдзе глазам маргнець, гдзе рукой правядзець — парадак і спор там ідзець. Тавар дарагі, не ахвота збываць!

### Сват жаніха

Што й гаварыць! Знаем тавар, па тавару й купца дастаўляем. А і вам: хоць бы і харошы тавар, да не ў прасол дзяржаць,— прышла чарада, збываць пара!

### Бацька нявесты

Так то яно так, да людзі баюць, што купец-та сам чацвёрт з сям'і, не було б яму натужна, чы ўжывуцца яны дружна.

## АБАРОНА ВАРОТ

У час язды дружкі крычаць, гукаюць, каб было чуваць, што бяседа едзе да маладой. Там ля зачыненых варот іх сустракае бяседа маладой. Яна пытаецца: «Адкуль ето людзі?» Ім ад-

казваюць: «З Мінскай губерні, з Мозырскага ўезда, 2-га стана, Дзякавіцкай воласці, з вёскі Дзякавіч».

— Зачэм вы сюды ідзеце?

— К вам, братцы: мы тут дзеўку запілі.

— А пашпарт у вас ёсь?

— Ёсь.

Паказваюць кавалак палатна.

— Э, хвальшывы! Не пусцім.

Стараста камандуе: «Што, братцы, папробуем сілаю, калі ласкаю не можно». Пачынаюць перціся ў вароты — тая бяседа дужэйшая, не ўзялі.

— Ну, мо, братцы, мірыцца!

— Трэба так даўно рабіць!

## АБАРОНА ВАРОТ

Калі пазваннікі ў хаце маладой пачуюць прыбліжэнне вяселля, зачыняюць жэрдкай вароты на падворак, а самі стаяць ля іх на стражы. Прыезжыя тройчы просяць зняць жэрдку, а калі за трэцім разам даюць пазваннікам паўбутэлькі гарэлкі і пірага, вароты адчыняюць, бяседа ўваходзіць на падворак і становіцца ў рад перад вокнамі хаты. Дружкі пачынаюць другі торг з сваякамі маладой, якія занялі парог і ўдаюць шаўцоў, вельмі занятых працай. Нарэшце, пасля трохразова паўторанай просьбы і выкупу водкай і пірагом іх упускаюць у хату.

## АБАРОНА ВАРОТ

Як толькі малады варочаецца, усе ідуць да вясельнай хаты. Тут застаюць зачыненыя вароты і доўга мусяць прасіць, пасля чаго іх упушчаюць. Нарэшце, калі каравай вынесены ў клець, адкрываюць вароты і бяседа ўваходзіць са спевам на надворак, аднак толькі для таго, каб перад хатай затрымацца зноў. Бо дзверы хаты, маўляў, нанач зачынены, у парозе сваякі княгіні моцна б'юць сякерай аб сякеру, таўкуць у ступе ваду, а з хаты чуваць спеў:

Не наступай, Літва!
Бо будзе з намі бітва.
Сякецьмо да рубацімо!
Да Манечкі не давацімо!

Нягледзячы на гэта, дружкі ідуць да дзвярэй, але, адапхнутыя сваякамі маладой, варочаюцца. Ідуць зноў. Хочуць узяць дзверы сілай: ломяцца ў пралом! Тады ўжо такая завіруха, як

маршалкі ідуць, божа мой! Але і на гэты раз дзверы застаюцца зачыненымі, толькі калі вяртаюцца ў трэці раз і паказваюць пісьмо і пашпарты, тады адчыняюцца дзверы, але толькі для дружак, рэшта бяседы разам з князем застаецца яшчэ перад домам.

## ПРАМОВА СТАЎБАВОГА

...З вясельных гасцей выходзіць адзін, хто ўмее песню стаўбавую заводзіць, лезе на печ, сядае ля стаўба і пачынае прыгаворваць:

— Ах, покуль на стоўб забраўся, насовенка падраўся, сем год пад градамі валяўся, покуль етага вяселейка я даждаўся. Чы не далі б мне чарачку вінца, чарачку піўца, прамачыў бы я ў році і мог бы пару слоў сказаці.

Звяртаючыся да хроснага бацькі:

— Пане тысяцкі, ваявода шляхецкі, сядзіш ты на куце, як золат персцень на руцэ: як золат персцень шаруюць, так цябе, малайца, шануюць. А я ж пад стаўбом валяўся, галава мая, як косць, а зубы, як тросць, вочы па яблыку, жывот мой, як доска. Пане тысяцкі, ваявода шляхецкі! Чы не падаслаў бы ты мне на месяц хлеба, чарачку вінца, чарачку піўца, мог бы я табе песенку пачаць, вяселейка іграць.

Пасля блаславення бацькоў запявала, па-ранейшаму седзячы на печы, пачынае выклікаць усіх для блаславення такімі словамі:

— Госцікі дальнія, прыезджыя, бліжнія, прыхожыя, хадзіце маладую княгіню надзяляць: хто канём, хто валом, хто чыстым серабром. І тыя бабылкі, што не маюць кабылкі, надзяляйце маладую Матрунку: ёй многа нада, далёка паедзець: і масточкі масціць, і гваздочкі гваздзіць.

## ПРЫГАВОРЫ СТАЎБАВОГА

...Галоўны сват ці госць, які ўмее хораша гаварыць, апрануты ў кажух, шапку і рукавіцы, узбіраецца на пячны стоўб і адтуль вядзе такую прамову:

— Ацец родны і маці, брацця і сёстры, дзядзька і дзядзінне, сваты і сваццi, госцікі, заезжыя і захожыя, і ўсе добрыя людзі! Хто сам прышоў, каго бог прынёс і г. д.

Гэта прамова заўсёды заканчваецца якой-небудзь асабліва жартоўнай фразай. Пад агульны смех «выкрыкальнічак» іншы раз кувыркаецца і падае на падлогу. Госці яго паднімаюць, распытваюць пра хваробу, прапаноўваюць розныя лекі і, доўга не

трапляючы на сапраўднае, канчаткова вылечваюць хворага гарэлкай, якую падаюць яму не ў чарцы, а ў вялікай лыжцы.

Прысутнічаючы на некалькіх сялянскіх вяселлях у Віцебскім, Полацкім і Дрысенскім уездзе, я ніколі не бачыў гэтага, папярэдне разлічанага падзення; даводзілася не аднойчы чуць, як госці дакаралі «выкрыкальнічка» за тое, што ён не ўпаў і не пацешыў іх.

## ПЕСНЯ СТАЎБАВОГА

Сем лет пацеў,
На гэту свадзьбу хацеў,
Сем лет на печцы валяўся,
На гэту свадзьбу спадзяваўся;
Пакуль на стоўб узлез,
Дык увесь аблез.
Бабы лён трапалі —
Кастрыны ў рот папалі.
Дайце вінца піці,
У році памачыці,
Вы, градкі, длінныя парадкі,
А вы, паліцы, памошчніцы.
Госцікі сабраныя, сазваныя,
Каго кабылка прывезла,
Каго матка прынесла,
А хто сам прышоў,
Памагіце, благаславіце
Маладой княгіне песню пачаці.
За гэтым разом,
За другім казом,
За трэцім разом —
Памагіце песню пачаці.
Вы, святыя Кузьма-Дэям'ян,
Скуй жа нам свадзебку
На чатыры радонькі:
Первая радонька —
На жыцце на багатае,
На жыцце на багатае,
На доўгі век;
Другая радонька —
На сыноў-пахароў;
Трэцця радонька —
На дочак, на жнеечак.

## ПЕСНЯ СТАЎБАВОГА

Ціхая бяседа, вясёлая хата,
Благаславіце нашаму дзіцяці
Песню пачаці!
Жонушкі-белагаловачкі,
Дзеўшкі-чарнабрывачкі,
Благаславіце!
Мужычкі-каласавічкі,
Госцікі прыхожыя,
Благаславіце!
Бліжнія прыхожыя,
Дальнія прыезжыя,
Благаславіце!
Сем год пад лаўкай валяўся,
Гэтай свадзьбы дажыдаўся,
Тры гады пад печкай катаўся,
А ўсё гэтай свадзьбы дачакаўся.
Ты, святой Кузьма-Дзям'ян,
Да скуй жа нам свадзебку!
Ды святэй жа Лука,
Салучы нам гэту пару
Ды на тры долінкі:
Ды першая долінка —
Ды ў полі ўрожаю;
А другая долінка —
У хлевы прыплоды;
А трэцюю долінку —
На сыноў на пахароў;
Чацвертая долінка —
На дочак, на жнеечак.

## ПЕСНЯ ВОЛХВІСТА

Зайдзём, братцы, ў кабачок,
Хвацім водкі на кручок.
А як водка смачна там,
Прыстаець язык к губам!
У цясця нам водка вольна,—
Льецца з бочкі дужа спорна!
Як не б'ёмся жыватамі,—
А не вычарпаць каўшамі!
Аж да пятніцы часной
Не вярнуцца нам дамой.

Будзем піць яе вядрамі,
Заядая калачамі...
Дзяржась крэпка чарады,
Можа кончым да срады!
А прыдзецца ў добры год,
Завядзём мы каравод.
І ў бацькі-маладца
Вып'ем сладкага вінца!

## ВУЧОБА НЯВЕСТЫ

Як толькі павяжуць маладую, сваты прынімаюцца вучыць яе гаспадарыць: адзін вядзе яе на двор і паказвае, як яна павінна збіраць дровы, але замест дроў дае ёй у рукі салому, розныя анучы; другі паказвае ёй месца, дзе яна быццам бы павінна класці дровы — на стол ці пад абразы. Трэці дае ёй у рукі шапку і гаворыць: «Вот у нас з етым за вадой ходзюць, а ў вас як?» На гэта маладая адказвае: «Не знаю, як у вас, а вот я вам пакажу, як у нас робяць». Бярэ вёдры і ідзе да калодзежа па ваду. Тут свякроў і сваццi пачынаюць яе хваліць: «Нябось вумніца, сама знаець, як што трэба рабіць, ладно, дзіцятко, ладно! Не слухай етых азарнікоў, і ў нас так, як у вас: дровы ў печку кладуць, за вадой з вёдрамі ходзяць». І паказваюць ёй дарогу да калодзежа. Прынёсшы вады, маладая накладвае дровы ў печ і пытае ў свякрові патэльню бліны пячы. Тут яе зноў абступаюць сваты. Адзін раіць падсыпаць попелу, «штоб было скусней», другі падліць гарэлкі. Маладая ад усіх адбіваецца, налівае цеста на патэльню і пачынае пячы бліны. Але ёй увесь час перашкаджаюць, пакуль, нарэшце, не заступіцца муж, не паложыць на патэльню крыху грошай і не папросіць сваю маці: «Маманька, выруч маю жонку, спякі бліноў, а яна паглядзіць на цябе дый павучыцца». Свякроў прынімаецца за бліны, а маладая ёй прыслугоўвае.

## ВЫКУП НЯВЕСТЫ

Выкуп гэты адбываецца наступным чынам: сват, узяўшы кубак, кладзе ў яго 5 капеек, накрывае яго булкай хлеба, наверсе ставіць чарку гарэлкі і ўсё гэта падносіць брату маладой, гаворачы: «На, Трохішка, вазьмі за сваю сястру гасцінец, да не журыся».

— Мая сястра не гэтакая дзяшовая, каб я за дзесятку аддаў, на сабе бяры назад гэта.

— І, які ж ты горды... на цяпер ужо бяры, ды і напіся гарэлкі.

— Да я табе кажу, што ніколі не аддам і за дваццатку.

— Да ўжо як сабе хочаш, а мусіш аддаць, бо ўжо, бач сам, не рана, яшчэ ж і тых коз трэба ўлагодзіць, на цяперака бяры і гарэлкі напіся.

— Ну што зрабіць, няма як жупіць, трэба ўжо аддаць за залатоўку, ці што.

Такім чынам, ён бярэ 15 кап., выпівае гарэлку і ў знак удзячнасці цалуецца са сватам і сястрою. У гэты час дружкі пяюць наступную песню:

Тарговы маршалак, тарговы:
За гарой козы таргаваў,
Маладу дзевачку выкупляў.
Не тупай, маршалак, не тупай!
Па калені землю вытапчаш,
Пакуль маладую выкупіш.
Не гніся, маршалак, не гніся,
Пакаці таляр па місе.

Гэтак сама сват падносіць грошы дружкам, гаворачы:

— Наце, мае панначкі, вазьміце і гарэлачкі выпіце.

— Ах ты, стары, яшчэ хоча нас, маладых, ашукаць! Ідзі, калі хоч гдзе-небудзь дастань другую маладую, і мы за паўзлотку не аддадзім свае Аўдоцці.

— Ах вы, тараданскія козы, яшчэ яны будуць супраціўляцца і адсылаць назад дар божы. Ну што з вамі зрабіць? Бярыце зноў.

Дабавіўшы крыху грошай, ён зноў ім прапаноўвае выкуп; на што тыя і гавораць яму:

— Каб ты ж, як будзеш ехаць, то і калёсы сабе паламаў і ногу выкруціў, калі даеш, як бы на смех, саракоўку,— на сабе назад: мы пры сваём, а ты пры сваём.

— Ну ўжо цяпер угадайце, не бачыўшы, колькі я палажу сюды, да і бярыце.

— Які ж ты разумны, лепей пакажы.

— Калі так, то я вам нічагусенькі не дам. Звяртаючыся да маладой: «Пойдзем, Аўдоцця, няхай яны сядзяць, як патарочы».

На гэта маладая адказвае:

— Не, я не пайду, пакуль іх не ўлагодзіш.

— Ну што ж будзе? Наце цяперака да і вып'ем гарэлкі.

— Ну што, дзеўкі, нічога не зрабіць, возьмем, возьмем ужо двазалатоўку, ці як ужо возьмем.

## «ХВОРЫ» СВАТ

Дружок прадаўжае частаваць радню нявесты, але раптам пачынае кашляць і крычыць: «Ай, падавіўся! Мяне кашаль замучыў! Ці няма ў вас каго даць вады мне, адхадзіць мяне?» К гэтаму часу прыносяць вядро вады. Дзяўчаты па чарзе чэрпаюць яе і падаюць дружку. Дружок разглядае ваду і кажа: «Ты дзеўка харошая, ды вада твая нячыстая! Не буду яе піць, бо ад яе шчэ пахужаець!» Калі паднясуць ваду ўсе дзяўчаты, тады з'яўляецца нявеста і падае дружку ваду. Той бярэ і кажа: «Вот ужо гэта вада дык вада! Атлішная, крынішная! Етакай вады ў свеце няма!» Выпівае ваду, а ў конаўку кладзе грошы і перастае кашляць.

## ВЫКУП КУТА

Жаніхоў сват хоча заняць кут, але нявесцін сват не ўступае. Пачынаецца выкуп кута. Жаніхоў сват гаворыць:

— Сват, сват! Ці ты тут?

Нявесцін адказвае:

— Тут.

— Уступі мне кут!

— Не ўступлю! Чым заплоціш?

— У мяне ёсць карфін рабой, будзем піць гарэлку з табой!

Распіваюць пляшку гарэлкі, тады нявесцін сват уступае кут.

* * *

Прыехаўшыя вітаюцца з бацькам і маткай нявесты і кажуць:

— Сваточкі, сваточкі! Ці не пусціце нас начаваць? Мы ехалі, ехалі па мхам, па балотам, па вялікім калодам, па цесным эгародам,— самі не ўдумаем, адкуліцька мы ехалі і куды прыехалі!

— Ды няго ж! Усяка з людзьмі буваець! Міласці просім, начуйце! Наша ж хата не цякець, найдзём места, гдзе палажыць і поліўкі найдзём уліць, хоць не такей, як у людзях!

— Ды за ета спасіба, мы, можа, і свайго найдзём хлеба крошку ўкусіць!

— Ага, у Вывласа не без запаса! Знаць, вы здалёка едзеце, што з сваім хлебам выбраліся!

## ВЫБАР НЯВЕСТЫ

Нявеста стаіць з хлебам непарушна, а той, хто хадзіў за дзяўчатамі, па чарзе падводзіць дзяўчат да сватоў і запытваецца ў іх:

— Ці харош тавар?

Сваты адказваюць:

— Харош-то, харош, ды не наш. Пашукайце-ка там нашага тавару! Наш чысцей ды ясней (нявеста са свечкаю).

Потым другую дзяўчыну падводзяць:

— Ну, а ета ваш тавар? Я шукаў, шукаў, не мог луччага найціць.

Яму адказваюць:

— Ета таксама харошый тавар, толькі не наш. Як не можна, пашукай нашага тавару! Хадзі-ка ты, во выпей чарку гарэлкі ды пашукай харашэнька нашага тавару.

Той выпівае і гаворыць:

— Цяпер я луччы буду старацца, штоб ваш найціць.

Потым зноў ідзе да дзяўчат і хлопцаў, раіцца з імі. Дзяўчаты абматваюць аднаму хлопцу галаву хусткаю і падводзяць яго да сватоў.

— Ну, чысцей етага ўжо нельга сыскаць.

Сваты кажуць:

— Ну, во што, сваток, выпей-ка ты яшчэ чарку ды вядзі ўжо наш тавар.

Той выпівае і падводзіць ужо нявесту з хлебам:

— Ну, а ета ваш тавар?

— Во, ета наш тавар!

За гэта наліваюць яму яшчэ чарку.

## КІСЛЫ СВАТ

Не паспяваюць паехаць у царкву, як з хаты жаніха з'яўляецца другі сват, якога называюць «кіслым сватам». Ен прывозіць з сабой гарэлку, хлеб, пірагі, смажанага барана і іншую закусь, кладзе ўсё гэта на стол, садзіцца сам і робіць выгляд, што сцеражэ прывезеныя пачастункі. Часта здараецца, што кіслага свата падпояць і хаваюць яго дабро. Гэта прычыняе яму нямала клопату, каб знайсці і выкупіць украдзенае.

## ВЫКУП НЯВЕСТЫ

— Дружанька-дружок, ацецкі сынок! Наш тавар вочан дораг: што ступень, то рубель, каса — сто рублёў, самой — цаны нет. За нашу маладу давалі тры гарады з прыгарадамі, тры сялы з прыселкамі, тры сады з прысадкамі, рыбіну-сятрыну да віна вядрыну, і то мы не аддалі! Дружанька-дружок, ацецкі сынок! Мы ад вас нічога не віделі: ні аўсянага піражышка, ні меднага шэляжышка! З чым вы к нам падходзіце, што вы нам падносіце?

Сват дражніць баярак, паказваючы ім медныя пятакі:

— Дружанька-дружок, ацецкі сынок. У нас ета рэбяты не бяруць, куры не клююць — па падлаваччу валяецца.

## ВЫКУП НЯВЕСТЫ

Дружкі таргуюцца за яе з дружкамі і даюць грошы; тыя не бяруць, патрабуюць, каб дабавілі, і спяваюць:

Ета не грошы —
Ета медзь;
Садзісь на свінню —
Дамоў едзь,
А прыехаўшы, пасасай,
З намі, дружкамі,
Размаўляй!
За етыя грошы
Купі сабе мыла,
Памый сабе рыла,
Штоб жонка любіла,
А дзеці ўважалі
Да бацькам назвалі!

Дружок паграмае бізуном, просіць прадаць нявесту, нарэшце, плаціць больш і атрымоўвае яе.

## ВЫКУП КАСЫ

Брат нявесты бярэ лучыну, «вострыць» яе аб печ і крычыць, што адрэжа касу нявесце, калі не дадуць яму выкуп. Сват прапаноўвае яму тры капейкі, брат патрабуе рубля. Пачынаецца торг. Калі сват дае мала, то брат нявесты гаворыць:

«Ну-тка, сваточкі-браточкі! Калі вы сваталіся-браталіся, то хваліліся-грaзіліся, што ў вас усяго многа і дзенег куча, сто валоў, сто кароў, свіней стада, ходзяць па шышкам, таскаюць на насах кубышкі з дзяньгамі, а як прышлося да ўместа сышлося — за ета, сваточкі, не гневайцеся — адну вы свінню маеце і тую за хвост падымаеце!»

## САЛАМЯНЫ КОНЬ

Зранку ўсіх гасцей зазывае да маладой яе сват. У гэты ж час у хату маладой прыходзяць сваты з некаторымі гасцямі маладога; іх сустракаюць клікамі: «Гэта ж хто прышоў? Гэта ж

зладзеі! Яны што-небудзь украдуць!» На гэта сват маладога адказвае: «Цяпер мая сіла — усё возьмем!»

— Ну што ж — здадомся ў палон!

У двары ў некаторых мясцох у гэты час робяць з саломы каня, на якім павязуць свата, калі маладыя будуць пераязджаць да яго. Каня стараюцца ўкрасці госці з дому маладога; тутака бывае многа схватак, жартаў і смеху.

## ДУДАР І НЯВЕСТА

Дзяўчына *(спявае)*

Дударэньку!
Гаспадарэньку!
Да ўжо ж мяне заручылі!?

Дудар *(адказвае)*

Не бойся, нябога!
Не будзець нічога!
Я за табою
Дыль, дыль! З дудою!..

Далей наступаюць іншыя цырымоніі і заўсёды той жа зварот дудара — а ў канцы:

Дзяўчына

Дударэньку!
Гаспадарэньку!
Да ўжо ж мяне і ў клець вядуць?!.

Дудар

Не бойся, нябога!
Не будзець нічога!
Я за табою
Дыль, дыль, з дудою!..

Дзяўчына

Дударэньку!
Гаспадарэньку!
Да ўжо ж мяне і спаць кладуць!?.

Дудар

Як самі знаеце,
Свой розум маеце!..
Я, ўзяўшы дуду,
Да дому пайду!..

## ПАДСТАЎНЫЯ МАЛАДЫЯ

У доме маладога ў гэты дзень весела як ніколі. Ужо зранку чакаюць прыданых, гасцей, рыхтуюцца: выносяць на двор ступу, церніцу, трапло, таўкач, калыску. Калі госці, нарэшце, прыедуць, іх пытаюць: «Чаго прыехалі?» — «Гарэлку піць!» — адказваюць тыя. Сваты папярэджваюць: «У нас не так, як у вас, у нас спачатку трэба рабіць, а потым есці і піць». Госці «работы не баяцца», пачынаюць працаваць: адзін у ступе таўчэ, другі калыску калыша, трэці ваду носіць. Усюды іх чакаюць нейкія сюрпрызы: са ступы вада пырскае, у калысцы «дзіця» пішчыць, у калодзежы «вады няма». Маладую ўсе хваляць, яна ўсё ўмее, усё зрабіла. Адны толькі прыданыя і госці не могуць зарабіць сабе на бутэльку гарэлкі ці віна. Прыданых садзяць за стол у доўг. Гэта адзін толькі варыянт сустрэчы прыданых. У другім, іншым варыянце прыданыя гавораць: «Вы ўчора ў нас гулялі ды забыліся свайго хлопца (маладога) — забярыце яго! Мы яго вам прывезлі!» Хто-небудзь з прыданых іграе пры гэтым ролю маладога. Сваты маладога адказваюць: «Не, наш хлопец (малады) дома. А вы сваю маладую можаце забраць, бо яна нічога не варта, не ўмее нічога рабіць!» І аддаюць ім «маладую» — хлопца з гарохавым вянком на шыі, з хусткай на галаве і г. д.

У доме маладой у гэты дзень хата на замку — гападаркай займаюцца суседкі і тыя, што не паехалі да маладога. Аднак так бывае не заўсёды. Часам тых, што не паехалі, бывае вельмі многа. У доме ёсць выпіўка і закуска. І госці пачынаюць гуляць. Маладых няма, але госці не бядуюць — робяць падстаўных маладых. Месца маладога займае вясёлая жанчына, ёй падрабляюць вусы, бараду. Побач з «маладым» сядзіць «маладая». На галаве ў яе «вянок». Там, дзе ўчора ляжаў каравай, ляжыць папячэнне. Госці працягваюць дзяліць каравай. Падстаўным маладым даруюць «на жывое»: ката ў шапцы, пеўня ў кажуху, «таго каня, што не дагоніш кругом сяла» (вераб'я), таўкача — ваду таўчы ў ступе, чапялу, дровы, лучыну і г. д. Развесяліўшыся, госці часам не толькі «дзеляць каравай», але і «вянчаюць маладых» — прыходзяць «поп», «дзяк» і г. д.

## ВЯСЕЛЬНЫЯ ГУЛЬНІ ПРЫДАНАК

Пасля застолля прыданкі танцуюць пад гукі скрыпкі, устройваюць розныя забавы. Напрыклад, выбіраюць якую-небудзь жанчыну за «парадзіху» і, узяўшы кацяня, спавіваюць яго, затым кладуць прытворную парадзіху з кацянём у ложак. Для нібыта нованароджанага сярод прысутных выбіраюць бацьку,

кума і куму, а для парадзіхі — бабку. Кацяня ціскаюць, каб яно крычала, а бабка лечыць яго, і шэпчуць над ім, і яшчэ мацней ціскаюць яго. Свякроў прыносіць гарэлку. «Парадзіха» ўвесь час крычыць: «Жывот баліць». Ей даюць гарэлку з попелам і «накрошуць у водку хлеба, так і даюць».

Вешаюць на варотах вяроўку і гушкаюцца на ёй. Уносяць у хату ступу і калясо: у ступе таўкачамі нібыта сукно валяць, а пры ступе круцяць на палцы калясо; хто-небудзь лье ваду на калясо і ў ступу. Смех, рогат. Гледачы — госці становяцца на лаўкі, каб лепш бачыць. Гаспадар, нарэшце, просіць спыніць забаву і падносіць прыданкам гарэлку.

## ВЯСЕЛЬНЫЯ ЦЫГАНЫ

Пад'язджаюць «цыганы»: гэта госці ад маладога, якіх не выправілі з маладым у прыданкі. Тут моладзі амаль не было — далёкія сваякі і суседзі. Мужчыны пераапраналіся ў жаночае і наадварот. Выварочвалі кажухі, на галовы надзявалі вёдры, твары вымазвалі сажай. Пад'язджаючы пад браму, «цыганы» спявалі:

Аспадар, аспадар, адчыняй вароты,
Едуць, едуць цыганы, бедныя сіроты.

«Цыганоў» садзілі за стол асобна, частавалі. За сталом яны сядзелі нядоўга. Хутка падымаліся, скакалі спяваючы:

Цыганачка, цыганачка па гары хадзіла,
Чабор-зелле, чабор-зелле ў рукаве насіла.
Цыганачка-цыганачка лянуецца прасці,
Туляецца каля плоту, каб кашульку ўкрасці.

Там на гары цыганы стаялі,
Думала, думала цыганка маладая:
Адзін цыган не п'е, не гуляе,
На цыганачку скоса паглядае:
— Ты, малада цыганка, будзь мая каханка.

«Цыганы» кралі талеркі, відэльцы, лезлі ў хлеў. Ад іх усё адбіралі. Пад музыку «цыганы» ад'язджалі дамоў спяваючы:

Цыганы-цыганы, касматыя пяты,
Сабірайцеся на воз, паедзем да хаты.

## ВЯСЕЛЬНЫЯ ЦЫГАНЫ

Прыезджыя госці (і ў Свянцянскім і ў Новааляксандраўскім уездах) ходзяць па вёсцы пераапранутымі ў цыганоў і напяваюць:

На уліцы, на уліцы
Цыганы замерзлі;
Негдзе ім, негдзе ім
Падзеціся.
Пусціце іх, пусціце іх
Пагрэціся.

Іх прымаюць і даюць ім сыру, масла, каўбас, яек, а на гарэлку робяць складчыну («складанка»), прычым «маршалак» і старшы баярын маладой, кожны ў сябе, абходзяць прысутных прыгаворваючы: «Ад носа па грошу, а чый даўжэйшы—то два!»

## ДРАМАТЫЧНЫЯ СЦЭНКІ ВЯСЕЛЛЯ

На Мядзельшчыне да нядаўняга часу вяселле гулялі доўга, сама меней тры дні. Звычайна, як і ўсюды ў Беларусі, першая частка абраду (паненскі вечар, застрыганне, выпраўленне да вянца) была ўрачыстай, песні спяваліся ў асноўным жалосныя. А калі прыязджалі ад вянца, а тым больш назаўтра, настрой у гасцей рабіўся ўсё весялейшы, вальней паводзілі сябе сваты. Прыхільна прымаліся тут розныя жарты, забавы, напаўімправізаваныя сцэнкі, якія былі як бы драматычнымі ўстаўкамі ў песенным сцэнарыі вяселля, напрыклад: «прыём у доктара», «споведзь у ксяндза», «варажба ў цыганкі», або прыходзілі «цыганы», прыводзілі «мядзведзя», «казу». «Артысты» знаходзіліся сярод гасцей або «гледачоў», якіх заўсёды на вяселлі поўная хата. Звычай прадугледжваў узнагароду выканаўцам: маладая дарыла паясы, старшы сват ці сваццця частавалі гарэлкай, давалі розную закусь. Добрых «артыстаў» доўга ўспаміналі пасля вяселля, і на вяселлі ўсе адносіліся да іх з павагай, цеплынёй.

Характарыстыка персанажаў была часам вельмі дасціпнай. Вось які выгляд меў «ксёндз», калі выходзіў з бакоўкі ці каморы спавядаць «грэшнікаў»: бровы густа падведзены сажай, шчокі — чырвоным бураком, апрануты як да набажэнства — у камжу, у жаночую спадніцу (белая, гафтаваная), у сцягнутую «войчаньку» каля шыі. У руках або кадзіла (які-небудзь посуд), або святая вада (гарэлка), пастава важная, сур'ёзная. З аднаго яго выгляду прысутныя мелі вялікую пацеху.

«Ксёндз» садзіцца на зэдлік, запрашае «спавядацца». Знаходзіцца які-небудзь жартаўнік, добра падвыпіўшы, кленчыць, пачынае каяцца ў грахах. Асабліва акцэнтуецца парушэнне 10-й запаведзі. «Ксёндз» задае пытанні, настаўляе спавядаючагася, іх размова мае вольны, нават фрывольны характар. Тут многа намёкаў на падзеі сапраўдныя, гледачы звычайна ўсё ведаюць і з вялікай асалодай сочаць, як гэта ўсё абыгрываецца. «Споведзь» завяршаецца благаслаўленнем і малітвай (пародыя на касцёльную), якую «ксёндз» прымаўляе рэчытатывам:

Доміка-доміка,
Звалілася баба з коліка,
Ударылася аб печ —
Выскачыў хлапец.
А з таго хлапца —
Белая аўца,
А з той аўцы —
Два баранцы,
А з таго барана —
Белая смятана,
А з тэй смятаны —
Касцёл мураваны...

(Зразумела, што такое нізвядзенне касцёла да нуля дапускалася толькі ў праваслаўных, а ці былі падобныя сцэнкі ў католікаў пра паноў і царкву — я не ведаю.)

У залежнасці ад настрою і наяўнасці жадаючых «ксёндз» мог паспавядаць не толькі аднаго, але пару.

Іншыя сцэнкі прытрымліваюцца традыцыйнай агульнай сцэны. Вось, напрыклад, «прыём у доктара».

«Доктар», размаляваны сажай і бураком, з падвязаным да жывата «ясекам» (малой падушачкай), апрануты ў так-сяк сасцябаны з прасцірадлаў халат, часам з прыклеенай ці прывязанай барадой, часам у «акулярах» без шкельцаў, на хаду змайстраваных з драціны, выходзіць на хату і шукае сабе пацыента. Робіць сабе рэкламу, выхваляецца, заахвочвае. Калі такі знаходзіцца, распытвае, што баліць. Хваробы бываюць самыя неверагодныя, усё залежыць ад фантазіі і добрага адчування гумару «артыстаў». Потым ідзе праслухванне «доктарскай» трубкай (трохі аструганая рэдзька). У заключэнне — парады: як сябе паводзіць пры такой хваробе, што і колькі есці, што піць, як адносіцца да жонкі і г. д. «Доктар» мае і «кроплі» ў кішэні і часам налівае чарачку пацыенту і сам прымае.

Плата «доктару» такая ж, як і «ксяндзу», агульны тон такі ж, як і ў першай сцэнцы,— вольны.

Іншыя сцэны па сваёй пабудове мала чым адрозніваюцца ад папярэдніх, разлічаны на тое, каб пацешыць прысутных, і маюць толькі розную характарыстыку персанажаў.

Своеасаблівым спосабам зарабляць падарункі ад маладой быў уезд у хату на кані ў выглядзе воіна, стражніка, паліцэйскага (у наш час гэты звычай звёўся) якога-небудзь хлопца — сваяка маладога. Апрануты ў сярмягу ці іншую верхнюю адзежыну, хоць і летам, размаляваны традыцыйна (бровы і вусы сажай, а шчокі бураком, чырвоным), падпаясаны і ўзброены (за плячыма насіў накшталт вінтоўкі), на галаве што-небудзь надзета, як бы шлем. Хлопец уязджае ў хату, чым робіць многа шуму, выклікае даволі ўяўнага і сапраўднага страху, бо ў цеснаце конь пудзіцца і можа каму добра патаптаць ногі.

У самыя апошнія часы гэты персанаж увасабляў польскіх паліцэйскіх, якія вельмі каралі сялян за гарэлку-самагонку. Таму адразу ён строга дапытваўся, што тут п'юць, пагражаў штрафам і арыштам. У гульню ўступаў старшы сват (і іншыя асобы). Яны апраўдваліся, давалі паспытаць яму па чарзе вады, ён крычаў, што гарэлка—малако, ён таксама быў незадаволены. Тады налівалі кубак гарэлкі, быццам квасу, «паліцэйскі» выпіваў і згаджаўся, што гарэлкі на гэтым вяселлі няма. Каня яго абвязвалі палатном або поясам, і коннік, не злазячы з каня, выязджаў з хаты.

# КАРАГОДЫ І КАРАГОДНЫЯ ГУЛЬНІ

## ВУЛІЦА БУРЫЦЦА, КАРАГОД ВАЛІЦЦА

Вуліца бурыцца, карагод валіцца —
Селязенька касаты, бел малодчык кудравы![1]
Карагод валіцца — дзевак не стала,
Дзевак не стала — пералома пабрала,
Пералома пабрала ды ў вір пакідала.
У віру-вірочку нашто ўтапіў дочку,
Нашто ўтапіў дочку ў салодкім мядочку,
У салодкім мядочку, у халодным вірочку?
У халодным вірочку дзеўка ваду брала,
Дзеўка ваду брала, на дне патапала,
На дне патапала, «Ратуйце!» крычала:
— Хто мяне паратуе, за таго замуж пайду.
Ідзе стары барадаты, не халасты, жанаты:
— Дзеўка-дзявіца, я цябе паратую,
Я цябе паратую, за сябе замуж вазьму.
— Я лучшы ў мора пайду, за цябе замуж не йду!
Ідзе маладзенькі Антонка, не жанаты, халасты:
— Дзеўка-дзявіца, я цябе паратую,
Я ж цябе паратую, за сябе замуж вазьму!
— Я із мора выйду, за цябе замуж выйду!
Селязенька касаты, бел малодчык кудравы!

## ЛЯНОК

Дзяўчаты і хлопцы ў карагодзе імітуюць дзеянні, пра якія пяецца. Пачатак павольны, а пры словах «Ото наш лён» тэмп рэзка нарастае, гуляючыя адпускаюць рукі, хлопаюць і ўзмахваюць імі, потым зноў бяруцца за рукі. Там, дзе кола акажацца разарваным, утвараецца вірок, усе праходзяць пад рукі двух крайніх удзельнікаў, якія ўтвараюць масток.

А мы сеялі, сеялі лён,
А мы сеялі, прыгаварывалі,

[1] Паўтараецца пасля кожнага радка.

Чабатамі прыкалачывалі:
— Вот удайся, удайся, лянок,
Вот удайся ў жонушкі лянок.
Ото наш лён, от белы лён,
Вот лён на гарэ,
Вот лён на крутой,
Наш лён зеляной.

Мы палолі, палолі лянок,
Мы палолі, прыгаварывалі,
Чабатамі прыкалачывалі:
— Вот удайся, удайся, лянок,
Вот удайся ў жонушкі лянок.
Ото, наш лён, от белы лён,
Вот лён на гарэ,
Вот лён на крутой,
Наш лён зеляной.

А мы рвалі, мы рвалі лянок,
А мы рвалі, прыгаварывалі,
Чабатамі прыкалачывалі:
— Вот удайся, удайся, лянок,
Вот удайся ў жонушкі лянок.
Ото наш лён, от белы лён,
Вот лён на гарэ,
Вот лён на крутой,
Наш лён зеляной.

Абівалі, абівалі лянок,
Абівалі, прыгаварывалі,
Чабатамі прыкалачывалі:
— Вот удайся, удайся, лянок,
Вот удайся ў жонушкі лянок.
Ото наш лён, от белы лён,
Вот лён на гарэ,
Вот лён на крутой,
Наш лён зеляной.

А мы слалі, мы слалі лянок,
А мы слалі, прыгаварывалі,
Чабатамі прыкалачывалі:
— Вот удайся, удайся, лянок,
Вот удайся ў жонушкі лянок.
Ото наш лён, от белы лён,

Вот лён на гарэ,
Вот лён на крутой,
Наш лён зеляной.

А мы мялі, мы мялі лянок,
А мы мялі, прыгаварывалі,
Чабатамі прыкалачывалі:
— Вот удайся, удайся, лянок,
Вот удайся ў жонушкі лянок.
Ото наш лён, от белы лён,
Вот лён на гарэ,
Вот лён на крутой,
Наш лён зеляной.

Мы трапалі, трапалі лянок,
Мы трапалі, прыгаварывалі,
Чабатамі прыкалачывалі:
— Вот удайся, удайся, лянок,
Вот удайся ў жонушкі лянок.
Ото наш лён, от белы лён,
Вот лён на гарэ,
Вот лён на крутой,
Наш лён зеляной.

Мы часалі, часалі лянок,
Мы часалі, прыгаварывалі,
Чабатамі прыкалачывалі:
— Вот удайся, удайся, лянок,
Вот удайся ў жонушкі лянок.
Ото наш лён, от белы лён,
Вот лён на гарэ,
Вот лён на крутой,
Наш лён зеляной.

А мы пралі, мы пралі лянок,
А мы пралі, прыгаварывалі,
Чабатамі прыкалачывалі:
— Вот удайся, удайся, лянок,
Вот удайся ў жонушкі лянок.
Ото наш лён, от белы лён,
Вот лён на гарэ,
Вот лён на крутой,
Наш лён зеляной.

А мы ткалі, мы ткалі лянок,
А мы ткалі, прыгаварывалі,
Чабатамі прыкалачывалі:
— Вот удайся, удайся, лянок,
Вот удайся ў жонушкі лянок,
Ото наш лён, от белы лён,
Вот лён на гарэ,
Вот лён на крутой,
Наш лён зеляной.

## ПРОСА

Два рады наступаюць: рад дзяўчат, рад хлопцаў. Падходзяць адзін к другому і пяюць па чарзе:

— Дзеўкі просу сеялі, сеялі,
Ой, рана-рана, сеялі, сеялі.
— А мы просу патопчам, патопчам,
Ой, рана-рана, патопчам, патопчам.
— А чым жа вы патопчаце, патопчаце?
Ой, рана-рана, патопчаце, патопчаце?
— Стада коней палонім, палонім,
Ой, рана-рана, палонім, палонім.
— А мы коней забяром, забяром.
Ой, рана-рана, забяром, забяром.
— А чым жа вы забераце, забераце?
Ой, рана-рана, забераце, забераце?
—Шаўковымі сецямі, сецямі,
Ой, рана-рана, сецямі, сецямі.
— А мы коней выкупім, выкупім,
Ой, рана-рана, выкупім, выкупім.
— А чым жа вы выкупіце, выкупіце?
Ой, рана-рана, выкупіце, выкупіце?
— Мы вам дадзім сто рублей, сто рублей,
Ой, рана-рана, сто рублей, сто рублей.
— Нам сто рублей не грошы, не грошы,
Ой, рана-рана, не грошы, не грошы.
— Мы вам дадзім тысячу, тысячу,
Ой, рана-рана, тысячу, тысячу.
— Нам тысяча не нужна, не нужна,
Ой, рана-рана, не нужна, не нужна.
— Мы вам дадзім дзевушку, дзевушку,
Ой, рана-рана, дзевушку, дзевушку.
— Мы дзевушку забяром, забяром,

Ой, рана-рана, забяром, забяром.
— Мы вам коней аддаём, аддаём,
Ой, рана-рана, аддаём, аддаём.

Пасля гэтага хлопцы забіраюць дзяўчыну ў свой рад. Так гуляюць, пакуль усіх дзяўчат перацягнуць.

## ЛЯДА

Пры гэтай песні гуляючыя раздзяляюцца на дзве партыі, і кожная спявае асобна, узяўшыся за рукі, стоячы насупраць адна другой.

1-я партыя

А мы ляда пратталі, праталі,
Зялёная наша ёлачка, жоўты цвет.

2-я партыя

А мы проса сеялі, сеялі,
Зялёная наша ёлачка, жоўты цвет.

1-я партыя

Мы коней упусцім, упусцім,
Зялёная наша ёлачка, жоўты цвет.

2-я партыя

А мы коней забяром, забяром,
Зялёня наша ёлачка, жоўты цвет.

1-я партыя

А мы коней выкупім, выкупім,
Зялёная наша ёлачка, жоўты цвет.

2-я партыя

А што дасце выкупу, выкупу?
Зялёная наша ёлачка, жоўты цвет.

1-я партыя

А сто рублёў выкупу, выкупу,
Зялёная наша ёлачка, жоўты цвет.

2-я партыя

Мы сто рублёў ня возьмем, ня возьмем,
Зялёная наша ёлачка, жоўты цвет.

1-я партыя

Мы дзевачку прададзім, прададзім,
Зялёная наша ёлачка, жоўты цвет.

2-я партыя

Мы паненачку прададзім, прададзім,
Зялёная наша ёлачка, жоўты цвет.

У гэты час 1-я партыя гуляючых імкнецца прабегчы паміж рук 2-й партыі і не быць злоўленай. Тыя, каго зловяць, застаюцца як выкуп. Гульня паўтараецца спачатку.

## А У ГАРОДЗЕ РАСЦЕЦЬ КАНАПЕЛЬКА ЗЕЛЯНЕНЬКА

А ў гародзе расцець канапелька зеляненька,
А ў гародзе, у карагодзе
Гуляіць Паўлінка маладзенька,
У карагодзе.
А Мікітка ходзіць, выглядае,
Ці добра гуляіць.
— А Паўлінка, ужо на дварэ роса,
Ты гуляеш боса.
— А Мікітка, калі твая ласка,
Пашый чаравічкі.
— А Паўлінка, я не ўмею шыці,
Не буду шыці.
— А Мікітка, ты не ўмееш шыці,
Я ўмею насіці.

## ХАДЖУ Я, ГУЛЯЮ

Удзельнікі карагода ходзяць кругам і спяваюць, а той, хто ў крузе, выбірае цесця, цешчу (калі дзяўчына — свекра, свякрову) і г. д. Другая частка выконваецца стоячы з прыхлопваннем у далоні:

Хаджу я, гуляю
Ўздоўж па карагоду.
Розачка мая.

Яшчэ выбіраю
Маладога цесця.
Розачка мая.

Яшчэ выбіраю
Маладую цешчу.
Розачка мая.

Яшчэ выбіраю
Маладога шурына.
Розачка мая.

Яшчэ выбіраю
Мілую сястрыцу.
Розачка мая.

Яшчэ выбіраю
Сабе суджаную.
Розачка мая.

Цесць із цешчай рассварыліс,
Са двара бяжаць пусціліс.
Розачка мая.

Засядлаю я каня
І шурына са двара
Розачка мая.

Мілая сястрыца,
З табой не жаніцца.
Розачка мая.

Ой, весел я, весел
Сягодняшні вечар
Са сваёй мілай.

Я сваю мілую
Сто раз пацалую.
Розачка мая.

## ЗАЮНЬКА, ДЗЕ Ж ТЫ БЫЎ?

— Заюнька, дзе ж ты быў,
Шэранькі, дзе ж ты быў?
— Я ў гародзе, дзевачкі. [1]

[1] Адказ «заюнькі» кожны раз паўтараецца.

— Заюнька, што дзелаў,
Шэранькі, што дзелаў?
— Капусціцу паліваў.
— Заюнька, як паліваў,
Шэранькі, як паліваў?
— Гэдак, гэдак, дзевачкі.
(Бярэ вядро і паказвае.)
— Заюнька, дзе ж ты быў,
Шэранькі, дзе ж ты быў?
— Я ў садочку, дзевачкі.
— Заюнька, што дзелаў,
Шэранькі, што дзелаў?
— Я цвяточкі сабіраў.
— Заюнька, як сабіраў,
Шэранькі, як сабіраў?
— Гэдак, гэдак, дзевачкі.
— Заюнька, дзе дзяваў,
Шэранькі, дзе дзяваў?
— Я й на дзевачак брасаў.
— Заюнька, як брасаў,
Шэранькі, як брасаў?
— Гэдак, гэдак, дзевачкі.
— Заюнька, падмудрысь,
Шэранькі, падмудрысь.
Каго любіш, сакланісь
(Выбірае дзяўчыну),
Каго любіш, сакланісь,
Пацалуйся, разайдзісь.

(Хлопец цалуе дзяўчыну, сам адыходзіць, а яна застаецца «заюнькай».)

## СЕЛЯЗЕНЬКА

Удзельнікі карагода становяцца ў круг, ходзяць і пяюць. Пасярод круга знаходзіцца «Селязенька», які паказвае, як скачуць старыя бабы, маладзіцы і хлопцы. У яго рухах многа жартоўнага.

— Селязенька касаты,
Белы, кудраваты.
Ой, люлехны-люлі,
Белы, кудраваты.
Скажы, селязенька,
Як стары бабы скачуць?

Ой, люлехны-люлі,
Як стары бабы скачуць?
— Вот так, вот і так
Гарбы выстаўляюць.
Ой, люлехны-люлі,
Гарбы выстаўляюць.
— Селязенька касаты,
Белы, кудраваты.
Скажы, селязенька,
Як маладкі скачуць?
Ой, люлехны-люлі,
Як маладкі скачуць?
— Вот так, вот і так
Хусты надумаюць.
Ой, люлехны-люлі,
Хусты надумаюць.
— Селязенька касаты,
Белы, кудраваты,
Скажы, селязенька,
Як рабяты скачуць?
Ой, люлехны-люлі,
Як рабяты скачуць?
— Вот так, вот і етак
Ногі паднімаюць.
Ой, люлехны-люлі,
Ногі паднімаюць.

## СУЛА, СУЛА-РЭКА

Сула, Сула-рэка
Паляцела далёка. У!..
На той Суле-рацэ
Маладзец каня паіў. У!..
Маладзец каня поя,
Дзеўка ваду нясе. У!..
— Дзеўка-дзявіца,
Напой майго каня. У!..
Напой майго каня,—
Ці не будзеш ты мая? У!..
— Я не буду паіці —
Будзе мяне татка біці. У!..
— Ты не бойся старога,
Бойся мяне, маладога. У!..
Бойся мяне, маладога,
Больш, як таткі раднога. У!..

## У КАРАГОДЗЕ МЫ БЫЛІ

Хлопцы і дзяўчаты бяруцца за рукі і ўтвараюць карагодны круг. У сярэдзіне яго ходзіць адна пара і прытанцоўвае, а астатнія рухаюцца вакол іх і спяваюць:

— У карагодзе мы былі,[1]
Ай, люлі, былі мы.
— Каго вы там відзелі,
Ай, люлі, відзелі?
— Мы відзелі парачку,
Ай, люлі, парачку.
Ты, парачка, патанцуй,
Ай, люлі, патанцуй,
Каго любіш, пацалуй,
Ай, люлі, пацалуй.

Пара цалуецца і выходзіць з карагоднага круга. Іх месца займаюць другія, якія паўтараюць тое ж самае.

## ЦАРЭЎНА І БАЯРЫ

Дзяўчаты і хлопцы выстройваюцца ў дзве шарэнгі: рад дзяўчат і рад хлопцаў. «Царэўна» стаіць з дзяўчатамі. У час песні кожны рад ідзе насустрач другому, а пры апошніх словах хлопцы забіраюць крайнюю дзяўчыну. Гуляюць, пакуль усіх дзяўчат не пабяруць.

— Царэўна, добры вечар.[1]
— Баяры, на здароўе.
— Царэўна, пусці ў горад.
— Баяры, чаго ў горад?
— Царэўна, дзевак сватаць.
— Баяры, дзеўкі малы.
— Царэўна, перараслі.
— Баяры, рушнікоў не ткалі.
— Царэўна, ужо ў трубачках.
— Баяры, каторую?
— Сярэднія не ўмываліся,
Крайняя ўпадабалася.

---

[1] Кожны радок паўтараецца.

## ЮРА БАРАДАТЫ

Пяецца дзяўчатамі, якія ходзяць кругам, узяўшыся за рукі. «Ружа» — у сярэдзіне кола. «Юра» пры словах «Я сам парубаю» стараецца пранікнуць у круг, дзяўчаты не пускаюць. Калі, урэшце, «Ружа» схоплена, гульня пачынаецца спачатку, ужо з новымі салістамі.

— Стары, нежанаты,[1]
Юра, ажаніся.
— Машка, дзевак нету,
Толькі адна ружа.
І тая ў агародзе,
Садам абсаджана,
Тынам абтынена,
Жытам абсеяна.
Я сад парубаю,
Я й тын паламаю,
Жыта на хлеб сажну,
Ружу к сабе вазьму.

## ПЯЧЭННЕ ХЛЕБА

Спачатку двое бяруцца за рукі і, кружачыся, спяваюць:

Паскакаў верабей
Да па сметнічку,
А сабраў верабей
Усю сямеечку.
Мала нас, мала нас
Да пячэння хлеба,
А ўжо нам, а ўжо нам
Аўдоська патрэбна.

Аўдоська становіцца ў круг. Ходзяць і пяюць разам зноў:

Паскакаў верабей
Да па сметнічку,
А сабраў верабей
Усю сямеечку.
Мала нас, мала нас
Да пячэння хлеба,
А ўжо нам, а ўжо нам
Сымонка патрэбен.

---

[1] Кожны радок спяваецца двойчы.

Сымонка становіцца ў круг. Так паўтараецца, пакуль усе не будуць у карагодзе. Тады пачынаецца адваротны працэс. Усе спяваюць:

Паскакаў верабей
Да па сметнічку,
Разагнаў верабей
Усю сямеечку.
Многа нас, многа нас
Да пячэння хлеба,
А ўжо нам, а ўжо нам
Аўдоська не трэба.

Аўдоська выходзіць з круга, і так паўтараецца, пакуль на хаце не застанецца двое тых, што вядуць гульню.

## ХАДЗІЎ КАЗАК, БЛУДЗІЎ КАЗАК

Гэты карагод звычайна вадзілі зімой на вечарынках у хатах. Надакучаць танцы, тады кажуць: «Давай карагод!» Хлопец уваходзіць у круг і выбірае сабе «жонку» і становіцца побач. Пасля другі, трэці і г. д.

Хадзіў казак, блудзіў казак
У дзявочым кругу,
У дзявочым кругу.

Шукаў казак, выбіраў казак
Для сябе жану,
Для сябе жану.

Ой ты, дзевіца, красавіца,
Выйдзі за мяне,
Я і добр і харош,
Я і добр і харош,
Я не п'яніца,
Выйдзі за мяне.

## ДРАМА́

Гэты карагод вадзілі на благавешчанне. Пасярэдзіне сядзеў адзін з удзельнікаў з лазінаю ў руках. На апошніх словах песні ён хутка ўскоквае і стараецца дакрануцца да каго-небудзь лазінаю, а дзяўчаты разбягаліся.

Дрэмля драма, пад кужэляй седзячы.[1]
Устань, драма, устань прадраміся,
Ідзі ў шынку гарэлкі напіся,
Выйдзі з шынку, на плот пахіліся.

## ОЙ, НА РЭЧЦЫ, РЭЧЦЫ ТАМ ДЗЕУКА ГУЛЯЛА

Гэты карагод вадзілі ад вялікадня да ўшэсця. Ішлі кругам і кольцамі — «крывуля» выходзіла.

Ой, на рэчцы, рэчцы
Там дзеўка гуляла,
Ой люлі, ой люлі,
Там дзеўка гуляла.
Там дзеўка гуляла,
Парня паджыдала,
Ой люлі, ой люлі,
Парня паджыдала.
— Парынь, парынёчак,
Міленькі дружочак,
Ой люлі, ой люлі,
Міленькі дружочак.
Сашый мне сапожкі
З камарынай кожкі,
Ой люлі, ой люлі,
З камарынай кожкі.
— Дзевіца, дзявіца,
Сама красавіца,
Ой люлі, ой люлі,
Сама красавіца.
Напрадзі мне нітак
Із белага снегу,
Ой люлі, ой люлі,
Із белага снегу.
— Парынь, парынёчак,
Міленькі дружочак,
Ой люлі, ой люлі,
Міленькі дружочак.
Сашый-ка мне плацце
Із макава цвета,
Ой люлі, ой люлі,

---

[1] Кожны радок спяваецца двойчы.

Із макава цвета.
— Парынь, парынёчак,
Міленькі дружочак,
Ой люлі, ой люлі,
Міленькі дружочак.
Злі-ка мне калечка
Чыста залатое,
Ой люлі, ой люлі,
Чыста залатое.
Дзе б я ні гуляла,
Штоб кальцо сіяла,
Ой люлі, ой люлі,
Штоб кальцо сіяла.
Дзе б я ні хадзіла,
Штоб кальцо свяціла,
Ой люлі, ой люлі,
Штоб кальцо свяціла.
— Дзевіца, дзявіца,
Сама красавіца,
Ой люлі, ой люлі,
Сама красавіца.
Напой мне канёчка
Сярод сіня мора,
Ой люлі, ой люлі,
Сярод сіня мора.
А штоб конь напіўся,
Капыт не змачыўся,
Ой люлі, ой люлі,
Капыт не змачыўся.

## ЯК НА НАШАЙ ВУЛІЦЫ ДА РАЗЛІЎ РАЗЛІВАЎСЯ

Гэты карагод на ўшэсце вадзілі кругам.

Як на нашай вуліцы
Да разліў разліваўся.
Ой люлі, ой люлі,
Да разліў разліваўся.

Як на тым на разліву
Да тры лебядзі плавалі.
Ой люлі, ой люлі,
Да тры лебядзі плавалі.

Уперадзі ж, уперадзі
Да лябёдка паперадзі.
Ой люлі, ой люлі,
Да лябёдка паперадзі.

Як наляцеў, наляцеў
Да сізы й арол на воду.
Ой люлі, ой люлі,
Да сізы й арол на воду.

Ухапіў, ухапіў
Да лябёдку за крылушка.
Ой люлі, ой люлі,
Да лябёдку за крылушка.

Да лябёдку за крылушка
Да за сізае пёрушка.
Ой люлі, ой люлі,
Да за сізае пёрушка.

Як на нашай вуліцы
Да на зялёнай мураўцы.
Ой люлі, ой люлі,
Да на зялёнай мураўцы.

Да на зялёнай мураўцы
Да дзеўкі танкі вадзілі.
Ой люлі, ой люлі,
Да дзеўкі танкі вадзілі.

Уперадзі, уперадзі
Да дзевачка паперадзі.
Ой люлі, ой люлі,
Да дзевачка паперадзі.

Як наехаў, наехаў
Да хлопчычак на коніку.
Ой люлі, ой люлі,
Да хлопчык на коніку.

Ухапіў, ухапіў
Да дзевачку за ручачку.
Ой люлі, ой люлі,
Да дзевачку за ручачку.

Да дзевачку за ручачку
Да за русую косачку.
Ой люлі, ой люлі,
Да за русую косачку.

Што ж некаму, некаму
Да ўперад танка весць будзе.
Ой люлі, ой люлі,
Уперад танка весці будзе.

Ой некаму, некаму
Да песень пачынаць будзе.
Ой люлі, ой люлі,
Да песень пачынаць будзе.

## ЖУРАВЕЛЬ

Гэта танец-гульня. Яго выканаўцы павольна паднімаюць то правую, то левую нагу, наогул імітуючы ўсёй пластыкай свайго цела жураўля.

Некалькі пар, узяўшыся за рукі, ствараюць круг. У цэнтры яго ходзіць хлопец — «журавель». У час, калі пары кружацца, ён падкрадаецца да дзяўчат і стараецца вырваць якую-небудзь з рук кавалера. А кавалер спрытна выкручваецца са сваёй дзяўчынай. У час танца дзяўчаты спяваюць:

Да ўнадзіўся журавель
Да да нашых канапель:
Такі-такі журавель,
Што не выгнаць яго нігдзель.
Такі-такі чубаты,
Такі-такі насаты!

Нарэшце, калі дзяўчаты закрычаць: «Хапай, журавель!» — ён павінен схапіць каго-небудзь з іх за руку і станцаваць з ёю адзін круг. Калі ж нікога не схопіць, сам застаецца ў крузе за жураўля. У выпадку ж, калі яму пашанцуе, на яго месцы застаецца той, хто застаўся без пары.

## ГОРЛІЦА

Гэты танец-гульня падобны да «Жураўля», толькі ў крузе ходзіць не хлопец, а дзяўчына. З завязанымі вачыма яна павінна паказаць на хлопца. Калі яна спыніць дзяўчыну, то па-

вінна пацалавацъ хлопца, які быў з той у пары. Гэтым танцам звычайна заканчваецца ігрышча. У час танца хлопцы пяюць:

Ой, дзяўчына-горліца
Ды да хлопцаў горнецца,
А хлапчына, як арол,
Як пабачыў, ажна ўмёр!

## ЧУРЫЛЛА

Становяцца ў рад хлопцы, а за імі дзяўчаты. У канцы рада стаіць больш відны хлопец за Чурыллу. Кожная пара, узяўшыся за рукі, стараецца як мага хутчэй абыйсці вакол Чурыллы, каб ён не злавіў дзяўчыны. Калі зловіць — хлопец злоўленай становіцца Чурыллам. Пара, аббягаючы ля яго, выкрыквае: «Чур ад нас! Пусці нас!» У час танца спяваюць песню:

Ой ты, Чурылла пане!
Гдзе тваё войска стане?
Гдзе яго начурыш?
Як ты з ім парушыш?
Ой ты, Чурылла, ой ты!
Куды ад цябе зыйці?
Ой, па-над мяжою ў прысценю
Да пасею я ячменю:
У мяне ячмень урос,
У яго чырвоны калос!
Ой, калос
Да ўрос!
А па ячменю я парушу
З войскам ворагу па катушу.

## ВЕРБАВАНЕЦ

Дзяўчаты застаюцца ў зборнай хаце, а хлопцы (у той жа колькасці) выходзяць у другі пакой. Кожная дзяўчына завочна выбірае сабе хлопца, пасля чаго ўсе сядаюць паўкругам на лаўках і пяюць:

У Заслаўлю слаўным месце
Звербавалі хлопцаў дзвесце.
— А чым жа іх вербавалі?
— Гарных жонак даравалі.

У Заслаўлю слаўным месце
Звербавалі хлопцаў дзвесце:
І вайтовы, і пісары —
Ўсе туды от прыставалі.
— Прыстань, Юрка, да вярбунку,
Будзеш есці з маслам курку,
Будзеш есці, будзеш піці,
Будзеш, як панок, хадзіці.
Забудзь тату, забудзь маму,
А сам прыстань к вербаваню!
Цяпер маем гараваці,
Лепей з жонкаю гацаці.

Хлопцы па чарзе ўваходзяць у хату і стараюцца адгадаць дзяўчыну, якая іх выбрала. Калі каторы не ўгадае, то садзіцца ля той, на якую паказаў, каб заблытаць такім чынам іншых хлопцаў.

## ХАЛІМОН

Усе дзяўчаты становяцца ў круг. Адна з іх выходзіць на сярэдзіну, ходзіць па кругу, а астатнія спяваюць хорам:

Куды ты едзеш, Халімон?
Куды едзеш, брацец мой?
Не маеш шапкі на выбор,—
Бяры сабе шапку на выбор.

Пры гэтых словах дзяўчына бярэ шапку і надзявае сабе на галаву. Хор прадаўжае:

Куды ты едзеш, Халімон?
Куды едзеш, брацец мой?
Не маеш каня на выбор,—
Бяры сабе каня на выбор.

Ёй падаюць палку, і яна робіць выгляд, нібыта едзе на кані. Хор прадаўжае співаць:

Куды ты едзеш, Халімон?
Куды едзеш, брацец мой?
Не маеш сабе шаблі на выбор,—
Бяры сабе шаблю на выбор.

Дзяўчына бярэ лучыну і стукае ёю па падлозе.

Куды ты едзеш, Халімон?
Куды едзеш, брацец мой?
Не маеш сабе дзеўкі на выбор,—
Бяры сабе дзеўку на выбор.

Дзяўчына, што хадзіла ў крузе, бярэ другую дзяўчыну, ідзе з ёю танцаваць. Гэтак жа сама танцуюць і ўсе астатнія пад музыку скамароха.

## ГНЯВАШ

На сярэдзіну хаты выходзяць жанчына і мужчына. Як толькі заіграюць песню, яны пачынаюць паволі хадзіць па пакоі. Жанчына ідзе першай і робіць выгляд, што яна быццам бы аб чымсьці сумуе. Мужчына ідзе за ёю і спявае:

Дзяўчына мая
Заручоная,
Чаго так ходзіш
Засмучоная?

Яна адказвае:

Як мне хадзіці,
Вясёлай быці,
Каго любіла,
Трэба забыці,

— і закрывае вочы хусткай, як быццам плача. Мужчына падыходзіць да яе і кленчыць на калена. Яна, махнуўшы на яго хусткай, адварочваецца і, зрабіўшы выгляд, што сярдуе, ідзе ў другі бок. Мужчына ідзе за ёю і спявае:

Дзяўчына мая,
Славамі блудзіш,
Сама не знаеш,
Каго ты любіш.

Яна адказвае:

Ой, знаю, знаю,
Каго кахаю,
Адно не знаю,
З кім жыці маю.

Ён у гэты час забягае ёй наперад і, праспяваўшы:

Чэраз рэчаньку,
Чэраз балота
Падай ручаньку,
Маё залота,

— кланяецца ёй. Жанчына ж, зноў адвярнуўшыся ад яго, ідзе ў другі бок; прайшоўшы некалькі крокаў і павярнуўшы галаву да мужчыны, паказвае, што плюе на яго, і спявае:

Рукі не падам,
Душы не згублю,
Праўды не скажу,
Каго я люблю.

Цяпер ужо ён «загневаны» і са спевам падыходзіць да яе. Ролі мяняюцца. Жанчына пачынае хадзіць за мужчынам і спявае. Але мужчына не паварочваецца да яе. Яна, нібы загневаная, адходзіць ад яго. Мужчына зноў ідзе за ёю. Песню прадаўжаюць прысутныя. Пры словах:

Ой, знаці, знаці,
Хто каго любіць,

— яны, нарэшце, мірацца, цалуюцца і, узяўшы адзін аднаго за рукі, кружацца да канца песні.

## КРЫВЫ ТАНОК

Вадзілі яшчэ крывы танок. Называецца так таму, што ставілі тры прадметы, тры чалавекі, а паміж імі крывулямі водзяць танок.

Да Васіль, ты мой Васілёчак,
Васілёчак, Васілёчак,
Да бела-розавы цвяточак,
Мой цвяточак, мой цвяточак.
Часам я цябе садзіла,
Я садзіла, я садзіла.
Другім часам палівала,
Палівала, палівала.
Трэцім часам сарывала,
Сарывала, сарывала.

Да сарву цвяток, пайду ў танок,
Пайду ў танок, пайду ў танок.
Пайду ў танок, саўю вянок,
Саўю вянок, саўю вянок.
А ў тым танку мой нялюбы,
Мой нялюбы, мой нялюбы.
Мой нялюбы ў гуслі грае,
У гуслі грае, у гуслі грае.
Яго гуслі лубяныя,
Лубяныя, лубяныя.
Ды яго струны шаўкавыя,
Шаўкавыя, шаўкавыя.
Ды як зайграе — сэрца вяне,
Сэрца вяне, сэрца вяне.
Сэрца вяне, жывот ные,
Жывот ные, жывот ные.

## КРЫВЕНЬКІ ТАНОК

Гэты карагод атрымаў сваю назву ад таго, што яго водзяць вакол трох убітых у зямлю калкоў.

Завядом мы, дзевачкі,
Крывенькі таночак.
Лёлі, лёлі рана,
Мы крывенькі таночак.

Мы крывенькі таночак,
А ўсе дзевачкі ў кружочак.
Лёлі, лёлі рана,
А ўсе дзевачкі ў кружочак.

Дзеўкі кашу варылі,
Жоўтым маслам палівалі.
Лёлі, лёлі рана,
Жоўтым маслам палівалі.

Жоўтым маслам палівалі,
Белым сырам пасыпалі.
Лёлі, лёлі рана,
Белым сырам пасыпалі.

## КАЛОДАЧКА

Пасярод хаты ставяць калодку ці засланку ад печы, на якую садзіцца адна з дзяўчат. Астатнія стаяць вакол яе і пяюць:

На гары мак, мак,
А ў падолі так, так!
Бедная мая галовачка,
Залатая маковачка!
Ці паспеў мак?

Дзяўчына, што сядзіць на калодцы:

Пасеяла.
На гары мак, мак,
А ў падолі так, так!
Бедная мая галовачка,
Залатая маковачка!
Ці паспеў мак?

Дзяўчына на калодцы:

Узышоў.
На гары мак, мак,
А ў падолі так, так!
Бедная мая галовачка,
Залатая маковачка!
Ці паспеў мак?

Дзяўчына на калодцы:

Цвіце!
На гары мак, мак,
А ў падолі так, так!
Бедная мая галовачка!
Ці паспеў мак?

Дзяўчына на калодцы:

Паспеў!

Як толькі яна скажа «паспеў», астатнія дзяўчаты кідаюцца да яе і пачынаюць шчыпаць.

10. Зак. 948

## ЕТА ПОЛЕ ЖОЎТАЕ — НАШТО МНЕ

Адзін з хлопцаў ходзіць у сярэдзіне карагода, усе пяюць:

Ета поле жоўтае — нашто мне,
Я пайду да мілае да свае,
Ета поле зялёнае — ета маё.

Затым хлопец бярэ за рукі дзяўчыну, якую «аблюбуя», і выводзіць у сярэдзіну карагода з песняй:

Мая міленька харашэнька,
Бела, красна і румяна,
Яе лічанька малявана.
Я буду з мілаю
Мёд-віно піць
І поле дзяліць.

Так прадаўжаецца датуль, пакуль кожны хлопец не падбярэ сабе пары па густу.

## ПАДУШАЧКА

Дзяўчаты становяцца ў круг, а адна з іх становіцца ў цэнтры і спявае:

Падушачка, падушачка, мая пухавая!
Малодачка, малодачка, мая маладая!
Каго люблю, каго люблю, таго й пацалую,
Падушачку пухавую таму й падарую!
Быў-жыў, да няма, да паехаў да лігіна,
Бедная мая галованька — адна спаці легла!
Жыў-быў, да няма, да паехаў на рэчку,
Каб ведала, што ўтапіўся, паставіла б свечку.
Ой, жаль жа мне, што не вернецца,
Падушачка пухавая пераверне цца!

Дзяўчаты ёй падпяваюць і плаўна танцуюць кругавую, то пагойдваючыся, то б'ючы ў далоні. Пасля песні дзяўчына, што стаяла ў крузе, выбірае сабе сяброўку і пачынае танцаваць «круцёлку». Тое ж робяць і ўсе астатнія. Патанцаваўшы, у сярэдзіну круга становіцца дзяўчына, што танцавала з запявалай, і гульня працягваецца.

## ПАДУШАЧКА, ПАДУШАЧКА

Падушачка, падушачка,
Мая пухавая!
Малодачка, малодачка,
Мая маладая!
Каго люблю, каго люблю,
Таго пацалую,
Пуховую падушачку
Таму падарую.
Як прыехаў, як прыехаў
Мой міленькі позна,
Параскідаў, параскідаў
Падушачкі розна.
Як прыехаў, як прыехаў
Мой міленькі з места,
Паскладаў, паскладаў
Падушачкі ўместа.
Я і рыбку лавіла,
Я і шатравала,
Каго верна любіла,
Таго цалавала.
У каго чорны вусок,
Таму рыбкі кусок,
У каго рыжа барада,
Таму поліўкі шкада.
Шэсць дзён малаціла,
Шастак зарабіла,
Сама сабе дзівавала,
Што памногу зарабляла.

## ПАВА

За дзяўчынай-павай ходзіць у крузе хлопец-паўлін. Ён імкнецца пацалаваць яе, але яна ўцякае. Узяўшыся за рукі, карагод спявае:

За паваю паў ляцеў, паў ляцеў!

Крычыць:

Пава, ты ж мая, ты ж мая!
— Нет, я судар, не твая, не твая.
— Пазволь, пава, пастаяць, пастаяць,
Каго люблю, цалаваць, цалаваць.

Хлопец ловіць дзяўчыну і цалуе. У круг уваходзіць наступная пара, і гульня прадаўжаецца.

## ЛУКА

«Нуця, таячкі, у луку гуляць!» — крычыць якая-небудзь з дзяўчат. І, памясціўшы ў круг двух-трох падлеткаў, дзяўчаты пачынаюць вадзіць карагод і спяваць:

Лука мая, лука мая,
Лука зеляная,
Траўка шаўкавая.
Што на той жа на луцэ
Казак коней пасе,
Па кладачцы, па вярбовай
Дзеўка ваду нясе.
Лука мая, лука,
Лука зеляная.
— Кладачка вярбовая,
Гнісь, не ўламісь,
Дзеўка-дзявіца,
Дай каню вады напіцца.
Лука мая, лука,
Лука зеляная.
— Не буду паіць,
У мяне маці не радная,
Будзе мяне біць
Колкаю шыпшынаю,
Стрыкучаю да крапіваю,
Вяліць поўны вёдры браць,
Не вяліць адліваць.
Лука мая, лука,
Лука зеляная.

Пасля кожнага прыпеву «Лука мая, лука» некаторыя дужыя дзяўчаты бяруць на рукі падлеткаў, што стаяць у крузе, і ўзнімаюць іх вышэй галавы, «штоб доўгі лён радзіў».

## ПА ЛУЖКАМ, ЛУЖКАМ, ЛУЖКАМ

У карагодны круг уваходзіць хлопец і выбірае дзяўчыну. Пры словах «Адна дзеўка крашы ўсіх» ён падыходзіць да абранай дзяўчыны і знімае шапку. Калі спяваюць «Пакланюся я ніжэй», хлопец кланяецца сваёй абранніцы, і тая выходзіць у круг.

Па лужкам, лужкам, лужкам
Разлівалася вада.
Эй-лі, эй, да люлі,

Разлівалася вада.
Разлівалася вада,
Рассцілалася трава.
Эй-лі, эй, да люлі,
Рассцілалася трава.
Рассцілалася трава,
Расцвіталі ўсе цвята,
Эй-лі, эй, да люлі,
Расцвіталі ўсе цвята.
Што на той жа на траве
Дзеўкі водзяць карагод,
Эй-лі, эй, да люлі,
Дзеўкі водзяць карагод.
Усе дзеўкі харашы,
Красавіцы прыгажы,
Эй-лі, эй, да люлі,
Красавіцы прыгажы.
Адна дзеўка крашы ўсіх,
Па прыбору луччы ўсіх,
Эй-лі, эй, да люлі,
Па прыбору луччы ўсіх,
Па прыбору луччы ўсіх,
У касе лента шыры ўсіх,
Эй-лі, эй, да люлі,
У касе лента шыры ўсіх.
Падайду я ж к карагоду,
Пакланюся я народу,
Эй-лі, эй, да люлі,
Пакланюся я народу.
Падыйду я пабліжэй,
Пакланюся паніжэй,
Эй-лі, эй, да люлі,
Пакланюся паніжэй.
— Раскажы-тка ты, дзяўчонка,
Як па бацюшку завуць?
Эй-лі, эй, да люлі,
Як па бацюшку завуць?
— Маё імя Кацярына,
Доч маскоўскага купца,
Наступіла цёмна ноч,
Адыдзі, малодчык, проч!
Эй-лі, эй, да люлі,
Адыдзі, малодчык, проч!

## Я МАЛЁШАНЬКІ

У карагодным крузе ходзіць хлопец і ў роспачы ламае рукі. Пры словах «Як узяў я сабе жану маладую» ён запрашае паклонам у круг дзяўчыну. Калі пяюць «Прывязала негадзяя», дзяўчына абхоплівае хлопца хусткай і канцы яе дае трымаць дзяўчынцы-падлетку, знарок выкліканай для гэтага ў круг. Пры словах «А сама пашла ў пір піраваці» дзяўчына ходзіць па кругу, у той час як хлопец, крыўляючыся ад болю, адганяе камароў. Апошні дыялог жонка вядзе сурова, з пагрозамі, а муж адказвае ёй лагодна, з паклонамі:

Я малёшанькі
У маменькі ўрадзіўся,
Люлі, палюлі,
У маменькі ўрадзіўся.
Ой, няшчасны я
Да я ажаніўся,
Люлі, палюлі,
Да я ажаніўся.
Як узяў я сабе
Жану маладую,
Люлі, палюлі,
Жану маладую.
Як вішаньку
У садзе зеленую,
Люлі, палюлі,
У саду зеленую.
Як і яблычка
У саду наліўное,
Люлі, палюлі,
У саду наліўное.
— То пойдзем, нягодны,
Ды к цесцю ў госці,
Люлі, палюлі,
Ды к цесцю ў госці.
— Гасударыня-жана,
Пойдзем хоць сягодні,
Люлі, палюлі,
Пойдзем хоць сягодні.
Не пашлі ў госці,—
У зялёную рошчу,
Люлі, палюлі,
У зялёную рошчу.

Прывязала негадзяя
Ка белай бярозе,
Люлі, палюлі,
Ка белай бярозе.
А сама пашла
У пір піраваці,
Люлі, палюлі,
У пір піраваці.
Роўна дзевяць дзянёчкаў
Яна не бывала,
Люлі, палюлі,
Яна не бывала,
На дзесяты дзянёчак
Яна прыхадзіла,
Люлі, палюлі,
Яна прыхадзіла.
Негадзяем малодчыка
Мяне называла,
Люлі, палюлі,
Мяне называла.
— Харашо табе, нягодны,
У піру піраваці,
Люлі, палюлі,
У піру піраваці.
— Гасударыня-жана,
Мне не да піру,
Люлі, палюлі,
Мне не да піру.
Мне мурашачкі
Ножачкі стачылі.
Люлі, палюлі,
Ножачкі стачылі.
Мне камарочкі
Плечыкі скусалі,
Люлі, палюлі,
Плечыкі скусалі.
Мне салоўюшкі
Галоўку склявалі,
Люлі, палюлі,
Галоўку склявалі.
— Да ці будзеш, нягодны,
Мяне хлебам карміці?
Люлі, палюлі,
Мяне хлебам карміці?

— Гасударыня-жана,
Буду калачамі,
Люлі, палюлі,
Буду калачамі.
— Да ці будзеш, нягодны,
Мяне квасам паіці?
Люлі, палюлі,
Мяне квасам паіці?
— Гасударыня-жана,
Я буду сытою,
Люлі, палюлі,
Я буду сытою.
— Да ці будзеш, нягодны,
Мяне ў госці вадзіці?
Люлі, палюлі,
Мяне ў госці вадзіці?
— Гасударыня-жана,
Ідзі, куда хочаш,
Люлі, палюлі,
Ідзі, куда хочаш.

## СЕЛЯЗНЯ ВАДЗІЦЬ

Гульня адбываецца так. Калі моладзь збіраецца на забаву «арэлі», многія пачынаюць крычаць: «Давайце селязня вадзіць». Адзін з хлопцаў б'е ў бубен, і пад гэту музыку пачынаюць танцаваць. У карагодным крузе паказваюць, як танцуюць старыя жанчыны, старыя дзяды і маладыя хлопцы.

1-ы хор

Селязенька касаты,
Маладзец кудраваты,
Скажы, селязенька,
Як старыя бабы скачуць?

2-і хор

Вот так таўкуць мох,
Вось і гэтак, вот і так
Гарбамі ківаюць,
Дзядоў падманяюць.
Лён пры дарозе,
Вецер павявае!

1-ы хор

Селязенька касаты,
Маладзец кудраваты,
Скажы, селязенька,
Як старыя дзяды скачуць?

2-і хор

Вот так, вот і гэтак,
Вот так,
Непрыгожа,
Вот так,
Нехароша.
Лён пры дарозе,
Вецер павявае.

1-ы хор

Скажы, селязенька,
Селязенька касаты,
Як рабяты скачуць?

2-і хор

Вот так, вот і гэтак,
Вот так,
Харашэнька,
Вот так,
Прыгажэнька.
Брывамі маргаюць,
Кудрамі махаюць,
Дзяўчат падманяюць.
Лён пры дарозе,
Вецер павявае.

## Я ЕДУ БЕЛ МАЛАДЗЕЦ

Дзяўчаты і хлопцы становяцца ў рад, адзін з хлопцаў садзіцца вярхом на палку, пад'язджае да адной з дзяўчат і пяе:

Я еду бел маладзец,
Я еду беленькі.
Жаніцеся, дзевачкі,
Жаніцеся, красныя!

Дзяўчаты яму адказваюць:

Калі ты бел маладзец,
Калі ты беленькі,
Гдзе твая матынька,
Гдзе твая родная?

Хлопец кланяецца, паказвае на яе і пяе:

Вот мая матынька!
Вот мая родная!

Ён пад'язджае да хлопца і пяе яму, што пеў спачатку дзяўчыне. Хлопец яму адказвае:

Гдзе твой бацінька,
Гдзе твой родненькі?

Ён кланяецца другому, паказвае на яго і пяе:

Вот мой бацінька,
Вот мой родненькі!

Нарэшце, яго пытаюць:

Гдзе твая дзеванька,
Гдзе твая мілая?

Ён адказвае:

Вот мая дзеванька,
Вот мая мілая!

Пасля гэтага ўсе становяцца ў круг, і хлопец выводзіць на сярэдзіну яго сваю мілую.

## ЛУЧ

Моладзь збіраецца ў хаце, дзяўчаты становяцца ў круг, падзываюць якога-небудзь хлопца і адбіраюць у яго што-небудзь: гузік, грабянец і г. д. Потым хлопец выходзіць з хаты. У гэты час адна з дзяўчат (па жэрабю) хавае рэч, што належыць хлопцу. Затым дзяўчаты клічуць хлопца, які ўваходзіць з запаленай лучынай у руцэ і гаворыць нараспеў:

Со лучом я хажу,
Сваю бабушку ішчу
Харытонаўну.
Яна ў бор сышла,
У сырой сышла,
Яна злата брала,
Пад сасну клала,

Кабы бабку ўвідаць,
Белы ручанькі скуваць,
Сабе злато адбіраць,
Буйну голаву злажыць,
Пад касцёр падлажыць.
Касцёр сажгу
Сам я проч пайду.

З гэтымі словамі хлопец перадае лучыну той дзяўчыне, у якой, як ён думае, знаходзіцца яго рэч. Калі ён угадаў, то бярэ сваю рэч і цалуе дзяўчыну, у адваротным жа выпадку дзяўчына б'е яго і выганяе з круга. Хлопец зноў выходзіць з хаты, а дзяўчаты, становячыся ў круг, яго зноў выклікаюць і г. д. Гульня прадаўжаецца да таго часу, пакуль ён не адгадае, якая з дзяўчат схавала яго рэч. Тады на яго месца становіцца другі, затым трэці хлопец і г. д., і з кожным паўтараецца тое ж самае.

## ГРУШКА

На невялікім узвышэнні (калодцы ці ўслоне) пасярод хаты садзіцца адна дзяўчына, астатнія ж бяруцца за рукі, утвараюць вакол яе круг, танцуюць кругавую і спяваюць:

Да ўжо грушку пасадзілі,
А я, маладзенька, скачу-пляшу!
Да ўжо грушку пара паліваці,
А я, маладзенька, скачу-пляшу!
Да ўжо грушка ў пупышкі бярэцца,
А я, маладзенька, скачу-пляшу!
Да ўжо грушка лісцік распуская,
А я, маладзенька, скачу-пляшу!
Да ўжо грушка лісцік распусціла,
А я, маладзенька, скачу-пляшу!
Да ўжо грушка зацвітая,
А я, маладзенька, скачу-пляшу!
Да ўжо грушка адцвітая,
А я, маладзенька, скачу-пляшу!
Да ўжо грушка ў завязь бярэцца,
А я, маладзенька, скачу-пляшу!
Да ўжо грушка паспявая,
А я, маладзенька, скачу-пляшу!
Да ўжо грушку пара шчыпаці,
А я, маладзенька, скачу-пляшу!

Круг імгненна размыкаецца і пачынае шчыпаць дзяўчыну, што сядзіць у цэнтры.

## ПАНІ КСЕНЯ

Дзяўчаты, што гуляюць у гэту гульню, становяцца ў круг. Адна з іх садзіцца на невялікім узвышэнні ў крузе і прадстаўляе «паню Ксеню». Дзве ці тры дзяўчыны выходзяць з круга і пяюць:

Ці ня мусім, пані Ксеня,
Адну цорку даці?

Пані Ксеня ім адказвае (таксама спявае):

Я ня мушу цоркі даці,
Бяз цоркі ўстаці.

Круг размыкаецца: вышаўшыя з яго дзяўчаты бяруць з круга сяброўку, танцуюць з ёй «круцёлку» і пяюць:

Вот відзі, пані Ксеня,—
Твая цорка з намі
У танэчку,
У вянэчку,
Танцуя з намі.

Дзяўчына, з якой танцавалі, адыходзіць убок і садзіцца асобна ад іншых. Гульня працягваецца датуль, пакуль ля «пані Ксені» не застанецца ніводнай дзяўчыны.

## МОСТ

Дзяўчаты становяцца ў шарэнгу і бяруцца за рукі. Ад іх аддзяляюцца дзве дзяўчыны, становяцца тварам адна да другой і таксама бяруцца за рукі. Тыя, што стаяць у шарэнзе, пачынаюць спяваць:

Явар, явар, яваравы людзі!
Чаго вы тут стаеце, яваравы людзі?

Тыя, што аддзяліліся, у адказ ім пяюць:

Мы тут стаемо,
Мост падаемо!

Сяброўкі іх пачынаюць упрошваць (пяюць):

Явар, явар, яваравы людзі!
Пшэпускайця ўшыстке пшез становы моста.

Дзявочы дуэт адказвае ім наступнымі словамі:

Мы ўшыстке пшепускаем!
Адну сабе астаўляем!

— паднімаюць рукі, і ўсе дзяўчаты праходзяць у іх пад рукамі, акрамя апошняй, якую яны затрымліваюць, апусціўшы рукі. Гуляюць да таго часу, пакуль не затрымаюць усіх дзяўчат. Затрыманыя ўдзельнічаюць у спевах.

## У ХРЭНА

Усе садзяцца на зямлю адзін аднаму «ў пастання» ці «на ўлонне», утвараючы такім чынам доўгую шарэнгу. Адзін з гуляючых ходзіць уздоўж яе і, кладучы кожнаму на галаву руку, спявае:

Ой, хрэн мой, хрэн,
Ох, і хто цябе расціў,
І хто цябе паліваў?

Хрэн адказвае хорам:

Садзіў мяне Селівон,
Паліваў мяне Іван,
Селівонава жана
Пры гародзі была,
Прысаджвала, пераважвала.

1-ы гулец:

Ты расці, расці, мой хрэн,
З жардзіну ўдоўжкі,
З калоду ўтоўшкі.

2-і гулец:

Стукі-грукі...

Хрэн:

Хто там?

1-ы гулец:

Сам пан дваранін.

Хрэн:

За чым?

2-і гулец:

Пані ляжала,
Хрэну бажала.

Хрэн:

Ірві, да кораня не прырві.

І «пан» цягне за рукі першага гульца, затым другога і г. д.

## СТАРЫЦА

— Ой, старац мой, ліхамолец мой, ён у кельні сядзіць, богу моліцца. Не вяліць мне бяліцца, румяніцца, а мне то маладзёшаньке не хочацца. Хацелась маладзёшаньке яшчэ б пагуляць, з краснымі пахадзіць! Кума, кума, ці далёка мой старац?

— А шчэ ў Кіеві!

— О, шчэ ж такі да старца наскачусь, напляшусь, наіграюся, нарумянюся. Старац у келенцы сядзіць, богу моліцца, не вяліць мне бяліцца, румяніцца. А мне то маладзёшаньке не хочацца, хацелась маладзёшаньке яшчэ б пагуляць. З краснымі пахадзіць! Кума, кума, ці далёка старац?

— У Броварах!

— О, шчэ ж такі да старца наскачусь, напляшусь... і г. д.

На далейшыя пытанні старыцы кума пералічвае звычайна наступныя пункты, размешчаныя на шляху з Кіева ў Гомель: Казельск, Чарнігаў, Рэпкі, Ярылавічы, Замглайск, Клімаўск, Падзерачку, Слабодку, Беліцу. У апошні раз адказвае: «А вон ужо на той вуліцы!» Карагод пяе: «Ой, шчэ ж такі да старца наскачусь, напляшусь, наіграюся, нарумянюся. А старац мой, ліхамолец мой, няхай у келенцы сядзіць, богу моліцца. А мне маладзёшанькай не хочацца...» Нечакана з'яўляецца старац (дзяўчына, пераапранутая ў старога). Карагод спыняецца і перастае пець. Дзяўчына-старыца, якая танцавала ў цэнтры карагода пад прыпеў: «О, шчэ такі да старца наскачусь, напляшусь» — і танцавала з захапленнем, махаючы хустачкай, б'ючы ў далоні, з прысядкай — пры выглядзе страшнага старца спыняецца, як укапаная... Старац уваходзіць у сярэдзіну круга:

— Ето ты мяне так слухаеш? Прыбірацца ўздумала? Адкуль еты платок дабыла?

— А галубчык, я вот у етай хазяюшкі на рэчцы мыла. Яна дала.

— А азіятку гдзе ўзяла?

— Азіятку во тая дала, што масты ў яе памыла.

— А каралі?

— А галубчык, каралі дала во ета: я ў яе грады палола.

— Ну, а дзе ўзяла ты такія сергі?

— Сергі, галубчык, я заткала во ў етае хазяюшкі.

— Ну, а хто ж ужо даў табе етыя перстні?

На гэтае пытанне старыца не адказвае. Тады старац хапае кій і кідаецца на яе:

— Ага, дык вон як ты дзелаеш!..

Старыца бяжыць, а за ёю, імкнучыся дагнаць, гоніцца старац. Хто-небудзь падстаўляе яму нагу — ён падае. Смех, крыкі.

# ПАЗААБРАДАВЫЯ ТЭАТРАЛІЗАВАНЫЯ ГУЛЬНІ

## ЦЯРЭШКА

У гэтыя вечары[1] моладзь ладзіць ігрышчы з рознымі забавамі, сярод якіх найбольш знакамітай з'яўляецца «Цярэшка». Яна заключаецца ў наступным. Моладзь збіраецца вечарам у прасторную хату, прыходзяць музыкі, і пачынаюцца танцы. Калі моладзь збярэцца канчаткова, танцы спыняюць. Баявейшыя хлопцы выбіраюць «бацьку» і «матку». «Бацька» кіруе і дае парады хлопцам пры выбары нявест, а «матка» кіруе дзяўчатамі пры выбары жаніхоў. Так, напрыклад, хлопец падыходзіць да «бацькі» і гаворыць: «Татуля! Жаніцца хачу». Бацька: «А калі сынок на тое ўжо пашло, дык жаніся сабе. Вот хоць Гануся або Гапуся — чым худыя дзеўкі?» Пасля гэтага хлопец ідзе ў другі кут хаты, і са згоды «маткі» бярэ сабе «Ганусю» ці «Гапусю». Так робяць і астатнія хлопцы. Калі падбяруцца пары, то ўсе становяцца ў два рады: адзін супроць другога, кожны хлопец з выбранай дзяўчынай. Але вось адзін з хлопцаў уцякае ад сваёй сяброўкі і хаваецца за астатнімі. Дзяўчына, ад якой уцёк хлопец, пачынае яго лавіць, адначасова спяваючы:

Не ўцікай, дзядулічка,
Не ўцікай, зязюлічка!
Пасядзі, дзецька, на печы ў кутку,
Пакуль я палатно вытку.
Не ўцікай, дзядулічка!
Не ўцікай, зязюлічка!
Хоць палатно і ня тонка,
А ўсё ж я твая жонка.
Не ўцікай, дзядулічка!
Не ўцікай, зязюлічка!
Пасядзі, дзецька, на палацях,
Пакуль я пашыю табе плацця.
Не ўцікай, дзядулічка!
Не ўцікай, зязюлічка!

---

[1] З 25 снежня па 6 студзеня.

Хоць пашыта плаццяі ні ў дамер,
Не рымзай, дзецька, ты ж ні кавалер.
Не ўцікай, дзядулічка!
Не ўцікай, зязюлічка!
Не глядзі, дзецька, больш на дзяўчат,
Бо жонка будзець бурчаць.
Не ўцікай, дзядулічка!
Не ўцікай, зязюлічка!

Калі дзяўчына зловіць свайго хлопца, то яны становяцца на ранейшае месца, а тое ж самае пачынае другая пара і так да апошняй. Пасля гульні ладзяць застолле: хлопцы даюць грошы на гарэлку, дзяўчаты ж гатуюць закусь. Перакусіўшы, пачынаюць танцаваць. Пры вялікім зборы моладзі «Цярэшка» доўжыцца з вечара да раніцы.

## ЦЯРЭШКА

Становяцца парамі ў рад. Ловячы Цярэшку, дзяўчына абабягае вакол рада і пяе:

Паставім рутачку на акне,
Далі мне дзядульку не па мне:
Гонару вышэйшага, росту ніжэйшага.
Прыміце рутачку з акна,
Дайце мне дзеда, як я.
Здайся, дзядулька, здайся,
На другіх не спадзявайся,
Другія не лепшыя, горшыя, пусцейшыя.
Дзевачкі-сястрыцы стаяць,
Памажыце мне дзядульку спаймаць.
Здайся, дзядулька, здайся,
На другіх не спадзявайся!
Здаецца, і гром не быў —
Майго дзеда забіў.
Малання запаліла,
Мне бяды нарабіла.
Мой дзедка камкуць, камкуць,
Не можа ножанькай тапнуць,
Не можа круценька хадзіць,
Не можа бабаньку злавіць.

## ЖАНІЦЬБА ЦЯРЭШКІ

Па папярэдняй дамоўленасці хлопцы і дзяўчаты збіраюцца ў выбраную хату, куды запрашаюць і скрыпача, робяць складчыну: хлопцы даюць на выпіўку, а дзяўчаты на закусь. Апошнія выбіраюць з удзельнікаў гульні аднаго хлопца ў «бацькі» і адну дзяўчыну ў «маткі». Затым кожнаму хлопцу «бацька» з «маткай» даюць па дзяўчыне. У час гэтага выбару «бацька» і «матка», узяўшыся за рукі і кружачыся ўдваіх па хаце, спяваюць пад гукі скрыпкі наступнае:

А мой ты, дзядулька,
Я твая бабулька!
Будзем мы піва варыць,
Будзем сыноў жаніць,
Будзем гарэлку гнаць,
Дочак замуж аддаваць:
Сынульку Янульку,
Дачушку Ганульку.

Калі адна пара ўжо «ажанілася», то тады прадаўжаюць спяваць так:

Ён

О мая ж ты, бабулька,
Я твой дзядулька!
Хоць жа я паваллюся,
За табою паганюся,
Хоць я ножку зламлю,
Я ж цябе ўлаўлю.

Яна

Не ўцякай, дзядулечка,
Я ж твая бабулечка!
Хоць жа я паваллюся,
За табою паганюся,
Хоць жа ручку зламлю,
Я ж цябе ўлаўлю.
Сядзь на печы ў кутку,
Пакуль я штонікі сатку.

Калі ж пачынаюць вянчаць дзяцей, усе спяваюць хорам:

А мой жа ты, дзядулечка,
Пойдзем кругом саду,

Найдзем курэй стаду,
Курачкі ніваднай,
Петушка ніводнага.
Курачкі, не сакачыце,
Петушка не звадзіце.
Вазьму я рэшата пер'я,
Куплю петушка-пеўня.
Чэраз сад дарожка біта, таптана,
Я ж у мамачкі кахана.
Цярэшка! Бяда стала!
З кім твая жана спала?
Пад дубам зялёненькім
З казаком малодзенькім.
— Хоць жа спала, хоць не спала.
Ужэ твая слава стала.

Гэтыя спевы працягваюцца да таго часу, пакуль не пераженяць між сабою ўсіх. Кожны хлопец у адзін вечар можа «ажаніцца» на трох ці чатырох дзяўчынах.

## ЖАНІЦЬБА ЦЯРЭШКІ

Хлопцы становяцца з аднаго боку, а дзяўчаты і замужнія жанчыны, нават пажылыя — з другога. Сярод жанчын выбіраюць найбольш спрытную і называюць яе свацця-маткай. Яна выбірае аднаго з мужчын, бярэ яго за руку і праходзіць з ім уздоўж шарэнгі дзяўчат, «ламаючыся» і прытанцоўваючы пад такт наступнай песні, якую сама і спявае:

Цярэшка валочыцца,
Яму жаніцца хочацца,
Валочыцца, выглядаіць,
Каго-та ён паймаіць?

На гэта дзяўчаты адказваюць хорам:

Цярэшка, Цярэшачка,
Цераз бор дарожачка
Бітая, таптаная.
Я ў маткі каханая.

Гэтак праходзяць каля жанчын некалькі разоў, а потым маці-сваццiя выбірае адну дзяўчыну і аддае яе свайму кавалеру. Гэта пара ідзе танцаваць пад песню маці-сваццi:

Цярэшка валачыўся,
Да ўжэ ж ён ажаніўся,
А ўзяў дзяўчыну прыгожую,
Хоць куды так гожую.

Хор дзяўчат на гэта адказвае:

Цярэшка, бяда стала,—
З кім яго жонка спала!
Ой, пад гаем зеляненькім,
Ці не з казаком маладзенькім?
Ой, гожая, прыгожая,
Зрабіла нягожая!

Маці-сваццця абараняе выбраную дзяўчыну, спяваючы:

Ці спала, ці не спала,
Толькі тая слава стала,
Як з казаком гукала,
Пра дарожаньку пытала,
Пра дарожаньку, пра сцежку,
Каб знайсці свайго Цярэшку.

У гэты час пара, што танцуе, спыняецца ў пачатку шарэнгі мужчын і жанчын і становіцца першай парай. А між тым маці-сваццця, прытанцоўваючы, выбірае другога мужчыну і робіць тое ж, што і з першым. Гэты абрад доўжыцца датуль, пакуль яна не пераженіць усіх і з двух радоў стаяўшых насупраць мужчын і жанчын не ўтворацца пары. Затым гэтыя пары трохі разыходзяцца, утвараючы невялікі праход, уздоўж якога танцуе першая пара. Дайшоўшы да канца рада, мужчына раптам кідае дзяўчыну і хаваецца ад яе, а яна яго шукае. У спрытных прыёмах гэтай пагоні моладзь імкнецца выявіць сваё ўмельства. Так робіць кожная пара. Усё гэта адбываецца пад наступны напеў:

Ой, пайду я па гародзе
На дзявоцкім карагодзе,
Рыбачку лапаючы,
Мілага шукаючы.
Не ўцякай, мой дзедзічка,
Не ўцякай, лябедзічка!
Я вышыю кашулечку,
Як свайму татулечку,
Тонкую, танюсенькую,
Беленьку, бялюсенькую!
Не ўцякай, мой дзедзічка,

Не ўцякай, лябедзічка!
Ой, з рубковым рукаўком
Назавуць цябе панком,
Ой, з чырвоным каўнерыкам
Назавуць цябе жаўнерыкам.
Не ўцякай, мой дзедзічка,
Не ўцякай, лябедзічка!
Пайду ж я жаночак пытаці,
Як гэту кашульку дай праці,
Як гэту кашульку дай праці,
Як яе дай у валічках качаці.
Не ўцякай, мой дзедзічка,
Не ўцякай, лябедзічка!

Пасля тое ж адбываецца, калі ад хлопцаў па чарзе ўцякаюць дзяўчаты, а тыя іх даганяюць. Пры гэтым пяюць:

Дзевачкі-пралесачкі,
Не ідзіце па арэшачкі,
Ой, не ідзіце вы самі
Спаткаціся з ваўкамі.
Не ўцякайце ж, дзевачкі,
Не ўцякайце ж, пташачкі!
Або вы заблудзіце
І арэшкі пагубіце,
Або вас што спугае,
Не ўсякі дай сэрца мае!
Не ўцякайце ж, дзевачкі,
Не ўцякайце ж, пташачкі!
Дзевачкі, шаху, шаху,
Што ў вашым мяху, мяху?
Шпілечкі, іголачкі,
Залатыя пярсцёначкі.
Не ўцякайце ж, дзевачкі,
Не ўцякайце ж, пташачкі!
Іголачкі на хустачкі,
Шпілечкі на ўстужачкі,
А пярсцёначкі к вяселійку,
У тую, што будзець нядзеліньку.
Не ўцякайце ж, дзевачкі,
Не ўцякайце ж, пташачкі!
А пажджыце, не ўцякайце,
Сваю ручку дый нам дайце,
Сваю ручку дый нам дайце,

Добрым слоўкам павітайце!
Не ўцякайце ж, дзевачкі,
Не ўцякайце ж, пташачкі!

## ГУЛЬНЯ «ЦЯРЭШКА»

Сабраўшыся ўсе разам, танцуюць польку. Потым хтосьці з жанчын кажа:

— А ці нельга жаніць нам Цярэшку?

Усе згаджаюцца і выбіраюць матку і бацьку. Матка вядзе ўсю гульню. Бацька толькі падпявае ёй і робіць усё, што яна скажа.

Усе сядзяць на лаўках каля сцен, а маці і бацька ідуць па кругу і выбіраюць пару — спачатку хлопца, а потым дзяўчыну. Ідучы, яны пяюць:

Божа мой, галоўка баліць,
Як жа мне дзетак пажаніць,
Якую мне раду даці.
Валодзя — сынулечка,
Волечка — дачушачка,
Ай, роўная парачка —
Нам гарэлкі чарачка.

Спяваючы, выводзяць у круг выбраную пару і скручваюць іх Лявоніхай — маці танцуе з хлопцам, бацька з дзяўчынай, потым, наадварот, канчаюць танцуючы па парах — маладыя і бацька з маткай. Калі танцуюць, скручваюць Лявоніху, прыпяваюць:

Ай, Лявон Лявоніху палюбіў,
Лявонісе чаравічкі купіў.
Лявоніха была ласкавая,
Чаравічкамі палясківала.

Пару, што пажанілі, садзяць ужо разам і выбіраюць другую:

Ай, будзем мы піва варыць,
Будзем мы сыноў жаніць,
Будзем мы гарэлачку гнаць,
Будзем мы дачок аддаваць.
Сяргейка — сынулечка,
Танечка — дачушачка,
Ай, роўная парачка —
Нам гарэлкі чарачка.

Зноў скручваюць Лявоніху. Кожны раз Лявоніху танцуюць па-другому. Прыпяваюць:

А мой мілы дзевярусенька,
Вядзі мяне памалюсеньку.
Не вядзі мяне па пожаньцы,
Вядзі мяне па дарожаньцы.

Пасадзіўшы гэту пару, ідуць па кругу, выбіраюць трэцюю:

Божа мой, галоўка баліць,
Як жа нам дзяцей пажаніць?
Якую радачку даць,
Дзеткам парадак даці.
Сяргейка — сынулечка,
Волечка — дачушачка,
Ай, роўная парачка —
Нам гарэлкі чарачка.

І Лявоніха:

Ай, Лявоніха не жонка была,
Нямытую рубашку дала.
Нямытую, некачаную,
У суседа пазычаную.

Чацвертая пара:

Ай, будзем мы піва варыць,
Будзем мы сыноў жаніць.
Будзем мы гарэлку гнаць,
Будзем мы дачок аддаваць.
Валодзька — сынулечка,
Танечка — дачушачка,
Ай, роўная парачка —
Нам гарэлкі чарачка.

Скручваючы, пяюць:

Кацілася калясо з клеці,
А жывіце харашо, дзеці.
А жывіце, не сварыцеся,
У загодкі не вадзіцеся.

Пятая пара:

Божа мой, галоўка баліць,
Як жа нам дзяцей пажаніць,
Якую мне раду даці,
Які мне парадак даці.
Валодзя — сынулечка,
Ірачка — дачушачка,

Ай, роўная парачка —
Нам гарэлкі чарачка.

Лявоніха для пятай пары:

Я ў матулькі адна дочка была,
Як вішанька ў садочку цвіла.
А я цвіла і пацвітывала,
Як козачка, я пабрыківала.

Калі пажэняць усе пары, то танцуюць Лявоніху ўсе разам — маці з бацькам у кругу, астатнія вакол іх. Матка перакручваецца па чарзе з кожным з танцуючых і з бацькам, які застаецца ў цэнтры круга. Перакруціўшыся з усімі, маці з бацькам пераходзяць на «мосцік», пары становяцца за імі. Цяпер кожная «бабка» даганяе свайго «дзеда». Пачынаюць бацька з маці, якія стаяць першыя. Бацька (уцякае), абыходзячы мосцік (ці, чк яшчэ кажуць, ручаёк), вяртаецца на сваё месца і праходзіць пад мосцікам — пары стаяць, узяўшыся за рукі,— пад іх рукамі, у самы канец. Бабка, даганяючы дзеда, спявае «Цярэшку». Калі паказвалі гэтую гульню ў Вялейшчыне, то спявалі не толькі бабкі, а і жанчыны, якія ў гульні ўдзелу не прымалі, бо маладыя песень не ведаюць цяпер.

Спявае маці:

Цярэшка, святое дзела,
Далі мне старога дзеда,
Старога, старлівага,
Такога журлівага.
А ні з ім у пір пайці,
А ні з ім дома быці.
У пір пайці — сварыціся,
Дома быць — пабіціся.
Цярэшка, Цярэх, Цярэх,
Далі мне дзеда з арэх,
Не ўмеіць па хаце хадзіць,
Не ўмеіць бабульку лавіць.
Хоць жа я й паналюся,
За дзедам паганюся,
Хоць жа я ножку зламлю,
Но свайго дзядульку злаўлю.
Пайду я кароў даіць,
А за мной Давыд бяжыць.
А мой ты Давыдзіла,
Я ж цябе не відзела.

Як ты мне хвартух падраў,
Каб цябе каршун задраў.
Мой жа ты дзядулечка,
Я твая бабулечка.
Пасядзі на печы ў кутку,
Пакуль я красенцы вытку.
Вытку я красеначкі,
Пашыю кашулечку
З чырвоным каўнерачкам,
Каб звалі жаўнерачкам.

Дзве апошнія пары былі маладыя, і ім пелі песні жанчыны:

Божа мой, галоўка баліць,
Як жа мне дзядульку зляліць.
Ой, здайся, дзядулька, здайся,
На чужых не заглядайся.
Што табе, дзядулька, стала,
Я яшчэ не саўсем стара.

Хто гэту гару капаў,
Хто гэту сцягу таптаў,
Да Ірачкі ходзячы,
Падарачкі носячы.
Валодзька гару капаў,
Валодзька сцягу таптаў,
Да Ірачкі ходзячы,
Падарачкі носячы.

Пасля «мосціка», калі пройдуць усе пары, танцуюць польку, і жанчыны ў час танца пяюць прыпеўкі. Потым бацька з маткай жадаюць дзецям здароўя, вяселля і г. д. і ўсе ідуць за стол.

## ЯШЧУР

Гульня ў так званага «Яшчура» іграецца тут толькі раз у год, у час каляд, у перыяд паміж ражством і вадохрышчам, і адбываецца звычайна позна вечарам у карчме ці найвялікшай у цэлай вёсцы хаце. Усе без выключэння дзяўчаты з вёскі, сабраўшыся ў гурт, па чарзе падыходзяць да акружанага хлопцамі мужчыны, які нерухома сядзіць пасярод хаты і ўласна будзе прадстаўляць яшчура [1], складаючы ля яго ног пярсцёнкі, істужкі, хусткі і каралі. Закончыўшы гэта, бяруцца за рукі і ўтвараюць вялікае кола, да кола скача яшчур пры спеве:

[1] Ім звычайна з'яўляецца жанаты мужчына.

Сядзі, сядзі, яшчуру.— Лада мая!
На залатом крэслі.— Лада мая!
У чырвонай адзежы.— Лада мая!
У гарохавым стозі.— Лада мая!
Гарошачак лушчыць.— Лада мая!
У каробачку сыпле.— Лада мая!
Пашлем мы да Коўна.— Лада мая!
З Коўна да Кралеўца.— Лада мая!
Па белыя гоўцы.— Лада мая!
Ці па красну панну.— Лада мая!
Ці па русу косу.— Лада мая!
Ці па белу ручку.— Лада мая!
Ці па злоты персцень.— Лада мая!
Бела ручка да нямытая.— Лада мая!
Руса каса да не чэсана.— Лада мая!
Злоты персцень да не чышчаны.— Лада мая!

Пры апошніх словах гэтай песні дзве дзяўчыны пакідаюць кола і, узяўшыся за рукі, падходзяць да яшчура і раз за разам нізка кланяюцца, спяваючы перад ім па чарзе:

Яшчуру-паночку,
Аддай мой вяночку:
Край мора схадзіла,
Ручкі, ножкі ззябіла,
Пакуль вянец зрабіла.
Мая матка ліхая,
У мяне вянца спытае,
Сё даць і то даць,
Пакуль вянец зыскаць:
Ці пару коні вараненькіх,
Ці пару валоў палавенькіх,
Ці каляску малявану,
Ці паненку даравану?

У час гэтага спеву хлопцы ўсялякімі магчымымі спосабамі імкнуцца рассмяшыць дзяўчат. Калі ім не ўдаецца дасягнуць сваёй мэты, яшчур вяртае дзяўчыне пярсцёнак ці іншую рэч, якую яна яму паклала. Узрадаваная дзяўчына, узнімаючы яго ўгору, выкрыквае:

Я скакала, я плясала,
Пакуль вянец зыскала!

У адваротным выпадку яна вяртаецца да гурту сваіх сябровак і да таго часу знаходзіцца ў коле, пакуль без смеху не пра-

спявае ўсю песню. Усе без выключэння дзяўчаты мусяць такі экзамен вытрымаць, а каторая смяшлівая заўсёды ўпрошвае каго-небудзь са сваіх сяброваĸ, каб ад яе імя перад яшчурам спявала.

## ЯШЧУР

Адна з дзяўчат сядае на невялікай лаўцы, так званае «заслонне» пасярэдзіне хаты, а астатнія, узяўшыся за рукі, ходзяць вакол і спяваюць:

Сядзіць, сядзіць яшчур
У гайку ў зялёнаму,
У арэхавам кусце
На залатом крэсле...

Карагод дзеліцца на пары, а яшчур адбірае ад іх хусткі; пазней яго нясуць на руках і саджаюць на лаве непадалёку ад вакна, на покуце. Усе дзяўчаты стаяць і спяваюць, а адна пара падходзіць да яшчура і гаворыць:

Ой, дзень добры, пане яшчур,
Аддай вянок на мой танок,
Што я прала, зімавала,
Я бяліла, я снавала.
Хі-хі, не хі-хі,
Аддай мой вянок!

Пасля гэтага паміж яшчурам і гэтай парай дзяўчат пачынаецца наступная размова:

Я ш ч у р. А зарэзаў бацько вола?
Д з я ў ч а т ы. Зарэзаў.
Я ш ч у р. А хвост які?
Д з я ў ч а т ы. Як лапата.
Я ш ч у р. Ці можна іці за хвост да за той цягці?
Д з я ў ч а т ы. Цягні, куда хоць!

Калі ў час гэтай размовы ніводная з дзяўчат не засмяецца, яшчур аддае ім хусткі, а ў адваротным выпадку чэрпае ваду з стаячага ля яго посуду і пырскае ім у твар. Няўдачная пара вяртаецца да ўсіх астатніх; калі падыйдзе яе чарга, яшчэ раз мусіць прасіць аддаць хусткі.

## ЯШЧАР

На заслон, пастаўлены пасярод хаты, садзіцца хлопец-яшчар. Вакол яго, узяўшыся за рукі, становяцца дзяўчаты. Яны пачынаюць кружыцца і прыпяваць:

Сядзі, сядзі, гэй, наш, наш!
На залатым крэслі, гэй, наш, наш!
Вазьмі сабе панну, гэй, наш, наш!
Каторую любіш, гэй, наш, наш!

На гэта яшчар (яго падтрымлівае ўвесь хор) адказвае:

Ой, люблю ж Коську, гэй, наш, наш!
Што ў русай касіцы, гэй, наш, наш!
У залатой прасціцы, гэй, наш, наш!
У шаўковым паясочку, гэй, наш, наш!
У руцвяном вяночку, гэй, наш, наш!

Названая дзяўчына падыходзіць да хлопца і аддае яму якую-небудзь рэч. Хлопец уступае месца другому, той робіць свой выбар і г. д., пакуль не выберуць усе ўдзельнікі сабе пары. Калі пары падабраны, хлопец, які быў першым яшчарам, сядае ля сцяны. Дзяўчаты становяцца ў рад каля супроцьлеглай сцяны і, узяўшыся за рукі, ідуць да яшчара з песняй:

Ой, яшчару-паночку,
Прашу аддаць вяночку
Краснай Марыські,
Што ў русай касіцы,
У залаценькай прасціцы,
У шаўковым паясочку
Да у руцвяным вяночку.
Да яна ночаньку не спала,
Да вяночак завівала,
Па край мора хадзіла,
Да красачкі збірала,
Да ў садочку саджала,
Прыгаршчамі палівала.
— Расцеця, красачкі, тонкія высокі,
На лісцейка шырокі,
На карэнне глыбокі.

Яшчар пасля заканчэння песні аддае рэч яе ўладальніцы і выходзіць, уступаючы месца другому. Гульня працягваецца да таго часу, пакуль не будуць вернуты ўсе рэчы.

## ЯШЧАР

Яшчар сядзіць сярод карагода. У канцы спеваў выбірае дзяўчыну, робіць усё, аб чым пяецца ў песні: бярэ дзяўчыну за касу, за руку, а затым за палец. А дзяўчына дае яму падарунак.

Сядзі, сядзі, Яшчар,
Ладу, ладу,
У арэхавым кусце
Ладу, ладу,
У белай капусце,
Ладу, ладу.
Яшчар сакочаць,
Ладу, ладу,
Жаніцца хочаць,
Ладу, ладу.
Бяры сабе, Яшчар,
Ладу, ладу,
Каторую хочаш,
Ладу, ладу.
Хоць Ганульку маладу,
Ладу, ладу.
За русую коску,
Ладу, ладу.
За белую ручку,
Ладу, ладу.
За мезіны пальчык,
Ладу, ладу.
За яе падарчык,
Ладу, ладу.

## ЖАНІЦЬБА БАХАРА

У гэтай гульні ўдзельнічаюць хлопцы і дзяўчаты. Яны падбіраюць сабе пары, нібыта жэняцца. У час гульні пяюць песню:

Паехаў бахарка па дровы, па дровы,
А яго сякера тупа, тупа,
А яго кабылка лянівa, лянівa.
Не сталі дровы рубіцца, рубіцца,
Та задумаў ён жаніцца, жаніцца,
Штоб за дзеткамі ляніцца, ляніцца.

## ЗЯЗЮЛЯ

Як і «Цярэшка» — песня гульнёвая. Спяваецца зімою пры гульні «ў зязюльку». Гульцы становяцца ў рад, адзін супроць другога, хлопцы з аднаго канца рада, дзяўчаты з другога. Калі пачынаецца песня, хлопец і дзяўчына, якімі заканчваецца рад, выходзяць з яго. Адзін ідзе налева, другая направа, і пачынаюць лавіць адзін аднаго. Спачатку хлопцы ловяць дзяўчат, а калі ўсіх пераловяць, тады дзяўчаты ловяць хлопцаў. Пры гэтым удзельнікі гульні танцуюць пад песню, а ў час спявання «Куку!» падаюць цераз рад адзін аднаму рукі.

Ты, зязюля, не кукуй, не кукуй!
Ты, шэрая, не кукуй, не кукуй!
Калі будзеш кукаваць, кукаваць,
Негдзе будзець начаваць, начаваць!
Куку! Куку!
Ходзіць пятух па вуліцы,
Скукарэчыўся:
Ці ты ножку забіў,
Ці скалечыўся?
Куку! Куку!
На вуліцы петушок
Кукарэчку пяець,
А курачка-рабушачка
Яму есці нясець.
Куку! Куку!
На вуліцы петушок
І рабая курка —
Я за цябе не пайду,
Благая натурка!
Куку! Куку!
Ходзіць пятух па вуліцы —
Як кудак, дак кудак!
Пытаецца ў курачкі:
А ці так? А ці так?
Куку! Куку!

## ВАЛАДАР

— Валадар, валадар, адчыні вароты!
— Ой, а хто там крычыць,
Ой, а хто там ярчыць?
— Князева слуга.

— А па што яна?
— Красак на вянок.
— А каго радзіці?
— Князёва дзіця.
— А ў чым яно ляжыць?
— У залатым крэслі.
— А чым пакрыта?
— Чырвоным сукном.
— А чым павязалі?
— Сіўцом-варанцом.
— А што нам дасце?
— Бочку мядочку.

## АПАНАС

Выберуць па жэрабю каго-небудзь аднаго з удзельнікаў ігрышча, завяжуць яму хусткай вочы, пастаўяць ля дзвярэй на калодзе і пытаюць:

— Апанас, Апанас!
На чым ты стаіш?
— На калодзе.
— За што дзержышся?
— За калок.
— На паліцы боршчык.
— Я выем.
— На паліцы каша.
— Я выем...

Пасля гэтых слоў усе крычаць: «Апанас, Апанас, не ўваліся ў квас, не палапай нас!» Апанас пачынае ўсіх лавіць, і каго першага зловіць, таму завязваюць вочы, ставяць на тое ж месца і паўтараюць з ім усё спачатку. Так працягваюць гульню, пакуль яна не надакучыць.

## У ГУСІ

Усе бегаюць паміж кустамі, затым адзін з гуляючых склікае:

— Гусі-лебядзі, дамоў!
— Зачым?
— Воўк за гарой.
— За якой?
— За камяной.

Усе сядаюць пад адзін куст, «маці» таксама сядае воддаль і засынае. Воўк падкрадваецца і крадзе аднаго. Прасnуўшыся, «маці» плача:

Дзеткі мае,
Галубяткі мае,
Нашто ж я вас карміла,
Нашто ж я вас паіла?
Воўк прышоў,
Дзіця ўкраў,
А я малада не чула,
На прыпечку заснула.

## РОЖА

Гульцы сядаюць у рад на зямлі адзін за другім: вышэйшыя ростам ззаду, ніжэйшыя — спераду. Той, хто сядзіць апошнім, прадстаўляе сабой Рожу. Адзін з гульцоў, папярэдне выбраны для гэтай мэты, скачучы на адной назе, некалькі разоў абабягае вакол астатніх, прыгаворваючы:

Рожа, Рожа, свіння ў агародзі!

Рожа адказвае:

Пайдзі выжань і рэпку вырві.

Той, што скача, з крыкам «усь! усь!» выганяе свінню, а пасля вырывае сабе рэпку — выводзіць з рада гуляючых пярэдняга. Выведзены ўжо не ўдзельнічае ў гульні да самага яе заканчэння. Такім парадкам гульня прадаўжаецца да таго часу, пакуль той, што ганяе свіней, не вырве ўсёй рэпы, г. зн. пакуль не выведзе з рада ўсіх гуляючых. У заключэнне гульні дзеці ўсёй грамадой паднімаюць Рожу.

## У ЖОРАВА

Гульцы бяруцца за рукі і становяцца ў адну шарэнгу. «Маці» стаіць наперадзе ўсіх.

М а ц і

Жораў, жораў, што ты робіш?

Ж о р а ў

Ямачкі капаю.

Маці

Нашто табе ямачкі?

Жораў

Каменьчыкі збіраць.

Маці

Нашто табе каменьчыкі?

Жораў

Тваім дзецям зубы і губы выбіваць.

Маці

За што? Пра што?

Жораў

Яны маю капусту паелі.

Маці

Адчаго ж ты загроду не загарадзіў?

Жораў

Я гарадзіў, гарадзіў, жалезнаю ступаю
Закаціў — яны і то пералезлі.

Маці

Ну, маніш жа ты! Мая была маленькая загрода — і то не пералезлі, а твая была вялікая, як яны пералезлі? *(Рукою паказвае вышыню загроды.)*

Жораў

Ну, усё-такі я тваіх дзяцей паем:
Курлу! Мяса хачу... курлын... курлын...
Курлын!

«Жораў» пачынае лавіць дзяцей і хаваць іх. «Маці» пытаецца ў «Жорава», дзе ён яе дзяцей падзеў.

Маці

Дзе ты *(называе імя)* падзеў?

Жораў

У капусці з'еў... Яшчэ таго мала.

Маці

А каб цябе разарвала!

Перакраўшы дзяцей, «Жораў» выходзіць, а ўсе дзеці гоняцца за ім. «Жораў» узбіраецца на дрэва. Яго знаходзяць і сцягваюць з дрэва, дзёўбаюць пальцамі па макаўцы: не крадзі дзяцей! Пасля дзеці дзяўбуць маці за тое, што яна не ўберагла іх ад «Жорава».

## ЧОРТ

Выбіраюць з удзельнікаў гульні вышэйшага ростам хлопца, даюць яму ў рот палку, выгнутую накшталт люлькі (піпкі), камечаць яго капялюш — адным словам, робяць з яго смешную карыкатуру. Гэта фігура пад назваю «чорт» стаіць, а хлопцы падыходзяць да яго для размовы.

«Што тут?» *(пытае чорт у падышоўшага).*
— Зямля *(адказвае хлопец).*
«А там?»
— Небо.
«А ў небе?»
— Тры капліцы.
«А ў тых капліцах?»
— Тры паненкі.
«А што яны там дзелаюць?»
— Шырынку шыюць.
«А каму?»
— Пану.
«Якому?»
— Кірыяцкому.
«А куды ён паехаў?»
— У лес.
«А што ён там дзелаець?»
— Целяшы сячэць.
«А нашто целяшы?»
— Лучыну шчапаць.
«А што ў целяшы?»
— Арэх.
«А ў арэсе?»
— Смех.
«Рассмейся!»
— Не смею.
«Танцуй!»
— Не ўмею.

Хто засмяецца ў канцы ці ў час гэтай размовы, таго «чорт» ставіць з левага боку ад сябе; хто не засмяецца, той становіцца справа. Сабраную такім чынам каля сябе моладзь «чорт» раздзяляе рыскай, называючы тых, што стаяць справа, праведнымі, а злева — грэшнікамі. Дае ім у рукі доўгую палку канцамі, за якія кожная група павінна цягнуць другую цераз лінію. Хто каго перацягне, той выйграў і загадвае, г. зн. карае пераможаных рознымі штрафамі: ці вытрымаць, напрыклад, па некалькі пляцек, ці вазіць каго-небудзь на спіне на пэўную адлегласць і г. д.

## ГУСІ

Маладыя хлопцы на ігрышчы рабілі: бралі кораб, насадзіўшы ў той кораб малых дзяцей, накрывалі дзяругай, увязвалі вакол кораба вяроўкаю, ставілі той кораб на санкі і ўвозілі ў хату. Хлопцы пыталіся: «Пазвольця, штоб у вас гусі пабылі!»— «Удаставярэнне ёсць?» — «Ёсць».— «Пакажыця!» Чытаюць удаставярэнне. Разбілі плашчадку пасярод хаты, становяцца тут са сваімі гусямі. Пытаюць у гусей праз кораб: «Ці есцячкі?» — «Ка-га-га!» — «Ці піцечкі?» — «Ка-га-га!» На іх січас сюды вады. Дзеці ў корабе закрычалі: «Падманулі нас мужыкі: казалі, што нічога не будзе, а вадой аблілі».

## ГУЛЬНЯ Ў «СУСЕДА»

Моладзь, дзяўчаты і хлопцы, садзяцца парамі на лаве. Распарадчык гульні пытаецца ў аднаго з хлопцаў:

— Сусед, ці любіш суседку?

— Не люблю.

— А каго любіш?

— Паўліну.

Паўліна і суседка павінны памяняцца месцамі, але ў гэты час і сам вядучы можа заняць месца Паўліны. Тады суседцы прыдзецца весці далей гульню. Калі ж хлопец сімпатызуе суседцы, то адказвае «Люблю», і яна будзе сядзець з ім, пакуль хто іншы не выкліча яе.

## ЗЛОДЗЕЙ

У дзяругу ўсадзяць чалавека, завяжуць вяроўкаю і падвесяць пад бэлькай і ўсадзяць яму ў дзяругу кошык. Потым возьмуць палку, б'юць па гэтым кошыку і пытаюць:

— Злодзей, злодзей, за што ты павешаны?

— За шыю.
— Ды за якую прычыну?
— Я з такой-та бабаю пераначаваў.
— Ах, ты бясстыднік!

Маладуху ці дзяўчыну знойдуць, падвядуць да яго, страмяць, а яна яго браніць. Во і смяюцца.

## ПРАРОК

Грамада выбірае адну асобу за «прарока» і садзіць яго пасярод хаты на зэдліку. Прароку накрываюць хусткай галаву і, пабраўшыся за рукі, ходзяць вакол яго. Кожны з грамады па чарзе кладзе руку на галаву «прарока», а адна выбраная гуляючымі асоба ў залежнасці ад таго, дзяўчына ці хлопец, пакладзе руку, гаворыць адпаведна: «Адам», «Ева». Тады «прарок» вяшчуе, што спаткае кожнага ў жыцці. Аднаму гаворыць, што будзе багатым, другому — што будзе п'яніцай. Дзяўчыне іншай кажа, што век замуж не пойдзе, а другой — што табаку нюхаць будзе і іншыя жарты.

У гэтай гульні, калі «прарок» умее добра жартаваць, бывае шмат смеху, весялосці і здаецца, што гадзіна праходзіць мінутай.

## У КАРАЛЯ

Ролі ў гэтай гульні размяркоўваюцца наступным чынам. На невялікіх паперках пішуць словы «суддзя», «пабедны чалавек», «злодзей», «кат» і, скруціўшы ў трубачкі, кладуць у шапку. Гульцы па адной бяруць запіскі, і той, у каго яны са словам «суддзя», прымае важны выгляд і пытае:

— Хто пабедны чалавек?

— Я пабедны чалавек,— адказвае той, у каго запіска з гэтымі словамі.

— Хто ў цябе кароўку ўкраў?

Пабедны чалавек павінен адгадаць, у каго запіска са словам «злодзей». Калі адгадае, то суддзя крычыць:

— А, так ты ў пабеднага чалавека апошнюю кароўку крадзеш! Кат! Даць яму цёпленькіх пяць штук!

Кат бярэ жгут, пабедны чалавек трымае за руку злодзея, і кат б'е яму па далоні пяць раз. Б'е нямоцна. Калі суддзя прысудзіць пяць «гарачых», то кат б'е мацней, калі ж скажа: «Даць яму пяць з-пад сіняга каменя!»— тады кат размахваецца і б'е з усёй сілы, так што ў злодзея з вачэй слёзы коцяцца. Але такое пакаранне бывае не часта, бо пры наступным размерка-

ванні роляў і суддзя можа стаць злодзеем, і яму тады дадуць «з-пад сіняга каменя».

Калі ж пабедны чалавек не адгадае, хто ў яго ўкраў карову, то суддзя крычыць на яго:

— А, ты чэсных людзей няславіць! Кат! Дай яму дзве гарачых!

І пакаранне атрымоўвае пабедны чалавек.

Пасля паперкі зноў скручваюцца, кідаюцца ў шапку, і гульня пачынаецца спачатку.

## АВЕЧАЧКА

У гэтай гульні колькасць удзельнікаў не абмежавана. Выбіраюцца дзве галоўныя асобы: «пастух» і «воўк». Пастух становіцца пасярод хаты з качаргой у руках, каля яго кругом садзяцца «авечкі» (хлопцы і дзяўчаты), а воўк хаваецца за дзвярыма.

Пастух гаворыць:

Пасу, пасу авечачкі
Ад рання да вечара;
Воўк за гарой, а я за другой,
Я воўка не баюся:
Качарэжкай абаранюся.

Пастух адыходзіць убок і ўдае спячага. Падкрадаецца воўк, хапае адну з авечак і ўцякае разам з ёю за дзверы. Пастух, усхапіўшыся, крычыць: «Ага ту! Воўк авечку панёс!» Але воўк ужо з авечкай за дзвярыма.

Пасля гэтага пастух зноў выходзіць на сярэдзіну хаты і гаворыць тыя самыя словы: «Пасу, пасу авечачкі» і г. д. і ідзе спаць. Воўк зноў хапае авечку і так, аж пакуль не забярэ апошняй.

Тады пастух ідзе шукаць авечак і, стукаючы качаргой то з аднаго, то з другога ад сябе боку, гаворыць:

— Воўчы след — авечы след, воўчы след — авечы след...

Падыходзіць да ваўка і пытае:

— Ці не відзеў, панок, маіх авечак?

Воўк: Не, не відзеў.

Авечкі пачынаюць шумець.

Пастух: А што ж гэта ў цябе шуміць?

Воўк: Пчолы.

Пастух вяртаецца назад і ідзе зноў шукаць авечак, задае воўку тыя ж пытанні. Авечкі цяпер стукаюць. Пастух пытае:

— Што ў цябе стукае?

Воўк кажа:

— Мае парабкі дровы сякуць.

І так далей авечкі ўдаюць галасы коней, курэй, гусей, аж, нарэшце, у канцы пачынаюць блеяць. Пастух убягае ў тую каморку і, загадваючы: «Ашкіра дамоў!» — прыганяе іх зноў у хату, дзе на самым пачатку гулялі.

Пасля гэтага пастух кліча воўка ў лазню. Воўк пытае: «А якія дровы?» — «Бярозавыя» — «Не хачу, надта чадзяць!» Пастух кліча другі раз, а воўк зноў пытаецца пра дровы, а пачуўшы: «Асінавыя» — гаворыць, што яны вельмі дымяць, і адмаўляецца. І толькі на трэці раз, калі пастух гаворыць, што дровы хваёвыя, воўк згаджаецца. Але, падыйшоўшы крыху, пытаецца яшчэ: «А сабак німа?» — «Адна ёсць сучка ліхая, і тая пад печчу здыхае, а сабака кісялём падавіўся». Воўк ужо выходзіць на сярэдзіну хаты і, сеўшы на дыбчыкі, быццам мыецца. Пастух як крыкне: «Цюцькі, кусіце!» — дык тыя ўсе, што былі «авечкамі», кідаюцца на яго. Воўк уцякае, але яны даганяюць і, злавіўшы, тузаюць яго з усіх бакоў.

Пасля гэтага да воўка падыходзіць пастух і пытаецца: «А што, воўчэ, крэпка яны цябе пакусалі?» — «Ой, пакусалі!» — кажа той.— «Хадзі ж, цяпер будзем мы іх кусаць!» — і кідаюцца ўдвух на авечак. Тыя разбягаюцца ва ўсе бакі.

## РЭДЗЬКА

Удзельнікі гульні выбіраюць «бабу» і «дзеда», пасля бяруцца адзін за аднаго, абхопліваючы рукамі тулава, ці бяруцца за пояс адзін у другога. Баба становіцца ззаду ўсіх, а дзед з кіем у руках ідзе каля гуляючых і, пастукваючы, гаворыць:

— Стук стукоста!
— А хто там?
— Сам пан.
— Чаго нада?
— Прыехалі госці з чужэй валосці,
Зажадалі рэдзькі са млосці.

На гэта баба адказвае: «Толькі паарана». Дзед выходзіць, але неўзабаве вяртаецца і прадаўжае свой дыялог з бабай, дабаўляючы наступныя словы:

Звалілася паня з печы,
Разбіла грудзі, плечы,
Радзіла сына Мартына.

На колічку пасадзіла,—
Колічак зламаўся,
Сын Мартын зваліўся.

Цяпер баба адказвае: «Паскародзіла». Дзед зноў ідзе ўздоўж гуляючых, пастукваючы кіем і паўтараючы: «Стук стукоста» і г. д., але без прыгавору, прыведзенага вышэй.

Баба адказвае: «Пасеяна».

Калі дзед зноў прыходзіць са сваім пытаннем, то баба, нарэшце, ужо адказвае: «Вырасла».

А дзед, быццам чымсьці занепакоены, раптам крычыць: «Бабо, бабо! Свінні ў гародзі!» «Ну, дык выгані,— гаворыць баба,—і рэдчыну вырый».

Стары робіць выгляд, нібыта кіем выганяе свіней, а пасля рве рэдчыну, г. зн. першага ўдзельніка гульні і, вырваўшы, адсылае яго ўбок. Потым падносіць кій да губ, робіць выгляд, быццам пробуе рэдзьку і, перадаючы яе іншым, гаворыць: «Папытайце! Салодка!» Усе па чарзе пробуюць і выплёўваюць, гаворачы: «Горка!» Затым дзед зноў звяртаецца да бабы, кажучы: «Бабо, бабо! Проша ў лазню!»

— Сабак баюся.

Сабакі, г. зн. былыя «рэдчыны», бяруцца папарна за абедзве рукі. Перад імі дзед кладзе палачку і гаворыць: «Я сабак замкнуў, калодай прываліў і па абаранку даў». Баба, успакоіўшыся, пытае:

— Якая твая лазня?
— Дзеравянная.
— Якая твая печка?
— Каменная.
— Які твой палок?
— Жалезны.
— Я спякуся.
— Я саломкі падсцялю і вадзіцы налью.
— Які твой дух?
— Малінавы.
— Які твой венік?
— Шаўковы.
— Якая твая кавошка?
— Мядзяная.
— Я рукі папяку.
— Я анучачкай абярну.

Пасля такіх перагавораў баба ідзе ў лазню. «Сабакі» вырываюцца, кідаюцца на бабу і рвуць яе. Яна адбіваецца ад іх скручаным поясам ці папругай і ўцякае, пакінуўшы свае рэчы.

Гаспадар праганяе сабак, ідзе да бабы і гаворыць: «Гэй, бабо, бабо! Платок забылася».

— Я сабак баюсь і г. д.

Нарэшце, яна ідзе ў лазню, а там замест хустак і другіх рэчаў накіданы палачкі. Баба хапае палачку, грозіць «сабакам», а тыя кідаюцца да яе і рвуць. Затым яна ідзе зноў у лазню за абуткам і іншымі рэчамі, пакуль не забярэ ўсе,— і гісторыя з «сабакамі» паўтараецца кожны раз зноў. На гэтым гульня канчаецца.

## ЛЯЛЕЧКІ

Пасярод хаты ставяць лаўку і пакладуць на яе чалавека. На руках у яго зроблены лялечкі: дзяўчынка ў хустачцы і хлопчык у світцы і ў шапачцы.

Ён прымушае лялечкі (хлопчыка і дзяўчынку) танцаваць. Народ каля іх пацяшаецца, што малыя дзеткі робяць харошае прадстаўленне. Дзеці цалуюцца, пасля стукаюцца адзін аб аднаго і тонкім голасам завыюць. Павыюць, павыюць, лягуць і памруць.

Ён завыець: «Дзетачкі мае дробныя, дарагія, як вы мяне пры старасці ўцяшалі і галубілі!.. Куды ж вы ад мяне цяпер адлятаеце і з кім мяне пакідаеце? Ніяк сваіх дзетак не магу пазабыць. Ці нойдзецца хто з малых, роўных ці старых урач, які маіх дзетак падніме?.. Нашоўся старычышча, саломенная барадзішча, падняць маіх дзетак. Дзеткі ўсхваціліся, за сваё старапіліся, сталі ў ладкі пляскаць, народ на іх глазы прадаваць. Дзіўная ета штука, штоб можна было з мяртвога жывога сатвärыць! Во, саломенны старык! Ці не быўшы яны ваўшэбнікі — то прывесці к ім свяшчэнніка, прачытаць над імі кляцьбу». Узяў кніжку (засланку) і чытае: «Нет, гаспада, ета народ хароша!..»— Благадарым, гаспада добрыя людзі, што за маіх дзетак паручыліся...

## КСЦІНЫ

Устройвалі парадзіху з чалавека, прама з мужчыны, апраналі яго ў жаночае адзенне, рабілі вялікі жывот і вялі «парадзіху» на печ. Парадзіха на печы крычыць. Адзявалі доктара ў дакторскае адзенне: выварочвалі кажух, рабілі з саламяных жгутоў эпалеты, рабілі бутылкі з падстрэшных сасулек! Гэтак жа апраналася ў жаночае адзенне акушэрка. Падходзілі ўсе ўтраіх да парадзіхі. Дактары і акушэрка нічога не могуць зрабіць з парадзіхай — даводзіцца худа нашай парадзісе. Злазіць яна з пе-

чы далоў, бярэцца за пераводзіну, моцна ўскрыкнула — народ не здзівіўся. Парадзіха траханулася — нарадзіла. Знайшлася вясковая бабка: дактары і акушэрка нічым не дапамаглі, а я, вясковая бабка, карысць прынесла. Сталі хрэсбіны спраўляць, увесь народ частаваць: снегам кідаць у гледачоў.

## РЫБАЛОВЫ

Адзяваюцца маладыя рыбаловы: кожны ў халшчовы балахон. Робяць сабе быструю лодку з шасцю вёсламі (возьмуць карыта, нальюць вады), прывяжуць вяроўкі, потым вяслуюць мешалкамі і цягнуць карыта. Самі стаяць каля карыта. Просяць дазволу: «Гаспада хрысціяне, ці не можна ў вас рыбы палаўліваць?» — «Пакажыце ўдаставярэнне, што вам можна рыбу лавіць». Прачыталі ўдаставярэнне; дазволілі ім рыбу лавіць. Садзяцца яны на сваю лёгкую лодку, запальваюць сваю жаркую казу. Пачалі вазіць іх паміж народу, сталі яны боўтаць сваімі доўгімі боўтнямі. «От велікалепна рыбу ловіця; очень харашо. У вас усякая рыба ёсць: шчукі і вакуні». Так яны пастараліся: чыста ўвесь народ пааблівалі. «Благадарым пакорна, што вашы вазёра харошыя, мнагарыбныя!»

## У МЛЫН

У гэтай гульні адзін хлопец кладзецца на тапчане і бярэ кароткую палачку ў рукі. Пад тапчаном садзіцца другі хлопец і стаўляе на падлозе міску, у якой стаіць збанок з попелам. Зверху іх накрываюць посцілкай, якая спускаецца аж да зямлі. Другія робяць мельніка-яўрэя. Узяўшы мех, напханы саломай, прывязваюць да жывата якому-небудзь хлопцу і прычэпліваюць бараду з лёну ці пянькі ды надзяваюць шапку. Мельнік падходзіць да тапчана і пускае ў ход млын: хлопец, што ляжыць на тапчане, пачынае не моцна, але часта стукаць па ножках тапчана, а той, што сядзіць унізе,— круціць збанок у місцы, ад чаго робіцца шум, падобны як у млыне. Тады мельнік адходзіць убок і ўдае спячага. Хлопцы, што імітуюць шум млына, неўзабаве перастаюць круціць збанок і стукаюць палкай. Тады другія хлопцы будзяць мельніка. Узяўшы таўкач (а калі яго няма пад рукою, дык якое палена), хто-небудзь крычыць: «Хаім, млын стаў! Млын стаў!» — ды б'е з усёй сілы па жывату-сянніку. Мельнік прачынаецца не хутка і, усхапіўшыся, бяжыць да тапчана, і б'е кулаком па пятах таго хлопца, што ляжыць на тапчане: гэта мельнік нібы падбівае кліны. Пасля гэтага млын зноў ідзе, а мельнік садзіцца і спіць. І гуляюць такім чынам, пакуль служыць ахвота.

## СМЕРЦЬ

Робяць Смерць. Мужчыну апранаюць у жаночае адзенне: у сіні ці чырвоны андарак, белы фартух, белую кужэльную намётку. Твар закрываюць белай паперай, прывязваюць доўгія белыя зубы з рэдзькі, ажно глядзець страшна, такія аграмадныя. Вочы ў Смерці чырвоныя, круглыя — з буракоў. У правай руцэ Смерць трымае іголку, у левай — запаленую васковую свечку. Смерць лезе да гледачоў, пужае дзяцей, жанчын, лезе да іх цалавацца або коле іх іголкаю. Іншага дзіцёнка ці бабу да смерці напужае.

## ЗЛЫДНІ

Зрабілі злыдню: на дугу надзелі мужчынскія штаны, вушы зрабілі з двух лыжак. Гэта называецца «кабыла». На кабылу садзіцца паляўнічы. Ён апранаецца так: вусы сабе намажа чорнай сажай, у рубасе, пояс у яго цераз плячо накрыж. Уязджае ён у хату: «Здрастуйце, гаспада мужыкі! Пазвольце са свайго цёмнага лесу злыдню выгнаць!» — «Пазвольце спрасіць, адкуда вы такія ёсць, з якіх памесцяў вы находзіцесь самі? Ці ёсць у вас удаставярэнне, што вам можна ганяць ахоту?» Прачыталі ўдаставярэнне, дазволілі яму са свайго цёмнага лесу злыдню выгнаць. Громка закрычаў паляўнічы: «Разбяжыцесь-ка, шэрыя сабакі, узнайце, дзе ліхая злыдня жывець!» Дзеці ў паляўнічага за сабак: той пад лаўкай «вяху-вяху», той там пад кутом, той там на печы, той там на падлозе — усе вяхаюць. Затрубіў паляўнічы сярод свайго лесу, пачаў сабак клікаць. Сабраліся ўсе злыя сабакі да яго. Стаў ён, прытаміўшыся, пасярод сабак свайго каня карміць. Раптам упаў яго конь з усіх чатырох ног, выбіўся з сілы. «Ох, які лес агромны! Ганяў, ганяў, каня загнаў, а злыдні не выгнаў...» Пачаў у людзей пытаць, ці не можа хто каня вылечыць. Знайшоўся малады хлопец: «Я табе каня аджыўлю: толькі патрудзіцесь мне з цёмнага майго лесу выгнаць злыдню». Ён падыйшоў да каня, пачаў вакол яго хадзіць, у вушы дуць — стаў конь дыхаць. «Вот, гаспада народы, я яму каня аджыўлю, а ён мне злыдню наўрад выганіць, толькі якая ёсць — рассердзіць». Усхапіўся яго шэры конь: то быў ліхі, а то яшчэ палішэў. Сеў паляўнічы на свайго каня і затрубіў у трубу: «Ну-ка, мае шэрыя сярдзітыя сабакі, разбягайцесь па ўсіх па вуглах, цягніце злыдню! Разышчыце ліхую злыдню!» Разбегліся сабакі і пачалі ўсіх скубці за ногі. Не зявае і сам паляўнічы: людзям па плячах задаець. «Ну што, гаспада, ці давольны, ці выгнаў я вам злыдню?» — «Благадарым пакорна, што патрудзіліcь, гаспадзін ахотнік».— «Ну, прашчывайце з естым!»

## ГУСАРЫ

Адзін сядзіць за пана і гукае:

— Вахтар!

Прыбягае вахтар:

— Чаго ізволіце?

— Паднясі гусарам па чарцы гарэлкі, ды харошай.

Вось ён прыносіць на палцы ашмётак і давай ім біць па нагах. Пан зноў крычыць:

— Вахтар!

Ён прыбягае і гаворыць:

— Чаго ізволіце?

— Дай гусарам па лошадзі!

Вось ён і давай ставіць кожнаму па маладусе, потым адыходзіць да печы. Пан зноў крычыць:

— Вахтар!

Вахтар маўчыць.

— Вахтар!

Маўчыць.

— Ідзіце січас і злавіце яго: ён, відаць, загуляў у карчме!

Ідуць яго шукаць і вядуць пад рукі — ён валяецца. Падводзяць да пана, а той яго па шчоках! па шчоках! і гаворыць:

— Лодыр ты, лодыр! Загуляўся, а дзела пазабыў!

— Ваша благародзіе, што вам угодна?

— Залажы лашадзям па хунту сена і па гарцу аўса!

Вахтар давай біць маладух па нагах ашмёткам, а потым зноў пабяжыць.

— Вахтар!

— Чаго ізволіце?

— Налажы лашадзям уздзечкі цясьменныя!

Вахтар зноў б'е маладух ашмёткам.

— Штоб была лашадзям заложана па два хунты сена і па два гарцы аўса!

Вахтар давай зноў маладух ашмёткам біць. Потым зноў пабяжыць к парогу.

— Вахтар!

— Чаго ізволіце, ваша благародзіе?

— Штоб былі лошадзі падкованы, а падковы падложаны былі харошыя, гакі былі б агліцкія!

Вахтар б'е маладух па нагах. Пан адыйдзе і зноў крычыць:

— Вахтар!

— Чаго ізволіце?

— Штоб лашадзей напаіў і сабіраўся ў дарогу!

Вось ён як крыкне на маладух: «Но, пашлі!» Маладзіцы зарагочуць і пабягуць па хаце.

## БЫЧКА ПАСЦІЦЬ

Уваходзіць праЛЛя са сваёй прасніцай (пераапрануты ў жаночае адзенне мужчына), бярэ свой калаўрот з велізарным калясом, ставіць пасярод хаты лаўку, пачынае «прасці і бычка пасці».

— Пушчаю свайго бычка на мірской луг. Хадзі, хадзі, мой бычок, на мірском лужку!

— Што ж ты, Аннушка-праЛЛя, што ж ты за міршчыну дасі, што твой бычок нашу траву выядаець?

— Праду, праду тальку, пайду за Міхалку. Буду пасвіць бычка тры года, не выганіць мяне ніхто з карагода.

Мужыкі радзяць раду — сагнаць бычка з лужка. Звілі яны па тры жгуты прабіраць Аннушку-праЛЛю. Сталі жарты жартаваць, па тры жгуты праЛЛі адпускаць за бычка-трацячка. Бачыць Аннушка — справа дрэнь: трэба сваю прасніцу выносіць.

— Тпрусь, тпрусь, мой бычок! Тпрусь, тпрусь, трацячок.

Бычок: «Мі-і, мі-і!»

— Ці піцечкі хочаш, ці есцечкі? Прабылі мы з табой на мірскім лужку не піўшы, не еўшы, плацілі мы аброк напрасна, не дапіўшы, не даеўшы былі.

Сталі мужыкі біць таго бычка, сталі судзіць, каму што за бычка шыць: маладым дзеўкам чаравічкі (па тры жгуты гарачых ім уляпіць), хлопцам боты. Так усім: каму сумку, каму боты, каму чаравічкі. Застаецца адзін хвост — пралюшцы Аннушцы.

— Ох ты, мой бычок-трацячок, пасвіла цябе тры гады, не дасталася мне ад цябе нічога — толькі адзін круты хвост.

## СТАРЫ І КРЫВЫ ЦУЦЭЛА

Народ збіраецца ў хату з музыкантамі. Выбіраецца такі смелы чалавек, які апранаецца ў цуцэльскае адзенне і выбірае хлопцаў, каб іх ажаніць. Жаніхі выбіраюць сабе нявест. Стары сядзіць каля іх. З-за дзвярэй паўзе такі дзіўны цуцэла. Стары пужаецца і кідаецца прама жанчынам пад ногі, шукае сабе месца, дзе схавацца. Гаворыць жанчынам: «Схавайце мяне!» А крывы гэты сядзіць побач з яго жаніхамі і кідае ад сябе, быццам яго вошы заелі. Стары гэты адумаецца, што дарэмна спужаўся і што яго справа не датычыць, і гаворыць:

— Бабачкі, пусціце-ка вы мяне: я спытаю, хто ён.

Падыходзіць да цуцэлы, глядзіць з-пад рукі і пытае:

— Адкуль ты?

— З-пад абозу!

— Што? З-пад навозу? У нас пад навозам не такія растуць.

— Сядзь-ка ты, стары, каля мяне; я табе, стары, казку скажу. Ішлі мы з табой з бані да бані, а ты цягнеш мёрзлую сучку зубамі.

Стары знімае свой атопак і б'е крывога па гарбу, а пасля разганяе ўсю бяседу. Усе ідуць скакаць. Паскакаўшы, стары пасадзіць іх на ранейшыя месцы, пасля гаворыць:

— Паслухайце, дзеці: я вам бражкі прынёс.

Памяшаўшы квас, падносіць спачатку крывому. Крывы гаворыць:

— Падпраў пакрэпча!

Стары намяшаў усякай дрэні:

— Пакушай, крывэй чорт, як крэпка!

Крывы хваліць квас і гаворыць:

— Ну, ідзіце ўсе спаць.

Жанчыны непакояцца пра верацёны, кажуць, што ім няма на што прасці. Нечакана знаходзіцца чалавек:

— Я вам натачу верацёны.

Загне палку на смычок і гаворыць таварышу:

— Падвадзіце баб, а я ім буду тачыць верацёны.

Жанчыны ўсе цураюцца:

— А-я-яй! Не хачу я верацён! Ай, чорт, пусці ты мяне!

— Не, не, пастой, пастой, я яшчэ пратачу!

Жанчыны просяць:

— Перайдзі ты ў другую вёску, патачы ты другім бабам.

## МАР'ЮШКА

Мужчына прыбярэцца ў жаночае адзенне, збярэ ў гледачоў шапкі ў фартух, робіць сабе вялікі жывот. Кладуць яго пасярод хаты і накрываюць вочы. Падходзіць да яго старэнькі дзед, благаслаўляецца: «Мар'юшцы ручкі атлажыць». (Гэты дзед у вывернутым кажусе, з гарбом і з барадой са льну.) Другі старэнькі (гэтак жа апрануты) благаслаўляе: «Бог благаславіць цябе к Мар'юшкі падыйсці».— «Благаславіце мне Мар'юшцы ручкі атлажыць».— «Бог благаслаўляець табе ручкі атлажыць». Зноў крычыць, стоячы ў парозе: «Благаславіце вакруг Мар'юшкі абпаўзці».— «Бог благаслаўляець вакруг Мар'юшкі абпаўзці і я цябе благаслаўляю».— «Благаславіце мне Мар'юшку за ножку падзяржаць».— «Бог благаслаўляець і я благаслаўляю Мар'юшку за ножку падзяржаць». Прыгасілі агонь. Раптам Мар'юшка ўсхапілася і з памесця прапала. Дзед ніжні закрычаў на верхняга: «Мар'юшка прапала!» Злазіць дзед з печы, прыпадае да зямлі і нюхае тое месца, дзе ляжала Мар'юшка. Прынюхва-

еццa носам да слядоў. Старыя крычаць: «Каравул!» Сталі прыслухоўвацца, ці не чуваць дзе яе голасу. Клічуць: «Мар'-я, Мар'-я!» Яна адказвае: «У-у!» Пачалі яны гадаць, у якім баку яна крычыць. Талкуюць між сабой: «У народзе, як у цёмным лесе, не найдзеш». Зноў клічуць: «Мар'я, у!» Знайшлі ў натоўпе тую Мар'ю, прывялі, паставілі між людзей у крузе. Пачалі распытваць, дзе шлялася, прападала гэтыя дні: «У, дзе ні шлялася, прышла ты к нам. Відзім мы, што нам хрэсьбіны спраўляць. З кім ты звязалася?» Называе насільніка. Кожны падбягае да Мар'юшкі і просіць аддаць шапку. Без жгутоў не аддаюць, задаюць гарачых. Калі хто баіцца падыйсці, яго шапку падносяць да агню: яму шкада шапкі, з'яўляецца і атрымоўвае жгуты.

## ВЕПЕР

Маладыя хлопцы ўстройвалі на ігрышчы вепра: рабілі саламяную доўбню і сталі таго вепра маніць — паставілі сярод хаты карыта. (Вепер робіцца так: чалавека ўкручваюць у сувалку і прымушаюць яго на карачках паўзці да карыта.) Маняць: «Чух, чух!» Хлопец з доўбняй стаіць каля карыта. Як толькі «вепер» к карыту — ён яго саламянай доўбняй у лоб, усе вочы заляпіў яму граззю, што ён нічога не бачыць. «Гаспада, харашо вепра ўбіў — адразу з ног зваліў!» Пачалі на агонь вепра валачы: сталі агонь раскладаць, вепра паліць, сувалку абпальваць. Выскачыў ён з сувалкі, ажно скура засмылела.

## ЛОСЬ

Дзяўчаты выпрасяць на вёсцы хату, у яе збяруцца і прыводзяць музыку. Потым маладыя хлопцы ўстройваюць якую-небудзь гульню. Перш за ўсё зробяць «лося». Возьмуць аднаго чалавека, усадзяць у рукавы і паставяць пасярод хаты. Робяць таксама бацьку, старога: вывернуць кажух і зробяць вялікі горб, прывяжуць бараду з лёну. А пасля яшчэ трое выварочваюць кажухі і робяць гарбы. Гэта бацька, а тут яго сыны. Вось палезе гэты бацька на печ і ляжыць там. Прыходзіць адзін сын і гаворыць:

— Бацька, а бацька, я лося абыйшоў!

А ён там гаворыць:

— Ну, харашо, спраўляйцесь.

Прыходзіць другі сын:

— Бацька, а бацька, кабыла жарабіла жарабёнка.

Бацька з печы:

— Ляжы на печы, а яго закінь за згародку: на чорта ён нам?!

Прыходзіць трэці сын і гаворыць:

— Бацька, а бацька, сучка шчанілась.

Бацька з печы:

— Ну, слава богу: ета ідзець на хазяйства. Прыберагі іх, шчанятак, усадзі ў дарабочак...

Гэты сын выйдзе, а старэйшы з'явіцца:

— Баць, а баць, будзем лося ганяць!

Бацька з печы:

— Ну, пачынай біць!

Вось ён бярэ палена, быццам стрэльбу, потым уваходзіць у хату і гаворыць:

— Бацька, а бацька, благаславі лася біць!

Бацька з печы:

— Бог благаславіць!

Потым сын давай «стрэльбу» правіць і давай біць па нагах маладзіц і хлопцаў, потым давай гэтага «лося» біць: возьме гэтым колікам запусціць у дзверы, а сам і пабяжыць за дзверы. Уваходзіць другі сын і гаворыць:

— Бацька, а бацька, благаславі лося біць!

Бацька з печы:

— Бог благаславіць!

Вось гэты сын таксама запусціць колікам у дзверы, а сам пабяжыць. Уваходзіць трэці сын і гаворыць:

— Бацька, а бацька, благаславі лося біць!

Бацька з печы:

— Бог благаславіць!

Гэты сын таксама колік запусціць, а сам пабяжыць. Тады злазіць з печы бацька і гаворыць:

— Дайце-ка я, вы, я віжу, стральцы плахея, марцовыя.

Бярэ кол, быццам бы стрэльбу, кідае ў лася (чалавека пасярод хаты з дугой). Гэты чалавек выскачыць, скіне зіпун; бацька рады такі, смяецца:

— Ого-го, ого-го!

Сыны паднімаюць зіпун, ласёву шкуру і прадаюць па хаце. Падносяць да хлопцаў і пытаюцца: «Што табе нада?» — «Мне нужны гужы». Вось яму вырэзваюць гужы — б'юць жгутам па спіне. Хто скажа: «Сапагі!» — таму такая ж чэсць.

## ЧОРТ АСМАЛЕЙКА

Селянін

Добрый я цырулік, умею лечыці;
Ведаю, як лекарства добраго зажыці.
Я его злечу зараз агародным зелям,
Выпару чорта ў лазні маладзенькім хмелям.
А калі не паможэ, то жыда з масцямі
Зазваці, з рознымі его пархумамі.

Чорт

Ратуй прэнтко, змілуй сен. Лекарство мі готуй...

Селянін

Здыхай жэ борздзо, чорце, не бойсь, бес не возьме
Цябе, калі мне око ясное не засне.
Чы б'юць пульсы, надобе ў его пагледзеці,
Выцегніце тут борздо, вы чортавы дзеці.

1-ы хлопчык

Вэзьмен я го за рэнцэ а выцёнгнен ногі.

2-і хлопчык

А я веле шкодзонцэ пшыціснен му рогі.

Селянін

Ах, пульс як то б'ець моцно, як у пекле гарыць,
Гарачка так усего его цепер смаліць,
Ізыспаду і зверху агонь выбухаець,
Хоць чорт, а жадного бачэня не маець.
Агонь пякельны, трэба, яко бачу, сала
Дубоваго, каб мая рука шмаравала
Его косці, павернеце на бок сюда лепей,
Азалей ён пачуець лекарство то смачней.
Ой, ужо шмароване пан д'ябэл наш чуе,

Аж іскры сыплюцца, так добрэ шмаруе.
От ужо гарачка гэто можэ выходзіць,
Не будзе ему агонь гэтой болей шкодзіць.

Чорт

Ешчэ зле на жолондку і болі мі гардло,
Тшэба бы пшэз е пшэпусціць мі садло.

Хлопчык раіць і іншыя лекі.

Селянін

Будзе ўсё, ешчэ алей палунковы,
От нагатаваў ему, ешчэ перцу падайце
Жменю добрую, а тута ў алей насыпайце.
Перайшло, як па масле, пераз горло ўсе.

Чорт скардзіцца на боль.

Селянін

Палкні только гэтэй моцные пігулькі,
Выарэць твае ўсенкі з горла скулкі.

Чорт

Як мі на жолондку добжэ полепшало,
Але пшэце цо то на нос мой мухі впэндзіло,
Жэ мой нос консаён.

Селянін

От гэто зелё тоё,
Што выстрашыць із носа ўсё табе ліхоё.

Чорт кажа, што мухі яшчэ непакояць яго нос.

Селянін

Нос надабе з німі ўстрэліць, калі б борздо вышлі.

Чорт

Цож чыніць, хоць без носа, тылько жэ мух немаш.

Скардзіцца яшчэ на шум у галаве — пяюць цвыркуны,— на што патрабуецца аперацыя.

Селянін

Гэтаго табе радзіць не падаймуюся,
Адно только на гэтом трошачка знаюся,
Свердлам лоб пракруціці, зараз паўцекаюць
Свершкі, недабрадзея свойго міне пазнаюць.

Чорт

Стой, стой, не чынь дзюры: досі, не постжэлёна,
Не хцен мецъ гловы, бы была эдзюравёна.

Селянін

Я ўжо табе тут болей не хачу служыць,
Закліч сабе жыда, той табе парадзіць.

Прыходзіць яўрэй і знаходзіць у Чорта меланхолію, для лячэння якой прапаноўвае іншы план. Селянін ухваляе гэты план і заканчвае сваю прамову маральнымі разважаннямі:

От гэтак бес цешыцца, калі бога зневажаюць,
А людзі грэшные таго не ўважаюць,
А набарзей грэшнікі, каторые грэхамі
Чыняць злоё ўсёгды рознымі часамі.
Хочэце ж, калі б із нас так чорт не смеяўся,
Ніколі на свет да нас і не паказаўся,
Пакідайце ж грэшыці, а бога малеце,
Нехай нас тут караець, а не на тым свеце.

## ІВАН І ЦАРКОЎНЫ СТОРАЖ

Іван

Панове, што то за дзело будуць тут дзелаці,
Чы не свадзьбу на мейсцу сём будуць скакаці?

Сторож

Я вам, леч тобе дармо не повем, Іване.

Іван

Прошу цебе, скажы мне, мілосцівый пане.

Сторож

Ежлі хцэш, жэбысь цо сен ту дзіаць бэндзе ведзял,
Потшэба, на пытане бысь мі одповедзял.
Напшуд чему жыдове козы родзі едзон,
Бо таемніцэ пэвне тэ людзе не ведзон.

Іван

Бацько так мой казывал, цівун вельмі зачны.
І з наукі глубокей, всім мужом значны.
Быв ён вельмі чужэму, вельмі научоны,
І по всём нашым селе наукам уставёны.

Умев ён ганбецадло, панове, цалое,
Як руское, так тэж мудрэйшэ ляцкое.
Тот бывало он о том гэтак людзём кажэць,
Гды спытаюць, чаму жыд казыну вельмі ядаець.
Колі бог мілосцівы тважыв свят з нічого,
А чоловека чынів [redacted] гліны мізэрного,
На все іннэй жэчы рэк «фіат» твожачы,
А бес сен пшыпатровал господу стоячы.
Хцел бес собе вдзялаты подобного зхола,
Не знаючы, што сова не родзіць сокола,
Хоцев мовіць панского хвят наслядуёнц,
Але вымовів: хвік, хвік! ашно выскакуёнц
Уйжал козу з рогамі і з хвостом велікім.
Хоцечы сен прыгледзіць пшымётом всякім,
Унял казу за ей хвост; каза, как шалёна,
А знаць его рогамі была пострашона,
З велькім пудэм на плоты высоке скочыла,
Але ему свой хвост [redacted] руках зоставіла.
Ведаеш цепер, чом козы бес хвостов свых ходзюць,
А козлята чэму од ніх таке родзюць.
І для тэго родзі еш казыне жыдове,
Бо так небошчык казав бацько той, панове.

Сторож

Не плець, хлопе, жаднэ не можэ з нічэго
Утвожыць ніц ствожэне проч бога самэго.
Одповедзь жэ на друге, хлопе, мэ пытане,
Ежлі хцэш ведзець, на цо людзі то зэбране:
Цо ест бог і цо ест унія хвалебна
Ї вшысткім одшчэпеньцом бардзо ест потшэбна.

Іван

Борыс ест светого Мікулы рожоны брат;
І колі б бог не быв богом,
То б светы Мікула быв богом,
А унія ест прэчыстой рожоная сестра.
Так мой бацько небошчык староей веры казав.

Сторож

Не мув такіх слув, хлопе, бо бог несканчоны,
А свенты зась Міколай был чловек ствожоны.
Унія зедночэне ест вяры правдзівэй,
Леч не ест сёстра панны над вшэх добротлівэй.
На тэсь жэчы не трафія, хлопе, одповедзець.

Леч ешчэ тэго хцэ я од цебе доведзець:
Яко розумеш, хлопе, чыя лепша вяра,
Поведзь мі, бо іначэй вэзьме сен почвара,
Як сен... дым обложэн кіем подле уха,
Жэ не пшыйдзеш до смерці до добрэго слуха.

Іван

Добра наша вера уніцкая, да такі праўду мовячы лепша ляцкая, та й коняцкая. Бо счо лях або уніат, то панок, а счо усматык, то мужык лядасчо, да што ж такі добро по Сеньку шапка. Мужыком добрая мужыцкая вера, собака з'есць і без солі; старая вера наша — правда то,— да і чорт жэ не молоды, да такі бесу згодзі сен, модлівся довго богу, да і жыд молітсе да такі бесу годзітся.

Сторaж

Южэсь правдэн поведзял, ведзець бэндзеш зараз,
Цо сен на тым тэатру бэндзе дзяло тэраз.
Бэндзе ту камедіа о свентым Якобе.
І о его едынэй Юзэфе оздобе,
Яко од своіх брацей был в Аегыпт пшэданы,
Яко потэм в Аегыпце был од ных познаны.

Іван

А чы будзет же чорт з рогамі?

Сторaж

Бэндзе і тэн, бо браця на Юзэфа вэбудзіць,
Бэндзе сен старал оўцы до смутку побудзіць.

Іван

А тут хто?

Чорт

А вось я бес сысматіцкі сын.

Іван

Ідзь жэ, чорце, од мене до беса.

Чорт

Я цебе люблю.

Іван

Да я цебе не люблю.

## СЕЛЯНІН І СТУДЭНТ

Дзеючыя асобы: Селянін, Студэнт.

Селянін

Ахце мне ж! Людзей, людзей, як вады! Але там рабята-жэўжыкі, віхер іх носіць, круцяцца; гэто кажуць, што іх на пагулянку раз у год пушчаюць. Там жа ні ладу ні парадку: адзін другога піхіць носэм на зямлю, у чубкі, на кулачкі, як запалюць. Ах, дарога, дарога праклятая, самые пекелішкі, утаміўся, як сабака, пашанаваўшы ясного сонейка, красного месечка і вас паноў. Прысяду троху. Маспанове, ат на пацеху вашую і сваю прызнаюся вам, што ёсць у мене дома Баўтрук-баструк, да жальсе божа, што мужыком урадзіўся; такая прашкуда прамысльная, да бакіламара, як на пірагі з маслічкам напіраецца; калі б гэта розум на няго набыць, парушыў бы я сваю машну, а цяпер, як гэтыя жэўжыкі разлезуцца, і за гразь яго мог бы дастаць.

Студэнт

А ты, мужык, цо ту маш за справэн?

Селянін

Не музык, маспане, ані дудар, парою ў кулак затрублю, калі дзеткі ў хаце зубамі звоняць.

Студэнт

Але цо ты маш за справэн?

Селянін

Не, маспане, непісьменны чалавек, прававацца не ўмею, а хаць бы пасварыўся з суседамі, то зараз ураднік рассудзіць справу пастронкам.

Студэнт

Чы маш яко потшэбэ?

Селянін

Куды, мой ты салавейку, патрэбы, я і кутыша не маю, дабро каб світка была на хрыбце.

Студэнт

Глупі хлоп, як целен.

Селянін

Было адно целятко і тое здохло.

Студэнт

Дышкуруе як гроху сен об'ядшы.

Селянін

У мяне, панічу, дзяцей, як бобу, а гароху і асмінкі нету.

Студэнт

Дармо, яко відзэн, грох на сцянэн жуцам.

Селянін

І ты, маспане, вельмі шуміш, гарох у гаршчок, не на сцену кідай.

Студэнт

Хлоп розуму і за шэлонг нема.

Селянін

Да такі ў мене барада, як лес, а розуму бы не было, а гэто знаеш, мой лебедзю, што кажуць: калі б на панскую мудросць не мужыцкая хітросць, даўно б мужыкі пагіблі. Да маю сынка жэўжыка, такі, як парасятко свавольнае.

Студэнт

Тэраз як просе звычайне, а як выросне бэндзе з него свіня.

Селянін

Да ну, маспане, і паліцікі не ўмееш.

Студэнт

Мнейшаж ото, цож з тэго, жэ маш сына?

Селянін

Я й хацеў бы для няго розуму больш вытаргаваць, чы не будзеце даражыцца?

Студэнт

Мой мужу, вы часэм за квартэ гожалкі розум пшэдаеце, а за цо сен мы мамы дрожыць; достанеш у мне за біты таляр достаткем, тылько в цож вэзьмеш?

Селянін

Кажуць, маспане, што розум да галавы ідзець; то гэто ты, вашэць, мне ў ухо накладзі, а я сынку свайму ў дома ўсё вытрасу.

Студэнт

Добжэ і так, тылько чы поймеш ты сам?

Селянін

І паймаю, маспане, не ўцячэць, не.

Студэнт

Слухай жэ: Verbis caepi novi.

Селянін

Што, што? З вербы цэпы новые? Не, мой галубчыку, з вербы лядашчо цэпы. Учы чаго іншого. Паруш і розуму лацінского.

Студэнт

Чы не хцэш быць матэматікус?

Селянін

Гэто, гэто матаць на ус; гавары больш.

Студэнт

Добжэ, сон там duo cardines coeli.

Селянін

Што, што? Дзве карбоны цэлые! Не маю, бачыш, ні адной цэлэй, вытраслі ўраднікі.

Студэнт

Не разумеш і тэго.

Селянін

І разумею, маспане, калі цэлые карбоны, а калі не цэлые.

Студэнт

Пойдземы до Лоікі, тылько мовен, жэ там цаліго спіноса.

Селянін

Згінь, прападзі з розумам, нехай ідзець калом у землю, не хачу, не хачу, паня шпектар.

Студэнт

Але не розумеш. Я мовен цаліго спіноса.

Селянін

Да знаю, што кажэш — калом па спіне — шуплю. Я тое, куды ты, вашэць, круціш, не хачу.

Студэнт

Отож дойдзіш з нім справы. Я мовен цаліго спіноса, а он мові колэм по спіне.

Селянін

Годзе, годзе таго, вельмі пераўчуся.

Студэнт

Почэкай, хлопе, тшэба ці вбіць і то добжэ в главэн, жэбы не выпадло, тшэба ці даць по уху.

Селянін

Не важся, зараз розумам назад аддам.

Студэнт

Оддай жэ таляр біты, якось обецал.

Селянін

І не, маспане. Я ад цябе ж наўчыўса, што карбоны не цэлые, а до таго ведаеш, панятко, што глупі даець, ■ мудры бярэць, а я цяпер маю розуму з тваей наукі; не дам, не дам ні шэляга.

Студэнт

Як хлопе? Быце забіто, давай таляр біты.

Селянін

Пастой, той спадару, што таляра не маю, а бітого, калі хочэш, вазьмі па хрыбце.

Студэнт

Згінь, пшэпадзі з такон заплатон!

Селянін

Вярніся, панятко, не добрэ прыбіў, пастой, паджды! Не заплаціў саўсім.

## СЕЛЯНІН І СТУДЭНТ-УЦЯКАЧ

Селянін

Знову я на торг з мяхом, з кісцянём гэтым, купіць ня купіць, а патаргаваць вольно. Той шубравец скубэнт хацеў простаго чалавека ашвабіць, да і Мікіта-цвік не дасца. Трэба бы троху па-пальскему ензык пшэламаць, каб не ушэнды, васпанство, пазналі, жэ хлоп простак. Слугавал я кедысь і пад харунгвіо драгарскон, потрэба только собе пшыпомнець.

Студэнт

О зле, зле, пшыйдзе сен утопіць дэспэрацыі... досталэм інспэктора якегось немілосерднэго, хцэ жэбы і в дому з Авльварэм і з тэкон сен носіл... тшэба сен сховаць...

Селянін

Панятко, мой салавейко! Чы не од бакіламара уцекаеш?

Студэнт

Правдзівы бакіламар, пэвне жэ бокі і гжбет бэндзе в страху... сховай ме гдзе можэш, контусік ці тэн оддам...

Селянін

Сюды, панютко, лезь у мех, лезь.

Студэнт

Але і ту бэндзе горонцо.

Селянін

Такі ж ня так, як калі пан шпектар духу дадае... я скажу, што нясу з гуты шкло рознай масці: пляшкі, шклянкі, банкі, збанкі.

Студэнт

А кеды сен напшэ, жэбы показаць?

Селянін

То я скажу, маспане, шкло гэтае гутнік рыцэрскім узлом завязаў. Пан мне бакі на друзгі патаўчэ, калі адвяжу. Ужэ ж не адвяжу, не бойса, калі б только не ўдарыў з кардыакі.

Студэнт

А кеды ж удэжы, цо ж мне чыніць?

Селянін

То ты, панятко, звані так, як шкло: цінь, цінь, цінь, цінь.

Студэнт

Чы так: цінь, цінь, цінь?

Селянін

Добрэ, добрэ, але патрэба троху і таўсцей: дын, дын, дын.

Студэнт

Потрафен і так, змілуй сен тылько, не выдавай.

Селянін

Ужэ ж я дадзержу, лезь, мышачко, у ямку, пасядзі ў гэтай клетцы, мая пярапёлочко.

Студэнт

Ой, душно.

Селянін

Будзе ешчо і душней паждаўшы, да ты цярпі, панятко.

Студэнт

Але душа зэ мне вылезе.

Селянін

Што гэто пляцеш, я завязаў добрэ, а мех усюды цэлы, нігдзе дзіркі нет; не вылезе душа, не вылезе, сядзі гэта, ўтаі духа: ідзе хтось. *(Падымае мяшок.)* Ах, цяжанько шкло ў беса, не данясу я цэлого.

Студэнт

Цінь, цінь, цінь.

Селянін

Не крычы, не крычы; яшчэ не б'е ніхто. *(Селянін імітуе голас інспектара, які нібыта патрабуе паказаць, што ён нясе ў мяшку, а сваім голасам адказвае):* Ах, змілуйса, маспане, то мне бакі пан патаўчэць... згубіш мене на векі... Да годзі. Бойся бога! З чым я прыду? Ахці мне ж... Ужэ ж, маспане, калі хочэш, то мене бі, а шкла не руш. *(Голасам інспектара: «Кедысь сен напарл, ото раз по тобе, а другі раз по шкле».)* Ах, зубы мне выбіў! Ах, ліхенько... ах, ахці мне ліхо.

Студэнт

Дын, дын, дын.

Селянін

*(Голасам інспектара: «Ешче фляшкі некторэ дышон».)* Гэто, маспане, і не маё шкло перэгутарыло, што дарма яго калечыш. *(Голасам інспектара: «Згінь, пшэпадні, чы не чары яке». Трасе мех, адыходзіць).* Ахці мне ж! І зубы павыбіяў і бокі паламаў, панёс яго бес ужэ.

Студэнт

Пане мужу, змілуйсен, одвёнж, страшне горонцо, догжал мі до жывэго.

Селянін

Куды табе адвязаць, і рукі не парушу, от ні за сёе, ні за тое калекам застаў.

Студэнт

Змілуйсен хоць зэмбома адгрызь.

Селянін

Куды зубамі, і зубка нету, усе той шубравец бакіламар павыбіяў. Пастой только, чы не адвяжу. От бяда! Якого ты мне ліха нарабіў, лезь к бесу, каб ты прапаў.

Студэнт

Взёнл жэ я, взёнл за свое...

Селянін

Аддай сюды сукманку, ужэ бачу няшто рабіць.

Студэнт

...а цо то сен валон?

Селянін

Гэто зубы мае, панятко, павыпадалі.

Студэнт

А чэму ж так грубэ?

Селянін

Папухлі ад балячкі, панічу мой, салавейко... Перэбач, мой лебедзю. От так трэба гэтых жэўжыкоў розуму наўчыць, накідаў я яму добрэ, нехай знае, што то ад бакіламара ўцекаць, а такі ж ня дармо прыходзіць і гэтое да дому, да ўжо ж я тут не вельмі буду прасушацца, калі б не было хвігель за хвігель, а тым часам і камадзея скончыцца.

## ЛІТАРАТ, СЕЛЯНІН І САМАХВАЛЬСКІ

Літарат выклікае на дыспут Самахвальскага, які вярнуўся з-за мяжы. З цяжкага становішча літарата выручае селянін, які згаджаецца весці замест яго дыспут на жэстах з Самахвальскім.

Селянін

А гэто што за прашкуда?

Літарат

Овозь маце, вырвал сен Філіп з конопі.

Селянін

Не знаеш, маспане, не ўмееш, хоць ты, вашэць, мудрэц, не Пиліп я, да Гаўрыло.

Літарат

Ты не можаш мяне задаволіць.

Селянін

Не гутары да трэцяго: як што скажэць Гаўрыло, аж кішкі табе, маспане, ад смеху парвуцца.

Літарат

Ты можаш аргументаваць?

Селянін

Што? Гаргументаваць? Што, што? Гару, гару, а сабакі ў крупы, якобы то па-нашаму, сварыцца і вельмі ўмею.

Літарат

Але на мігі хлопку?

Селянін

На мігі яка быто на хвігі, хоць і на дзесяць... Ей бог, маспане, будзець тут смеху аж да ўмору, калі Гаўрыло зачнець гаркотаць на мігі. *(Пераапранаецца доктарам.)* Маспанове, чы Гаўрыло я? Гаўрыло не Гаўрыло, ні сёе ні тое, мудрэц не мудрэц, мужык не мужык... Не тужы, маспане, не тужы, патраплім мы мігі на мігі, хвігі на хвігі.

З'яўляецца апанент Самахвальскі і пачынае дыспут з селянінам, якога літарат выдае за свайго вучня. Самахвальскі выстаўляе ўказальны палец. Селянін — два; Самахвальскі паказвае на неба, селянін — на зямлю; Самахвальскі паказвае адкрытую далонь, селянін — кулак. Самахвальскі, застаўшыся задаволены дыспутам, тлумачыць яго з свайго пункту погляду: бог стварыў неба і зямлю і ўсё трымае ў сваёй руцэ. Мужык, не разумеючы сутнасці дыспута, усё тлумачыць па-свойму.

Селянін

Шуплю, маспане, гэто ты мудрэц, гэто ты місьцюк, нічого, бачу, не знаеш; ось я цябе розуму наўчу, гэтак: хацеў ты, вашэць, мне адным пальцам адное око выкалаць, а я табе двома абодва; хацеў мяне на высокую шыбеніцу цягнуць, а я цябе ў земпі закапаць. Хацеў ты мяне ў шчоку ўдарыць, а я табе і зубы выбіць, а што, чы шупліш?

## МУЖЫК

Дзеючыя асобы: Мужык, Сын, Паляк.

Мужык

Охці мне! Ці ведает то ета мая баба, што я ў ета ліха папаўся і етым бяздзеллем абчыпаўся? Калі б ужэ і на свеце не было, а ўсё яна як вужа віламі, так мяне: «Ін ідзі, дак ідзі ў Любавічы. Ці не пападзецца чаго гуляючы; і богу памолішся, і з сваімі павідзішся. Авось така і ці не пападзецца чаго купіць?» А ўсё, калі б мужыка з двара збыць. Праўды, я стар, а яна бабёнка ў сіле. Ох, калі б яе калом у зямлю! Ну вот, праўды яе і паслухаўся да і падзісь! Вот на тую пару і пападзіся мне кум Анціп,

калі знаеце вы яго. Кажацца, вот і панямногу, па адзіным, праўды, выпілі карачку. Ажну там і сталі бразгаць, па нашаму то к абедні, а па іх к замшы. Вот я пайдзісь у іх касцёлу, ажну там як заіграюць: хто ў дудачкі, хто ў свісцёлачкі, а хто ў тарарычкі. Вот я, праўды, не быўшы ліх, да і падзісь скакаць. А тут пад тую пару і прыдзісь па-нашаму поп, а па іх хазан, да падшуця. То я, охці мне, ета нехта ж з маскалёў... Як застукаюць, заскоглюць, заклюкаюць, затопаюць. Анціпа я, праўды, туды глядзь, сюды глядзь, мевіца маяго кума Анціпа. Ажну маю меру за торбу да і цып. Троху не паваліўся, да і павалакісь я. Бацька я нянцып, ажну мяне да і спутайся. Ох, калі б іх пуста! Вот і паймалі, як зайца ў мот. Я такі, праўды, і з маладых дзён багамолен быў. Бывала, ні ў адной ісуспяцы не прапушчу. Калі б толька зачуць, гдзе забразгаюць, то ўзяўшы ў рукі свечку, а ў торбу перапечку: ік дак падзі. А так, праўды, я ў сваім двары застаўляю: жонка, бій паклоны земляныя, граза ідзець, нашу меру нешта ізба цякець. Нояк вякнуў і свяшчэннік на мяне: «А Церых! Віць ты неякі не хрысцянін».—А я: «А-а, бацька, мяне ўся дзярэўня знаіць, што я к цэркві прылежын, што і папу многа вякаць. Я, бывала, і к сабе-такі пазаву да ўкладу яго блінамі, сачнямі, як гонтам. Ажну і папа не відна еўшы, да і пуза развяжыць. Охці мне, Церых, я і ў пана так не гуляў, як у цябе цяпер! А калі такі і без мяне, дык я такі прыказваю: «Жонка, глядзі, калі поп прыедзець, прыўмей яго харашэнька чым-небудзь, хоць кароўега навярні, штоб поп у вочы не лез і ў апослі людзям не жаліўся!» А цяпер вот, панове, папаўся ў еты кросны, што вот пад старасць. Суваўшысь як рынешся, дык негдзе і згінеш. Апяць у мяне і сыновых сыноў, як дубоў, што па іх вот цяпер і ніхто не даведаецца. Яны рады, што старога з двара збылі. Хух, аж устаміўся, ужо ж такі аддыхну, авось такі каторы ці не прыдзець.

З'яўляецца сын.

Сын

Бацька! Гу, агу, бацька! Ідзе ты ета заброў, куды ета цябе фарышы занаслі?

Мужык

Охці мне! Ета маяго сына голас, во негдзе недалёка ў навінах.

Сын

А во ён! Бацька, ці ты ўжо! Мы цябе даўно праждаліся. Хто цябе сюды занёс, ці не фарышы?

Мужык

Ці фарышы, ці не фарышы, а быль. Ці вы з маткаю харашы? Усё як ідзі, дак ідзі ў Любавічы, чы не пападзецца чаго гуляючы. Пашоў, ажну вот цяпер і сам папаўся. Віць там не па-нашаму, не так, як у нас. Нашы папы не глядзяць нічога, а там усё хазаны да ляхі, і гаворкі іх не пазнаеш.

Сын

А што ты, бацька, ведаеш?

Мужык

А што?

Сын

Ці не разаб'ю я табе етых маністаў?

Мужык

Охці мне, да калі ж бы тыя не відзелі паганыя.

Сын разбівае бацьку кайданы. З'яўляецца паляк.

Паляк

Цо то такего, жэ по-нашэму хлопэк, зашэдшы на наш край і в касцёле нашым розных непшыстойных начыніл фурый, за цо ксенц стажы росказал го в неразорване забіць кайданы і не вем гды тэраз мешкаен. *(Пасля пытаецца ў Мужыка.)* Хлопе, цо ці такего?

Мужык

Ета мой, пане, сын.

Паляк

Але кто ці разбіл кайданы?

Сын

Да вот матка паслала па яго, насілу знашоў!

Паляк

Але вем, хлопчэ, жэ це послала матка; для чэго сен разбіл кайданы? Ходзь жэ до карыуша!

Мужык

А што ж ты, гаспадзін, віць ты тута адзін. Нешта ты прывязаўся як гавённым лыкам, харпостнік ты, скурва сын, саланіннік, гарэлый ты кутак! Ну-тка, сын, у кій!

## ЗМІТРОК І СВІРЫД

Дзеючыя асобы: Змітрок, Свірыд.

Змітрок

Чалом, пане Свірыдзе!

Свірыд

Здароў, кажу, Змітручэ!

Змітрок

Як цябе ета ліха даспелася?

Свірыд

Охці мне, Змітручэ, усё то ад дзетак! Ой, дзеці! Як з бацькавага кашалька, дзеткі: «Ну, ну, ну, бацька». Заглянь жа бацька ў дзіцячы кашалькі, і не саромяся, кажуць: «Не, не, не, бацька!» Усё к сабе мазаным горнуць: «Дай яшчо, дай яшчо».— І аблупіўшы, а нам на старасці і на ногаць не аблупіць. Каб іх кат лупіў! Толькі кажуць: «Ідзі, бацька, к успаведзі, ты ні разу ў цэркві не быў».— Да і ўпіхнулі бацьку, як дурня, у царкву: «Кажы, дзі, бацька, тое, што поп будзіць казаць». Вот поп кажыць: «Ці быў ты хуць раз у споведзі?» І я папу: «Ці быў ты хуць раз у споведзі?» — «Што ты, знаць, нехрышчонік?» І я папу кажу: «Знаць, ты нехрышчонік». Поп кажыць: «Хрысціся». І я папу кажу: «Хрысціся!» Вот за тое поп на мяне і маністы палажыў, а я іх ад роду не насіў! А цяпер мне іх чорт нагадзіў.

Змітрок

Ох, Свірыдухна, маю цябе веры, што та гаворыць і дзетак браніць. Цяпер стала не па-старому, стала ўсё па-пісьмянному. Чынашы насталі, усе з хітрашчамі да з мудрашчамі. Усё стала нававарат: учаць, голубе, не учаць, галаву турбуюць, языком не ўвернеш. І шчо як нашаму брату галавы не высушыць? У мяне то дзіця, Свірыдухна, к усячыне смысліць. Усі каляды, масленіцу і радуніцу, тоўстую суботу — усё на памяць. А кавярзень спляцець, як душы не ўлепіць. А другі — сабака, весь у матку ўдаўся. Людзі да зары бліноў наядуцца, а яна спіць патуль, пакуль сонца бок прыпячэць. Тагды ўжа якога хварыша прыскварыць, паскудніца, кагды б прапала. А цяпер мой сынок унегаўся, беспачыць лягло. Аднаго толька, ліха, не дамысліць, што па беламу чорна есць. Хвала богу, берасцень мязгі, хуць то людзём узычу, а яго такі вывучу.

Свірыд

Што нашы бацькі і прэдкі жывалі, хлеб раблялі, зямлю пахалі. А етай успавядзі павек яны не знавалі. А такі ж благадарны бывалі.

### Змітрок

Так, Свірыдухна, так, так, галубятак! Яны маліваліся па-прастацкаму, а не па-пісьмянному, без чынашоў: што падняў, то знайшоў, як устаў, так і зачаў! «Слава цябе, господзі, сушчую, часнейшую, ізбранны ваявода, радуйся нявеста, усе чыны менашаскія, святая трапеза, іскрасення пабядзіцелю, Міхаілы-прарока і Міколы-мучаніка, трох свяціцелей, Кузьму і Дзяміда, заступі на царства мяне, Змітрака, і падружніцу, Пеклу Несцераўну, і кала і двара, і скацінкі і шарсцінкі, алалуй нас да канца века. Амінь. І шарпні, господзі, па душы і па целу, па жонкі і пэ дзеткам, святое сягодні, святое і заўтра».

### Свірыд

Ах, Змітручэ, не патрапіш, аж мароз па касцям, аж да слёз праймаіць бацькоў нашых багамолле!

### Змітрок

Ну, Свірыдухна, заставайся здароў, слабані цябе господзі: як ты папаўся, дак і выдзірайся.

### Свірыд

Ах, Змітручэ, калі бог тваю галоўку назад заверніць, наведайся мяне.

## ІНТЭРМЕДЫЯ 1-я
## ДА ДРАМЫ МІТРАФАНА ДАУГАЛЕУСКАГА «УЛАДАТВОРНЫ ВОБЛІК»

### 1-ы мужык

Гай, гай, Гріцку-братухо, ёсь пожался, божэ,
Шчо то за месце було, от блізку прігоже,
Не одного се хлебом попогодовало,
Да не за велікій час, як не тее стало!
Тут було стовпішче лучшого зверяті,
Як свет светом такого не було відаті!
Бацця б, колі б умело, то б проговоріло,
Шчо не одному парше нашчінцу обміло!
Першенкій Пархем Жіжа, мовляла ж Дроздіха,
Отсель схватівсь на ногі не з якого ліха!
Также Панаскій Спаскій у зліднях купався,
Ні свет, було, ні зоря, то й потелпався.
Все, бувало, як Марко по пеклу, товчется,
Гледі, той пре, аж у тры погібеле гнется!
А тепер сідіть собе, як журавель у просе,
Тілько ж шчо хоч говорі, есть шчось ■ ёго ■ носе.
Нашчо ж, як і нашчінець, от ліха пряцюе —

Шчо в бога день на ступе і в жорнах танцює!
А калі попадеш той осмак і лядскую,
Або шеляг зламаній, копейку якую,—
Не збагнеш, куді вткнуті,— всёго душа хоче,
А шчо дай, дай каждому, то-такі опроче;
Жунка грізе голову, а тут деті в крікі,
Хоч бі вже якого, то забюць с полетыкі!
Хіба ешче і сёго хлеба запітаю.
Колі ж недзо, то й прошчай, брате Ніколаю!
Жунку з детмі зблеску гдесь зацупрікую,
А сам пруч, куді очі і почепчікую!
Шкода балагуріті і светом нудіті —
Нумо тілко спітаймо тенета розбіті.
Давав бог, братцю, людям і нам абіцався,
Я б такі, бачця, тута чогось сподевався!

2-і мужык

Не імім я грех, шчоб тут було шчо такое,
Як бачіш, то все отсе нічого светое,
От я б тобе раяв...
І дав хлеб і без того твуй батко да й маты.

1-ы мужык

Я ж кажу, шчо ті скрутіш, шчо тобе без праце?
Нашчо ж було наперед брехать, як собаце?
Якійсь тебе кат тягнув сюда воловодом?
Мне і тапілось зойтісь і з дурнім удодом!
Чого ті за се годен? Якбі на ліхого,
Вререпав бы до смерті, як псішча якога!

3-і мужык

Стуйце! За яку трасцю стеліся ві бітісь?
Плюнте на мару! Згінте, покінте казітісь!

2-і мужык

Тху, на тебе всё ліхо! Як злекав, проклятій!
Старій вже, як собака, да от глуповатій!
Ті б казав, бугай дурній! Верешчіть, рікае!

3-і мужык

Я бо казав: хто тебе в шію попірае?

1-ы мужык

Да де [redacted] ліха пре [redacted] шію? Тут сорок казаті!
Дала мне товаріша іродова маті!
Чі не месце ж, от, як бачіш, чім воно благее?

3-і мужык

Чі ешче ж, матчін сіну, се хіба б такее?

1-ы мужык

Отже, вун не те човпеть! Скрутівсь да звертевся,
Шчо не верчу покінуть, да годе, насевся!

3-і мужык

Чі справде? Ну, перестань к кату! Не казіся!
Ат, покінувші сунку, за кріло беріся!

2-і мужык

Ет же, колі намоглісь, дак і закідаймо,
Ат, закідавші, тут же і позаседаймо!
Бо зараз треба глушіть телко б шчо упало,
Шчоб к матере спаленуй тенет не порвало!

Літвін

Хвалю цебе, господзе, зо всема святога,
Што даждався весёлаго цепер дня такога!
Нумо ж мі цяпер усе в купе веселітца,
Нехай юда хварышнік у пекле засмуцеца.
Кале не хацев в небе з богом лековаце,
Вось познаець, злодзей, як бога продаваце!
Кале б ён був па-мойму барцмі забавлявся,
З дзеруном пагуляць, а то б в гэтакую беду не
папався.
А я цепер ісценно да душе не дбаю,
Пчолке ўжо віставляць час харошый маю.
Гдзе пайдзеш — усяю ёсць, і глядзець прігоже,
А з дзяруном любо грацъ, хрест на мене, боже.

1-ы мужык

Ілку, сюда! Ось шчось за ліхо ввертелось!

2-і мужык

Глуздуй по голове, шчоб с тенет не проілось!

3-і мужык

Стуйце, братце, шчо се мі встукалі такее?
Звер — не звер, шчось так собе, не сее, не тее.
Се мі ізроду такого не відалі діва:
Там чорне, там беле, голова вся сіва,
Колі б мі от за сее в ліхо не попалі!

Чомусь у мене разом лiткi задрiжалi,
Чуеть дух, шчо не лапшiй, се вже якiсь дедко!
Нумо мы в ночы, от як тепер людей редко!

1-ы сын

Бацька! Во бацька! Залоцянек, гдзе ты захавався?

2-i сын

Да глядзе, чы не ■ пчолкам на сосну взадрався?

1-ы сын

Ах це мне, што ж вот гето ляжыць за нярышче?
Цi кошка баравая, чы це сцвервiшче?

2-i сын

Гэто ж бацька, хварышнек, тута кулекаець!
Гдзе, гдзе падзевсь? Аж вот ён гулёчкi справляець!

1-ы сын

Чы яго ж леха ўнесло ў гете сеце?
Вот то здура не пазнав ён?

2-i сын

Казав, што паеце, може на борць лезць хацев?

1-ы сын

Ах, лiха!
Гэто ж бацка адубев, неком ляжыць цеха!
Цi ён тута з якiм дзедкам барукався,
Цi ён з сасны з гетымi сецмi атарвався?

2-i сын

Вот то яго дзярнула саколяя маце!

1-ы сын

Треба ж бы гаспадзена да яго пазваце,
Ачей бы апяць ■ нему дух це не вярнувся.

2-i сын

Даймо лягушку, то ён з голоду адувся!

Бацька

Вох, Хрыстос аскрёс, сынкi! Я з неба цепера!

1-ы сын

Скажы ж нам, бацюхна, це бачыв лехвера?

Бацька

Вох, сынкі, ведзяў в небе кошкі баравые,
Да там вжо не такіе, усё палавые.
А на божом гумне святые малоцяць,
А Пятро з Павлом всё снапочкі валочаць.
Кале ж я пашов туда, гдзе сонце заходзець,
А ж вот там праклятая змея с агнём ходзець.
Толка ж што забачыла, як шмаргнець за мною,—
Я вцекі, аж Кузма, Дземян, крычыць:
«Бог с табою!»
Вот то мы хуценка там в кузню захавалесь,
А яна ну калацець, штоб мы адчынелесь,
Всё крычыць: «Дай злачынцу, бо мне его треба,
А кале не дасе — сапхне ж яго з неба!»
Толка ж што Кузма, Дземян мне [redacted] неба спусцеле,
Аж тут вы з лягушкаю ка мне й загасцеле.
Благодарыць же бога, што [redacted] купку сплелеся,
А то буле, как пчолкі на мёд, разбрылеся.

Ксёндз

Нех бэндзе Езус Хрыстос похвалёны!
Чему ж мільчон? На векі векув амэн.
Ктось ту дзісь духовнэго потшэбовал [redacted] плачэ?

Літвін

Здаров, пане дзече!

Ксёндз

Ктось, мове, споведніка жондал тэй годзіны?

Літвін

Бог дасць, сакол! Мы і самі ёмці до бацвені.

Ксёндз

Відзэ, глупі тэн стары, не ведзець, цо праві!

Літвін

Да такі вот цепера прышов я із навы.

Ксёндз

Тху, пшэпадні! Не бэндэн юж і гадал до цебе!

Літвін

Пахадзев, благодару бога, і па небе.

Ксёндз

Жыбысь ты был на небе? Лжэш, як непочцівы!

Літвін

Віц же не хто, бо мене насев меласцевій.

Ксёндз

Кеды жэсь был на небе, змов, цо сен там дзее?

Літвін

Брешеш ты! Там всё святце, то в пекле зладзее!

Ксёндз

Як жэ сен там нашэму папіжу поводзі?

Літвін

Паменай ужо, як звале! Прапав ён, дай годзе!
Яму неба і не снелось! В агне смажыць душку!

Ксёндз

Свенты жэбы был в пекле? Шчэкаш ты, старушку!
Пжы нім есчэ была ласка Хрыстусова!

Літвін

Правда, правда, угадав ты!
Сагнувшысь саматужкі прець да пекла дрова.
А хварышнекі акруг скачуць і іграюць,
Гэтакімі дубцамі вот так паганяюць!

## ВАСКРАСЕНІЕ МЕРТВЫХ

### Інтэрмедыя чацвёртая

Літвін.
Шынкарка.
Мужык.
Мужык 1-ы.
Мужык 2-і.
Лях.

Літвін

Слава цябе госпадзі, свяцецелю божа,
Што з ласкі тваёй святой паводзіцца гожа
Высокім власцям, панам і нам, людзям грэшным.
Всё харашэнька тваім промыслам паспешным!
Хвалю цябе, госпадзі, што мы спарадзілі
На хвалу тваю цэркаў, як змаглі нам селі,
І званіцу новую, і чатыры звоні:
Усе прыдаліс, звонят харашо ў разгоні.

Імеем папа сабе чэснага старога,
Імеем панамара і дзяка маладога,
Але добрый і ціхій, всех людзей шануець
І цэркві святой усягды дзень і ноч пільнуець;
Ні гарэлкі, ні бражкі п'яной, ані мёду,
Нічога хмяльнога не п'ець, апроч воду;
А што салавей, у цэркві людзям спяваець,
А дзяцей харашэнька ў школе абучаець.
Дай жа, божа, здароўя і шчасця ўсяму міру,
Штоб няслі табе ў цэркаў ладан на афіру,
Свечы, краснае віно, чыстай столькі мукі,
Штоб з праскур асталось і папу на шулікі.

Прыбягае шынкарка і паведамляе, што лях забіў у шынку дзяка.

Шынкарка

Ох, міне ліхо! Шчо мне цяпер рабіці?
Прынюс ляха недобрый в дом мой чэсній піці;
П'яніца, лядашчыця всі вукна павыбіваў
І дзячка маладога шабляю парубаў,
І вцік конем, не знаю, в сторону якую.

Літвін

Ах, це мне! Што гэта я ад цябе чую,
Штоб дзяка нашага лях прыбіў маладога?

Шынкарка

Ед, не глух есі, от чы застанеш жывога.
Будто я на жарт кажу.

Літвін

Ох, мая гадзіна!
Што гэта незвестная здзелалась прычына?

Шынкарка

Як чуеш, вжэ я табе даўно товмачу,
Ідзі, калі не верыш.

Літвін

Пайду я сам пабачу.

Насустрач ідуць мужыкі з мёртвым дзякам.

Літвін

Ох! Што гэта несяце?

Мужык

Ось, хадзі, пагледзі!
Цяпер нас прывюў лях да втраты і беды,
Пасёк, парубаў саўсем дзяка маладога,
А ўжо нам не найці такога другога.

Літвін

Ох, маей бядзе! Як вы гэта дапусцілі?

Мужык

Ё, будзь то мы на той час із нім у шынку сідзелі!
Лешуга кат зна вуткі, моў тобе віхрам прыляцеў.
Няхай шынкарка скажэт, як лях дзяка ўбіў.

Літвін

Як жа хочыце, дак вы яе прызавеце.

Мужык 1-ы

Ну, ліш ты, Масею!

Мужык 2-і

Добра, Анапрэю, дак я яе прыпру сюды на суд.

Прывёў шынкарку.

Ну, пані Фёдарава, от мы затым, грамада,
Цябе клікалі.

Шынкарка

Зачым? Кажэце, я слухаці рада.

Мужык

Ё, зачым! Затым, чы ты данясла старому,
Шчо лях абцяў шабляю дзяка ў тваім дому?

Шынкарка

Я данясла, а шчо? Чы вам тое пляскаці?
Ніколі міне: он, трэба гарэлку даваці.
Я і сама насілу ўхвацілась в комнату,
Як лях з шабляю за дзякам вбег в хату;
З ляку самога прышлось було чут не вмерці.
Прашчайце! Мне некалі і носа ўцерці.

Літвін

Праўду яна гаворыць, што тут больш распраўляць!
Засвежа як найскарэе ў пагоню пасылаць.

Мужык

Куды гнаць? І тропі не ўзяць, гдзе апыніўся лях;
Табе дзесяць даруг, а яму адзін шлях.

Літвін

Стойце-тка, не бойцеся, ось я гэта спраўлю:
Ён сам у рукі нам упадзець, толька сець застаўлю.

Мужык

От так лучша, як за ім пасылаці маем!
Шкода ж шкапе і хваста мяць, колісь тут паймаем!

Літвін закідае сетку і варожыць булавою.

Літвін

Лесавыя, баравыя і балотныя, ка мне прыхадзіце
І ў гэтай просьбе вы мне памажыце!

Чорт гоніць ляха ў сетку, ён жа гаворыць.

Лях

Ах, ах, бяда! Кто мне і коню спэнтал ногі?
Ядэ, а не вем даконд, так як слепый дроге.
Знаць, крэв чдэка, ктурэгом забіл, в свое крае,
Заслонівшы мне дрогэ, уцекаць не дае.
Ах! Воле я в чыстцу сто лят цярпець мэнкі,
Нежэлі в хлопске тэраз попадне сен рэнкі.
Кто мне, ах, пршэчог? Кто мне пэндзі до тэй сечы?

Мужык

Ось кроў дзякава вітает вашэнце:
Просім сюда бліжшэ да нашага столу!
Ці то, ляшуга, справіў дзяка да расолу?

Лях

Так, мой ест гржых, хлопкове!

Мужык

Э, твуй грэх есць?
Дай бе нам добрэ здарове,
Шчо ты нам прызнаўся без стуку, без груку,
Ак кова ў ценета, ускочыў нам у руку.

Мужык

А шчо ж з нім будзем чыніць?

Мужык 2-і

Тэ, шчо старый скажа.

Літвін

Ось так: няхай галава за галаву ляжа,
Нечага ж больш распраўляць, годзі думаць, годзі!

Лях

Чы шляхціца за дзяка траціць се не годзі:
Пенць коп вам за хлопа ўплаце галаўшчыне.

Мужык

Ох, нягодный сыне!
Як жэ ты дзёшава ставіш дзяка дарагога?
Дваццаць вас не стоіць за аднаго такога.

Мужык 1-ы

Чаго з нім калентарыць?
Ну, ліш ты, Майсею,
Вазьмі мерцвя, нясіць ■ цэркаў, я ляха за шыю
Учапіўшы путам, павяду, як хорта,
З канём, саўсем утаплю ў балота да чорта.

Літвін

А я буду па шыі дубцом зацінаць,
Штоб знаў сабака, як хрысцян забіваць.

Гэтак гоняць ляха ў балота.

## СТЭФАНОТАКАС

### Інтэрмедыя першая

Дзеючыя асобы: Літвін, Цыган.

Цыган

Чхаве, чхаве, чхаве! Ха-ха-ха! Осет ж і я, панове,
да вас завітаў,
Хадзіў-брадзіў, а тут-такі, як на начлег, застаў.
Бедна мая галоўка, яка то мая харошая ўрода!
Яке то мне бывало ад Юшчанка пашанаванне і выгода!
Як жа то было нас і не шанаваці:
Наша то дзело дуці, замкі каваці, кіньмі мяняці,
людзей ашукаваці.
То і жанданчата ж мае не паследняе рамясло маюць,
Бо куры красці, дзяцей маніці уж добра знаюць,

А як бы саланіну альбо парасяціну хоць бы пад небясамі зналі,
І вуцці бы как-кольвек украсці ужэ б ся дагадалі!
А каму паваражыць а шчасці і прыходзе, то няхай пуйдзець да маёй Салохі:
Аголіць яго добра, хоць не паможаць ні трохі.
Бачыцца, жаданчата і Салоха да і я добрае маем рамясло,
Пабачылі б вы і самі, панове, только нядобрае куды іх занясло.
Спадзяваюсь, што за промыслам усі разашліся,
Ачэй бы на сало альбо на калбасу чы не здабуліся,
Бо ўжэ бедныя жаданчата трэцій дзень не елі,
Трохі з голаду саўсем не сатлелі!
Я б і сам тапер натрэбаўся хоць сабачыны,
Калі няма парасяціны альбо саланіны.

*(Звяртаецца да птушкі.)*

Шчо се за пціца? Чы не із Ягіпецкага края заляцела?

Пакуль цыган гаворыць, уваходзіць л і т в і н (беларус).

Літвін

Агуі! агуі! Пайдзём пчолкі выздзіраць,
Баравых кошак біць, мядок пад'ядаць.

Цыган

А се ж чорт нясець і літвіна!

Літвін

Ах, какой жа харошый! Как мая дзяціна!
Здароў будзь, весялісь!

Цыган

Не жартуй жа, літвіне.
Бо цябе ўсяго сергіем скарбую, нягудный сыне!

Літвін

Не варчы ты! Яшчэ мне, старыку, пакланісь,
Да як на свеце жыць, ад мяне научысь!
Я це научу кілы навадзіць і ўсяго знахарства.

Цыган

Чорт цябе бяры із тваім знахарствам! Лучшэ не будзець ад маяго каварства!

Літвін

Штось ты ўсё сюды заглядаеш?

Цыган

Пайдзі ж, сабако! Птаха мне злякаеш!

Літвін

Не бось, не злякаю! Кегдась нам акол таго вазмалоду хадзілась,
То ета ліха всё добра ўмелась.
Та знаеш лі, што ета за пціца?
Угадай ты!

Цыган

Та жэ сам бачыш, шчо перапяліца!
От тылько, шчо без крыл.

Літвін

Не так.
Ето заморскій дзіковінны птак.

Цыган

Мажа птак і заморскій?! Вось які і ушы яму вялікій!
Чы не сокал які альбо чы не певень дзікій?

Літвін

Не знаеш, што гаворыш!? Ето саколя маць,
Нашніца, толькі ж ёю грэх выдзіраць.

Цыган

Ось я только пагляджу. Се ж, бачу, і яйца пад ёю з балтунамі.
Чы не чортаў вырадак?

Літвін

Не сам забірай, дзяліся і з намі!

Цыган

Забірай ты! Паглядзімо только другое.

Літвін

Как первае, і ета ж такое.

Цыган

Паглядзім бульш, се такее ж!

Літвін

І ето такее же!

Цыган

Всё, бачу, аднаго роду.
Чы не тваяго сабач'яво літоўскага пароду?

Літвін

Храні мяне, божа! Штоб такія лупілісь у мяне дзеці?
Сматры, не парві, праклятой калдун, сеці!

Цыган

Можа хтось і нашоўся ахвотнік купіці
Такую пташку, шчоб у сябе распладзіці.
Як бы ў Кралеўцы альбо ў Ромне — ахвотаю купілі,
Яшчэ б і калбасою нашаму брату даплацілі,
А за адзін-другі кусок сала ні слова:
То б то наш брат натрапаўся, як брушына папова!

Літвін

Што многа гаварыць? На ярмарак павязём
Да за ету дзіковінку многа дзеняжак набяром.

Цыган

Табе прыдзецца запрагчыся, бо няма кабылы:
Адна кляча була, да і тую ўчора валкі задавілі.

Літвін

Я яшчэ пацягну, да пабольшэ мне дасі платы.

Цыган

Добра, толькі ўпрагайся, а я ўмею паганяці.
Плечы добра выгінай,
А куды сергій пажанець — швыдко заварочай.

*(Паганяе.)*

## ІНТЭРМЕДЫЯ 1-я
## ДА ДРАМЫ МІТРАФАНА ДАУГАЛЕУСКАГА
## «КАМІЧНАЕ ДЗЕЯННЕ»

Дзеючыя асобы

Астраном.
Мужык.
Пархом.
Цыган.
Літвін.

Астраном

Егей, для бога, як ем устрапёны,
З натуры бендонц шляхціц уродзоны,
Ктору шляхецтво, гды матка вродзіла,

Панно вжды бэндонц, вэ вшысткіх нажыла
Розум Катона, мэнжнось Гекторова,
З паненскей крві ест мне статура ова.
Знам, цо сен дзее і [redacted] пекле і в небе —
Фортуны не мам і на крок у собе!
Бутов, сукенкі а чапкі не пытай,
Вэ вшысткім естэм, так як відзіш, вітай.
Еднак жэ тэго не хцэ эксплікowаць.
Мам гловэ мондрэ, знам злотэм шафоваць,
Мам прэспектыво астрономскей штукі.

Мужык

А, бодай же ў кузне був, колі змерз у рукі!
Осе ж і мы, ік вашэць, сталі прыхожаці,
І скажы, не соромся, як маемо звaці.

Астраном

Естэм шляхціц вродзоны, люб без дрогей шаты.

Мужык

А якую ж ты тут, вашець, чаўпеш веремею,
Чы не хочеш ты нас тылько вярнуць не менею?

Астраном

Але я не тэн, я знам, цо сен в небе чыні,
Размове мое слово нігды не оміні,
І я завшэ згаднэ, кеды і орaць до хлеба.

Мужык

Пархом, ідзі ж сюда! Ось чорт прынёс з неба
Чалавека сюды да нас, пачуеш размовы.

Пархом

Чы не вывесці да ёго своей корові рабоі?
То вен чого чы не знае з манацэі?
Якое буде теля, може і вгадае?
Ну, кажы, як бога баішся!

Мужык

От не імець веры!? Так жэ прыдзівіся!

Пархом

А шчо бак ті ў чорта, і скажы, за пціця?
Чі мыш, чі кажан, чі перапяліця.

Астраном

А я естэм польскей наукі остролог.

Мужык

Э се, бачу, той, шчо бавляць остронуг,
Шчо вен наперед лятучую хватае,
Около неба звезді ізбірае.

Цыган

Осе ж і я тута. У мене есць кобіла —
Трі рокі жеребна, да шчэ не радзіла лошадзі.
Чы не ўгадаеш, дзядку, яке будзе?
Чі вароне, чі яке на взглядку?
Колі вароне — дам добру зарплату,
Памятацімеш і до смерці тату.

Літвін

Га-га, кабузнек. А пчолках чы знаеш?
У амшанеку ёсць сколько, чы ўгадаеш?
А ў борцях чы жывы, чы не рушыў мядзведзь?
Кажы, чы знаеш, або ўжо не брэдзь!
Альбо высеяць гарох калі трэба?

Астраном

Чэкай но троха! Жуце сен цло небе,
Гвязды, павідзе, як точо сен колэм.

Пархом

А мое ж нівя чы будзе вже полем?

Астраном

Пачце, як впадне знак планэты Рака.

Мужык

Швідэнко становісь остроному ракам.

Астраном

О жырандэм злых возовыкорум!
О, як ем достал дзісь у хлопске рэнкі,
Юж ем не цярпел такей велькей мэнкі.

Мужык

О, я кажу, шчо, вен надувсь до орандзі.

Цыган

Ось мі коло цебе цепер погуляем.

Мужык

І скрозь спекціва все поотбіраем.

Літвін

А я проводнека подам на дорогу,
Што пачынеў у нас такую трывогу —
Каже, што дажджу не будзе ні трохі!

Мужык

А ті ж не знаеш, крутохвоста, здохі!
Озмем ліш его ў рукі хорошенко,
То вен перестане круціцца швідзенко!

## ІНТЭРМЕДЫЯ
## ДА ДРАМЫ НА НАРАДЖЭННЕ ХРЫСТОВА

Дзеючыя асобы

Пастух.
Цыган.
Літвін.

Пастух

Хвала ж богу, шчо мі ся до вертепа допытлі;
Трэба, сыну Кубо, шчоб мі шчо новорождзеному подаровалі.
Хвала ж богу, шчо наш пастускі подарунок прінятый;
Трэба нам ешче, сыну Кубо, і погуляці.
Паслі пастухі пры доліні свіне,
А не зналі о своёй ліхой годзіне.
Уже ж мі, сыну Кубо, новорождзеного розвеселілі,
Трэба ж нам, сыну Кубо, шчоб мі шче і о череде помыслілі;
Ідзі ж ты, сыну Кубо, за чередою,
А я ляжу собе з бедою.

Цыган

А не тут тобе, стара собако, лежаці:
Подобно тобе трэба за товаром ганяці.
А то стара собака лежачы прэе,

Добре шчо на тебе вецер не вее,
Ось я тебе нагрею,
Як сам умею:
Ковендара на тры леса
На другій бек оберніся!

Пастух *(крычыць)*

Гвалт, сыну Кубо,
Подобно на мене прійшла ліхая згуба.

Літвін

Гудуць, ах гудуць, істінно гудуць.
Гэто, кажуць, ангелы паюць,
Гэто, кажуць, Хрыстос нарадзіўся,
Гэто, кажуць, весь мір звеселіўся;
Шчо то сей нощче со сну пробудзіўся,
А золоты дошчык з небес спусціўся,
І цепер нам все по бору ходзець,
О цепер нам рыжке салець.
Ах, беда, панове людзе,
Не ведаю, што ціпер з мене будзе,
Ах, поглядзеце,
Якой бабкі ко мне прыведзеце.

Цыган

Батура се на корвіле шадрыцю!
Ось я поворожыці вмею.

Літвін

Ах, повороже, соколеку, повороже,
Не жалуючы лекарства прыложе.
Бо мене ешче жаль, што по горшках куця стоіць.
Мене бог поможе здоровенькому на ногі встаць,
То бы всю доесць.

Цыган

От тобе ліхо, от тобе охват напав, от тобе чортове
Глузды одняло, от як поворожу, то можеш
Жітям пострадаць.

Літвін

Ах, повороже, соколеку, повороже.

15. Зак. 948

Цыган

Ковенадара на тры леса,
На другій бок оберніса
Ба овтыра манджаці
Не везме тебя дедча маці.
Бежы к чорту, не вертайся,
А тоеі суке куте не обжырайся.

Літвін уцякае з хаты.

Теперь пець та гуляць.

Цыган

Чем, цыгане, не ореш.
Бо плужка не маю.
Тілко в мене плужка —
За поясом пужка.
Для шченсця, повторне для шченсця.

Літвін

Гудуць, ах гудуць, ісцінно гудуць,
Гэто, кажуць, ангелы паюць,
Гэто, кажуць, Хрыстос нарадзіўся,
Гэто, кажуць, увесь мір звесяліўся.
А цепер нам усё жраць —
Не пераставаць!
Шчо то я сей ночы зо сну пробудзіўся.
І золоты дошчык с небес спусціўся.
А я на гэтое сам дзівіўся,
Як ухопіў куце з радошче,
То аж сам трохі не росевся.
А цепер нам пець да гуляць,
А цепер нам Хрыста праслаўляць,
А цепер нам по бару хадзіць,
А цепер нам рыжке солець,
А цепер нам погуляць,
А етую куцяхну пoperаць — раць — рацы!
Ах, беда, панове людзе:
Не ведаю, што з мене будзе!
Ах, поглядзеце,
Якой бабкі албо якога лекара ко мне
прыведзеце.

# ІНТЭРМЕДЫІ ДА ДРАМЫ «ДУХОЎНАЕ ПРЫЧАСЦЕ СВЯТЫХ БАРЫСА І ГЛЕБА»

### Антыпралог

Гарбар

Не тож ужо даволі ні не настраляўся
З кабылаю, пад цэхам сваім натрашчаўся.
Да хацяй кажэмяка акола валовых
Хвастоў ходзіць, патрапіць ён штучкі вайсковых.
Яшчэ бурчыць у вушах, як то наўкалі,
Калі шаўцы, краўцы, так рэзнікі пукалі.
Не было над наш цэх хлоп у хлопа,
Муж у мужа, як у полі часам сноп у снопа.
Краўчык люд нябітны, шэўчык тахні скура,
Мы то калі стралялі, усіх акрыла хмура.
Власне калі печ Хведа затопіць сырымі
Дрывамі, пішчаць, трашчаць альха з дубовымі,
Так калі каля ўшу той свіснець мускетам,
Той пулгакам загрыміць, а той бандалетам,
Той галаваню прысадзіць, трэснець кабылаю,
Стук-птук у вушах грыміць, не маш упакою.
Высмаліў і я галаваню, набіціе слабое,
Праўда павалакло праўдзе выходзячы мое.
Юзэсмы ўкурыўся, што вайскова знаю,
Шлузалісмы чалавек і свіні раз маю
Назадзі, так заехаў у карчму Гаўрыло
Дубенякам, знову папаравіў Курыло;
Кроў з вепра цякла, знаю, што то быці
Жаўнерам, што з кабылы агністай смаліці,
Пано музычышчэ влізло з цапкамі —
Чэго, хаме, дзерэшся, стань межы музыкамі.
Не ведаеш, шчо тут будзе комедзія?

Селянін

Жадного мне не трэба, пане, калодзея.

Гарбар

І оно ш той дурніло; скажы мне, чы знаеш,
Што то дугалог, хаме, чы знаеш?

Селянін

А пане, дуга лега не до колодзея;
По дугу трэба іці круціць у Матвея.

Гарбар

Чы бывав ты, мужычышчэ, у Полацку колі?

Селянін

Першы раз прывалукса, мой пане, поволі.

Гарбар

То нічого не знаеш, ты счэло дурное,
І прыглядзяся, людом мужыцтво простое.

Селянін

Ці тут соль шынкуюць, скажы, мой спадару?
Жонка ждзе, мяне да дому трэба, гаспадару...

Гарбар

Ма, які ты дурань, ці тут жа соль та(к) міюць?
Панове тут сядзяць, солі не шынкуюць.
Ма ўчадзяў, хаме, да тут каб глядзелі
На жыдоў, прышлі панове, для таго ўселі.

Селянін

Гэта да тых мне трэба; у жыдоў дастаці,
Мо і солі, калі б ты хацеў паказаці.

Гарбар

Ма яшчэ ты дурань, тут жыд не будзе правы.

Селянін

То перахрыст?

Гарбар

Не дойду я з табою справы.
Да послухай, мужыку, што тут далей будэ,
Наглядзішся, як розныя будут хадіт люде.
Відзіс, вэ гэто шапранцом увсюды обіто?

Селянін

Га, добрэ, калі шубраўцом злодзіём набіто.

Гарбар

Глянь, як сцэны наслано ўсі цынамоном.

Селянін

Знаю, пане, сцэн кажут (...) Семёном.

Гарбар

Да, мужыку, цынамон дорога то мацерыя.

Селянін

Одну маю, мой пане, дорога мацерыя.

Гарбар

Што ту седят, завсюды едят аксаміты.

Селянін

Так, пане, і я знаю, од нас оні сыты.

Гарбар

У ніх на палуміску атлас готованы.

Селянін

Так, пане, од нас пан всюды выхованы.

Гарбар

Есчэ ты, дуронь, ході, ось обацi органы.

Селянін

Счо, пане? Да есчэ попар не гораны,
А чош гэто за скріна? Колі б одомкнулі,
Нуж бы з ей счокольвек грошы высунулі.

Гарбар

Нарэшце прысов сынка мого послухаці,
Учуеш, як хорашо он буде казаці.
Па-лацінску як рэпу грызе; як чытаці
Озьме, повна светліца ўсюды чуваці.

Селянін

Так, суседзе, і нам бог даў доброга сына,
Там жэ то раскошна нам розумна деціна.
Год тулько мает, южэ з огорода гоніт
Свіне, і хоць бохон озьме хлеба, не уроніт,
Як нарадзівса, повны ночвы ёго былы,
А корыто завесілі мяста колібелі.
Трэцего дня пачав смоліці капусту
Чы рэдку, бувало, чы ты дасі кашу густу.
І пальцы осмокчэ, дай божэ дождаці,
Буде землю, суседе, кому там пахаці.

**Пралог**

1-ы вучань

Якосьце вы ту влезлі, прэч стонд, вы грубіяне!

Гарбар

Не журыся, спадару, міласцівы пане.
А чы бардзо Гаўрылко наш тут гаворыці
Будзе, калі б то сынка, пане, абачыці!

2-і вучань

Альбо ма твуй Гаўрыло якон ту пэрсонэ?

Гарбар

Так, маспане, і мае ад маткі пярсцёнак.

1-ы вучань

Але ты, баю, не веш, жэ сен акт выставя?

Гарбар

Гак самому ў горла! Чаго клянеш? Што то
за праява?

2-і вучань

Ведзь, хлопе, жэ не една ту дзісь бендзе сцэна.

Гарбар

І я бачу, што стаіць ту не адна сцяна.

1-ы вучань

Але, глупчэ, вшак відзіш, жэ ест просцэніум.

Гарбар

Просценька стаяць сцены, і мы разумеем.

2-і вучань

Але, патш, дурны хлопе, вшак сінопсэс ■ рэнку.

Гарбар

Сам ты свінапас, ды не мой сынок, Галенку.
Ці чуў, судар, эганяць туды, хто не мае
Такое картачкі, панічок вось гэтыя раздае.

Мужык

Дай жа і нам, панятко, прадай гатовую
Картачку мне адну, а яму другую.

*(Расказвае тут гісторыю аб Барысе і Глебе,*
*як іх загубіў Святаполк.)*

Гарбар

Апанас, ході бліжэй, ту і ты, Іване,
А ты чого прыплёўся, мужык, пры тым пане?
Не смейцеся, мовчыце, і он прышла Хведа,
І Овдоця не хоціла і ждаці обеда.

Селянін

І он, сударэ, і наш Спірыдон прыбравса,
І от Мікіта межы людмі показавса.

Гарбар

Пане куме, поправ накрывёну чапку;
Там горло, а напруд абернувесь лапку.

Селянін

Паненко, ось муха тут сіла, ізгоні рукою,
Бестыю, насчо она піць кров мает твою.

Гарбар

Другая по другой от седіт стороне,
Покусіт це спорэнько. Ну ты, Спірыдоне,
Утрэй нос табакою, такі засыпавесь
Того дуру под носом, як лопату наклавесь.

Селянін

Чы кров з носа цекла, чом тут помазаласа?
Га, га, дай покой, гэта ты фарбоваласа.

Гарбар

Чо это за хвосточок, котором вахлюеш,
А южэ вымаслюеш і троху дуруеш?

Селянін

Іване, пусці панов, з дорогі ўмкніса
І он не ўмкнесса і смердэ не мніса.

Гарбар

На тобе посох, Грыску, за кончык уйміся,
А сама на гэтой помост бардзэй ухваціса.
Хацівесьбы мужіку? Колі до косцёла,
Хоць до цэркве ходіці, то тобе неволя,
А то ось прывалукся. Устой ено, хаме,
Поседіш у куніцы, ну і ты, Остаме.
Стойце ш ту, не дуруйце а збжрэдат дзеці,
Розумные на тое не будет гледеці.
Дурны не посцерэжэ, а мудры прэбачыш,
І ты то ўчыніці, пане Юшку, рачыш.

**Кухар, Гаўрыла і Есіп**

Кухар звяртаецца да Гаўрылы і Есіпа, якія адказваюць па-беларуску, Гаўрыла, як быццам не зразумеўшы польскіх слоў: «...Умеце якскольвек зготоваць потравы?»

Гаўрыла

Па траву ідзі, Юску, прынясі пану травы.

Кухар

Глупі, я пытам, чы умеш готоваць пшысмакі?

Есіп

Барджэй па траву, абяцаў пан даць тры асмакі.

Кухар

Чы умееш жулто готоваць з шафранэм?

Ёсіп

Жоўта будзе, калі швец робіцца панам.

Кухар

Пшынаймней чы патрафіш зготоваць нарокі?

Гаўрыла

І не раз я на саху навязаў нарогі.

Кухар

Пшынаймней чы патрафіш готоваць падрубкі?

Ёсіп

Так, маспане, тры гады былі за парабкі.

Кухар

Заправіць чы умеце альбо цынамонэм?

Гаўрыла

І, маспане, з Гаўрылам служыў, не з Сямёнам.

Кухар

Вем, жэсце мушкатовэй галкі не відалі?

Ёсіп

І многа ў жаўнераў бачылі, як у нас стаялі.

Кухар

...А вецеж, як ме зовен?

Гаўрыла

Пане, не ведаем...

Кухар

Янкем ме зовен.
Юзес, пане Ёсіп домнемаем.

Кухар

Вецеж, жэ готована ма быць дзісь біянка?

Ёсіп

Добра, пане Гаўрыло, хапі бардзей Янка.

Кухар

Але, дурны, я мувен, жэ ма быць біянка.

Ёсіп

Гараст, пане; ось зараз, Гаўрыло, бей Янка.
Слухаць трэба, а хоць бы пачаў верачаты,
Сам не казаў нічога на тое недбаты.

# ТЭКСТ БАТЛЕЙКАВАГА ПРАДСТАЎЛЕННЯ НА ВІЦЕБШЧЫНЕ

## I

### Цар Ірад

Дзеянне пачынаецца ў верхнім ярусе. На сцэне дзева Марыя з младзенцам на руках, св. Іосіф, каровы, авечкі.

Хор

Слава ў вышніх богу, і на зямлі мір!
Днесь васпрыемле Віфлеем
Сідзячага прысна са отцэм;
Днесь ангелы младэнца раждзённага
Благалепна славасловяць:
Слава ў вышніх богу, і на зямлі мір,
У чалавецэх благаваленне!

Уваходзяць два пастухі, адзетыя беларусамі. Яны падыходзяць да младзенца і кланяюцца яму.

Хор

Нова радасць стала,
Яка не бывала,—
Над вярцепам звязда ясна
Светла вассіяла.
Гдзе Хрыстос радзіўся,
Із дзевы ваплаціўся,
Як чалавек, пелянамі
Ва яслях павіўся.
Пастушкі з ягняткам
Прад малым дзіцяткам
На калені ўпадаюць,
Хрыста праслаўляюць.
І мы тожа спяваем,
Хрыста праслаўляем.
Ад Марыі раждзённага
Смірэнна ўпрашаем:

Просім цябе, цару,
Нябесны ўладару!
Даруй лета шчаслівыя
Сяму гаспадару.
У міры правадзіці,
Табе ўгадзіці,
І з табою ў царстве тваём
Ва век вякоў жыці!

Дзеянне пераносіцца ў ніжні ярус. На сцэне стаіць трон, абабіты чырвоным сукном ці валачоны, і ходзяць тры воіны. З'яўляецца І р а д, апрануты ў парфіру, з каронай на галаве.

Х о р

Днесь Ірад грядзе, зело смушчоны,
Са воіны ізбранымі
Віфлеемскія пляніці страны,
Дабы взыскаці Хрыста нараджона
Са валхвамі акаяннымі.

І р а д *(воінам)*

Направа кругом — марш!

В о і н ы выходзяць. Ірад садзіцца на трон. Уваходзяць т р ы ц а р ы.

Х о р

Шэдша тры цары
Ка Хрысту-гаспадару.
Ірад іх прыгласіў,
Куды ідуць, вапрасіў.
Атвешчаша яму:
«Ідзём к раждзённаму!»
К раждзённаму ідзіце
І мне вазвясціце.
Да і аз, шэд, пакланюся,
Прад царом смірушя.
Аддам чэсць абычну,
Яко цару прылічну!

Дзеянне пераносіцца ў верхні ярус. У пячоры Іосіф і Марыя з младзенцам. Ідуць т р ы ц а р ы. З'яўляецца А н ё л.

Х о р

Шэдша тры цары
Ка Хрысту з дарамі.
Ангел ім явіўся,

Гдзе Христос радзіўся,
Звязда ясна вассіяла,
Тром царам пуць указала.
Над вярцепам сіяе,
Хрыста-цара яўляе.
Ад востока тры цары
Прынясоша Хрысту дары,
Тры цары пуцяшэствуюць,
За ангелам паследуюць,
Злата, ліван прынашаюць,
На калені прыпадаюць,
Владыку і богу
Чэсць даюць многу,
Іжа ад века
Чалавека
Вазлюбіў есць.
Ангел ім вяшчае,
На пуць настаўляе:
«Іным пуцём ідзіце,
Ка Іраду не захадзіце!»
Валсві вазвращішася,
І ў Ірада не быша.
Пайшлі ў сваі страны,
Хрыста славасловяць,
Чаюць у небе з ім быці,
Яму на век служыці.

У час гэтых спеваў паміж дзеючымі асобамі адбываюцца сцэны і міміка, якія адпавядаюць зместу песні. Па сцэне праходзіць Іосіф, за ім багамацер з младзенцам едзе на асле. Насустрач ім з'яўляецца Анёл.

Анёл

Какая радасць здэесь адкрылась!
Какой васторг!
Я зру прадмет!
Надзежда наша савяршыся!
Спас роду чалавечаскаму радзіся!
Прыйшоў на зямлю важдзяленны свет.
Іосіфе, Іосіфе, старча праслаўны!
Отрача і мацер паімі,
Ва Егіпет, Іосіфе, бяжы!
І будзі тама, дандзежа скончаюцца
вразі твai.
І Ірад канчыну васпрыемле!

Дзеянне пераносіцца ў ніжні ярус.

Ірад (*падыходзіць да трона*)

Увы, наш трон царскі!
Ізмена стала слышна ў нашай дзяржаве!

Садзіцца на трон.

Воіны мае ваaружонныя!
Станьце прад тронам вашага цара!

Воіны (*уваходзяць адзін справа, другі злева*)

Пашто, цару, воінаў прызываеш?
Ілі какія ўказы чыніць павеляваеш?

Ірад

Ідзіце, чарнакніжніка завіце,
І скора семо прывядзіце!

Воіны

Слышым ваша слова.
Направа кругом — марш!

Выходзяць. З'яўляецца мудрэц.

Ірад (*да мудраца*)

Скажы мне, чарнакніжнік:
Гдзе той отрак нарадзіўся,
Іжа вяздзе ўжо апавясціўся?

Чарнакніжнік

Усясільны мой цару! Смірэнна малю ця,
Не гневайся, а чым глаголеці начну ці.
У пракрасным градзе Віфлееме радзіўся,
На цвёрдым сене вадварыўся,
Галодны, халодны, у вярцепе абнішчаны,
Праслаўлены, правазнясенны!

Ірад

Ідзі, гадацель празрэнны!
Аз непабядзім і вялік ва славе!
Не сей лі васпрацівіцца маёй дзяржаве?
(*Воінам.*)
Друзья-воіны!

Воіны (*з'яўляюцца*)

Чаго ізволіце?

Ірад

У Віфлеемскія страны скарэй ідзіце.
Двухлетніх младзенцаў шчыра перабіце!

Воіны (*выходзяць і потым вяртаюцца*)

О, гаспадзіне наш, гаспадзіне!
У Віфлеемскія страны мы схадзілі,
Чатырнадзесяць тысяч младзенцаў там ізбілі;
Рахіль адна не дала сваё дзіця ўбіць
І ідзе да вас міласці прасіць.

Ірад

Хто там такава?
Прывесці яе сюда!

Воіны

Слышым ваша прыказанне!
Кругом — марш!

Выходзяць і сустракаюць Рахіль.

Ідзі, баба, да атвету,
Нам да цябе дзела нету!

Уваходзіць Рахіль з дзіцем на руках; апранута беднай беларускай. За ёй — воіны.

Рахіль (*прыпадае да ног Ірада*)

О, прасвятлейшы мой цару,
О, ўсясільнейшы гаспадару!
Памілуй, памілуй чада маяго, — утробу,
Не прэдай мяне жывую да гробу!

Ірад (*Рахілі*)

Баба, ідзі прэч! А еслі ўступішся,
То і табе будзе то, што і тваяму дзіцяці!
Воіны! Се дзіця хватайце,
Без міласці яго дзяржайце!

Воіны забіваюць дзіця і выносяць труп са сцэны.

Рахіль (*у роспачы бегае па сцэне і галосіць*)

О, какая лютая балезнь
Сэрца мацеры пранзае,
Егда свірэпы воін
Нявінна чада адымае!

16. Зак. 948

Хор (*пяе*)

Не плач, Рахіль, і не рыдай
Па чадзе і сыне;
Не ўміраюць, но працвятаюць,
Што нявінна пагібаюць
За Хрыста і бога.
Вольнымі крыламі,
Вольна ва святыню
Ка Хрысту і богу адлятаюць.
Не імей жа прычыны, прычыны,
Не імей жа шкоды,
Відзя, яко ваду, кроў ізліваюць,
Людзей убіваюць, убіваюць,
Твой бо пернаты,
У неба на суд узяты,
Суд прыемшы,
Песні пабедныя, песні пяе.
Ірад жа пойдзе ка аду,
К Люцыперу на параду.
Мы таму весялімся,
Хрысту-цару пакланімся!
Богу-цару слава ад усіх нас!
Нас жа ізбаві
Ад сеці лавяшчых,
Ад губяшчых, губяшчых!

Рахіль (*Іраду*)

Ірад ты пракляты!
Пойдзеш ты аж да аду,
К Люцыперу на параду!
У агне табе гарэць,
У смале табе кіпець!

Ірад

О воін мой, воін!
Прагані эту бабу!

Воін

Пайшла, баба, прэч! (*Выпіхвае Рахіль.*)

Ірад (*устае з трона*)

Увы, трон нашай царскай славы,
Стала слышна ізмена ў нашай дзяржаве!

Столькі лет сядзеў я на сем царскім троне,
Ныне жа буду ў падзямельным доме!

З'яўляецца чарнакніжнік-мудрэц.

Чарнакніжнік

Правялікі манарша! Ізволь прыказаці
Воінам ваарўжонным трон аберагаці,
Смерць бо грядзе к табе ўся бела,
Касу носяшча, дзерзнавенна, смела!

Ірад

Прэч, гадацель празрэнны!
*(Да воінаў.)* Друзья-воіны!

Воіны *(Іраду)*

Гаспадзін наш! Пашто ты воінаў прызываеш,
Ілі какія ўказы чыніць павеляваеш?

Ірад

Воіны! За што вы прысягалі —
Штоб маі палаты нярушымы бывалі!
Вы пры парозе станьце,
Няўсыпна мяне асцерагайце,
Смерць градушчую ка мне не дапускайце:
Егда градзе, ваюйце з ёю, сколькі можаце!

Воіны

Слухаем ваша прыказанне!

Воіны становяцца ля дзвярэй. На сцэну выбягае ксёндз.

Ксёндз

Опшэнжэ, опшэнжэ, о бембус, протабембус!
Свента панна Марэя! О, Ірадзе, акрутніку,
Аслушніку, спакайся! За твае вялікія
Злосці прыдуць зараз дзяблы і вэзьмуць
Тваю душу с косцю, от такавэго пана
Нешляхетнэго, на векі веком, амэн!

Ірад *(воінам)*

Друзья-воіны!
Праганіце етага шалыгана да касцёла!
Какое яму здзесь дзела?

Воіны праганяюць ксяндза. Уварвалася, кашляючы, Смерць у выглядзе шкілета з касою ў руках; воіны разбягаюцца.

Смерць *(да Ірада)*

О ты, Ірадзе нясыты,
О ты, Ірадзе пракляты,
Што ты лаеш?
Ці ты мяне не знаеш,
Што воеў сцярэч застаўляеш,
Убіць мяне павеляваеш?
Я, васпане, усяму свету манархіня,
Усіх царэй глаўнейшая
І ў баю сільнейшая!
Ну-ка, са трона паднімайся,
Пад касу мне падстаўляйся —
Табе востраю касою зрублю галаву!

Ірад *(да Смерці)*

Ах, увы! Бяда!
Прыходзіць да мяне чарада!
Не вем, вазьмуць мяне атсюда і куда,—
Баюсь я страшнага суда.
Но ты, Смерць, страшна і безабразна!
Зачэм унязапна ка мне прышла?
Скрыта бо твая труба і каса,
Панежэ ты ходзіш суха, нага і боса,—
Я вялю цябе ізрубіць,
Косці тваі ў агні сжэч
І попел твой размесць!

Смерць

Ці не ты мае косці будзеш жэч?
Ці не ты мой попел будзеш месць?
Выйдзі-ка, мой брацец, мне вот пасабіці
Ірада, мучыцеля, у бездну справадзіці!

З'яўляецца Сатана. Смерць адсякае касою галаву Іраду, сама знікае. Сатана, з хвастом, рагамі і кіпцюрамі, трымае труп Ірада да таго часу, пакуль хор не скончыць пахавальную песню.

Хор

Чалавеча бедны,
Успомні час паследні,—
Тым жа не гардзіся,
Не правазнасіся
У сем свеце.
У пралесным сем свеце
Смерць дзяржыць у прымеце

Усякага.
Не ўступіць манархам,
Ані патрыярхам —
Нікому.
Із келій манахаў
І дваран без страху
Бярэць смерць.
Купцы бы слажылісь,
Ад смерці адкупілісь,
Аддалі бы палаты
І ўсё сваё злата —
Не бярэць смерць!
Чалавеча бедны,
Не прывазнасіся,—
Зря на цела Ірада,
Також дзе смірыся!

Сатана

Охо-охо-роме-хо-хо!
Друзья мае пралюбезныя!
Надгробная Іраду песня спета,
Пацягну-ка я яго з гэтага света
У тартарары, у праісподнюю бездну,
Там будзем піць і гуляць
І ў карты іграць!

Абодва правальваюцца.

## II

### Інтэрмеды

### Сцэна 1-я

На сцэну выходзіць Ірадзіяда, жонка Ірада, нібы вярнуўшыся з пахавання мужа. Да яе прыходзіць стары Рыгор з вялікім мехам.

Стары Рыгор

Здраствуй, Ірадзіядачка-красотка!

Ірадзіяда

Здраствуй, Грышанька-дружок!

Стары

Калі любіш Грышаньку-дружка,
Цягай гасцінчыкі з мяшка!

Ірадзіяда

Спасіба, мой дружок!
Сядзь жа бліжай, куманёк,—
Будзь мне прэжні мужанёк.

Стары садзіцца побач з Ірадзіядай. Уваходзіць малады чалавек, франтавата апрануты.

Шчогаль

Не стыдна лі такой красотке
З старым этакім вазіцца?

Ірадзіяда

Хоць Грыша стар і з барадой,
Да носіць усе гасцінчыкі з сабой;
А ты і ў сінем хоць кафтане,
Да пёс у цябе ў кармане!

Шчогаль (*гледачам*)

Любезна публіка! Сматрыце,—
Как ана мяня сраміць,—
Усё этат хрыч яе учыць.
Пастой ты, старая скаціна!
Уж у цесным закавулку я цябе паймаю,
Усе рэбры [illegible] табе пераламаю!

Стары

Ах ты, сапожнік, ты чурбан!
Да я і сам ведзь здачы дам.

Стары праганяе Франта.

Ірадзіяда

Полна людзей утруждаць!
Нельзя лі, Грыша, нам патанцаваць!

Музыка грае чыжыка. Фігуры танцуюць польку.

**Сцэна 2-я**

На сцэну выязджаюць два коннікі: Пор Індыйскі і Аляксандр Македонскі.

Батлейшчык

Выязжаюць Аляксандр Македонскі і Пор Індыйскі,
Там между сабою сатварась брань!

Аляксандр Македонскі

Пор! Што ты эта: захацеў,
Штоб ад маяго ўдара з лошадзі зляцеў?

Пор Індыйскі

Нешта я цябе іспугаўся?
Аткуда ты, этакі франт, ўзяўся?

Адбываецца паядынак. Пор падае з каня; Аляксандр ад'язджае.

Хор *(пяе)*

Хвала, хвала табе, герою,
Што град Антон спасён табою!
Вянцы лаўровы ўюцца
Над храбраю тваёй галавой!

Да месца паядынку бяжыць жонка Пора, залiваючыся слязьмі.

Батлейшчык

Узнала царыца, Порава жана, і ўслыхала,
Слёзна плакала і рыдала,
Са слугамі сваімі прыбяжала,
Узяці цела Пора прыказала.

Жонка Пора *(плача)*

Ой, пане, мой пане,
Каханы мой пане!
Не нажыць мне такавога пана!
Ты ж мяне любіў,
Ты ж мяне шанаваў:
Па разу ў дзень карміў,
Па два разы ў дзень біў;
Паташчу ж цябе, дражайшы,
Да ямы глубачайшай!

Пахаванне Пора. У час паядынку Аляксандр Македонскі быў на сваім кані, а Пор узяў напракат у цыгана.

Сцэна 3-я

На месца паядынку прыбягае цыган і шукае сваю кабылу.

Цыган

О-му! Чачынька-чачынька,
Гдзе ж ты дзелась, мая клячанька?
Хадзі сюды, кабыла! А кабыла!

Кабыла імклiва бяжыць проста на гаспадара. Цыган ад страху траціць прытомнасць. Прыходзіць яго жонка.

Цыганка

Сенька, а Сенька!

Цыган

Чаго ты, мая жонка?

Цыганка

Што за ліха ета табе стала:
Ці ад круп, ці ад сала?

Цыган

Не ад круп, не ад сала,—
Мяне кабыла растаптала!
А ты гдзе, жонка, прападала?

Цыганка

О-му, радуйся, Сямён-Гаўрылка,—
Прыехала к табе Куліна з рынку!
Я хадзіла варажыць і прасіць капусты,
Штоб не былі цыганскія жываты нашы пусты!

Цыган *(б'е цыганку)*

Ах, ты шэльма, ах, ты зладзейка!
А ці ўкрала ж ты мне куронка і парасёнка?

Цыганка

Украла, мой цыганочак,
Украла куронка і парасёнка!

Цыган

Вот калі б ты мне ета ўпярод сказала,—
Я б цябе не біў і не наказываў,
Пацалуемся з табою,
Белая мая, як галавешка!
Каму гадка, а нам з табой сладка!

Цыганка

Сенька! Досыць табе мяне цалаваць,
Ці не хочаш лепш паскакаць?

Пачынаюцца танцы пад песню «Я цыганка маладая». Уваходзіць казак.

Казак *(б'е цыгана)*

Полна, цыган, гуляць —
Пара коней мяняць!

Цыган

А за што ты мяне біў,
Я б табе харошага каня дабыў.

Казак

Я крадзеных коней не прынімаю,
А цябе, цыгана, у шыю талкаю!

Б'е яго і выходзіць.

**Сцэна 4-я**

Уваходзіць тоўсты яўрэй з бочкай гарэлкі і пяе марш.

Яўрэй

Ой, калі з ба на мяне
Цорны год няхай напаў,
Ей-ей, няхай напаў,
Калі б мяне казацынька
На сем месце не застаў!
Татухі-мамухі,
Еселі-Моселі,
Гуц-гуц! *(Да публікі.)*
Здраствуйце вам, гашпада!
Я прісоў і к вам сюда,—
Я цуў — у вас кірмас
І гарэлацкі немас.
Я знаў узе васа гора
І тасцыў гарэлацкі паболе.
А ў мяне сабасовая і дзясовая,
З мельніцы, з-пад кола,
Гдзе круціць і муціць,
І пенай б'ець, і назад валакець.
Так іна і таго будзець біць,
Хто яе будзець піць,
Але хто хоцыць яе піць,
Трэба госыкі плаціць!
А гдзе ета мая Сорка?
Гашпада, пазвольце мне пагукаць мая Сора!
О клейнцэ Сора, о клейнцэ Сора!

Ідзе Сора.

Хадзі скора, будзем гуляць уцора!
Казак прыдзець, неста будзець.

Сорка

Гут морген, мой Абрумцык!

Яўрэй

Гут морген, мая Сорацка!
А гдзе ты, Сорка, прападала?

Сорка

На рынкі кабацок прадавала!
А сто ета я цябе так доўга не відала?
Ідзе ты быў, Хаім?

Яўрэй

Ай, я буў у Полацку, Велізу,
Ув Невелю, Дарагабузу,
І ў Склові, і ў Мугулёві,
У Старым Быхові і ў Орсы,
Ігдзе сам цорт не хадзіў!
І сто ■ відзеў, уй, гевалт!

Сорка

Ай, Хаім, ідзі папрасі музікантаў,
Хай зайграюць!

Іграюць і танцуюць.

Яўрэй

Ой, Сорка! Полна нам гуляць,
У мяне будуць тут гарэлку брацъ.
Заўтра сабас, нá гросы табе троску,
Сзар мне рыбкі нямнозка.
А толькі хадзі — я цябе правяду.
А то тут есць хандогі,—
Яны цябе схандозуць.

Сорка выходзіць.

Ой, гашпада! Як ехалі мі із Дарагабуза,
А кабілка наса біла недуза,
Абоз на абозе, воз на возе,—
Адна кабіла ў вазе і тая не вязе.
Да як уз'ехалі мі на мост,

Кабілка наса гоп пад мост!
А мі яе цап за хвост!
Нет, гаварым, ты не ўйдзес!..
Сталі мі думаць і гадаць,
Сто нам з кабілкі рабатаць?
Мі ўзялі стрункі на ладункі,
З рэбер карэты,
А з ног пусталеты,
А з хвастоў сітцы.
Сталі мі кабілку выпрагаць,
Катоцкі і аглоблі мі ламаць,
Да як разлазылі мі агнісца,
Аз під самій небасісца;
А тут якраз казацысца із лясісца
І страснага дубавісца на пляцысца!
Як ударыў... пад нос,
Дык ён носам затрос.
Уй, гевалт!..

Казак

Ах ты, нехрысь...
Чаго ты так арэш!
Ці не водку тут без пацэнта прадаеш?

Яўрэй

Ціха, ціха, пан Станеўскі!
Я не водку, а воцат!

Казак

Врош!.. Давай піціма!

Яўрэй

Піціма, піціма,— а хто будзе гросы плаціць?

Казак

А вот ета доўбня табе заплоціць!

Яўрэй

На, пі, толькі мяне не бі!

Казак

Давай, ракалія, папрабуем.

**Яўрэй частуе гарэлкай, казак хістаецца, нарэшце, кладзецца.**

Абрам! Многа ты за водку грошай накапіў?

Яўрэй

Я столькі на корцма мог гросы накапіць,
Сто ў цара магу цябе купіць!

Казак *(устае)*

Ах ты, нехрысь ты брадзяжны!
Думаеш, што я ў цара прадажны?

Пачынае біць яўрэя.

Яўрэй

Цісы, пан Станеўскі,— я табе песню запяю:
Я... смірненькі,
Худзінькі, не зырнінькі!
Хуць ві мяне біце,
Хуць ві мяне рэзце,
Хуць ві мяне зівенькага адразу і з'езце!
Алі мая дуса, як чырвоньцык, хараса!
Цяпер, маспане Станеўскі, дай мне трохі гросы.

Казак пад песню яўрэя заснуў; яўрэй вымае ў яго з кішэні медныя грошы.

Во, вразы сын! Цузога добрага
Напіўся і паваліўся!
Я табе цяпер дам *(б'е казака)*.
Дай-ка з я табе бацонкам,
Да бокам, да за цуб падрацьі
Знай, знай! *(Б'е і выходзіць. Казак спіць.)*

Сцэна 5-я

Казак

Здравія жалаю, гаспада!
Я к вам шэствую сюда!
Знаеце, хто я такой?
Я казак-небарак са сцепі-поля;
Вот здзесь казакова роскаш і воля,
А ў казака-дурака
Жынкі няма,
Адна душа ў целе,
Вшы ўсю галаву аб'елі!

Садзіцца на Ірадаў трон.

Сяду я на Ірадаву казюльку,
Да пакуру табаку люльку,
Ці не ўбачу я сабе зязюльку.

Хор

Пасею лебяду на берагу,
Сваю крупную рассадушку і інш.

Ідзе казачка.

Казак

Гдзе ты, вражжа доч, прабывала?

Казачка

Казачэнька, гарны чалавеча:
На рыначку табачок прадавала.

Казак

На скольки ты прадала?

Казачка

Казачэнька, на рубель прадала,
А на два прапіла.

Казак

А! Ты не пільнавала табаку,—
А пільнавала кабаку,
Пайдзі, наймі музыку!

Музыка грае. Яны скачуць казачка.

Полна гуляць, пара табак прадаваць!

Выходзяць.

Сцэна 6-я

Купец

Здраствуйце вам, гаспада!
Знаеце лі вы меня,
Хто я такоў?
Я купец слаўны
Із слабодушкі Карманнай.
Знаеце, гаспада, чым я
У прэжняе ўрэмя занімаўся?
Я прадаваў персцянёчкі, бруліянчыкі,
Табашныя ражкі і манерачкі;
Па уліцам насіў лучыну,
А па красным дзевушкам печаль да кручыну.
Пака я эцім таварам таргаваў,

Усягда я сыт прабываў.
Аднажды са мною случылась вялікае няшчасце:
Вялікалуцкі купец маю руку
У сваім кармане захваціў.
І так ён мяне шчодра нарадзіў —
Усе бакі і рэбры аткалаціў:
Пастух трубой,
Музыкант дудой,
Старыя бабы плахім гаршчком,
А маленькія рабяцішкі раскавыралі ўвесь
нос ражком.
А вы жа мяне не прамяняеце на пціцу,
Пазвольце прыіскаць красную дзявіцу!

Ідзе паненка.

Паненка

Здраствуй, гаер мой любезны!
Я к табе прыход палезны;
Я к табе прышла
І гуляць з вамі пайшла.

Танцуюць польку і выходзяць.

Сцэна 7-я

Доктар

Здраствуйце вам, гаспада!
Знаеце лі вы мяне?
Я лекар, глаўны аптэкар,
Умею лячыць,
Кроў мячыць,
Корпію ўстаўляць,
Жывых людзей на тот свет адпраўляць:
Ка мне вядуць на нагах,
А ад мяне вязуць на санях.
Не баляць лі ў вас, гаспада, у каго лі зубы?

Ідзе барыня.

Барыня

Ах, доктар! Я слыхала,
Што вы лекар.
Я дажэ бальна і пахудэла,
На мне сарочка паужэла:
Было дзве складкі,
А то стала ўнацяжку гладка.

Доктар

Сударыня! Вам нужна шалфею
І даць раз пяць па шэі.
Тагда будзеце здаровы!

Барыня

Ах, гаспадзін, яшчэ баліт галава!

Доктар

Сударыня! Абрыць вам яе дагала,
Парным малаком прывязаць
І паленам па галаве ўдарацы!
Ваш галоў будзе здароў.

Барыня

Гаспадзін, яшчэ баляць зубы!

Доктар

Сударыня! Абрэзаць вам нос і губы,
Не перапусціць крові ні лішку,
Даць вам у рот яловую шышку.
Ваш зуб будзе очэнь здароў.

Барыня

Ах, гаспада, дажэ ад слоў яго палягчэла!
Пайду, найму музыку!

*Танцуюць польку і выходзяць.*

## Сцэна 8-я

Волжскі дваранін

Здраствуйце вам, гаспада!
Знаеце вы мяне, хто я такой?
Я не генерал, не палкоўнік,
А з сяго свету пакойнік,
Гарнадзёр расійскі,—
Аддаю вам, гаспада, паклон нізкі!
Вот цяпер я вам раскажу, хто я:
Я із-за Волгі дваранін,
Жыў некагда паадзіноцы адзін,
Імеў я ў сябя крэсцьян сорак двароў,
Усё плутаў, да машэннікаў і вароў,
А іменна: чатыры двары прыкашчыкаў, два пустых,

А ў двух саўсем не жывуць.
Аднажды я старасту паслаў к нім за аброкам,
Ані яму аброку не аддалі,
А ўсе бакі і рэбра адламалі.
Астаецца адзін слуга Ванька Малой.
Не пазваць лі яго сюда?
*(Крычыць.)* Ванька Малой!

Ванька

Чаго, судар мой?

Барын

Падай водкі алой!

Ванька

Да гдзе жа яе ўзяць?

Барын

Да ў паставе.

Ванька

Да чорт яе там паставіць!

Барын

Да ідзі пасматры ў другом.

Ванька

Да я ўсе чатыры абашоў кругом!

Барын

Пракрасна, Ванька!

Ванька выходзіць.

Ванька Малой!

Ванька

Чаго, судар мой?

Барын

Харашо лі нашы мужыкі жывуць?

Ванька

Харашо, барын, как харашо:
У васьмі дварах адзін тапор!

Барын

Дурак! Што жа ані ім дзелаюць?

Ванька

Да абеда драва рубяць,
А после абеда адзін аднаму галовы рубяць.
Тулавішча ды галава — стала два.
Было сто, а цяпер народу ў вашай вотчыне дзвесце!

*(Выходзіць.)*

Барын

Ванька Малой!

Ванька

Чаго, судар мой?

Барын

Харош лі ў нашых мужыкоў ураджай?

Ванька

Харош, барын!

Барын

Как жа харош?

Ванька

Колас ад коласа — не слыхаць чалавечага голаса.
Сноп ад снапа — сталбавая вярста.
Капа да капы — дзень язды.

Барын

Пракрасна, Ванька!

Ванька выходзіць.

Ванька Малой!

Ванька

Чаго, судар мой?

Барын

Сколька мы ржы намалацілі?

Ванька

Сорак чацвярцей за спінай!

Барын

Як, як?

Ванька

Сорак чацвярцей з асьмінай!

Барын

Пракрасна!

Ванька выходзіць.

Ванька Малой!

Ванька

Чаго, судар мой?

Барын *(да гледачоў)*

Вот, гаспада, не купіт лі кто ў мяне ржы?
А то ў мяне очэнь многа! Сходна аддаю!
Ванька Малой!

Ванька

Чаго, судар мой?

Барын

Што ты пабяжаў
І мне прыход і расход не паказаў?

Ванька

Вам, барын, прыход і расход ізвесцен!

Барын

Как жа?

Ванька

Мерыну сіпатаму
Да вашаму бацюшку гарбатаму
Дзесяць чацвярцей;
Сучцы палявой
І вашай жане маладой
На халявы
Дзесяць чацвярцей;

Уткам серым
Ды дзевушкам сенным
Дзесяць чацвярцей;
І нам, дваровым людзям,
З прыкашчыкамі
Дзесяць чацвярцей.
Адна асьміна астаецца, барын.

Барын

Вот, гаспада, хацеў было прадаць ржы,

А толькі наабарот! Ванька Малой!

Ванька

Чаго, барын мой?

Барын

Куда жа ты асьміну падзяваў?

Ванька

Барын! Не хацеў закрама занімаць,
Узяў, зрасціў ды і піўца наварыў.

Барын

Вот харашо! А харашо наша піва?

Ванька

Харашо!

Барын

Як харашо?

Ванька

А так: еслі вашаму здароўю нашча стакан паднесці
І паленам па галаве аплесці —
Нехаця з ног зваліцесь.

Барын

Прэкрасна!

Ванька выходзіць.

Ванька Малой!

Ванька

Чаго, барын мой?

Барын

Усе лі нашы лошадзі дзвесце?

Ванька

А обе, барын, умесце!

Барын

Как эта праісхадзіла?

Ванька

Сляпая храмую задавіла.

Барын

Как эта случылась?

Ванька

Сляпая паваліласъ,
А храмая найшла на яе і задавіла.

Барын (*да гледачоў*)

Вот, гаспада, няшчасце якое:
Лашадзей дзвесце,
І обе ляглі ўмесце!
Ванька Малой!

Ванька

Чаго, барын мой?

Барын

Паіў лі ты канька-варанька?

Ванька

Паіў, барын!

Барын

Што ў яго морда суха?

Ванька

Пролуб очэнь высака!

Барын

Дурак! Ты ж бы пролуб падрубіў.

Ванька

А я яму ўсе чатыры нагі адрубіў!

Барын

Дурак! Што ж ты здзелаў?
І на ком мы будзем ездзіць?

Ванька

Барын дзень на мне,
А два дні я на барыну!

**Ванька садзіцца на барынавы плечы ззаду і крычыць: «Барын, пайшоў!» А барын крычыць: «Ванька, шаліш,— падцяжкі парвеш!» Потым выязджаюць.**

### Сцэна 9-я

Баба

Ху-ці мне! Здраствуйце вам, гаспада!
Вот жа ўмарылась!
Што сільна ўчора была выпіўшы,
А сягоння галава баліць!
Я баба-шапялуха,
Радзілася на самага духа,
Па рынку хадзіла, как маладая маладуха,
Ой, хто ета ляжыць?
Какой бальной ілі чумной?
Ён гарэлкі апіўся ілі змяя ўкусіла,—
Во і пахмелле будзе.

*(Баба варожыць і плюе.)*

Сем зім зімавала і мінавала,
Справілі мне, надзелі
Шыбцы, хлібцы,
Шыпавалы, канавалы,
Цуднікі, шляпнікі,
Адкаснісь, адкалупнісь
Ад хрыбетнай косці,
Ад завыйнай часці,
Косці, ўрасці! Плюнь, дунь!
Устань, мой казача,
Гарны чалавеча!

*(Баба паднімае казака, які ляжаў.)*

Казак

Ах, баба! Еслі бы ты тут не случылась,
Ка мне бы злая смерць прыключылась.
Музыка! Зайграй нам з бабкай! (*Танцуюць.*)

Бабка

Ох, казача, не пры маіх летах ужо гуляць,
Лучша ты мне заплаці
Хоць рублінку, ілі палцінку, ілі грывенку!

Казак

Баба! Віш, служываму даецца
Тры дзенюжкі на дзень, куда хочаш,
туды і дзень!
А падстаў-ка свой горб!

(*Б'е бабу па гарбу.*)

Вот табе рублінка,
І палцінка, і грывянка!

Сцэна 10-я

Мужык

Здраствуйце вам, гаспада!
Знаеце вы мяне, хто я?
Я мужык Лобас,
Прыйшоў к вашаму здароўю, нет лі рубіць
дроў?
Я мужык харошы,
На мне жупан кароткі:
Я кіем падпаясаўся,
А лыкам падперазаўся
І к вам сюды папаўся.
А цяпер вам раскажу:
Калі жылі нашы продкі і дзяды,
Не відзелі ні гора, ні бяды;
А как прышлось жыць унукам,
Дасталась многа гора і мукі.
На се лета распрагневаўся на нас бог,—
Не ўрадзіўся ў нас гарох,
А за нашы падобныя рэчы
Атбіў у поле бог усе ячмяня і грэчы.
Думаць ды гадаць,

Што тут рабатаць?
Мы ўзялі сумкі і кашалі на плечы
І пайшлі з голымі мяшкамі хадзіць
Па пустым дзярэўням, сталі мякіны прасіць,
Штоб у сумках было лягчэй насіць.
Просім соладу на брагу,
Аўса на кісель, белай,
Яравой пшаніцы на круглыя пірагі.
Многа хлеба накапілі
І сухароў мы насушылі.
Сухары мы прадалі, красным дзеўкам лент
накуплялі.
Каторая дзеўка красная,
Той лента атласная;
Каторая рабая,
Той лента галубая;
Каторая курносая, той лента перапалосая.
А я, хуць стар, а за дзеўкамі лас!

*(Да гледачоў.)*

Гаспада! Даўно я відзеў сына Максіма:
Пазвольце пагукаць яго!.. Сын Максім!

Максім *(за сцэнай)*

Агу, агу, тата!

Мужык

Эй, гдзе ж ты, сынок-галубок?

Максім

Тут, тут, татка!

Мужык

Ой, ідзі хаця сюды!

Максім уваходзіць.

А йгдзе ты быў?

Максім

Тут, тат, тут у грыбах!

Мужык

Какія тут грыбы?

Максім

Малажэвікі, рыжыкі, баравікі
І з краснай галоўкай!

Мужык

Ту, дурак: какія цяпер грыбы?
Цяпер раждждэсцвянская каляда:
Была звязда на небе.
А ты лучша ідзі ў горад,
Папрасі ў панечкі: дайце пранічкаў,
А паночкі — па грывенічку!

**Максім ідзе «ў народ» і просіць сабе ў кошык.**

Як жыў я дваром,
Так браў вядром,
А як стаў браць гарцам,
І папаў у старцы.
Як Сямён жыў, ні аб чым не тужыў;
Раз напіўся рынкавага квасу
І паваліўся.
Управіцель на парог, а я бразь пад парог!
Як начаў ён валіць:
Каму меней, каму болей,
А мне больш усіх!
З тых пор я зарокся:
Прападай ты, кабачок,
Гарэлачка і кручок,
З цябе шум і Масква,—
Атвячай, Прохарава спіна!

*(Выходзіць.)*

**Сцэна 11-я**

**Уваходзіць мужык з падвязаным жыватом і скардзіцца на боль страўніка.**

Мужык

Вот, маі паночкі:
Быў я ў пана на пірушкі,
Да як налопаўся там юшкі,
Дак і цяпер не магу сайці,
Што мне Ганка ні рабіла:
І крапіву, абварыўшы, клала,
І ў бані мяне расціралa,—

А, яй богу, нічога не памагло,
Да яшчэ і горш прылягло.
Параілі мне яблычнага квасу,
Свежага моху, чартапалоху
І яшчэ быццам нечага троху;
Усё ета зелля нада скалаціць
Да разам і праглаціць.
Усё ета я зрабіў,
Алі хоць бы трошку памагло,
А то яшчэ горш прылягло.
Вот каб ета папаўся хвельшарочык
Да палячыў бы мой жываточык,
Аддаў бы яму і торбу, і машонку.

З'яўляецца Доктар.

Доктар

Што ў цябе баліць, мужык?

Мужык

Ай, паночык, памагі!
Разбібліў, чуць ня лопну.

Доктар

Нічога, Архіпка, не рабей!
Лажысь-ка ты на бруха.

Мужык кладзецца. Доктар б'е яго палкай. Мужык просіць «ратунку». Доктар забірае торбу мужыка і выбягае. Мужык прыўзнімаецца і лае яго. У заключэнне вяртэпнага прадстаўлення страляюць з маленькай гарматы.

## ТЭКСТ БАТЛЕЙКАВАГА ПРАДСТАЎЛЕННЯ НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ

*(1-ы варыянт)*

### 1

Выходзіць асоба, якая прадстаўляе Панамара, і запальвае свечкі перад абразамі. Натоўп спявае трапар «Ражство тваё, Хрысце» і інш.

### 2

Панамара змяняюць тры анёлы з пакланеннем перад скульптурай дзіцяці Ісуса. У гэты час спяваецца кандак свята «Дзева днесь» і інш.

## 3

З'яўляюцца Адам і Ева, якіх анёлы выганяюць (разумецца — з раю). Натоўп пяе наступны верш:

Вопль бысць прадзіўны аб прадрайскай стране.
Плакаўся Адам із раю ізгнаны:
Ой, раю ж мой, раю, слічная краіна!
Ой, бяда ж мая, без цябе гадзіна,
Ой, жана мая, што ж ты мне здзелала?
Ты мя ўласнага із раю ізгнала.
Ты мя ўласнага із раю ізгнала.

## 4

З'яўляюцца пастух і пастушка. Хор спявае:

Пастушка з ягняткам
Прад тым дзіцяткам,
На калена ўпадае,
Хрыста праслаўляе.

## 5

Пасля пакланення пастухоў уваходзіць цар Давід. Пры гэтым спяваецца:

Давід, мужа дзіўны,
Выігрывает у ігры,
На ўсе струны ўдарае,
Хрыста праслаўляе.
Ты, Давід, слаўны прарочаскі цару,
Даруй лета шчаслівае днесь сяму гаспадару;
Просім цябе, цару нябесны, шэфару,
Вaздай жэртвы хвалення днесь сяму гаспадару.

## 6

На ніжняй сцэне Ірад садзіцца на трон і гаворыць:

Што я слышу ў царстваі сваём ныне аб навароджаным чадзе. О! Прызаву я к сабе трох цароў і спрашу ў іх какіх вяшчэй.

Уваходзяць тры цары. Натоўп спявае:

Шэдша тры цары
Ка Хрысту са дары.

Ірад жа прыгласіў,
Куды ідуць, іспрасіў.

Ц а р ы

Пашто, наш цару дзяржаўны,
Вялеў прыйсці пад указ твой яўны?

І р а д

Патаму я вам вялеў прыйсці, што будто какая-то дзева днесь цара радзіла, я ў вушах слух імеў, а патаму пасылаю: ідзіце, раджонага найдзіце і мне прадвазвясціце, і я такжа пакланюся.

Ц а р ы

Праўда, шах цар над царамі,
Павяліцель над намі.

Пасля цары ўзыходзяць на верхнюю сцэну пры спяванні хору:

Зайшлі ў чужы страны
Хрыста славасловіць.
Чаю не бяжыце,
Са ангелы служыце.

Ц а р ы

Навароджаны цару,
Прымі нашы дары!
Мы тры цары
Прыносім табе дары.

З'яўляецца Анёл і гаворыць:

Цары-друзі!
Куды вы мысліце?
Не ідзіце ка Іраду,
А ідзіце іным пуцём.

Ц а р ы

Благадарым цябе, ангеле,
Што нам пуць паказаў пуцяшэствія
страны.

Х о р *(спявае)*

Ангел к нім яўляецца,
На пуць настаўляе:
Іным пуцём ідзіце,
Ка Іраду не ідзіце.

У гэты час з'яўляюцца Іосіф і маці божая на асле і адыходзяць.

І р а д *(на троне)*

Што я слышу во царствіі сваім ныне аб навароджаным чадзе, да прызаву я к сабе воіна, ілі мог бы ён мяне убіць ілі более раздразніць. Воін мой мілы, воін мой любезны, стань перада мной!

В о і н *(з'яўляецца)*

Гасудар, мой цар, твая вера — мая вера, вераятна стала.

І р а д

Воін мой мілы, воін мой любезны, ідзі ва град Віфлеем і ізбей младзенцаў, сушчых первенцаў.

Воін выходзіць і пасля прыводзіць Рахіль і гаворыць:

Гасудар мой, цар, я вяду ■ табе Рахілю з малым отрачам: ілі вяліш убіць, ілі жывога на свет пусціць.

І р а д

Я сваіх царскіх славес нікагда не перамяню. Воін мой мілы, воін мой любезны, вазьмі отрача, убей.

Р а х і л ь

Цару мой, цару,
Міласцівы гасудару,
Не раздражай маёй утробы,
Не ўганяй дзітачка ка гробу,
Штоб чрэз няго ў агні не гарэць,
У смале не кіпець.

І р а д

Ох ты, баба агністая, скаціна рабрыстая! Воін мой мілы, воін мой любезны, вазьмі отрача, убей.

Х о р *(пяе)*

Васплача маці
Па сваім дзіцяці:
Ты ўбей, убей мяне ў сіе ўрэмя,
Пушчай умру ўскора.
Не рыдай па чадзе,
Вазнясуць ва адзе
Твой вянец праслаўны,
Ад Хрыста ізданы,

З нябёс херувімы
І ўсе серафімы.
Мучанікам слава,
Чэсць і дзяржава,
На вечныя векі.
Пашто ж ты гардзішся,
Слязамі абалышся?
Ірад цябе пабівае,
Сэрца ў целе ўнывае,
Цяжка ваздыхае,
Слёзна памышляе,
Слёзна памышляе.

Смерць прыходзіць да Ірада і гаворыць:

Аз есм манархіня сему свету, пане,
Я прабываю ва ўсякай стране,
Усе князі і цары пад ўласцю маёю,
Патаму што я вырублю касою сваёю.
А ты, Ірад, цар праклятый!
Полна табе на сем царстве царстваваці,
Пара табе ў ад пастулаці.

Ірад

Ох, смерць, мая маці!
Не хацеў бы яшчэ ўміраці,
А хацеў бы яшчэ з табой ваяваці.

Смерць

Ах ты, Ірад, цар праклятый!
Не хочаш дабравольна ў рукі пададца,
Хочаш з смерцю ваявацца?
Как васклікну я брата,
З пропаснага ада: «Ад! Брат!»

Д'ябал (*з'яўляецца*)

Што, смерць, сястра?

Смерць

Цар Ірад не хоча дабравольна
У рукі пададца,
Хоча з смерцю ваявацца.

Д'ябал

Вазьмі, сястра, касу,
Атрубі яму галаву,

Пусць яму — труп і глава,
Нам — дзяржава.

Смерць

Прапойце яму надгробную песнь.

Хор *(спявае)*

Вот яшчэ бо не даказаў пякельныя штукі,
Как Ірада праклятага бяруць у свае рукі.
Бяруць яго і дзержаць.
Усе саветы прадляжаць,
За яго забавы
Ідуць да нас славы.

Смерць

Вот табе, Ірад, цар пракляты!
Надгробная песня прапета,
Лішаешся сяго ты белага света.

Адсякае галаву. З'яўляецца Д'ябал і хапае труп.

Гэтым канчаецца прадстаўленне. Пасля пачынаюцца лялечныя скокі пад скрыпку ў наступным парадку: спачатку салдацікі пяхотныя, а пасля конныя маршыруюць. Затым скачуць дзяўчына з парубкам, цыган з цыганкаю, яўрэй з яўрэйкаю, далей — Антон казу вядзе, падпальваючы ёй хвост, разбойнік яўрэя б'е, чорт цягне яўрэя. У заключэнне з'яўляецца зборшчык са сподачкам, на які публіка павінна палажыць грошы. У гэтым аддзяленні цыганы гавораць.

Цыган

На каверда верда на чачэржа,
Гаспада міране, чы ні бачылі,
Чы ні ехалі тут шатром цыгане?
Кабыла маладая на нагу кільгала,
Там была мая цыганка маладая.
Хоўра! Хоўра!

Цыганка

А тута Хоўра!

Цыган

Ой, дзе ты хадзіла?

Цыганка

Я хадзіла па сялу
Да дабывала сыраўцу.

Цыган

Ой, дзе ж твой сыравец?

Цыганка

У сіўкі на водкі.

Цыган (*панюхаўшы*)

Ой, што твой сыравец да пахне ракавай юшкай?

Цыганка

А я яе кідала ў пятрушкі.

Цыган

О штоб ты пацалавала старому бісу ў рабро!
Музыкант, зайграй свінню кованаю.

Цыганы скачуць. Пасля цыган спявае:

Чом ты, цыган, не арэш?
Бо не маю плуга,
Толькі маю плуга —
За поясам пуга.
Ой, дам, дам.

Яўрэй (*спявае*)

Мая сапацка із злота,
З адной скурацкі работа,
І ярмулачка казына,
Уся гнідамі спідкована.
Ой, мір, мір,
Стэйлэм, бэйлэм,
Стэйлэм, бэйлэм.
    Там і Борух троху гуляў,
    Масіясу поўху даў,
    Ой, мір, мір,
    Стэйлэм, бэйлэм,
    Стэйлэм, бэйлэм.
Там і Борух троху ўпіўся,
Ён пад лаўку падваліўся.
Ой, мір, мір,
Стэйлэм, бэйлэм,
Стэйлэм, бэйлэм.

## ТЭКСТ БАТЛЕЙКАВАГА ПРАДСТАЎЛЕННЯ НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ

### *(2-і варыянт)*

#### Сцэна 1-я

Прадстаўленне пачынае Панамар, які запальвае свечкі. Хор пяе трапар «Ражство тваё, Хрысце, божа наш», а пасля вершы з Богагласніка:

Іскoні бысць тако
Вяселле днесь, яко
Зямля ўся сагласно лікуе,
Царкві афяруе,
Бога на зямлі паказуе,
Атверзі днесь врата
Царкоўныя ўсе злата,
Алтар богу прадастаўлены,
Ідзі жэ Хрыстос раждзённы,
Як бог палажоны.

З'яўляецца Анёл.

Ангел са свяшчою
Да свеціць табою,
Божы свяцільнік,
Неўгасімы і г. д.

#### Сцэна 2-я

У гэтай сцэне паказваецца выгнанне Адама і Евы з раю.

Хор *(спявае)*

Вопль бысць празельны
У прадрайскай стране:
Плакаўся Адам і Ева,
Із раю ізгнаны.
Гасподзь жа, прышэд,
Адама глашае:
«Гдзе есі, Адаме?»
Да сябе прызывае.
Адам жа скрыўся
Ад такога стыда,
Ліствіям прыкрыўся,
Не яўляша віда.
«Ой, жено, жено,
Што мне нарабіла?

Ты мяне ўласнага
Із раю ўдаліла!
Ой, раю, мой раю,
Слічная краіна,
Ой, раю мой красны...
Гдзе наша радзіна?»

### Сцэна 3-я

**Нараджэнне Хрыста. На верхнім ярусе пяшчэра і яслі, а ў іх спавіты младзенец.**

Пастухі

Нова радасць стала,
Как на небе хвала,
Над вяртэпам звязда ясна
Свету вассіяла.
Прад тым весялімся,
Хрысту пакланімся,
Яко цару раждзённаму,
Богу прадвечнаму.
Просім цябе, цару,
Нябеснай афяры:
Даруй лета шчаслівае,
Сяму гаспадару.
Пастушкі з ягняткам
Перад сім жа дзіцяткам
На калені ўпадалі,
Главы ўсе скланялі.

### Сцэна 4-я

**На паклон прыходзяць трое валхвоў.**

Хор

Шэдша тры цары
Ка Хрысту гасудару.

З'яўляецца Ірад.

Ірад іх прыгласіў,
Ідзе жа йдуць, іх спрасіў:
«Цары Персідскія —
Куды вы ідзёце?»
Атвяшчама яму:
— Ідзём к раждзённаму,

У яслі палажоннаму
Дары прынясці!
«Ідзіце і мне вазвясціце,
І аз пакланюся яму».

Валхвы прыходзяць да Хрыста і кланяюцца.

Хор

Небеса купна з ангелы пікуйце,
Тры цары дары афяруйце!
Днесь раждзённы,
У яслі палажонны,
Между скоці,
Зрыцца ў плоці.
Нам прарок вяшчаша:
«Радзіла дзева спасенне наша.
Што отрака без парока
Радзіла дзева Марыя ў Віфлееме».

Валхвы вяртаюцца назад. Перад імі з'яўляецца Анёл.

Анёл

Цары Персідсціі,
Куда ідзёце?
Не Іраду лі
Весць нясёце?
К Іраду не ідзіце,
Бо Ірад гаварыў лукава,
Ідзіце жэ направа!

Валхвы

Благадарым ангела, архангела,
Што нам пуць указаў,
Ісці направа прыказаў.

Да Іосіфа з'яўляецца Анёл.

Хор

Ірад хоча отракаў ізбіці,
Ангел прыдзе мужу вазвясціці,
Штоб Іосіф у Егіпце
Ад Ірада скрыўся.
Умесце тама з младзенцам нахадзіўся.

**Сцэна 5-я**

Ірад сядзіць на троне і кліча воінаў. З'яўляюцца воіны.

Ірад

Воі мае, ідзіце
Сяго младзенца ўбіце!

Воіны выходзяць.

Хор

Ірад славы дабывае,
Усіх младзенцаў убівае!

З'яўляецца Рахіль і плача.

Рахіль

Крыкнула маці
Па сваём дзіцяці:
«Ах, убіваюць,
Мяне няшчаснай астаўляюць.
Васплачаце, чадзі,
Ірада радзі —
Урэмя наступае,
Дзяцей убіваюць!»

Хор

Не рыдай па чадзех,
Вазнясе ва адзех
Бог вянец праслаўных
Ад Хрыста мне данных.
Мучанікам слава,
Чэсць і дзяржава
На вечныя векі!

Ірад пасля забойства младзенцаў сядзіць на троне.

**Сцэна 6-я**

З'яўляецца Смерць.

Смерць

Аз есм манархіня,
Усяго свету гаспадыня,
На ўсякім месце прабываю,
Усіх к сабе я прызываю.
Цары і князі ўсе пад уласцю маёй,

Усіх я выражу касой сваёй.
Полна табе, Ірад, царстваваці ў свеце,
Пара табе даўно сядзець у адскай клеці!

Ірад

Не хачу я ўміраці,
Хачу яшчэ царстваваці.
Не хачу па аду шляцца,
Буду з смерцю ваявацца!
Воі мае, станьце ў парогу,
Буду лавіць смерць как мо́гу!

Смерць

О, Ірад пракляты!
Не хоча паддацца,
Хоча са мной ваявацца.
Як крыкну я старшага брата із ада,
Будзеш ты знаці,
Як чад убіваці!
Браце, Адзе!

*З'яўляецца Д'ябал.*

Д'ябал

Што, Ірад пракляты,
Спорыш з маёю сястрою?
Сястра, удар яго
Сваёю касою!
Как зваліцца яго глава,
Нам будзе чэсць і слава!

Смерць сцінае галаву і гаворыць:

Вот вам труп і глава,
А мне чэсць і слава!

Д'ябал хапае труп і выносіць.

Хор

Чорт жа паказаў пякельныя штукі,
Узяў грэшнага чалавека ў свае рукі.
Бяжыць у ад, прысядае.
Вот суята мірская!

Сцэна 7-я

Вяртаецца з Егіпта святое сямейства.

Хор

Ангел у сне прадвяшчае,
Дзеву назад вазврашчае
З младзенцам, з младзенцам!
Мы вас паздраўляем,
Доўга жыць жалаем:
Весела жывіце
І нас наградзіце!
Мы ж пойдзем у дарогу,
Прынасіце чэсць і хвалу
Хрысту богу!

Сцэна 8-я

З'яўляюцца дзве паненкі і скачуць польку, а хор спявае верш:

Небяса купна з ангелы лікуюць,
Тры цары дары афяруюць... і г. д.

Сцэна 9-я

Уваходзіць цыган. Убачыўшы яго, паненкі палохаюцца і ўцякаюць. Цыган танцуе рускага, казачка, а хор спявае ў хуткім тэмпе верш:

Скінія ўсезлатая, каўчэг завета,
У пяшчэрэ днесь Марыя сына павіла.
Радуйся, Марыя, радуйся, прыснадзева.
Аб нятленным раждзястве тваём! і г. д.

Сцэна 10-я

Цыган выходзіць. З'яўляецца мужык і таксама моўчкі танцуе. Хор пяе песню 1861 года «Ах ты, воля, мая воля, залатая ты мая...» на матыў песні «Ах вы, сені, мае сені...»

Сцэна 11-я

Уваходзіць яўрэй.

Мужык

Пашто ты тут, няверны жыдовіну, ходзіш,
Людзям шкоды без чысла наверна прыводзіш?
У небе, у краснай украіні, у бажэственнай
святыні,

Бадай це не знаці, бадай це не знаці і не
аглядаці.

А ты, Борух, спяваеш, аднак не кончыш,
Да й у Сораньні сваёй праўды ты не дойдзеш,
Бо стаіць мужык з кіем вялікім,
Жыд жа закрычаў голасам прадзікім.

Жыд

Буду добра жыці, не буду круціці!

Мужык

Тут, няверны жыдовіну, табе не хадзіці,
А ты, пракляты, гаварыш: не буду круціці!

Жыд

Ей-богу ж, круціць не стану,
Больш грошай я дастану каля добрых людзей,
Каля хрысціянаў!

З'яўляецца Чорт, хапае Жыда і выносіць, а мужык, спалохаўшыся, уцякае ў другі бок.

## Сцэна 12-я

Едуць конныя воіны і маршыруюць. Хор пяе верш:

Правечны радзіўся, бяссмертны,
Хацяшчы зямлю прасвяціці,
Прыдзе крэсціці ўсяленну дружына Хрыста
і г. д.

У канцы выкочваецца на сцэну гармата — ствол старога пісталета.

Хор

Усяленная, весяліся, бог ад дзевы днесь радзіўся,
І ў вярцепе між быдляці прышлі паклон аддаваці і г. д.

У канцы гэтай сцэны ў Прапойску з гарматы стралялі. Пасля воіны з гарматай выходзілі.

Сцэна 13-я

З'яўляецца мужык. Ён вядзе казу. Следам ідзе баба.

Хор *(спявае)*

Антон казу вядзець,
Антоніха падганяіць,
Каза бубкі раняіць,
Антоніха паднімаіць.
Не папала па казе,—
Да па 'Нтонавай назе.
Антон плачыць,
Антоніха скачыць!

Баба, а пасля і мужык з казою скачуць, чым і заканчваецца прадстаўленне.

## ТЭКСТ БАТЛЕЙКАВАГА ПРАДСТАЎЛЕННЯ НА МАГІЛЕЎШЧЫНЕ

*(3-і варыянт)*

### I. Ірад

Сцэна 1-я

Дзеянне адбываецца на верхнім паверсе. Тут знаходзяцца лялькі Адама, Евы, двух анёлаў і Херувіма з мечам, Панамара, Дыякана, Свяшчэнніка. Панамар звоніць у званок і ад сваёй свечкі запальвае свечкі, што стаяць перад іконамі. Свяшчэннік і Дыякан уваходзяць і кадзяць перад іконамі. Хор пяе трапар «Ражство тваё, Хрысце, божа наш». Пасля спеваў уваходзяць два анёлы. Анёлы пяюць кандак «Дзева днесь».

Сцэна 2-я

Уваходзяць Адам і Ева. Іх гоніць Херувім з мечам. Адам і Ева плачуць.

Хор *(пяе)*

Вопль бысць прэсільны ў прадрайскай стране:
Плакаўся Адам, із раю ізгнаны:
«Ой, раю ж, мой раю, слічная ўкраіна,
Ой, бедная ж мая без цябе гадзіна!
Ой, жана ж мая, што ты мне здзелала:
Ты мя уласнага із раю прагнала!»

Панамар тушыць свечкі.

## Сцэна 3-я

Адбываецца на ніжнім паверсе. Уваходзіць цар **Ірад.** Яго лялька драўляная з адрэзанай галавой, якая злёгку прыклеена да плячэй і прывязана ніткай. Увайшоўшы, ён садзіцца на трон.

Ірад

Што я слышу ў царстві сваём ныне,
У Віфлеемскімградзе, аб наваролжаным чадзе?
А прызаву я к сабе трох царэй
І спрашу ў ніх какіх вяшчэй!

Уваходзяць трое цароў.

Хор

Шэдша тры цары ка Хрысту з дарамі;
Ірад жа пракляты, гдзе ж ідуць, іх спрасіў.

Цары *(кланяюцца)*

Пашто ты нам, цар дзяржаўны,
Вялеў прыйці пад твой указ яўны?

Ірад

Патаму я вам вялеў прыйці,—
Бытта какая дзева днесь сына цара радзіла,
Я ў вушах слух меў і таму пасылаю:
Ідзіце і разведайце, і аз пакланюся яму!

Цары пайшлі і ідуць на другі паверх, у пяшчэру.

Хор

Зашлі з страны свае
Ка Хрысту славасловіць.

Цары *(кланяюцца)*

Навароджаны цару, прымі нашы дары!
Мы, тры цары, прыносім ка Хрысту дары.

Анёл *(уваходзіць)*

Цары-друзі, куды вы мысліце ісці?
Ка Іраду не ідзіце, но іным пуцём ідзіце!

Цары

Благадарым табе, ангелу,
Што ты нам паказаў пуцяшэствія страны!

### Хор

Ангел к нім яўляе, на пуць настаўляе:
Ка Іраду не ідзіце, но іным пуцём ідзіце!

## Сцэна 4-я

Адбываецца на другім паверсе. Ідзе Скінія: **дзева Марыя** на асле, **Іосіф** вядзе асла, за плячамі ў яго мех.

### Хор

Скінія ўсезлатая,
Каўчэг завета,
Відзяшчы днесь Марыя
Сына павіта!
Радуйся, Марыя,
Радуйся, прыснадзева,
Аб нятленным
Раждзястве тваём!
Слава богу во вышняму,
Ангелы гласяць,
Слава сіле тваёй,
Дары прыносяць.
Радуйся, Марыя, і г. д.
Звязда ясна сіяець,
Яму служашча,
Тры цары прыходзяць,
Дары насяшча.
Радуйся, Марыя, і г. д.

**Пастух і пастушка** з ягняткам пад пахай уваходзяць у пяшчэру і кланяюцца перад яслямі.

### Хор

Пастушка з ягняткам
Прад тым жа дзіцяткам
На калені ўпадаюць,
Хрыста велічаюць.

Цар **Давід** ідзе з гуслямі ў руках.

### Хор

Давыд, мужу дзіўны,
Выігрываець ігры,
Ва ўсе струны ўдараець,
Хрыста праслаўляець!

## Сцэна 5-я

Адбываецца на ніжнім паверсе.

**Ірад** *(садзіцца на трон)*

Што я слышу ў царстві сваём ныне,
У Віфлеемскім градзе
Аб навароджаным чадзе?
Прызаву я к сабе воіна,
Дабы ён мог мяне губіць
Або болей раздражніць!
Воіне мой мілы,
Воіне любезны,
Стань перада мною!

**Воін** *(прыбягае з шабляю ў руцэ)*

Гаспадзін мой цар!
Твая вера мая вера
Вераятна стала?

**Ірад**

Воіне мой мілы,
Воіне любезны!
Ідзі ў горад Віфлеем
І ізбей там младзенцаў
Ад двух лет і ніжа!

**Воін** з шабляй выходзіць. З'яўляецца **другі воін** з пікай, вядзе Рахіль з дзіцем.

**Воін**

Гаспадзін мой цар!
Я прывёў к табе Рахілю
І з малым отрачэм:
Ілі вяліш убіць,
Ілі жывога на свет пусціць?

**Ірад**

Я табе царскіх славес
Нікагда не перамяню!
Вазьмі отрача, убей!

Воін паднімае дзіця на піку.

Рахіль

Склікнула маці
Па сваём дзіцяці:
Ах, убі ж мяне
У сіе ўрэмя,
Пусць умру скора! *(Плача і кланяецца.)*

Хор

Не рыдай па чадзе,
Вазнясут ва адзе
Твой вянец праслаўны,
Ад Хрыста ізданны,
З нябес херувімы,
Яшчэ серафімы.
Мучанікам чэсць і слава
На векі вякоў.

Воін і Рахіль выходзяць.

### Сцэна 6-я

Смерць *(уваходзіць)*

Аз есць манархіня,
Усяму свету паня!
Гдзе жа я прабываю,
Ва ўсякай стране
Усе цары і князі
Пад уласцю маёй,
Я вырублю касою сваёй!
О ты, Ірад, цар пракляты!
Полна табе царстваваці,
Не пара лі ў ад уступаці?

Ірад

Ох, смерць, мая маці,
Не хацеў бы я ўміраці,
Хацеў бы з табою ваяваці.
Пусць маё царства паўсюду знаці!

Смерць

Ах ты, Ірад, цар пракляты!
Не хочаш дабравольна ў рукі паддацца,
Хочаш са смерцю ваявацца?

Як васклікну я брата
С пякельнага ада!
«Ад — брат!»

Чорт

*(У выглядзе касматага чорнага чалавека.)*

Што, смерць-сястра?

Смерць

Цар Ірад хацеў са мной ваявацца,
Не хацеў смерці ў рукі паддацца!

Чорт

Вазьмі, сястра, касу,
Зрубі цару главу!
Яму труп і глава,
А нам чэсць і слава!
*(Д'ябал выходзіць.)*

Смерць

Прапойце яму надгробную песнь!

Хор

Яшчэ ж бо ты не даказаў
Пякельныя штукі,
Як Ірада праклятага
Бяруць у свае рукі.
Бяруць яго і дзержаць,
Усе атветы прадляжаць
За яго забавы,
Ідуць да нас славы.

Смерць

Вот табе надгробная песня прапета,
Лішаешся ты сяго белага света!

*(Дае панюхаць касу.)*

Панюхай!

Ірад сыходзіць з трона. Смерць сцінае яму галаву. Ен падае.

Чорт *(прыбягае)*

Хадзі-ка, брат, са мною ў ад!
Будзем з табою ў карты гуляць
І старых баб забаўляць!
*(Б'е яго, калоціць і цягне.)*

## II. Жанравыя сцэны

На ніжнім паверсе.

(Першая сцэна забыта.)

### Сцэна 2-я

Два цары едуць верхам — Пор Індзейскі і Аляксандр Македонскі. Пор у доўгім плашчы, з пікай у руках, Аляксандр у кароткім адзенні, з шабляй. На галовах у абодвух кароны.

Батлейшчык

Новае дзела пачынаюць,
Цар цара ўбіваець,
На небясі і на зямлі спакланяюць.

Цары б'юцца. Пор падае з каня, а Аляксандр ад'язджае. З'яўляецца воін у шлеме з пер'ямі і выносіць цела забітага Пора.

### Сцэна 3-я

Уваходзяць папарна шэсць салдат са стрэльбамі і афіцэр. Апрануты ў мундзіры. Стрэльбы з бляхі.

Афіцэр

Ва фрунт!

Салдаты становяцца ва фрунт. Афіцэр аглядае іх з правага і левага фланга.

Смірна! Раўняйся!
Рады здвой!
Налева кругом! Шагам марш!
*(Салдаты выходзяць.)*

### Сцэна 4-я

Выязджае кавалерыя: шэсць салдат і генерал. Усе ў формах, з шаблямі з блішчастай бляхі.

Генерал

Здарова, рэбяты!

Салдаты

Здраем-жалаем, ваша высокапрэвасхадзіцельства!

Генерал

Шкадрон, ва фронт!

Салдаты становяцца «ва фронт». Генерал пад'язджае да іх і аглядае лінію. Потым ад'язджае і камандуе.

Шкадрон, марш!

Выязджаюць. Конь генерала «танцуе».

## Сцэна 5-я

Выступаюць «скакушкі» — марыянеткі на пружынах і нітках. Сярод іх Улан. Усе танцуюць.

Улан *(пяе і танцуе)*

А улане добры пане,
А ў вуланах добра жыць,
Даўбешачкай вошы біць!
Прыстань, прыстань да вярбунку,
Бэндзеш есці з маслам куркі,
Бэндзеш піць, бэндзеш есць,
Бэндзеш харашо хадзіць!

«Скакушкі» выходзяць.

## Сцэна 6-я

З'яўляюцца паніч і паненка. Музыка іграе на скрыпцы і на цымбалах (а пазней на гармоніку) польку. Паніч і паненка танцуюць. У канцы танца цалуюцца і кланяюцца гаспадару.

## Сцэна 7-я

Цыган

Накуверда — верда,
На чычыр жа!
Чычыры — міране!
Панове, ці не бачылі,—
Ці не ехалі шатром цыгане?
Кабылка беленька на ногі кульгала,
І там была маладая
Мая цыганка Хоўра!

Цыганка

А я тут!

Цыган

А гдзе ты была?

Цыганка

Я хадзіла па сялу,
Дабывала сыраўцу!

Цыган

А шчо твой сыравец
Да пахне ракавай юшкай?

Цыганка

А я ж кідаю к таму
Яшчэ і пятрушку!

Цыган *(пақазвае на гаспадара)*

Ну, ідзі ж к тым паном,
Кланяйся нізенька
Да прасі гарненька!
Музыкант! Зайграй мне
Свінню кувануюі *(Музыка іграе казачка.)*

Цыган і цыганка *(танцуюць і пяюць)*

Чаму цыган не арэ?
Ён не мае плуга —
За поясам пуга!

Цыганка

Я за сала, я за крупы,
Пройдзець шкворань кала...
І за крупы і за сала
К... шкворань прывязала!

Цыган *(б'е цыганку пугай)*

Да шатра, да шатра! *(Выходзяць.)*

Сцэна 8-я

Жыд *(уваходзіць і кланяецца)*

Добры вецыр, паноцкі!
Ці няма сто прадазны:

Сцыціна, васцына, пастарнаку?
І я, гаспада, каля вас адкрыю лавоцку:
Будзець у мене всего давольна:
Цапоцкі, лапоцкі, цай, сахар, мыла,
Ёсцо троху і дзёхцю!
Дазвольце мне, паноцкі,
Каб патанцаваць,
Вас с празнікам паздравіць!

*(Кланяецца гаспадару.)*

Я не адзін тут, паноцкі:
У мене ёсць Сора,
Выпісана із Парізa ўцора.
Сорацка! Кум цу мір танцэн!

Прыходзіць Сора. Жыды танцуюць «казачка».

Жыд *(у такт пяе)*

Мая сапоцка із злота,
З адной скуроцкі работа,
А ярмулка козана
Гнідамі шпікована!

У час танцаў непрыкметна ўбягае разбойнік, б'е яўрэя па патыліцы і хаваецца. Яўрэі спачатку ўцякаюць з перапуду, але потым зноў прыходзяць. Спачатку яўрэй.

Жыд

Сто тут за разбойнік такій?
Як ето мозно?
Хто тут б'еца?
Я буду заліцца на міровій суд, у цасць!
Сорацка! Кум цу мір танцэн!

Уваходзіць Сора. Пачынаюць танцаваць «казачка». Зноў прыходзіць разбойнік і забівае яўрэя. Сора ўцякае. Калі разбойнік выходзіць, яна з'яўляецца зноў і плача.

Сора

Осэроцка! Устаюф, позалуста!
У мяне дробныя дзеткі!
Устаюф, устаюф, позалуста!..
Ну, калі не хоцыс,—
Цорт цябе вазьмі!
У мяне заўтра другій будзець!

Выходзіць. З'яўляецца Чорт. Хутка хапае яўрэя — «аж пыл!» — і выносіць.

Сцэна 9-я

На сцэне **А н т о н з к а з о ю і А н т о н і х а.**

Х о р

Антон казу вядзець,
Антоніха паганяець,
Антон казу б'ець,
А каза не йдзець.

У Антона ў руках лучынка. Ён запальвае яе і падносіць казе пад хвост, а самі з Антоніхай выскокваюць з вяртэпа. З'яўляецца с т а р а ц з кашальком і просіць падарыць яго. Прыходзіць р а з б о й н і к, глядзіць у кашалёк і б'е старца даўбешкай.

Р а з б о й н і к

Прасі грошай, прасі!

Старац кланяецца гаспадару. Дзеці гаспадара кладуць грошы ў кашалёк.

## ТЭКСТ БАТЛЕЙКАВАГА ПРАДСТАЎЛЕННЯ НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ

*(4-ы варыянт)*

Х о р

Раджаство твае, Хрысце, божа наш,
Анёл са свяшчою
Да вассвяціць табою.
Свяцільнік божы не ўгасіў,
Гдзе жа ідуці іспрасіў.
Алтар богу прадустаўлены,
Гдзе на Хрыстос раджоны,
На яго бог палажоны.

Адначасова са спяваннем у верхнім паверсе выходзіць А н ё л, запальвае свечкі і выходзіць. За ім з'яўляюцца А д а м і Е в а.

Х о р

Вопль бысць прасільны,
Плакаўся Адам і Ева,
З рая ізгнаны.
Гасподзь жа, прышэд,
Адама аглашае:
«Гдзе есі, Адаме,
Гдзе прабываеш?
К сябе прызываю».

Адам жа скарыўся,
Ліствіем укрыўся,
Не яўляжа віду.

Тут з'яўляецца Анёл з мечам і гоніць з раю Адама і Еву.

Хор

О жэно, жэно,
Што ты мне здзелала?
Ты мяне ўласнага
З раю ізгнала.
Ох, раю, раю,
Слічная краіна,
Што без цябе, раю,
Няшчасная гадзіна,
Ох, раю красны,
Гдзе ацечаства наша?

Хаваюцца Адам, Ева і Анёл. Выходзяць пастушкі з ягняткамі і кланяюцца нованароджанаму, які ляжыць у яслях.

Хор

Нова рада стала,
Яко ў небе хвала,
Над вяртэпам звязда вассіяла.
Кланёмся табе, цару,
Снебеснейшаму шафару,
Даруй лета шчаслівейшае
Днесь сяму гаспадару.

Пастушкі хаваюцца, выходзяць тры цары ў ніжнім паверсе і накіроўваюцца ў верхні. На троне сядзіць Ірад.

Хор

Шэдша, шэдша тры цары
Ка Хрысту са дары.
Ірад жа іх прыгласіў,
Куды ідуці, іспрасіў.

Ірад

Цары-друзья, куды пуць дзержыце?

Цары

Ідзём пакланіцца нованароджанаму.

Ірад

К нованароджанаму ідзіце
І мне вазвясціце,
Да і аз пакланюся яму.

Цары ідуць на верхні паверх. З процілеглага боку іх сустракае Анёл з запаленай свечкай. Цары спыняюцца пасярод.

Анёл

Цары-друзья, куды пуць дзержыце?

Цары

Ідзём пакланіцца нованароджанаму.

Анёл

К нованароджанаму ідзіце,
І ка Іраду не ідзіце,
Бо Ірад мысліць лукава,
Вярніцеся направа.

Цары

Благадарыце, Анёл і Архангел,
Што пуць гасподзень паказаў.

Цары праходзяць у верхні паверх і кланяюцца нованароджанаму, выходзяць. З гэтага моманту да канца прадстаўлення верхні паверх закрываецца. Дзеянне пераносіцца ў ніжні.
Выходзіць з дзіцем на руках Рахіль. Ірад сядзіць на троне. Рахіль падае перад ім на калені.

Рахіль

Цару, мой цару, міласцівы гасудару,
Не раздражай мацернія ўтробы,
Не ўганяй дзетачак ва гробы,
Штоб нам цераз іх у агні не гарэць
І ў смале не кіпець.

Ірад паднімаецца з трона.

Ірад

Ох ты, баба агністая,
Скаціна рабрыстая,
Я сваіх царскіх слоў
Нікагда не ізмяняю.

Воін мой мілы,
Воін мой любы,
Бей сяго отрака.

У гэты момант выскоквае **воін**, штыхом праколвае дзіця і выносіць. Рахіль падае і плача.

### Хор

Ускрыкнула маць
Па сваім дзіцяці:
«Ох, убей мяне сіе ўрэмя,
Нечага я ў Русь скончу».
Не рыдай па чадах
Вазнясу ця ў адах,
Богам вянец данны,
Ад Хрыста прысланы.
У небе Херувімы
Ішчуць Серафімы.
Мучанікам славы
Чэсць і дзяржава
На вечныя векі.

Выходзіць **Рахіль**. З'яўляецца **Смерць**, падыходзіць да Ірада.

### Смерць

Аз есм манархіня,
Усяго свету паня,
Гдзе была, гдзе прабывала,
Ва ўсякай стране
Усе цары, усе князі,
Усе пад уласцію маёю,
Усех выражу касою сваёю.
Полна табе, Ірад, царстваваці,
Пара табе даўно
Ва ад паступаці.

Ірад устае з трона.

### Ірад

Ох, Смерць, мая маці,
Не хацелася б яшчэ ўміраці,
Хацелася б з табою паваяваці.

### Смерць

Ох, Ірадү, цар праклятьі,
Не хочаш у рукі паддацца,
Хочаш з Смерцю ваявацца.

Как склікну брата
З пропаснага ада,
То будзеш знаці,
Как непавінна
Чада ўбіваці. Браце!

Выскоквае Чорт.

Чорт

А што тут спорыш
З маёю сястрою?
Ці не будзіш і са мною?
Бей, сястра, у главу,
Пусць наша будзе
Плоць і дзяржава.

Смерць сцінае Іраду касою галаву.

Смерць

Вот табе, браце,
Труп і глава,
І наша будзе дзяржава.

Узяўшы з трона цела Ірада, перадае яго Чорту. Апошні выносіць яго. Сама Смерць у той час скача, у ладкі пляскае і спявае.

Хор

Адзішча нам паказаў,
Пячальныя штукі,
Як грэшнага чалавека
Бяруць у свае рукі.
Ідзі жа, тама ідзеша,
Уся суята прылежа.
Бог дай це не знаці,
А не выглядаці.

Смерць выходзіць, на змену паяўляюцца пан з паненкаю, вітаюцца, цалуюцца і спяваюць.

Хор

У небе ўсе анёлы купна лікуйце —
Тры цары дары афяруйце.
Днесь раджоны,
Палажоны между скоці
Зрыцца ў плоці ў яслях. [1]
Будзе і прарок вяшчаша:

[1] Гэты радок спяваецца тройчы.

Радзіла дзева спасенне наша,
Што отрака без парока.
Радзі мяне ў Віфлееме,
Марыя, Марыя,
Іосіф у Егіпце
Ад Ірада скрыўся,
Там з младзенцам
Умесце нахадзіўся,
Гдзе бывае, прабывае
Между славай,
Меж дубравай Ірада.
Мы вас паздраўляем,
Доўга жыць жалаем.
Весела жывіце
І нас наградзіце.
Яшчэ шчырым
Сэрцам мілым
Прыступімо, прынасімо
Чэсць, хвалу
Хрысту-богу.

Пан з паненкаю скачуць пад гэтыя спевы і выходзяць. Уваходзяць цыган з цыганкаю, кланяюцца.

Цыган

Добры вечар, гаспада.

Хор

О, пыстыры праслаўнае чуда відалі,
Што на небе анёлы пелі і ў рае.
Радуйся, Марыя, радуйся, прыснадзева
Аб праслаўленым Раджастве тваім.

Цыган і цыганка скачуць, ён зрэдку б'е яе пугай, а яна яму кланяецца.

Цыган

Мы ўжо стары танцаваці,
Пусць Міхаська патанцуе.

Цыганка

Міхаська, сынок, хадзі патанцуй,
І хай гаспада падзівяцца.

Выбягае Міхаська.

### Міхаська

Здрастуй, гаспада,
Жадаеце, штоб я
Патанцаваў вам, гаспада.
Эх, мама, берагіся,
Пайдзі прэч,
Скінь-ка шапку
Да паніжа пакланіся.

*(Танцуе і прыгаворвае.)*

Я цыганка-маладзец,
Ні баярын, ні купец.
У мяне ў канюшні конь вараны,
А ў запазусе кашалёк не прасты.
А на печцы ў сарафане
Злая цёшча-сатана ляжыць,
А ў святліцы красавіца-жана сядзіць.
Прашчавайце, гаспада,
На большае ўбачайце.

Кланяецца. Усе выходзяць. Уваходзіць **Філімон** з **Салохаю**.

### Хор

Ах ты, воля, мая воля,
Воля — светлая зара,
Не з расой лі ты спусціўся,
Не ва сне лі віжу я.
Воля, сонца залатое,
У ясных светлых небясах.

### Салоха

Бывала, што жана мужа ўбівала,
А цяпер станавіцца,
Што муж жаны не баіцца.
Бывала, я была маладая,
На прыгоне саломачку цёрла,
Да прышоў аканом
З тоўстым бізуном,
Мая і душачка ўмёрла.
І ту дзедук
Не ўзяў цябе кадук.
Хоць бы ты паўквартачкі ўзяў.

Філімон

Што ж, баба, у мяне грошы няма,
Хіба рукавіцы заставіць.

Салоха

Во, даўней бы ты так.
Рукавіцы застаў
І на сваім пастаў.

Філімон ідзе і стукае ў вакно.

Філімон

Бэрка, а Бэрка, адчыні.

Ускоквае ў дзверы яўрэй.

Яўрэй

Што ты тут, Халімон,
Што табе туці трэба?

Філімон

Ды во прышоў, дай паўкварты.

Яўрэй

Грошы ёсць?

Філімон

Рукавіцы вона.

Яўрэй *(штурхае Філімона)*

Што рукавіцы, куды яны варты, рукавіцы?

Філімон *(паднімаючыся з зямлі)*

Бэрка, я ж табе вазіў кроквы і латы,
Ты ж вышчытаеш между платы.

Яўрэй

Што кроквы і латы!
Ішоў ты на варты
І спрасіў паўкварты,
Даць я не даў, а запісаць — запісаў.
Апяць ішоў ты з варты
І спрасіў паўкварты,
Я даць не даў, а запісаць — запісаў.

Яўрэй штурхае Філімона, ён падае. Баба, якая сядзела на троне Ірада, бярэ Філімона.

Салоха

Дзетачка, хадзем у двор.
Ён зусім цябе скалечыў.

Выходзіць. Бяжыць Васіль, сын Філімона, з доўбняй, стукае ў вакно.

Васіль

Бэрка, Бэрка, адчыні.

Бэрка *(праз вакно)*

Што ты вокны ламаеш,
Што ты мне паспраўляў?

Пры апошніх словах Бэрка выбягае з хаты.

Васіль

За што ты майго старога прыбіў?

Бэрка

Што прыбіў, я яму па ласцы гаварыў:
Ідзі ў двор, ты ўжо трохі выпіў,
Цяжолы ён, усё дакучаіць:
Дай я яму гарэлкі.

Васіль

Нашто бок выламаў
Майму бацьку?
Ён зусім болен.

Бэрка

Што значыць бок, я яго не біў.

Пачынаецца сварка. Яўрэй у запале штурхае Васіля. Васіль пачынае доўбняй біць яўрэя, апошні падае. Васіль выходзіць, паяўляецца Чорт, бярэ яўрэя, б'е яго галавой аб вушак дзвярэй, прыслухоўваецца, ці жывы ён, і выносіць.

Хор

Пашто ты, няверны... тут ходзіш?
Тут, няверны... табе не хадзіці,
О ты, праклят, гаварыў, не будзеш круціці:
«Уж я круціць не стану,
Больш дзенег дастану
Кала добрых людзей,
Кала хрысціянаў».
Мужык з кіем вялікім,

А яўрэй крычыць голасам дзікім,
Іцка, Борух спявае,
А права не куця,
Ен да Сорынькі
Сваёй права не дойдзет.

З'яўляюцца **Антон** з казой і **Антоніха**.

### Хор

Антон казу вядзець,
Антоніха паганяець,
На табаку зарабляець.
Не папала па казе —
Да па Антонавай назе,
Антон плачыць,
Антоніха скачыць.

**Антон** з **Антоніхай** выходзяць. З розных дзвярэй выязджаюць **два воіны** — турак і рускі.

### Хор

Прадвечны радзіўся бяссмертны,
Хацяшчы зямлю прасвяціці,
А пры міцех врэмянах
Усяленная дружына Хрыстова.
Анёл ва сне сказуе,
Ірад-цар на Хрысце меч гатует.
Нованароджаны явіўся,
Ірад-цар засмуціўся.

У час гэтых спеваў воіны б'юцца. Рускі ў той час, калі турак замахваецца мечам, праколвае яго кап'ём, турак падае. Рускі бярэ каня турка і ад'язджае. З'яўляецца **Смерць**, бярэ турка і выходзіць. Пешы воін выкочвае гармату.

### Хор

Усяленная весяліцца,
Днесь ад дзевы бог радзіўся
І ў вяртэпе между быдляці,
Катораму паклон аддаці.
Цары, цары прыходзяць,
Ліван, Смірну, злата — дары,
Што прынеслі тры цары
Нованароджанаму пану
І ўсяленнаму быць пану,
Аддаюць, аддаюць умільна.

Салдат пры апошніх словах страляе і адвозіць гармату. Выходзіць с т а р а ц з торбай, кланяецца, гледачы кідаюць у торбачку грошы, прыбягае П а н а м а р, паглядзіць у торбу і, бачачы, што там мала грошай, б'е старога доўбняй. Стары бярэ грошы і зноў з'яўляецца другі, а то і трэці раз. Панамар схаваецца і зноў пачынае біць старога, пасля чаго абое хаваюцца.

Х о р

Многія леты...

## ТЭКСТ БАТЛЕЙКАВАГА ПРАДСТАЎЛЕННЯ НА МІНШЧЫНЕ

*(1-ы варыянт)*

### I

На сцэне прадстаўляецца нараджэнне Ісуса Хрыста: Анёл віншуе св. дзеву Марыю. У гэты час пяецца наступная песня:

Анёл пастэжэм мувіл:
Хрыстус сен вам парадзіл і г. д. [1]

Затым на сцэну ўжо выходзяць тры каралі, якія прыносяць у падарунак Ісусу Хрысту золата, ладан і міру. Пры гэтым пяецца наступная песня:

Тшы круле ядон
З велькон громадон.
А сконд? Сконд?
Зэ всходу слонца
Шукаёнц конца
Збавеня.
В жлобе лежы, ктуж побежы
Колендоваць маләму Езусові Хрыстусові,
Дзісь до нас зэсланэму?
Пастушкове, пшыбывайце,
Ему вдзенчне пшэгрывайце,
Яко пану нашэму.

### II

На сцэну выходзяць улан з уланкай («Улан з уланкай са сваёй даўнейшай каханкай»). Яны, як відаць, рады сваёй сустрэчы, і, павітаўшыся, улан прапаноўвае ўланцы трошкі патан-

[1] Гэта песня пяецца толькі да хрышчэння, 6 студзеня.

цаваць, што яны адразу ж і выконваюць пад гукі музыкі і спевы музыкантамі наступных куплетаў:

Як і в зіме, так і в леце
Вшыстко в еднэй пожэ
Выховалэм голомбэчка
Я в цемнэй коможэ.

* * *

Як вылецял, так полецял
І усядл на дэмбе,
А я его слічне прошэ:
Вроцься, муй голэмбе.

* * *

Як вылецял, так полецял
І усядл на ганку,
І я его слічне прошэ:
Вроцься, муй коханку!

Затым яны развітваюцца, і Улан гаворыць:

Адзьё, адзьё, паненэчко!
Прошэ да мне на гэрбатэ:
Бэндзе з квасэм, з купэрвасэм,
Зэ смаргонскімі абаранкамі.

## III

На сцэну выходзіць беларускі мужык Мацей з жонкай Ульянай. Спачатку ўваходзіць адзін Мацей; ён са здзіўленнем аглядаецца навокал і гаворыць:

— А ба! Як тут зелена, ясна, красна, не раўнуючы, як у касцеле. Ага, тут і святы Юзэф ёсць (знімае шапку і кланяецца). Няхай будзе пахвалёны, шапка сіня, верх зялёны. Ці ведаеце, паночкі, якая мяне бяда спаткала? Быў я ў пана Бараноўскага на куцці.

Як аб'еўся я куцці,
Ні ссапці, ні дыхці,
Ні дамоў да маёй жонкі Улляны дайці.
Каб знайшоўся дактарочак
Да палячыў мой жываточак,
Аддаў бы яму торбачку да мяшочак.

Уваходзіць Доктар і гаворыць:

Што ты, гад, тут расшумеўся ў панскіх пакоях?

**Мужык**

Ай, паночак, палячы мой жываточак.

**Доктар**

Што табе?

**Мужык**

Бурчэнне, нястраўнасць.

**Доктар**

Пакажы, гадзе, пульс!

**Мужык**

Так?

**Доктар**

Не так.

**Мужык**

Так?

**Доктар**

Не так.

**Мужык**

Бадай жа ты свету не ведаў, як!

Доктар бярэ Мацея за каўнер, б'е яго аб сцяну, прыгаворваючы: «Мацей — пацей! Мацей — пацей!» Нарэшце Доктар выходзіць, застаецца адзін Мацей; ён гаворыць:

> Намацеў, напацеў і сам ■ чорту паляцеў. Гэтыя мінскія дактары вынімаюць душу без пары: не лечуць, да яшчэ калечуць. Казаў з патыліцы кроў пусціць, на пупе банькі паставіць, казаў узяць моху, чартапалоху, мушыных вантробак, камарынага шмэльцу і яшчэ нечага троху. Змяшаў гэта я, збаўтаў, глынуў — не палягчала, яшчэ горай стала.

Уваходзіць яго жонка Ульяна. Ён ідзе ёй насустрач і гаворыць:

Хадзі, Улянушка, у шынок,
Хоць лянок застаўлю,
Але паўкварты пастаўлю.
Хадзі, мая кузюрачка, ягадка.

Абое выходзяць, музыка іграе «Лявоніху».

## IV

На сцэну выходзіць яўрэй са сваёй жонкай Сорай. Спачатку ён ідзе па сцэне і крычыць:

Шпількі, іголкі,
Красныя тавары, памада
І ўсё, што нада.

Пасля звяртаецца да Соры і прапаноўвае ёй трохі патанцаваць. Музыка грае штосьці накшталт полькі ў мінорным тоне. Патанцаваўшы, ён гаворыць: «Сорэ, Сорэ! Ступай да дому кугель пячы, а я буду богу маліцца». Пачынае маліцца богу, прычымківае галавой:

Сонца нізко —
Шабас блізко;
Сонца высоко,
Шабас далёко.
Борух таты
Адыной!
...ў хаце,
Будзе гной.
Бяры лапату,
Выкідай гной за хату.

Уваходзіць казак з пікай, заўважае яўрэя і гаворыць яму: «Што ты тут, пархі, дзелаеш?» Яўрэй робіць спалоханы выгляд і гаворыць казаку: «Як яснавяльможны пан называецца?»

К а з а к *(басам)*

Фёдарам.

Я ў р э й *(танцуе і пяе тонкім голасам)*

Я задком, перадком
Перад панам Фідзерком.
Не я скачу — няволя,
Прыказалі панове.

К а з а к

А ты, шабас, не дзівуй,
Вышэй ногі падыймуй!

Нарэшце, казак забівае яўрэя; нечакана ўваходзіць яго жонка Сора. Убачыўшы забітага свайго мужа, яна пачынае плакаць

і прыгаворваць па-яўрэйску. Да яе падыходзіць казак і гаворыць: «Што ты тут расшумелась?»

Яўрэйка

Ты, свіння, парсюк, свінюк, за што ты забіў майго мужа? Я пайду на цябе уф самый губернатар жалавацца.

Казак

Ну, ну, ступай!

*(З гэтымі словамі праганяе яе, а сам пяе і танцуе.)*

Я казак, небарак,
Работы не маю;
Жыдоў б'ю,
Водку п'ю,
Весела гуляю.

Пасля звяртаецца да публікі і гаворыць: «Прашчайце, гаспада, мне афіцэр яшчэ вялеў у караул схадзіць». Ён выходзіць. З'яўляецца чорт, бярэ яўрэя і з наступнымі словамі выносіць яго:

У школу не хадзіў,
Богу не маліўся.
Гдзе Янкель і Абрам,
Няхай і ты будзеш там.

V

На сцэну выходзяць цыганка з дзіцем на руках і цыган з мядзведзем на ланцугу. Цыган прымушае мядзведзя кланяцца публіцы, паказваць, як трэба красці гарох, як бабы ходзяць у лес за ягадамі. Цыганка пяе наступныя куплеты:

Я цыганка маладая,
Я цыганка не прастая,
Знаю варажыць,
Знаю варажыць.

* * *

Пакажы-ка, барын, ручку,
Палажы-ка дзенег кучку,—
Усю праўду скажу,
Усю праўду скажу.

## VI

На сцэну выходзіць Вольскі, купец польскі, з пані Бараноўскаю. Вольскі расказвае аб сваіх гандлёвых справах, пачынае скардзіцца на дрэнныя часы, на застой гандлю: за тыдзень, па яго словах, ён прадаў толькі паўтара цвіка. Потым ён звяртаецца да музыкаў:

А мае ж вы грайкі,
Заграйце мі ладне,
Я вам слічне подзенькуе,
Аж мі чапка спадне.

Пачынае іграць музыка, а ён з пані Бараноўскай танцуе. Потым развітваюцца і выходзяць.

## VII

На сцэну выходзіць малады Франт з паненкай («Элегант новы, цо ма загарэк цыновы»). Музыка пачынае іграць, ён танцуе; пры гэтым спяваюцца куплеты:

Ой, острожне коло сцяны,
Бо то фрачэк позычаны,
І капелюш не свой власны,
Бо на глове бардзо цясны;
А на шыі чтэры хусткі,
А ў кішэні самэ пусткі.

* * *

Ой, танцуйце, порткі мое,
Бо мам в дому ешчэ трое.
— Кеды маш іх в дому трое,
То зжуцай жэ тутай мое.

* * *

Танцуйце, вальцуйце,
Тшэвічкув не псуйце:
Мам брата Кондрата,
Тшэвічкі залата.
І я з тобо потанцуе,
І тшэвічкі падаруе.

## VIII

На сцэну ўваходзяць Антон з казой і Антоніха з даёнкай. Пры гэтым спяваюцца наступныя куплеты:

Антон казу вядзе,
Тыц, мыц, каза не йдзе:
Антоніха паганяе,
На табаку зарабляе.

* * *

Антон па табаку,
Яго лаюць, як сабаку.
Антоніха па муку,
Яе лаюць, як суку.

* * *

А ты, каза, стой! Стой!

*(Антоніха пачынае даіць казу.)*

А я казу — дой, дой!
А я казу кулаком,
Ідзі сабе з малаком.
А пазвольце ж Антонему
Зрабіць па-своему.

* * *

Мая каза белая
Па гародзе бегае:
Аб'елася часнаку,
Крычыць, бяжыць па таку.

* * *

Мая ж каза казілася
І з прыпечку звалілася.
Мяне дома не было,
Маю казу абдуло.

* * *

Антон малодзенькі
Піў мёд салодзенькі,
Прыкаціўся к бочаццы,—
Яму яшчэ хочацца.

Гэта песня спяваецца, пакуль Антоніха доіць казу. Як толькі яна скончыць, Антон выводзіць казу, а за ім ідзе і Антоніха.

## IX

На сцэне з'яўляецца Макар, апрануты паяцам. Музыкі іграюць казачка і спяваюць:

Ай, Макар, Макар, Макар!
Сем лет у гародзе
Носам картошку капаў,
А цяпер пад музыку папаў.

* * *

Здраствуй, мілая, красавіца мая,
Чарнабровая, кахайся на мяне!

Гэта спяваецца ў хуткім тэмпе на матыў казачка, з павіскваннем і прытупваннем.

## X

На сцэну выходзіць кракавяк з кракавянкай і пачынаюць танцаваць кракавяк, пры гэтым спяваецца на той жа матыў наступная песня:

Краковячэк бедны
Нігды не танцовал,
А под старосць мусі,
Бо го кашэль дусі.

* * *

Плыне камень жэчко,
Слічна паненэчко,
Як пшэплыне лонко,
Бэндзеш моя жонко.

* * *

Гдзе ж ты, дурню, відзял,
Жэбы камень плывал;
Кеды мне не кохаш,
На цуж у мне бывал?

* * *

Не кохайся ве мне,
Бо то надарэмне,
За панно святово
Пожуціць готова.

* * *

Кохацься хлопчыку,
Ешчэ бэндзе лепей,
Тылько цебе прошэ,
Гожалэчкі не пій,

І в карты не грывай;
Кеды ты мне кохаш,
У другей не бывай.

Потым кракавяк развітваецца з кракавянкай і гаворыць ёй:

До відзэня, паненэчко,
Зобачымыся за гурэчко.

## XI

На сцэну выязджаюць два рыцары на конях; адзін рыцар хрысціянскі, другі турэцкі. Паміж імі пачынаецца паядынак. Пакуль яны б'юцца, спяваецца наступны куплет у тэмпе марша:

Машэруймы поволі,
Нех нам сэрцэ не болі;
Машэруймы юж, юж, юж,
Бо за намі туж, туж, туж.

Потым хрысціянскі рыцар перамагае турэцкага і забівае яго. Пасля ён адзін раз'язджае па сцэне і пяе ў мінорным тоне, працяглым напевам, наступны куплет:

Звоёвалэм еднэго вояка,
Звоёвалэм его нізкі стан,
А тэраз вышэдлэм на дворака,
І естэм цалэй гембы пан.

Потым рыцар ад'язджае. З'яўляецца Смерць. Забірае цела мёртвага рыцара і выносіць яго.

## XII

На сцэну выходзіць бернардзінскі манах з невялікім кошыкам, прымацаваным да пояса. У гэты кошык кладуць грошы — плату за прадстаўленне. Звычайна бернардзін выходзіць некалькі разоў на сцэну і, спадзеючыся на міласць гаспадароў, кожны раз выпрошвае што-небудзь.

## XIII

У заключэнне ўсяго прадстаўлення паказваецца вяселле ў Камарове (Komarowskie wiesele).

## ТЭКСТ БАТЛЕЙКАВАГА ПРАДСТАЎЛЕННЯ НА МІНШЧЫНЕ

*(2-і варыянт)*

### I

З розных дзвярэй уваходзяць два анёлы ў белым адзенні; спяваецца песня.

Анёл пастэжэм муаіл і г. д.

(Як у кантычцы.)

Анёлы выходзяць.

### II

З'яўляецца мужык у шэрым армяку з сякерай за поясам. На плячах у яго вязка лыку або грыбоў, якія ён здымае пры ўваходзе, кланяецца гледачам і са здзіўленнем гаворыць:

Авэй! Авэй! Як тут ясна, красно,
Чырвано, зелено,
Не раўняючы, як у касцёлі.
Што я вам скажу:
Быў я ў пана Бараноўскага на куцці
і г. д. (як у папярэднім варыянце).

*(Кланяецца і паказвае на жывот.)*

Ай, паночкі, паночкі,— разанка!
Штоб прышоў дактарочак
Да палячыў мой жываточак.

Доктар *(уваходзіць і гаворыць)*

Чаго тут раскрычаўся?

Мужык

Штоб панская міласць палячыла
Мой жываток.

Паўтарае расказ, як ён быў у пана Бараноўскага.

Доктар

Пакажы свой пульс.

*(Паглядзеўшы пульс, доктар гаворыць.)*

А! Прапаў за сабаку:
У цябе сямілетняя трасца
За пазухамі сядзіць.

**Мужык** *(просіць доктара)*

Будзь, пан, ласкаў:
Жонку маладую астаўлю,
Дзяцей сіротак.

**Доктар**

Табе трэба на поты даць.

Пры гэтых словах ён пачынае штурхаць мужыка, прыгаворваючы: «Вось, так, не так», а мужык: «Каб пан свету не відзеў, як!»

**Доктар**

А, шэльма, так ты яшчэ лаешся,
Хадзі да сценкі!

Б'е яго, прыгаворваючы: «Мацей — пацей!», а сам уцякае.

**Мужык**

Мінскія дактары не лечаць, а калечаць і г. д.

(Як у папярэднім варыянце.)

Уваходзіць жонка мужыка ў паркалёвай сукенцы і пачынае танцаваць, пасля гаворыць:

Хадзі, застаўлю палатно,
Куплю кватэрку *(выходзячы)*.

## III

З'яўляецца яўрэй. Батлейшчык рэкамендуе яго:

— Ото выходзі Абрам са сваёй жонкай Соро.
— Сорэ, Сорэ, кум а танц (г. зн. ідзі танцаваць).
Танцуюць. Пасля яўрэй гаворыць:

Ой, людзі, людзі!
Што з гетага будзе?
Прыходзяць на хата,
Бяруць на салдата,
Не глядзіць ні на Сору,
Ні на малыя дзеці.
Ты йдзі пячы кугель,
А я буду гаварыць з богам.

Сора выходзіць, а яўрэй становіцца каля сцяны, ківае галавой і гаворыць:

Борухатэ адыной...
Аб сценку галавой.
Сонца нізка, нізка,
Шабас блізка,
Бяры лапату,
Кідай на хату, будзе гной...

## IV

К а з а к *(з'яўляецца)*

Чаго ты тут шуміш і гукаеш?

Я ў р э й

Я не шумлю, не гукаю,
Што згубіў, то шукаю.

К а з а к

Здзесь не шумі, здзесь чэсныя гаспада жывуць.

(*Кап'ём забівае яўрэя. З'яўляецца* С о р а)

С о р а

Ой, гвулт! Абрам! Вос вільст?
Хадзі, булван! Майне Абрам! Акренкель! *(Памёр.)*

К а з а к

Што ты... крычыш?

С о р а

У ты, свінюк, ты майго мужа забіў
І хочаш мяне забіці,
Я пайду да пана палкоўніка,
І ён табе дасць пяць сто палак.

Выходвяць. Застаецца мёртвы яўрэй.

## V

Ч о р т *(з'яўляецца)*

Гдзе ты, грэшная душка?
Вочкі, як перлачкі,
Зубкі, як каралкі,
Хвасток, як сярпок,
На кончыку стрэлачка *(хапае яўрэя і цягне).*

## VI

**Выступаюць казак і дзяўчына ў сарафане, з вядром і пяюць:**

Казак каня напаяў,
Дзеўка воду брала,
Казак песеньку запеў,
Дзеўка вады дала.
Штобы не дзяўчына,
То бы не жаніўся,
Распаліла сэрца, душу,
Жаніціся мушу.
Цячэ рэчка невялічка
Ад віннога саду,
Звала дзеўка казачэньку
Да сябе на раду.

Прашчай, прашчай, мая міла, нада на караул ісці.

## VII

**Улан** *(спявае)*

Улане, улане, маляване дзеці,
Не една паненка, не една вдова
За вамі, улане,
Ляцеці гатова
Да самай Варшавы.
А то улан добры хват,
Да паненак зухават.
Гдзе паедзе, то паедзе,
Завшэ собе панну зведзе.
Пшыстань, пшыстань до ўланаў.
Тэраз нема добрых панаў,
Тэраз паны, як лайдакі,
Хлебчуць крупнік, як сабакі.
Як пшыстанеш — улан бэндзеш,
Бо уланы добры людзі,
Што паложы, то не будзе;
Пшыстань, пшыстань до варбунку,
Будзеш есці з маслам курку,
Будзеш есці, будзеш піці,
Будзеш харашо хадзіці. *(Выходзяць.)*

## VIII

З'яўляюцца скамарох з мядзведзем, якога ён вядзе на ланцугу, і цыганка.

Батлейшчык

Ото выходзі Смаргонскі вучыцель з вучнем.

Цыганка *(спявае)*

Я цыганка маладая,
Я цыганка не прастая і г. д. (як у папярэднім варыянце, толькі з дабаўленнем трох наступных радкоў):

Сядзіць цыган над вадою,
Усё вадзіцу папівае
І цыганку абнімае.

*(Цыганка выходзіць.)*

Скамарох *(да мядзведзя)*

А ты, Міша, не лянісь,
Чэсным гаспадам пакланісь,
Дадуць рубель, другі,
Чарку водкі, хлеба на закуску.
А мы ідзём падальша,
Дзе хлеб патаньша,
А можа і дарам дадуць. *(Выходзяць.)*

## IX

З'яўляецца купец (аборваны) з жанчынай.

Батлейшчык

То выходзі пан Вольскі,
Купец польскі,
Ма шпількі, голкі і перац горкі.
Мої панове, не гневайцеся,
Жэ не добжэ одзяны!
Але в краме мам добры товары.
А то пані Якубовска *(рэкамендуе яе)*.
Нема на глове ні еднэго влоска,
Але я кохам з цалэго сэрца.

Цалуе яе. Якубоўская гаворыць:

Як і ў зіме, так і ў леце
І ў вясенней пожэ
Выховаем голомбка
В тэй цемнэй коможэ *(паказвае на купца).*

*(Да купца.)*

Пій, едз(еш), грай,
Тавар свой прадавай
І мяне ўгашчай.
Буг ве, чым дожыем,
А цо наша, то выпіем.
О, муй пташе,
О, муй квеце,
О, муй голомбэчку!
Чы ж я цебе не кохала,
Вруцься, коханэчку.
Ой, я цебе так кохала,
Яко сама себе,
Кеды (мяне) тэраз не кохаш,
Скара пан буг цебе.

Купец

Пуйдэ до крама, можэ
Паўтора цвеку ўторгуе.

## X

Выступае Франт у чорным фраку і ў цыліндры; на шыі залаты ланцуг.

Батлейшчык

Ото выходзі алегант новы,
Цо ма зогарэк цыновы (з цынку),
А капелюш не ест уласны,
Бо на глове бардзо цясны,
А на шыі чтэры хусткі,
А ў кішэні цалы пусткі. *(Выходзіць паненка.)*
Ото выходзі алегантка,
То его коханка. *(Пачынаюць танцаваць.)*
Танцуйце, вальцуйце,
Тшэвічэк не псуйце.
Мам шэвца Кандрата
Пшэвічкі полата.

Франт

Кахаліся дзве нядзелі,
Пукі людзі не ведзелі,
А як людзі доведзелі,
Ойцу, матцы поведзелі.
Ойцец лае, матка біе,
Не кохайся ты, бестыя.
О, не лайце, о, не біце,
Бэндэ кохал, пукі жые.
Мое панове, бывайце здровы,
Венцэй не моге бавіцца,
Бо естэм глодны, як пёс.
От першай кудцi ніц не ядл,
Тшэба гдзе-кольвек на коляцыю схадзіць.

## XI

З'яўляецца мужык у світцы з сумкаю. Ён трымае на вяроўцы казу. Разам з ім з'яўляецца жанчына з даёнкай; яна трымаецца за казу.

Батлейшчык *(пяе)*

Антон казу вядзе і г. д. (як у папярэднім варыянце).

Антоніха прысядае і пачынае даіць казу. Антон ёй гаворыць: «Бі масла». Яна адразу бярэцца і за гэту справу, а ён валаводзіцца з казой: яна ніяк не хоча ісці.

Антоніха

Пазвольце Антанему,
Няхай робі па-сваему!

Антон *(садзіцца вярхом на казу).*

Каб цябе ваўкі з'елі
У Камароўскім балоце. *(Выходзяць.)*

## ТЭКСТ БАТЛЕЙКАВАГА ПРАДСТАЎЛЕННЯ З НАВАГРУДЧЫНЫ
*(1-ы варыянт)*

**Цар Ірад**

Цар

Віншую Вас са святам нараджэння Ісуса Хрыста і жадаю вам усяго найлепшага. *(Садзіцца на трон і кліча салдата.)* З май-

го прыказа адцінай галовы ўсім дзецям да года і майму сыну не давай пашчады. І галаву мне прынясі.

Салдат

Прыказ будзе выкананы. *(Неўзабаве салдат едзе на кані і вязе галаву царскага сына.)* Прыказ выкананы.

Цар

Можаш ехаць. *(Улятае маці і плача.)*

Жонка

Ах ты, цар-акрутнік, што ты нарабіў. Усім дзецям пасцінаў галовы. І свайму сыну не даў пардону.

Цар

Хоць свайму сыну галаву скруціў,
Але сябе з трону не спуціў.

Жонка

А я цябе праклінаю з тваім тронам.
Хай цябе смерць забярэ.

Уваходзіць Смерць. Уся ў белым, з касою.

Смерць

Ах ты, цар-акрутнік,
Што ты нарабіў.
Столькі дзяцей перабіў.
Я табе самому галаву сатну.

Цар

Не сцінай мне галавы, я табе дам залатую фартуну.

Смерць

Мне не трэба тваю фартуну, а мне трэба твая галава.

*(Махае касою і сцінае яму галаву. Ззаду прывязвалі чырвоную нітку, і калі Смерць махала касою, ніткі рваліся і звісалі, быццам кроў.)*

Улятае Чорт і скача. Падлятае да трона.

Чорт

А я з тае чартоўскае радасці хачу забраць караля косці.

*(Чорт выносіць цара.)*

Я н к е л ь *(уваходзіць, кланяецца, віншуе ўсіх са святам і садзіцца на трон)*

Сяду на трон і буду такі, як ён.

С а л д а т *(уязджае)*

А ты чаго тут, Янкель пракляты? *(Сунуў яму пікаю, ён пахіліўся. Салдат паехаў.)*

Я н к е л і х а *(прыбягае і крычыць)*

Я думала, Янкелька мой спіць,
А мой Янкелька даўно ўжо смярдзіць.

Прыбягае Ч о р т. Я н к е л і х а ўцякае.

Ч о р т

А я з чартоўскай радасці
Хачу забраць і Янкеля косці.

Б а б а *(уваходзіць са ступаю)*

Трэба куцці натаўчы *(а на трон не пазірае)*.

Ч о р т *(прыбягае)*

Ах ты, баба праклята,
Няма табе ні каляд, ні свята.

Б а б а

А кыш, нячысты ты! *(Хрысціцца. Б'е чорта ступаю. Чорт уцякае.)*

А нячысты, пракляты,
Пайду да свае хаты. *(Адыходзіць.)*

На сцэну выходзіць А н т о н з к а з о ю.

Антон казу вядзе, прац-муц,
Каза не йдзе — пруц-муц,
Антон упінаецца,
Каза яму не даецца.

А н т о н

Ах, каб цяпер Янкелька, я яму цябе прадаў бы гэткую ўпартую, не марыла б ты мяне.

Я н к е л ь

Я чуў, ты казу прадаеш.

А н т о н

Прадаю.

Янкель

А добра каза, можна паглядзець?

Антон

Паглядзі. (*Янкель мацае казу пад лапаткамі, а яна яго гоніць са сцэны.*) Прапаў мой купец, пайду шукаць другога.

Уваходзяць палякі: кракавяк з кракавянкай.

Палячка

Сконд пан?

Паляк

С Кракова. Сконд пані?

Палячка

С Альбова. Чы с Кракова,
Чы с Альбова, вшыстко еднаково,
Прошэ заграць нам краковяк.

Затым уваходзяць тры каралі і кланяюцца людзям.

Выходзіць Варлаам і кажа:

Поздравляем вас са светамі божэго народзэня.
Жычу вам вшысткего найлепшага:
Жэбысь вам дашылася і вадзілася,
Жэбысь вы мелі столькі конікаў,
Колькі ў плаце колікаў.
Жэбысь вы мелі столькі целіцаў,
Колькі ў лесе еліцаў.
Жэбысь мелі столькі оўцаў,
Колькі ў дасе кольцаў.
У каждым контку па дзесёнтку,
А на печы трое.

## ТЭКСТ БАТЛЕЙКАВАГА ПРАДСТАЎЛЕННЯ З НАВАГРУДЧЫНЫ
(*2-і варыянт*)

Жаўнер. Здравія жалаем, гаспада, паздраўляем вас з празнікам ражаства Хрыстова, з трыма царамі, я разам з вамі, как будзе круль Гэрад выходзіць, штоб музыка іграла каралеўскі марш, налева кругом! (*Музыка, марш.*)

Гэрад. Ото, выходзіць круль Гэрад з поколеня юдовэго, ктуры ма под собой чтэры чэнсці свята: Эўропа, Азыя, Афрыка і Амерыка і ото, засяда на свой трон монарфічны і выдае дэкрэт, жэ цалы сьвят пад моей рэнкай застае... Хто можа быць старшым крулем, нежелі я? *(Садзіцца на трон.)*

Уваходзяць тры каралі.

Тры каралі. Тры крулеве, манархове з всходніх краёв пушчаён, сэрца фяры, тшыма дары, пану дары отдаём... Дарымысень кантантуе, бардзо сэрцэ іх шацуе, за цо нех небо маён... *(выходзяць)*.

Гэрад. Жаўнежу, жаўнежу, бітны рыцэжу, о заволай мне Еселя, добрэго фактора...

Жаўнер. Слушаем прыказ! *(выйшаўшы, вяртаецца з Еселем)*.

Гэрад. О, Еселю, Еселю, добры фактору, о не слыхалэсь о народзэню Мэсыяша?..

Есель. Есцэ, крулю найяснейся, не слысалам, есцэ в свое біблі не пацсалам...

Гэрад. А ідзь, попатш і чым прэндзэй назад повруцай! *(Есель выходзіць і зараз жа прыходзіць)*.

Есель. Слысалам, найяснейся крулю! Народзілся Мэсыяш в Батлее месцы і бэндзэ цалым светам владоваць...

Гэрад. А то добжэ, о ідзь собе і заволай мне жовнежа, бітнэго рыцэжа... *(Да жаўнера.)* О, жаўнеру, жаўнеру, бітны рыцэжу, ідзь до Батлеі месца, усім дзяткам гловы ўцінай, маему сынові пардона не давай...

Жаўнер выходзіць і зараз жа ўваходзіць.

Жаўнер. Усех пасек-парубаў, вашаму сыну галаву з плеч зняў!..

Гэрад. Маўчы, дурань, стой на часах, як будзе якая пачвара ісці, каб збавіў ад смерці, лепшы чын заслужыш!..

Уваходзіць каралева.

Каралева *(плача)*. О, крулю Гэродзе, велька твая віна! Мендзы дзеткамі сын забіты лежы, цо там за прычыны? Маткі сень плачон, лзы вылевён, велькі жаль маён, глосэм небо пшэбіваён...

Гэрад. Прэч прэч з очы моіх, я на то ніц не ўважам, хоць свэго сыночка з свету згладзіў, але за тое сам сябе з крулеўства не ссадзіў...

Каралева. Паментай, крулю-акрутніку, жэ на це пан бог смерць нашле!..

**Гэрад.** Часавой, правядзі барыню дамой!..
**Жаўнер.** Ступай, ступай, барыня!

Пайшлі. Уваходзіць Смерць.

**Гэрад.** О, яка то пшэчвара стоі пшэд маімі вачыма?

Смерць

Я смерць касціста,
Маю косу сталісту,
На то косу выострыла,
Жэбы круля до гробу спровадзіла...

**Гэрад.** О, не фатыгуйся, мая панначка, не фатыгуйся! За твэ злосці дам ці пурпуры злота, пшыкрый свое сухі косці...

**Смерць.** Чакалам час не малы, чакалам час не длугі, ідзь, крулю, на мое пекельнэ паслугі! *(Смерць здымае касой галаву Гэраду і знікае. Гэрад ляжыць, уваходзіць жаўнер.)*

**Жаўнер.** Нямножачка паплясаў, свайго барына праспаў, прашчайце, гаспада, усякаму жывому чалавеку смерць страшна! *(Выходзіць.)*

Улятае Чорт.

**Чорт.** О, крулю, крулю зацны, быў над сваім дзіцёнкам бацны, казаў казакам-рыцэжам усім дзяткам галовы ўцінаць, свэму сынові пардону не даваць... *(Захроп, схапіў і панёс Гэрада.)*

Уваходзіць жаўнер.

Жаўнер

Пазбыў свайго пана,
Буду піць віно збанам,
Буду піць і гуляць,
Бацьку з маткай успамінаць!
Ці не відалі вы маёй жаны Ганюшы?
Ганюша, душа, пахадзі-ка сюды!

Уваходзіць Ганюша.

Ганюша

А вот і яна!

Жаўнер *(пяе)*

А хто любіць гарбуза,
А я люблю дыню,
А хто любіць гаспадара,
А я гаспадыню!
Маладыя малодачкі,

Прыхадзіце да мяне,
Запрагайце коні вроны,
Я паеду з вамі!

Пяюць гэта ж у другі раз і скачуць. Выходзяць. Уваходзіць 2-і жаўнер.

2-і жаўнер

Я естэм жовнер з-пад ружнэго вуйска,
Мял собе жона, Анця кохана...
Она мене біла і лаяла, на мне кія шукала...
Я як схвыціў за чупрыну,
Так і жуціў пад пярыну...
Леж там, Анця, ціхо,
Не ці вэзьме ліхо...
Пуйдзем да Хайкі,
Напіемся гожалкі,
Пару келбас печоных,
Ото называся моя Анця, кохана жона!
Не відзелі вы моей коханэчкі?

Уваходзіць Анця.

Анця

А вот яна і тут (*музыка-варбунка, пяюць і скачуць*).

2-і жаўнер

Пшыстань, Юрка, да варбунку.
Бэндзем есці з маслам курку,
Бэндзем есць, бэндзем піць,
Бэндзем хораша хадзіць!..

Анця (*пяе*)

Як пшыстанеш — улан бэндзеш,
Не пшыстанеш — дурэнь бэндзеш...
Дамо каня, мундзір новы
І на спіну кій дубовы...
Дамо каня і кульбаку
І прагонім, як сабаку...

2-і жаўнер

Анця, Анця, што ты робіш,
За сабою хлопцы водзіш...
За сабою, маладою,
Водзіш хлопцы чарадою...

Анця

Каб я хлопцаў не вадзіла,
Так я босая хадзіла б...
Мяне хлопцы палюбілі,
Чаравічкі мне купілі...

Уваходзіць 3-і жаўнер. Анця ўцякае.

3-і жаўнер

Як ты смееш з маёю жаною плясаць?

2-і жаўнер

Звініце, гаспадзін,
Хоць я з вашай жонкай паплясаў,
Затое празнічка пазвелічаў,
А за гэта румачку гарэліцы паднясу!

3-і жаўнер

Я ў вас не спрашываю водачкі, у мяне свае тры грошы ёсць у кішэні. Вот вам!.. *(Ударыў 2-га жаўнера.)*

2-і жаўнер

Ды вот і вам! *(Ударыў 3-га жаўнера.)*

3-і жаўнер

Як вам? Я не хлопчык сярод вамі,
Я адлічан галунамі,
Міне генералы знаюць,
Гасудару прадстаўляюць!..
А ты хто такі, пузаты інвалід?
Не знаеш, як з пораху паліць...
Табе толькі памойніцу чысціць!..
Вот табе, вот табе!

Прыбівае жаўнера і сам выходзіць. Уваходзіць венгерац.

Венгерац

Сянкер, Вэнгер, Ворытанці —
А цо лежы мосі панці?..
Купіл не купіл,
А потарговаць можна...
Вставай помалюсеньку,
Занюхай моего вэнгерского спірытусу,
Ожывіш сваю душу!.. Нюхай ту...

2-і ж а ў н е р

Ап-ч-хэ!

В е н г е р а ц

Ешчэ раз!

2-і ж а ў н е р

Ап-ч-хэ!

В е н г е р а ц

Ешчэ раз!

2-і ж а ў н е р

Ап-ч-хэ!

В е н г е р а ц

А цо, і на здрове паздравіл,
І на очкі повэсэліл! А скажы ж
Ты, мой міленькі, за што ў вас драка
случылася?

2-і ж а ў н е р

Як пашлі мы на паядынку,
За сваю собственну жынку,
Як ён ударыў мяне куляю ў бок,
Дык я і зваліўся з ног...

В е н г е р а ц

А што табе баліць?

2-і ж а ў н е р

Галава!

В е н г е р а ц

Баліць табе галава,
Абрыць яе дагала,
Тры разы паленам прыўдарыць,
Гарачай вадою ашпарыць,
Вот табе й галава
Будзе здарава! А больш што табе баліць?

2-і ж а ў н е р

Зубы!

В е н г е р а ц

Баляць табе зубы,
Аббіць табе і губы...
Лішку крові не пусціць,

Ялову шышку ў рот забіць...
Вот табе і зубы будуць здаровы!..
Што больш баліць?..

2-і жаўнер

Жывот, паночку!

Венгерац

Дуб рэж,
Піловіны еш,
Бярозаву кару
Кладзі к жывату...
Не будзеш хварэць.
Будзеш даход браць,
Вазьмі доўбню,
Пайдзі на лядоўню...
На баране ляж,
Невадам накрыйся,
Выпацееш,
Будзеш здароў...
А за мае труды
Даш два чырвонцы!..
Ступай за мною
Пад Бычыху,
За Хар'яшыху,
Дзе Хруцкі скасаваў,
За тое сам прапаў...

Пайшлі. Уваходзіць 1-я кракавянка.

1-я кракавянка

Добры вечар, мое панства,
За выкрэнтасам хадзіла,
Тарбэчку згубіла...
Не жаль тэй тарбэчкі,
Як там было тры перапечкі,
На тры коноплянэго помэнзаня.
Не відзелі моей товажышкі?

Уваходзіць 2-я кракавянка.

2-я кракавянка

А вот і яна.

1-я кракавянка

Сконт паненка?

2-я кракавянка *(пяе)*

З Кракова. А паненка?

1-я кракавянка

З Вальбова!
Ці з Кракова,
Ці з Вальбова,
То вшыстко еднакова...
Прошэ паненцы які тэксцік заспеваць!..

2-я кракавянка *(пяе)*

Я в Кракове і бывала,
І бываць я бэнда,
Млодых хлопцаў я кохала,
Так і кохаць бэнда...
Влязэ нагур,
Спуйжэ надол
Обачэ мілэго,
А да бога путрымайце...
Даскачу да него...
Прошэ паненцы!

1-я кракавянка *(пяе)*

А бадай вас
Д'яблы взелі,
Цо вы мне робеце,
Атдаеце до кляштожу,
Так мале дзеце...
А в кляштоже
Тварда ложэ,
Вісі дысцыпліна,
Встае в ночэ,
А полночэ,
А першай гадзіне...

Пане музыканце, проша заграць нам полечке! *(Музыка грае польку. Патанцаваўшы, яны выходзяць. Уваходзяць Антон і Антоніха. Антон вядзе казу.)*

Антон

Антон, Антон...
Казу вядзе...
Цыц-мыц, тыц-мыц,
Каза не йдзе...
Антоніха папіхае,

На табаку зарабляе... (*Да казы.*)
Вадзіў я цябе па Стаўпішчы
І па Гарадзішчы,
Прывёў на Міколу да Міра,
Ці не дасць бог купца якога,
Галёндара...

Уваходзіць Есель.

Есель. Добры вечар, пане Антон!..

Антон. Добры вечар, пане галендару!..

Есель. Ці прадаеш свая козачка?

Антон. Прадаю.

Есель. А што ты хочаш за яму?

Антон. Тры таляры і паўкварты гарэлкі...

Есель. А дойная твая козачка, плодная?

Антон. Каб твая жонка так пладзілася і даілася... Па тры гарцы малака дае і па чэцвера казянят у год водзіць...

Есель. А можна яе паштурхаць, пабурхаць пад бок?

Антон. Штурхай, няхай цябе хвароба бурхае... (*Есель штурхае казу, ■ яна б'е рагамі яму пад бакі.*)

Есель. Антон, Антон, ліха матары! Каза мне два рэбры выбіла, прымі сваю казу... (*Уцёк.*)

Антон (*беручы казу*)

Вадзіў я цябе па Стаўпішчы
І па Гарадзішчы,
Прывёў на Міколу да Міра,
Даў бог купца-галяндара
І таго адбіла...
Вось упрагу цябе я ў баляскі
Ды насцёбаю!..
Пашла за мной!..

Антон, Антоніха і каза выходзяць. Уваходзіць важаты з мядзведзем.

Важаты

О, варвуля, Максімуля, патанцуй! Пакажы,
Як малыя дзеці на паншчыну йдуць...
О, пакланіся пану гаспадару,
Пані гаспадыні,
Нех дасць пару келбас
І ковал сланіны,
І на рэнчку з пенць рубэльку!..

Мядзведзь

А-у-у-у... А-у-у-у...

Выходаяць. Уваходзіць Пельгжым са скарбонкай.

Пельгжым

Я естэм Пельгжым,
По цалым свеце пельгжымовал,
Сам собі дзівовал...
Прошэ, панове... *(збірае грошы)*. Прошэ, панове...

Апускаецца заслона.

## ТЭКСТ БАТЛЕЙКАВАГА ПРАДСТАУЛЕННЯ КАЛЯ ВАУКАВЫСКА

### Адам і Ева

З раю, пенкнэго мяста,
Выгнана ест невяста [1]
Для ябка скушонэго
Пшэз вэнжа поданэго.
Фора, Адаме, фора
З небескего двора,
Фора, Эво, з раю
Юж це ту добжэ знаён.

Падымаецца заслона: 2 локці даўжыні, вышыні $2^1/_2$, шырыні 1 локаць. Спяваюць «Буг се з панны народзіл...»

### Пастушкі

Прыбеглі ў Бэтлеем пастушкі. Падыходзяць, кланяюцца, пасля адыходзяць і вітаюцца:

— Ну, што, Вінцэнты, пашоў і ні агленешсе. Здароў чы жыў? Нават ні хочаш і прывітацца? Як відно набраўся фанабэрыі, чы што?

— Якой фанабэрыі? Як ты маяссе, жонка твая чы здарова, дзеці ці гадуюцца?

— А хвала богу здаровы-жывы, дзякуй за памяць.

— Але я да цібе маю прэтэнсію, Петжэ.

— Якую?

— А такую, што ў цібе овец відно статка парадашна, а ў міне по сіроці, і то ты воўкі насылаяш на мою остатню, і ўжэ праз тваю ласку ў міне дзесяць овец воўкі з'елі.

— Як то праз маю ласку?

---

[1] Першыя два радкі паўтараюцца.

— А праз тваю, бо як только воўк выдзе до твоіх овец, то ты напалохаеш, нажэнеш, і воўк з горачы выбежыць з-за гары і ўжэ ці ганяй, ці ні ганяй — ухопіць оўцу і понесе. Я даўно хацеў дабрацца до цібе, але ўсё ні пападало до сегодняшняго дня, а сегодня на цібе раз, на цібе два. *(Б'е.)*

— Ето ўсё?

— Усё.

— Ну, то на цібе, браце, за моё і за твоё *(б'е, а той крычыць)*:

— А-ей-ей! Людкове, ратуйце, бо заб'е! Ты за што міне так крыўдзіш?

— Як то за што? За тое, што ты вінават. Трэ бало міне не зачэпаць.

— Як то я вінават? Пойдзем на суд, пагледзімо, хто з нас вінават.

— Куды, да рабіна?

— Не, ужэ рабіна забываймасё, але да гэтаго бога, што сегодня нарадзіўсё; пойдзем, і [redacted] буду бажыцца, што я ні вінават.

— Ты раз пабожысся, а я два разы, і пагледзімо, хто будзе вінават.

— Ну, то годзі. Як відно, то сегодня з тобою толку німа, ты, мусі, п'яны. Я ўжэ пойду дахаты. Бог з табою, жыві здароў, пакрыўдзіў ты міне за німа ніц. Бог з табою, усё тобе дарую, сегодня такі дзень, каб адзін одному выбачалі.

Уваходзяць тры каралі.

Тры каралі

Тшэй крулёве манархове
З сходніх строн пшыбываён,
Зсерэт офяры з тшэма дары
Богу чэсць, хвала даён.

(Пасля паклону на адыход марш вясельны.)

Уваходзяць з казой.

Каза

Взелам коза на паўроза,
Провадза до пана
І так собе выспевуя
Дана мая, дана!
Антон казу ведзёт,
Каза не ідзёт,

Антон казу то за рогі, то за ногі,
Абы бліжай да дарогі.
Э каза, э каза, каза, каза.

Уваходзіць б а б а.

Б а б а *(таўчэ ў ступе куццю)*. Казалі, што сегодня якоесьці швято. Хрыстус нарадзіўся, ушэ людцы швяткуюць. Добро тому швяткаваць, хто акраш прыбраўшя, а я ешчэ куці ні натоўкла. *(Таўчэ.)*

Уваходзіць А н ё л.

А н ё л

Ах ты, бабо пшэклента,
Нема тобе ні недзелі, ні свента.

Б а б а. Табе швято, то ты швяткуй, аліганчык. Добро табе швяткаваць, як ты ўжэ выалігантаваўся, а я ешчэ нічого не прыбрала, кішэлю не намалола, куці не натоўкла, бо людзі ўсё гаворач, што ето швято кіселёво, куцёво, а я шама ні ведаю, што ето за швято мая быць.

А н ё л *(паўтарае з другога боку)*

Ах ты, бабо пшэклента,
Нема тобе ні недзелі, ні свента.

Б а б а. Атхіліша, бо очы выпару! Я раз табе казала: табе швято, то ты швяткуй, а да міне ні ўчапляйся без прычыны.

Д ' я б а л *(пакажацца, захрапе і схаваецца)*.

Б а б а. А гэто што жа ліхо. Як відно, то шэгодня мне ні дадуч куці натаўчы. Якіешчы аліганты то штрашаць, то палохаюч.

Д ' я б а л *(з другога боку паказваецца і храпе)*.

Б а б а *(глядзіць і гаворыць)*. Ета ты, кумок, хадзі, куме, памажы куці тоўчы.

Д ' я б а л *(падыходзіць, памагае таўчы, а пасля храпе і нясе яе)*.

Б а б а. Памаленькуй, памаленькуй, хуштку раздзэрэш.

Паяўляецца кароль Гэрад з маршалкам. Маршалак становіцца збоку трона з мячом у руцэ.

К а р о л ь Г э р а д. Ото я естэм круль Гэрод з поколеня Давідовэго, з роду Юдэкего. Пшышэдлэм одведзець Бэтлеем Хрыстусовэго, засядам на свуй трон мілы од жаднэго чловека душы не мінэ. Естэм стану пышнэго, ніхт не сме замувіць слова пшэдэмно жаднэго.

Д'ябал. Крулю, крулю, ты спіш, а ў твоей землі новы круль народзіў.

Гэрад. Чы то мі се сніло, чы то мі се здало, жэ в моей земі новы круль народзіў. Чы ж то можа быць праўда, кеды я естэм круль Гэрод, пэлнэй моцы владзы земі своей. Заволаць мне жыська коханэго Лейбуська, нех он мой сэн рострумачы і мое сумене заспокоі.

Лейба. Чэго хцэце, мосці крулік?

Гэрад. Но, слухай, Лейба! Сам повем. Чы мі се сніло, чы мі се здало, жэ в моей земі новы круль народзіўсе, чы ж то можэ быць праўда, кеды я естэм круль Гэрод, пэлны моцы владзы земі своей, жэбысь ты, муй сэн, рострумачыл і мое сумене заспокоіл.

Лейба. Зараз, мосці крулік. Я могэ вшыстко ведзець, оповедзець, цо було, цо бэндзе, цо на тэн свят, цо на тамтэн свят, я вшыстко могэ ведзець, оповедзець, трэба только богу памаліцца. Мое панове, нема кропелькі воды. *(Моліцца, адышоўшы ўбок. Становіцца перад каралём.)* Ах, мосці крулік, як [redacted] свої біблії едно слово выколупе, то пойдзе запах по цалы покоі. Юш то седм месенцы мінэло, як то дзецёнтко народзіло, а то дзецёнтко бэндзе над дзецёнткамі, а мосці крулік бэндзе лежал под его ногамі. Кто я і як собе хцэце, абы я свое біблії выколупал.

Кароль. Ха-ха-ха! Ешчэ тэго не было. Заволаць мне гетмана як бытнэго пана!

Гетман з дзідай. Ото станэлам на розказ круля!

Кароль. Ото маш гетмане моё бяло бэрло, пуйдзь до Бэтлеему, вытній вшыстке хлопчэнта і навэт мэму сыну главэ зэтній і мне на показ пшынесь.

Гетман

Слухам крулевской мосці
Як бы дзвонэк своей повінносці.
Кто сме стомпіць на крулевске ложэ,
Там піка острa, натыхмяст го положэ.

Каралева з дзіцем

Ах, крулю Гэродзе,
Стары ты незбэндніку,
Зацента твоя душа,
Закаменяло твое сэрцо.
Мялэсь едынэго сына
І тэго осондзілэсь на смерць,
І тэго казалэсь казаку пшэбіць.
Ах, крулю, злітуйсе над німі,
Отпусць тэ ценжке плёгі і віны.

Кароль. Ідзь прэч. Бо дам ці тшаско ляско і вон выпэндзэ. Я вем, жэ ці шкода дзеці, а мне трона, люб корона.

Каралева. Ах, крулю, цо се дзее? В Бэтлееме плач маткі по своіх дзяткі. Крулю, злітуйся над німі, отпусць тэ ценжке плёгі і віны. Гетман, ах божэ, чэму ты ні опоментассе, чэму твоё сэрцо ні зменкчэе.

Кароль. Пшэбій то дзецко, жэбы оно не жыло годзіны, момэнту тэго. *(Гетман дзіця забіў і панёс. Каралева абамлела.)* Гетман! Но вруцьсе, выжуць то баба, жэбы она пшэдэмно ні лежала, мне сэрца ні выедала. Ні еднэй ей жаль дзецка, жаль і мне, але цо зробіць, мусялэм то выконаць. Жуць ей там.

Анёл *(прылятае і спявае)*

Хцялэсь трапіць на Хрыстуса, сына божэго. Але ж тэго не выкожэніш, боць небо его. Ото ж заслужылэсь, крулю Гэродзе, за злэ свое помысленя, а ідзь ты на вечнэ потэмпене.

Смерць *(уваходзіць)*

Ходзілам, блондзілам,
Мало ні змарзлам.
Ледве цебе, крулю Гэродзе,
В твоім палацы зналязлам.

Кароль

О божэ, одвруць та машкарэ,
Нашлій яка інна кара.

Смерць

Дужо дзеці страцілэсь,
Ото і тобе маш. *(Сцінае Гэраду галаву.)*

Казак адыходзіць, яўрэй прыходзіць.

Казак *(крычыць на яўрэя)*

Ты зачэм, ты чаго, вон!

Яўрэй уцякае, а пасля прыходзіць і плача.

Яўрэй

Мосці крулік, мосці крулік,
Вашы салдаткі нашы жыдкі попехалі.
Мосці крулік шлов *(нюхае караля)*.
Я думаў, што мосці крулік шпіць,
Наш мосці крулік даўно ўжэ шмердзіць.
Ага! Сабака я,
Хоць адзін раз прыждаў на цібе.

Сора! Кумергер! А-а, наш каролік падохес.
Шей, шей! Ага, сабака ты.
А ты з нас браў,
А ты з нас драў:
Маставое, брукавое.
А пагалоўшчына, а батраччына,
А драў, а браў,
Каб на той свет
На табе чорт скурачку драў.
Сора, ком шпіль, танц.
Шэйнэ, мэйнэ, маёхэс,
Наш каролік падохэс.
А ты, Сора, ні дзівуй,
Вышэй ногі подэймуй,
А ты, Юдко, скачы хутко.

Д'ябал іх выганяе, яны крычаць: «Гівалт!» Д'ябал бярэ караля, храпе і цягне ў пекла.

## БАТЛЕЙКІ З ВАКОЛІЦ НАЧЫ

Сустракаў я батлейкі ў некалькіх месцах на вёсцы і ў Слуцку, пазней усё радзей, таму што яны забараняліся. Але запомніў (з невялікімі пропускамі) прадстаўленне толькі адной батлейкі з Мядзведзіч, якую чуў амаль штогод дома (у Начы Нясвіжскага пав.), прыблізна з 1875 па 1895 год.

Як звычайна, тут была рэлігійная містэрыя і свецкая частка. Першая пачыналася са спявання «Анёл пастэжом мувіл...» па-польску з невялікімі недакладнасцямі. Пасля спявалі тры каралі: «Пшынеслі му дары ото, дары ото — міррэ, кадзідло і злото». Затым з'яўляўся Ірад, яго ад'ютант і Рахіль. Характэрна: Ірад і яго ад'ютант гаварылі не па-беларуску, а па-руску. Рахіль выказвае сваю горкую жальбу па-польску, а Ірад на гэта: «Велю отрока убіці, душой і целом не скорбіці». Ад'ютант пікай забівае дзіця Рахілі. Пасля хор па-польску спявае песню з незвычайным зместам, што паўтараецца з непараўнаным піетызмам на працягу дзесяцігоддзяў:

Страпёно Рахеля, чы відзіш на чале,
Оні за свэ раны сон коронованы
Од пана нашэго, дзісь народзонэго.

Пераход да свецкай камічнай часткі пачынаецца са сцэны, у якой бярэ ўдзел беларуская баба. Яна, відаць, не разумее (можа, з прычыны розных тэрмінаў калядавання), што ўжо свята, таўчэ куццю і, шапялявячы, спявае:

Бог шэ ш панны нарадзіў,
Цэло земство швабадзіў...

З'яўляеецца Анёл і перасцерагае:

Ах ты, бабо пшэклента,
Не тлуч куці, дзісяй свенто.
Цебе д'ябал схвыці.

Баба не слухае:

Я, панічок, чорта не баюся.
Маю таўкач грубы,
Выб'ю чорту зубы,
Зубы, губы выб'ю
Ды бораду высмалю.

Таўчэ і спявае далей. З'яўляецца Д'ябал, накідвае ёй на шыю ланцуг. Баба тузаецца і б'ецца з ім да змогі: «Чарнаморац, адчапіся. Андарак, пацяркі парвеш...»

Уваходзіць Селянін з вялікім жыватом і хусцінкай за поясам і жаліцца:

А мае паночкі, аб'еўся куцці,
Не магу ні сапці, ніісці.

За ім цыган з булавою:

Прыляж маленько, дай мне твой платочак,
Палячу твой жываточак.

Селянін кладзецца, цыган б'е яго булавой па жываце, выцягвае хустачку і ўцякае. Селянін бездапаможна стогне. Уваходзіць Жыд, танцуе і пяе:

Задком, перадком
Перад панам Хведарком,
Не я скачу — няволя,
Бо так кажуць панове...

Потым з'яўляецца Кацап з вучоным мядзведзем: «А ну, малюта, падыйдзі пабліжа, пакланісь паніжа. Пакажы, як бабы на работу ідуць, як з работы, як водку п'юць». (Мядзведзь паказвае.)

Уваходзіць Антон з казой і спявае:

Антон харашэнькі
Вядзе казу за ражэнькі.
Пац, мыц, каза не ідзе,
Антанічка папіхае,
На табаку зарабляе.

З'яўляецца жаўнер і выклікае на паядынак:

Не вем, цо то сен зэ мно зробіло,
Жэ дзісь на мне нашла така окропна сіла,
Не подам сен еднэму, ні двум, ні тшэм,
Ані тэж чвартэму.

Супраціўнік прымае выклік, спрытна кладзе жаўнера на зямлю і гаворыць:

Не хваль сен пшэд войно,
Похваль сен втэды як бэндзе спокойно.

Пасля паядынку выходзіць венгерац:

Естэм Венгер, сенгер з Марытана
Сон то пшыходзі ту до пана,
Сон то пшыносі ружнэ олейкі, пролейкі.

*(у бок забітага на паядынку).* Ха, ха, ха...

Цо то за паніч лежы?
Жэбы сен я поспешыл, то бы его ешчэ поцешыл,
Але і так ему не веле потшэба:
Заенчэго скоку, паненьского бегу,
З мухі подкову, з комара тлустосці.
То вшыстко ў восковым гарнку зготоваць,
На стжэсе поставіць.
Нех сен тэго напіе
І неводэм накрые —
Бэндзе здрув,
Яко муха без воды.

Напэўна, у гонар салдат, што ўдзельнічалі ў паядынку, хор спявае польскую песенку з невялікімі беларускімі памылкамі:

Улане, улане, малёванэ дзеці.
Не една паненка за вамі полеці,
Не една паненка і не една ўдова
За вамі, уланы, леценці гатова,
Полеці, полеці до самэй Варшавы,
Там бэндзе выглёндаць, як сучка, з-пад лавы...

Танцавальныя пары прыгаворваюць перад танцам лагодна (па-польску):

— Сконд пан?
— З Кракова.
— А пані?
— Зэ Львова.
— Прошэ заграць полечке...

Альбо груба па-руску:

Пойдзём, моя мілая Параша,
Піць кофе з петербургскім
Квасом.

Або (варыянт): Пойдзём в канаву на расправу.

Не памятаю дакладна, ці ў той жа батлейцы, ці ў слуцкай, выступаў якісьці недавучак, які хваліўся:

Як я хадзіў у школу, то еў такі пытляваны хлеб, што калі згубіў скарынку, то сабака тры дні брахаў — думаў, што вожык ляжыць.

## ТЭКСТ БАТЛЕЙКАВАГА ПРАДСТАЎЛЕННЯ НА СМАЛЕНШЧЫНЕ

### Цар Ірад

Гадоў трыццаць назад прадстаўленні вяртэпа ладзіліся ў Смаленску; яго насілі па хатах, як і калядныя звёзды... Вяртэп быў двух'ярусны; верхні паверх уяўляў пячору нараджэння Хрыстова. У ніжнім ярусе адбываліся зямныя дзеянні, пачынаючы са з'яўлення Ірада. Ірад сядзіць на троне; да яго з'яўляюцца тры вешчуны. Ён загадвае ім на зваротным шляху з Віфлеема прыйсці да яго і расказаць падрабязна аб нараджэнні спасіцеля. Ірад дарэмна чакае вешчуноў.

Ірад *(звяртаецца да свайго воіна)*

Воін мой, воін,
Воін вааружонны,
Стань перада мною,
Як ліст перад травою,
І слушай мае прыказання.

Воін *(уваходзіць)*

О, грозны цар Ірад!
Пашто свайго вернага воіна прызываеш
І якія грозныя прыказы павеляваеш?

Ірад

Пайдзі ў Віфлеем
І ізбей усіх младзенцаў
Ад двух лет і ніжа.

**Воін** *(выходзіць і вяртаецца зноў)*

О, грозны цар Ірад!
Па твайму прыказу
Я схадзіў у Віфлеем
І ізбіў усіх младзенцаў
Ад двух лет і ніжа;
Толькі адна старая баба Рахіля
Не дае свайго дзіцёнка біць.

**Ірад**

Прывядзі яе сяйчас сюды.

Воін выходзіць у адно з бакавых аддзяленняў вяртэпа і адразу ж прыводзіць Рахіль у чорным з галавы да ног адзенні, з дзіцём на руках, якое жалосна плача.

**Ірад**

Як ты, старая баба Рахіля,
Смееш не даваць свайго дзіцёнка біць
Майму вернаму воіну,
Калі я гэта прыказаў?

**Рахіль** *(плача)*

Да ён жа ў мяне адзін,
Да такі маленькі,
Да ад яго нікому нет зла!

**Ірад**

А, дак ты мне яшчэ смееш грубіць! *(Воіну.)*
Калі яе рабёнка!

Воін заколвае дзіця, якое страшэнна крычыць. Рахіль моцна плача.

**Хор** *(за кулісамі)*

Не плач, не плач, Рахеля,
Тваё дзіця цэла.
Яно не ўмірала,
А адцвятала.

**Ірад** *(звяртаючыся да воіна)*

Гані атсюда старую бабу!

Воін праганяе яе ў адзін бок, а з супрацьлеглага ўваходу з'яўляецца Пустэльнік.

Пустэльнік

О, Ірадзе, Ірадзе,
Полна табе грашыці,
Пара смерці прасіці.

Ірад *(кліча воіна)*

Воін мой, воін,
Воін ваар♀жонны,
Стань перада мною,
Як ліст перад травою,
Слушай мае прыказання!

Воін *(уваходзіць з мечам і спыняецца перад Ірадам)*

О, грозны цар Ірад,
Пашто свайго вернага воіна прызываеш
І якія грозныя прыказы павеляваеш?

Ірад

Прагані атсюда сего старога брадзягу!

Воін праганяе Пустэльніка ў адзін бок, а з другога боку з'яўляецца Смерць з касою.

Смерць

О, Ірадзе, Ірадзе,
Полна табе грашыці,
Пара смерці прасіці!

Ірад з жахам устае з трона, хутка і парывіста.

Вот я к табе прышла —
Настаў твой смертны час:
Склані сваю галаву на маю касу.

Ірад *(просіць адтэрміноўкі)*

Дай атсрочкі адзін год!

Смерць

Ні на адзін месяц!

Ірад

Дай на адзін дзень!

Смерць

Ні на адзін час!

Ірад

На адну мінуту!

Смерць

Ні на адну секунду!

Ірад пакорна схіляе галаву на касу, а Смерць, адсекшы галаву, плаўна выходзіць адным ходам, а з другога — убягаюць чэрці, з візгам і рогатам акружаюць цела Ірада і на чале з вялізным чортам цягнуць яго ў пекла.

Хор *(паказвае кіпенне пякельнай смалы)*

Жжж... Ззз... Ссс...

Трон стаіць пусты.

Арышанька *(выходзіць і звяртаецца да гледачоў)*

Ах, ішла з гары — утамілася;
Ішла пад гару — спатыкнулася.
Дайце на царскім месцы пасядзець *(сядае)*.

Стары *(з мехам за плячыма)*

Ах, Арышанька, дружочак,
Я прынёс це дзенежак мяшочак,
Толькі дай на тваіх каленях пасядзець,
А ты ў мяне з мяшка дзенежкі выбірай.

Арышанька

Садзіся, старычок,
Садзіся, дарагой!

Стары садзіцца ёй на калені. Арышанька выбірае ў яго з мяшка за плячыма грошы.

Франт *(з'яўляецца і звяртаецца да гледачоў)*

Ах, пачценнейшыя гаспада,
Как гэта не стыдна,
Как гэта не абідна,
Што стары хрыч з барадой
Сядзіць на каленях у маладой?!

Стары

Ах ты, хрант,
У цябе сапагі ў рант,
Жылетка піке,
А нос у табаке;
Сапог скрыпіць,
А я хоць стары сядой,
Да дзенег у мяне мяшок бальшой.
Ступай адсюда прэч!

Стары і Арышанька (*крычаць разам*)

Ступай адсюда прэч!

Франт, сканфужаны, выходзіць.

Арышанька (*за кулісамі гаворыць*)

Мілыя музыканцікі,
Сыграйце нам танцікі!

Музыкі іграюць «Па вуліцы маставой...» Арышанька скача рускага. Стары па яе загаду таксама скача, знясілены, ён ледзь не падае. Арышанька, нарэшце, вядзе са сцэны вельмі стомленага старога, які кульгае і кашляе на пацеху і смех гледачам.

З'яўляюцца Максімка (шукальнік грыбоў) і яго бацька.

Мужык

Куды жа гэта я заброў?
Во це на!
А гдзе жа Максімка? (*Кліча.*)
Сын Максім,
А, сын Максім!

Максімка (*за сцэнай*)

Ау, татка!

Мужык

А гдзе жа ты?

Максімка

Да ў лясу!

Мужык

Зачым ты туда папаў?

Максімка

Да грыбы сабіраю!

Мужык

Да што ты, адурэў алі п'яны: якія ноне аб раστве грыбы?

Максімка

Да яшчэ якія — падасінавікі!
Хадзі ка мне сабіраць,
А то ўсех аднаму не набраць!

Мужык

У такі-та мароз мне к табе ііціць! Не, уж ты выхадзі ка мне скарэй — пара дамоў, а то замерзнем!

Максімка

Не, мне ў лясу цяпло! Да я нікак і заблудзіўся — так і ёсць, заблудзіўся.

Мужык

Дак чытай за мной малітву «Да васкрэсне бог».

Максімка

Да растрэсніць лоб твой, цяцька! Так сцямнела, што ні згі не віджу.

Мужык

Ну, дак чытай за мной другое!..

## СЛУЦКАЯ БАТЛЕЙКА

Дзеючыя асобы

Цар Ірад: доўгія валасы і барада, плашч пурпуровы, на галаве залатая карона, у правай руцэ жазло.

Царыца: доўгія распушчаныя валасы, уся ў белым адзенні, на галаве карона.

Гетман: белы кунтуш, зялёныя штаны, на нагах боты, на галаве белая казачая шапка з пяром, у руцэ шабля на «караул».

Чужаземец: чорны суртук, белыя штаны, адна штаніна адарвана да калена, чырвоная шапка, у правай руцэ белая хусточка, у левай — тростачка.

Селянін: доўгія светлыя валасы і барада, шэрая світка, чырвоны пояс, шапка зімовая з аўчыны, высокая, сіняя з зялёным аколышкам наверсе, на нагах лапці з лык.

Шляхціц: даматканае карычневае верхняе адзенне, белы саламяны капялюш, боты з лакіраванымі халявамі, у зубах люлька, пузаты.

Венгерац: чорнае адзенне, магерка (круглы капялюш з пяром павы) з казырком, за плячыма сундук з таварамі.

Шляхцянка-бабылка: (асоба з вялікімі прэтэнзіямі — гэта відаць па яе адзенню) блакітны гарсэт, чырвоная спадніца ў латкі, жоўты капялюш таксама з пяром, ногі апрануты ў чаравікі з высокімі шнураванымі халяўкамі.

Доктар: чорны фрак, белы гальштук, на нагах шчыблеты, у руках палка з булавой.

Казак: чырвоны мундзір, зялёны пояс, штаны шырачэзныя, блакітныя з чырвонымі лампасамі, чорная шапка з аўчыны з чырвоным верхам, боты высокія са шпорамі, у руцэ нагайка.

Салдат: белая сарочка, падпаясаны скураным поясам, чорныя штаны, шапка белая з чырвонаю акантоўкаю, боты высокія, у руцэ шабля.

Я ў р э й: на галаве рыжыя валасы з пэйсамі і гэтакая ж рыжая барада, доўгі чорны замызганы халат (лапсардак), шапка зімовая ліса, верх аксамітны, відаць белыя шкарпэткі, туфлі з задзёртымі насамі, гарбаты.

Я ў р э й к а: парык, чорная атласавая сукенка, чорныя валасы, жоўтая хустка.

Б а б а: шарачковая спадніца, вялікі жоўты гарсэт, на галаве вялікая цёплая хустка (баранаўка), у лапцях.

А н ё л: белая сукенка дасподу з крыламі, у руцэ зялёная яловая галінка.

Д ' я б а л: з хвастом, чорны, зграбны, з доўгімі вушамі і доўгімі рагамі, зубы белыя і бялкі вачэй пачырванеўшыя.

В о ў к, к а з ё л і а в е ч к а.

Т р ы к а р а л е в ы: у каляровых плашчах, залатыя кароны, у руках трымаюць залатыя скрыпкі.

М у з ы к а — гармонь, скрыпка і дуда.

Сцэна — вялікі пакой, абабіты чырвоным паркалём, двое дзвярэй на процілеглых баках. Пасярэдзіне сцэны, каля задняй сцяны, стаіць залаты трон.

Ч у ж а з е м е ц *(уваходзіць з нізкім паклонам да публікі)*. Пахвалёны Езус Хрыстус! Вітаю, вітаю маіх паноў дабрадзеяў. Таму што я вандрую па чужых краёх і гарадох, я маю расказаць паном пра цікавае здарэнне. Меў я бацьку чужаземца ў чырвонай макавай сукенцы. Вось вышаў неяк я на рынак прадаваць кніжачкі і спаткаў трох трубачоў, і давай яны мяне нагаворваць. І вось прыстаў да аднаго, але вельмі няўдалага, хацеў навучыцца ад яго навукі, а вывучыў ён мяне гусей красці, курэй біць і болей нічога. Але быў я хлопцам да гэтага скрытным, украў гусака і здохлую курыцу і прынёс да свайго пана, але ён мне так падзякаваў, што ляцеў з хаты аж у сенцы. І быў я за граніцай, і там мяне дужа паненкі любілі, але мне за гэтае нічога не дарылі. І быў я ў аднэй каралеўны, і яна мяне так моцна любіла, што нават кветкі да шлюбу падарыла; але як я ёй надакучыў, дык яна мне бачкі і вусы выдрала і вон выгнала. Маю палку з каралеўства, чым ганяюць чужаземцаў, ёсць на шыі чатыры хусткі, а ў кішэні адны пусткі, а пятая ў руцэ пазычаная, і тая ў свой бок паглядае. Маю шапку калярову, што ў матчынай скрынцы мае схову, чатыры рогі дагары і аўчынку са свіной скуры.

К а з а к *(раптоўна ўваходзіць)*. Прывітанне табе, Цімоша!

Ч у ж а з е м е ц. Здароў, брацішка!

К а з а к *(строга)*. Ты што тут дурыш?

Ч у ж а з е м е ц. А ты што кажаш?

К а з а к. Гавары мне па-латыні.

Чужаземец. Косту-мосту, салігру-малігру, прыплескантус-цыатантус.

Казак *(крычыць)*. Ды што ты гаворыш па-латыні, як бацвінні! Тут я табе скажу рускім языком, што сёння Ісус Хрыстос нарадзіўся, таму і я тут апыніўся. Быў такі-та бакаляр, узяў пікі ў дзве рукі, ды ідзі, дурань, да распускі. *(Б'е чужаземца нагайкаю.)*

Чужаземец. Ой, пачакай, казачка-лайдачка, я табе папольску вытлумачу!

Казак *(крычыць)*. Не трэба па-польску! Ідзі вон! *(Выкідае яго за дзверы, потым звяртаецца да публікі.)* Прашу, панове, пастараніцца, будзе цар на трон садзіцца.

Цар *(уваходзіць, сядае на трон і ўрачыста звяртаецца да публікі)*. Сядаю, сядаю на трон адзіны, каб цара і голас не абмінуў. Я цар Ірад, я ў царскім пурпуры, і ніхто не павінен пярэчыць маёй царскай натуры. А паклікаць да мяне Лейбу. Таму што ў яго мудрая галава, хай ён сёння прыйдзе і пагаворыць.

Казак хутка выходзіць і вяртаецца з яўрэем.

Яўрэй *(з нізкім паклонам, прыніжана)*. Іцах-міцах, манарх-гіцах, бег я з павагаю і радасцю праведаць цара. А што пану цару ад мяне патрэбна?

Цар. Адкажы мне, Лейба мой любы, колькі месяцаў таму назад нарадзілася тое дзіця?

Яўрэй. Калі пан цар хоча ведаць, бо я без сваіх талмудаў не магу сказаць. *(Крычыць да жонкі.)* Сора Езермоўс, нойдзем талмуд гроўс.

Яўрэйка ўваходзіць з талмудам.

Яўрэй *(чытае)*. Барухаты едыной, елегэйну налегой, цібэлэ татэ, нібэлэ мамэ, і ліпа высока і на корань глыбока, а хто гэту ліпу будзе капаць, той будзе век панаваць. *(Набліжаецца да цара.)* Ясны цар, ужо дзевяць месяцаў мінулася, як тое дзіця нарадзілася. Што знаў, тое і сказаў, няхай мяне цар прабачыць. Падаю да ног. *(Кланяецца цару ў ногі і адыходзіць.)*

Цар адразу засынае і моцна храпе.

Д'ябал *(уваходзіць і нахіляецца да цара і штосьці шэпча яму на вуха)*. Менге-уж слаўны манарх, не будзь такі няўважны. Кажы рыцарам ісці да Віфлеему і пабіць усіх нованароджаных, белых (г. зн. дзяўчынак) няхай не чапаюць, а хлопчыкаў усіх знішчаць, і сына свайго не мінай, а ўсіх да аднаго забівай. *(Адыходзіць.)*

Цар *(прачынаецца, да публікі)*. Раскажу я вам аб тым. што мне сёння прыснілася. Быў я з адным сваім прыяцелем у адным

месцы, і ён мне даў добрую параду. Паклічце да мяне гетмана — слаўнага пана!

Казак выходзіць і вяртаецца з гетманам.

Гетман (*уваходзячы, паважна*). З'явіўся па загаду, найяснейшы пане, і магу выканаць тваё заданне.

Цар (*паволі, павучальна*). О, пайдзі, рыцар, да Віфлеему і знішчы ўсіх нованароджаных, белых не чапай, а хлопчыкаў забівай і сына майго не мінай, усіх да аднаго знішчай.

Гетман спешна адыходзіць.

Анёл (*уваходзіць смутны*). Ах, цар, цар Ірад, што робіцца ў тваім родзе! Загінуў ты бяспечна, страціў неба навечна.

Цар (*задзірлівым тонам*). А што мне да неба, калі шкада кароны! Лепш быць каранаваным, чым выратаваным.

Царыца (*уваходзіць, панура*). Ах, цар, цар, мой мілы пане, навошта так мяне засмуціў і ўсіх нявінных дзетак папаліў? Адных папаліў, другіх забіў і нікога з іх не ажывіў.

Цар (*голасна і з гневам*). Ідзі, адкуль прыйшла, не слухаю тваю параду, толькі на сваё сумленне маю ўвагу.

Царыца (*заклапочаная, са слязамі*). Ах, пайду, пайду я ў цёмны лес, у высокія горы, каб мае вочы нічога не бачылі і вушы не чувалі, спаткаю якога звера, каб ён у мяне жыццё забраў.

Цар (*сурова*). Ідзі, ідзі, паспяшай, сама сябе тым суцяшай.

Гетман (*раптоўна ўваходзіць, на канцы шаблі нясе ўрачыста галаву каралевіча-дзіцяці*). Вось выканаў твой загад, знішчыў усіх дзяцей і сына твайго не мінуў! От маеш дакумент— галаву сына твайго.

Цар (*смутна, мякка*). Ах, галава, галава сына майго, бачу яго забітага. Бывай, мая любая жонка! О, дайце, дайце мне чым сябе забіць, не хачу я ні аднаго дня, ні адной мінуты на свеце гэтым жыць. (*Падае з трона на падлогу, на бок — нежывы.*)

Яўрэй (*асцярожна ўваходзіць і гаворыць са злосцю*). Яснавяльможны свіняны кныр! Што ж, васпану, зрабілася, уся вантроба кроўю залілася. Я думаў, што ты спіш, аж бачу, што ты смярдзіш. Браў ты з нас і драў ты з нас і крупавыя, і млынавыя, і мякіну, і смяціну, але ўжо цяпер як вазьму я тваю карону ды сяду на трону і буду каралём над яўрэямі, а ты свіннёю над свіннямі. От каб цяпер мая Сора знала, што я тут крулюю і над усімі яўрэямі паную. Сора, кум панцен маёхес.

Яўрэйка ўваходзіць, музыка грае народны танец — польку. Яўрэй і яўрэйка ў пары танцуюць.

Д'ябал раптам уваходзіць і моцна храпе.

Я ў р э й *(са страхам).* Ой, які страх! Няхай лепш бярэ маю карону прах.

Д'я б а л *(паважна).* Прышоў, прышоў як па сваёга, бо добрага не зрабіў нічога. О, нясем, нясем туды, дзе бацька Люцыфер чакае твайго прыбыцця. О, нясем, нясем ды паспяшаем, дзе золата і серабро нас чакае. *(Душыць яўрэя, адыходзіць і цягне яго цела за сабою. Яўрэйка ўцякае).*

К а з а к *(застаўшыся, сам да сябе).* Як вызвалімся ад свайго пана, будзем піць гарэлку са збана, будзем піць і гуляць і ўсіх ляхаў з Расіі выганяць. *(Да музыкаў.)* Іграйце мне барыню. *(Музыкі іграюць «казачка», казак скача.)*

С е л я н і н *(паволі ўваходзіць і кланяецца да публікі).* Няхай будзе пахвалёны, шапка сіня, верх зялёны. *(Аглядаецца навокал.)* Але ж, мае паночкі, і папаў жа я, як на неба: і сіня, і зялёна, і папялята, і хораша, і харашавата. *(Са здзіўленнем.)* А-ёй, а во яшчэ і царскі трон, сеў бы на ём, але баюся, што стаіць салдатаў ром. *(Сядае на трон.)*

К а з а к *(сурова).* Ты чаго, мужык, сюды зайшоў?

С е л я н і н *(ласкава).* Чаму ж, мой панок, не пасядзець трошкі.

К а з а к. Ды ты не ведаеш, што тут царскі трон?

С е л я н і н *(са здзіўленнем).* Што трон, дзе ж трон, калі аднаму няма дзе сесці, а ты кажаш трон.

К а з а к. Маўчы, мужык, не балакай. Уставай, дурань, тут месца, дзе цар сядзіць, гэта яго прастол.

С е л я н і н. Прастол, дык прастол, што я — сабака лезці пад стол. Сам лезь пад стол. *(Устае.)*

К а з а к. Ідзі, дурань, вон! *(Б'е яго нагайкаю.)*

С е л я н і н *(жаласна).* Ой, мой панок, не бі мяне па карку, мы ж з табою родныя браты, лепш пойдзем мы з табою ў карчму ды вып'ем там чарку.

Казак выпускае яго.

С е л я н і н *(да публікі).* От, мае ж панкі, што мне гэта першая куцця нарабіла. Мая Агата як наварыла поснае верашчакі, дык я як намакаўся блінамі, дык ледзь ад стала адарваўся. Ой, ой, а пакуль жа я да парога дабег, дык мой жывот зрабіўся, як мех; зрабілася, мае панкі, каля пупа, як ступа, а каля жывата, то як добрая скаварада. Тут яшчэ мая Агата кажа: «Сымон, Сымон, вазьмі, кажа, па боскаму прыказанню тры лыжкі куцці». А мае ж паночкі, панкі, як узяў я гэтыя тры лыжкі куцці, то не пайсці не пасапці. Ой, што ж мая Агата ні вырабляла: ды напарыла мне моху, ды чартапалоху, і курынай жоўці троху дый кажа: «На, Сымон, выпі, можа і паможа».

А я ж, мае паночкі, панкі, як выпіў гэта, дык не памагло, а яшчэ горш прыпякло. Да, мае ж панкі, дзе я ні бываў ужо, ды нічога не памагае, яшчэ горай забірае. Каб гэта бог прынёс каго і каб хто мяне палячыў, то я не ведаю, чым бы я заплаціў.

Доктар *(уваходзіць)*. Ты што мне, мужык, дасі, калі я цябе палячу?

Селянін *(сур'ёзна)*. А што пану даць?

Доктар. Ты мне дасі чырвоны слуцкі паясок і сіненькі каўпачок.

Селянін. Мой панок, не магу я паяска даць, бо будзе мая жонка сварыцца, бо гэта яна мне на свята выткала яго. Але ведаеш, што ■ дам табе? Дам табе на перапечкі асьміну грэчкі.

Доктар. Не патрэбна яна мне.

Селянін. Ну, мой пан, хаця гэта я і страчу, але ўсё ж здароўя сабе дабуду.

Доктар. Кладзіся.

Селянін кладзецца на адзін бок.

Доктар. Не, не так!

Селянін пераварочваецца на другі бок.

Доктар. Не на гэты! Кладзіся так, як кладуцца маладыя дзеўкі.

Селянін кладзецца жыватом дагары. Доктар б'е яго наводмаш па жываце палкаю з булавою.

Селянін *(устае)*. От, як даў булаваю, дык як рукою зняў. А цяпер, каб мая Агата ведала, што я ўжо тут здароў. *(Кліча.)* Агатка, хадзі, хоць мы з табою пойдзем у скокі.

Жонка ўваходзіць і танцуе з мужыком «Лявоніху».

Селянін *(скача і прыпявае)*.

Пайшоў бы я ў скокі,
Лапці валакуцца.
Прыўдарыў бы драпака,
Аборы парвуцца.

Скачэце ж, дзеткі, скачэце ж, не шкадуйце лапцяў. Як гэтыя парвуцца, бацька новыя спляце. *(Перастае скакаць і пачынае жуліць.)* Як калісьці мужык быў у Рыме, як там хараша, як там прыгожа!

Шляхціц *(які стаяў тут жа ў натоўпе, са злосцю пытае ў яго)*. А папу рымскага ты тожа там бачыў?

Селянін. А як жа, паночку, далібог бачыў! Быў нават на набажэнстве ў касцёле святога Паўла.

Шляхціц. А ці пацалаваў ты яго ў месца, што ніжэй паясніцы?

Селянін. Не, паночку, з-за шляхоты не мог дабіцца.

Раптам уваходзіць венгерац і крычыць зычным голасам да публікі, як бы перашкаджае раcказу селяніна.

Венгерац. А сам-басам, я венгерац, у гэтым часе, маю алей-пралей ад зубных болей, ад парушэння жывата, прашу ў мяне купляць, я за гэта не буду грошай браць, абы мне толькі з харошай дзяўчынаю ўдосталь патанцаваць.

Шляхцянка-бабылка (*уваходзіць, звяртаючыся да доктара*). Прывітанне пану доктару. Я ні хвора, ні здарова, але хачу параіцца з панам доктарам.

Доктар. А можа пані па двара хадзіла ды прастыла?

Шляхцянка-бабылка. Здаецца, не хадзіла.

Доктар (*хітра*). Можа пані панчошкі падрала і рэўматызм у пяткі дастала? (*Нахіляецца да яе ног.*)

Шляхцянка-бабылка. Ці цэлыя, ці падраныя, але рэўматызм у пяткі не дастала.

Венгерац (*забягае як бы наперад доктару*). Няхай толькі музыка зайграе «казачка», як мы з паняй да поту паскачам, дык у пані ўсё пройдзе.

Шляхцянка-бабылка. Але ж я не такая прастачка, каб скакаць з панам «казачка». Але як дасць ён мне талеру, дык буду скакаць хоць усю ноч.

Венгерац (*да музыкаў*). Прашу зайграць «венгерку».

Венгерац і шляхцянка-бабылка танцуюць «венгерку», а потым адыходзяць.

Салдат (*уваходзіць і звяртаецца да публікі*). О, паслухайце, мае дарагія, якое мяне няшчасце спаткала. Я маю ножны пры боку і палаш голы ў руцэ, і не адзін сёння будзе ляжаць у вялікай пакуце.

Гетман раптоўна ўваходзіць і забівае яго шабляю.

Доктар (*уваходзіць*). Што тут такое? Трэба яго лячыць, трэба даць яму камарынага сала, падкову ад мухі ды заячага кроку ад дзявочага скоку. Гэта ўсё ў адным гаршку зварыць і даць яму піць, і будзе здароў, як бык.

Анёл (*спускаецца зверху на нітачцы і спявае*).

Анёл пастухам з'явіўся
І сказаў, што Хрыстос нарадзіўся.
У Віфлееме, у страшным месцы,
Нарадзіўся ў велькай нэндзы.
Пан усяго жывучага...

Б а б а (*уваходзіць, таўчэ ў ступе і спявае*). Пан бог сёння нарадзіўся. (*Уваходзіць д'ябал і страшыць яе храпам. Баба б'е яго таўкачом і забівае. Потым працягла спявае.*) Пан бог сёння нарад...

К а з а к. Ты што, баба, робіш?

Б а б а. Таўку куццю, панічку.

К а з а к. Хіба ты не ведаеш, што сёння свята ражаства Хрыстова і нельга працаваць. Ідзі адсюль.

Б а б а. А што ты, мой служывенькі, за пан такі, што я не магу працаваць. Як табе свята, то ты і святкуй, а я павінна сабе куцці натаўчы.

Казак здзірае з бабы хустку.

Б а б а. Ідзі, паніч, у балота, падраў хустку за дзве залатоўкі.

К а з а к. Пайшла вон!

Б а б а (*б'е казака таўкачом*). Ад чорта абаранілася, а хіба ж ад цябе, казака, не абаранюся?

Казак б'е яе нагайкаю.

А в е ч к а (*уваходзіць, скача і спявае*).

Авечачка, касматачка,
А хто мяне напасе,
Мая матачка?
Матка стара, дочка мала,
А я, маладзенька, кросны ткала.
Кросны ткуцца, ніткі рвуцца,
А за мною, маладою, хлопцы б'юцца.
Не біцеся, не сварыцеся,
А за мяне, маладую, пагадзіцеся.

Уваходзіць к а з ё л.

А в е ч к а (*да яго*). Ты казёл барадаты, ды чаго ж ты прышоў да мае хаты?

К а з ё л. Я прышоў да цябе, спадабаў я цябе, хачу цябе спадабаць ды за жонку ўзяць. Ці няма ў цябе гарэлкі? (*П'е гарэлку ў куце з вядра.*)

А в е ч к а. Не хачу, не люблю, бо барада шоў-шоўка, бо нашлю на цябе шэрага воўка. (*Адыходзіць.*)

Казёл скача, раптам убягае в о ў к, хапае казла і ўцякае.

К а з ё л (*у зубах у ваўка*). Не мяне, не мяне ты ўзяў.

Спускаецца зверху калыска са святым дзіцяткам.

Тры каралевы (*уваходзяць і спяваюць*).

Тры каралевы добрай веры
На каляды носяць дары.
Прынеслі яму ў дар золата,
Мір, кадзіла і золата.

Потым кожны паказ заканчваецца пажаданнямі дабра гаспадарам дома ў залежнасці ад іх заможнасці. Звычайна складаюцца яны з такой развітальнай песні:

З калядою мы прышлі да вас.
Вельмі міла будзе нам бога васпяваці.
Хто меў злую долю і быў смуткам апавіты,
Няхай па калядзе будзе іх пазбыты.
Няхай бога ўсемагутнага ўлада
Шчасцем і доляю ўсіх не мінае.
Промень на небе траціць святло,
Няхай ён набудзе для людзей дабро.
Промень на небе тысячы просіць,
А што за каляду нам гаспадар падносіць?

## ТЭКСТ БАТЛЕЙКАВАГА ПРАДСТАЎЛЕННЯ У МАЗЫРЫ, БАБРУЙСКУ, РЭЧЫЦЫ, КАПАТКЕВІЧАХ, ПАРЫЧАХ, БЕРАЗІНО

Прыйшоўшы ў дом гаспадара перад пачаткам прадстаўлення, адзін з больш спрытных і практычных хлопцаў — удзельнікаў хаджэння з вяртэпам садзіцца ззаду яго і аб'яўляе, што пачынаецца прадстаўленне з Новага запавету аб нараджэнні спасіцеля. Прадстаўленне адбываецца на верхнім ярусе вяртэпа. Спачатку з'яўляюцца два мужыкі (пастухі віфлеемскія), кланяюцца нованароджанаму дзіцяці ў пояс і звяртаюцца да гледачоў:

Пастухі. Мы — пастухі віфлеемскія, находзіліся сію ноч на стражы, паслі свой скот; удруг пры бальшой цемнаце асіяў нас неабыкнавенны свет. Мы іспугалісь, но ангел госпадзен сказаў нам: «Не пугайцесь! Гэта радзіўся цар славы; вы ідзіце і пакланіцеся яму — ён у Віфлееме». Убачылі множаства ангелаў паюшчых «Слава ў вышніх богу...» (Гэта царкоўная песня выконваецца хорам пеўчых пры батлейцы.)

Пасля заканчэння спеваў пастухі выходзяць. З'яўляюцца вешчуны, персідскія цары, кланяюцца нованароджанаму дзіцяці і прыносяць падарункі. Затым яны звяртаюцца да народа.

В е ш ч у н ы. Мы валхвы, цары персідскія — з далёкіх стран, не пажалелі сваіх царскіх трудоў і прышлі пакланіцца нованароджанаму младзенцу; мы гэта ўзналі па звяздзе на востоке, каторая нам сапутствавала. (Пры гэтых словах спяваецца царкоўная песня «Валхвы, цары персідскія, пазнаша яве на зямлі раждзённага цара нябеснага...»)

Вешчуны кланяюцца і выходзяць. Пасля гэтага пачынаецца прадстаўленне ў ніжнім ярусе батлейкі аб Ірадзе. Сюды ж з верхняга яруса пераносіцца свечка. Спакваля з-за заслоны з'яўляецца адзін з цароў і садзіцца на трон. У гэты час да яго падбягае воін.

В о і н. Што прыкажаце, ваша вялічаства?

Цар загадвае паклікаць граданачальніка. Воін адразу ж выходзіць. Уваходзіць граданачальнік.

Ц а р. Што слышна ў нас?

Г р а д а н а ч а л ь н і к. Нічога асобеннага, ваша вялічаства!

Ц а р. Как жа нічога! Нарадзіўся новы цар, і я, апасаючыся, штобы ён не завалодаў маім царствам, павеляваю ўбіць усіх нованароджаных младзенцаў мужскога пола.

Праз дзве-тры хвіліны ўваходзіць воін і паведамляе, што дзяцей усіх забілі: толькі плача адна Рахіль і просіць аб памілаванні адзінага яшчэ жывога сына. Воін ідзе за заслону і прадстаўляе жанчыну, якая плача і просіць злітавацца.

Р а х і л ь. Ваша вялічаства, я паручаю вам свайго сына, вазьміце яго ў свае палаты, не васпітывайце, толькі ліш бы ён быў жыў.

Ц а р. Да, былі случаі, знаем ужо: і фараон кагда-та васпітываў Маісея, а ён потым лішыў яго царства. *(Рахіль выходзіць з жалобнай песняй.)*

Х о р *(спявае)*

О, Ірадзе ты пракляты!
О, Ірадзе ты пракляты!
Не пашчадзіў ты ў Віфлееме
Ні адзінага дзіцяці;
Ты хацеў убіць Марыіна сына,
На што цябе сатана спакусіў.
Но божая сіла
Да сяго не дапусціла;
Ты убіць Хрыста рашыўся,
А Іосіф з Марыяю
У Егіпет удаліўся.

О, Ірадзе ты пракляты!
О, Ірадзе ты пракляты!
Ты яшчэ на свет божы не радзіўся,
У тваім сэрцы сатана пасяліўся.
О, Ірадзе ты пракляты!
О, Ірадзе ты пракляты!

Ірад сыходзіць з трона; уваходзіць яўрэй Бэрка ў старым сваім нацыянальным адзенні, разглядае палацы Ірада, звяртаецца да гледачоў.

Бэрка. Ві знаеце, гаспада, сто тут цар зыў, а ціпер уз я купіў гэтыя палацы, а сам цар узэ памьёр; гэто яго бог скараў, сто ён насых цэлых цатырнаццаць тысяц дзетацак перабіў. Я думаю ў гэтым палацы адкрыць тракцір: от тут бацонацак пастаўляю, а тут крэселько. *(Садзіцца на трон і пачынае танцаваць ад радасці.)*

З'яўляецца мужык і звяртаецца да гледачоў:

Мужык. Вы не знаеце, гаспада, майго гора. Я ж як наеўся куцці, так не магу і пайці: от я ўжэ ішоў у волась і к хвершалу, аж едзе валасны пісар, пытаецца ў мяне: «Куды ты едзеш, Змітро?» — «У волась і к фершалу: баліць, паночак, вельмі мой жываточак. Я ж учора як наеўся куцці, дак не магу і пайці». А пісар кажа: «Хвэршала цяперака няма; ты лепей ідзі і к Бэрку і выпі гарэлкі чвэртку, укінуўшы дроб канхворы, так не будзеш хворы». *(Нарэшце мужык звяртаецца да яўрэя.)* А, здароў, Бэрка, ну але ж у цябе і палацы, і чаго ж тут у цябе няма! Аднаго толькі бацькі з мацерою тут нямашака! Дай жа мне гарэлкі чарку выпіць!

Бэрка. Давай зэ гросы!

Мужык. Да я ж не ўзяў з сабою з дому.

Бэрка. Цагос ты ісоў, на веру думаес? Ісцэ я толькі пацын раблю, а ён узэ... музык, трасца яго матары, прысоў і дай яму на веру: прынёс бі цаго мерацку!

Мужык. Пагадзі ж ты, пракляты жыдовін, я ж табе нашлю, я табе ізраблю, што цябе чорт ухваціць! *(Выходзіць.)*

Бэрка. Так п'яніца ўсё страсцае: я табе нашлю! Дзе ві бацылі, гаспада, той цорт, дзе ён есь на свеці, хто гэта даказэ?

У гэтую мінуту з'яўляецца чорт, вельмі страшны з выгляду, на ім адзенне з тхаровага меху, твар чорны, з хвастом, на галаве рогі. Чорт хапае Бэрку і нясе з сабой.

Бэрка *(крычыць)*. Гвалт! *(Гледачы смяюцца.)*

У канцы гэтага прыходзіць яўрэйка, жонка Бэркі.

Я ў р э й к а (*звяртаецца да гледачоў*). Цы не бацылі мая Бэра?

Б а т л е й ш ч ы к. Яго ж чорт ухваціў.

## БАТЛЕЙКАВАЕ ПРАДСТАЎЛЕННЕ НА ДУХАЎШЧЫНЕ

Свечкі ля поручняў запалены. Унутранасць батлейкі асветлена. Увага напружана. І раптам з'яўляюцца два анёлы ў белым адзенні, крыж-накрыж перапаясаныя, з залатымі крыллямі, з тоненькімі свечкамі ў руках. Галоўны батлейшчык гаворыць:

Ангелы з небесі зляцелі,
Слава ў вышніх запелі.

Далей пастухі ідуць у той кут, дзе каля ясляў знаходзяцца дзева і Іосіф. Хор пяе:

Пастухі з ягняткам
Прад малым дзіцяткам
На калені выпадалі,
Хрыста праслаўлялі.
Даруй, божа, лета цёпла,
Лета цёпла і шчасліва,
Сяго дома гаспадзіну,
Хазяіну-двараніну многія леты!

З'яўляюцца тры цары; Ірад загадвае воіну біць дзяцей. З'яўляецца Рахіль і, плачучы, дакарае Ірада:

Ірад ты пракляты,
Будзеш у агонь узяты.
За маё дзіця будзеш у агні гарэць
І ў смале кіпець.

З'яўляецца Смерць, забівае Ірада. Чэрці гуляюць галавою Ірада, рагочуць і выбягаюць. У суправаджэнні воіна з'яўляецца багата апранутая жанчына, плача над трупам Ірада і выносіць яго цела. Духоўнае прадстаўленне закончылася, пачынаецца свецкае.

Бойка воінаў:

Аляксандр Македонскі,
Цару Парадзінскі,
Пабівайце вы нас, нас, нас!

Пад матыў песні танцуюць цыганы:

Ва лузях, ва лузях,
Ва зялёных ва лузях.

Выбягае казёл пад песню:

Пайшоў казёл у агарод,
Ай, люлі, у агарод.
Паеў казёл капусту,
Ай, люлі, капусту.

Казла ловіць баба, казёл збівае яе з ног, нарэшце баба злавіла казла і вядзе яго прадаваць. Пасля салдат б'ецца з яўрэем.

Затым з'яўляецца «Максімка сарака пяці гадочкаў, несмыслённічак», апрануты ў рванае адзенне, з кашальком накшталт царкоўнага.

Бацька наш
Курэй краў,
Пад печ хаваў.

Максімка просіць грошай, а пасля, па жаданню гледачоў, страляе з гарматы.

## БАТЛЕЙКАВАЕ ПРАДСТАЎЛЕННЕ Ў Г. БЕЛЫМ

Спачатку пяюць «Ражаство тваё, Хрысце, божа наш...» У час спеваў з розных (супроцьлеглых) бакоў з'яўляюцца два анёлы (як у Духаўшчынскай батлейцы): у аднаго свечка гарыць, а ў другога не. Яны нахіляюцца адзін да аднаго, запальваюць свечкі, кланяюцца багамацеры, тушаць свечкі і знікаюць. На змену ім выходзяць пастухі з авечкамі. У гэты час пачынаюць спяваць наступнае:

Нова радасць стала,
Яка не бывала:
Над вяртэпам звязда
Ясным светам вассіяла.
Пастухі з ягняткам
На калені ўпадаюць,
Хрыста велічаюць.

Пастухі, пакланіўшыся, выходзяць, а батлейшчыкі прадаўжаюць:

Даруй, божа,
Лета шчасліва
Сяму гаспадзіну
На многія леты. Амінь.

...З'яўляюцца тры цары з падарункамі для новароджанага дзіцяці. Батлейшчыкі спяваюць:

Шэдшэ тры цары
Ка Хрысту судары.
Ірад жа іх прыгласі,
Куды ідуць іх спрасі.

Отвешчаша яму: «Ідзем ка раждзённаму».

Ірад

Ка раждзённаму ідзіце
І мне вазвясціце,
Аз же пакланюся,
Прад царом сміруся.

На пачатку наступных радкоў выходзіць Анёл, які адводзіць цароў у бок, супроцьлеглы таму, куды трэба ісці Іраду:

Ангел жа ім яўляе,
На пуць настаўляе:
Іным пуцём ідзіце,
Ка Іраду не вярніце.
Ірад вас іскушае,
Валхвоў сазывае.
Слава раждзённаму,
Ад вас праслаўлённаму.

Два апошніх радкі ўяўляюць пазнейшую ўстаўку. Імі і заканчваецца прадстаўленне на «версе».

На ніжнім паверсе з'яўляецца Ірад і батлейшчыкі пяюць:

У дзень Хрыстова нараджэння
Весялімся днесь;
Благадаць вяздзе,
Хвала богу
Нада пеці многу,
Хвала новай звяздзе.
Ангел пастыр вазвясціў яму
Нараждзённага
Бога нашага.
Цар жа Ірад, Ірад вазмуціўся,
Младзенцаў пабіў:
Білі, сяклі і ругаліся,
Яко ўбійцы,
Злы разбойніцы.
Крычаць дзеткі, плачуць маткі,
Валасы дзяруць
І рыдаюць.

І ад пярсей адрывалі іх,
Рассякалі іх і таптали іх.
З мацярамі не прашчаліся,
Божа наш мілы!
Жаласна дзеткі,
А з імі маткі
Ляжаць у доме,
Яко вораны
На полі,
Яко снапкі.

Перад пачаткам гэтых спеваў Ірад кліча «вернага слугу» (воіна) і загадвае яму забіць усіх дзяцей у Віфлееме, ад аднаго года да трох год. Воін выходзіць, пасля вяртаецца і гаворыць:

— Цар мой, цар, усяміласцівы гасудар! Усіх дзяцей ■ пабіў, адна баба Рахіль не аддае свайго дзіцяці, просіць літасці.

Гэтыя словы калісьці мелі вершаваную форму і спяваліся, але цяпер, відавочна, тыя вершы забыліся. Ірад загадвае прывесці Рахіль, а воіну робіць знак забіць яе сына. Воін выконвае загад. Рахіль падае; з'яўляецца Анёл, паднімае яе і выводзіць. Ірад пачынае хадзіць па сцэне, з'яўляецца Смерць і касой сцінае яму галаву. Затым прыбягаюць чэрці, якія і выносяць цела Ірада, прыгаворваючы:

Ух! Ух! Многа сала!
Наша сала!
Добрая будзе пахлёбка!

З'яўляецца афіцэр, які шукае сабе жонку. Да яго падыходзіць сваха і неўзабаве прыводзіць яму нявесту, якую афіцэр вядзе «піць чай». У гэты час спяваюць «Ах, вы сені!..» За афіцэрам з'яўляецца «сумны цыган», які пытаецца ў прысутных:

Гаспада мае, пачценнейшая публіка!
Ці не бачыў хто з вас маёй цыганкі?
Яна ад мяне пайшла і 12 дзяцей аставіла.
Як быць, з кім жыць?

Выходзіць цыганка, кланяецца цыгану, які грозна ў яе пытае:

— Гдзе ты была?

— Была на чужой старане, многа падаркаў табе прынесла.

Цыган не верыць ёй і пачынае біць яе «па чым папала» для яшчэ большага задавальнення гледачоў. Нарэшце, цыган і цыганка мірацца і выходзяць. Але цыган з'яўляецца яшчэ раз і пытаецца ў гледачоў, ці не бачыў хто з іх цыгана Сігнея, які мяняе коней на гарадской плошчы. З'яўляецца Сігней на пры-

23. Зак. 948

гожым кані, які брыкаецца і не стаіць на месце. Конь выносіць Сігнея са сцэны, а за ім бяжыць і яго таварыш.

## БАТЛЕЙКАВАЕ ПРАДСТАУЛЕННЕ

Пачатак паказу ўяўляе сабой пакланенне вешчуноў, прычым на сцэне ёсць і яслі, у якіх ляжыць немаўля. Гаспадар батлейкі ў гэты час тлумачыць гледачам:

Вассіяй нам, сонца, у вяртэпе ныне,
Ісус мой вазляжыць у яслях на сене
І холад церпіць,
Сатварыцель дрыжыць,
Каторы ў руках свет дзяржыць.
Сонца, месяц і звёзды прасвяшчаюць,
Горы, халмы і моры радасна іграюць,
Палі і дубровы чтуць цара славы,
Бо ўся суць яго дзяржавы.

На сцэне з'яўляюцца вешчуны, і батлейшчык працягвае:

Днесь звязда на вастоке вассіяла,
Тром царам пуць паказала;
Тры цары ішлі,
Злата, ліван і смірну няслі.

Пасля невялікага антракту на сцэне з'яўляецца картонны трон, на якім сядзіць нейкая пачвара і агідна жэстыкулюе. Гэта — Ірад.

Ірад з таго засмуціўся,
Што гасподзь Хрыстос нарадзіўся;
Казаў яго іскаці,
Па ўсёй зямлі пытаці.

Але Іосіфу:

Ангел ва сне сказуе,
Што цар Ірад гатуе.

Таму ўслед за гэтым па сцэне рухаецца на якімсьці чатырохногім жанчына з дзіцем на руках, а ззаду ідзе стары, што, відавочна, уяўляе сабой уцёкі ў Егіпет. Пачынаецца забойства дзяцей, стогны і плач мацярок; сцэна пакрываецца мноствам скрываўленых немаўлят. Але хутка Ірад за свой нечалавечы ўчынак нясе дастойную адплату: выбегла агідная Смерць з касою і агаленымі сківаніцамі; Ірад трасецца і просіць аб літасці, але Смерць няўмольная, і ад узмаху яе касы галава Ірада пакацілася па падлозе. «Ад смерці,— прыгаворвае яна,— не ўцякці». З-за

куліс з'яўляюцца чэрці — з хвастамі, рагамі, кіпцюрамі і іншымі д'ябальскімі атрыбутамі,— цягнуць крукамі труп Ірада проста ў ад.

...Затым пераходзяць ужо да бытавых сцэн, у якіх фігуруюць прадстаўнікі шматлікіх нацыянальнасцей, насяляючых Беларусь, з іх характэрнымі асаблівасцямі: ганарысты і ласы да жанчын пан, цыганы і яўрэі, якія ашукваюць мужыка; улан, які спакушае паненак, і, нарэшце, дабрадушны беларускі мужык...

## ДОКШЫЦКАЯ БАТЛЕЙКА ПАТУПЧЫКА

З 1909 па 1916 г. я жыў у Докшыцах, глухім у той час мястэчку. Царква, вінная крама і дзесяткі шынкоў — вось што было характэрна для гэтай мясцовасці.

Але ў Докшыцах у той час жыў вядомы на ўвесь Барысаўскі павет батлейшчык Патупчык па мянушцы «Клезмер».

Яго батлейка з своеасаблівым рэпертуарам карысталася вялікай славай у народзе.

Патупчык быў вельмі таленавітым акцёрам-самародкам. Лялечнік, імітатар і музыкант, ён з жонкай і сынам жыў выключна на сродкі сваёй любімай справы. Іншых заробкаў у яго не было. Патупчык па сацыяльнаму становішчу быў селянін. Меў ён невялікую хатку-хібарку на краю мястэчка і агарод.

Была ў яго скрыпка і тэатр лялек. Яго батлейка — «вяртэп» — гэта простая вялікая двух'ярусная скрыня з двума аддзяленнямі для сцэн. Памеры яе былі прыкладна 1,5×1,5 метра. Знешне скрыня была замыславата ўпрыгожана. Мела дзве заслоны, старанна вышытыя жонкаю Патрупчыка і аздобленыя ніткамі «караляў». У верхняй частцы скрыні размяшчаліся два пеўні. Прадстаўленне пачыналася бойкай і спевамі пеўняў, і толькі пасля гэтага на сцэну выходзілі персанажы.

Скрыня ілюмінавалася васковымі свечкамі, якія знаходзіліся на ўстаўных планках у бакавінах батлейкі. У мэтах перасцярогі ад пажару ў скрыні былі зроблены дзве бакавыя вузкія камеры, сценкі якіх з аднаго боку былі абабіты бляхай. Другая сценка камеры, больш блізкая да месца дзеяння лялек, была са шкла, абклеенага са знадворнага боку тонкай паперай. У камерах, дзе былі запалены свечкі, уверсе ўстаўляліся вузкія палоскі люстэркавага шкла, якія ўзмацнялі і рэгулявалі святло.

Пастаноўкі Паступчыка былі галоўным чынам двухактавыя, таму скрыня мела два аддзяленні: верхняе і ніжняе. Наяўнасць двух ярусаў сцэн давала магчымасць хутка змяняць месца дзеяння, а па ходу прадстаўлення — дэкарацыі. Дэкарацыі былі празрыстыя, іх малявалі на папяроснай паперы і ўстанаўлівалі

па бакавінах скрыні — уперадзе крыніцы святла. Асобныя прадметы (дрэўцы, кусцікі і г. д.) прылепліваліся да дна яруса воскам. Дэкарацыі па ходу прадстаўлення мянялі два разы.

З лялькамі працавалі жонка і сын. У асобных выпадках працаваў з лялькамі сам Патупчык. Ваджэнне лялек адбывалася па прарэзах у днішчах сцэн абодвух паверхаў. Лялькі ў асноўным былі пасаджаны на дрот. Але асобныя з іх, якія па ходу дзеяння рабілі паклоны,— лялькі чараўнікоў, біблейскіх герояў і тых, хто рабалепстваваў перад начальствам, надзяваліся на сярэдні палец рукі. Патупчык быў рэжысёрам і пастаноўшчыкам. Па ходу прадстаўлення яму даводзілася выконваць і ролю канферансье. Музычнае суправаджэнне давалася самім Патупчыкам на скрыпцы.

Хочацца тут расказаць і пра спосаб устаноўкі і перамяшчэння батлейкі. У час прадстаўлення батлеечная скрыня ставілася на табарэтцы грамадзян, якія запрасілі лялечніка. Сродкам перавозак скрыні і сундука з лялькамі і бутафорыяй у межах мястэчка Докшыцы была спецыяльная каляска (Патупчык называў яе «каламажкай»). Калі здаралася Патупчыку выязджаць за межы мястэчка, то ён наймаў «балагола» ці свайго сябра Ігнася Барысенку, які займаўся возніцкім промыслам.

Тэатр Патупчыка працаваў сярод народа ў асноўным у час калядных і іншых царкоўных свят.

Пастаноўкі Патупчыка мелі дваякі характар. Калі яго запрашалі ў дамы докшыцкага начальства — а гэта бывала ў дні фэстаў,— дык ён дэманстраваў рэпертуар на тэмы біблейскіх і евангельскіх падзей. Біблейскія персанажы апраналіся бедна, і ўсё зводзілася да цудаў Майсея, які шчасліва вывеў вандруючых па Егіпту. Такія спектаклі абыходзіліся без эксцэсаў.

Крыху інакш успрымаліся начальствам пастаноўкі на тэмы евангелля. Патупчык гэтых персанажаў капіраваў з лубачных малюнкаў. Не абыходзілася і без кур'ёзаў. Апосталаў і вешчуноў ён ствараў па «вобразу і падабенству» мясцовага служкі культа і тых свяшчэннікаў, якія прыязджалі на фэст.

Патупчык не карыстаўся сімпатыяй мясцовага і навакольнага духавенства. Вельмі часта за скажэнне вобразаў біблейскіх і евангельскіх герояў ён трапляў у няміласць мясцовага свяшчэнніка і прыстава. Бывалі выпадкі, калі на вачах у публікі ў яго забіралі і ламалі лялькі. Але забараніць прадстаўленне ўлады не адважваліся, бо пабойваліся народа.

Патупчыка вельмі любілі як простыя людзі, так і прагрэсіўная інтэлігенцыя. У дні кірмашоў Патупчык у сваіх пастаноўках расказваў народу пра ўсе навіны, добрыя і благія. Батлейка Патупчыка была своеасаблівай газетай не толькі свайго горада.

У яе рэпертуары знаходзілі адлюстраванне і падзеі, якія адбываліся нават за межамі Барысаўскага павета. Патупчык ведаў усе навіны дня, жыццё і побыт амаль кожнага жыхара. Свае лялькі ён набліжаў да кожнага вобраза, які заслугоўваў увагу з боку грамадскасці і народа, паказваў гэтыя вобразы з адмоўнага ці станоўчага боку і гэтым самым выхоўваў гледача.

Для шырокіх колаў народа яго рэпертуар быў інакшым. Сярод персанажаў быў просты сялянскі люд, памешчыкі, земскія, прыставы, ураднікі, гарадавыя, шынкары і інш. Асабліва вылучаліся два сатырычныя вобразы: гарадавы Мікіта і земскі Арскі.

Мікіта «ўдзельнічаў» амаль ва ўсіх пастаноўках Патупчыка. Мікіта — заўсёды п'яны стары з вялізнай кабурой (пісталета не было), у якую яму засоўвалі хабар. Патупчык паказваў гарадавога як чалавека, які за хабар мог зрабіць усё.

Другі сатырычны вобраз, таксама непасрэдна ўзяты з жыцця,— вобраз хамелеона-земскага, які мякка слаў, але ад яго «падсцілак» было цяжка народу.

У рэпертуары Патупчыка фігураваў і «злодзей», успамін аб добрых справах якога доўга жыў у народзе. Пастаноўка гэта называлася «Як злодзей быкоў у лапці апрануў».

У першай дзеі расказвалася аб тым, як сяляне з'явіліся да памешчыка Гурыновіча з просьбай вярнуць кароў, якія былі забраны ў іх за патраву панскага поля. Але ніякія ўгаворы сялян не дапамагаюць. Пан збівае іх, а кароў пакідае сабе як выкуп за патраву. Паколькі грошай у сялян не было, яны пайшлі за дапамогай да злодзея.

Другая дзея. Мужыкі ў злодзея. Той гутарыць з імі і просіць прынесці дваццаць пар лапцей.

У трэцяй дзеі злодзей гоніць з панскага хлева абутых у лапці сялянскіх кароў і двух панскіх быкоў.

Патупчык пры гэтым тлумачыў гледачам:

Каб быкі былі босыя,
Быў бы злодзею капут,
За яго ўдалы розум
Людзі добрым ўспамянуць.

Далей расказвалася, што жывёла была зарэзана і раздадзена беднякам.

Патупчык паказваў і другую сцэну пад назвай «Пра панну Мальвіну і маліну». Сюжэт яе наступны. Дзяўчаты збіралі ў лесе маліну. Панна, якой належаў лес, паслала свайго ўпраўляючага забраць у дзяўчат маліну. Верны служка выканаў загад.

Прагная панна аб'ядаецца гэтай малінай і са стогнамі і сударгамі паміpae ад халеры, як тлумачыў Патупчык.

А пасля паказваліся мучэнні, якія зносіць панна Мальвіна ў пекле. Над паннай здзекаваліся чэрці, і немаведама для чаго паказвалася «всевидящее око». Гэта сцэна рабіла моцнае ўражанне на гледача.

У рэпертуары тэатра былі пастаноўкі і па песнях таго часу: «Верабей, верабей, не клюй маіх канапель, а я ж гэтаму вераб'ю колам ножкі пераб'ю...»

Тэмай гэтай пастаноўкі быў паказ шкоднасці зладзейства, патраваў і іх вынікаў.

Успамінаю яшчэ адну пастаноўку на тэкст песні:

— Гоп, гоп Ясю, куды ты паехаў?
— Да Івана.
— Што Іван робіць?
— Сена косіць.
— Нашто яму сена?
— Кароў карміць.
— Нашто яму каровы?
— Малако даіць.
— Нашто яму малако?
— Дзетак карміць.
— Нашто яму дзеткі?
— Жалуды збіраць.
— Нашто яму жалуды?
— Свіней карміць.
— Нашто яму свінні?
— Горы капаць.
— Нашто яму горы?
— Золата здабываць.
— Нашто яму золата?
— У скрыню хаваць...

Гэта першая карціна паказвалася з усімі персанажамі, людзьмі і жывёламі. Пытанні задаваў Патупчык, які стаяў каля скрыні.

Другая карціна пачыналася пытаннем Патупчыка да Яся: «Што б ты рабіў з золатам?» І адразу ў скрыні з'яўлялася шмат розных жывёлін, якіх Ясь карміў сенам. У часе кармёжкі з-пад хвастоў у жывёлін, сыпаліся бліскучыя залатыя манеткі. Іх збіралі ў кошык. Ясь надзяваў яго на сябе, праганяў жывёлу і пераможна крочыў па скрыні, раскідаючы грошыкі па полі.

У гэтай пастаноўцы Патупчык іншасказальна гаварыў пра

карысць жывёлагадоўлі і пра выкарыстанне арганічных угнаенняў.

Акрамя паказу спектакляў на кірмашах, Патупчык абслугоўваў вяселлі і вечарынкі.

Сапраўды народная сутнасць большасці спектакляў, яркая мова, вострая крытыка адмоўных грамадскіх з'яў, абарона простага народа, самабытная творчасць — усё гэта прыцягвала людзей да тэатра Патупчыка. Іменна ў гэтым заключаецца прычына папулярнасці яго батлейкі, чуткі пра якую выйшлі далёка за межы горада, дзе жыў і працаваў Патупчык.

## ЖЫВАЯ БАТЛЕЙКА

### Мацей

У нашым сяле на калядныя святкі на вечарынках заместа батлеяў дык робюць так: адзін, каторы прыстаўляе сябе за Мацея, другі за яго жонку, а трэці за дохтара.

Мацей *(трымаючыся за жывот)*. Быў я ў пана Баранёўскага на куцці, аблопаўся куцці, не магу сайці, не магу пайці, ні шагнуць, ні зяўнуць ні да сваёй жонкі зайці. Што мая жонка Уллянка ні рабляла: гаршчок на пупе стаўляла, нічога не памагала — яшчо болі залягло. Парадзілі схадзіць у Раўськаго аптэку купіць моху, чартапалоху, курынай жоўці, камарыных кішак і яшчо нечага троху, зрабіла баўтузнік, стукнуў, выпіў — нічога не памагае, яшчо горай далягае. Во каб нашоўся паночак ды палячыў мой жываточак,— аддаў бы торбу, сякеру і платочак.

Доктар Баўтрумей *(прыходзіць)*. Здароў, Мацей.

Мацей. Здароў, пане Баўтрумей.

Доктар Баўтрумей. Што табе баліць?

Мацей. А тут, пане, каля пупа рэзачка рэжа.

Доктар Баўтрумей. Пыляж брушком, а я паслухаю вушком... Эге, Мацей, у цябе сямілетняя трасца трасе. Трэба табе на поты даць, са лба кроў пусціць, на патыліцы банкі паставіць. *(Малатком стукае Мацею па жываце.)* Мацей—пацей! Мацей — пацей!

Мацей усхапіўся, а доктар драла ў ногі. Даганяючы яго, Мацей стукнуўся ў дзверы.

Мацей. Во каб цябе паветрые! Напацеў, намацеў і сам к чорту паляцеў. А каб ён ясно соўнушко не аглідаў, не лечыць — калечыць. Ну, дакляраваў жа даць асьміну бобу,— алі цяпер хваробу! Ах, каб яго дагнаў, я б костачкі паламаў!

Уллянка *(уваходзіць)*. Пойдзем, пойдзем, мой курдзюрка! Я лянок і грыбкі застаўлю і табе кватэрачку пастаўлю. *(Бярэ яго пад пахі і, ідучы, пяе.)*

А божа мой! Толькі
Аборачкі тонкі;
Ніхто замуж не бярэ,
Аборачак не саў'е.
А мой мужык Дамянік —
Яго розум не вялік.
Як я была дзеўкай,
Цяпер маладзічкай,
За добрым мужыком,
Ды не за п'янічкай.
Сякі-такі мужчына,
За ім дровы і лучына;
Як я за яго завалюся,
Я нікога не баюся.
Сякі-такі — абы быў,
Солі-хлеба каб купіў.

### Мацей і доктар-шарлатан

Мацей. Авей, авей, вох, вох, вох! Вот, мае паночкі, быў я ў пана Бараноўскаго на куцці, да як пад'еў куцці, дак не магу сапці! Што мая Ульяна ні рабіла — і гаршчок на пупе станавіла,— да і тое не памагло, да яшчэ горш прылягло. Парадзілі мне галасу, купервасу да бурачнаго квасу, моху, чартапалоху і яшчэ нечага (забыўся) троху — усё гэта зелля скалаціць да выпіці. Зрабіў я і гэся,— не памагло, яшчэ горш прылягло. Вот каб нашоўся дактарочак да палячыў мой жываточак,— аддаў бы яму і торбачку, і мяшочак!

Доктар-шарлатан (*уваходзіць*). Што табе, мужык?

Мацей. А вот, паночак, нястраўнасць, бурчэнне, рэзачка, абянбеніла як Антонаву казу!

Доктар. Кладзіся, мужык! Як цябе завуць?

Мацей. Мацей.

Доктар (*б'е яго кіем, прыгаворваючы*). Пацей, пане Мацей!

Мацей (*устае, а доктар уцякае*). А ліхо тваей мацяры! Напацеў, намацеў да й сам к чорту паляцеў! Вот, каб дагнаў, вот бы ў плечкі нагрукатаў!

### Мужык пасля каляд

Ай-ей, ай-ей, ох, ох, ох!
Ох! Мае ж вы людкове.
Быў я ў суседа Ігнася на куцці,
Так ніяк не мог да хаты дайці.

Што мая Марыся ні рабіла,
Дай гаршчок на пупе станавіла,
Дай тое не памагло,
Яшчэ горш прылягло!
Парадзілі мне галасу, купарвасу,
Дай бурачнага квасу,
Дай моху, чартапалоху,
Чабру, жабру, гароху,
Дай яшчэ нечагось троху
Спарыць, дай нагном выпіць.
Трэйчы піў, не памагло,
Яшчэ горш прылягло!
Так паміргаваўшы, кажу:
Пайду я да дохтара,
Каб вылечыў мой трыбушочак,
Дам я яму з грашыма мяшочак.

Прыйшоў я да яго, так ён пытае:

— Што табе, чалавечку?

— А от, паночку, гракаціць, бурчыць, разачка — чысто мяне адула, як Янкавага быка на канюшні.

Так ён кажа:

— Кладзіся, распраніся! А як цябе завуць?

— Ля, Мацей!

Дай то як стаў мяне церці асовым калком, дай кажа: «Пацей, мой ты Мацей!» А мне аж проста вочы на лоб паўлазілі, а ён не ўважае, усё сваёй робіць да робіць, а потым за мой мяшок, дай пашоў, як шашок!

### Батлея

Дзеючыя асобы і выканаўцы

Круль — Чурак Яўхім (памёр).
Крулёвая — Еўтух Палікарп (жыве ў Нясвіжы).
Два казакі — Гесь Сцяпан (памёр),
Еўтух Антон (жыве ў Гусаках).
Доктар — Бобік Павел Мікалаевіч.
Паненка — Юшкевіч Антон Адамавіч.
Чорт — Бобік Уладзімір.
Дзед — Гесь Іван.
Анёл — Гесь Платон.
Гетман — Еўтух Пётр.

Каралю рабілі карону з паперы з кутасом, ленту цераз плячо і чырвоны пояс. Казакі таксама апрануты і шаблі з дзерава параблены былі, шапкі казацкія. У доктара быў капялюш, аку-

ляры, невялічкая бародка «казельчыкам», плашч або паліто — такі інтэлігентны выгляд. Паненку іграў мужчына, пераапрануты ў жаночае. Чорту надзявалі маску з рагамі і вывернуты чорны кажух. Рабілі яму хвост.

Хадзілі пераважна на каляды, але і ў іншы час. Адзін казак заходзіць у хату і пытае дазволу, арымаўшы яго, заве ўсіх. Першы засядае кароль, садзіцца на лаўку, побач два казакі. Усе астатнія ўдзельнікі стаяць убаку, разам з гледачамі, якіх звычайна набівалася поўная хата.

Круль. Засядам на едным злоцістым троне і хцэм жэбы цалой жыдоўскай земей керовалі ме длоні. Заволаць мі гетмана пшебочнего пана.

Казак выклікае гетмана. Той уваходзіць.

Гетман. Стае на твэ расказы, крулю без мазы.

Круль. Пуйдзь, гетмане, да батлеі і вшысткім дзецем гловы пасцінаць. Навэт вэдлуг расказу мэго сына не омінаць.

Гетман. Спэлням росказ.

Выходзіць, а ў гэты час з'яўляецца Анёл.

Анёл. Ох, крулю горонцо коханы. Цо зо зла навіна: ты хцэш страціць свэго сына. Я естэм анёл з неба посланы. Не бэндзеш, крулю, мял короны, не бэндзеш збавёны, не бэндзеш мял ласкі, цо засвенцэн з неба бляскі.

Круль. Ідзь, я не розумем, цо ты гадаш.

Крулева. Ох, крулю горонцо коханы, цо за зла новіна: ты хцэш страціць свэго і мэго сына. Я пуйдэ ў далёкія страны, у цёмныя лясы, у высокія скалы, жэбы мае вочы не відзялі, а ўшы не слышалі.

Круль. Ідзь дзе хчэш і як хчэш, так собе і поцеш. Гетман ма распондно чловэ, тэго вэзьме на розмовэ.

У гэты час казак выклікае гетмана, які ў тазу прыносіць галаву сына.

Гетман. Ото маш, крулю, гловэ твэго сына на документ.

Круль. Ох, глова моя, глова, як засмуціла сэрцэ мое. Дайце мне багнэта, тэраз пшэбіе сам себе.

Чорт падае каралю багнет-фінку, кароль забівае сябе, і роля яго скончылася.

Казак. Да позбылісь мы свэго вельможнэго пана, тэраз мы будзем піць віно са збана, будзем піць і гуляць, непрыяцеля з Польшчы выганяць.

Грае музыка, казакі танцуюць, уваходзіць Элегант.

Элегант. Я естэм элегант першэй клясы; на млоды паненкі цэлусы ласы. Я былэм в далёкай краіне, у немецкага круля ў

гасціне. У него было пенць цурэчак, і кожна як цукерэчак. Я ім вшысткім не могл догодзіць і мусял проч адходзіць. Пошол я на рынэчэк купіць собе грушэчэк і натрафіл на трох цузоземцув. Оні мне споткалі і на службу запрошалі. На кавалэк хлеба заробіць потшэба, служба была... но в тэй службе ніц добрэго, бо цузоземцы вучылі до злэго. А до чэго ж, мае панове? Куры красць, гэнсі біць і до ніх пшыносіць. Но я хлоп хоць малы, но на вшыстке ўдалы. Забіл кура слепэго, зналязл гэнся дохлэго і пшынёсл до пана свэго. Но пан мне за то не похваліл, а кія по спіне ўваліл. Тэраз тшэба шукаць заробку новэго, але для мне ніц труднэго, бо я ест элегант новы, мам загарэк цыновы, мам люлечку з можскей гліны і цыбучэк з коноплiны. Мам на шыі чтыры хусткі, а кішэні вшыстке пусты, пента в рэнку потычона і та патшэ в чужэ стронэ. Мам на глове чапке, на вежу квятка, бяла як вятка, кеды не вежыце, то вшыстке забачыце.

Пиказвае гэту шапку і выходзіць. Уваходзіць Доктар.

Доктар. Я естэм лекаж в Палестыны, лечэн кобет і дзеўчыны, мам лекі, пшылекі, ружнэ запасы і для зэмбов купетвасы. Кто бэндзе ў мне куповаць, от тэго пенендзы не бэндзе потшэбоваць, а тылько жэбы з паненкай потанцоваць.

Уваходзіць паненка.

Паненка. Я естэм нед нездрова, а хора, пшышла до пана доктара.

Доктар. А-а, панна ма латанэ панчушкі і од тэго достала рэўматызму ў путкі.

Паненка. А хоць не цалэ, а латанэ, рэўматызму ў путкі не дастала.

Доктар. А можа панна пуйдзе зэ мной потанцоваць?

Паненка. О не, я не естэм така простачка, жэбы пошла з паном казачка. Як пан мі да доляра, бэндзе з панам цэлу ноц гуляла.

Доктар. Я не дам еднэго, я дам два і музыкантам на буты, жэбы зыгралі з ахоты. *(Доктар просіць музыку іграць і танцуе з паненкай.)*

Потым паненка выходзіць, а ўваходзіць стары дзед у беларускім бурнусе, крэхча, трымае ў руках кій, сам гарбаты, з барадой ільняной. У час дзеяння чорт круціцца вакол дзеда, чапляе яго хвастом, а той толькі адмахваецца кіем.

Дзед. Каб вы ведалі, мае людзі добрыя, што мне за прычына стала! Як мая жонка Агата наварыла чорнае (смачнае) верашчакі, як я наеўся ды намакаўся — чуць мой кіндзюк не разарваўся. І чаго я не рабіў! Мачаў я каўбасу ў бурачным квасу, гэта нічога не памагло. Яшчэ нараілі мне добрыя людзі выпіць

гарнец чыстага дзёгцю, каб жывату было палегчы, і гэта мне нічога не памагло і проста ўсё ва мне баліць, паночку, то ў жар кіне, то ў пот; у грудзях цяжка, ные спіна, рве і тузае жывот.

Доктар. А ну, стары, не лянісь, на левы бок павярнісь. (*Доктар слухае дзеда і гаворыць.*) Здаровы стары, як лёд, пражывеш яшчэ сто год.

Дзед. А ці ж праўда, паночку? Я тожа пачуўся, як быццам трохі палегчала. (*Дзед паднімаецца здаровы і з доктарам і чортам танцуюць.*)

На гэтым асноўнае дзеянне заканчваецца. Потым выходзіць доктар, кароль або дзед і звяртаецца да гледачоў:

— Я бардзо вельможнэго паньства пшепрашэм і на пшышлосць собе упрашэм, жэ мы людзі тацi малы, бэндзем паньство віншовалы. Нех пан буг вшыстко добжэ дае, як найлепшэ уродзае, добры омлоты, по 10 пудов в копы. (Калі звяртаўся да гледачоў, дзед гаварыў па-беларуску.)

### Батлея

Батлею ставілі жывыя людзі. Удзельнічалі адны мужчыны. Адзін быў за каралеву: ён быў тоненькі, у вэлюме і гаварыў гэтак тоненька. Як паехалі яны ў чужое сяло, пад Нясвіж, так гаворыць: «От ужо якая дзяўчына». Некалі ж не ездзілі, як цяперака. «От ужэ якая адважная. Так шмат хлопцаў, і яна адна ўжэ». Не зналі, што яна не дзяўчына. Валасы так схованы, пад хустачкай.

Там быў кароль. Кароль гаворыць:

Засядам, засядам
Дзісь на трон едыны,
Жэбы одбыць крулем.
Каждэго не мінэн.
Я естэм круль Гэрад валечны,
Ктуры мэдаль достае,
Ктуры цалы жыдоўскі народ
Подэ мнон достае.
Я мам крулевску парфужу
А хто мне васпрацівіць
Крулевскей натужэ.

Каралю сказалі, што нарадзіўся другі кароль. Кароль тады засмуціўся. Да яго прышоў гетман і сказаў: «Ты тут сядзіш, а нарадзіўся другі кароль».

Так ён гаворыць:

Заволайце до мне гетмана —
Пшыбытнэго пана,
Нех он пшыдзе до мне.

Ужо прыходзіць гетман. Гаворыць:

Сядзіш, круле, беспечне,
Одгродзіўсе од неба вечне,
Седзіш едэн.

Дак кароль кажа:

Знаеш, гетман —
Пшыбытны пан,
Поедзь у (сказаў месца)
Вырэж вшысткіх немаўлентаў,
Дзеўчынак пшэпусць,
А выраж мне хлапчэнты.
Мому сынові тэж не сфольгуй,
Цо до еднэго вшысткіх выматуй.

І гетман пашоў. Тады прыходзіць каралева, уваходзіць і плача:

О, крулю Геродзе,
Цо ж то дзеен у твоім родзе?
Вшысткіх дзеткі пабіў, пакалоў
І своему сыну тэж жыце не сцаліў.

А кароль гаворыць:

А цо мне по сыну,
Кеды жаль короны.
Волен быць крулем,
Нежэлі збавёным.

Пасля прыходзіць Ангел, тожа гаворыць:

Крулю, крулю Геродзе,
Цо то дзее ў твоім родзе?
Седзіш беспечне,
Одгродзіўсе од неба вечне.

А кароль:

А цуж мне по небу,
Кеды жаль короны.
Волен быць крулем,
Нежэлі збавёным.

Прыходзіць гетман, гаворыць:

Мам бацінкі саф'яновы,
Мам шапэчку калярову,
Мам я фрачэк з едным полам.
А хто з мене насмее —
Аж астатне злосць мне бежэ.

Уваходзіць чорт:

Ах, крулю Геродзе,
Цо ж то дзее ў твоім родзе,
Ўжэ цябе не бэндзе.

Ужо чорт павёў караля. І кароль павярнуўся, спіць, нежывы. А чорт патросся над ім. Прыходзіць яўрэй:

А-а, гэта трон,
Каб я сеў, быў бы чысты ён.
А як тут весело, а як тут добро.
А каб мая Сора знала да ведала,
Як я тут паную.
Як над усімі жыдкамі трылюю.

І сядзіць на троне ўжо, на каралеўскім. А тутака бяжыць чорт, жыда сапхнуў, за караля — на плечы і панёс. Вынес у кухню. Тады ўжо ўваходзіць мужык. А ўжо ж трон пусты. Уваходзіць мужык да:

— А-а, як тут зелено да весело і нешто блішчыць.

Казак ужо гаворыць:

— Здзесь трон караля.

— Якое, паночку, тут тром, дак тут мне аднаму няма дзе сесці.

Казак мужыку гаворыць:

— Здзесь прыстол!

— Якое, паночку, пад стол. Лезь сабе ты пад стол, а мне і тут добро!

Тады казак гаворыць:

— Ты забалеў, наверна!

— Забалеў, паночку. Як дала мне Агата ложачку куцці, дак я не магу сапці, а як наварыла верашчакі, дак я сусім не магу, жывот баліць.

— Дак лажысь,— гаворыць,— мужычок, я цябе вылечу.

Лёг мужык дагары спіною, дак казак:

— Спіну пераб'ю!

Мужык варочаецца:

— Рэбра паламаю!

Ужо павярнуўся мужык, а казак яму нагайкаю разы тры даў. Дак ужо мужык усхапіўся:

— А-а! От палячыў. Каб гралі гапака, так пашоў бы казака.

І пашоў ужо круціцца. Пакруціўся трохі, пакруціўся, чорт прыбег, за мужыка, тожа пацягнуў у кухню. Тады прыбягае жыд з жыдоўкай. І гэтак ужо скакалі. А жыд пяе:

А ты, шабас, не дзівуй,
Не я скачу — клопат муй.
Не я скачу — няволя,
Так казалі панове.

І пабеглі.

Усё гэтак паробяць. А кароль болей не вярнуўся, ні каралева.

Гэтак яны ўсе адзеты. Ангел ідзе — галубая паласа. Чорт быў такі нізкаваты. На ім кажух вывернуты, увесь чорны. А тут пашыта шапка і рожкі зробленыя. А тут пашыты капыткі і язык чырвоны, і ўсё. Ну, не так доўгі, але вісіць чырвоны язычок, і хвост быў. Быў хвост скручаны з дроту і абкручаны чорнаю аўчынаю, а на канцы, на самым кончыку званочак. І гэтакі чорт спраўны. Увойдзе ў хату, стаіць стол, то гэтак рукамі і сядзіць па стале. Былі ў пана з батлеяю, зайшлі. Дак гэтак той чорт скакаў і на стол, і на шафу, дак пан даў пяць злотых чорту ў жменю.

Батлею паказвалі на каляды. Зойдуць у якое сяло, там ужо скажуць, дзе якая хата каб была большая, і вот людзі сходзяцца, яны даюць білецікі, не знаю па сколькі — 20 ці 30 грошай. І тады людзі ідуць. Пастануць. Яны паставяць стуллі — трон. І тады гэтак з кухні выходзяць па адном. Але хочуць, каб у хаце з кухні дзверка і ў сенцы. Дак яны з кухні выходзяць, а ўжо ўваходзяць у другія дзверы.

Усе мужчыны былі з нашай вёскі. Адзін з Нясвіжа прыязджаў, нейкі Дойніч. Тут не было яшчэ школы, школа была ў хатцы. От яны сходзяцца ў школе на тыдні два разы. Не знаю, сколькі ён прыязджаў, і ролі панапісваў хлопцам, і гэтак яны павывучвалі.

У караля была карона: такая во шапка, а тут чатыры во як дужкі і пакрашаны залатою краскай. А пасярэдзіне стаяла такая вытачаная палачка, а наверсе месяц маленькі. Палачка не была гладзенька, а вот тут булавачка і во тут. Так красіва. І бэрло гэтак дзяржаў кароль. Гэтак вытачана. Мой бацька гэта ўсё выробляў. І зрабіў голаў, як настаяшча дзіцяча галава, падкрашана, і гэтак валосікі, усё. І тады гетман як увайшоў, ужэ і гаворыць:

Воле пад меч глову аддаць,
Як твайго расказу не выканаць.

І пашоў. І тады ўзяў голаў і нясе. І прынёс на шаблі, шаблі з Нясвіжа, настаяшчыя. На той шаблі голаў насадзіў і прыносіць. І гаворыць:

Маш глову сына свэго,
Гды ж відзіш забітэго.

Так тады ўжо кароль абняў галаву:

Ох, глова, глова сына моего,
Аж его віжу забітэго.

Гладзіць свайго дзіцяці галаву. А после гэтак прышла каралева. А як каралева прыходзіла, тады кароль на яе гаворыць. Спачатку каралева:

Ах, пуйдэ я, пуйдэ ў ляс далёкі.
Там есць глыбокія затокі,
Ці не напаткалам я такего грознэго звежа,
Нех мне нэндзно жыцё одбежэ.

А кароль:

Ідзь спеш,
Сама себе тым поцеш.

У батлеі мой дзядзько быў родны, і другі дзядзько, і дваюрадны брат мой. Дзядзька Ляпешка Мікалай Васільевіч быў каралём, і Віктар Васільевіч Ляпешка. А ангел быў ужо цёшчын сын Уладзімір Сяргеевіч Лазяга. Кароль і рабіў усе рэчы. У караля жоўта лента цераз плячо, пагоны. Штаны былі такія вузенькія, лампасы. А ў гетмана шырокія. Гетман быў у белым з палатна фрэнчы. А шапка ў гетмана была чырвоная. А потым, як другі раз рабілі, тады мой брат быў каралём.

Гэта яшчэ за Польшчай ставілі, я яшчэ замуж не ішла. Гадоў мо 18 было.

### Батлейкі ў павеце Лідскім

У Лідскім і іншых суседніх беларускіх паветах ад старажытных часоў існуе звычай, калі ў час свят Новага года і трох каралёў маладыя хлопцы абыходзяць вёскі і двары з так званымі «батлейкамі». Гэтае прадстаўленне, заснаванае на біблейскім паданні аб трох пастухах, якія выпраўляюцца ў Віфлеем, і аб каралі Ірадзе. Два гэтыя паданні складаюць змест асобных актаў — першага і трэцяга, другі з'яўляецца маналогам Пілігрыма, які носіць розныя рэліквіі. П'еса не з'яўляецца народным

творам, аб чым сведчыць колькасць лацінскіх слоў, сярод якіх сустракаюцца выразы настолькі перакручаныя, што нельга адшукаць іх першапачатковага значэння. Таму абмяжуемся тут перадачай таго звычаю, якім цікавіцца кожны і які дае адначасова спецыялістам магчымасць выкарыстаць гэты матэрыял належным чынам.

Каб даць тут грунтоўны вобраз батлеек, мушу ў некалькіх словах успомніць аб умовах, у якіх адбываецца прадстаўленне. Для яго выбіраецца звычайна найбольшая хата, усё ссоўваецца пад сцяну, пасярэдзіне ставіцца стол, каля яго крэсла. Акцёры прыбіраюцца ў суседскай хаце, дзе знаходзіцца таксама хор, які складаецца з трох-пяці мужчынскіх галасоў. На стале, на самым пачатку прадстаўлення, анёл ставіць «шопку», якая прадстаўляе з сябе домік, абклееены паперай з іконкамі Ісуса, святога Іосіфа і божай маці, крэсла, пастаўленае ля стала, павінна прадстаўляць трон, на якім сядзе Ірад. Ніякіх перапынкаў паміж актамі няма.

Анёл — звычайна малады 12-, 14-гадовы хлопец, прыбраны ў белую кашулю (часам нават у доўгія белыя, вышэй кален, панчохі), з каронай з залатой паперы на галаве і залатым кійком у руцэ.

Салдат — звычайна ў мундзіры рускай арміі, у высокім капелюшы з пяром.

Тры пастухі. Першы Матыс, зусім стары, з цяжкасцю ходзіць і гаворыць. Другі Мачыморда, трохі маладзейшы, але таксама рухаецца з цяжкасцю. Самы малады — Калібан. Два першыя — старыя з доўгімі барадамі, згорбленыя, кашляюць. Калібан — высокі брунет. Усе ў старых, абшарпаных сярмягах, у высокіх ботах і з вялікімі кіямі ў руках.

Пілігрым — малады хлопец 14—16 год, у чырвонай кашулі (рускай «рубашцы»), на ёй камізэлька, боты да кален, на галаве капялюш, перакінутая цераз руку падарожная торба з рэліквіямі, у руцэ кій.

Д'ябал. Гэтую ролю звычайна бярэ высокі парабак, худы, апрануты ў цёмную сярмягу, падпяразаную поясам, з-пад якой відаць хвост, зроблены з вяроўкі; на твары маска. Ходзіць сагнуўшыся, амаль на кукішках, падскоквае, выпростваецца, становіцца на дыбчыкі, сычыць і рычыць, чым палохае дзяўчат і кабет. Іншы раз выходзяць два д'яблы.

Кароль Гэрад — у мундзіры з залатымі эпалетамі, на галаве карона з залатой паперы.

У асноўным уся трупа складаецца з 12—15 чалавек. Ва ўсёй п'есе захавалася непасрэдная адпаведнасць з вусным арыгіна-

лам, нават у тых месцах, дзе відавочна не ставала сэнсу. Улічвалася таксама, па магчымасці, і вымаўленне.

Пададзеныя тут «батлейкі» былі прадстаўлены сялянамі мястэчка Васілішкі (Лідскага павета Віленскай губерні).

## Дзея I

Уваходзіць Анёл, ставіць шопку і запальвае ў ёй святло, гаворачы:

Нех бэндзе похвалёны Езус Хрыстус!

За сцэнай хор спявае касцёльную песню «Буг сен з панны народзіл...»

Салдат *(уваходзіць, дастае шаблю і звяртаецца да гледачоў.)* Найдрожшы клейнот з неба святу дорованы, буг му ў натужэ людзкей неогарнёны, цэна зацносці, жый, сама леквенцыя анельска вымувіць не можэ, замыкай тэ словы вербо необранцона субцэсіі часув неуконтэнтованых — нех постэмпуе крокі вельможных панув. Мы ту покажэм Бэтлеем Езуса мілэго, выданы на пляц Гэрода пышнэго, ктуры так комэдыяльне уцекл. Гэрод зэ слугамі свымі пшыводзі панув вітаць; огне, со найвенкшэ огне заліваён. Як в жэках вода плыне, нех так гонор і потомство панув на векі векув слыне.

Уваходзяць тры пастухі: першы Матыс, пасля Мачымόрда, затым Калібан.

Матыс

Нехжэ бэндзе похвалён
Пан Хрыстус вахмосьцём,
О жэбысьце радзэ былі,
Жэ я ту не чэнсто пшыбывалэм госцем.
О божэ, вы мое паньство мысліце, же я ту еден сам,
А моіх братакув ешчэ ест там! *(Паказвае кіем назад.)*
Гды я іх заволам,
Леч чылі завыён на тым пшэслічным рогу,
То аж оні станон на чтэрнастым прогу *(трубіць у рог).*

За сцэнай чуваць голас Мачымόрды: «Матыс, духа нема».

Матыс

О божэ, як я відзе, жэ в тым рогу
і дзюры нема,
А волен глосэм заволам. *(Спявае.)*
Жэнь, другу, волы жэнь,
Бо юж бялы дзень;

Жэнь волы до ляса,
Ест там травы до паса,
А лопуха до бжуха
Выгоняй!

Мачыморда *(спявае за сцэнай)*

Зашумяла зялёна домброва,
Зашумял тэж гай, гай;
Мое быдлятэчко выскакуе —
Оля, задрыгай! *(Уваходзіць.)*
О муй пане Матыс стары!
Кеды ктось порвал моего барана
І занёсл до раскошнэго шатаня.

Матыс

Не трывуж сен, Мачыморда,
Не згіне ці твуй баран:
Я відзялэм Калібана,
Спшэдаёнцэго жыдові твоего барана;
А враз го заволамы,
А урэній жэ му палкон по грзбеце,
Аж он сен пшэленкне.

*(Матыс і Мачыморда спяваюць.)*

Пшыбывай, Калібане, спешне до громады:
Мы послухамы твоіх сварув,
А ты нашэй рады.

Калібан *(спявае за сцэнай)*

Целе огон звіхнэнло,
А пес ухо зламал,
Вільк сен кобыліны обжарл
І пшэдэ мно скламал. *(Уваходзіць.)*
О відзіце ж, мое паньство,
Жэ я едным вятрэм жые,
Мое быдлятэчко не йе,
Тылько водэ піе,
А я пшывыклам до тэй раскошнэй палкі:
Пуф! Выстшэлілэм і сховалэм до своей кобялкі,
Бо гды мі та пшэпушна скурэчка зэбжэмы,
Гжэчнэй панентэчцэ на рэнкавкі дороваць зэхцэмы.
До лясу, до зелёнэй домбровы,
Гдзе звежа не таён.
Леч тылько цішкем
Людзе поядаён.

Матыс *(да Калібана)*

Выскакуе стары,
Напіўшы сен гары,
Скрэнцілэсь му барана,
Хоць не бардзо стары.

Калібан *(плачучы)*

Жэбы я так яснэго слонечка не оглёндал,
Кеды я вашэго барана осёнгал.

Матыс *(да Мачыморды)*

Патш, патш, як крэнці. *(Да Калібана.)*
Не скрэнціш му барана!
За его барана оддаш своён шокатон козэ.

Калібан

Жебы я так своей жоны і дзяток не оглёндал,
Як я вашэго барана не оглёндал.
О постойце ж, брацішкове мілі,
Пэвно на то сен змувілі,
А пуйдземы до карчмычкі,
Выпіемы гожалычкі,
Лада якей сівухі,
Бо нам об зімы пэнкаён кожухі.

Матыс *(да Калібана і Мачыморды)*

А барана запехайце
І до пшоду прэндзэй бегайце.

Калібан і Мачыморда *(разам)*

А як жэ ж мы пуйдзем посьруд цемней ноцы?
Спі ты, як баран,
Нім сен дзень заскочы.
Ты Маты стары,
Лож сен по старшэму,
А мы коло цебе по еднэму.

Калібан і Мачыморда кладуцца спаць.

Матыс *(кладучыся, звяртаецца да Мачыморды)*

Ты спі, Мачыморда,
Як на бенбне муха. *(Да Калібана.)*
А ты, Калібане,
Настаў добжэ уха. *(Кладзецца.)*

Мачыморда *(да Матыса)*

Эц, эц, шопа горэ,
Як сломо подшыта.

Матыс *(да Мачымарды)*

Спалбысь ты, спалбысь, Мачыморда стары!

Калібан *(да Матыса)*

Матыс, Матыс! Вільк седзі за ліскамі.

Матыс

Спі ты, Мачыморда, а то сен пшешчэкаш
Свэмі огонамі.

Усе засынаюць. З'яўляецца Анёл.

Анёл *(за сцэнай)*

Глорыя, глорыя, глорыя ін эксцэльсіс
Дэо, эт ін тэрра пакс гомінібус бонае волюнтаціс,
Хвала на высокосці богу,
А на земі покуй людзям добрэй волі! *(Уваходзіць.)*
Ачніце сен, Ізраэлі,
Повстаць, вітаць пана свэго,
Дзісь нам в Бэтлеем народзанэго.

Мачыморда і Калібан *(устаючы, гавораць)*

О добжэ, добжэ, жэ мы
Цебе, Марко, злапалі,
А бэндземы палкамі окладалі.

Матыс *(з цяжкасцю ўстае)*

О пастойце, брацішкове мілі,
То не тэн, цо вам козы поразпэндзал,
То архангел божы з неба.
О! Вітам це, вітам, паненэчко гжэчна,
Небеска дзеціно,
Гдзе нігды не відзано.

Анёл

Ідцеж там, гдзе велька ясносць свеці,
Знайдзеце Юзэфа, Марыю і дзіцен.
Вул с ослам пястуе,
Буг ім на векі даруе *(выходзіць)*.

М а т ы с *(да Мачымморды і Калібана)*

О добжэ ісьць, а веце ж гдзе
Бэтлеем място?

К а л і б а н і М а ч ы м о р д а

О муй пане Маты стары,
Ты служылэсь вэ двожэ,
Пшы паньскэй обожэ,
Ты гадаць лепей умеш.

М а т ы с

Пуйдземы до шопы по старшэму
Вітаць Езуса малэго *(ідзе ў пуню, кленчыць і гаворыць)*.
О вітам це, вітам, панёнтэчко гжэчнэ!
А цо вы ту робіце з дружыно небеско?
Ото я ходзілэм коло Літвіны
І пшынёслэм тэн гарнушэчэк боцьвіны *(ставіць чыгунок)*.
І до тэго дае ешчэ булэчке хлеба,
Жэбы мне пан буг з дзяткамі і з жоно
забрал до неба.

Паклаўшы хлеб, М а т ы с выходзіць. Кленчыць Мачыморда.

М а ч ы м о р д а

О вітам це, вітам, панёнтэчко гжэчнэ!
А цо вы ту робіце з дружыно небеско?
Ото дае на офярэ тэн гарнушэчэк масла,
Жэбы моя крувка добжэ сен упасла *(адыходзіць)*.

К а л і б а н *(кланяецца)*

О вітам це, вітам, панёнтэчко гжэчнэ!
А цо вы ту робіце з дружыно небеско?
Ходзілэм коло корчмычкі,
Едэн грошычэк мялэм
І тэн оддалэм.
Ніц на офярэ не пшынёслэм.

*(Тушыць свечку і выходзіць.)*

Х о р *(спявае за сцэнай)*

Поведзьце, пастэжэ мілі,
Гдзесьце под тэн час ходзілі?

Пастухі (*на сцэне*)

До Батлеем славнэго, вітаць народзонэго
З панны чыстэй — Мэсіяша,
Сконд поцеха росне наша,
Убогіх пастушкув на земі,
Гды бога на земі відземы.

Хор (*за сцэнай*)

А цуж вы там венцэй мелі,
Гды з собо венцэй не взенлі?

Пастухі (*на сцэне*)

Я мял шопэчке
Кубанэчке,
Валер кульке,
Ян кобялке
Для Езуса маленькего.

Пасля гэтай песні хор за сцэнай і пастушкі на сцэне спяваюць:

Пшы онэй доліне, в юдзкей краіне,
Гдысьмы паслі овце, в гэнстэй кжэвіне.
Кжычо: «Бежце, пастушкове, до Батлеем».

## Дзея II

Пілігрым (*уваходзіць*)

Богстранцібус тэму бостему домові,
А ктужы ту жыеце бэндзьце вшысцы здрові;
Я пельгжым убогі, з натхненя божэго,
Обходзе дружкі для збавеня моего.
Раз мне анёл напомінал,
Як я в карчме лежал,
А дружкі свенто цо до еднэй обежал.
Раз заснонлэм в гаю,
І сам неборак не поментам, як впадлэм до раю;
Я там ядлэм злотэ яблко.
Але веце, мое паньство,
Жэ то не лядача плётка,
І ешчэ, моі паньство, дужо рэліквіі зобачыце.
Найпшуд Евы — маткі кондзель зобачыце.

(*Паказвае мініяцюрную кудзелю.*)

Ото пас од Адамовэго кажуха (*паказвае папругу*),
Ктурым попасывал своего бжуха.
Ото галка з ласкі Каіна,

Ктуры забіл своего брата.
А ото чапка Ноего,
А ото окуляры Абрама старэго —
А можэ кому до очу пшыпадно,
А як пшыпадно, то аж му выпадно;
А ото кашуля Евы — севы свята.
А ото зомб сэрэнговы,
А кому зэмбы боле,
А я му полецэ,
То аж му вшыстке з гэмбы вылецо.
А то ест вжаск целенцы,
А то куры гдакане,
А то словіковэ вдзенчнэ спеване.
А то в тамтэй строне
Едні спіё, друдзы седзо,
А тшэцім смажонэ голомбкі
Самэ до гэмбы бежо.
Посруд рынку мяста
Млечна жэчка цечэ,
А ■ ней клюшкі з пшэнічнэго цяста.
А посродку рынку стоі вол печоны,
Лежы нуж і скіба хлеба;
Кажды йе і бежэ цо кому потшэба.
Муштарды тэж достаткем з-под огона бёро.
Але як я відзе, мої паньство,
Жэ вы мне ту еднымі смехамі збываце,
А воле за свое фатыге
Напіе сен гожалчыны (*п'е і засынае*).

### Анёл

Мізэрны пільгжыме, ты жыеш в эстыме,
Ты не веш, як твэ жыце леці,
Яко лётны птак.
Шатан стане, на твэ пшывітане.

За дзвярыма тройчы рычыць Д'ябал.

(*Да Д'ябла.*) Зачэкай, шатане,
Ешчэ не час твое бране.

Анёл выходз'ць. З'яўляецца Д'ябал, з рыкам скача каля Пілігрыма, а пасля забірае яго і выходзіць.

Гэрад *(узяўшыся пад бакі, ходзіць па пакоі)*

Мілі двожане, радбым з вашэй строны
Ктурэгобым ужыл до моей оброны,
Бо гды мэ сэрцэ поцешне чуе,
Не еден смутэк мне контэнтуе.

*(Сядае на крэсла, якое ўяўляе трон.)*

Салдат *(уваходзіць і агаляе шаблю)*

Пане, доведзялэм сен недавно,
Леч нам бэндзе вшысткім явно,
Жэ пэвна панна породзіла сына,
Стонд нам радосць вшысткім учыніла.

Гэрад

Цо за одглос? Сконд така новіна,
Жэ пэвна панна породзіла сына?
Повстаньце ту вшысцы, военні рыцэжэ,
І вложце на себе военнэ панцэжэ
І ідзьце в дрогэ шукаць тэй дзеціны,
Гдыбы мі одшедл муй смутэк едыны.
Под конец моему власнэму сынові жыця не даруйце,
Бо я круль Гэрод жые знаменіце.

Салдат

На росказ твуй, пане, готовісьмы вшыстко учыніць,
Враз знедбана на мечу глова сына твэго сгане.
*(Салдат выходзіць і адразу ж вяртаецца.)*
Бэндзь здрув, крулю мілосціві,
На росказ твуй вшыстко учынілі:
В Батлеем выжнэнлі чтэрнасце тысёнцы дзятэк,
Вырываёнц з роик жалослівых матэк.
Под конец твоему власнэму сынові не пофольговалі,
Од першэго дыманя коньмі гловэ стратовалі.

*(Выходзіць і, прынёсшы на шаблі галаву, аддае яе Іраду.)*

З найвенкшэй правды докуменіу тэго,
Ото маш на мечу гловэ сына твэго.

Гэрад (бярэ шаблю разам з галавой, прыглядаецца да яе, потым кідае на падлогу)

Ах, пшышло мне нешчэнслівэму Гэродові,
Же не даровалі жыця моему власнэму сынові!
Як я відзэ, жэ і мне ту смерць не міне,
Нех я разэм з своім сынэм гінэ. (*Забіваецца*).

Анёл (*з'яўляецца*)

Окрутніку Гэродзе, цо дзяткі мордуеш,
Крэв невінно пшэлеваш, бога пшэслядуеш,
Цо сен до Марыі свым мечэм годзонц,
Сына божэго до Египту водзонц,
Чэрвонэ пурпуры, погжэбовэ муры,
Крулевске яблко робак точы,
Засыпе ці смертэльным пяскем очы.

Анёл выходзіць. З'яўляецца Д'ябал.

Д'ябал (*рычыць і скача*)

Бондзь здрув, крулю мілосціві,
Зацёнгне це на Лысэ гуры —
Там з цебе сцёнгно скуры,
А потэм зацёнгно це до пекла,
Там ці сен кукелка упекла,
Смолы палёнцэ, камене гаронцэ для цебе.
(*Скачучы і рыкаючы, грозіць Іраду.*)
Бэндэ цебе шарпал тэмі пазурамі.

(*Хапае і выносіць Ірада.*)

Хор (*спявае за сцэнай*)

Вітай, крулю новы,
Сыну Давідовы!
Гэй, гэй, коленда, коленда!
Мы за паньско ласке выпіемы фляшкэ!
Пан до пані мруга,
Кажэ пшынесць друго.
Гэй, гэй, коленда, коленда!
Пан до пані жэчэ,
Кажэ пшынесць тшэце.
Гэй, гэй, коленда, коленда!
Юж шафа отварта,
Кажэ пшынесць чварто.
Гэй, гэй, коленда, коленда!

Од конта до конта,
Кажэ пшынесць пёнто.
Гэй, гэй, коленда, коленда!
(Пасля хор спявае):
Гэй за гаем, гаем,
Гаем зеляненькім...

У канцы прадстаўлення іншы раз выходзіць салдат, звяртаецца да гледачоў з віншаваннем, якога мне не ўдалося запісаць. Потым салдат здымае капялюш і збірае падарункі.

### Каляднае прадстаўленне

### *(Містэрыя)*

У трагедыі, якую я прыводжу ніжэй, выступае чатырох 14-, 16-гадовых хлопцаў-падросткаў. Усе яны — сыны мяшчан-земляробаў (каталіц. веравызн.) з м. Дзятлава. Прозвішча іх: двох— Бараноўскія, Урбановіч і Бардун. Аблічча гэтых хлопцаў сімпатычныя, маюць многа ў сабе інтэлігентнасці. Кожны сваю ролю іграе цудоўна, г. зн. не можна ім нічога закінуць а ні з пункту погляду адпаведнай характарызацыі, а ні інтанацыі голасу пры выразным вымаўленні сваіх роляў, а ні таксама з пункту погляду мімікі і смелага захоўвання на сцэне падчас спектакля.

У трагедыі «Кароль Гэрад» выступаюць наступныя асобы: 1) Кароль Гэрад, 2) Каралева, 3) Гетман, 4) Казак, 5) Чужаземец, 6) Анёл, 7) Яўрэй, 8) Чорт. (Яўрэй з казаком найбольш актыўныя, а яшчэ і таму, што маюць найбольш досціпу, атрымліваюць усеагульныя апладысменты.)

Касцюмы калі і не зусім падыходзяць, дык што ні кажыце, як на сціплыя сродкі іх уладальнікаў на сцэне ўпаўне выглядаюць добра. Яны, прынамсі, чыстыя, відаць у іх густ і нават пэўнае адчуванне характва.

Кароль Гэрад. Выступае ў доўгай чырвонай апанчы. На галаве мае хоць і папяровую, але прыгожую залацістую карону (вышыні на 1/2 локця) у форме трыножніка, абручы якога злучаны ліліямі. У руцэ ж трымае скіпетр, таксама залаты.

Скіпетр гэты, даўжынёй са звычайны кіёк, апіраецца аб зямлю, у ніжняй частцы крыху танчэйшы.

Каралева. У падобнай, толькі крыху ніжэйшай кароне. Сукенка на ёй белая, падпяразаная ў поясе чырвонай стужкай.

Анёл. У белай буфястай кашулі, перапаясаны на грудзях накрыж шырокай блакітнай стужкай, такой жа стужкай падпяразаны ў поясе.

Чужаземец. На галаве блакітная батораўка[1] з белай кітай[2], сіняя куртка, раменны пояс, нагавіцы ў боты і шабля пры боку.

Гетман. Белы плашч, падпяразаны чырвонай стужкай; на галаве высокі (ззаду ніжэйшы) малінавы каўпак, аблямаваны навокал сярэбраным галуном.

Казак. У звычайным касцюме з шабляй і бізуном.

Яўрэй. Поўны камізму, выконваў сваю ролю дасканала, наследуючы гаворку мясцовых яўрэяў. Адзін з найлепш іграючых сваю ролю (меў доўгую па пояс сівую бараду, згорблены — адно плячо крыху вышэй). Меў на сабе чорны халат, падпяразаны шэрым шарсцяным поясам, у руцэ кій, а на галаве звычайная з дашкам шапка.

Чорт. У пачварнай масцы з рагамі; на ім быў кароткі кажух, вывернуты воўнаю наверх.

На заканчэнне яшчэ можна дадаць, што акцёры справіліся са сваёй задачай без закідаў і, смела можна сказаць, маглі б служыць узорам для пераймання іншым батлейшчыкам, прадстаўленні якіх, на жаль, так часта не адпавядаюць задачы.

**Кароль Гэрад**

Чужаземец

А нех бэндзе пахвалёны
Чорны баран, верх зялёны.
Мнейшым о тым мувенц мало
Вцале мялэм едно мамэ,
Мял я ойца-чужаземца
І пожуціл мне ў маковой сукенцэ.
І вышэдлэм на вандравка,
Вэндравалэм аж пад самэ Немцэ.
І вышэдлэм на рынэчэк,
Аж кішэчкі спшэдае,
Напоткалэм 3 ромбачув.
Оні мне тэж намаўляё.
І прысталэм да еднэго
І тэж ніпэвнэго,
Бо хцялэм навучыць
Музыкі од него.
І навучыл мне мой мілы пан
Вшыстко по-своему:

[1] *Шапка.* Назва ад С. Баторыя.
[2] *Кіта* — хвост, які прычапляўся да гэтай шапкі збоку.

Куры красць, гэнсі біць
І пшыносіць ему.
Я та худы пахолэк
Здатны до тэго:
Вкрадлэм курэ,
Чворо гэнсі і качора слепэго.
Похваліл мней мой мілы пан,
Дал мне штук печэні.
А ему едно слово поведзял
Не даспадобы.
Як схіліл пенць пальцув,
Як да мі в карк,
То я з ізбы выскочыл аж до сені.
Былэм я з крулёвэй.
Кролёва мне бардзо кохала,
Я ій напрыкшыл,
Она мне вон выгнала.
Былэм я у Гадаміна (Гедыміна).
Яко у его, так і у мне
Еднакова міна.
Былэм я ■ кляштожы,
Там мне модл выдалі,
Я до ніх ні пшыстал,
Оні мне едэн вонс вырвалі.
Мам едэн фрачэк і тэж леч полы.
Як вятр завее,
Вшысцы се зэ мне смеё.

Казак

*(Адзін толькі казак на працягу ўсяго прадстаўлення не пакідае ані на хвілю сцэны.)*

Чалом, пышку.

Чужаземец

Чалом, брацішку!

Казак

Да што ты шалееш?

Чужаземец

Да нет, ты дурэеш.

Казак

Скажы мне па палаціне,
Как па бацвіне.

Чужаземец

Сукваптум, буквантум,
Пакацістум, каплейтум.
Кеды кцэш, казачэ,
То я ці з польскего вытлумачэ.
Состум, костум,
Цырум, легрум, прыплескантум.

Казак

Да, ты мне сказаў па палаціне,
Как па бацвіне.
Не дзівіцесь, гаспада,
Што я адсуда нахадзіўся.
Да я скажу па-руску,
Дзе Хрыстос радзіўсе.
Быў адзін такой бакарон,
Нападоб'е как і он.
Как вазмёць кнігу в обе рукі,
Так чытаець па азбукі.
Мы таго ні панімалі
Да смяялісь да распукі.

Чужаземец

Да ты мало молвы маеш
Да много балтаеш.

Казак

Вот я стол стаўляю,
Кавёр рассцілаю,
Каралю месцо прыгатаўляю.

Кароль *(сядаючы)*

Ото я засёнда трон свой
Для тэго едыны,
Нех глосы і ушы каждэго ні міне.
Нема в свеце пенкнейшэго над мое уродэ,
Нема огромнейшэго над мое уздэб.
Пардоне зраніла,
Дала мі шчэнсце
Такого гіркуліксово ■ парпужы.
А кто ма спжэцівіць
В моей панскей натужэ.

*(Кароль, спусціўшы галаву, засыпае на троне.)*

Яўрэй

Ці веш, круль-манарху,
Цо на коню быць можэ?
Прыдзе да штуплета,
Люб ножа *(выходзіць).*

Кароль

Сніло мі сен вэ сне,
Жэ сен народзіла дзеціна,
Жэ нас ма выбавіць каждэго воіна.
А заволайце ж мі жыську
Лейбку коханэго.
Он ма така мондра глова,
Он мне опове вшыстко,
Цо ма выніконць з тэго.
Сніло мі сен вэ сне і г. д.

Казак

Лейб, пайдзі сюда!

Яўрэй *(становіцца перад каралём)*

Беглым прэндкім крокем
Пшышлэм до іхмосці
Так з велько смялосцём.

Кароль

Сніло мі сен і г. д. (як вышэй).

Яўрэй *(адвярнуўшыся да сцяны, пачынае маліцца)*

Сора Мэйсе а вудэ
Майнэ бібэл а грэйсэ!
*(Стаўшы перад каралём.)*
Кеды кнорэк Моцек
Кцэш о тэм добжэ ведзіць,
То я мушэ тэраз
Цала правда споведзіць.
Бондзь здрув, кнорэк Моцек,
Цалуе твуй стопэк.
Цо вендзялэм, то поведзялэм.
Нех ваша іхмосць
За то мне вшыстко даруе.

Кароль

Ото мне тэ дзевенць месенцы
Бардзо засмуцуё.
Ото мне тэ дзевенць месенцы
Спакою ні даё.
Вшакжэ естэм круль Гэрод
Спулномоцны владзы,
А кто ма поцешыць
Стропёнэго пана.

Злы дух *(уваходзіць)*

Веш, круль, веш, манарху,
Абысь был за цо
Сам на сабе убацны,
Не уважай на плач
Тэх невінных матэк,
Каж ідзь до Бетлеему
Повыцінаць вшысткіх дзятэк.

Ужо тут будзе круль гаварыць.

Кароль

Словне дзісь повем,
Цо се вэ сне сніло.
Я сам на сам с пэвным
Пшыяцелем былэм.
І додалэм додал он мі зада,
Але то для мне
Бардзо пожытэчна рада
А заволайце мі гетмана
Бітнэго пана.

Казак

Вашо сіяцельство, звольце каралю!

Гетман

Сталэм на росказ,
Найяснейшы пане.
Пэлэн твоей волі,
Твэму росказаню!

Кароль

Ідзь до Бэтлеему, бі німовлента,
Бяло плец пшэпусць,
А вытні хлопчэнта.

Гетман

Ушыстко то спэлне,
Цо мі росказуеш.
В пень дзятэк вытнэ,
Кеды мне даруеш.
А нает (нават) і сынові своему
Не сфольгуеш,
Да наймнейшых дзятэк
Ушысткіх вымардуеш.

Кароль

А каж і мэ дзеце забіць,
А за то ні бэндзеш
Пшэд богем одповядаць.
Сцёнць главэ сына мэго
І пшынесь на показ глова его.

Каралева

О кролю, о пане,
О на цо ж ме так розжаліл,
Жэ невіннэ дзяткі попаліл.
Еднэ попаліл, друге позабіял,
З тых се жаднэ не вынійдзе,
Не сфольговалэсь
Тыле нарадові.
Сфольгуй хоць пшынаймней
Своему сынові.

Кароль

Ідзь сконд ты естэсь!
Не слухам я цебе
Потшэгам увагі
Жытэльносці твоій.

Каралева

О пуйдэ я скрыесе
У вельке пушчы, у дзіке скалы,
Жэбы мое очы
Тэго не відзялы.

Кароль

Ідзь сконд ты естэсь!
Не слухам я цебе,
Цо мі по небі.
Жаль мі короны.
Леч бэндэ крулем,
Нежэлі збавёны.

Анёл

Гэродзе, цо се дзее у тваім народзі:
Згінэлэсь беспечне,
Утрацілэсь небо вечне.

Гетман *(кідаючы пад ногі каралю галаву дзіцяці)*

Ото маш дакумент —
Сына свэго глова,
Абысь се роз'ясніл
Тэн сактумэнт новы.

Кароль

Ах, глова, глова сына мэго,
Юш відзе сам себе забітэго.
Жэгнамсе Рохэля,
Наймільша моя жона.
А падайце ж мі пунала,
Нех сам себе пшэбіе,
Нех укрутцэ не жые.

**Д'ябал забівае караля шабляй, кароль падае на зямлю.**

Яўрэй

Пайду ■ да караля
Як да свайго пана,
То будзе на мужыку
Ўся спіна атрэпана.
За тое, што так ён
Кашу з хлебам жраў,
То жонку, дзеці папраклінаў.
А як у печ дрова клаў,
То ўсе кахлі павыбіваў.
Ай, вуй, ай, гвалт,

Што то за навіна:
Німа караля,
Ні его сына.
Ці не лепей ему было з намі
На гэтым свеці жыць,
Як у сырой землі гніць.

*(Нахіліўшыся, нюхае.)*

А чху! а чху! *(Чхае.)*
Я думаў, што кароль спіць,
Адно ж сырою зямлёю смярдзіць!
Браў ён з нас
І драў ён з нас:
Калавоім, шмулавоім,
Айчізну, паншчызну,
Рэкруцізну драў,
Каб на ём чорт у пеклі
Скуру садраў.
А я беру каралёў карану
І кладу на сваю паршіву галаву.
Штэйцум бобэ, вельке троды,
Шэйнэ, мэйне, вайтэр броды,
Ай вуй маёхэс,
Наш кароль і падохэс.

Чорт *(за дзвярыма)*

Бам! бам! *(выскоквае).*
Ха-ха-ха! Пшышэдлэсь по круля
Яко тэж по своего пана,
Бо не учыніл он на тым свеці
Ніц добрэго.
Не был он крулем, але таранінэм,
А тэрас бэндэ постумповал
Яко з паганінэм.
Вылівалэсь крэв надар срогі,
Ідзьмо пшэз пекельнэ прогі.
*(Хапае караля і нясе да пекла.)*

Яўрэй *(кіне карону)*

Нехай на іе надыйдуць усе прахі,
Яке з-пад ніе віднэ ўсе страхі.
*(Так ужэ выдзе.)*

Яўрэй

Я па сваём каралю тужю, плачю,
Я па ём усё даброп папрачю.
*(І цягнецца рукой па карону.)*

Казак

Ні тронь, еврэй *(і нагайкай)*,
Казённая вешч!

Яўрэй *(зноў па карону)*

Казак *(як вышэй)*

Яўрэй *(па карону)*

Казак *(як вышэй)*

Яўрэй

Ну, казак, на чярка гарэлкі,
Я па сваём кароліку тужю і плачю,
Я па ём усё папрачю!
*(І зноў цягнецца па карону.)*

Казак

Ні тронь, казённая вешч!
*(І нагайкай па плячах.)*

Яўрэй

Мало табе адну чярку,
На табе другую.
Я па сваём кароліку тужю і плачю,
Я па ём усё папрачю!
*(І выцягвае руку.)*

Казак

Ні тронь, гаварю, казённая вешч!
*(І нагайкай яўрэя.)*

Яўрэй

Мало табе два, на табе трэйці.
Нехай табе бог ні дасць добраі смерці.
А я такі па сваём каролікуй і г. д.
Я ўжэ будзе брацьі

Казак *(нагайкай)*

Яўрэй

Ты п'яніца, ты зладзей.
Хто ў рысток валяўсе? Ні ты?
Каму свіня ганавіцы падрала?
Ні табе?
Чый каптан у гразі? Ні твой?
Каго свіня лычам цалавала?
Ні цібе, як ты валяўсе ў рысток?
Ты злодзей, ты іцаль, ты сабакар.
Ты ні бі мой горб,
Ты ні дажджэш маіх лет!

Казак *(за карак яўрэя, на зямлю і нагайкай. Яўрэй вырываецца і ўцякае )*

Яўрэй

Добры вечар, панове,
Пшышлэм з ўсякімі таварамі.
Маю стонжкі, спронжкі,
Шыдлы, мыдлы, шмаравідлы,
Атосы, калёсы, абмоткі,
Махоркі, тутунь горкі.

Казак

Экудава ты?

Яўрэй

З Еразалімы.

Казак

А табак у цібе ест?

Я ў р э й *(шукаючы па кішэнях)*
А вудэ майнэ тытунь?

К а з а к

А білет ты імееш?

Я ў р э й

Нашто міне білет,
Калі я ўжэ жыву
Болей як 70 лет!

К а з а к

А від ты імееш?

Я ў р э й

Нашто мне від,
Калі я ў Еразалімі
Першы жыд.

К а з а к

А прашпорт ты імееш?

Я ў р э й

Нашто міне прашпорт,
Калі я ціперэчэ бачыла чорт.
А музыка у вас ест?

К а з а к

Ест, да ні для цябе встроена!

Я ў р э й

А многа ена стоіць?

К а з а к

Дзесяць рублей!

**Я ў р э й**

Пушчай будзець 25,
Пушчай жыду пагуляць.

За дзвярыма чуваць музыка. Адзін з хлопцаў на цымбалах найграе «Казачка». *Яўрэй скача.*

**К а з а к**

Уплаціў за музыку?

**Я ў р э й**

Заплаціў ні заплаціў,
Чаго ты болій хочяш.
*(Паўтарае як вышэй.)*

**Я ў р э й** *(выцягнуўшы шапку)*

Мое панове дрогі,
Проша надарыць чымкольвечы
Маю жонку, петнасце дзеці
Німы чым хлебам карміці.

Канец

*(Батлейка)*

Пасля толькі што прадстаўленай трагедыі акцёры, перамяніўшы касцюмы на звычайную вопратку, уносяць батлейку. Яна абсталявана так: у васьміграннным (даўжынёй з локаць і на столькі ж шырыні) будынку ёсць пасярод перпендыкулярна асаджаны вал, які знізу, пад дном, заканчваецца корбай. Да гэтага вала прымацавана на спіцах (на шырыню ўсёй батлейкі) кола (гарызантальна), на якім увакруга папрылепліваны каляровыя фігуркі з паперы, што ўяўляюць выразанне немаўлят, нараджэнне Ісуса ў бэтлеемскай стаенцы, паклон пастушкоў і 3 каралі з дарамі (на краі кола ў падсвечніках гарацъ свечкі).

Акцёры, акружыўшы батлейку, падабранымі і надзвычай спетымі галасамі заводзяць наступныя календы:

1) Мэс'яш пшышэдл на свят правдзівы,
2) Паслі пастэжэ волы ў зелёным дэмброве,
3) Дня еднэго з пулноцы,
4) А вчора з вечора з небескего двора.

Урбановіч
Бранкоўскі
Бурдун
Бранкоўскі
Ткачэвіч (гэта прозвішча закрэслена).

Батлейку абодва Бранкоўскія з Бурдунам зрабілі самі без нічыёй дапамогі. А на пахвалу іх трэба дадаць, што хоць мелі на гэта скромныя сродкі, але не наразілі добры смак гледача на незадаволенасць.

# ЦАР МАКСІМІЛЯН

## Дзея першая

Скараход-маршал

*(Выходзіць на сярэдзіну пакоя і, звяртаючыся да гледачоў, гаворыць.)*

Здрастуйце, усепачценнейшыя гаспада!

Яўрэй *(перарываючы яго, з моцным акцэнтам)*

Здрастуйце, паноцкі! Вуй, як за я змёрз!

*(Бяжыць да стала і п'е гарэлку.)*

За васа здароў'е, паноцкі!

Скараход *(працягвае)*

Нізвініце мяне ў том,
Што я ў плацці худом.
Я інагда ў худом, інагда ў харошам.
Но ў мяне есць парадный мундзір,—
У ём семдзесят сем дзір
І трыццаць дзве латкі,—
Дак з мяне ўзяткі гладкі!

*(Ставіць два крэслы пасярод пакоя.)*

Прашчайце, гаспада,—
Січас к вам будзе цар суда!
*(Выходзіць.)*

Яўрэй

*(Садзіцца на адно крэсла, а на другое кладзе ногі.)*

Уй, паноцкі, сіцас мой дровасек прыдзя,
ён такій страсный,— іс пікім.

Цар уваходзіць у бліскучай вопратцы з вялізным мечам.

Во й мой дровасек!

Цар

Здрастуйце, пачценнейшыя гаспада!
Нізвініце мяне ў том,
Што я прыбыў у еты дом.
Я есць самаглаўны манарх:
Уласць мая па ўсяму свету сушчаствуе,
Я нікаму не аддаю атчота,
Я нікому не верую, кроме —
Кумірчаскім багам.
Но есць здесь у Віфлееме ў мяне
Непакорны, непаслушны сын Адольф,
Каторы атверг нашага кумірчаскага бога!
Для каго сей трон сааружон,
Кагда не для мяне, грознага цара Максіміляна?

Яўрэй *(перабівае)*

Ето длі мяне, ето длі мяне!

Цар *(не слухаючы)*

Сяду на сем троні
І буду судзіць непаслушнага і непакорнага
Сына свайго Адольфа.
*(Праганяе яўрэя з крэслаў мячом і садзіцца.)*

Яўрэй *(адыходзячы)*

Уй, які страсный.

Цар

Скараход-маршал,
Явісь прад тронам сваяго манарха!

Яўрэй *(перабіваючы)*

Скавароднік з маслам,
Ідзі к манаху!

Скараход

Фу, грозны цар Максімілян!
Пашто скарахода прызываеш,
Ці какія дзяла, указы павеляваеш?

Цар *(аддаючы зброю)*

Зняць з мяне прынадлежнасці,
Надзець на мяне прэдастоінства!

Скараход

Слушаю прыказ, іспалняю тойчас!

Яўрэй спрабуе садзіцца на свабоднае крэсла, але цар яго праганяе.

Яўрэй

Вуй, цар швыня! Учора ў мяне дровы рубаў,
а сягодні цар стаў!

Рыцары

*(Выходзяць два, несучы карону і пяюць.)*

Мы к цару ідзём,
Злат вянец нясём!
Мы главу цару накроем,
На высокі трон ўзвядзём.
Ура, ура, ура!

Яўрэй *(перадражніваючы)*

Скула, скула, скула!

Цар

*(Надзявае карону, бярэ скіпетр і дзяржаву і ўстае.)*

Сей скіпетр і дзяржава
Па ўсяму царству чэсць і слава,
На галаве карона сіяе,
Врагоў сабою ўстрашае.

*(Ходзіць.)*

Хор

Слаўся, слаўся, Русь святая,
Ты непабядзіма!
Ардэнамі грудзь пакрыта
Беларускага цара!

Цар

Скараход-маршал!

Яўрэй *(перадражніваючы)*

Скавароднік з маслам!

Цар *(не слухаючы)*

Явісь прад тронам сваяго манарха!

Яўрэй

Мі тут, ішлі!

Скараход

Фу, грозный цар Максімілян!
Пашто скарахода прызываеш,
Ці какія дзяла, указы павеляваеш?

Яўрэй

Ідзі, ешчэ малацка прынясі!

Цар

Пазваць мне непакорнага сына маяго Адольфа!

Яўрэй

Уй, луццы я пазаву свайго Вольфу!

Скараход

Слушаю прыказ, іспалняю тойчас!

Адольф

О дражаюшчы радзіцель!
Пашто Адольфа прызываеш,
Ілі какія дзяла, указы павеляваеш?

Цар

Прынясі жэртву багам!

Яўрэй

На, палажы мая брыль к нагам!

Адольф

Не магу.

Яўрэй

Палажы хуць на адну нагу!

Цар

Веруеш лі нашым кумірчаскім багам?

Адольф

Нет. Я верую ў Ісуса Хрыста
І цалую яго уста.
Вашы ж кумірчаскія бага́
Дзярзаю пад нага́!

Цар

Проч, дзерзкі, проч, непакорны!

Адольф выходзіць.

Яўрэй

Проц Адольфу, а пазваць Вольфу!

Цар

Скараход-маршал!

Скараход

Фу, грозны цар Максімілян!
Пашто скарахода прызываеш,
Ілі какія дзяла, указы павеляваеш?

Цар

Пазваць мне сына маяго Адольфа!

Скараход

Ваш прыказ ісполніцца січас!

Адольф

Пашто, радзіцель, прызываеш,
Ілі што дзелаць павеляваеш?

Цар

Каму ты веруеш?

Адольф

Госпаду маяму Ісусу Хрысту!

Цар

Проч, дзерзкій, проч, непакорный!

Адольф выходзіць.

Цар

Скараход-маршал!

Яўрэй

Скавароднік з маслам!

Цар *(не слухаючы)*

Явісь к трону сваяго манарха!

Скараход

Фу, грозны цар Максімілян!
Пашто скарахода прызываеш,
Ілі што дзелаць павеляваеш?

Цар

Пазваць мне сына маяго Адольфа!

Скараход

Слушаю прыказ, ісполню тойчас!

Адольф

Пашто, радзіцель, прызываеш,
Іді што дзелаць павеляваеш?

Цар

Веруеш лі кумірчаскім багам?

Адольф

Нет. Я верую ў Ісуса Хрыста;
А вашы кумірчаскія багá
Дзярзаю пад нагá.

Цар *(скараходу)*

Пазваць Максіма-кузняца!

Кузнец

Фу, грозны цар Максімілян!
Пашто кузняца прызываеш,
Ілі какія дзяла, указы павеляваеш?

Цар

Вазьмі етага ізвера,
Закуй у цяжкія залезы
І адвядзі ў цямніцу,—
Няхай адумаецца!

Яўрэй *(перадражніваючы)*

Дай яму грэцкую паляніцу,
Няхай давіцца.

Адольфа выводзяць.

Цар *(ходзіць у задуменні)*

Скараход-маршал!

Яўрэй

Скавароднік з маслам!

Цар *(не слухаючы)*

Явісь прад тронам сваяго манарха!

Скараход

Фу, грозны цар Максімілян!
Пашто скарахода прызываеш,
Ілі какія дзяла, указы павеляваеш?

Цар

Пазваць мне із цямніцы
Маяго непакорнага сына Адольфа!

Скараход

Слухаю прыказ,ісполню тойчас!

Адольф

О дражающчы радзіцель,
Пашто Адольфа прызываеш,
Іλі какія дзяла, указы павеляваеш?

Цар

Адумаўся λі ты!

Адольф

У мяне адна дума...

Цар

Проч, дзерзкі, проч, непакорны!
Скараход-маршал,
Явісь прад тронам сваяго манарха!

Скараход

Фу, грозны цар Максімілян!
Пашто скарахода прызываеш,
Ці какія дзяла, указы павеляваеш?

Цар

Пазваць мне Брамбаўлу-палача!

Скараход

Слушаю прыказ, ісполню сійчас!

Палач

Фу, грозны павяліцель,
Усіх стран пакарыцель!
Пашто Брамбаўлу-палача прызываеш,
Іλі какія дзяла, указы павеляваеш?
Іλі я ў чом прад табою правініўся,
Іλі войстры меч мой прытупіўся?

Цар

Ты прада мной ні ў чом не правініўся,
І войстры меч твой не прытупіўся,—
А вазьмі етага ізвера,
І завядзі яго на лобнае места,
І прэдай яго злой смерці!

Палач *(да Адольфа)*

Спяём, Адольф, песню!

Ходзяць і пяюць песню Мерзлякова «Среди долины ровныя» да канца.

Палач

Эх, Адольф, Адольф!
Как ты мне быў любім,
Так і цяпер люблю цябе!
Но па прыказу радзіцеля должан казніць.
Пайду, пайду, папрашу радзіцеля,
Не прасціць лі ён табе?

*(Да цара.)*

Прасці, прасці, грозны цар,
Маладому непакорнаму юнашу!

Цар

Нет прашчэння!
Разі, разі яго нямедленна.

Палач *(да Адольфа)*

Прашчайсь, Адольф, з народам!

Адольф *(пяе)*

О дражаюшчы радзіцель,
Не казні, ацец радной...
Шабля войстрая грыміць,
Кроў ва мне вочэнь кіпіць:
Час смярцельны наступае —
Расставацца мне з душой.

*(Скорагаворкай.)*

Прашчай, род! Прашчай, народ!
Прашчай, свяшчэнная абіцель,
І ты, ацец-душагубец!

Цар *(да палача)*

Разі, разі яго!

Палач *(да Адольфа)*

Эх, Адольф, Адольф!
Как ты мне быў любім,
Так і цяпер люблю цябе!
Грудзь церзаю і кроў праліваю,
І сам лажусь з табой у адзін гроб!

Рубіць яго шабляю, якой потым праколвае і сябе. Абодва падаюць.

Цар

Скараход-маршал,
Явісь прад тронам сваяго манарха!

Скараход

Фу, грозны цар Максімілян!
Пашто скарахода прызываеш,
Ці какія дзяла, указы павеляваеш?

Цар

Пазваць дзедушку-грабакапацеля!

Дзед *(уваходзіць, кашляючы)*

А-бгу! а-бгу! а-бгу!
К цару Максіміляну іду,
На дванаццаць камянёў табаку тру,
На дванаццаць сталоў навар п'ю.
Чаго, грозны цар Максімілян,
Дзеда-грабакапацеля прызываеш?
Ці якія дзяла, указы павеляваеш?

Цар

Прыбяры ета цела,
Штоб яно зверху зямлі не тлела,
Штоб сабакі не елі
І пціцы не клювалі!

Дзед пачынае працаваць лапатай.

Яўрэй

*(Падбягае да яго, шлёпаючы пантоплямі.)*

Сто ето касыр?

Дзед

Капыр.

Яўрэй

Як прадаес: на пуды ай на хунты?

Дзед

На шпунты.

Яўрэй

На затоўчку?

Дзед

На затычку.

Яўрэй

На гросы!

Дзед працягвае руку, яўрэй плюе яму на руку і ўцякае. Дзед гоніцца за ім. Целы ўбіраюць.

Дзея другая

Цар сядзіць на троне-стуле. Уваходзіць дзявіца, адзетая «па-моднаму», часцей за ўсё пераапрануты хлопец, збоку шабля.

Дзявіца *(да гледачоў)*

Здрастуйце, усепачценнейшыя гаспада!
Нізвініце мяне ў том,
Што я прыбыла суда.
За какую вы мяне пачытаеце:
За рускую ілі французскую?
Я есць не руская, не французская,—
Я есць прэгордая, прэхвабрая багіня...
Скольки лет, скольки зім я езджу, страждаю,
Странствую па чыстаму полю,
Па шырокаму раздоллю,
Ішчу сабе стрэшніка-папярэшніка,
З кім бы я магла біцца-рубіцца
На збрую сваю ратную,
На кап'ё булатнае
І на меч-кладзянец,—
Ну, не магла найці!
Но есць цар Максімілян.
Кагда б я яго папала,
То б збіла, зрубіла
І труп яго ў агне спаліла...

Цар *(ускоквае з месца і агаляе шаблю)*

Фу, прэгордая, прэхвабрая багіня!
Развi ты не знаеш,
Што я есць у царах цар,
У князях князь?

(Тут, відавочна, пропуск.)

Дзявіца *(падае на адно калена)*

Думала, падумала...

Цар

Не аб чым табе думаць,
Не аб чым табе гадаць:
Жыві сваім умом і розумам.

Дзявіца

Ах, не магу вас нічым уцешыць!

Цар

Нічым ты мяне не ўцешыш,
Кроме маіх белых каменных палат.
Увайдзі ў мае белы каменны палаты,
Садзісь на маім троні!

*(Указвае шабляю на крэсла, дзявіца садзіцца.)*

Яўрэй

Свадзьба будзя, грай, музыка!

*(І танцуе, губляючы туфлі.)*

Змей-Улан *(уваходзіць і пяе)*

Как прайшлі нашы красныя дзянёчкі,
Кагда я ў лужках гуляў;
Там усе пцічкі і звярочкі
Весяліліcь меж сабой.
Там, гдзе рэчка працякаець
На зялёненькім лужку,
Там, я віжу, аддыхаець
Старычок на беражку!

*(Да цара, падаючы на адно калена.)*

Жарам пылаю,
К вашай міласці на ногі ўпадаю:
Дай мне падобнага велікана,
З кім бы я мог біцца-рубіцца
На збрую маю ратную,
На кап'ё булатнае, меч-кладзянец!
А не вышлеш — горка гібель твая,
А красавіца навек мая.
Я тваё царства страблю, спалю,
Красавіцу з сабою ўвязу.

*(Адыходзіць і апіраецца на шаблю.)*

Цар

Скараход-маршал,
Явісь прад тронам сваяго манарха!

Скараход

Фу, грозны цар Максімілян!
Пашто скарахода прызываеш,
Ілі какія дзяла, указы павеляваеш?

Цар

Пазваць Аніку-воіна!

Скараход

Ваш прыказ іСполніцца сійчас!

Аніка

Фу, грозны цар Максімілян!
Пашто Аніку-воіна прызываеш,
Ілі какія дзяла, указы павеляваеш?

Цар

Зашчыцінь град Антон!

Аніка *(б'е кап'ём па падлове тры разы)*

Трах, трах, трах!
Усёй храбрасці маёй ўраг!
Сколькі лет, сколькі зім я езджу, страждаю,
Ішчу сабе стрэшніка-папярэшніка,
З кім бы я мог біцца-рубіцца
На збрую сваю ратную,
На кап'ё булатнае
І на меч-кладзянец,
І не мог найці!
А цяпер — фу-фу! Што я віжу?
Фу, фу! Што я слышу?
Падступіў пад наш град
Распраклятьі Змей-Улан
І хоча наша царства збіць, спаліць,
Красавіц з сабой увезць.
Ну нет, нет — етага не будзе!

*(Да Змея-Улана.)*

А ты што ж, распраклят Змей-Улан,
Спіш лі ты, ілі дрэмлеш?
Зачым прыбыў суда
Скверным сваім дыханнем атраўляць нашу страну?

Змей-Улан

Я не сплю, да брэжу,—
Выхвачу войстры меч,
Тойчас табе голаву зрэжу.

Аніка

Я, кагда ў вашай стране бываў,
Па тры такіх збіваў.

Змей

Кагда б ты ў нашай стране бываў,
Твой бы дух даўно не сушчастваваў!
Полна, па комнаці ходзя, фанабэрыцца,
Пара ў чыстым полі мячамі памерыцца.

Аніка

Еслі ж так — сражаюсь!

Змей

Зашчышчаюсь!

Аніка

Сражаюсь!

Змей

Зашчышчаюсь!

*(Пераможаны, падае на адно калена.)*

Ах, брат ты мой радной,
Ты паедзеш дамой,
Накажы жане маёй маладой,
Што я жаніўся на другой!
І та жана мая малада,
І ўгрума і страшна,
У чыстым полі пад кусточкам
Пасцель белу прыўбрала!
Скажы, што на такога рыцара я налучыў,
Ад каторага сабе злую смерць палучыў!

*(Да Анікі.)*

Бей у трэці раз,
Прэдавай злой смерці!

Аніка б'е, Змей падае мёртвы.

Аніка

Спі, спі, герой, на зямлі сырой,
Прах падложыш пад хвабраю тваёй галавой!

*(Да цара.)*

Вот табе, цар, услуга!

Цар

Ваздаць яму хвалу!

Хор

Хвала, хвала, хвала!

Яўрэй (*перадражніваючы*)

Скула, скула, скула!

Хор

Хвала герою,
Што град Антон спасён табою!
Вянцы лаўровы ўюцца
Над хвабраю тваёй галавой!
Ура, ура, ура!

Яўрэй (*перадражніваючы*)

Скула, скула, скула!

Цар кліча праз Скарахода дзеда-магільшчыка і загадвае яму прыбраць цела. Яўрэй прапаноўвае дзеду памагчы прыбраць і, нібы памагаючы, збівае дзеда з ног, падае сам на яго і крычыць: «Гвалт!»

## Дзея трэцяя

Ганец
(*Уваходзіць і падае пісьмо цару, які сядзіць на троне.*)

Ты не знаеш таго, што я прыслан ад каго,—
Што свет трапешчэць яго!
Ад караля Мамая цару Максіміляну:
На-ка пачытай да галавою пакачай!

Цар (*прачытаўшы пісьмо*)

Ах, божа мой, божа мой,
Што я віжу прад сабой?
Імеў я аднаго любімага сына,
І таго злой смерці прэдаў.
А цяпер цар Мамай трэбуе ад мяне
драгацэнных падаркаў.

(*Ганцу.*)

Каралю Мамаю ад цара Максіміляна:
Уместа драгацэнных падаркаў, злат —
Стрэл, копій, гранат яму пад бака.
Ізволь выходзіць у чыстае поле,
На шырокае раздолле,
Гдзе между намі будзе бальшое кровапраліцце.
Зямля патрасецца, камні распадуцца!

Мамай уваходзіць.

Ганец *(да Мамая)*

Ад цара Максіміляна каралю Мамаю:
Уместа драгацэнных падаркаў, злат —
Стрэл, копій, гранат яму пад бака!
Ізволь выходзіць у чыстае поле,
На шырокае раздолле,
Гдзе между вамі будзе сільнае кровапраліцце!

Мамай

Трах, трах, трах!
Усёй храбрасці маёй враг!
Сколькі я езджу, страждаю,
Па чыстаму полю, па шырокаму раздоллю
раз'язджаю,
Іскаў сабе стрэшніка-папярэшніка,
З кім бы я мог біцца-рубіцца
На збрую сваю ратную,
На кап'ё булатнае і на меч-кладзянец!
Із'ездзіў я ўсе светныя края,
Но не найшла душа праціўніка мая!
Но есць цар Максімілян:
Кагда б я яго папаў —
Збіў бы, зрубіў і труп яго ў агне спаліў!

Цар

Не хваліcь, калі едзеш у поле,
А тагды пахваліся, калі з поля ўбярэшся!

Мамай

А ты што за нявежа на сем троні расcеўся?
Не ты есць вярхоўны владзецель,
Я сам есць самаглаўны манарх.

Цар *(да гледачоў)*

Сматрыце, гаспада:
Заляцела варона ў чужыя харомы
Да й крача.

Мамай

Еслі так,— сражаюсь!

Цар

Зашчышчаюсь!

Мамай *(нападаючы)*

Сражаюсь!

### Цар

Зашчышчаюсь!

Змагаюцца, Мамай падае мёртвы.

Спі, герой, на зямлі сырой,
Прах падложыш пад хвабраю сваёй галавой!

### Ганец

Кулі, горы рассыпаліся...
Пасматрыце, гаспада, настала граза,
Зямля патраслась, камні распаліся.
Божа мой, божа мой,
Што я віжу прад сабой?
Віжу я, віжу мёртвае цела караля Мамая...
Ты жа, брат, душа мой,
На той свет пайдзём з табой,
Там саедзінімся з табой!
Там будуць нам райскія дзверы атвароны.
І з Магаметам будзем ізбаўлёны!
Атры, атры, атры, атры — Алла!

*(Забівае сябе.)*

Затым ідзе прыбіранне целаў з паўтарэннем рэчаў і дзеянняў, прыведзеных вышэй.

## Дзея чацвёртая

### Арап

*(Хлопец, вымазаны сажай, уваходзіць і пырскае на свечку шкіпідарам ці газай з рота, адчаго пакой напаўняецца полымем.)*

Жарам пылаю,
Глаза на неба вассылаю!
Страшусь, устрашаюсь, ад злых врагоў адбіваюсь.
Как мне не жалка, как мне не абідна:
Сколькі лет я езджу, страждаю,
Па чыстаму полю, па шырокаму раздоллю раз'язджаю,
Ішчу сабе прэгордай, прэхвабрай багіні,
А цяпер я віжу,— старык сядой,
З сядою барадой
Сідзіць з красоткай маладой!
А мяне, беднага арапскага каралеўскага сына,
У шыю таўхаюць!

Яўрэй

За то цябе ў сыю таўхаюць,
Сто ты п'яніца, сукін сын!

Цар

Прагнаць, прагнаць,
Непакорнага, непаслушнага
Арапскага каралеўскага сына!

Арап

Ты мяне праганяеш?
Я з табой іду на паядынак:
Ілі сам выхадзі, ілі мне падобнага высылай,
З кім бы я мог сразіцца!
Інача град твой сажгу,
Цябе жывога ў плен вазьму
І красавіцу з сабой увязу!

Цар

Скараход-маршал!
Явісь прад тронам сваяго манарха!

Скараход

Фу, грозны цар Максімілян!
Пашто скарахода прызываеш,
Ілі какія дзяла, указы павеляваеш?

Цар

Пазваць Аніку-воіна!

Скараход

Слухаю прыказ,ісполню тойчас!

Аніка ўваходзіць.

Яўрэй

Індык-воін, удар етага цорнага,
Каб ён здох, сукін сын!

Аніка

Фу, грозны цар Максімілян!
Пашто Аніку-воіна прызываеш,
Ілі какія дзяла, указы павеляваеш?
Ілі маё кап'ё прад табой прытупілась,
Ілі буйная галава мая прад табой правінілась?

Цар

Зашчыціць град Антон!

Аніка

Рад старацца за цара і ацечаства!

Яўрэй

Брэшаш: адзін, без жыда, не падолееш!

Аніка

Трах, трах, трах!
Усёй хвабрасці маёй враг!
Фу-фу, што я віжу?
Фу-фу, што я слышу?
Падступіў пад наш град
Распракляты чорны Рап
І хоча наша царство збіць-зрубіць,
І нас жывых у палон забраць.
Но нет, нет, етага не будзе!

*(Да Арапа.)*

А ты, распракляты чорны Рап,
Зачэм суды забраўся?
Я, кагда ў вашай чорнай Рапіі бываў,
Такіх маладцоў па двацдаць пад ногі таптаў!

Арап

Кагда б у нашай чорнай Рапіі ты бываў,
То твой прах не сушчастваваў.

Аніка

Чым на языках баўтацца,
Не луччэ лі нам у чыстым полі мячамі
паваявацца!

Арап

Еслі ж так — сражаюсь!

Аніка

Зашчышчаюсь!

Яўрэй хлопае арапа ззаду пантопляй.

Арап

Сражаюсь!

Аніка

Зашчышчаюсь!

Змагаюцца, арап падае мёртвы.

Аніка

Спі, герой, на зямлі сырой!
Прах падложыш пад хвабраю сваёй галавой!

*(Да цара.)*

Ват табе, цар, услуга!

Цар

Ваздаць яму хвалу.

Яўрэй

А скулу! Ета я цорнага з цанцурай убіў!

Хор аддае Аніку хвалу. Цар з дзявіцай устаюць і выходзяць. Музыка іграе пахавальны марш, пакуль дзед-магільшчык прыбірае цела. Яўрэй просіць у гледачоў «на лазню», невераемна пачухваючыся і выцягваючы з пэйсаў насякомых. На сцэне застаецца Аніка.

Аніка

Здрастуйце, пачценнейшыя гаспада!
Я ў ціятры не бываю дарам,
Б'ю нескалькі тысяч ударам.
Мая не дзерзкая рука,
Брасае копія ў аблака.
Нет у свеці мне раўнага,
З кім бы я мог біцца-рубіцца
На збрую сваю ратную,
На кап'ё булатнае
І на меч-кладзянец!

Рыцар *(уваходзіць)*

Паслушай, багатыр,—
Я з табой магу пабіцца!

Аніка

Фу-фу, што я віжу,
Фу-фу, што я слышу?
Пайдзём-ка ў чыстае поле на коп'і сражацца,
Тагды будзеш лі етымі рэчамі выхваляцца?

Рыцар

Не таржаствуй, зладзей: твой прах
Ужо ў маіх руках!

Аніка

Умрош, умрош, злодзей!

Хор

Ветры выюць, грабы трасуцца,
Аніка з Рыцарам дзяруцца.

Рыцар падае мёртвы, Аніка весяліцца, танцуе.

Смерць *(уваходзіць)*

Ну, полна ўжэ гуляць,
Пара ўміраць!

Аніка

Ух ты, баба рабрастая,
Чудовішча праклятае!
Как дам табе ў вісок,
Так рассыплешся ў пясок!

*(Раптам падае мёртвы.)*

## ТРОН

Дзеючыя асобы

Ірад, цар.
Аніка, яго воін.
Смерць.
Чорт.
Максімілян, цар.
Адольф, яго сын.
Брандавул, яго брат.
Багіня, нявеста Адольфа, пасля жонка Максіміляна.
Паж цара Максіміляна.
Стража яго ж (2 «жандары»).
Мамай, кароль.
Індзюх, Шампан, Буян, Капытоў — воіны.
Дзед (Стары).
Арап.
Цыган.
Яўрэй.
Доктар.
Фельшар.
Кравец.

Пры ўваходзе ў хату ўдзельнікі прадстаўлення становяцца ў два рады; паміж радамі ў адным канцы ставяць «трон» цара Максіміляна, у другім — караля Мамая; збоку ставіцца «трон» Ірада. Яўрэй звычайна ляжыць ля парога. Прадстаўленне пачынаецца агульным спевам «Ражство тваё, Хрысце, божа мой...»

### Сцэна 1-я

Ірад, Аніка, Смерць.

Ірад *(выходзіць на сярэдзіну)*. Пылам-жарам васток вазгарае! Вот, гаспада, і я к вам прыбываю. Што я, гаспада, на-

слышаў, што я навідзеў, што ў горадзе Віхліеме нарадзіўся новы цар юдзейскі, каторы мяне хоча з царскага прастола звергнуць; но я яго не ўбаюсь, я яго не ўстрашусь! Есць у мяне хвабры воін-багатыр Аніка. Ох ты, воін мой, воін, гдзе ж ты, мой воін?

А н і к а. Здзесь, здзесь, цар Ірад! Я к табе яўляюсь! Што прызываеш, какія дзяла-ўказы запавеляваеш?

І р а д. Пайдзі, брацец, ва ўсе чатыры страны, край белага свету, зайдзі ў горад Віхліем, зрубі младзенцаў мужскога полу ад двух да трох лет.

А н і к а. Пайду! *(Ірад выходзіць. Аніка пахаджае, размахвае мячом, робячы выгляд, што знішчае младзенцаў.)* Ходзіць моладзец, гуляе і мячом сваім бліскае і младзенцаў пабівае ад двух- да трохлетняга возрасту. *(З'яўляецца Ірад.)* Быў, быў, цар Ірад, край белага свету, ва ўсех чатырох странах, зрубіў младзенцаў ад двух- да трохлетняга возрасту. Ежалі мне не верыце, вот мой меч — свідзецель.

І р а д. Веру, веру, друг мой любезны; палучыш ад мяня бальшую награду *(Аніка выходзіць)*. Хаджу я, браджу ■ па чыстаму полю, па шырокаму раздоллю, нет мне стрэчніка-папярэчніка, з кем бы я мог біцца-рубіцца на збрую ратную, на меч булатны.

Х т о - н е б у д з ь. Бойся, Ірад, Смерць у парозе!

З'яўляецца С м е р ц ь.

С м е р ц ь. Вот я табе стрэчніца і папярэчніца.

І р а д *(кідаючыся да Смерці)*. Ох, ты баба, ты старуха, падзорнае ў цябе бруха!

С м е р ц ь. Я не баба, не старуха — я твая смерць!

І р а д *(спалохаўшыся)*. Ох, маць мая смерць, дай мне свабоды на тры года!

С м е р ц ь. Не дам і на тры месяца.

І р а д. Дай на тры месяца!

С м е р ц ь. Не дам я табе і на тры дня.

І р а д. Дай мне на тры дня: многа ў мяне злата-серабра, нужна яго раздаць на нішчую брацію.

С м е р ц ь. Не дам табе і на тры часа, вот табе мая вострая каса. *(Замахваецца касой, Ірад падае.)*

У с е *(пяюць)*

Врэмя льецца так, как рэчка,
Год праходзіць так, как час;
Чалавек жыве, как свечка:
Вецер дунуў — ён пагас!

Аніка. Ісцінна, гаспада, врэмя льецца так, как рэчка, год праходзіць так, как час; чалавек жыве, как свечка, вецер дунуў — ён пагас! Так і сей Ірад: учара піў, гуляў, весяліўся, но сягодня прыйшла Смерць, скасавала яго. О, пагіб Ірад, пагіб! Но я быў, гаспада, яго воін, цяпер сам прэдаю сябе злой смерці... Нет, гаспада генералы, не прэдам сябе смерці, прэдамся каралю Мамаю ухцеріцельна службу служыць.

Усе (*пяюць*)

Ох, ты Ірад, ты бязбожны,
Паспяшай скарэй ва ад,
Там вазрадуецца стралою
Сатана цех адскіх врат.
Устань, Ірад, прабудзіся,
Та й на неба пасматры:
Ясна неба разгарэлась,
Звязда на зямлю сашла!

Аніка. Полна, братцы, шумець-грымець, яго здесь ужо даўно нет!

## Сцэна 2-я

Максіміллян, Адольф, паж, яўрэй, Індзюх і Брандавул; стража.

Індзюх (*уваходзіць*). Здраствуйце, гаспада, я прышоў к вам сюда, сільны, магучы багатыр Індзюх, Індзюхін сын. Звініце ў том, што я ў плацці худом; есць у мяне адзін мундзер, я яго не адзеў.

Хто-небудзь. Зачэм ты яго не адзеў?

Індзюх. Зацем не адзеў — канхвузіцца не хацеў; сказаць вам проста: у нём дыр дзевяноста; купіць аршыны два сукна, падтачыць дліну, пусціць шырыну — будзе мундзер харош, гаспада?

Усе. Харош, харош!

Індзюх. Пажалуйце стул цару Максіміляну.

З'яўляецца Максіміллян.

Максіміллян (*стоячы перад тронам*). Ох, госпадзі, божа мой, што я віжу перад сабой! Для каго сей трон снаражон? Не для мяне добрага моладца, цара Максіміляна?

Усе. Для вас, ваша правасудзіе!

Максіміллян. Сажусь на сей трон цвярджон, буду судзіць са ўсех старон: царэй, князей, сільных і магушчых бага-

тырэй і сваяго сына Адольха. Стража мая верная, прадстаўце мне на галаву залатую карону, буду судзіць народ па закону.

Стража ў складзе двух «жандараў» нясе карону на скрыжаваных мячах.

Усе

Мы к цару ідзём, ідзём,
Злат вянец нясём, нясём,
Прасветлую карону
На галаву яго.
Трон яго высокі,
Трон яго высокі.
Вот сядзіць наш персіцкі цар,
Ура, ура, ура!

Максімілян (*надзявае карону і, узнімаючы рукі ўверх, гаворыць*). На галаве карона далёка свяціць; у правай руцэ скіпетр, у левай дзяржава. (*Сядае.*) Паж, явісь прад трон цара Максіміляна.

Прыбягае яўрэй.

Яўрэй. Пасцо вам парх?

Максімілян. Атайдзі, парх!

Хто-небудзь (*звяртаючыся да яўрэя*). Што ён табе сказаў?

Яўрэй. Харосі пан!

Уваходзіць паж.

Паж. Здзесь, здзесь, цар Максімілян! Пашто так скора прызываеш, какія дзяла-ўказы запавеляваеш?

Максімілян. Я цябе прызываю, дзяла-ўказы запавеляваю: пайдзі і прывядзі сына майго Адольха, гордага і непакорнага,— у первы раз!

Паж. І пайду, і прывяду!

З'яўляецца Адольф.

Адольф. О, дражайшы радзіцель мой, пашто прызываеш, какія дзяла-ўказы павеляваеш?

Максімілян. Я цябе прызываю, дзяла-ўказы запавеляваю: верыш лі ты нашым кімірычаскім багам?

Адольф. Нет, нет, я вашым кімірычаскім багам не верую, я верую Ісусу Хрысту, каторы распят на красту; вашы кімірычаскія богі цярзаю пад ногі!

Максімілян. Ох, богі, богі мае, якога мне сына даравалі гордага, непакорнага! (*Звяртаецца да стражы.*) Стража мая

верная, адбярыце ў яго зброю ратную (*адбіраюць меч*) і адвядзіце прэч ад мяне; ён молад чалавек — адумаецца.

Адольфа выводзяць.

У с е (*пяюць*)

Рускі цар набраў друзей,
Ён імеў сваіх арлоў,
Настаўляе цар дзяржаву.
Слава беламу цару,
Шчэ й радному
Праваслаўнаму каралю.

Паўтараецца тая ж сцэна вызаву Адольфа «ў другі раз» і яго адмова пакланіцца «кімірычаскім багам».

М а к с і м і л я н. Стража мая верная, адабраць у яго звездзю-кавалерыю і адвядзіце прэч ад мяне; млад чалавек — адумаецца.

У с е (*пяюць*)

За цара мы, друг радной,
Отамсцім мы врагоў,
Вазложым горда слова.
Слава рускім знаменом!
Станем, станем весяліцца,
Пабядзім мы врагоў.
Яшчэ рускі цар хваліўся:
«Стануць Турцы помніць-знаць».
Нашы дзеды не слыхалі,
За Балканамі зняслі,
Мы не штыкамі ўсё зыскалі,
Цару-графу пастурацъ,
Мы раскінуліс крэстом,
Сакрушылі ўсіх врагоў.

М а к с і м і л я н. Паж, явісь прад трон цара Максіміляна!

П а ж. Здзесь, здзесь, цар Максімілян! Пашто прызываеш, какіе дзяла-ўказы запавеляваеш?

М а к с і м і л я н. Пайдзі і прывядзі сына Адольха, гордага і непакорнага,— у трэці раз!

П а ж. Пайду і прывяду!

З'яўляецца А д о л ь ф.

А д о л ь ф. О, дражайшы радзіцель, пашто прызываеш, какія дзяла-ўказы запавеляваеш?

М а к с і м і л я н. Сын мой мілы, сын любезны, верыш лі ты нашым кімірычаскім багам?

Адольф. Нет, нет, я вашым кімірычаскім багам не веру; я веру Ісусу Хрысту, каторы распят на красту; вашы богі тапчу, тапчу, как сам хачу!

Максіміляя. Ох, богі мае, богі, якога сына даравалі, гордага і непакорнага! Стража мая верная, надзець яму на ногі і на рукі жалеза! Адпраўце яго ў цямніцу: млад чалавек — адумаецца!

З'яўляюцца дзед і яўрэй, пастукваюць ля ног і рук Адольфа.

Усе *(пяюць)*

Я ў пустыню ўдаляюсь
Ад пракрасных здзешніх мест.
Сколька горасцей смярцельных
Мне ў пустыне должна знесць!
Прымяніць нікак не можна,
Страсцей нельга стрэміць,
Знаць судзьба так вялела,
Мне ў разлуцы должна жыць.
Астаўляю град любезны,
Астаўляю для таго,
Што на свеце мне мілей,
Мне дарожэ за ўсяго.

Максіміляя «у апошні раз» выклікае «Адольха», той упарціцца.

Максіміляя *(устаючы з трона)*. Ох, сын мой, ты відзіш, што я пры старасці лет дзень на дзень, час на час смерці сабе ажыдаю. Прыймі скіпетр і дзяржаву, надзень на галаву залатую карону, будзеш наследнікам маяму прастолу. Ежалі ты не прыймеш скіпетр і дзяржаву, не надзенеш на галаву карону, не будзеш наследнікам маяму прастолу,— вялю цябе казніць жэстокім наказаннем.

Адольф. Нішто тваё не пральсціць: ні скіпетр, ні дзяржава, ні на галаву залатая карона, і не буду наследнікам тваяго прастола; хаця ты мяне жэстокімі казнямі казніш, но я веру госпаду Ісусу Хрысту, распятаму на красту, а вашы богі цярзаю пад ногі.

Максіміляя. О, богі мае, богі, якога вы мне сына паслалі гордага і непакорнага! Паж!

Паж. Здзесь, здзесь, цар Максіміляя! Пашто прызываеш, какія дзяла-ўказы запавеляваеш?

Максіміляя. Я дзяла-ўказы запавеляваю: прывядзі майго брата Брандавула!

Паж. Пайду і прывяду!

Уваходзіць Брандавул.

Брандавул. Ох, брат, сільны і грозны цар Максіміляні Пашто прызываеш, якія дзяла-ўказы запавеляваеш?

Максіміл ян. Я цябе, брат, прызываю, дзяла-ўказы запавеляваю: выведзь майго сына Адольха на чыстае поле, на лобнае месца, прэдай яго злой смерці. Хаця жаль мне сына дарагога, нядьзя змяніць царскага слова!

Брандавул. Пайду і прэдам! *(Звяртаючыся да Адольфа.)* Не плач, брат Адольха, горкімі слязамі, не рдзі мою хустов; як мы з табой пілі-гулялі, у чыстым полі раз'язджалі, цяпер ты атца прагневаў, вяліць цябе казніць. Пайдзі адпрасіся!

Адольф *(звяртаючыся да Максіміляна)*. Не казні, ацец!

Максіміл ян. Казніць, казніць варвара!

Адольф *(пяе)*

Вот настаў паследні дзень<br>
Душэ маёй разлукі,<br>
Ты прасці, душа, прасці!<br>
*(Рукаецца з «Багіняй».)*<br>
З бальшой горасці і скукі<br>
Должан жызнь сваю весціць.<br>
Вот пайду я ў цёмны лес,<br>
Пушчай мяне звер із'есць.<br>
Сабярыцеся ка мне,<br>
Вы, звяр'ё маё лютое!<br>
Расцярзайце мяне,<br>
Выньце з мяне сэрца рацівое,

палажыце на сярэбранае блюда і паднясіце к атцу, і пусць ацец узнае, чыё сэрца на сярэбраным блюдзе ляжыць! Калі я быў пры волі, былі друззья-прыяцелі пры мне, цяпер я ў няволі — нет нікога пры мне. Прашчай, неба і зямля, усе прыяцелі-друзья! Прашчай, род і народ, і ты, ацец, душа радной! Казні!

Брандавул. Ах, брат, Адольх, умры, умры, брат, ад Брандавулавай рукі! Цябе уб'ю і сам у гроб пайду; хоць жаль сына дарагога, але нядьзя змяніць царскага слова! Как я цябе любіў страшна, убіваю занапрасна; як я цябе люблю, так я цябе згублю! *(Забівае Адольфа і сябе; абодва падаюць.)*

### Сцэна 3-я

Максіміл ян, паж, двед, яўрэй, цыган, кравец.

Максіміл ян. Паж, явісь прад тронам цара Максіміляна!

Паж. Здзесь, здзесь, цар Максіміляні Пашто прызываеш, якія дзяла-ўказы запавеляваеш?

Максіміл ян. Я дзяла-ўказы запавеляваю: прывядзі мне старога!

Паж. Іду і прывяду. Старык!

З'яўляецца дзед.

Дзед. Сам сабе...!

Паж. Старык, ідзі к цару!

Дзед. К якому чмару?

Паж. Што ўчора настаў!

Дзед. Я ўчора спаў, а сягодня ўстаў!

Паж. Ідзі жа, ідзі!

Дзед. Дзе ж ён жыве?

Паж. Проці ліха на ўзгорачку!

Дзед. Как жа мне яго ўгадаць?

Паж. Вон залатая карона на галаве *(вядзе)*.

Дзед. Якая там карова? Які чорт карову занёс? Чы там трава, чы што?

Паж. Ідзі, ідзі!

Дзед. Как мне яго звацъ?

Паж. Ваша царскае імператарства.

Дзед. Ваша папірацельства?

Паж. Дзед, дзед, ідзі!

Дзед *(да Максіміляна)*. Ваша папірацельства, пашто страбуеце мяне так скора?

Максіміл ян. Вот, старычок, прыбяры то цела, штоб узверх зямлі не смярдзела, па нашаму царству запаху не было.

Дзед. Што ж мяне за гэта будзе?

Максіміл ян. Сем дней на нядзеле.

Дзед. Сем рублей?

Максіміл ян. Да, сем рублей.

Дзед. Есель, Есель.

Прыбягае яўрэй.

Яўрэй. Сто ты, старый сабака, не ўправішся без мене там?

Дзед. Ну, хадзі, хадзі сюда, Есель!

Яўрэй *(падбягаючы)*. Дзідку, дзідку, цыць! У іх залатыя цасы, золато есць! Пазабіраем, выразім усё; вцора горілку у мене пілі; я відыл цасы залатыя; гросэй богата. *(Робяць выгляд, што абіраюць забітых, потым закопваюць і ўтоптваюць зямлю.)*

Дзед і Яўрэй *(падыходзяць да Максіміляна)*. Васэ царскае папірацельства, мы схавалі вашага сына і другога пана; дайце нам грошэй за гэта.

Максімілян. Можа вам адзежды нада? Цяпер зіма, холадна, у вас адзежда плаха.

Яўрэй. Нет, нам не нужна адзежы, нам гросэй дайце; мы за гросі адзежы купім.

Максімілян. Вот вам, старычок і яўрэй, дваццаць пяць рублей за то, што схавалі.

Адыходзяць убок і пачынаюць дзяліць грошы.

Яўрэй. Дзідку, дзідку, ты знаес, ішол на варту, узяў у мяне горілкы кварту; ішол із варты, узял піў-кварты і рыбку таранку, і осмушку, і баранку, шчэ і кіселіку того побухаў, сто рыбка варылась. Відзіс, дзідка, цебе ніцога не прыходзіцца тут, за долг вывараџываю; ты знаес, сколька долзэн мене?

Прыбягае цыган.

Цыган. Божа вам памажы!

Дзед і Яўрэй. Здраствуйце!

Цыган. Што вы здзесь дзелаеце?

Яўрэй. От нам цар грошы даў, то мы грошы дзелім.

Цыган. За што ж ён вам даў?

Яўрэй. Мы сына яго схавалі і таго ахотніка.

Цыган. Таго, што ён на коняку мяняўся са мною?

Яўрэй. Эге, эге, таго.

Цыган вырывае в рук грошы, б'е бізуном дзеда і яўрэя і ўцякае.

Яўрэй *(б'е дзеда)*. Сто, стары сабака, гаварыў цебе: дай мене все гросы, а цяпер нема вжэ гросэй! Пойдзем, старык, да цара жаліцца. *(Да Максіміляна.)* Ваша царскае папірацельства, наляцеў Мамеля, задаў ён мене раз-два і дзеду пяць-шэсць, гросы ў нас адняў.

Максімілян загадвае пажу паклікаць цыгана.

Цыган *(з'яўляецца)*. Пашто мяня, ваша светласць, прызываеце?

Максімілян. Зачэм ты старыка этага разбіў і яўрэя і дзеньгі ў ніх адабраў?

Цыган. Хурлай мяне божа, я іх первы раз у вочы бачу!

Дзед і Яўрэй. Він, він, той самы, што ў нас грошы адняў, ваша папірацельства!

Цыган. Ваша царскае сіяцельства, я ўчора ехаў на кабылке сваей сівенькай, воны б'юцца-дзяруцца з дзедам за што-та; як я прышоў: «Божа, памажы» — кажу; ані паздароўкаліся са мной, так я тольке бумажку какую-та падняў каля іх *(паказвае грошы)*.

Максімілян. А ты, сукін сын, то ж самыя дзеньгі!

Дзед і яўрэй б'юць цыгана, ён уцякае. Дзед і яўрэй адмаўляюцца ад грошай і просяць адзенне. Максімілян загадвае прывесці краўца.

**Кравец.** Ох, цар Максіміляи, пашто так скора прызываеш, якія дзяла-ўказы запавеляваеш?

**Максіміляи.** Адмерай яўрэю на сяртук сукна харошага, а дзеду на пальто.

Кравец мерае яўрэя і дзеда і б'е іх пры гэтым аршынам.

**Цыган** (*убягаючы*). Ваша царскае сіяцельства, і мне хоць на брыль!

**Максіміляи.** Ну, кравец, адмерай і яму на брыль!

Кравец б'е цыгана па галаве.

**Усе** (*пяюць*)

Пад ракітай, пад зялёнай
Рускі на полі ляжыць;
Яго грудзь штыком прабіта,
Медны хрэст свой прыжымаў;
Кроў лілася ручаём
На лештошны на пясок;
Мелкі пташкі наляцелі,
Чуюць ласкавы кусок.

## Сцэна 4-я

Буян, Шампан, Капытоў, Брандавул.

**Буян** (*выбягае*). Я Буян, Буяноўскі, сусед правёў мяне за восемдзесят лет — за ямшчыкамі па кабакам; прышоў ка мне з падбітымі глазамі, [illegible] падбрытымі ўсамі, заросшым носам табаком, пахне лукам-часнаком і віном-кабаком. Хаджу я, гуляю па чыстаму полю, па шырокаму раздоллю; не [illegible] кем мне біцца-рубіцца на збрую ратную, на меч булатны.

**Шампан.** У мяне ківер з пяром, сэрца кіпіць серабром! Не па ўсёй Расіі сонца сіяе, на маём сэрцы любоў бывае, процiў мяне кароль шампанскі яўляўся, но я яму век не пакараўся; круціўся он, вярцеўся, на салтанскай дочэры жаніўся. Я магу з салтанам біцца-рубіцца на збрую ратную, на меч булатны!

Б'е ў шчыт Буяна, той адказвае; у гэты ж момант абодва выкідаюць з роту па снапу полымя, для чаго папярэдне набіраюць у рот газы або шкіпідару. Буян выходзіць. З'яўляецца 3-і воін — Капытоў.

**Капытоў.** Не са ўсіх старон гром грыміць, на мяне какой сапер ляціць? Нявольнаму грудзь праб'ю, на свой востры меч насаджу! Еслі мой востры меч ізагнецца, у пракраснага Брандавула кроўю сэрца абальецца!

Брандавул (з'яўляецца). Ого-го! Я ёсць Брандавул, па ўсёй Турэшчыне армістр! Процiў мяне не можа нiхто састаяць. Стану на зямлю — зямля патрасецца, охры-горы раздадуцца, Амерыкi, Ахрыкi вастрапечуцца, хачу Азiю пабядзiць, прапраснага Капытова чэсны трон адабраць! Карысь, Капытоў, не пагневайсь!

Капытоў. Не хвалiсь, богу малiсь! (Б'юцца па шчытах.)

### Сцэна 5-я

Багiня, Максiмiлян.

Багiня (уваходзiць)

Пцiчкай бы жалала
Усю вармiю злятаць,
Но ўсё бы я ўзнала,
Как страшна ваяваць.
Мой мiленькi сражаўся
Всягда ў агне,
Пуль, ядзер не баяўся,
Усё думаў аба мне.
Палажыў мяне на румяне,
Зарой мяне не асвяжыць,
Сонца мяне не грэе,
I ночкай не ўсыпiць.

Еслi б я знала, дзевушка, хто майго дружка са свету iзвёў, я б свой кiнжал востры ў яго грудзь стрэмяла!

Максiмiлян. Ох ты, дзерзкая дзявiца, зачэм такiя нечасцiвыя рэчы гаворыш?

Багiня. Жальце, жальце, радны цар, што я з вамi нявежлiва паступлiла!

Максiмiлян. Нiчэм ты мяне не ўцешыш, как не возьмеш мяне за белую руку i не правядзеш да белых каменных палат.

Багiня бярэ Максiмiляна за руку, яны прахаджваюцца i садзяцца поруч: яна — царыца.

Усе (пяюць)

Звук вясёлы раздаёцца,
Дзень шчаслiвы, дарагой;
Ты, багiня, украшайся
Сваёй ангельскай душой!

## Сцэна 6-я

Кароль Мамай, Максімілян, паж, воін.

**Мамай** *(седзячы на троне).* Пала, пала звязда з неба, асіяла белы свет. Падымаецца ардзі-орды, непабедзімы цар Максімілян! Не слыхаў, чэсць і слава, а карале Мамае? Еслі ў мяне хлеба не стане, то із Малдавіі самы первы Малай высылае. Ох, воін мой, воін, гдзе ж ты, мой воін?

**Воін.** Здзесь, здзесь я, к табе, кароль Мамай, яўляюсь, сілай падкрапляюсь. З'яўленне маё прад табой — жыць, гуляць і весяліцца з табой. Стану на горы — горы дрыжаць, куда ізволіш, кароль Мамай, пасылаць?

**Мамай.** Бяры сіе грознае пісьмо і аднясі звераломнаму цару Максіміляну і дакажы яму гордасць і непакорнасць, адзін на адзін, сто на цьму; ён нам пакарыцца, да не мы яму. Трэбуй з яго драгацэнных падаркаў свайму манарху, не карысь яму!

**Воін.** Пайду і дакажу! *(Да Максіміляна.)* Прымі, прымі, звераломны цар, сіе грознае пісьмо; ты ўзнай таго, хто прыслан ад каго! Выдай майму манарху ў атвет драгацэнныя падаркі! Узры, узры *(б'е шабляй па скрыжаваных шаблях варты)*, звераломны цар Максімілян, на высачайшыя горы, гдзе жыве кароль Мамай! Кароль Мамай, как гарнатная іскра, блішчыць перад табой — вон пойдзе туды, таржаствуе злобу, гдзе будзе валяцца поляда майго гробу; ён тваё царства сажжот, у пух-попел прэвазрасціт! *(Ідзе назад.)*

**Максімілян** *(устае).* О богі, богі, какой свет нончэ настаў! Паследнейшы кароль Мамай — і тот драгацэнных падаркаў трэбавацъ стаў. Скараход-фоцьмаршал, явісь перад трон цара Максіміляна!

З'яўляецца паж.

**Паж.** Здзесь, здзесь, цар Максімілян! Пашто так скора прызываеш, какія дзяла-ўказы запавеляваеш?

**Максімілян.** Я дзяла-ўказы запавеляваю: бяры сіе грознае пісьмо *(перадае пакет)* і аднясі абратна паследнейшаму каралю Мамаю і дакажы яму гордасць-непакорнасць за сваё ацечаства, за яго непакалябімасць, адзін на адзін, сто на цьму; ён нам пакарыцца, да не мы яму: палучыць уместа драгацэнных падаркаў — пулі, ядра, калёныя стрэлы ў белу грудзь сваю.

**Паж.** Пайду і дакажу! *(Да караля Мамая.)* Прымі, прымі, пасleдні кароль Мамай, сіе грознае пісьмо. Ты знай таго, хто прысланы ад каго; на места драгацэнных падаркаў палучыш пулі, ядра і калёныя стрэлы ў белу грудзь сваю *(выходзіць).*

**Воін** (*да Мамая*). О, кароль Мамай, сколькі сілён, вайской паўбілён! Но яшчэ будзе чэсць і слава ўперадзі караля Мамая! Быў, быў, усё падробна расказаў.

**Мамай.** Што ён табе ў атвет атвячаў?

**Воін.** Вельмі груба атвячаў: «Памежду драгацэнных падаркаў палучыш пулі, ядра, калёныя стрэлы ў белу грудзь сваю».

**Мамай.** О, я і сам к яму пайду!

**Воін.** Ідзі, мой дражаюшчы кароль Мамай, я за парадкам тут пасматру. Сабярыцеся магаметанскай веры, памолімся вялікаму Багамету: «Вялікі Багамет! Да не пакінеш нашай просьбы і пабядзіш цара Максіміляна!»

**Усе.** Алла, алла! Шчадзіць!

**Мамай** (*падыходзячы да трона Максіміляна, пускае з роту агонь*). Ух, ты нечасцівы, звераломны цар Максімілян, не слыхаў чэсць-славы аб каралі Мамаі! Скочу на горы — горы дрыжаць, гляну на безьмы — безьмы кіпяць, пайду к градам — касніцкія грады ападаюць, мелкія башні па-за воблакаў лятаюць; неба і зямля растварыцца, звёзды на зямлю ўпадуць, сонца памярцвее! Так і ты, чалавек: упадзеш перад нагамі ў караля Мамая! Не прывык ты скітацца ў кеберцкіх лясах, не быў ты ў варварскіх руках, то пабудзеш!

**Максімілян.** Сколькі ты храбруеш, перад маім тронам мёртвы будзеш!

**Мамай.** Ты хто ёсць такі?

**Максімілян.** Я ёсць цар!

**Мамай.** Можа ты князь, правазврашчу цябе сяйчас у чорну гразь! Сражаюся з табой! (*Нападае.*)

**Максімілян.** Зашчышчаюся! (*Паражае шпагай Мамая, той падае.*) Паж, падзь прад трон цара і манарха!

Аддае загад паклікаць старога. Стары перакідваецца з пажам тымі ж прымаўкамі, што і ў 3-й сцэне.

### Сцэна 7-я

Максімілян, паж, стары, яўрэй, Чорт, доктар, фельшар.

Максімілян загадвае старому пахаваць Мамая; Стары дамаўляецца з ім аб узнагародзе.

**Стары.** І канфеткі мне будуць?

**Максімілян.** Будуць і канфеткі табе. (*Стары робіць выгляд, што хавае труп, топча зямлю.*)

**Стары.** Ваша царскае папірацельства, я зарыў таго пана, то за труды што міласць ваша?

Максімілян. Вот табе, старычок, 25 рублей, пайдзі пап'янствуй за іх.

Стары *(ідзе да дзвярэй, ля якіх ляжыць яўрэй, і стукае)*: Ёсель, Ёсель, дай мне гарэлкі!

Яўрэй. У мяне няма гарэлкі!

Стары *(працягваючы стукаць)*. Дай гарэлкі!

Яўрэй *(нібыта звяртаецца да сваёй жонкі)*. Адчыні яму, старай сабацы!

Стары. Вот на табе дваццаць пяць рублей: цар даў, штоб ты заўтра даў пахмяліцца *(налівае і п'е. Пасля пачынае прытанцоўваць, робіць выгляд, што п'яны і разам з усімі пяе)*.

І пад вішанькаю,
Пад чарэшанькаю
Стаяў стары з маладою,
Роўна з ягадаю.
Я прасілася і малілася:
— Пусці мяне, стары дзід,
На вуліцу пагуляць.
— І сам не пайду, і цябе не пушчу,
Бо ты мяне старэнькага
Пакінеш на бяду!

Стары *(зноў будзіць яўрэя)*. Ёсель! Дай пахмяліцца!

Яўрэй *(не ўстаючы)*. Стара сабака, цаго ходзіш? Ты мене спаць не даес. *(Б'е старога па спіне і піхае ад сябе.)*

Стары *(да Максіміляна)*. Вашае царскае папірацельства, мяне Ёсель пабіў, грошы ў мяне адняў, у яго пачпарта нет, он — брадзяга.

Максімілян *(традыцыйнай фразай выклікае пажа)*. Я дзяла-ўказы запавеляваю: прывядзі мне Ёселя!

Паж *(падходзіць да яўрэя і будзіць яго)*. Ёсель, Ёсель!

Яўрэй. Пусці ты, стара сабака, сукін сын!

Паж *(прадаўжае будзіць)*. Уставай, сукін сын! Зачэм пабіў, дзеньгі адняў? Ідзі к цару, сукін сын!

Яўрэй. Ну, пастой, я хоць богу памалюсь трокі! Стара сабака, я табе даў гарэлкі!

Паж. З кем ты грубіш, сукін сын? Ты бачыш, хто я такой? Ідзі к цару!

Яўрэй. Васа благародзіе, прасціце, што ■ так грубіў; ■ думаў, што старык прышоў; усю ноц не даваў спаць, я яму гарэлкі даваў; ён мяне пабіў і Рухольку маю пералякаў, і дзяцей папузаў, і вокна пабіў цісто!

Паж. Ну, ідзі ж, ідзі к цару!

Я ў р э й. Ай, ваша благародзіе, вазьміце дваццаць пяць рублей, не вядзіце толькі мяне к цару, він мяне голаву зніме, цар!

П а ж. Ідзі, ідзі к цару!

Я ў р э й. Ай, ваша благародзіе, Руколька мая цайком вас напоіць, толькі не вядзіце к цару!

П а ж. Нет, мне служба дарожа за дваццаць пяць карбованцаў.

Я ў р э й. Ну, я іду, я іду; він у мяне горілку піў, я яго знаю. *(Выбіраецца, прычэсвае бараду.)* Здраствуйце, ваша царскае імператарства, пашто вы мяне так стрэбуеце скора?

М а к с і м і л я н. Зачэм жа ты старыка гэтага разбіў і дзеньгі адняў?

Я ў р э й. Не, я яго не біў; насто ў наймічкі спадніцу ўкраў, стара сабака!

С т а р ы. Нет, ён беспашпартны, ён брадзяга; ён брэша, я ў яго нічога не краў.

М а к с і м і л я н. У яго пашпарта нет?

С т а р ы. Нет, ваша імператарства, ён брадзяга.

Я ў р э й. Він, стара сабака, кажа, сто ў мяне пашпарта нет? Я купец бярдзічаўскі; у мяне ў Бярдзічаве лаўкі: з краю ўсе чужыя і ў сярэдзіне ўсе не мае. *(Дастае пашпарт.)* Я Юдка Барковіч, Жытомірскай губерні, Бярдзічаўскага ўезду; выбран самым главным кагалам старшым рабінам ездзіць па сёлам, па гарадам, па мястэчкам, сабіраць шкуркі, габелкі, старыя кажушкі, ломаныя, добрыя гвоздзі. Я — купец; сто ты, сукін сын, чуеш, што ў пашпарце напісана?

М а к с і м і л я н. Старык, пастаў яго на часы!

С т а р ы. Станавісь на часы!

Я ў р э й. Сто! Палож мне часы, то я стану на часы.

М а к с і м і л я н. Пастаў яго, старык, на калавур, пушчай калавурыць.

С т а р ы. Станавісь, парх, на калавур! Як я служыў 25 лет цару, правіў калавур; цяпер ты паслужы, кагда ты старыка разбіў.

Я ў р э й *(бярэ ў старога булаву і ходзіць)*. Калавур! Хто там ходзіць з длінным чубуком сладкім? Калавур! *(Пры гэтым б'е дзеда булавою і мерыцца ўцячы; выскоквае Чорт, скача яўрэю на шыю і той выносіць яго на сабе.)*

С т а р ы. Ваша царскае імператарства, я праз вашы пахароны сам забалеў!

М а к с і м і л я н. Так табе доктара патрэбаваць, старычок?

С т а р ы. Так, верна, патрэбуйце дохтура.

Максімілян (*выклікае пажа*). Прывядзі доктара!

Паж. Пайду і прывяду! Дохтур!

Уваходзіць Доктар.

Доктар. Чаго ізволіце?

Паж. Ідзі к цару!

Доктар (*да Максіміляна*). Чаго ізволіце?

Максімілян. Можаш лі ты бальных людзей лячыць?

Доктар. Магу, магу! За какога вы мяне доктара пасчытаеце? За рускага алі за хранцузскага?

Максімілян. За рускага.

Доктар. Я не рускі, не хранцузскі — я штаб-лекар, турэцкі аптэкар: кроў тачу, боль лячу, чыры выразаю, вярэды ўстаўляю, на той свет народ жывой адпраўляю; ка мне вядуць на нагах, ад мяне вядуць на драўлях; ежалі мне, гаспада, не верыце, спрасіце ў пакойніка, каторы ўмер ва ўторнік, на том свеце ў лазарэце 33 года. Хвершал!

Уваходзіць фельшар.

Фельшар. Чаго ізволіце?

Доктар. Сколька ў нас бальных?

Фельшар. Сорак без аднаго!

Доктар. Нет ні аднаго!?

Фельшар. Сорак без аднаго!

Доктар. Нет ні аднаго? Пакажы хоць аднаго!

Фельшар. Іван Ягорыч (*паказвае на дзеда*).

Доктар. Іван Ягорыч, што ў цябе баліць?

Стары. Што запаліш, то й гарыць!

Доктар (*да фельшара*). Гаспадзін ад'ютант, спрасіце на рускам языке, можа ў яго баліць галава?

Фельшар. Дзед, можа быць, у цябе баліць галава?

Стары. Галава!

Доктар. То ідзі, дзедушка, к сваей старухе, вазьмі медную каструлю, прашлагодняга снегу, нынешняга лёду, казіных бабкоў, кіслага цеста і прылажы сабе да галавы, штоб не знайшоў месца і за тры дні. Старык, можа быць, у цябе баляць рукі?

Стары. На табе брукі!

Доктар (*да фельшара*). Гаспадзін ад'ютант, спрасіце яго на рускі язык, можа быць, у яго баляць рукі?

Фельшар. Дзедушка, можа быць, у цябе баляць рукі?

Стары. Рукі!

Фельшар. Рукі баляць у яго!

Доктар. Вазьмі маленькі тапарок, палажыць рукі на па-

рог, адрубіць, крылле падставіць, старога пса лятаць яго заставіць! Не баліць лі ў цябе ног?

Стары. Вот табе рог!

Доктар. Гаспадзін ад'ютант, спрасіце, не баляць лі ў яго ног?

Фельшар. Дзедушка, можа быць, у цябе баляць ногі?

Стары. Ногі!

Доктар. Узяць маленькі тапарок, палажыць ногі на парог, адрубіць, дзеравяшкі падставіць, старога пса хадзіць заставіць. *(Да гледачоў.)* Вот, гаспада, я вылечыў гэтага старыка, заслужыў сабе хрэст і медаль і адпраўляюсь у ваенну гаспіталь.

**Варыянт сцэны з доктарам**

Максіміллян, паж, ад'ютант, стары, Доктар.

Максіміллян. Пайдзі і прывядзі Марка-гробакапацеля!

Паж. Пайду і прывяду! *(Звяртаецца да старога).* Дзіду, дзіду, ідзі, цябе цар кліча.

Стары ўваходзіць.

Стары. Які чмар? Я ўчора спаў і сягодня ўстаў! А дзе він жыве?

Паж. Процiў неба на зямлі.

Стары *(спрабуе кіем).* Ого, ого, як далёка, і паліцаю не дастанеш! А на чому він веліў ехаць — на пары чы на тройці?

Паж. На пары!

Стары. Я на тройці пойіду! *(Падыходзіць.)* О, ваша высокапапірацельства, пашчо так скора прызываеце, які дзіла-ўказы запавеляваеце?

Максіміллян. Я дзяла-ўказы запавеляваю: пайдзі прыбяры гэта цела (Адольфа), штобы на сонцы не тлела, пціцы не клявалі, зверы не цярзалі, і прэдай яго сырой зямлі.

Стары. А шчо ж мені за то будзе?

Максіміллян. З носа па грошу, а з бальшога — па два. *(Стары падыходзіць да забітага.)* Аршын — то ўдоўж *(мерае),* да ўшыр адна асьмуха — цягні яго за вуха! *(Паднімае за вуха.)* У! Ваша высокапапірацельства, я цела прыбраў, собі хоробы дастаў.

Максіміллян *(кліча ад'ютанта).* Гаспадзін ад'ютант, спрасіце, што ў яго баліць!

Ад'ютант. Шчо ў цябе баліць?

Стары. Як запаліш, то й гарыць.

Ад'ютант. А шчэ шчо?

Стары. Під коліньмы більно.

Ад'ютант. А шчэ шчо?

**Стары.** На очі не чую, на ухы не бачу!

**Ад'ютант.** А шчэ шчо?

**Стары.** Волосье папухла.

**Ад'ютант.** А шчэ шчо?

**Стары.** Іды к бісаваму бацьку!

З'яўляецца **Доктар.**

**Доктар.** Фу, как мой на свеце русля, мой сатумал кушаць вкусна, калпаса ан цукір-плюкер, многа дзенежкі нажыл, как мая яго лячыла; з яго кроў мечыла, а ён відзіт, што пасобія нет, да і атправіўся на той свет; вон спрасі, еслі не верыш, таго пакойніка, што памёр прошлы год ва ўторнік. Вот табе, старык, первае срэства: вазьмі бальшой медны каструль, кавалак лёду, гусінае малако, прашлагодняга снегу, курынага масла, пастаў на цёплае месца і пуль — парска, порось — марска, пулі даверi ухадзі, стары чорт, за дзверы!

**Стары.** Заграйце весялей.

## Сцэна 8-я

Максімілян, паж, арап, цыган.

**Максімілян** *(выклікаючы пажа).* Ідзі ў белыя палаты, прывядзі чорнага арапа.

**Арап** *(з'яўляецца).* Сізкі раздаліся, на моры туманы падняліся, такі я ёсць сільны чорны арап, падымаўся вайской пад Цар-град. Стану на землю — царскія грады разаб'ю, зямля задрыжыць, цар з прастолу ўбяжыць. Ставай вармія ў рады, едзе чорны арап з арды, яго шапка з пяром, грудзь гарыць серабром.

**Максімілян.** Нашто ты, няшчасны арап, падышоў пад наш Цар-град — дань плаціць ці войска за сабой вадзіць?

**Арап.** Я не хачу дань плаціць, хачу за сабой войска вадзіць. Чаму вы мяне знаеце, што чорным арапам называеце? Я ў Арапіі бываў, сільных, магучых багатыроў пабіваў, а чорных цыганаў у гразь таптаў.

Прыбягае **цыган.**

**Цыган.** Калі ты ў Арапіі бываў, сільных, магучых багатыроў пабіваў, а чорных цыганоў у гразь таптаў, так ты б свой трон пацяраў. Я б цябе ўбіў-зарубіў, на сваю хвойду пасадзіў. Кайся перада мною!

**Арап.** Каюся перад вамі, што пакупіў груба з вамі.

**Усе** *(пяюць)*

Ох, ты поле маё,
Поле чыстае,
Ох, ты раздолле маё!

Ох, харашо ж ты, поле,
Прыўкрашанае,
А ўсё травушкай,
Ўсё муравушкай,
Ўсё цвяточкамі,
Васілёчкамі.

### Сцэна 9-я

Багіня, Брандавул, Капытоў.

Багіня. Хаджу я, гуляю па чыстаму полю, па шырокаму раздоллю; паднімуся высока, спушчуся далёка, на мальцава поле: малец явіцца, мне пакарыцца.

З'яўляецца Брандавул.

Брандавул. Ох, ты трыадская дзявіца, чаму ты мяне знаеш, што ты мяне мальцам узываеш? Алі ты маёй хвабрасці не знаеш? Пасаджу на ладонь, скіпіш, как агонь; дам табе ў вуха, астанешся глуха; дам табе ў вісок, пасыплецца з наздзёр пясок; дам табе пад бака, паднімешся выша аблака. Кайсь перада мною, што паступіла груба са мною!

Багіня. Каюсь перад вамі, што паступіла груба з вамі.

Капытоў (*в'яўляецца*). Я магу за пракрасную дзявіцу заступіцца! Цябе паб'ю, паражу, на востры меч насаджу.

Брандавул. У майго дзедушкі было 83 багатыра, я і тых пабіў-парубіў, а табе чаго?

Капытоў. Не хваліcь, богу маліcь! (*Б'юцца.*)

Усе (*пяюць*)

Красна дзевіца скanчалась
У высокім цераму,
Белы ручкі злажыла,
Накрывалі палатном.
Удруг пеўчыя запелі,
На кладбішча паняслі;
На кладбішча ўсе ўзнасілі,
Застанала ўся зямля.
Уся ўсяленная сказала,
Што пакінула душа.
Цела ў гробе атвячала:
«Падыйдзі, мілы, сюда,
Падыйдзі, мілы, пабліжа,
Вараці душу назад».
Не можна к гробу падайціць,
Нельзя душы назад звараціць!

Сцэна 10-я

Макімілян, цыган, дзед і яўрэй.

Максімілян. Цыган!

Цыган. Эге! *(Гэта паўтараецца тройчы. Цыган, дзед і яўрэй едуць утрох на палцы-«цапцы», дзед і яўрэй цуякаюць.)* Нашто, ваша імператарства, прызываеце і какія дзяла-ўказы запавеляваеце?

Максімілян. Не можна з табою на коні памяняцца?

Цыган. Можна, можна на тваю сіватую, на маю гарбатую; у тваёй сіватай грыва, как шчаціна, а ў маёй гарбатай хвост, как дубіна. Што то за лошадзь бывае, што хвастом патрасе, так за Балканы занясе; на горку тры кнута, а з горкі без хамута; бяжыць — дрыжыць, паваліцца — у гразі ляжыць. Прашу каня падняць, тагда будзем мяняць.

Максімілян. Да, цыганы па ўсяму свету такія прахвосты!

Цыган. Эй, баценька генерал, я за сваю кабылу варануюда нажыву сабе жану маладую; тады буду цыган багаты і брухаты, буду школы заводзіць да на ісцінны пуць наводзіць: как па чужых канюшнях хадзіць, па каморах лазіць; тады буду цыган не плох, маю вошай і блох; у адном кармане вош на аркане, у другом блыха на цапі. Таргаваў я кірпічом — астаўся ні пры чом; таргаваў я баранкамі — завуць мяне абманкамі; таргаваў я кісялём — завуць Васілём, а хвамілія мая Мамеля. Ге-ге-ге! Бяжу я на базар, там гарыць пажар, я бяжу з пажару — завуць мяне к цару на коней мяняць. Мяняць — не гуляць, а пасля не каяцца. Заграйце, музыкі, на разныя языкі!

Іграюць, танцуюць і пяюць.

## ЦАР МАКСІМІЛІАН

Дзеючыя асобы

Цар Максіміліан.
Адольф, яго сын.
Скараход.
Бурмаіл, Аніка, Марац — воіны.
Багіня Венера, сястра Бурмаіла.
Гусар.
Доктар.
Стары далакоп.

28. Зак. 948

Я ў р э й.
К а з а к (яго выконвае той, хто іграе ролю Бурмаіла).
Е с а у л (выконваецца разам з Гусарам).
С м е р ц ь (выконваецца разам з Далакопам).

Спачатку ўсе выканаўцы звяртаюцца з прывітаннем да гаспадара хаты, куды яны прышлі для прадстаўлення. Яны пяюць:

Пазволь, пазволь, хазяін, у нову горніцу вайці,
У нову горніцу вайці, удоль па вузенькай прайці.
Гэта праўда, гэта праўда, гэта праўда ўсё была.
(Прыпеў.)
Нет лі, нет лі у вас, хазяін, у доме лішняга браўна?
Еслі есць яно, пазволь вырубіць яго.
Нет лі, нет лі у вас, хазяін, у доме лішняга віна?
Еслі есць яно, пазволь выпіць нам яго.

А д о л ь ф. А, здрастуйце, гаспада! Вот і я прыбыў сюда. За каго вы мяне пачытаеце — за рускага ілі за караля прускага?

У с е. За рускага.

А д о л ь ф. Нет, я не рускі, не кароль пpускі, я ёсць царскі сын Адольф. Ну, цішэ, гаспада, цераз тры часа мае цар Максіміліан прыбыць сюда. Жалаеце яго відзець?

У с е. Жалаем! *(Уваходзіць Максіміліані.)*

М а к с і м і л і а н. А, здрастуйце, дзеці! Здарова, дзеці! Чаго вы сядзіце, нічога не гаварыце? Алі языкі папрысохлі?

У с е. Папрысохлі!

М а к с і м і л і а н. Нада прамачыць.

У с е. Пастарайцесь.

М а к с і м і л і а н. А вот, рэбята, ёсць у мяне па правую руку піваваранны завод, па левую — хлебны магазін. Как выкачу бочку-саракаўшку, да чорнага хлеба на закуску — давольна з вас?

У с е. Давольна!

М а к с і м і л і а н. П'яніцы!

У с е. Харашо!

М а к с і м і л і а н. За гэта ўдавольсцвіе пакараю вам сяло Турэшчыну, Нямешчыну, ▪ трэцяе месца, дзе самі пажадаеце. А вот, рэбята, как быў я ў горадзе Парыжы, да ізвініце, што ўязджаю вёрст трыста пабліжа... А вот, рэбята, как я быў у горадзе Мідалі (Італіі?), а ізвініце, што ўязджаю вёрст трыста падале... *(Падыходзіць да трона.)* Ох ты, божа мой, для каго гэты крэпкі трон сааружон? Для мяне, цара Максіміліана. Сажусь на крэпкі трон, трасецца зямля перада мной, буду судзіць вінных і нявінных, правых і няправых. Еслі жа я няпра-

вільна асуджу, занясі мяне, божа, на сіняе мора, на жоўтыя пяска, і там цару Максіміліану будзе грусць-таска. Скараход-фіцьмаршал, явісь перад трон свайго цара-манарха!

Скараход. О, грозны цар Максіміліан! Уласць маеш, нашто Скарахода прызываеш, ілі какіх указ-дзел павеляваеш? [1]

Максіміліан. А вот, пайдзі, пайдзі ў маю каменную палату, вазьмі маю скіпетр-дзяржаву і ўсю чэсць рымскую і славу.

Скараход. Пайду, пайду ў тваю каменную палату, вазьму тваю скіпетр-дзяржаву і ўсю чэсць рымскую і славу *(прыносіць)*.

Максіміліан. А вот мая знатная карона ва ўсе стораны блістала, усім маім царствам уладала. Усе рэбята мне ў атвет, сына Адольфа пры мне нет. *(Кліча, як раней, Скарахода і загадвае яму.)* Пазваць мне сына Адольфа! *(Прыводзяць.)*

Адольф. А, здраствуй, дражайшы радзіцель, уласць маеш, нашто сына Адольфа прызываеш, ілі какіх указ-дзел павеляваеш?

Максіміліан. А гдзе, сынок, дасюда быў?

Адольф. Па Волзе-рэчцы катаўся, з разбойнічкамі знаўся.

Максіміліан. А многа вас там было?

Адольф. Дванаццаць чалавек.

Максіміліан. А многа крыві пралілі?

Адольф. Как рака ліла.

Максіміліан. А кагда б я там быў?

Адольф. І табе б галава з плеч.

Максіміліан. Ох-ці, божа мой! Разве можна гасударсцвеннаму сыну па Волзе-рэчцы катацца, з разбойнічкамі знацца! *(Зноў кліча Скарахода.)* Вот, вазьмі, вазьмі майго сына Адольфа, адвядзі яго ў цёмну цямніцу, адпусці яму сухар-хлеба і паўкружкі вады — давольна з яго.

Скараход. Вазьму, вазьму твайго сына Адольфа, завяду яго ў цёмну цямніцу... і г. д. *(Паўтарае ўсё даслоўна і выводзіць.)*

Максіміліан *(зноў кліча Скарахода)*. Пазваць мне сына Адольфа. *(Прыводзяць Адольфа.)* Вот, сынок, была ў цябе маці мераканская багіня, цяпер я сабе ўзяў кумірычаскую багіню. Веруеш нашым кумірычаскім багам, залатым статуям?

Адольф. Я вашы богі сцярзаю пад ногі, верую Ісусу Хрысту, каторы распят на красту і садзяржу святы закон.

Максіміліан *(кліча Скарахода)*. Вазьмі майго сына

---

[1] Скараход выклікаецца кожны раз адной і той жа фразай і, з'яўляючыся, гаворыць заўсёды сваю стэрэатыпную фразу.

Адольфа, адвядзі яго ў цёмну цямніцу, гдзе сядзелі маскоўскія купцы: яны прадалі Маскву за тры бачонкі пяску, адпусці яму сухар-хлеба да паўкружкі вады, давольна з яго. *(Скараход паўтарае гэтыя ж словы і выводзіць Адольфа, Максіміліан адразу ж выклікае яго і патрабуе прывясці Адольфа. Яго прыводзяць.)* Ну што, сынок, адумаўся?

Адольф. Адумаўся.

Максіміліан. Апомніўся?

Адольф. Апомніўся.

Максіміліан. Как?

Адольф. Апяць так.

Максіміліан. Воін Бурмаіл!

Бурмаіл *(з'яўляецца)*. О, грозны цар... і інш. *(як Скараход)*.

Максіміліан. А вот вазьмі майго сына Адольфа, непакорнага, непаслушнага, завядзі яго на лобнае месца, зрубі яму, варвару, галаву, штобы яго, варвара, на свеце не было.

Бурмаіл. Вазьму твайго сына Адольфа, непакорнага, непаслушнага, завяду яго на лобнае месца, зрублю яму, варвару, галаву, штобы яго, варвара, на свеце не было. *(Звяртаецца да Адольфа.)* А вот, брат Адольф, как мы с табой жылі-дружылі, водачку пілі, а сейчас папаша рассярчаў, хоча галаву зняць, злой смерці прэдаць. А не ён галаву зніме, я галаву зніму, злой смерці прэдам. Што, з атцом прасціўся?

Адольф. Нікак нет.

Бурмаіл. Ну, прасцісь.

Адольф. Прашчай, дражайшы радзіцель!

Максіміліан. Казніць, казніць варварскую душу!

Адольф. Мяне сказніш, сам на свеце жыць не будзеш.

Бурмаіл. З друзьямі прасціўся?

Адольф. Нікак нет.

Бурмаіл. Прасцісь.

Адольф. Прашчай, горы, прашчай, долы, прашчай, неба і зямля! Как быў я ў атца па волі, імеў друзей даволі; как стаў пад няволей, нету друзей нікога. *(Пяе.)* Ох вы, лясы мае, лясы цёмныя, ох вы, звеṕы мае, звеṕы лютыя, прыбяжыце да мяне, пагаруйце аба мне!

Максіміліан. Смірна!

Адольф *(пяе)*. Дзверы загрыме-грымелі, ідзе ка мне грозны палач; саблі забліста-блісталі ў руках лі яго палача. Ох, што ж я за воін быў, я ў полі адзін ваяваў, ні коннаму ні пешаму праходу я мальчык не даваў. Бярыце, рубіце, не плачце пасля аба мне.

Бурмаіл. А вот я, воін Бурмаіл, царскаму сыну галаву

зніму, на меч падхвачу, у гроб палажу. Ірдзі, ірдзі непабедзіма, кацілася з неба звязда; пасматрыце, гаспада, якое стражэнне. *(Рубіць галаву Адольфу.)*

Максіміліан. Скараход-фіцьмаршал!.. і г. д. *(З'яўляецца Скараход.)* Пазваць старыка-далакопа!

Скараход. Пазаву старыка-далакопа. *(Старому.)* Старык, к цару!

Стары. Я дровы калю.

Скараход. Старык, пажалуй на бал!

Стары. Какой там чорт с печы ўпаў!

Скараход. Стары, пажалуй на водку!

Стары. Я і сам пайду. *(Уваходзіць да цара.)* Здрастуй, цар Дзям'ян!

Максіміліан. Я не ёсць цар Дзям'ян, я ёсць цар Максіміліан!

Стары. Ну, кагда цар Максіміліан, так я шапачку зняў, на каленках стаў.

Максіміліан. Вот, старычок, загадаю табе дзельца, вот прыбраць гэта цельца, штоб у нашам царстве не прэла, людзям паху не задавала.

Стары. А што мне за гэта будзе?

Максіміліан. Многа, многа, старык, і ў горсць не забярэш: з носу па грошу, а ў цябе бальшы — з цябе два.

Стары. Я так не хачу, я хачу тулуп.

Максіміліан. Да, старык, ты не глуп спрашываць тулуп. Тулупа не зносіш, а сваю галаву параньша паложыш.

Стары. Я так не хачу, я пайду.

Максіміліан. Ідзі, ідзі, старычок.

Стары. Я і сам балён.

Максіміліан. Скараход-фіцьмаршал... і г. д. *(Скараход з'яўляецца.)* Пазваць мне ваеннага доктара.

Доктар *(з'яўляецца)*. А, здраствуй, цар Максіміліан, уласць маеш... і г. д.

Максіміліан. А вот палячы мне гэтага старыка.

Доктар. А вот я ёсць лекар, над сямі землямі аптэкар, жывых лячу, мёртвым кроў брасаю. Ка мне прыходзяць на нагах, я адпраўляю на кастылях. Ка мне прыходзяць з глазамі, я глаза вынімаю, на той свет па запісцы адпраўляю, з таго света пахвальны ліст палучаю. Харош доктар?

Усе. Харош.

Доктар. Стоіць сто рублёў?

Усе. Дзвесце!

Доктар. Што ў цябе, старычок, баліць? Можа, галава?

Стары. Галава.

Доктар. Нужна яе абрыць дагала, прылажыць цеста, штобы не знайшоў у гэтай комнаце месца. А яшчэ што ў цябе, старычок, баліць? Можа, зубы?

Стары. Зубы.

Доктар. Нужна адрэзаць зубы і губы, цялячыя прыварыць і заставіць гаварыць. Как ты будзеш гаварыць?

Стары. Ме-е!

Доктар. Яшчэ што? Можа, бакі?

Стары. Бакі.

Доктар. Нужна табе даць трыццаць два кулакі да семдзесят выспідкаў, так будзеш здароў. А яшчэ што? Можа, ногі?

Стары. Ногі.

Доктар. Нужна адрэзаць ногі, ляшкі, прыставіць дзеравяшкі, на пуць наставіць, танцаваць заставіць. Як ты будзеш танцаваць? *(Стары танцуе.)*

Максіміліан. Скараход-фіцьмаршал! і г. д... Пазваць мне яўрэя-краўца!

Скараход. Яўрэй, к цару!

Яўрэй. Я кашу вару.

Скараход. Яўрэй, пажалуй на бал!

Яўрэй. Які там чорт з печы ўпаў?

Скараход. Яўрэй, пажалуй на водку!

Яўрэй. Я і сам пайду *(уваходзіць)*. Здраствуй, цар Дзям'ян!

Максіміліан. Я не ёсць цар Дзям'ян, я ёсць цар Максіміліан.

Яўрэй. Што ж мне скажаш?

Максіміліан. Вот пашый майму сыну Адольфу на смерць траурнае плацце.

Яўрэй. Пашыць вашаму сыну доўгаму на смех плацце?

Максіміліан. Вот вам з старыком на дваіх! *(Дае грошы.)*

Яўрэй. На маіх на дваіх.

Максіміліан. Прысматры, казак, за ім.

Казак *(бярэ шаблю)*. Мерай верна!

Яўрэй. Не будзе скверна, а будзе харашо. *(Мерае.)* Два аршыны, два вяршкі, тры гладышкі і чатыры куўшыны.

Максіміліан *(багіні)*. А чаго ж ты сядзіш, нічога не гаворыш? Прыдзі-ка, сама сабой пахваліся!

Багіня. А вот я, дзірыцкая, кумірыцкая багіня, па чыстаму полю хадзіла, усе землі пакарыла. Адна зямля не пакорна — Марцава поле. Паднімусь, паднімусь высока пад неба, апушчусь, апушчусь на сіняе мора, з сіняга мора на Марцава

поле. Еслі ж ка мне Марац не явіцца, майму калену не ўклоніцца, сяленні, гарады агнём сажгу, самога Марца ў плен вазьму.

Марац. Ох-ці, божа мой! Што я перад сабой віжу! Відзець не віжу, толькі жэнскі голас непрыятны слышу. Што ж тут за дзявіца, за прекрасная багіня па чужым палям таскаецца, сама сабой выхваляецца, на мяне, Марца, наразаецца пры ўсіх царах, пры ўсіх князях, пры ўсіх сільных магучых багатырах! Стрыжайся на мой булатны меч! *(Багіня становіцца на калені.)*

Бурмаіл. А вот я вам Бурмаіл, па чыстаму полю хадзіў, сваю любезную сястру згубіў. Удруг на Марцава поле сышоў, сваю любезную сястру знайшоў. Скажы, сястра Венера, перад кім стаіш на каленях?

Багіня. Перад Марцам.

Бурмаіл. За што?

Багіня. Так багам угодна.

Бурмаіл. Што ж ты за Марац, што ж ты за воін! Напаўся на дзявіцу, цярзаяш, как воўк у полі лісіцу.

Марац. А што ж ты — сват, ілі брат, ілі які сродственнік?

Бурмаіл. Я не сват, не брат, не які сродственнік; хачу біцца-рубіцца, на востры меч расхадзіцца!

Марац. Дзень і ноч не сплю, востру шаблю тачу, Бурмаілу на бок нос зварачу!

Бурмаіл. Еду, еду — не свішчу!

Марац. Я наеду — не спушчу!

Бурмаіл. Устрачайся!

Марац. Зашчышчайся!

Бурмаіл. Сражайся на мой булатны меч! *(Марац адсякае галаву Бурмаілу.)*

Марац. Вот я Марац, вот я воін храбр і буён! Няма мне ні стрэчніка, ні папярэчніка, ні здорніка, ні паборніка! Толькі мне стрэчнік і папярэчнік адзін Аніка-воін; але і той яшчэ не радзіўся, а хоць радзіўся, на каня яшчэ не садзіўся. Ён сам не зойдзе, воран касцей не занясе. *(Уваходзіць Аніка.)*

Аніка. Да не воран косць занясе, добры маладзец сам заходзіць. Што ж ты мяне, Аніку, парыцаеш пры ўсіх царах, пры ўсіх князях, пры ўсіх сільных магучых багатырах? Да мяне, Анікі, цары, князі з'язджаліся, славу і чэсць вастрыя коп'і ў зямлю тыркалі. Адна пташка ляцела, на мой шлем села, і тая маім магучым сілам пакарылась. Ну, што ж ты хочаш: біцца ілі рубіцца?

Марац. Я хачу біцца-рубіцца, на вострый меч расхадзіцца.

Аніка. Еду, еду — не свішчу!

Марац. Я наеду — не спушчу! Устрачайся!

Аніка. Зашчышчайся! Выхадзі, маладзец, на булатны меч! *(Аніка адсякае галаву Марцу.)* Вот я, Аніка-воін, храбёр і буён! Няма мне ні стрэчніка, ні папярэчніка, ні здорніка, ні паборніка! Толькі мне стрэчніца і папярэчніца лютая смерць. Але калі б і тая сейчас была, і з той бы сразіўся! *(Уваходзіць Смерць.)*

Смерць. Зарэжу!

Аніка. Адлезь, баба-юха! Як дам табе ў вуха, рассыплецца тваё мякіннае бруха!

Смерць. Зарэжу!

Аніка. Адлезь, баба! Як дам табе ў вісок, рассыплешся ў пясок!

Смерць. Зарэжу!

Аніка. А, бабушка! Дай льготы хоць на тры года!

Смерць. Не дам і на тры часа.

Аніка. Дай на тры мінуты!

Смерць. Не дам на тры мінуты.

Аніка. Дай з мірам прасціцца!

Смерць. Прашчайся.

Аніка. Прашчай, горы! Прашчай, долы! Как ехаў я паўдарогі, адрэзала баба рукі, ногі. *(Смерць варэжа яго.)*

Гусар *(пяе ў некалькі імправізаванай перадачы «Гусар, на саблю апіраясь» і «Скрабніцай чысціў ён каня»)*

Максіміліан *(Есаулу)*. А што ж ты сядзіш, нічога не гаворыш? Пайдзі ка мне скарэй, гавары са мной смялей! Калі ка мне не будзеш падходзіць, са мной смела гаварыць, у гразь утапчу, на пыл прэвращчу, закачу табе 25, а мала 25 — закачу сто, прападзе твая служба ні за што! Стань на шлюпкі, пасматры ў падзорныя трубкі, нет лі ў пні, у корані, не ў апасным камені. Не праваліць бы нам судно, не папасць на дно, там будзе ўсім халадно. Рассматрывай вярней!

Есаул. Віжу, гаспадзін атаман!

Максіміліан. Што ж ты відзіш?

Есаул. Пры Волзе-рэчцы бальшы каменны дом.

Максіміліан. Пайдзі-ка спрасі, хто ў ём? *(Там, падразумеваецца, жыве яўрэй, Есаул прыходзіць да яго.)*

Есаул. Я прышоў узнаць, як вас зваць.

Яўрэй. А я не хачу сказаць.

Есаул. Гавары скарэй!

Яўрэй. Кузьма-Фёдар Нікіціч.

Есаул *(падыходзіць да цара)*. Кузьма-Фёдар Нікіціч.

Максіміліан. Ах, гэта той Кузьма-Фёдар Нікіціч, які нам поўны карман дзенег натычыць. Пайдзі спрасі, рад ён нам?

Есаул *(яўрэю)*. Рад ты нам?

Яўрэй. Рад.
Есаул. Як?
Яўрэй. Як чарцям.
Есаул. Як, як?
Яўрэй. Як мілым гасцям.
Есаул (*прыходзіць да цара*). Рад.
Максіміліан. Як?
Есаул. Як чарцям.
Максіміліан. Як, як?
Есаул. Як мілым гасцям.
Максіміліан. А як мы к ім падайдзём?
Есаул. А лукам глаза натром да так і пайдзём.

Агульны хор (*пяе*)

Прыварачывай, рэбята, ка крутому беражку,
Ка крутому беражку, ка Настасьіну дварочку.

## ЦАР МАКСІМІЛІН

Дзеючыя асобы

Цар.
Рыцар.
Адольф.
Лекар.
Дзед з бабай.
Суддзі.
Кавалі.

Рыцар (*уваходзіць*)

Здрастуйце, гаспада, грозны цар прыдзёт сюда. Да свідання, гаспада. (*Кланяецца і выходзіць.*)

Цар (*уваходзіць*)

Здрастуйце, гаспада, грозны цар прышоў сюда. (*Задумаўся — выклікае рыцара.*) Рыцар мой, явісь перада мной, как відзіш вострьі меч перад сабой! Хто скора не бяжыць, громка не гаворыць — заб'ю, замалачу, па пояс у гразь закалачу.

Рыцар

Чаго, грозны цар, вызываеш і якое дзела павеляваеш? Вы імееце ўласць,— я яўляюсь перад вас.

Цар

Я пато цябе вызываю і табе прыказваю: пазваць майго сына Адольфа.

Рыцар выходзіць. Цар ходзіць па пакоі і думае, закурыўшы папяросу. Рыцар прыводзіць Адольфа.

Адольф

Нашто мяне, ацец, вызываеш і ў чом дзела павеляваеш? Вы імееце ўласць,— я явіўся да вас.

Цар

Я пато цябе, сын, вызываю і ў цябе пытаю: верыш лі ты маім багам ілі нет?

Адольф

Не, я вашым багам не веру! Я вашы богі тапчу пад ногі! Я вашым багам не веру!

Цар загадвае рыцару вывесці Адольфа. Цар задумаўся: што рабіць?

Цар

Рыцар мой, явісь перада мной, как відзіш востры меч перад сабой! Хто скора не бяжыць, громка не гаворыць,— заб'ю, замалачу, па пояс у гразь закалачу!

Рыцар

Чаго, грозны цар, вызываеш, у чом дзела павеляваеш? Вы імееце ўласць,— я явіўся да вас.

Цар

Я пато цябе вызываю і табе дзела павеляваю: пазваць сюда кавалёў-малайцоў! *(Рыцар выходзіць.)*

Кавалі

Чаго, грозны цар, вызываеш і ў чом дзела павеляваеш? Вы імееце ўласць,— мы явілісь да вас.

Цар

Я пато вас вызываю і вам дзела прад'яўляю: скавацъ цямніцу не бальшую, не малую — на адну галаву мудроную. *(Кавалі выходзяць.)* Рыцар мой, явісь перада мной, как відзіш востры меч перад сабой! Хто скора не бяжыць, громка не гаворыць,— заб'ю, замалачу, па пояс у гразь закалачу.

Рыцар

Чаго, грозны цар, вызываеш і якое дзела павеляваеш? Вы імееце ўласць,— я явіўся да вас.

Цар

Я пато цябе вызываю і табе прыказваю: прызваць сюда майго сына Адольфа. *(Рыцар выходзіць.)*

Адольф

Чаго, грозны ацец, вызываеш і ў чом дзела павеляваеш? Вы імееце ўласць,— я явіўся да вас.

Цар

Я пато цябе вызываю і цябе пытаю: верыш лі ты маім багам ілі нет?

Адольф

Не, я вашым багам не веру! Я вашы богі тапчу пад ногі! Вы самі балваны, вашы багі істуканы!

Цар *(узлаваўся)*

Рыцар мой, явісь перада мной, как відзіш востры меч перад сабой! Хто скора не бяжыць, громка не гаворыць,— заб'ю, замалачу, па пояс у гразь закалачу!

Рыцар

Чаго, грозны цар, вызываеш і ў чом дзела павеляваеш? Вы імееце ўласць,— я явіўся перад вас.

Цар

Я пато цябе вызываю і сейчас жа табе прыказваю: узяць майго сына Адольфа і пасадзіць яго ў цямніцу — на хлеб, на соль і на вадзіцу! І не даць яму салёных агурцоў!

Адольфа выводзяць. Цар ходзіць і нешта гаворыць сам сабе. Пасля выклікае рыцара.

Цар

Рыцар мой, явісь перада мной, как відзіш востры меч перад сабой! Хто скора не бяжыць, громка не гаворыць,— заб'ю, замалачу, па пояс у гразь закалачу!

Рыцар

Чаго, грозны цар, вызываеш і якое дзела павеляваеш?

Цар

Я пато вызываю і табе прыказваю: нямедленна вызваць суддзяў!

Суддзі

Зачэм, грозны цар, нас вызываеш і ў чом дзела павеляваеш?

Цар

Я вас вызываю, вясці суд вам прэдлагаю на сына маяго. *(Выклікае рыцара.)* Рыцар мой, явісь перада мной, как відзіш востры меч перад сабой! Хто скора не бяжыць, громка не гаворыць,— заб'ю, замалачу, па пояс у гразь закалачу.

Рыцар

Чаго, грозны цар, вызываеш і ў чом дзела павеляваеш? Вы імееце ўласць,— я явіўся да вас.

Цар

Я пато цябе вызываю і табе прыказваю: вызваць сюда майго сына Адольфа — будзем на сем троне судзіць яго.

Адольф

Чаго, грозны цар, вызываеш і ў чом дзел павеляваеш? Вы імееце ўласць,— я явіўся да вас.

Цар

Я пато цябе вызываю і цябе пытаю: верыш лі ты маім багам ілі нет?

Адольф

Не, я тваім багам не веру! Я вашы богі тапчу пад ногі!

Суддзя

Адольф, пакайся, дай слова атцу, што верыць будзеш, а то ацец дасць суровае наказанне.

Адольф

Не, не буду каяцца атцу і верыць яго багам-істуканам! Яго богі тапчу пад ногі!

Цар

Сын Адольф, я спрашываю: верыш лі ты маім багам ілі нет?

Адольф

Не, я вашым багам не веру, я вашы богі тапчу пад ногі і толькі.

Цар

Рыцар мой, явісь перада мной, как відзіш востры меч перад сабой! Хто скора не бяжыць, громка не гаворыць,— заб'ю, замалачу, па пояс у гразь закалачу.

Рыцар

Чаго, грозны цар, вызываеш і якое дзела дзелаць павеляваеш? Вы імееце ўласць,— я явіўся да вас.

Цар *(са злосцю — рыцару)*

Маеш меч — сяйчас жа знімі сыну галаву з плеч!

Рыцар шабляй здымае Адольфу галаву. Той падае мёртвы. Цар засумаваў.

Рыцар мой, явісь перада мной, как відзіш востры меч перад сабой! Хто скора не бяжыць, громка не гаворыць,— заб'ю, замалачу, па пояс у гразь закалачу.

Рыцар

Чаго, грозны цар, вызываеш і ў чом дзела павеляваеш? Вы імееце ўласць,— я явіўся да вас.

Цар

Я цябе вызываю і табе прыказваю: гдзе-та за гарамі, за шырокімі марамі жыве дзед з бабай гарбатай, завуць яе Агатай. Пазваць іх і ўбраць цела Адольфа.

Дзед з бабай

Чаго, грозны цар, вызываеш і якое дзела павеляваеш? Выпалняем.

Цар

Убраць цела Адольфа.

Дзед з бабай
*(Прыбіраюць мёртвага Адольфа і прыгаворваюць.)*

Не верыў у бога святога, а папаў у царства нябеснае *(выносяць)*.

Цар

Ох, божа, божа мой, што я нарабіў — сыну галаву зрубіў і сам сябе згубіў. Нада лячэння іскаць. Рыцар мой, явісь перада мной, как відзіш востры меч перад сабой! Хто скора не бяжыць, громка не гаворыць,— заб'ю, замалачу, па пояс у гразь закалачу.

Рыцар

Чаго, грозны цар, вызываеш і ў чом дзела павеляваеш? Вы імееце ўласць,— я явіўся да вас.

Цар

Я пато цябе вызываю і чым быстрэй прыказваю: за нашай рускай зямлёй, за сорак сёмай гарой жыве лекар з доўгай барадой — пазваць яго сюда!

Лекар

Вы, цар, мяне вызываеце і якое дзела дзелаць павеляваеце?

Цар

Ты лекар?

Лекар

Я лекар.

Цар

Як ты лечыш?

Лекар

Я так лячу, як сам хачу: малыя раны выразаю, а бальшыя ўстаўляю і цераз час на той свет адпраўляю. Да мяне прывозяць на нагах, а я адпраўляю на драўнях.

Цар

Убірайся, лекар, штобы і следа твайго я не відзеў! *(Лекар хутка выходзіць.)*

Дзед з бабай *(сустракаюць лекара)*

Вы лекар?

Лекар

Я лекар.

Дзед з бабай

Зайдзіце пасматрыце мертвяца — ці можна вылечыць.

Лекар *(агледзеў)*

Можна. У мяне ёсць такая почка, што прырасце галава точка ў точку і як дам капель панюхаць раз — устане ўраз, а як дам два — забудзе смерць і бога наўсягда. *(Прымаецца лячыць мёртвага Адольфа.)*

Адоль *(устае)*

Ох, як доўга я спаў.

Дзед

Адольф, благадары лекару за спасенне. *(Адольф падходзіць да лекара, абдымае, цалуе і дзякуе.)*

## ЦАР МАКСІМІЁН

Максіміёна вадзілі, грышча. На ражства, на другі дзень, да Новага года. Хлопцы вадзілі, мундзеры адзявалі. Гадоў пяцьдзесят таму назад.

Сем чалавек

Цар Максіміён.
Сынка Долька.
Багіня.
Марац, багатыр.
Доктар.
Цыган.
Дзед.

I

Уваходзяць у хату, скамарох быў з імі, іграў на скрыпцы. Начынаюць. Песня:

Стройся, вармія, ў калоні,
Рускі белы цар ідзёць.
(Эта звалі Максіміёна.)
Крікнуў — здраствуйце, ребяты,
Вы здаровы, гаспада!
Рускі белы цар хваліўся
Камярычаскай жаной,
Яшчэ белы цар хваліўся —
Будуць туркі помніць нас.
Нашы дзеды не слыхалі,
Нам указаў не слыхаць,
Мы указаў не чыталі,
За Балканаў не знясслі.
Мы Балкан штыхом прабілі,
Цару радасць узняслі,
Быстры рэкі прахадзілі,
Чуць жывей дамой прышлі.

Начынаюць біцца цесакамі, адзін аб адзін. Прыходзіць цар Максіміён.

II

Цар Максіміён

Прызваць мне сынку Дольфу! *(Прыходзіць.)*

Долька

Здраствуй, грозны цар Максіміён!

Максімiён

Дзе буваў?
Дзе ты які дзяла выпаўняў?

Долька

На вольнай рэчкі шляўся,
З рознымі разбойнікамі знаўся,
На розны языкі песні навучаўся.

Максімiён

Не вялю я табе з разбойнікамі знацца,
Розных языкоў песні навучацца!
Верыш камярыцкаму богу?

Долька

Нет, нет, не веру камярыцкаму богу,
Веру Ісусу Хрысту,
Вашага камярыцкага бога падразаю,
Как хачу, так тапчу.

Максімiён

Верыш камярыцкаму богу?

Долька

Нет, нет, не верю камярыцкаму богу.
Веру Ісусу Хрысту,
Вашага камярыцкага бога падразаю,
Как хачу, так тапчу. (Два разы ўсё адно.)

Максімiён *(сынку)*

Пасадзіць цябе на гойстры меч
І зняць галаву з плеч,
Пасадзіць на поле,
Пасадзіць на раздолле.
(Пяюць песню.)
А ты, поле, маё поле,
Украшона поле,
Усё цвяточкамі, васілёчкамі...
(Долька памёр. Песня.)
Умерла наша доля,
Аканчылася любоў,
Ручкі к сэрцу прылажыла,
Кісяёю накрыла.

## III

Выходзіць Доктар.

Максіміён

Магеш бальной народ лячыць?

Доктар

Магу, магу,
Кроў лячу,
Кроў мачу,
Чарвей выразаю,
Маладым дзеўкам
Па трыццаць тры фунты
Скулля ўстаўляю.
Еслі таго мала,
Так па тры меркі
Каросты дабаўляю.

## IV

Багіня ўваходзіць. У багіні ленты даўгія.

Багіня

Я багіня, багіня,
Камярыцкая багіня,
Многа зямель прахадзіла,
Многа царэй пабядзіла.
Паднімусь высока,
Палячу даляко,
Сяду на Марцава поле.
Марац заявіцца,
І тэй пакарыцца.

## V

Марац уваходзіць.

Марац

Багіня, багіня камярыцкая,
Пачаму ты мяне, Марца, так звала,
Ці ты мае хвабрасці не знаеш?
Як дам у вуха,
Станеш глуха,
Як дам у вісок,

Дак пасыплецца з глаз пясок,
Як пасаджу на ладонь,
Скіпіш, як агонь.

Максіміён (багіня — яго барышня)

Марац, ты Марац,
Пачаму ты хочаш маю барышню
Су свету збавіць?
Я цябе, распраклятага Марца,
Саб'ю і зрублю
І ў гразь змяшу.

Марац

Якеі вы ёсць багатыры?
Як я ёсць багатыр,—
Як стану на зямлю,
Зямля затрасецца,
Горы, долы раздадуцца,
Быстры рэчкі разал'юцца
І мелкі пташкі распяюцца.

Пачынаюць к міру падходзіць. Пяюць:

Полна нам, браццы,
Біцца, грубіцца,
На войстры меч садзіцца.

## VI

Цыган выходзіць.

Максіміён

Мяняеш коні?

Цыган

Мяняць — не гуляць,
А после не каяцца,
На тваю сіваччыну,
На тваю гарбаччыну.
Із гары бяжыць, дрыжыць,
Паваліцца, ляжыць.

Пашоў цар падняць:
— Умесце будзем лашадзей мяняць.

Максіміён

Цыгане па ўсей Расеі
Машэннікі.

Цыган

Цыгане па ўсей Расеі
Добрыя людзі:
Добрых людзей
На пуць наводзяць,
Каб ынбары адкрываць,
Чужых бабак падманяць
І дабро вывалакваць.

## VII

Максіміён

Дзедушка!

*Дзед уваходзіць. Глухей.*

Дзед

А што, што?

Максіміён

Прыбраць эта цела,
Штоб на сонцы не цмела,
Воран касці не насіў,
Чарвяк цела не тачыў.

Дзед

Я не хачу абадраць.

Максіміён

Дзед, ты глух?

Дзед

Я не люблю двух.

Максіміён

Даць табе на водачку?

Дзед

Я не хачу на глотачку.

# ЦАР МАКСІМІЛЯН

*Трагедыя ў 4-х дзеях*

Дзеючыя асобы

Цар Максімілян.
Адолька, яго сын.
Скараход, царскі слуга.
Бурмаіл, кат.

Кравец, яўрэй Піпка.
Дзед-далакоп (Стары).
Доктар.
Кумірыцкая княгіня.
Марац, воін.
Аніка, воін-асілак.
Смерць.
Гусар.
Есаул.
Атаман.
Музыка.

### Дзея 1-я

Скараход *(пытае ў гаспадара дазволу зайсці ў хату)*

Хазяін, разрашыце машкарам зайці пагуляць.

Гаспадар

Пажалуста.

Машкары заходзяць. Цар стаіць ззаду. Усе пачынаюць спяваць.

Хор

Пазволь, пазволь нам, хазяін, у нову горніцу зайці,
Нет лі, нет лі ў вас, хазяін, у доме лішняга браўна.
Еслі ёсць у вас, хазяін, у доме лішняе браўно,
Пазволь, пазволь нам, хазяін, пазволь вырубіць яго.
Нет лі, нет лі ў вас, хазяін, у доме лішняга віна,
Пазволь, пазволь нам, хазяін, пазволь выпіць нам яго.

Адолька *(выходзіць з натоўпу, праходжваецца)*

Здрастуйце, пачценныя гаспада, вот і я прыбыў сюда. Не сярдуйце аб тым, што я ў мундзіры худым, ёсць у мяне другі, ды і той плахі. Гаспада, за каго вы мяне шчытаеце: за рускага ілі за караля прускага?

Усе *(адказваюць)*

За рускага... за рускага...

Адолька

Нет, я не рускі, не кароль прускі, я ёсць царскі сын Адолька. Ну вот, гаспада, прыбудзе да вас цар Максімілян сюда. Жалаеце відзець яго?

Усе *(крычаць)*

Жалаем!.. Жалаем!

Цар *(выходзіць з натоўпу)*

Здраствуйце, дзеці! Здарова, дзеці. Што вы стаіце, нічога не гаворыце, разве вам языкі прысохлі?

Усе

Так точна...

Ц а р

Так нада іх прамачыць.

У с е *(крычаць)*

Пастарайцесь, цар Максімілян.

Ц а р

Вот у мяне па правую старану піваварны завод, а па левую старану хлебны магазін. Выкачу вам бочку-саракавушку і дам чорнага хлеба на закуску. Давольна будзе з вас?

У с е

Давольна... Давольна...

Ц а р

Зато... вы — п'яніцы!

У с е

Нічога... Нічога *(здымаюць цару шапку).*

Ц а р

Вот за гэта адабрэнне дару вам гарады і сяленні, Турэшчыну і Нямешчыну і трэцяе месца, гдзе вы самі пажалаеце. *(Падыходзяць да трона.)* Ах, божа мой, божа мой, для каго такі крэпкі трон заражон, для мяне, цара Максіміляна. Вот сажуся ■ на крэпкі трон, зямля трасецца перада мной; буду ■ судзіць вінных і нявінных, правых і няправых. Еслі я няправільна буду судзіць — занясі мяне, божа, на сіняе мора, на жоўтыя пяскі; там будзе цару Максіміляну поўная грудзь таскі. *(Кліча Скарахода.)* Скараход-фітмаршал прытрон, явісь перад грозным царом Максіміланам!

С к а р а х о д *(з'яўляецца)*

Вы грозны цар Максімілян, какую ўласць маеце, нашто Скарахода вызываеце, какія ўказы, дзяла павеляваеце?

Ц а р

Ідзі ў маю белакаменную палату і вазьмі маю скіпетр дзяржавы усю рускую чэсць і славы.

С к а р а х о д

Вот ваш скіпетр дзяржавы.

Ц а р

Вот мая скіпетр-дзяржава, на ўсе стораны блістала, усім царствам абладала. Усім рэбятушкам атвет. Толькі пры мне сына Адолькі нет. Фітмаршал прытрон, явісь да грознага цара Максіміляна.

Скараход

Вы грозны цар Максімілян, какую ўласць маеце, нашто Скарахода прызываеце, какія ўказы, справы павеляваеце? *(Вымае з ножнаў шаблю.)*

Цар

Пазваць мне майго сына Адольку! *(Скараход выходзіць і кліча сына.)*

Адолька *(выходзіць з натоўпу і падыходзіць да цара)*
Здраствуй, дражайшы радзіцель.

Цар

Здраствуй, здраствуй, сынок... Гдзе ты дасюль быў?

Адолька

Па Волзе-рэчцы катаўся і з разбойнічкамі знаўся.

Цар *(пытае)*

Многа вас там было?

Адолька

Дванаццаць чалавек.

Цар

А многа крыві вы пралілі?

Адолька

Как рака лілась.

Цар

А кагда б я там быў?

Адолька

І табе галава б з плеч.

Цар

Ах, божа мой, божа мой, сын атцу не пакараецца. *(Звяртаецца да прысутных.)* Чэсць лі царскаму сыну па Волзе-рэчцы катацца і з разбойнічкамі знацца *(Скараходу)*. Скараход-фітмаршал прытрон, явісь да грознага цара Максіміляна!

Скараход

Вы грозны цар Максімілян, какую ўласць маеце, нашто Скарахода прызываеце, какія ўказы, дзяла павеляваеце?

Цар

Вазьмі ты майго сына Адольку, непаслушнага, непакорнага, завядзі ты яго ў тую цямніцу, гдзе сядзелі маскоўскія купцы, якія прадалі Маскву за тры бачонка пяску, і дай яму паўкружкі вады і чорнага сухара на закуску.

Скараход

Вот завяду я вашага сына Адольку, непаслушнага, непакорнага, у тую цямніцу, гдзе сядзелі маскоўскія купцы, якія прадалі Маскву за тры бачонкі пяску, і дам яму паўкружкі вады і чорнага сухара на закуску.

Цар

Скараход-фітмаршал прытрон, явісь да грознага цара Максіміляна!

Скараход

Вы грозны цар Максімілян, какую ўласць маеце, нашто Скарахода вызываеце, какія ўказы, дзяла павеляваеце?

Цар

Пазаві з цямніцы майго сына Адольку. *(Скараход выходзіць, з'яўляецца Адолька.)*

Адолька

Здраствуй, дражайшы радзіцель.

Цар

Здароў, сынок. Ну, што жа ты, сынок, адумаўся?

Адолька

Нікак нет.

Цар

І не апомніўся?

Адолька

Нікак нет, апяць так.

Цар

Верыш лі ты маім кумірычаскім багам і залатым статуям?

Адолька

Я вашы кумірычаскія богі цярзаю пад ногі, я веру Ісусу Хрысту, які быў распят на красту.

Цар

Скараход-фітмаршал прытрон, явісь да грознага цара Максіміляна!

Скараход

Вы грозны цар Максімілян, какую ўласць маеце, нашто Скарахода прызываеце, какія ўказы, справы павеляваеце?

Цар

Пазваць воіна Бурмаіла! *(Скараход выходзіць.)*

Бурмаіл *(з'яўляецца)*

Вы грозны цар Максімілян, какую ўласць маеце, нашто воіна Бурмаіла вызываеце, какія ўказы, дзяла павеляваеце?

Цар

Вот, завядзі майго сына Адольку, непаслушнага і непакорнага, на лобнае месца і здымі яму, варвару, галаву, штобы яго больш на свеце не было. *(Бурмаіл забірае Адольку.)*

Бурмаіл

Вот завяду я вашага сына Адольку, непаслушнага і непакорнага, на лобнае месца і там яму здыму, варвару, галаву, штобы яго больш на свеце не было.

*Скараход, Адолька і Бурмаіл ходзяць утрох і пяюць:*

Ой, вы ляса маі,
Ляса цёмныя,
Ой, вы зверы маі,
Зверы лютыя,
Прыхадзіце да нас,
Усё разведайце аб нас.

Адолька *(пяе адзін)*

Я ў пустыню ўдаляюсь із прэкрасных здзешніх месц,
На то мацьмяне радзіла — цару, ацечаству служыць.
Но ацец мой, злой ганіцель, хоча злой смерці мяне прэдаць,
Но судзьба мая такая, [redacted] должан яе любіць.

Бурмаіл

Прасцісь, брат Адолька.

Адолька

Прашчай, дражайшы радзіцель.

Цар

Казніць, казніць... варвару галаву зняць!

Адолька

Мяне казніш, табе на свеце не жыць.

Бурмаіл

Ах, брат Адолька, как мы ўмесце жылі, мёд і водачку пілі, умесце к дзевушкам гуляць хадзілі, но ацец твой, злы ганіцель, хоча злой смерці цябе прэдаць. Но не ён цябе прэдасць, а я цябе прэдам. Я табе галаву здыму, на меч падхвачу і ў гроб палажу. *(Забівае Адольку.)*

Бурмаіл *(пяе)*

Што жа я за воін, воін Бурмаіл,
Адзін у поле ваяваў,
Пешым і конным праходу не даваў *(выходзіць)*.

Цар

Скараход-фітмаршал прытрон, явісь да грознага цара Максіміляна!

Скараход

Вы грозны цар Максімілян, какую ўласць маеце, нашто Скарахода прызываеце, какія ўказы, дзяла павеляваеце?

Цар

Пазваць краўца, яўрэя Піпку, які шые крэпка, і пашыць майму сыну на смерць з травернага сукна плацце! *(Скараход выходзіць і кліча краўца Піпку. Кравец не хочаісці, упіраецца і гаворыць.)*

Кравец

Які там цар Дзям'ян мяне заве, насто́ я яму? *(Скараход цягне яго да цара.)* Здароў, цар Дзям'ян. Насто ві мяне завеце?

Цар

Какой табе Дзям'ян — я цар Максімілян!

Кравец

Ты не Дзям'ян?

Цар

Я цар Максімілян!

Кравец

Цар Максім.

Цар

Табе гавару, я цар Максімілян, слышыш, нет?

Кравец

Я слышу, цар Максімілян. Сто ві мне скажаце?

Цар

Гэта ты будзеш кравец?

Кравец

Я кравец, я сіць умею.

Цар

Ну, вот я табе прыказваю пашыць майму сыну Адольку...

Кравец *(перабівае)*

Якому дохламу? Які у вас сын іздох?.. А сто ві мне дасце, сто я буду сіць?

Цар

Я табе многа грошай дам.

Кравец

Ві мне дасце много восі, у мяне і свой есць восі *(кідае іх з галавы).*

Цар

Я табе, кравец, многа дзенег дам.

Кравец

А... ві мне дасце много дзеньгі, так я буду узэ сіць. Цяпер узэ пійду міраць *(бярэ доўгі кій і мерае Адольку).* Мíраю і вымíраю, царскі прыказ іспалняю, сабе багато гросі зарабляю. Два аршыны — два і два вярскі, два гладышкі і тры царапкі.

Цар

Скараход-фітмаршал прытрон, явісь да грознага цара Максіміляна!

Скараход *(уваходзіць)*

Вы грозны цар Максіміляи, какую ўласць маеце, нашто Скарахода прызываеце, какія ўказы, дзяла павеляваеце?

Цар

Пазваць старога далакопа, які б прыбраў майго сына мёртвае цела, штобы яно навярху не тлела, пціцы не клявалі, чэрві не тачылі, чэрці не ўташчылі! *(Скараход выходзіць, кліча дзеда. Далакоп скардзіцца на хворасць, не хоча ісці да цара, упіраецца і пытае: «Які там чар мяне жаве?»)*

Стары *(з дзвюма палкамі і вялікай люлькай)*

Здраштвуйце, чар Дзям'ян.

Цар

Какой табе «чар Дзям'ян»? Я цар Максімілян!

Стары

А... гэто... ву будзечэ чар Максімілян. Што ву мне скажачэ, чар Максімілян?

Цар

Вот табе дзела, штобы ты прыбраў майго сына мёртвае цела, штобы яно на зямле не тлела, штобы пціцы не клявалі, чэрві не тачылі, чэрці не ўташчылі. *(Стары падыходзіць бліжэй да цара і скардзіцца, што ён вельмі хворы, ледзь на нагах стаіць.)*

Стары

Я, чар, саўшэм не здароў.

Цар

Скараход-фітмаршал прытрон, явісь да грознага цара Максіміляна!

Скараход

Вы грозны цар Максімілян, какую ўласць маеце, нашто Скарахода прызываеце, какія ўказы, дзяла павеляваеце?

Цар

Пазваць ваеннага доктара!

Доктар *(з'яўляецца)*

Вы грозны цар Максімілян, какую ўласць маеце, нашто ваеннага доктара прызываеце, какія ўказы, дзяла павеляваеце?

Цар

Палячыць бальнога старыка.

Доктар *(звяртаецца да прысутных)*

Вот я доктар-лекар, усім землям аптэкар. Жывых лячу, мёртвых у гроб брасаю, па запісцы на той свет адсылаю, з таго свету пахвальны ліст палучаю. Харошы доктар?

Усе

Харошы.

Доктар

Стоіць сто?

Усе

Дзвесце стоіць.

Доктар (*звяртаецца да старога*)

Што ў цябе баліць, старык?

Стары

Галава...

Доктар

А... галава... Абрыць нагала, прылажыць цеста, чтобы ты не знайшоў у гэтай комнаце месца.

Доктар

Што ў цябе, старык, больш баліць? Можа быць, губы?

Стары

Да, у мяне і губы балячь.

Доктар

Да і губы... Адрэзаць па зубы, прыставіць цялячыя. Как ты будзеш гаварыць?..

Стары

Ме... Ме...

Доктар

Яшчэ што ў цябе больш баліць, старык, можа быць, бакі?

Стары

Бакі.

Доктар

Даць табе трыццаць два кулакі і семдзесят пяць світкаў. Здароў будзеш.

Стары

Не выдзяржу.

Доктар

Яшчэ што баліць, можа быць, ногі?

Стары

Да і ногі балячь.

Доктар

Паставіць на парозе, адрубіць па ляжкі, прыставіць дзеравяшкі, на пуць наставіць, танцаваць заставіць. Как ты будзеш танцаваць? (*Стары танцуе, тупаючы нагамі.*)

Доктар

Старык здароў. (*Выходзіць.*)

Стары

Здароў.

Цар

Скараход-фітмаршал прытрон, явісь да грознага цара Максіміляна!

Скараход

Вы грозны цар Максіміляи, какую ўласць маеце, нашто Скарахода прызываеце, какія ўказы, дзяла павеляваеце?

Цар

Пазваць кумірчаскую княгіню!

Княгіня

Вы грозны цар Максіміляи, какую ўласць маеце, нашто кумірчаскую княгіню прызываеце, какія ўказы, дзяла павеляваеце?

Цар

Вот ты, кумірчаская княгіня, сама з сабою пахадзісь, сама сабою пахвалісь. *(Княгіня паварочваецца і ходзіць.)*

Княгіня

Вось я, кумірчаская княгіня, па ўсіх палях хадзіла, усё поле пакрыла. Толькі адно поле непакорнае, непаборнае — Марцава. Падымусь на сіняе мора, апушчусь на Марцава поле. Еслі мне Марац не явіцца, майму калену не ўклоніцца, то я самыя сільныя і магучыя гарады агнём спалю і самога Марца ў плен вазьму. *(З натоўпу выходзіць Марац.)*

Марац

Ах, божа мой, божа мой, какой я слышу жэнскі непрыятны голас. Какая-та кумірчаская княгіня, прэкрасная дзявіца, па маіх палях таскалась і на мяне, Марца, нарэзалась. Я ёсць Марац сільны, храбры воін. Нет мне ў свеце ні ўстрэчніка, ні папярэчніка, ні ўздорніка, ні паборніка, нікім нікога. Толькі ёсць устрэчнік і папярэчнік адзін воін Аніка. Но і той радзіўся, на каня садзіўся, а хоць і садзіўся, яго касцей сюда воран не занясе.

Аніка *(уваходзіць, агаліўшы шаблю)*

Да не воран косці носіць, добры маладзец па сваёй ахвоце ходзіць. Што ж ты мяне пры ўсіх царах, пры ўсіх князях і пры ўсіх сільных і магучых багатырах; ка мне цары, князі з'язджалісь, у зямлю коп'і ўтыкалі, усю рускую чэсць і славу аддавалі. Што ж ты за Марац, што ж ты за воін, ты хочаш біцца-рубіцца?

Марац

Я хачу біцца-рубіцца, на остры меч разваліцца.

Аніка

Ды я дзень і ноч не сплю, востру шаблю тачу, табе не спушчу: я табе, Марцу, набок нос зварачу! *(Аніка рубануў Марца і ходзіць адзін.)* Вот я воін Аніка, нет мне ў свеце ні ўстрэчніка, ні папярэчніка, ні ўздорніка, ні паборніка, нікім нікога. Толькі ёсць устрэчніца і папярэчніца, адна лютая смерць. Но і з той, еслі б устрэціўся, то сразіўся.

Смерць *(уваходзіць і падыходзіць да Анікі)*

Зарэжу!

Аніка

Адлезь, баба-юха, как дам у вуха — рассыплешся, як мякіннае бруха!

Смерць

Зарэжу!

Аніка

Адлезь, бабушка, как дам у вісок — рассыплешся на пясок!

Смерць

Зарэжу!

Аніка

Адпусці, бабушка, льготы хаць на тры гады.

Смерць

Зарэжу!

Аніка

Адпусці, бабушка, хаць на тры месяцы.

Смерць

Зарэжу!

Аніка

Адпусці, бабушка, хоць на тры дні.

Смерць

Зарэжу!

Аніка

Адпусці, бабушка, хоць на тры часы з мірам прасціцца. *(Спявае.)*

Прашчай, горад, прашчай, дом,
Прашчай, неба і зямля,
Вот пад'ехаў я пад парогі,
Адрубіла баба рукі і ногі.

Смерць касою рэжа Аніку.

Цар

Скараход-фітмаршал прытрон, явісь да грознага цара Максіміляна!

Скараход

Вы грозны цар Максіміlян, какую ўласць маеце, нашто Скарахода прызываеце, какія ўказы, дзяла павеляваеце?

Цар

Пазваць прысяжнага гусара!

Гусар

Вы грозны цар Максіміlян, какую ўласць маеце, нашто прысяжнага гусара прызываеце, какія ўказы, дзяла павеляваеце?

Цар

Я віжу важную асобу.

Гусар

Я каменшчыка прыдворнага, пастушкоў сын.

Цар

Вот... ты гусар прысяжны, сам з сабою прахадзісь, сам сабою пахваліся. *(Гусар паварочваецца кругом і спявае.)*

Гусар на шаблю апіраўся,
Глубокай одрасці стаяў.
Доўга з мілаю прашчаўся
І сказаў душа вздышай.

*(Ходзіць, а пасля гаворыць.)*

Вот, как я быў гусар прысяжны, быў у мяне бой адважны; была ў мяне шабля-зладзейка, яна ўсім маім врагам ліхадзейка. Яна так мне верна служыла, што многа варожых галоў палажыла. Вот за гэта: подзвігі і сражэнне — я палучыў ад цара награждзенне. Наградзіў мяне цар крыжамі-звёздамі і ўсёй царскай каронай. Кончан, кончан дальні пуць, час гусару аддахнуць. *(Гусар ідзе ў гурт удзельнікаў прадстаўлення. У той час, калі гусар спяваў, яўрэй таксама пачынае пець, як гусар, перадразніваючы апошняга.)*

Цар *(глядзіць на Есаула)*

Што ж ты, есаул, стаіш, нічога не гаворыш? Падхадзі ка мне паскарэй, гавары са мной пасмялей, не будзеш падхадзіць ка мне паскарэй і гаварыць са мной пасмялей — закачу це двац-

цаць пяць, мала 25 — закачу табе сто, прападзе твая служба ні за што.

Есаул

Шавялю, шавялю сваімі русымі валасамі. Чэраз паля я ішоў, палі здрыганулісь; чэраз лясы я ішоў, лясы гнулісь; чэраз горы ішоў, горы разварочваў і да мора прыйшоў, мора ўскалыхнулась; на моры гуляў, купецкія караблі разбіваў. Но і там жывым у рукі не аддаваўся. Какім быў там, такім буду і здзесь, какім буду здзесь, такім буду і там... Лучшэ буду пры Волзе-рэчцы ў помач атаману... Прыйшоў я ў лес, малодчык, і здзесь на ножкі сапожкі раз, на ручкі пальчаткі два... Гатоў атаман. *(Маўчанне, уваходзіць атаман.)*

Атаман *(ходзіць, звяртаецца да Есаула)*

Што ж ты, есаул, стаіш, нічога не гаворыш? Стань на шлюпку, пасматры ў падзорную трубку, нет лі на Волзе-матухне падводнага карэння ілі апаснага камення, чтобы судна не прабіць, людзей не ўтапіць; не папасць на дно, там будзе ўсім халадно. Рассматрывай вярней!

Есаул *(глядзіць у трубу)*

Віжу, віжу, гаспадзін атаман, на Волзе-рэчцы калода.

Атаман

Какой табе чорт карова, у каровы чатыры нагі, а пяты хвост, не будзь прахвост — рассматрывай вярней!

Есаул

Віжу, віжу, гаспадзін атаман, на Волзе-рэчцы сучкі.

Атаман

Какой табе чорт сучкі, гэта паліцэйскія кручкі, яны грабяць, абіжаюць, так усю жызнь праважаюць. Рассматрывай вярней!

Есаул

Віжу, віжу, гаспадзін атаман, на Волзе-рэчцы карэнне.

Атаман

Какой табе чорт каменне: нам чтобы судна не прабіць, людзей не ўтапіць, не папасць на дно, там будзе ўсім халадно.

Есаул

Віжу, віжу, гаспадзін атаман, на Волзе-рэчцы белакаменны дом.

Атаман

А хто ў ім жыве?

Есаул

Кузьма і Фёдар Нікіціч.

Атаман

А гэты Кузьма і Фёдар Нікіціч, што поўны карман нам дзенег натыча. *(Усе збіраюцца пець песню.)*

Цар

Прыварачывай. *(Усе хорам спяваюць: «Прыварачывай, рэбята, і к крутому беражочку» і г. д.)*

Цар *(музыку)*

Музыкант! А ну-ка сыграй што-небудзь.

Музыка іграе, усе ўдзельнікі выстройваюцца ў дзве шарэнгі і танцуюць. Пасля адзін яўрэй танцуе «Камарынскую».

## ЦАР МАМАЙ

Дзеючыя асобы

Цар Мамай.
Сын Адольф.
Скаравод-фельдмаршал.
Казак.
Гусар.
Храбры воін Ніка.
Стары цар Бармуіл.
Задонскі лекар.
Смерць.
Палач.
Ванька.

Мамай. Здраствуйце, гаспада генералы! Для каго сей трон саaружон? Няўжэлі для мяне, ґрознага цара Максіма Амяльянавіча?

Світа. Для вас, для вас, ваша вялічаства.

Мамай. Сажусь на этам троне і буду судзіць па закону царэй-царэвічаў і ўмесце з німі свайго непакорнага сына Адольфа. Скаравод-слуга, явісь сюда.

Скаравод. Зачэм мяня прызываеце, какія дзяла-ўказы павеляваеце?

Мамай. Не слыхаў ты пра майго сына Адольфа?

Скаравод. Слыхаў. Гавораць, паў у ерась і нашым багам не верыць.

Мамай. Пайдзі прывядзі яго сюда.

Адольф. Здравія жалаю, гасудар-бацюшка! Зачэм мяне вызываеце, какія дзяла-ўказы павеляваеце?

Мамай. Ты знаеш, сын вазлюбленны, я аўдавеў, а ты

асірацеў. Я хачу жаніцца на кумірскай княгіні і хачу прыняць кумірскія багі і законы.

Адольф. Я вам веру, а вашым кумірскім багам не паверу, пад ногі тапчу, ім веравацъ не хачу.

Мамай. Скаравод-фельдмаршал, явісь сюда. Адвесці непакорнага сына ў цямніцу і пасадзіць на хлеб-соль да цех пор, пака не абразуміцца і нашым багам не паклоніцца.

Казак. Ах, гора, гора! Я ёсць казак Чыстага поля, я яшчэ казачай натуры не абучыўся, как з галавы да ног прапіўся. Былі ў мяня талеры — усе патаялі, былі бумажкі — аставіў у Машкі, быў мундзір на семдзесят сем дзір, лату на лату саджу, а дзеньгі на водку шчажу. Ах, што за слаўны горад Кіеў: галушкі самі ў рот валяцца, а дзевушкі-красоткі на ўзгляд не мяняюцца. *(Выходзіць.)*

**Гусар.** Я ёсць гусар прысяжны, быў у баю адважнам, мая шабля-ліхадзейка была ўсем туркам і французам зладзейка, яна там верна мне служыла, што многа турэцкіх і французскіх галоў палажыла. І за гэта ўслужэнне палучыў я ад гасудара награжджэнне. Наградзіў мяня гасудар медаллю і крастом, так што ніхто не імее права ўдарыць пярстом.

Мамай. Верна, гусар, ты не простога роду?

Гусар. Нет-нет, каменшчык, пастухоў сын. *(Выходзіць.)*

Мамай. Скаравод-фельдмаршал, явісь сюда! Стань перада мною, как ліст перад травою.

Скаравод. Чаго ізволіце? Што прыкажаце, какія дзялаўказы павеляваеце?

Мамай. Пайдзі, угавары майго непакорнага сына, штоб ён нашым багам паверыў, і еслі паверыць,— казной нагараджу і на пракраснай Венере жаню.

Скаравод. *(Да Адольфа.)* Ваша высочаства, паверце, нашы богі харошыя, атцам нашым памагалі ў барбе з непрыяцелем.

Адольф. Нет, не паверу.

Скаравод. Ваша вялічаства, нікак не магу ўгаварыць вашага сына.

Храбры воін Ніка. Я ёсць храбры воін Ніка, хадзіў, гуляў па ўсем землям, нігдзе не нашоў такога саперніка, штобы мог памерыцца сілай, чыя грудзь шырэ, чэй меч быстрэй, той таго адалее.

Насупраць выходзіць стары цар Бармуіл.

Бармуіл. Ты што за воін, храбёр-бадзёр Ніка? А я стары цар Бармуіл усю зямлю пакарыў. Адна зямля не пакорана, і там слышыцца какая-та смерць.

З'яўляецца да рыцара Смерць з касою.

Б а р м у і л. Ты што, злая баба, шатаешся, мне герою мяшаешся. Как выму свой булатны меч — паляціць твая башка з плеч.

С м е р ц ь. А я как выну косы да пілы, падрэжу табе суставы да жылы. *(Выцягвае касу.)*

Б а р м у і л. Смерць мая маці, пажэнімся мы з табой, не будзе нам саперніка на белым свеце, не на сырой зямлі.

С м е р ц ь. Я не хачу за цябе замуж іцці, хачу цябе злой смерці прэдаць.

Б а р м у і л. Пазволь мне пажыць хоць год.

С м е р ц ь. Ні паўгода.

Б а р м у і л. Пазволь мне імушчаства распрадаць да нішчым браццям аддаць.

С м е р ц ь. А вялікае тваё імушчаства?

Б а р м у і л. Вялікае! З рагатага ската пятух да курыца, а з меднай пасуды крэст да пугавіца. *(Смерць адпускае Бармуіла.)*

М а м а й. Скаравод-фельдмаршал, явісь сюда!

С к а р а в о д. Зачэм мяне прызываеце? Какія дзяла-ўказы павеляваеце?

М а м а й. Пайдзі прывядзі непакорнага сына.

С к а р а в о д. *(Звяртаецца да Адольфа.)* Ваша высочаства, явіцесь к гасудару-бацюшку.

А д о л ь ф. Здравія жалаю, гасудар-бацюшка, зачэм прызываеце, какія дзяла-ўказы павеляваеце?

М а м а й. Вазлюбленны сын, павер нам і нашым багам. Еслі паверыш — прастол дам і на пракраснай Венере жаню, еслі не паверыш — у маладых летах цябя істрэблю.

А д о л ь ф. Благадару, бацюшка, за прастол і Венеру, а вашым багам не паверу.

М а м а й. Вывесці непакорнага сына ў чыста поле і зняць злева направа з пляча галаў і толька песняй павесяліцца. *(Гусары выводзяць Адольфа.)* Скаравод-фельдмаршал, явісь сюда. Пазаві палача, штобы зняў галаву непакорнаму сыну.

С к а р а в о д. Сяйчас пазаву; адна нага здзесь, другая там, паутру на сабаках яўлюсь к вам.

М а м а й. Как, как?

С к а р а в о д. Сяйчас пайду прывяду. *(Уваходзіць палач.)* Ізволь адрубіць галаву непакорнаму сыну Адольфу.

П а л а ч. Я магу і ўсем парубіць.

А д о л ь ф. Прашчай, васток, прашчай, запад, прашчай, юг, прашчайце, усе мае друзья.

П а л а ч. Пусць мая шабля здзелаецца цесаком! *(Шабля робіцца цесаком, а ім галавы не ссячы.)*

Скаравод. Ваша вялічаства, палач не адрубіў галаву вашаму сыну.

Мамай. Прызваць сюда Смерць!

*З'яўляецца Смерць, выстаўляе касу, махае ёю. Адольф падае, цячэ кроў (чарніла). Яго выносяць, а слуга бярэ маску-галаву і нясе.*

Скаравод. Вот галава вашага сына.

Мамай. Да, я віжу. А што ж будзем дзелаць, еслі дажывем прэстарэлых лет?

Скаравод. Па міру пойдзем.

Мамай. А харашо быўшы гусарамі па міру хадзіць?

Скаравод. Нада спрашываць у харошых людзей савета, што [illegible] сынам сваім дзелаць. *(Выходзіць.)*

Мамай. Скаравод-фельдмаршал, явісь сюда.

Скаравод. Што прыкажаце, ваша вялічаства?

Мамай. Не слыхаў лі ты лекара такога, штоб мог здзелаць нежывога жывым?

Скаравод. Слыхаў, не ў нашам царстве, у Задонскам гасударстве ёсць такой лекар, каторы можа здзелаць нежывога жывым.

Мамай. Сяйчас разыскаць яго! *(Слугі выходзяць і прыводзяць лекара.)*

Скаравод. Вы Задонскі лекар?

Лекар. Я.

Скаравод. Явіцесь к гасудару.

Лекар. Здравія жалаю, гасудар-бацюшка, што дзелаць прыкажаце?

Мамай. Ты можаш нежывога жывым здзелаць?

Лекар. Магу.

Мамай. Еслі здзелаеш — казной наградку, а не здзелаеш: мой меч — твая галава з плеч.

Лекар. Не імееце права.

Мамай. Пачаму?

Лекар. Патаму што я не вашага царства. *(Бярэ галаву-маску і ідзе да забітага.)* Ах, плоха, ваш сын астыў. *(Патупвае ля яго, прыстаўляе галаву, адкрывае сумку і тройчы дае панюхаць з бутэлечкі.)* Адольф, Адольф, што ў цебя баліць?

Адольф. Галава.

Лекар. Баліць галава, нада агаліць дагала і прылажыць плястру, і будзе галава, как ляпёшка. Абвясці дзесяць раз дубінай і пасласць хазяіна за водкай. А ну-ка, уставай!

Адольф. Ах, лёг на шутку, праспаў мінутку.

Скаравод. Спаў бы ты цэлы век, штоб не Задонскі чалавек.

Мамай цалуе сына, іграе музыка, усе танцуюць і пяюць:

Вот прашлі-прышлі вясёлыя часы,
Раз-два-тры — люлі.
Мінавалась наша прэжняя гульба,
Раз-два-тры — люлі.

Пасля гэтага зноў.

Мамай. Вы, рэбята, здзесь?

— Здзесь.

Мамай. Агні ў крэмнях ёсць?

— Ёсць.

Мамай. Шаблі астры?

— Астры.

Мамай. Жгі, рубі, нікога не сматры.

— Усіх парубім, памятаем і ў цямніцу пасаджаем.

Мамай. Ты, верная слуга, злязай з карабля ў шлюпку, сматры ў падзорную трубку — не ўвідзіш лі чаго.

— Віжу, віжу, гаспадзін атаман.

Мамай. Што відзіш?

— Чэрні, чэрні ў гарах, у лясах сукі, у гарадах паліцэйскія крукі. Хочуць нас узяць, малайцоў.

Мамай. Сматры харашэнька!

— Віжу, гаспадзін атаман.

Мамай. Што відзіш?

— Жыта, там барын убіты.

Мамай. Сматры харашэнька!

— Віжу.

Мамай. Што відзіш?

— Галоў.

Мамай. Чыя?

— Хазяіна.

Мамай. Хазяін нам рад?

— Рад, как чарцям.

Мамай. Как, как?

— Как мілым друзьям.

Скаравод. Ванька малы, падай водкі алай.

Ванька. А гдзе яе ўзяць?

Скаравод. У паставе.

Ванька. А какой чорт паставіў?

Скаравод. Ну, так у другом.

Ванька. А я і тот абяжаў кругом.

Скаравод. Ты п'яны?
Ванька. Нет.
Скаравод. Прайдзі па адной доске.
Ванька. Па вашай міласці я і па ўсіх прайду.

## ЦАР МАКСІМІЛІАН

### *Сюжэт і дзейства*

Да ўзвядзення на прастол Максіміліана яшчэ царстваваў яго састарэлы бацька Ірад. Ён быў ужо на схіле гадоў, удавец, але справы ў яго ішлі бліскуча. Меў смелых рыцараў. Частыя нашэсці ён не толькі адбіваў, але і ў значнай ступені пашыраў свае ўладанні; быў ён яшчэ жыццярадасны, любіў паляванне, меў зграю ганчакоў. Весяліўся з паланянкамі (наогул любіў жанчын). У сябе са сваімі рыцарамі пілі і весяліліся, асабліва пасля ўдалага паходу. Яго сын Максіміліан быў сярэдніх год, меў жонку і сына Адольфа 12—13 год. Сам Максіміліан быў адважным, жорсткім і даўно марыў аб троне і чакаў смерці бацькі.

Вось з гэтага і пачынаецца. Узнімаецца заслона.

#### Дзея 1-я

На сцэне ля царскага трона выстройваецца стража па чатыры чалавекі ў дзве шарэнгі. Трон стаіць на ўзвышэнні, да яго вядуць дзве прыступкі, аздобленыя рознай інкрустацыяй. Чакаюць з'яўлення цара. На сцэну выходзіць рыцар у даспехах і паведамляе аб прыходзе цара. Стража бярэ на каравул і пяе песню:

Цар Ірад у град грядзёт, адзяржаў
сваю пабеду над грозным над врагом
(паўтараюць тройчы).

Два воіны вядуць пад рукі цара на трон. Цар сядае, яму падаюць скіпетр (булаву).

Маналог цара

Дасціг я высшай уласці ў паходзе на врагоў,
Ачысціў я прастранства да южных берагоў.

Стража пяе:

Слава, слава, слава.

Цар загадвае ў гонар перамогі наладзіць баль. Заслона.

На сцэне ставяцца сталы, накрытыя абрусамі, з рознай закускай і выпіўкай, прыгатаванай выканаўцамі. Узнімаецца за-

слона, і за сталамі рассаджваюцца рыцары — удзельнікі паходу. Пачынаецца баль. У парыве нянавісці да цара яго наследнік разбівае кубак з віном. Усе звяртаюць на гэта ўвагу. Але цар загадвае стражы хутчэй рыхтавацца да палявання: за сцэнай пачынаюць выць чатыры прывязаныя сабакі. Усе ўстаюць і выходзяць (нібы на паляванне) і выводзяць пад рукі цара. Заслона.

Пры адкрыцці заслоны на сцэну ўрываецца лепшы вартавы цара Аніка-воін і паведамляе, што ў час палявання забіты цар. Яго выносяць на сцэну ў труне і ставяць на пастамент. Адпяваць цара прыходзяць поп і манахі, апранутыя ў чорнае.

Хор *(падхоплівае)*

Са святымі ўпакой, упакой,
Цар наш быў не плахой, не плахой:
Любіў выпіць, закусіць, закусіць
І суседа прыгласіць, прыгласіць.
Любіў удовушак-касатачак,
Любіў красівых ён дзяўчатачак.

Поп

Вы зладзеі, багахульнікі,
Царскай міласці адступнікі,
Вас нужна ўсех звязаць
І ў Сібір саслаць.

Хор

І вас, бацюшка, з намі.

Поп бярэ крыж і кадзіла і разам з манахамі ідзе да выхаду. За імі рыцары нясуць у труне цара. Ззаду ідзе Далакоп з рыдлёўкай на плячы. Заслона.

**Дзея 2-я**

Вацарэнне Максіміліана.

Адкрываецца заслона, і на сцэну выходзіць царская стража з васьмі чалавек, якія становяцца па чатыры чалавекі з двух бакоў трона адзін за другім.

Хор выконвае песню:

Гдзе ты, гдзе ты, цар царэй,
Ангел міра, друг людзей,
Гдзе ж ты, сонца наша ясна,
Гдзе цябя, цябя іскаць?

Ждзём цябя, царыца-маць,
Хочам сына увідаць.
Ждзёт Вас ўсех страна радная,
Ждзёт святая Русь.

На сцэну павольна ўваходзіць цар Максіміліан, за ім царыца, ведучы за руку наследніка Адольфа. Ззаду ідуць пяць дзяўчынак у белым адзенні; сярэдняя нясе ўпрыгожаную інкрустацыяй царскую карону, астатнія — рознакаляровыя стужкі, адзін канец якіх прымацаваны да кароны. Цар сядае на прыбраны трон; есаулы надзяваюць яму на галаву карону.

Хор пяе:

Цар карону надзявае
Ў рукі скіпетр ён бярэ
(Паўтараюць тройчы).

Цар устае і загадвае:

Вы, зашчытнікі мае,
Абнажыце мячы свае.

Стража спявае:

Мы зашчытнікі твае,
Абнажаем мячы свае.

Маналог цара:

Бяру ў рукі скіпетр і дзяржаву,
Усяму міру чэсць і слава.
Буду вераю служыць,
І народ благаславіць.

Хор выконвае:

Слаўся, слаўся, мудры цар,
Не дай ў абіду, гасудар.
А за гэта ўвесь народ
Праславіць увесь ваш царскі род.

Пачынаецца баляванне. Віно (вада, падфарбаваная журавінавым сокам) льецца ракою. Усе рыцары весяляцца, акрамя аднаго слаўнага воіна Анікі. У яго дрэнныя адносіны з царом, які падазрае яго ў інтымнай любоўнай сувязі з цяперашняй царыцай. Так, цар не памыляецца ў адносінах да сустрэч Анікі са сваёй жонкай. А таму пасля ўзвядзення на прастол Максіміліана Аніка пачынае сакрэтныя перагаворы з адным рыцарам суседняга племені з мэтай нечаканага нападу на Максіміліана.

Калі ўсё ўдасца, Аніка марыць узвесці на трон сына цара Адольфа (яго іграе Рыхтэр), а ў сувязі з тым, што апошні малалетні,— самому кіраваць дзяржавай. Царыца, вядома, аб гэтым не ведала. Аднак яна любіла яго як каханка і гэтага вераломства не падазравала. Аніка цішком намякаў Адольфу, што яму хутка давядзецца стаць каралём, і той застаўся дужа задаволены.

І вось моцнае суседняе племя вядзе інтэнсіўную падрыхтоўку да маланкавага нападу на стан Максіміліана. Аднак лазутчыкі данеслі цару, што на яго ўладанні рыхтуецца нашэсце. Цар быў упэўнены, што для яго гэта не ўяўляе пагрозы, таму што ў яго ёсць добра ўзброенае войска. Акрамя таго, ён вельмі спадзяваўся на такіх слаўных і непераможных важакоў, якімі былі бясстрашны воін Аніка і Прык-Лонскі.

Засопшыся, на сцэну ўбягае адзін з есаулаў цара і паведамляе аб тым, што сюды рухаецца вялікі атрад іншаземнага войска. Цар быў страшэнна перапалоханы і загадаў біць трывогу.

І вось пачынаецца пабоішча. Усе 28 удзельнікаў раздзяліліся на дзве групы. Адна была апранута ў страшныя даспехі — сярэбранага і зялёнага колеру (ворагі). Царскае ж войска — у «залатое» абмундзіраванне.

Затрубілі трубы, і на сцэну з розных дзвярэй пачалі выбягаць рыцары і воінства, і пачалася бітва і рубка: мячамі, сякерамі, стрэльбамі. Гэта бітва заняла прыкладна 10—15 мінут. Адзін за другім пачалі падаць воіны (забітыя з абодвух бакоў), а ў канцы боя засталося і ў тых і ў другіх усяго па некалькі чалавек.

Бачачы, што вораг адольвае, цар пачаў выклікаць самых лепшых рыцараў і моцна крыкнуў: «Прык-Лонскі! Дзе храбры Аніка?» І вось, як толькі з'явіліся гэтыя воіны і ўступілі ў бойку, увесь варожы лагер быў знішчаны: на сцэне валяліся трупы, шлемы, мячы, коп'і і ўсе даспехі. (Заслона. Прыбралі сцэну.)

### Фінал

На троне сядзіць цар з сям'ёй. З'яўляецца невядомы ў чорным адзенні з закрытым тварам. Пытае ў цара дазволу гаварыць. Цар дазваляе. Невядомы паведамляе, што гэтае нашэсце, у якім цар страціў большую частку свайго войска, звязана са змовай есаула Анікі, мэтай якога было ўзвесці на трон яго сына Адольфа. Цар неадкладна выклікае Аніку і робіць дазнанне. Дапрашвае Аніку:

Есаул, мой есаул. Падхадзі ка мне скарэй,
Гавары пра ўсё вярней!
А не скажаш — у гразь утапчу,
Кінжал у грудзь пушчу,
Пяцьдзесят закачу, мала пяцьдзесят — сто.
Прападзе служба ні за што.
Вялю клетку змасцярыць
І цябя там пасадзіць,
Там ты будзеш воўкам выць.

Аніка не сазнаецца. Цар пытае сына, ці браў ён удзел у змове. Адольф не адмаўляе, што ў яго былі пасланцы, і ён даў згоду на царства. На запытанне бацькі, ці ведае аб гэтым маці, Адольф адказвае адмоўна і нават не выдае Аніку. Максіміліан загадвае пакараць сына — адсячы яму галаву.

Адольфа выводзяць на сцэну, кладуць на эшафот, устанаўліваюць калодку, на якой будуць адсякаць яму галаву. Адольф са слязамі просіць цара памілаваць яго; спявае:

Прасці, прасці, ацец радной!..

Тое ж спявае маці. Цар устае з трона і загадвае кату неадкладна выканаць яго загад. Уваходзіць кат у чырвоным адзенні і з сякерай. Поп чытае малітву. Спявае:

Адольф няшчасны, не пячалься,
Смертнай казні ты не бойся.
Там ты палучыш наслаждзеніе,
Табе дадуць злат вянец.

Кат адсякае галаву. Царыца трацяць прытомнасць, яе выносяць.

Хор *(спявае)*

Там у полі пад ракітай царскі сын убіты;
Ён і не ўбіт і не зарэзан, толькі ўвесь ізранен.
Прыхадзіла маць радная, парчу адкрывала,
Яна парчу адкрывала, сына ўзнавала.

Царыца *(спявае)*

Ты ўстань, устань, Адольфе,
Устань ты, прабудзіся:
Ці не твае гэта коні гуляюць на волі,
Ці не твае гэта шаблі вісяць абнажоны,
Ці не твае гэта стрэльбы вісяць заражоны?
Прашчай, мой ангел. Прашчай!

У гэты момант прыбягае воін Аніка і са стрэльбы напавал забівае цара. Трон валіцца ўверх нагамі. На сцэне ляжыць цар і яго карона. Заслона.

* * *

Упершыню «Цара Максіміліана» я чуў у выкананні нашых гутнікаў у Міхаліне прыкладна ў 1904—1905 гг. Для пастаноўкі гэтай п'есы патрэбна даволі вялікае памяшканне, бо павінны былі адбывацца сцэны бойкі варагуючых плямёнаў і іх рыцараў. У Міхаліне гэта пастаноўка ставілася ў вялікім гумне ляснічага; там пабудавалі вялікую сцэну і глядзельную залу.

Другі раз у гэтай пастаноўцы я ўжо сам браў удзел — выконваў тады ролю сына Максіміліана Адольфа. Гэта было ў Нараўцы ў 1912 г. Прадстаўленне ладзілі ў школе, і ў час шматлікіх рэпетыцый я запомніў як сам сюжэт п'есы, так і асобныя ролі. Пераехаўшы ў Старава ў лютым 1916 г., я пачаў працаваць памочнікам у Біоха Ігнася. Недалёка працаваў Бабкоў. У час работы спявалі песні, частка якіх была з «Максіміліана». З расказаў Біоха і Бабкова стала вядома, што першы ўдзельнічаў у пастаноўцы п'есы ў Міхаліне, а другі (Бабкоў) дзесьці на Валыні. Я ў іх спытаў, ці не паспрабаваць нам разам паставіць гэту п'есу ў Стараве. Яны ахвотна згадзіліся, і мы пачалі дэталёва абмяркоўваць план гэтай задумы і шукаць выканаўцаў. Бабкоў згадзіўся быць галоўным рэжысёрам, Біох выказаў жаданне выканаць ролю цара, а я заняўся, пад рэдакцыяй Бабкова, перапіскай роляў і быў рэпецітарам.

Усіх выканаўцаў было чалавек 35—40, сярод іх мы запрасілі наступных: Плюцінскіх, Вясёлых, Траццякоў, Тарнецкіх, Казлоўскіх, Грабоўскіх, Палатавых, Маеўскага, В. Асвяцімскага, І. Янушэўскага, А. Шварца, Б. Лаўрушку, І. Рыхтэра (апошні іграў сына цара) і інш. На ролю царыцы запрасілі Вольгу Шварц. Для падрыхтоўкі касцюмаў і рэквізіту мы ўтрох (Ал. Паляшчук, Аф. Траццяк і я) паехалі ў Слуцк, купілі рознакаляровай паперы, блёстак, картону і пачалі пад кіраўніцтвам Біоха, Бабкова і Франца Тарнецкага майстраваць мячы, шаблі, пікі, кароны, паясы і іншае начынне.

Работа ішла хутка, але з рэпетыцыяй было больш складаней <...> амаль усе хлопцы былі непісьменныя, і таму даволі марудна развучваліся ролі, а таксама матывы песень <...>

Рэпеціравалі вечарамі, а для самога прадстаўлення прасілі Нусінава адвесці нам будынак пры гуце — даволі высокае і прасторнае памяшканне. Нусінаў даў нам дошак для ўзвядзення сцэны, вырабу лавак і царскага трона, а таксама правёў элект-

рычнасць. Ставілі бясплатна. Кліонскі быў на генеральнай рэпетыцыі і зрабіў некалькі карысных заўваг. Нарэшце, 25 снежня вырашылі іграць спектакль. Праўда, мы трохі хваляваліся, таму што і ў выканаўчай і ў пастановачнай частцы былі шарахаватасці, але ўсё ж сыгралі — як выйшла.

## ПРАДСТАЎЛЕННЕ «ЦАРА МАКСІМІЛЬЯНА» У СЛУЦКУ

У мае дзіцячыя гады ў Слуцку на ражство, яшчэ пад Новы год, хадзілі віншаваць пад вокны са звяздою, з канём, з казою, з мядзведзем, а дзяўчаткі, сабраўшыся па 3—9, з'яўляліся пад вокнамі і спявалі шчадроўкі, віншуючы са святам гаспадараў і асобных асоб іх сямей, асабліва падлеткаў. Але толькі адзін год давялося мне бачыць паказ такога значнага народнага відовішча, як «Цар Максімільян».

Раскажу, што ўтрымала памяць.

Мне было, мабыць, гадоў сем ці восем, калі я пачуў, што сваяк наш Лявон Куляшэвіч, шаснаццацігадовы падмайстар у свайго бацькі-шаўца, разам са сваімі таварышамі па прыхадскому вучылішчу і сябрамі па гульнях у бабкі з вуліц Крывасёлак рыхтуюць к ражству «прэстаўленне» пад назвай «Цар Максімільян», што для гэтага яны запісалі належныя словы ад аднаго з лепшых батлейшчыкаў Слуцка Нічыпара Дылы, які іншы раз паказваў у сваёй батлейцы гэтакае «прэстаўленне», і казалі, што ў маладосці ён сам прымаў удзел у гульні гэтай гісторыі ў дружыне добрага знаўца «Цара Максімільяна». Хлопцаў набралася шмат, але частка іх адышла потым ад гэтай справы або таму, што не было здольнасці і ахвоты «прэстаўляць», або таму, што падрыхтоўка каштавала грошай на патрэбнае адзенне, зброю і адбірала шмат часу. Вядомы ў горадзе іканапісец Вяроўскі нарысаваў хлопцам, як павінны быць апрануты і ўзброены ўдзельнікі відовішча, а батлейшчык, якога прасілі навучыць, як гаварыць і як дзейнічаць, узяўшыся за гэту справу, сам паказаў удзельнікам, як належна прадстаўляць. Сястра Лявона і другія дзяўчаты пад начальствам маёй цёткі нашывалі пафарбаваныя пад медзь патрэбныя панцыры воінам і фіцмаршалу цара Максімільяна, пашылі куміріцкім багіні і богу Марцу вопраткі адпаведна іх ролям. Пробы прадстаўлення рабілі ў прасторнай пуні майго дзеда, так што я і наслухаўся і наглядзеўся столькі, што шмат размоў дзейных асоб ведаў не горш за іх саміх. Памяць, канешне, не ўтрымала ўсяго гэтага, але захаваліся выпадковыя кускі размоў і добра памяцен увесь ход дзеі.

Калі пачаліся пробы ўжо ў вопратках і так, як потым ішло ўсё перад гледачамі, я быў канчаткова ачараваны. Пастараюся ўсё перадаць так, як паказвалася гэта відовішча.

Вось выйшла з вуліцы ў двор да майго дзеда дружына хлопцаў, удзельнікаў «прэстаўлення», стукаюць у дзверы. Да вышаўшага на стук дзеда зварочваецца «фіцмаршал» і вершаванаю моваю віншуе яго са святам і просіць дазволу ўвайсці ў хату, каб згуляць «прэстаўленне» — «Цар Максімільян». Згода на гэта атрымана, і хлопцы ўваходзяць у пакой. Фіцмаршал просіць дазволіць расставіцца так, як гэта адпавядае справе «прэстаўлення», і пытаецца, каго гаспадары хацелі б запрасіць глядзець відовішча з сваіх суседзяў. Нарэшце, усе суседзі сабраліся і прыгатовіліся слухаць. Я сяджу наперадзе ў першым радзе ля свайго дзеда і бабкі і так добра ўсё бачу, што перакажу вам усё, як было ў гэтым прадстаўленні.

Перад намі грамадка людзей у такім выглядзе: пасярэдзіне стаіць так званы Скараход-фіцмаршал, на галаве яго нібы сталёвы шалом, на тулаве генеральскі мундзір, грудзі якога поўны ордэнаў і медаляў, зробленых самімі хлопцамі з бляхі і раскрашаных, хаця звякалі і два-тры сапраўдныя медалі, атрыманыя за турэцкую вайну. Лампасы нашыты на штанах, якія засунуты ў боты; і на іх звіняць шпоры. Пры баку кавалерыйская шабля. За ім стаіць сам цар Максімільян. У яго на галаве таксама такі ж шалом, толькі з шышкі яго тырчыць старое страусавае пяро; на грудзях медзяны панцыр, з-пад якога чырвоная рубашка, штаны з лампасамі, запраўленыя ў боты. На баку пры назе доўгі двухстаронні меч, пафарбаваны пад сталь. Паабапал царка два воіны ў шаломах, панцырах і з пікамі. Далей за імі сын Максімільянаў Адолька — кучаравы русавалосы юнак, безаружны, у ружовай рубашцы, падпяразаны беларускім сялянскім поясам, штаны ўпраўлены ў боты. Закутаная ў афарбаванае ў блакіт прасцірадла стаіць кумірыцкая багіня, так, што твару яе нельга бачыць. Па другі бок ваяка Марац: на ім шышак, як у пажарніка, панцыр і шчыт, у руцэ кароткі меч. У апошнім радзе кат Брамбэус у чырвонай сарочцы, шырокіх штанах, запраўленых у боты, з вялікай сякерай, як у мясніка, на якую ён абапіраецца. Фельчар з вялікім градуснікам на адным плячы і торбай з лякарствамі; пры гадзінніку, які аказваецца цыбуляю. Яшчэ адна асоба, завінутая ў плашч, з-пад якога тырчыць каса. Хто не бачыў прадстаўлення, той не ведае, хто гэтая асоба, але я ведаю — гэта Смерць.

За ўсімі ззаду стаіць стары з сівой барадой Далакоп. Ён жа механоша, якому за прадстаўленне даюць натураю: хлеб буханкамі, сала, каўбасы. У яго дзеля гэтага санкі з мехам; на санках

ён возіць трон цара Максімільяна — крэсла з падлакотнікамі і высокаю спінкаю, размаляванае пад срэбра і золата.

Пачынае відовішча Скараход-фіцмаршал:

— Людзі добрыя, думайце-гадайце, хто перад вамі зараз выйдзе! Выйдзе паказацца, на людзях пакрасавацца!.. Ці то будзе імператар французскі, ці кароль прускі?

Ц а р   М а к с і м і л ь я н *(рашуча ў поўны свой голас крычыць, выходзячы наперад. За ім абое воіны па баках).* Я — не імператар французскі і не кароль прускі! Я — грозны цар сусветны Максімільян!.. (Пры гэтых яго словах ад механошы ззаду перадаюць фіцмаршалу трон для цара, які той і ставіць.) Дзеля каго трон сей узведзен? Дзеля мяне, цара ўсяслаўнага, сусветнага, магутнага Максімільяна! Слуга мой верны, Скараход-фіцмаршал, ускладзі на мае плечы парфіру! (Падаюць фіцмаршалу пурпуровую з бліскучаю залацінкаю мантыю, якую фіцмаршал і ўскідвае на плечы цара.) Дай мне ў рукі скіпетр і дзяржаву! (Фіцмаршалу падаюць іх, і ён перадае іх цару.) А замест шалома ўскладзі на маю галаву карону, каб я мог правіць людзьмі па закону! (Цар Максімільян садзіцца на трон.) Вось сеў я на свой прарадзіцельскі трон, я магутнейшы з магутных, бо падпарадкаваў сабе сушу і мора, пакарыў усе народы! Самі багі мне зайздросцяць, бо хто пасмее быць мне непаслухмяным?

Далей не памятаю, хто падказаў цару, што яму непаслухмяны сын яго Адолька.

Ц а р   М а к с і м і л ь я н *(крычыць у гневе).* Скараход-фіцмаршал, слуга мой верны! Стань перада мною, як ліст перад травою.

Ф і ц м а р ш а л. Дзеля чаго ты мяне, грозны цар, прызываеш?..

# АСНОЎНАЯ ЛІТАРАТУРА І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ


Барышаў, Саннікаў — Г. І. Барышаў, А. К. Саннікаў. Беларускі народны тэатр батлейка.— Мн., 1962.

Беларускі фальклор — Беларускі фальклор: Хрэстаматыя.— Мн., 1970.

Бессонов — П. Бессонов. Белорусские песни с подробными объяснениями их творчества, языка, с очерками народного обряда, обычая и всего быта.— М., 1871.

Виноградов — Н. Н. Виноградов. Белорусский вертеп.— Известия ОРЯС, т. 13, кн. 2.— СПб, 1908.

Гуковский — Свадьба у литовских белорусов. Сост. К. Гуковский.— Ковно, 1894.

Гілевіч — Песні народных свят і абрадаў. Уклад. і рэд. Н. С. Гілевіча.— Мн., 1974.

Гринблат — М. Я. Гринблат. Новая запись «Царя Максимилиана».— Белорусское искусство.— Мн., 1957.

Грыневіч—Школьны спеўнік. Злажыў А. Грыневіч.—Вільня, 1920.

Добровольский — В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. 4.— СПб, 1903.

Довнар-Запольский I — М. Довнар-Запольский. Белорусское Полесье, вып. 1.— Киев, 1895.

Довнар-Запольский II — М. Довнар-Запольский. Заметки по белорусской этнографии.— Живая старина, вып. 2.— СПб, 1893.

Дембовецкий — А. С. Дембовецкий. Опыт описания Могилевской губернии под редакцией председателя губернского статистического комитета А. С. Дембовецкого, кн. 1.— Могилев, 1882.

Демидович — П. Демидович. Белорусские детские игры.— Живая старина, вып. 3, 4.— СПб, 1899.

Карский — Е. Ф. Карский. Белорусы, т. 3.— Пг., 1922.

Косич — М. Косич. Литвины-белорусы Черниговской губернии, их быт и песни.— Живая старина, вып. 2.— СПб, 1901.

Ліс — А. Ліс. Купальскія песні.— Мн., 1974.

Малевіч — С. Малевіч. Белорусские народные песни.— Сборник ОРЯС, т. 82, № 5.— СПб, 1907.

Немцаў — А. Немцаў. Зборскі сельсавет.— Асіповіцкі раён Бабруйскай акругі, вып. 2.— Мн., 1928.

Перетц — В. Н. Перетц. К истории польского и русского народного театра.— Известия ОРЯС, т. 10, кн. 1.— СПб, 1905.

Полымя — Полымя, 1965, № 9.

Романов I — Е. Р. Романов. Белорусский сборник, т. 1, вып. 1—2.— Киев, 1886.

Романов III — Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. 3.— Витебск, 1887.

Романов V — Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. 5.— Витебск, 1891.

Романов VII — Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. 7.— Вильна, 1910.

Романов VIII — Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. 8.— Вильна, 1912.

Сабалеўскі — Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі: У 2-х т. Т. 1. Уклад., рэд. тэкстаў, уступ. артыкулы і камент. А. В. Сабалеўскага.— Мн., 1975.

Саламевіч — Я. Саламевіч. Міхал Федароўскі.— Мн., 1978.

Сербов — И. А. Сербов. Белорусы-сакуны: Краткий этнографический очерк.— Сборник ОРЯС, т. 44, № 1.— Пг., 1915.

Сержпутовский — А. К. Сержпутовский. Отчет о поездке в Гомельскую губернию в 1926 году.— Мн., 1926.

Українські інтермедії — Українські інтермедії XVII—XVIII стст.— Київ, 1960.

Цвірка — Вяселле. Уклад., уступ. артыкул і камент. К. А. Цвіркі.— Мн., 1978.

Шейн I — П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. 1, ч. 1.— СПб, 1887.

Шейн III — П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. 3.— СПб, 1902.

Шейн. Песни — П. В. Шейн. Белорусские народные песни, с относящимися к ним обрядами, обычаями и суевериями.— СПб, 1874.

Ширма — Г. Ширма. Двести белорусских народных песен.— Мн., 1958.

Шлюбскі — А. Шлюбскі. Матэр'ялы для вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны, ч. 1.— Мн., 1927.

Шпилевский — П. М. Шпилевский. Белоруссия в характеристических описаниях и фантастических ее сказках.— Пантеон, т. 8, кн. 3.—СПб, 1853.

Brückner — A. Brückner. Polnisch-russische Intermedien des XVII Jahrhunderts.— Archiv für slavische philologie.— Berlin, 1891.

Dramaty staropolskie—Dramaty staropolskie, t. 6. — Warszawa, 1963.

Federowski I — M. Federowski. Lud białoruski na Rusi Litewskiej, t. 1. — Kraków, 1897.

Federowski III — M. Federowski. Lud białoruski na Rusi Litewskiej, t. 3. — Kraków, 1903.

Moszyński — K. Moszyński. Polesie wschodnie. — Warszawa, 1928.

Rypiński — A. Rypiński. Białoruś.— Paryż, 1840.

Czarnowska — M. Czarnowska. Zabytki mitologii sławiańskiej w zwyczajach wiejskiego ludu na Białej Rusi dochowywane. — Dziennik Wileński, t. 6, N 34.— Wilno, 1817.

## Іншыя скарачэнні

АІМЭФ — Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР

Фр. АРКР ФБ АН БССР — шыфр захавання мікрафільмаваных матэрыялаў Аддзела рэдкай кнігі і рукапісаў Фундаментальнай бібліятэкі імя Я. Коласа АН БССР

в.— вёска
вар.— варыянт (варыянты)
вобл.— вобласць
вол.— воласць
воп.— вопіс
вып.— выпуск
гл.— глядзіце
г. н.— год нараджэння
губ.— губерня
зап.— запісаў (запісала)
заўв.— заўвага
кн.— кніга
л.— ліст
м.— мястэчка
наст.— настаўнік
п.— павет
пас.— пасёлак
пер.— пераклад
польск.— польская
р.— раён
руск.— руская
с.— сяло
спр.— справа
с/с — сельскі Савет
сш.— сшытак
т.— том
ф.— фонд

# ТЭАТРАЛЬНА-ДРАМАТЫЧНЫЯ ЭЛЕМЕНТЫ Ў ФАЛЬКЛОРНАЙ ТВОРЧАСЦІ

## КАЛЯНДАРНЫЯ І СЯМЕЙНА-БЫТАВЫЯ АБРАДЫ І СВЯТЫ

### Гуканне вясны

Шейн I, с. 125. Апісанне наст. Стара-Юркавіцкага вучылішча П. С. Батурына веснавога звычаю ў Гомельскім п. Магілёўскай губ.
Пер. з руск. М. А. Каладзінскага.

### Вясна красна, адкуль прышла

Гілевіч, с. 71. Зап. у пас. Калініна Мінскага р. ад Ганны Грыб. Вяснянка.

### Кузёмка, шаўковая барожка!

Шейн III, с. 158—159. Зап. Апаліч у Любавічскай вол. Мсціслаўскага п. Магілёўскай губ.
Вяснянка, якая спявалася на благавешчанне (25 сакавіка).

### Провады вясны

АІМЭФ, ф. 8, воп. 79, спр. 165, сш. 5, с. 28—29. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1979 г. у в. Барталамееўка Веткаўскага р. Гомельскай вобл. ад М. Ц. Жукавай, М. Ф. Жукавай, Г. Ц. Шавялёвай, А. С. Соракавай.
Гэты язычніцкі звычай быў вядомы многім народам. Ляльку, якая з'яўлялася сімвалам вясны, часта тапілі ў рацэ або спальвалі.

### Валачобнікі

Русский дневник, СПб, 1859, № 101.
Апісанне звычаю зроблена П. М. Шпілеўскім на падставе яго ўласных назіранняў у былой Віцебскай губ.

### На первы дзень на вялікдзень

Гілевіч, с. 83. Зап. у г. Смалявічы ад С. Ігнатовіч.
Песня спявалася ў час традыцыйных велікодных абходаў валачобнікаў.

### А на першы двень, на вялікадне

Гілевіч, с. 87—88. Зап. В. Клімковіч у Сялібскім с/с Бярэзінскага р. ад М. Лычкоўскай.
Валачобная песня.

### Ішлі, прайшлі валачобныя

Гілевіч, с. 85—87. Зап. С. Апалонік і Л. Афанасік у в. Кімія Барысаўскага р. ад Юліі Курыльчык, 1902 г. н.
Валачобная песня.

### У гародзе на пагодзе

Шырма, с. 26—27. Зап. Р. Р. Шырма ў 1932 г. у в. Яцкава Валожынскага р. Маладзечанскай вобл. ад П. Барысіхі, 70 г.
Валачобная песня, адрасаваная дачцы гаспадара.

### Лужком, лужком ды далінкаю

Шырма, с. 25. Зап. Р. Р. Шырма ў 1944 г. у в. Дуброва Радашковіцкага р. Маладзечанскай вобл. ад С. Мацеральніка, 35 г.
Заўв. збіральніка: «Замест прыпеву «Ды віно ж» іншы раз спяваецца «Ой, зялёны явар...» і г. д.

### Пасвіла дзеўка стада коней

Гілевіч, с 117—118. Зап. Н. Гамелька ў в. Воўкавічы Талачынскага р. ад Марыі Камошка, 78 г.
Валачобная песня-загадка.

### Валачоннікі валачыліся

Гілевіч, с. 123. Зап. Г. Смольская ў в. Падгорцы Капыльскага р. ад Алесі Смольскай, 1898 г. н.
Валачобная песня.

### Валачобныя людзі добрыя

АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 133, сш. 1, с. 5. Зап. К. П. Кабашнікаў і І. І. Крук у 1977 г. у в. Грабава Рагачоўскага р. Гомельскай вобл. ад М. Ф. Краніцкай.
Валачобная песня.

### Кукольнікі

Шэйн І, с. 135—136. Зап. А. Ф. Лісоўская ад А. С. Бірулі. Пер. з руск. М. А. Каладзінскага.
Дошка з насаджанымі на калкі лялькамі і само выступленне кукольнікаў мела яшчэ назву «Ягорый».

### Юр'еўскі абрад пастухоў

Шейн I, с. 169. Зап. у в. Машкова Аршанскага п. Магілёўскай губ. Пер. з рускі М. А. Каладзінскага.

У гэтым язычніцкім абрадзе, які выконваўся ў першы дзень выгану жывёлы ў поле, выразна захаваліся сляды замовы.

### Пахаванне стралы

Наш край, 1926, № 1, с. 41—42. Зап. М. Каршукоў у в. Стаўбун Гомельскага п.

Гэтым звычаем завяршаўся веснавы цыкл карагодных гульняў вясковай моладзі.

### Купала на Івана

Шейн. Песни, с. 251.

Прыклад купальскай песні, цалкам вытрыманай у форме спеўнага дыялога двух гуртоў моладзі.

Як сведчыць Е. Раманаў, у Гомельскім п. у купальскую ноч моладзь рабіла з саломы чучала Мары і спальвала яе на агні (Романов VIII, с. 208).

### Русалка

Шейн I, с. 199—200. Зап. наст. П. С. Батурын у Стара-Юркавіцкай вол. Гомельскага п. Магілёўскай губ.

Пер. з руск. М. А. Каладзінскага.

Вар.: Романов VIII, с. 205—206. Зап. у в. Юркавічы Гомельскага п.

### Вадзіць русалку

АІМЭФ, ф. 8, воп. 79, спр. 165, сш. 4, с. 77—78. Зап. Г. А. Барташэвіч і Л. П. Барабанава ў 1979 г. у в. Усоха-Буда Добрушскага р. Гомельскай вобл. ад А. В. Ярмошкінай, 1913 г. н.

Адзін з традыцыйных звычаяў на Беларусі, захаваўшых водгалас язычніцкай міфалогіі.

### Траецкая гульня

Czarnowska, с. 403—404. Зап. М. Чарноўская ў Чэрыкаўскім п. Магілёўскай губ.

Пер. з польск. М. А. Каладзінскага.

Старажытны і шырока вядомы на Беларусі звычай завівання на бярозе вянкоў тут спалучаецца з гульнёвым дзеяннем, меўшым калісьці магічную функцыю і сэнс.

### Хадзіць з «кустом»

Шейн III, с. 171. Зап. С. М. Дзем'яновіч у 1895 г. у в. Жытлін Слонімскага п. Гродзенскай губ.

Пер. з руск. М. А. Каладзінскага.

Абходы з «кустом», магчыма, адносяцца да найбольш старажытных магічна-земляробчых звычаяў. Пазней такія абходы вёскі ператварыліся і ўспрымаліся як своеасаблівае гульнёва-карнавальнае шэсце.

**Вадзіць «куста»**

F e d e r o w s k i I, с. 316. Зап. М. Федароўскі ў ваколіцах Кукліч і Лыскава.

Пер. з польск. М. А. Каладзінскага.

**Жаніцьба коміна**

Этнографическое обозрение, № 3, кн. 38, 1898, с. 156—157. Зап. наст. Пінскага рэальнага вучылішча В. Л. Грудніцкі ў 1883 г. на Піншчыне.

Пер. з руск. М. А. Каладзінскага.

Абрадава-магічны сэнс ушанавання пячнога коміна выразна выступае ў прыгаворах гаспадара хаты. Адначасова гэты звычай пачынаў цыкл асенне-зімовых работ селяніна.

**Жаніцьба коміна**

Ш е й н III, с. 186—187. Зап. І. Азяровіч у Маньковіцкай вол. Віленскага п. Віленскай губ.

**Мікольскія «цыганы»**

Ш е й н III, с. 183—184. Зап. П. С. Батурын у Гомельскім п. Магілёўскай губ.

Пер. з руск. М. А. Каладзінскага.

Цалкам тэатралізаваны (з пераапрананнем) звычай, які быў прадвеснікам каляднага цыкла гульнёва-карнавальных прадстаўленняў.

**Калядны зварот да мароза**

Ш е й н I, с. 47. Зап. наст. П. Жураўская ў в. Кочышчы Мазырскага п. Мінскай губ. ад селяніна, 70 г.

Пер. з руск. М. А. Каладзінскага.

**Апісанне калядных гульнёвых звычаяў у Асіповіцкім раёне**

Н е м ц а ў, с. 24—25. Зап. А. Немцаў у Зборскім с/с Асіповіцкага р.

Кола народных тэатралізаваных прадстаўленняў было надзвычай шырокім. На каляды хадзілі са звяздой, вадзілі «казу», «мядзведзя», «каня», «жорава»; у гэты ж час ладзілі прадстаўленні батлейшчыкі, спявалі свае абходныя велічальныя песні калядоўшчыкі. У розных мясцінах гульнёвыя звычаі мелі свае адметныя асаблівасці ў характары пераапранання, у складзе гурта і самым змесце паказу, але заўсёды былі вясёлым народным святам, у якім ярка выяўляліся імправізацыйныя і артыстычныя здольнасці выканаўцаў.

**Вот мы к вам ідзём**

Р о м а н о в VIII, с. 105—106. Зап. у в. Хонава Быхаўскага п.

Абходная песня калядоўшчыкаў, якую выконвалі пры ваджэнні «казы».

**Добры дзень таму**

Ш е й н I, с. 96—97. Зап. П. Кавалёў у Рагачоўскім п. Магілёўскай губ.

Песня выконвалася пры ваджэнні «казы».

### Добры вечар таму

Сербов, с. 129—130. Зап. І. Сербаў у в. Жыцін Бабруйскага п. ад Алёсі Яцка, 26 г.

Абходная песня калядоўшчыкаў.

### Добры вечар, пане гаспадару!

Гілевіч, с. 19—20. Зап. М. Жоль і І. Затрымайлава ў в. Гурнавічы Маладзечанскага р. ад Дар'і Біэюк, 80 г.

Абходная віншавальная песня калядоўшчыкаў.

### Го-го-го, каза

Грыневіч, с. 16—17.

Абходная песня калядоўшчыкаў з «казой».

### Го-го-го, каза

Малевич, с. 24—25. Зап. С. Малевіч у в. Малева Слуцкага п. Мінскай губ.

Песня выконвалася ў час прадстаўлення «казы».

### Го-го-го, каза

Гілевіч. с. 18. Зап. Г. Несцяровіч у в. Хватаўка Бярэзінскага р. ад Гілены Слабко, 65 г.

Песня спявалася пры ваджэнні «казы».

### Го, каза серая

АІМЭФ. ф. 1, воп. 1, спр. 1425, л. 241—242. Зап. І. К. Цішчанка ў в. Санюкі Ельскага р. Гомельскай вобл. ад Ганны Мельнік, 67 г.

Песня выконвалася пры нашэнні «казы», якую маладыя хлопцы ў час калядных абходаў насілі на шасце. Такія ж скарочаныя варыянты гэтай песні іншы раз выконваліся і з пераапранутым у казу хлопцам: «Калі вадзілі казу, спявалі песню. Пачыналася яна так:

А дзе каза рогам,
Там жыта стогам,
А дзе каза наступіць,
Там жыта блішчыць,
А дзе каза нагой,
Там жыта капой.
Го-го, каза, го-го, серая,
Ты, казіца, старая пціца,
Ты расхадзіся, развалачыся
Па даму таму, па хазяйскаму.

За песні хадзяін даваў хлопцам выпіць. За казу звычайна выбіралі якога-небудзь хлопца. Кажух вывернуць, надзенуць на рукі і ногі, прыставяць рожкі, зробяць маску — вось і каза гатова. Абычна ігралі адны хлопцы і цара, і цыгана, і казу». АІМЭФ, ф. 1, воп. 1, спр. 1425, л. 240. Зап. І. К. Цішчанка ў в. Ровенская Слабада Рэчыцкага р. ад Сівухі Фядосі, 79 г.

### Го-го-го, каза

Сержпутовский, с. 12. Зап. А. Сержпутоўскі ў в. Красновічы Суражскага п. Чарнігаўскай губ. ад Пелагеі Шутавай, 66 г.

Песня ўяўляе скарочаны варыянт песні-суправаджэння калядпай гульні з «казой». У апошніх радках якраз падкрэсліваецца тэатралізаваны характар прадстаўлення, дзе «стары дзед» часцей за ўсё з'яўляўся персанажам, якога іграў малады нежанаты хлопец.

### Дзе ж ты быў, мой чорны баран?

Шлюбскі, с. 49. Зап. А. Шлюбскі ў 1920 г. у в. Гарбацёнкі Юравіцкай вол. Полацкага п. ад Наталлі Гарбачэнкі, 25 г.

### Ну-ну-ну, казёл

Гілевіч, с. 16—18. Зап. Т. Кубрак на Капыльшчыне ад А. Віаленці, 60 г.

Песня выконвалася пры ваджэнні «казы».

### Паварачывайся, казёл

Шейн I, с. 97—98. Зап. Я. Копаць у в. Падлессе Слуцкага п. Мінскай губ.

Спявалася ў час абходаў з каляднай «казой».

### Пасярод двара стаяла вярба

Гілевіч, с. 19.

Твор уяўляе варыянт песні, якой суправаджаліся паказы каляднай «казы». Акрамя дыялагічнай формы ў ёй адчуваецца таксама ўплыў народнай казачнай творчасці.

### Апісанне народных тэатралізаваных калядных гульняў

Романов VIII, с. 103—112.

### Каза

Добровольский, с. 9. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Свалы Смаленскага п.

Калядная гульня.

### Кабыла

Добровольский, с. 11. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Свалы Смаленскага п.

Калядная гульня.

### Мядзведзь

Добровольский, с. 10. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Свалы Смаленскага п.

Калядная гульня.

### Прыгавор мядзведніка

Добровольский, с. 10. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Данькава Смаленскага п.

Магчыма, гэты твор быў запазычаны з рэпертуару колішніх скамарохаў-мядзведнікаў.

### Шчодра

Романов VIII, с. 112—113. Зап. у в. Хонава Быхаўскага п. Пер. з руск. М. А. Каладзінскага.

Звычай блізкі да абходаў калядоўшчыкаў.

### Шчодры

АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 133, сш. 1, с. 16. Зап. К. П. Кабашнікаў, І. І. Крук у 1977 г. у в. Старое Сяло Рагачоўскага р. Гомельскай вобл. ад У. С. Шакава, 1935 г. н.

Тэатралізаваная калядная гульня ў «цыганоў», характэрнымі рысамі якой было пераапрананне і імправізацыя.

### Цыганы

Романов VIII, с. 121—122. Зап. у Рагачоўскім п. Пер. з руск. М. А. Каладзінскага.

Традыцыйныя калядныя абходы пераапранутых у цыганоў дзяўчат.

### Масленка

АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 92, сш. 2, с. 75—76. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1974 г. у в. Шарпілаўка Крупскага р. Мінскай вобл. ад Е. Ц. Рудзьковай, Г. Р. Вецярцовай, А. І. Стараверавай.

Прыклад абходнай песні, якую спявалі на масленіцу маладым парам.

### Сямейная рада напярэдадні сватання

Наш край, 1928, № 6—7, с. 43—44. Зап. Т. С. Нікалаеў у 1926 г. у в. Дубяйцы Касцюковіцкага р.

### Сватанне

Фр. 266 АРКР ФБ АН БССР. Зап. В. Северын у в. Наўліцы Ветрынскай вол. Віцебскай губ.

Акрамя функцыі свата «волхвіст» у час вясельнага абраду выконваў яшчэ і абавязкі своеасаблівага чарадзея — ахоўніка маладых.

### Сватанне

Фр. 256 АРКР ФБ АН БССР. Зап. П. Ф. Альхімовіч у в. Гараваткі Себежскага п. Віцебскай губ.

Адзін з характэрных выпадкаў, калі сваты выдаюць сябе за купцоў і вымушаны пэўны час іграць іх ролю.

### Сватанне

Фр. 256 АРКР ФБ АН БССР. Зап. П. Ф. Альхімовіч у Себежскім п. Віцебскай губ.

Гульнёвы характар звычаю тут выяўляецца ў неадпаведнасці сапраўднай функцыі сватоў і абранай імі ролі царскіх служак. Прычым бацькі маладой прымаюць прапанаваныя ўмовы гульні і ахвотна ўключаюцца ў імправізаваны дыялог.

**Абарона варот**

Шейн III, с. 407—408. Зап. І. І. Радкавец у 1889 г. у в. Дзякавічы Мазырскага п. Мінскай губ.

Гульнёвы звычай, у якім захаваўся водгалас колішніх варожых адносін паміж родамі жаніха і нявесты.

**Абарона варот**

Moszyński, с. 203. Зап. К. Машынскі ў в. Дзякавічы.

**Абарона варот**

Moszyński, с. 186—187. Зап. К. Машынскі ў в. Дарашэвічы.

**Прамова стаўбавога**

Шейн I, с. 22—23. Зап. М. І. Хмялеўская ў вв. Мадзеліна і Воранава Віцебскага п. і губ.

У прамовах і песнях стаўбавога, відаць, дайшлі да нас рысы аднаго з галоўных момантаў старажытнага вясельнага абраду.

**Прыгаворы стаўбавога**

Шейн I, с. 45. Зап. М. Я. Нікіфароўскі ў Вялішкаўскай вол. Віцебскага п. і губ.

**Песня стаўбавога**

Шейн I, с. 48—49. Зап. П. В. Шэйн у в. Запожэнкі Віцебскага п. і губ.

**Песня стаўбавога**

Шейн I, с. 49. Зап. П. В. Шэйн у в. Запожэнкі Віцебскага п. і губ.

**Песня волхвіста**

Фр. 256 АРКР ФБ АН БССР. Зап. П. Ф. Альхімовіч у Себежскім п. Віцебскай губ.

**Вучоба нявесты**

Шейн I, с. 9—10. Зап. А. Ф. Лісоўская ў Каралеўскай вол. Віцебскага п. і губ.

Адзін з жартоўна-гульнёвых момантаў вяселля.

**Выкуп нявесты**

Шейн I, с. 212—213. Зап. А. Кіпрыяновіч у в. Семяжова Слуцкага п. Мінскай губ.

Гэты жартоўна-сімвалічны выкуп меў у старажытным вясельным абрадзе характар куплі-продажу нявесты.

### «Хворы» сват

Романов VIII, с. 497. Зап. у в. Любавічы Мсціслаўскага п.
Жартоўны эпізод вяселля, калі сват (дружок) выдае сябе за хворага.

### Выкуп кута

Романов VIII, с. 387. Зап. Н. В. Пяскоўская ў Сушкоўскай вол. Дрысенскага п. ад М. Пляйко і З. Івановай.

### Выбар нявесты

Наш край, 1928, № 6—7, с. 48. Зап. Т. С. Мікалаеў у 1926 г. у в. Дубяйцы Касцюковіцкага р.

### Кіслы сват

Гуковский, с. 14.
Адзін з шматлікіх звычаяў абраду, якія мелі выразны гульнёвы характар.

### Выкуп нявесты

Романов VIII, с. 445. Зап. Н. В. Пяскоўская ў Чупроўскай і Сакольніцкай вол. Невельскага п. ад А. А. Аўдзеевай, Е. Яфімавай, Л. Сямёнавай.

### Выкуп нявесты

Романов VIII, с. 468. Зап. у м. Ветка Гомельскага п. Магілёўскай губ.

### Выкуп касы

Романов VIII, с. 412. Зап. у Езярышчанскай вол. Гарадоцкага п.

### Саламяны конь

Наш край, 1927, № 4, с. 40. Зап. А. Немцаў у 1927 г. у Асіповіцкім р.
Звычай правозу на саламяным кані свата заўсёды меў выразны жартоўна-гульнёвы характар.

### Дудар і нявеста

Rypiński, с. 220—221.
Спеўны зварот нявесты да дудара сведчыць аб паважнай абрадавай ролі колішняга музыкі-скамароха.

### Падстаўныя маладыя

Цвірка, с. 571—573. Зап. В. І. Скідан у 1977 г. у в. Зелянковічы Глускага р.
Тэатралізаванае (з пераапрананнем і выкарыстаннем грыму) узнаўленне прыданкамі асобных момантаў вясельнага абраду.

**Вясельныя гульні прыданак**

Шейн I, с. 316—317. Зап. у в. Дворцы Рагачоўскага п. Магілёўскай губ.

**Вясельныя цыганы**

Цвірка, с. 482—483. Зап. Н. М. Шнаркевіч у 1971 г. у в. Маркава Маладзечанскага р. ад К. С. Асіповіч.

Гэтым звычаем, аснову якога складала пераапрананне вясельных гасцей у цыганоў, завяршаўся абрад.

**Вясельныя цыганы**

Гуковский, с. 22.

Як і ў калядных «цыганоў», тут шчодра выяўляўся гульнёва-карнавальны характар народных прадстаўленняў.

**Драматычныя сцэнкі вяселля**

Сабалеўскі, с. 22—24. Зап. А. Л. Грыневіч на Мядзельшчыне.

Заўв. А. Сабалеўскага: «Матэрыял прыводзіцца з некаторым скарачэннем. Друкуецца па рукапіснаму зборніку А. Л. Грыневіча, які знаходзіцца ў прыватнай калекцыі».

## КАРАГОДЫ І КАРАГОДНЫЯ ГУЛЬНІ

**Вуліца бурыцца, карагод валіцца**

Романов VIII, с. 178—179. Зап. Е. Р. Раманаў у в. Юркавічы Гомельскага п.

**Лянок**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 39, сш. 2, с. 96. Зап. Л. М. Салавей і П. І. Каруза ў 1971 г. у в. Вяжы Браслаўскага р. Віцебскай вобл. ад А. В. Шылінскай, 1914 г. н.

Прыклад карагода з выразнай імітацыяй пры дапамозе рухаў і жэстаў пэўнага працоўнага працэсу.

**Проса**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 92, сш. 1, с. 95—96. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1974 г. у в. Абчуга Крупскага р. Мінскай вобл. ад Х. М. Мясаедавай.

Тып двухлінейнага карагода, канфліктную аснову якога складае спеўны дыялог двух партый гуляючых.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 133, сш. 4, с. 8.

**Ляда**

Косич, с. 258. Зап. М. Косич у 1898 г. у в. Расухі Мглінскага п. Чарнігаўскай губ.

Двухлінейны карагод, тыпалагічна і па зместу блізкі да «Проса».

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 133, сш. 1, с. 15.

**А ў гародзе расцець канапелька зеляненька**

Ліс, с. 162. Зап. І. Лушчыцкая ў 1961 г. у в. Пронькі Мядзельскага р.

**Хаджу я, гуляю**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 3, сш. 1, с. 49—50. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1968 г. у в. Белая Дуброва Касцюковіцкага р. Магілёўскай вобл. ад В. Р. Ананенкавай і А. С. Глазоўскай.

Прыклад кругавога карагода з выканаўцам у цэнтры.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 92, сш. 3, с. 12; там жа, с. 13—14.

**Заюнька, дзе ж ты быў?**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 92, сш. 1, с. 93—94. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1974 г. у в. Абчуга Крупскага р. Мінскай вобл. ад Х. М. Мясаедавай.

Кругавы карагод э паслядоўным чаргаваннем пытанняў хору і адказаў «заюнькі», які знаходзіцца ў цэнтры.

**Селязенька**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 3, сш. 1, с. 23—25. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1968 г. у в. Палуж Краснапольскага р. Магілёўскай вобл. ад Т. Вуцянковай, А. Бліннікавай, Е. Генералавай.

Карагод, тыпалагічна блізкі да папярэдняга.

**Сула, сула-рэка**

Романов, VIII, с. 178. Зап. у в. Юркавічы Гомельскага п.

**У карагодзе мы былі**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 7, сш. 3, с. 11. Зап. А. С. Фядосік у 1968 г. у в. Трасціно Хоцімскага р. Магілёўскай вобл. ад Марыі Емяльянаўны Новікавай, 75 г.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 133, сш. 1, с. 14; АІМЭФ, ф. 8, воп. 80, спр. 179, сш. 4, с. 89.

**Царэўна і баяры**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 92, сш. 2, с. 5. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1974 г. у в. Абчуга Крупскага р. Мінскай вобл. ад Х. М. Мясаедавай.

Прыклад двухлінейнага карагода э выканаўцай ролі «Царэўны».

**Юра барадаты**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 39, сш. 1, с. 39—40. Зап. Л. М. Салавей і П. І. Каруза ў 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага р. Віцебскай вобл. ад М. М. Казлоўскай, 1911 г. н.

Кругавы карагод з двума асобнымі выканаўцамі.

### Пячэнне хлеба

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 39, сш. 1, с. 91—92. Зап. Л. М. Салавей і П. І. Каруза ў 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага р. Віцебскай вобл. ад М. М. Казлоўскай, 1911 г. н.

Гульня, у ходзе якой паказваўся працэс утварэння кругавога карагода.

### Хадзіў казак, блудзіў казак

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 44, сш. 1, с. 17. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага р. Віцебскай вобл. ад Я. М. Альфер.

Карагод, дзе хлопцы, увайшоўшы ў дзявочы круг, выбіралі сабе дзяўчат-«жонак».

### Драма

АІМЭФ, ф. 8, воп. 80, спр. 179, сш. 3, с. 56. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1980 г. у в. Казярогі Лоеўскага р. Гомельскай вобл. ад А. Ф. Бондар, 1918 г. н., К. П. Бондар, 1921 г. н., Т. І. Каляды, 1935 г. н., Т. М. Пруянік, 1918 г. н., В. М. Верабей, 1907 г. н.

Кругавы карагод з выканаўцам у цэнтры.

### Ой, на рэчцы, рэчцы там дзеўка гуляла

АІМЭФ, ф. 8, воп. 79, спр. 165, сш. 3, с. 38—39. Зап. Г. А. Барташэвіч і Л. П. Барабанава ў в. Барталамееўка Веткаўскага р. Гомельскай вобл. у 1979 г. ад М. А. Старавойтавай, 1902 г. н., Н. Ф. Сучковай, 1912 г. н., Л. Д. Соракавай, 1902 г. н., А. Р. Жукавай, 1924 г. н., Л. І. Цубатавай, 1902 г. н.

Веснавы карагод, тыпалагічна блізкі да «крывога танка».

### Як на нашай вуліцы да разліў разліваўся

АІМЭФ, ф. 8, воп. 79, спр. 165, сш. 5, с. 23—25. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1979 г. у в. Барталамееўка Веткаўскага р. Гомельскай вобл. ад М. Ц. Жукавай, М. Ф. Жукавай, Г. Ц. Шавялёвай, А. С. Соракавай.

### Журавель

Шпилевский, с. 51—52. Зап. П. М. Шпілеўскі.

П. Шпілеўскі лічыць, што сваю назву гэты карагодны танец атрымаў ад асаблівасці пластычнага ўвасаблення яго ўдзельнікаў.

### Горліца

Шпилевский, с. 52. Зап. П. М. Шпілеўскі.

Аўтар апісання заўважае, што гульнёвы танец «Горліца» атрымаў сваю назву ад назвы птушкі.

### Чурылла

Шпилевский, с. 55—56. Зап. П. М. Шпілеўскі.

Гэты танец, на думку П. Шпілеўскага, адзін з самых старажытных і паходжанне сваёй назвы вядзе ад язычніцкага боства Чура, ахоўніка зямельных межаў.

**Вербаванец**

Шпилевский, с. 52—54. Зап. П. М. Шпілеўскі.

Сваю назву, як лічыць аўтар апісання, гэты танец-гульня атрымаў ад слова «вербаваць», г. зн. выбіраць.

**Халімон**

Шейн III, с. 116—117. Зап. Апаліч у Любавіцкай вол. Мсціслаўскага п. Магілёўскай губ.

Кругавы карагод з выканаўцам у цэнтры.

**Гняваш**

Искусство Советской Белоруссии.— М.—Л., 1940, с. 132—133. Зап. І. К. Здановіч.

Тэатралізаваны карагодны танец.

**Крывы танок**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 79, спр. 165, сш. 5, с. 26—27. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1979 г. у в. Барталамееўка Веткаўскага р. Гомельскай вобл. ад М. Ц. Жукавай, М. Ф. Жукавай, Г. Ц. Шавялёвай, А. С. Соракавай.

**Крывенькі танок**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 79, спр. 171, сш. 1, с. 1. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1979 г. у в. Вялікія Нямкі Веткаўскага р. Гомельскай вобл. ад У. А. Цітушкінай, 1916 г. н., А. П. Емяльянавай, 1929 г. н.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 80, спр. 179, сш. 3, с. 57.

**Калодачка**

Довнар-Запольский II, с. 287.

Карагодная гульня.

**Ета поле жоўтае — нашто мне**

Косич, с. 258—259. Зап. М. Косіч у 1898 г. у в. Расуха Чарнігаўскай губ.

Кругавы карагод, у час якога хлопцы выбіраюць сабе дзяўчат.

**Падушачка**

Довнар-Запольский II, с. 287.

Карагодны гульнёвы танец.

**Падушачка, падушачка**

Шейн I, с. 546—547. Зап. А. Багдановіч у м. Халопенічы Барысаўскага п. Мінскай губ.

**Пава**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 2, сш. 2, с. 11—12. Зап. А. С. Фядосік у 1968 г. у в. Бялынкавічы Касцюковіцкага р. Магілёўскай вобл. ад К. Ф. Парчэўскай, 1902 г. н.

### Лука

Косич, с. 257. Зап. М. Косіч у Чарнігаўскай губ.
Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 133, сш. 1, с. 13.

### Па лужкам, лужкам, лужкам

Романов VII, с. 52. Зап. Е. Р. Романов у г. Беліца Магілёўскай губ.

Кругавы карагод з выканаўцам у цэнтры.

### Я малёшанькі

Романов VII, с. 26. Зап. Е. Р. Раманаў у г. Беліца Магілёўскай губ.

Заўв. збіральніка: «Замест слоў «Ідзі, куды хочаш» хлопцы спявалі «Ідзі хоць і к чорту!»

### Селязня вадзіць

Косич, с. 1—2. Зап. М. Косіч у в. Гарцова Старадубскага п. Чарнігаўскай губ. у 1899 г.

Кругавы карагод з выразнымі элементамі пластычнага пераўвасаблення.

### Я еду бел маладзец

Шейн, Песни, с. 49—50. Зап. П. В. Шэйн у м. Чашнікі Лепельскага п. Віцебскай губ. ад М. Каткевічоўны.

Карагодная гульня, у час якой хлопец выбірае сабе «маці», «бацьку» і любую дзяўчыну.

### Луч

Шейн I, с. 110—111. Зап. С. Н. Рачынская ў Панікольскай вол. Бельскага п. Смаленскай губ. ад Аўдоцці Пятровай.

Карагодная гульня.

### Грушка

Демидович, с. 453—454. Зап. П. Дземідовіч у в. Слочвы Навагоудскага п.

Заўв. збіральніка: «Гульня ў агульных рысах нагадвае гульню «Мак» ці «Калодачку».

### Пані Ксеня

Демидович, с. 454. Зап. П. Дземідовіч у в. Нікольск Мінскага п.
Дзявочая карагодная гульня.

### Мост

Демидович, с. 454—455. Зап. П. Дземідовіч у в. Нікольск Мінскага п.

Карагодная дзявочая гульня.

### У хрэна

Косич, с. 259—260. Зап. М. Косіч у 1896 г. у в. Барадзінкі Мглінскага п. Чарнігаўскай вол.

### Старыца

Романов I, с. 442—443. Зап. Е. Р. Раманаў у г. Беліцы.
Карагодная гульня з выразнымі элементамі тэатралізацыі.

## ПАЗААБРАДАВЫЯ ТЭАТРАЛІЗАВАНЫЯ ГУЛЬНІ

### Цярэшка

Фр. 266 АРКР ФБ АН БССР. Зап. В. Севярын у 1911 г. у в. Наўліцы Ветрынскай вол. Віцебскай губ.
Шырока вядомая ў паўночна-ўсходняй частцы Беларусі тэатралізаваная гульня.

### Цярэшка

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 80, сш. 7, с. 17—18. Зап. К. Б. Кузняцова ў 1963 г. у в. Бабічы Глыбоцкага р. ад Еўдакіі Ісакаўны Бабіч, 65 г.

### Жаніцьба Цярэшкі

Шейн I, с. 108—110. Зап. наст. Латыгольскага народнага вучылішча П. В. Шалковіч у в. Латыголічы Барысаўскага п. Мінскай губ.

### Жаніцьба Цярэшкі

Шейн I, с. 105—108. Зап. у Віленскай губ.
Вар. песень, што выконваліся ў час гульні гл.: Гілевіч, с. 37—51.

### Гульня «Цярэшка»

АІМЭФ, ф. 8, воп. 80, спр. 177, сш. 1, с. 59—69. Зап. Г. А. Барташэвіч і Л. П. Барабанава ў 1977 г. у в. Велеўшчына Лепельскага р. Віцебскай вобл. ад З. Я. Падабед, В. М. Пыцько, Л. Т. Крыўко, Г. К. Клундук, В. В. Падабед, Н. Д. Падабед, Н. С. Падабед.
Надзвычай папулярная тэатралізаваная гульня, якую моладзь выконвае ў час калядных ігрышчаў.
Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 80, спр. 177, сш. 1, с. 7—10; АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 39, сш. 1, с. 38—39.

### Яшчур

Federowski I, с. 316—318. Зап. М. Федароўскі ў в. Белічэ Лідскага п.
Вядомая тэатралізаваная гульня.

### Яшчур

Moszyński, с. 234—235. Зап. К. Машынскі ў в. Дзякавічы.
Пер. з польск. М. А. Каладзінскага.
Вар.: Шейн III, с. 214; Романов VIII, с. 125.

32. Зак. 948

**Яшчар**

Довнар-Запольский II, с. 286—287. Зап. М. П. Дземідовіч у Мінскім п.

**Яшчар**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 92, сш. 2, с. 2—3. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1974 г. у в. Абчуга Крупскага р. Мінскай вобл. ад Х. М. Мясаедавай.
Вар. песень, якія выконваліся ў час гульні гл.: Гілевіч, с. 51—53.

**Жаніцьба бахара**

Бессонов, с. 84. Зап. у Мінскай губ.
Гульня, блізкая да «Жаніцьбы Цярэшкі».

**Зязюля**

Романов VII, с. 42. Зап. Е. Р. Раманаў у Дзісенскім п. Віленскай губ. ад Піліпенкавай.
Гульня, тыпалагічна блізкая да «Жаніцьбы Цярэшкі».

**Валадар**

Довнар-Запольский I, с. 48. Зап. М. Доўнар-Запольскі.
Гульня з выразнай дыялагічнай асновай.

**Апанас**

Шейн I, с. 114. Зап. наст. Шарупіч у в. Малішкавічы Мазырскага п. Мінскай губ.
Гульня з папярэднім выбарам (па жэрабю) на ролю Апанаса аднаго з удзельнікаў.

**У гусі**

Косич, с. 260. Зап. М. Косіч у 1895 г. у в. Расуха Мглінскага п. Чарнігаўскай губ.
Вар.: Шейн III, с. 219. Зап. у в. Аўдзеевічы Навагрудскага п. Мінскай губ.; Романов VIII, с. 573—574.

**Рожа**

Демидович, с. 445. Зап. П. Дземідовіч у в. Нікольск Мінскага п.
Дзіцячая тэатралізаваная гульня.

**У жорава**

Добровольский, с. 84—85. Зап. У. М. Дабравольскі ў Смаленскай губ.
Тэатралізаваная гульня, асноўнымі дзеючымі асобамі якой былі «маці» і «жораў».

## Чорт

Дембовецкий, с. 495—496. Зап. І. Рубаноўскі ў Магілёўскай губ.
Гульня з элементамі тэатралізаванай трансфармацыі знешняга выгляду галоўнай дзеючай асобы.

## Гусі

Добровольский, с. 5. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Свалы Смаленскага п.
Жартоўная тэатралізаваная гульня.

## Гульня ў «суседа»

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 39, сш. 1, с. 93. Зап. Л. М. Салавей і П. І. Каруза ў 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага р. Віцебскай вобл. ад М. М. Казлоўскай, 1911 г. н.
Гульня, у час якой хлопцы выбіраюць сабе дзяўчат.

## Злодзей

Добровольский, с. 8. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Даньказа Смаленскага п.
Тэатралізаваная гульня-жарт.

## Прарок

Наша Ніва, 1911, № 6. Зап. М. Петрукоў у Іваянцы.
Тэатралізаваная гульня з шырокім выкарыстаннем імправізацыі.

## У караля

Романов VIII, с. 554—555. Зап. у Гомельскім п.
Вар.: Романов VIII, с. 554; Шейн III, с. 215—216. Зап. у м. Косава Слонімскага п. Гродзенскай губ. Іншай была карагодная гульня «У каралевіча», аснову якой складала дзявочае карагоднае кола з «каралевічам» у цэнтры (Романов VIII, с. 126).

## Авечачка

Наша ніва, 1911, № 1.
Апісанне гульні зроблена невядомым аўтарам, які падпісаўся псеўданімам «Гуляка».
Вар.: Шейн III, с. 220—222. Зап. у в. Ігрушка Сенненскага п. Магілёўскай губ.

## Рэдзька

Шейн III, с. 192—194. Зап. наст. Свідзерскі ў в. Ігрушка Сенненскага п. Магілёўскай губ.
Вар.: Шейн III, с. 191—192. Зап. у в. Якімовічы Рэчыцкага п. Мінскай губ.; Романов VIII, с. 582—584.

**Лялечкі**

Добровольский, с. 12. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Свалы Смаленскага п.

Прадстаўленне з выкарыстаннем лялек-пятрушак.

**Кцціны**

Добровольский, с. 12. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Свалы Смаленскага п.

Тэатралізаваная гульня з выразнымі элементамі пераўвасаблення.

**Рыбаловы**

Добровольский, с. 7. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Свалы Смаленскага п.

Тэатралізаваная гульня-жарт.

**У млын**

Наша ніва, 1911, № 6. Зап. у Мінскім п.

Аўтар апісання, які падпісаўся псеўданімам «Гуляка», адзначае, што «ў млын» гулялі найбольш хлопцы».

**Смерць**

Добровольский, с. 8. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Данькава Смаленскага п.

Тэатралізаваная гульня з пераапрананнем.

**Злыдні**

Добровольский, с. 1—2. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Свалы Смаленскага п. ад Мацея Васільева.

Тэатралізаваная гульня з пераапрананнем.

**Гусары**

Добровольский, с. 4—5. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Самахотаўка Смаленскага п.

Гульня з выразнымі элементамі тэатралізацыі.

**Бычка пасціць**

Добровольский, с. 3—4. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Свалы Смаленскага п.

Гульня з элементамі тэатралізацыі.

**Стары і крывы Цуцэла**

Добровольский, с. 4. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Шылавічы Духаўшчынскага п. Смаленскай губ.

Тэатралізаваная гульня з пераапрананнем.

### Мар'юшка

Добровольский, с. 2—3. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Свалы Смаленскага п.

Гульня з элементамі тэатралізацыі.

### Вепер

Добровольский, с. 10. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Свалы Смаленскага п.

Тэатралізаваная гульня-жарт.

### Лось

Добровольский, с. 8. Зап. У. М. Дабравольскі ў в. Свалы Смаленскага п.

Гульня з элементамі тэатралізацыі.

## ІНТЭРМЕДЫІ

### Чорт Асмалейка

Карский III, с. 220—222.

На думку А. І. Мальдзіса, інтэрмедыя ўзнікла ў першай палавіне XVII ст. Змешчана ў рукапісным зборніку, напісаным у «езуіцкай школе ў Крожах». Акрамя яе ў «сёння ўжо не існуючым рукапісе» былі яшчэ некалькі інтэрмедый і пралог да драмы (гл.: Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый, с. 169).

### Іван і царкоўны сторож

Карский III, с. 215—218.

Інтэрмедыя з'яўлялася ўступам да школьнай драмы «Камедыя пра Якава і Іосіфа, патрыярхаў», напісанай у сярэдзіне XVII ст.

### Селянін і студэнт

Brückner, с. 232—235.

Гэта беларуская інтэрмедыя ўзнікла ў першай трэці XVIII ст. Змешчана ў так званым «Ковенскім зборніку». Сучасны даследчык літаратурных славянскіх сувязей XVII—XVIII ст. А. І. Мальдзіс адносіць інтэрмедыі гэтага зборніка да найбольш завершаных у жанравых адносінах. (Падрабязней гл.: Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый, с. 192—193).

### Селянін і студэнт-уцякач

Brückner, с. 235—236.

Як і папярэдняя, гэта інтэрмедыя змешчана ў «Ковенскім зборніку».

### Літарат, Селянін і Самахвальскі

B r ü c k n e r, с. 938.

Інтэрмедыя змешчана ў «Ковенскім зборніку». Яна не вызначаецца арыгінальнасцю сюжэта. «Славянскі школьны і народны тэатр ведае некалькі твораў пра мімічны дыспут паміж філасафам-мудрацом і селянінам ці скамарохам». Па свайму зместу інтэрмедыя «блізкая да беларускай сцэнкі «Дыскус яўрэя з скамарохам», якая ўзнікла ў першай палавіне XVII ст. у Полацку» (Мальдзіс А. І. На скрыжаванні славянскіх традыцый, с. 195—196).

### Мужык

С а б а л е ў с к і, с. 37—39.

Гэта інтэрмедыя змешчана ў рукапісным зборніку «Выпісана з быўшых у Смаленскай семінарыі камедый», датаваным 1760 г. Яе ў свой час надрукаваў Перацц (гл.: П е р а т ц В. Н. К истории польского и русского народного театра.— Известия ОРЯС, т. 10, кн. 1. СПб, 1905, с. 55—59).

М. І. Пятроў лічыў, што інтэрмедыі «Мужык» і «Змітрок і Свірыд» уваходзілі ў драму «Дэкламацыя», напісаную ў 1752/53 навучальным годзе прафесарам паэтыкі Смаленскай калегіі Мануілам Базілевічам (гл.: П е т р о в Н. И. Очерки из истории украинской литературы XVII и XVIII веков.— Киев, 1911, с. 380).

*Карачка* — коўш, карэц.

*Ісуспяца* — споведзь.

*Карыуш* (скажонае польск.) — каравул.

### Змітрок і Свірыд

С а б а л е ў с к і, с. 39—41.

Інтэрмедыя змешчана ў тым жа, што і папярэдняя, рукапісным зборніку са Смаленскай семінарыі.

*Берасцень мязгі* — тут, напэўна, у сэнсе «берастовыя мазгі».

### Інтэрмедыя 1-я
### да драмы Мітрафана Даўгалеўскага
### «Уладатворны воблік»

У к р а ї н с ь к і і н т е р м е д і ї, с. 121—127.

Велікодная драма Мітрафана Даўгалеўскага «Уладатворны воблік чалавекалюбства божага» напісана ў 1737 г. У першай інтэрмедыі дзейнічаюць Літвін і яго сыны, якія гаворацць па-беларуску. У пачатку інтэрмедыі коратка падаецца яе змест: «Выходзяць два мужыкі, застаўляюць цянёты, да іх прыходзіць трэці. Пакінуўшы цянёты, яны хаваюцца. З'яўляецца Літвін, трапляе ў сетку, а мужыкі, напаўшы, забіваюць яго. Уваходзяць сыны Літвіна, шукаюць бацьку і, знаўшоўшы, ажыўляюць яго. Да іх прыходзіць ксёндз, пытаецца ў Літвіна, што робіцца на тым свеце. Літвін праганяе ксяндза».

*Осмак* — дробная манета.

*Недзо* — нічога.

*Зацупрікую* — зацягну.

*Хварышнік* — відаць, чорт.

## Васкрасеніе мёртвых

Інтэрмедыя чацвёртая

Сабалеўскі, с. 44—48.

Трагікамедыя «Васкрасеніе мёртвых» напісана Г. Каніскім (1718—1795) у 1744 г. Г. Каніскі закончыў Кіева-Магілянскую духоўную акадэмію, пэўны час быў яе рэктарам і выкладчыкам рыторыкі і паэтыкі. Пазней быў беларускім архіепіскапам. Каніскі па-майстэрску валодаў аратарскім мастацтвам, быў паслядоўным праціўнікам уніі.

У 4-й і 5-й інтэрмедыях драмы выведзены вобраз Літвіна — беларускага селяніна, што дае падставу меркаваць, што аўтарам іх быў студэнт з Беларусі.

*Праскур* — спецыяльны хлеб, які даецца ў царкве набожным.
*Лядашчыца* — тут у сэнсе нягоднік.
*З ляку* — са страху.
*Даруг* — дарог.
*Галаўшчына* — штраф за забойства.

## Стэфанотакас

Інтэрмедыя першая

Сабалеўскі, с. 41—44.

У каментарыі да інтэрмедыі А. Сабалеўскі адзначае: «Драму «Стэфанотакас» напісаў выкладчык Ноўгарадскай духоўнай семінарыі І. Адрованж-Магалевіч, які да 1740 г. працаваў у малодшых класах Кіева-Магілянскай акадэміі. У 1742 г. драма была сыграна ў Ноўгарадскай семінарыі ў прысутнасці імператрыцы Елізаветы Пятроўны, прыезду якой і прысвячалася пастаноўка». У далейшых заўвагах вучоны сцвярджае, што аўтарамі інтэрмедый былі семінарысты, а першую інтэрмедыю да драмы напісаў семінарыст з Беларусі.

*Чхаве* — хлопча.
*Кінь* (укр.) — конь.
*Сергій* — нагайка, бізун.
*Нашніца* — відавочна, начніца.

## Інтэрмедыя 1-я да драмы Мітрафана Даўгалеўскага «Камічнае дзеянне»

Українські інтермедії, с. 99—102.

Драма «Камічнае дзеянне» напісана ў 1736 г. У першай і трэцяй інтэрмедыі да гэтай калядная драмы дзейнічае Літвін, які гаворыць па-беларуску. Улічваючы характэрную для твораў гэтага жанру разнамоўнасць, іх можна аднесці да ліку ўкраінска-беларускіх інтэрмедый.

## Інтэрмедыя да драмы на нараджэнне Хрыстова

Перетц, с. 63—66.

Інтэрмедыя змешчана ў рукапісным зборніку 1771—1776 гг., складальнікам якога, як лічыцьПератц, быў дзяк Гушчынскай семінарыі Іан Даніловіч. У заўвагахПератц выказвае думку, што гэта інтэрмедыя звя-

зана з калядным вяртэпным прадстаўленнем. Твор сапраўды блізка стаіць да вядомай батлейкавай сцэны «Мацей і доктар», толькі ў якасці доктара тут выступае цыган.

### Інтэрмедыі
### да драмы «Духоўнае прычасце святых
### Барыса і Глеба»

D r a m a t y  s t a r o p o l s k e, c. 301—403.

Школьная драма невядомага аўтара. Магчыма, што яе напісаў хто-небудзь з выкладчыкаў Полацкай езуіцкай калегіі, аб чым сведчыць яе поўная назва: «Камунія духовна св. Бориса и Глеба, на акт данная через молодеж коллегіума Полоцкаго іезуитскаго».

У інтэрмедыях гэтай драмы дзейнічаюць казак, драгуны, селянін, яўрэй, чорт і інш. М. І. Пятроў лічыць, што гэта драма магла быць прадстаўлена ў канцы XVII ст. на плошчы ці на цвінтары Барысаглебскай царквы ў Полацку (гл.: Н. И. Петров. Очерки из истории украинской литературы XVI и XVIII веков. Киев, 1911, с. 109).

Тут поўнасцю прыводзяцца «Антыпралог» і «Пралог» да драмы, а таксама інтэрмедыя, у якой дзейнічаюць Кухар, Гаўрыла і Есіп.

## БАТЛЕЙКА

### Тэкст батлейкавага прадстаўлення
### на Віцебшчыне

Р о м а н о в VIII, с. 74—91. Зап. Е. Р. Раманаў у г. Сураж Віцебскай губ.

Упершыню надрукаваны ў «Магілёўскіх губернскіх ведамасцях», 1898, № 45, 46, 49—52 (частка неафіцыйная).

Як паведамляе Е. Раманаў, гэты тэкст выконваўся ў батлейцы, якая мела выгляд «трохкупальнай царквы, прымацаванай знізу да лаўкі. Сцены царквы былі зроблены з тонкага каленкору, прамочанага тлушчам. Унутры, пад купаламі, падвешаны жалезныя абручы з замацаванымі на іх фігурамі дзеючых асоб і з падсвечнікам у цэнтры. Батлейшчык сядае ззаду такой батлейкі, адчыняе дзверцы, запальвае свечкі і адпаведна ходу дзеяння паварочвае абручы. На пярэдніх сценках батлейкі атрымоўваюцца павялічаныя выявы дзеючых асоб. Батлейка такога тыпу знойдзена мной у Веліжы і перададзена Віцебскаму царкоўнаму музею» (с. 72).

Пасля страфы «Хрыста праслаўляе» (гл. с. 74) іншы раз спяваецца:

Давід у гуслі іграе,
Весела спявае,
Ва ўсе струны ўдарае,
Хрыста праслаўляе.

*Ліван* — ладан.
*Дандзежа* — пакуль.
*Семо* — сюды.
*Іжа* — які.
*Прыемшэ* — прымае.
*Акрутнік* — мучыцель.
*Зря* — гледзячы.
*Арэш* — крычыш, гарлапаніш.

## Тэкст батлейкавага прадстаўлення на Магілёўшчыне

*(1-ы варыянт)*

Шейн III, с. 145—151.

У заўвагах П. В. Шэйн паведамляе, што тэкст гэты пераказаў яму сын нейкага Вазілы, які быў уладальнікам батлейкі. Далей Шэйн зазначае: «Вяртэп або шафа — стары, а лялькі дрэнна зробленыя і існуюць у такім выглядзе больш 20 год. Кажуць, што ў Лупалаве (зарэчны бок Магілёва) ёсць новы вяртэп. Магілёўскі і Лупалаўскі вяртэпы варагуюць між сабой, пры сустрэчах паміж імі адбываюцца сутычкі. Даставалася і вяртэпам» (с. 151).

## Тэкст батлейкавага прадстаўлення на Магілёўшчыне

*(2-і варыянт)*

Романов VIII, с. 92—96. Зап. Ф. Ф. Куляшоў ад Юр'ева, Фёдарава і Красоўскага.

Гэты тэкст выконваўся ў батлейцы, якая мела «выгляд двухпавярховай пераноснай шафы, падзеленай на дзве часткі таксама і па вертыкалі.

<...> Кожная сцэна мае тры аддзяленні: вялікае цэнтральнае, дзе адбываецца дзеянне, і меншыя, бакавыя, для ўваходаў і выхадаў дзеючых асоб.

<...> Экземпляр такога тэатра дзесяткі год знаходзіўся ў Сакалова з Быхава і пасля яго смерці трапіў да жыхара в. Быч Юр'ева, у якога куплены Магілёўскім статыстычным камітэтам, і цяпер знаходзіцца ў Магілёўскім губернскім музеі» (с. 73).

## Тэкст батлейкавага прадстаўлення на Магілёўшчыне

*(3-і варыянт)*

Романов VIII, с. 96—103. Зап. Е. Р. Раманаў у 1905 г. у г. Магілёве ад батлейшчыка Васіля Бутомы.

Е. Раманаў адзначае, што гэты варыянт тэксту іграўся ў трохпавярховай батлейцы. Апошні экземпляр такога тэатра «належаў жыхару Магілёва Кандрацьеву, які прадаў яго Пылінскаму. Але калі новы яго ўладальнік перасяліўся ў Смаленск, ён пакінуў батлейку без нагляду ў Магілёве, і яна была знішчана. Загінулі таксама і фігуры-лялькі» (с. 73).

## Тэкст батлейкавага прадстаўлення на Магілёўшчыне

*(4-ы варыянт)*

Барышаў, Саннікаў, с. 120—129. Зап. І. Е. Якімаў у в. Быч Бычанскай вол. Быхаўскага п. Магілёўскай губ. у 1909 г.

І. Якімаў у заўвагах паведамляе: «Вярцеп—па-мясцоваму (Магіл. губ.) вяртэп — уяўляе лялечны тэатрык з 35 дзеючымі асобамі. Яго вазілі па

хатах з першага дня нараджэння Хрыста да хрышчэння ўключна. Суправаджалі вяртэп звычайна 4 чалавекі — пеўчыя. Адзін з іх называўся камедыяншчыкам, абавязкам яго было прыводзіць у рух дзеючых у прадстаўленні асоб і ад імя іх гаварыць. Ставяць звычайна вяртэп на два зэдлікі, якія стаяць побач, каб бачна было ўсім прысутным у пакоі. Прадстаўленне пачыналася спяваннем святочнага трапара».

## Тэкст батлейкавага прадстаўлення на Міншчыне

*(1-ы варыянт)*

Шейн III, с. 122—131.

Непасрэдна перад тэкстам П. Шэйн дае апісанне звычаю «хаджэння з батлейкай» і, у прыватнасці, адзначае: «Гэтым пераважна займаюцца рамеснікі, асабліва шаўцы. Ходзяць іх звычайна чалавек пяць ці шэсць, у ліку якіх двое або трое хлопчыкаў. Яны возяць саначкі з «батлейкамі», падаюць лялькі і наогул дапамагаюць старэйшым. Ёсць сем'і, у якіх гэты занятак існуе некалькі дзесяцігоддзяў; батлейкавыя песні перадаюцца з роду ў род і трымаюцца ў сакрэце ад другога гурта батлейшчыкаў.

...Сабраўшы ўсе прыналежнасці свайго лялькавага тэатра, такі гурт выязджае ў горад і спыняецца ў найбольш людным месцы (у Мінску — на рагу Петрапаўлаўскай і Юр'еўскай вуліц) або раз'язджае па гораду, шукаючы наймальнікаў. Плата за прадстаўленне бывае па дамоўленасці ад 30 капеек да рубля» (с. 121—122).

## Тэкст батлейкавага прадстаўлення на Міншчыне

*(2-і варыянт)*

Шейн III, с. 132—139. Зап. вучнем Мінскай семінарыі В. Станкевічам.

Непасрэдна перад гэтым варыянтам батлейкавага тэксту П. Шэйн прыводзіць «Апісанне батлеек», зробленае вучнем VIII класа Мінскай гімназіі Вікенціем Свянціцкім. Ім падаюцца звесткі пра батлейку, падобную на хатку са страхой, у якой «пярэдняя сцяна палатняная і падымаецца, як заслона ў тэатры, калі даецца прадстаўленне.

...Зверху на батлейцы зроблена невялікая вежа (накшталт мезаніна на доме); яна бывае круглая, шасцівугольная або нават квадратная. У ёй з боку гледачоў знаходзяцца дзверцы. Падлога ў гэтай вежы — дыск, які круціцца на вертыкальнай восі. Па краях дыска прымацаваны лялькі ў выглядзе хлопцаў і дзяўчат, якія трымаюцца за рукі. Гэта і ёсць Камароўскае вяселле» (с. 131—132).

## Тэкст батлейкавага прадстаўлення з Навагрудчыны

*(1-ы варыянт)*

АІМЭФ, ф. 1, воп. 1, спр. 5, л. 136—140. Зап. С. Міско ў в. Краснае Запольскага с/с Карэліцкага р. ад Аляксандра Іосіфавіча Моніча, 1901 г. н.

А. І. Моніч даваў прадстаўленні батлейкі ў 1920—1939 гг. на Навагрудчыне.

## Тэкст батлейкавага прадстаўлення з Навагрудчыны

*(2-і варыянт)*

Барышаў, Саннікаў, с. 153—162. Зап. І. М. Барашка ад Мацея Барашкі (1870—1956), які хадзіў з батлейкай у м. Мір Навагрудскага п.

Іларыён Барашка гэты батлейкавы тэкст выконваў у 1923 г. у Маскве на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы, на якой у павільёне «Савецкая Беларусь» на працягу некалькіх месяцаў даваў батлейкавыя прадстаўленні.

## Тэкст батлейкавага прадстаўлення каля Ваўкавыска

Саламевіч, с. 242—248. Зап. Міхал Федароўскі ў 1893 г. у в. Шылавічы Ваўкавыскага п.

Тэкст зберагаецца ў архіве М. Федароўскага (Рукапісны аддзел БВУ, сігнатура 135—IV, т. 2, вокладка 13) і мае назву «Шніпоўская шопка».

Я. Саламевіч, які адшукаў і ўпершыню апублікаваў гэты тэкст, паведамляе ў канцы: «На гэтым абрываецца цэльная карціна данай батлейкі, яе тэкст. Далей ідзе толькі схема гэтага спектакля, накіданая М. Федароўскім алоўкам».

З гэтага дадатку, які Я. Саламевіч не апублікаваў у кнізе пра М. Федароўскага, відаць, што батлейка мела працяг. Тут былі такія сцэны, як «Барбара і кавалер», «Улан з дзяўчынаю», «Кракавяк і кракавянка», а таксама дзейнічалі персанажы Іспанец, Казак, Бернардзін і інш.

## Батлейкі з ваколіц Начы

Апісанне і тэкст батлейкавага прадстаўлення прыводзіцца па: «Źródla mocy». Czasopismo krajowe, poświęcone kulturze regionalnej ziem b. Wielkiego księstwa Litewskiego, zeszyt 3.—Wilno, 1928, с. 35—37.

Аўтарам гэтага апісання, створанага на падставе ўласных успамінаў, з'яўляецца Напалеон Чарноўскі.

Пер. з польск. М. А. Каладзінскага.

## Тэкст батлейкавага прадстаўлення на Смаленшчыне

Виноградов, с. 71—78.

Гэты тэкст разам з батлейкай, купленай у Ельні ў Шасткова, даслаў В. Дабравольскі.

## Слуцкая батлейка

Беларускі фальклор. Хрэстаматыя. Мн., 1970, с. 495—504. Зап. С. Баркоўскі ў 1957 г. у г. Слуцку ад С. Трывогі. Са слоў апошняга С. Баркоўскі зрабіў наступны запіс:

«Лялечны тэатр батлейка на Случчыне — даволі старая з'ява, ён быў прыстасаваны для калядных святкаванняў. Праўдападобна, што першымі батлеечнікамі былі езуіты, якія ў канцы XVIII ст. пачалі прыстасоўваць батлейку ў сваіх манастырскіх школах для ўплыву пры выхаванні моладзі ў такіх гарадах, як Полацк, Гродна, Слуцк, Мінск, і іншых месцах. Мы ўжо

ведаем, што ў XVIII ст. школьнікі большасці школ на Беларусі ходзяць па хатах з батлейкаю і са звяздою, пры гэтым імі спяваюцца хорам калядныя канты, а часамі ў шэрагу набожных песень адчувалася выкананне і гістарычных песень. Пры выкананні песень выкарыстоўваліся папулярныя тады ў нас на Случчыне інструменты — скрыпка, дуда і часамі гармошка. Батлейка праіснавала ў нас аж да пачатку XX ст., і мы асабіста добра яшчэ памятаем яе, калі і нам прыходзілася хадзіць з ёю ў Слуцку.

У нас батлеечны тэатр меў форму скрынкі на лёгкіх ножках (панках), кіравалі ім два чалавекі — гаспадар і яго памочнік, якія і гаварылі ў часе калядавання сваімі галасамі за лялек. Лялькі рабіліся з дрэва, каляровай паперы і матэрыі. Батлейка звычайна суправаджалася шматлікай моладдзю і даволі ўжо дарослай, якая прымае ўдзел у выкананні як рэлігійных кантаў, так і розных другіх песень, а таксама батлеечнага тэксту, які быў даволі рэалістычны, ад чаго справа часамі канчалася дрэнна паміж асобнымі ўдзельнікамі.

Пачатак і антракты мелі сваю музыку, але выкананне яе адбывалася яшчэ лепей, калі меўся тут рэгент.

Персанажы тэатра былі больш блізкімі народнаму гледачу асобамі: шляхта, селянін, вандроўца, венгерац, чорт, карчмар і інш.»

### Тэкст батлейкавага прадстаўлення ў Мазыры, Бабруйску, Рэчыцы, Капаткевічах, Парычах, Беразіно

Шейн III, с. 141—144.

У заўвагах П. Шэйн адзначае, што гэты тэкст яму паведаміў настаўнік народнага вучылішча Н. Г. Яцко. Перад тэкстам этнограф прыводзіць апісанне батлейкі, дзе гаворыцца: «Вяртэп робіцца з габляваных дошак у выглядзе чатырохвугольнай скрынкі — паўтара або два аршыны ў вышыню і адзін у шырыню. Гэта скрынка якраз пасярэдзіне раздзяляецца перагародкай на два ярусы — верхні і ніжні».

У апісанні таксама пералічваюцца лялькі такіх персанажаў, як дзева Марыя, Іосіф, Хрыстос, віфліемскія пастухі, персідскія цары, Ірад, Воін, Гораданачальнік, Рахіль, Бэрка, Мужык, Д'ябал, Яўрэйка (с. 139—141).

### Батлейкавае прадстаўленне на Духаўшчыне

Апісанне батлейкавага прадстаўлення прыводзіцца па кн.: Тарновский А. Вертеп на Духовщине.— Киевская старина, т. 5, 1883, с. 559—667.

### Батлейкавае прадстаўленне ў г. Белым

Апісанне прадстаўлення батлейкі прыводзіцца па кн.: Тимофеев С. Остатки вертепной драмы в Смоленской губернии.— Смоленский вестник, 1887, № 150—153, с. 152—153.

### Батлейкавае прадстаўленне

Апісанне батлейкавага прадстаўлення прыводзіцца па кн.: Ос-цкий Вл. Белорусские письма.— Новости и биржевая газета, 1883, 14 ліп.

Час і месца прадстаўлення, паслужыўшага асновай апісання, невядомы. У канцы артыкула ёсць заўвага аўтара: «Тэкст Мацея, які прыводзіцца далей, цалкам перадрукаваны П. Бяссонавым у «Белорусских песнях» (М., 1871, с. 79—80).

## Докшыцкая батлейка Патупчыка

Сабалеўскі, с. 140—144.

Успаміны А. Дзешавога аб дзейнасці ў 1909—1916 гг. батлейкавага тэатра ў Докшыцах. Захоўваюцца ў АІМЭФ, ф. 1, воп. 1, спр. 5, л. 168—172.

## Жывая батлейка

### Мацей

Шейн III, с. 154—155. Зап. А. Ганус у Барысаўскім п. Мінскай губ. ад Ф. Іконы.

### Мацей і доктар-шарлатан

Бессонов, с. 79—80.

Гэта інтэрмедыйная сцэна, апублікаваная П. Бяссонавым пад назвай «Мацей», пазней была надрукавана іншымі даследчыкамі. (гл.: Перетц В. Н. К истории польского и русского народного театра.— Известия ОРЯС, т. 10, кн. 1.— СПб, 1905, с. 67—68; Петров Н. И. Очерки из истории украинской литературы XVII—XVIII веков.— Киев, 1911, с. 518—519).

### Мужык пасля каляд

Federowski III, с. 163—164. Зап. М. Федароўскі каля в. Рудзевічы на Ваўкавышчыне ад Паўліны Савіцкай.

Гэты і два папярэднія драматургічныя абразкі — варыянты шырока вядомай батлейкавай сцэны «Мацей і доктар» выконваліся «жывымі» людзьмі.

### Батлея

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 57, сш. 3, с. 12—22. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1960 г. у в. Гусакі Нясвіжскага р. ад А. А. Юшкевіча, П. П. Еўтуха, П. М. Бобіка.

У заўвагах аўтар запісу паведамляе, што ўдзельнікамі прадстаўлення былі сяляне в. Гусакі, якія яшчэ ў 20-х гадах хадзілі на каляды в «батлеяй».

### Батлея

АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 125, сш. 1, с. 1—7. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1976 г. у в. Казлы Нясвіжскага р. ад Г. І. Ярош, 1900 г. н.

### Батлейкі ў павеце Лідскім

Апісанне і тэкст прадстаўлення народных выканаўцаў падаецца па: Wisła, 1901, t. 15, zeszyt 4, с. 401—411. Зап. Ежы Іваноўскі ў м. Васілішкі Лідскага п. Віленскай губ. Запіс зроблены ў час паказу, аб чым сведчыць наступная заўвага аўтара: «Ва ўступе ці віншаванні нельга адшукаць якога-небудзь сэнсу, бо і самі выканаўцы зусім нічога не разумеюць з таго, пра што гавораць; немагчыма нават было паспець запісаць тэксту, калі акцёр на адным дыханні, без затрымкі чытае ўвесь уступ».

Зап. М. Федароўскі ў 1895 г. у м. Дзятлаве Слонімскага п.

Тэкст гэты знайшоў у 1965 г. у архіве М. Федароўскага Я. Саламевіч (Рукапісны аддзел БВУ. Сігнатура 135-IV, т. 2, вокладка 13). Друкуецца ўпершыню.

Перад апісаннем дзеючых асоб і тэкстам прадстаўлення ў М. Федароўскага пазначана: Літоўская Русь. Павет Слонімскі. Мястэчка Дзятлава. Каляднае прадстаўленне (містэрыя). Прытым «Батлейка», якую носяць там жа кожны год ад 2-га дня каляд да вадохрышча (3-х каралёў). Запісаў 26.XII 1895 года ў Падолі.

## НАРОДНАЯ ДРАМА

### Цар Максіміляи

Романов V, с. 273—283. Зап. Е. Р. Раманаў у г. Беліца Магілёўскай губ.

Е. Раманаў прыводзіць варыянт сцэны, у якой дзейнічаюць Дзед і Яўрэй, з драмы, запісанай ім у г. Гомелі:

Дзед пачынае прыбіраць забітых.

Жыд (*падбягаючы да яго*)

Ой, дзед, голубцык! Гріска!

Дзед

А, ета ты, Бэрка?

Жыд

Я дзед, галубок. Давай пацягнем падлу ўдвох!
*(Хапае Дзеда і пачынае танцаваць з ім камарынскага.)*

*Кашыр* — кашырнае мяса.
*Шпунт* — затычка ў бочцы.
*Затоўчка* — страва.

### Трон

Тэкст драмы падаецца па: Этнографическое обозрение (М.), 1898, № 1, кн. 36, с. 83—100. Зап. М. К. Васільевым у 1889 г. на Лебядзінскім цукровым заводзе ў Чыгірынскім п. Кіеўскай губ. ад беларуса Піліпа Церашкова.

Гэты варыянт «Цара Максімільяна» ўяўляе кантамінацыю драмы з «Царом Ірадам». П. Церашкоў быў родам з в. Унаковічы Навазыбкаўскага п. Чарнігаўскай губ. Разам са сваім земляком Цыбай і іншымі беларусамі-адыходнікамі Церашкоў ставіў гэты варыянт драмы на каляды на Лебядзінскім заводзе і сам іграў цара Максімільяна.

### Цар Максіміліан

Тэкст драмы падаецца па: Этнографическое обозрение (М.), 1898, № 3, кн. 38, с. 161—168. Зап. А. Е. Грузінскі ў 1896 г. у Рэчыцкім п. Мінскай губ.

### Цар Максімілін

АІМЭФ, ф. 1, воп. 1, спр. 3, л. 101—107.

Аўтар запісу Іван Васільевіч Здрок — жыхар в. Межная Слабада Нясвіжскага р. — ставіў гэты варыянт драмы ў 1921 г. у вёсцы.

### Цар Максіміён

Гринблат, с. 102—106. Зап. М. Я. Грынблат у 1955 г. у в. Ветка Хоцімскага р. Магілёўскай вобл. ад С. К. Саўчанкі, 77 г.

Аўтар паведамляе, што С. К. Саўчанка неаднойчы бачыў прадстаўленне драмы ў пачатку XX ст. і што ў такім выглядзе і аб'ёме яна бытавала ў сялян яго роднай вёскі Смолькі (на поўдні Касцюковіцкага р.).

### Цар Максіміляян

АІМЭФ, ф. 1, воп. 1, спр. 3, л. 45—99. Зап. Ф. Дзедзенка ў 1923 г. у Рэчыцкім р.

На вокладцы сшытка паэначана: «Запісана па маёй просьбе». Магчыма, гэты надпіс належыць М. Міцкевічу, які ў гэты час вучыўся ў Маскве ў Беларускай студыі і меў непасрэднае дачыненне да пастаноўкі студыйцамі аднайменнай (але ўжо літаратурна апрацаванай) народнай драмы.

### Цар Мамай

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 57, сш. 3, с. 23—29. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1960 г. у в. Бялевічы Слуцкага р. ад С. В. Дудара, 1890 г. н.

У 1962 г. у в. Бялевічы адбылося прадстаўленне гэтай драмы, у якім ролю Максімільяна выконваў С. В. Дудар. Спектакль зняты на кінастужку, якая захоўваецца ў ІМЭФ АН БССР.

### Цар Максіміліан

АІМЭФ, ф. 13, воп. 6, спр. 12, л. 1—6.

Успаміны М. С. Ганчарова — колішняга гутніка, аднаго з арганізатараў пастаноўкі гэтай драмы ў 1916 г. у Стараве на Случчыне. Запісаны ў 1963 г.

### Прадстаўленне «Цара Максімільяна» ў Слуцку

АІМЭФ, ф. 1, воп. 5, спр. 1, л. 1—8.

Успаміны вядомага дзеяча беларускай культуры Язэпа Дылы. На гэтым запытанні фіцмаршала рукапіс абрываецца.

# ЗМЕСТ




БЕЛОРУССКОЕ НАРОДНОЕ ТВОРЧЕСТВО

**НАРОДНЫЙ ТЕАТР**

Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Рэдактар *Л. А. Шрубок.* Мастакі *А. У. Лось, Е. І. Ліс.* Мастацкі рэдактар *В. В. Сайчанка.* Тэхнічны рэдактар *І. В. Валахановіч.* Карэктар *М. А. Вячорка.*

ІБ № 1465

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 31.05.82. Падпісана ў друк 03.12.81. АТ 14764. Фармат 60×84¹/₁₆. Папера друк. № 2. Гарнітура акадэмічная. Высокі друк. Друк. арк. 32,0. Ум. друк. арк. 29,76. Ум. фарб.-адб. 29,99. Ул.-выд. арк. 29,4. Тыраж 3450 экз. Зак. № 948. Цана 2 р. 70 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.